# СУПОЛЬНАСЦЬ ТРАДЫЦЫІ – садружнасць у будучыні

## БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ МОЎНЫЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

### Зборнік навуковых артыкулаў

МІНСК «КНІГАЗБОР» 2012

УДК [008+81+94](476)(082)
ББК 70(4Беи)я43
С89

*Серыя заснавана ў 1993 годзе*

Р э д а к ц ы й н а я к а л е г і я:

І. Э. Багдановіч, С. М. Запрудскі, М. П. Касцюк, А. І. Мальдзіс, М. Р. Прыгодзіч, В. П. Рагойша

Р э ц э н з е н т ы:
доктар філалагічных навук *Л. Д. Сінькова*
кандыдат філалагічных навук *Т. Р. Рамза*

П р а д м о в а
*І. Э. Багдановіч*

Пад рэдакцыяй
кандыдата філалагічных навук *І. Э. Багдановіч*
кандыдата філалагічных навук *С. М. Запрудскага*

С89 **Супольнасць традыцыі — садружнасць у будучыні** : беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі : зборнік навуковых артыкулаў / прадм. І. Э. Багдановіч; пад рэд. І. Э. Багдановіч, С. М. Запрудскага. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 400 с. — (Беларусіка = Albaruthenica; Кн. 34).

ISBN 978-985-7057-21-4.

Зборнік навуковых артыкулаў «Супольнасць традыцыі — садружнасць у будучыні» вызначаецца актуальнасцю тэматыкі і прысвечаны шырокаму колу праблем беларуска-польскіх моўных, літаратурных, гістарычных і культурных сувязей.

Зборнік разлічаны на беларускіх і польскіх даследчыкаў — спецыялістаў у галіне філалогіі, гісторыі і культуралогіі, а таксама на навукоўцаў іншых замежных краін, выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў, усіх зацікаўленых беларуска-польскімі ўзаемадачыненнямі на розных этапах гістарычнага існавання нашых народаў і краін.

**УДК [008+81+94](476)(082)**
**ББК 70(4Беи)я43**

ISBN 985-985-7057-21-4

© Калектыў аўтараў, 2012
© Багдановіч І. Э., прадм., 2012
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2012

# ПРАДМОВА

Зборнік навуковых артыкулаў «Супольнасць традыцыі — садружнасць у будучыні» ахоплівае шырокі тэматычны дыяпазон беларуска-польскіх моўных, літаратурных, гістарычных і культурных сувязей. Ён складаецца з дзвюх частак, у кожнай з якіх прадстаўлены тры раздзелы мовазнаўчых, літаратуразнаўчых, гістарычных і культуралагічных даследаванняў. Такая структура зборніка абумоўлена тым, што пераважную большасць яго матэрыялаў складаюць артыкулы, якія прайшлі апрабацыю на дзвюх, 18-й і 20-й, Міжнародных навуковых канферэнцыях «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя і гістарычныя сувязі», праведзеных у Мінску на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 2009 і 2011 гадах. Ініцыятар правядзення гэтых навуковых форумаў з удзелам беларускіх і польскіх даследчыкаў, а таксама навукоўцаў з іншых краін — Грамадскае аб'яднанне «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», для якога напрамак развіцця беларуска-польскіх навуковых стасункаў з'яўляецца адным з найважнейшых.

Праблематыка дадзенага навуковага зборніка ў кожнай з прадстаўленых у ім гуманітарных дысцыплін адлюстроўвае прыярытэтныя напрамкі сучасных даследаванняў у самых розных аспектах польска-беларускага ўзаемадзеяння і сувязей з часоў старажытнасці да найноўшага часу. Мовазнаўчыя працы прысвечаны актуальным праблемам лексікалогіі і лексікаграфіі, дыялекталогіі, этымалогіі, графічным асаблівасцям перадачы мовы на пісьме, асаблівасцям рэгіянальнага маўлення, перакладу. Увага літаратуразнаўцаў скіравана ў некалькі рэчышчаў: даследаванне агульнай літаратурнай спадчыны XVI–XIX стст., калі літаратура Беларусі развівалася пераважна на лацінскай ці польскай мовах; рэцэпцыя сучасных беларускіх твораў у польскім друку і польскіх аўтараў у беларускай культурнай прасторы. Гістарычныя і культуралагічныя даследаванні вылучаюцца паслядоўнай ўвагай да нацыятворчых і веравызнаўчых праблем, па-ранейшаму застаюцца актуальнымі розныя аспекты жыцця ў Заходняй Беларусі, адкрываюцца постаці маламядомых ці забытых дзеячаў культуры, літаратуры, мастацтва. Спасылкі ў прадстаўленых да друку матэрыялах пададзены ў аўтарскіх версіях.

Дадзены зборнік змяшчае найноўшыя і актуальныя даследаванні, з'яўляецца важкім вынікам развіцця польска-беларускіх стасункаў у галіне навуковай беларусістыкі. Спадзяемся, ён паспрыяе далейшаму развіццю міжкультурнага беларуска-польскага і польска-беларускага дыялогу, па-

глыбленню навуковага супрацоўніцтва і ўзаемаразумення нашых народаў у будучым.

Зборнік разлічаны ў першую чаргу на беларускіх і польскіх навукоўцаў — спецыялістаў у галіне філалогіі, гісторыі і культуралогіі, а таксама на выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых беларуска-польскімі ўзаемадачыненнямі на розных этапах гістарычнага існавання нашых народаў і краін.

# МОВАЗНАЎСТВА

**Мікалай Прыгодзіч** *(Мінск, Беларусь)*

## МІХАЛ САЕВІЧ ЯК ДАСЛЕДЧЫК ГАВОРАК БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Мова насельнікаў Беласточчыны на працягу многіх дзесяцігоддзяў з'яўляецца аб'ектам увагі лінгвістаў-дыялектолагаў розных краін, найперш суседніх Беларусі і Украіны. Але асноўныя дасягненні тут належаць моваведам Польшчы. У гэтай сувязі можам прыгадаць імёны К. Міхальчука (1872), Я. Карскага (1904), Э. Смулковай, С. Глінкі, М. Кандрацюка, В. Курачкевіча і іншых. У апошнія дзесяцігоддзі моўная праблематыка Беласточчыны цікавіць і маладых даследчыкаў, як, напрыклад, Б. Сегеня, Л. Цітку і іншых. Неаспрэчныя заслугі ў даследаванні гаворак Беласточчыны належаць прафесару Міхалу Саевічу.

З пэўным жалем магу канстатаваць, што яго грунтоўная манаграфія «Derywacja sufiksalna osobowych nazw subiektów w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny (Суфіксальнае словаўтварэнне назваў асабовых суб'ектаў у беларускіх гаворках верхняга цячэння ракі Нарэў у беластоцкім рэгіёне)» (Люблін, 2002. — 521 с.), мякка кажучы, фактычна засталася па-за ўвагай беларускіх дыялектолагаў і гісторыкаў мовы.

Адзначаная манаграфія з'яўляецца вынікам шматгадовай (пачынаючы з 70-х гадоў XX ст.) працы вучонага па вывучэнні словаўтваральнай сістэмы беларускіх гаворак верхняга цячэння ракі Нарэў. Даследуемая тэрыторыя знаходзілася ў мінулым у складзе Беластоцкага, а цяпер Падляшскага ваяводства. Пражывае тут у пераважнай большасці насельніцтва праваслаўнага веравызнання, якое ў паўсядзённым жыцці карыстаецца беларускай гаворкай. Гэта перыферыйныя, найбольш аддаленыя на поўдзень гаворкі беластоцкага рэгіёна. Да трэцяга падзелу Польшчы ў 1795 годзе гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад розных тэрытарыяльных адзінак Вялікага Княства Літоўскага. Да Польскай Кароны адносіліся толькі землі, што знаходзіліся на захад ад ракі Нарэўка, г. зн. сённяшняя Лядская пушча і яе ваколіцы. Тэрыторыю гэту насялялі ў асноўным беларусы, што прыйшлі з-пад Свіслачы і Ваўкавыска. Даследуемыя гаворкі вызначаюцца пэўнай аднароднасцю з пункту гледжання фанетыкі, лексікі і словаўтварэння. Ёсць толькі некаторыя вёскі на ўскрайку

Лядскай пушчы, гаворкі якіх утрымліваюць асобныя рысы суседніх украінскіх гаворак.

Факталагічнай асновай даследавання прафесара Міхала Саевіча стаў матэрыял, сабраны ў 30 вёсках: 23 — на тэрыторыі гміны Нарэўка і 7 — на тэрыторыі гміны Белавежа. Усяго было прааналізавана 2630 дэрыватаў, у тым ліку 1875 аддзеяслоўных назваў суб'ектаў дзеяння і 755 адпрыметнікавых назваў носьбітаў прымет, утвораных пры дапамозе суфіксальных словаўтваральных фармантаў.

Адзначым, што словаўтварэнне ў беларускіх гаворках верхняга цячэння ракі Нарэў у беластоцкім рэгіёне фактычна не даследавалася. Аналізуемая манаграфія з'яўляецца першай спробай комплекснага апісання дзвюх словаўтваральных катэгорый: аддзеяслоўных назваў суб'ектаў дзеяння і адпрыметнікавых назваў носьбітаў прымет. Дадзеная манаграфія абапіраецца на даследаванні такіх беларускіх дыялектолагаў, як П. Сцяцко, А. Крывіцкі, Ф. Клімчук і інш.

1. Аддзеяслоўныя асабовыя назвы суб'ектаў дзеяння (1875 дэрыватаў) утвараюцца пры дапамозе 102 суфіксальных словаўтваральных фармантаў. У колькасных адносінах сярод іх М. Саевіч вылучае 6 груп словаўтваральных тыпаў:

1.1. Вельмі высокая колькасць (100 і больш адзінак):

*-ło* (340) — абяцадло, цокало, драпало, нукало, сморкало; *-ač* (337) — адбівач, калупач, пакідач, памагач, талкавач, забаўляч; *-un* (247) — баюн, брыкун, шыкун, таптун і да т. п.

1.2. Высокая колькасць (51–100):

*-n'ik* (93) — балаўнік, падлізнік, жартаўнік;

*-айка* (74) — бразгаўка, бзыкаўка, пырскаўка;

*-l'n'ik* (58) — ашукальнік, пакідальнік, выпівальнік, збіральнік;

1.3. Значная колькасць (21–50):

*-ак* (46), *-c'el'* (44), *-č yk* (32), *-l'ščyk* (31), *-ščyk* (30), *-ar* (26);

1.4. Сярэдняя колькасць:

*-l'ec* (18), *-ant* (18), *-ator* (15)… *-an* (11), *-us* (11);

1.5. Нізкая колькасць:

*-ko* (10), *-al'* (10), *-ėl'n'ik* (9), *-uk* (8), … *-aš* (7);

1.6. Вельмі малая колькасць:

*-da* (5), *-anda* ( 5), *-otn'ik* (4), *-ent* (4), *-al'n'ik* (3), *-at (2)*, *-ut* (2)…

У асобную групу вылучаюцца дэрываты з адзінкавымі словаўтваральнымі фармантамі : *-erca*, *-čy*, *-uda*, *-dło*, *-in*, *-ater*, *-uta* і інш.

2. Адпрыметнікавыя асабовыя назвы суб'екта дзеянняў утвараюцца пры дапамозе 82 суфіксальных словаўтваральных фармантаў. Іх таксама даследчык падзяляе на 6 груп.

2.1. Вельмі высокая колькасць:

*-ік* (130) — аблуднік, белагаловік, раскошнік;

*-ес* (102) — абадранец, любімец, завідлівец.

2.2. Высокая колькасць:

*-ač* (81) — барадач, даўгач (высокі), касмач;

*-ak* (80) — басяк, падляк, гніляк, панурак (пануры), спрытняк.

2.3. Значная колькасць:

*-un* (39) — брыдун (брыдкі), фарсун, смаркун (малы);

*-ota* (26) — брыдота, цемнота, дурнота.

2.4. Сярэдняя колькасць:

*-eča* (18) — чарнеча, галеча, пустэча;

*-oc'e* (17) — даброце, рыжоце;

*-uγa* (17), *-aka* (13), *-an* (11);

2.5. Нізкая колькасць:

*-us* (10), *-yš* (8), *-al'* (7), … *-anda* (6), *-iło* (6).

2.6. Вельмі нізкая колькасць:

*-uk* (5), *-ina* (5), *-izna* (5), … *-andra* (2), *-stvo* (2).

Асобную групу ўтвараюць дэрываты з адзінкавымі словаўтваральнымі фармантамі: *-ica*, *-os'c'*, *-čuk*, *-iradło*, *-uta*, *-tus*, *-uza* і інш.

Параўнальны аналіз сведчыць, што амаль усе вылучаныя ў даследаваных гаворках фарманты (аддзеяслоўныя асабовыя назвы суб'ектаў) функцыянуюць і ў гаворках на тэрыторыі Беларусі. Малалікую групу складаюць словаўтваральныя фарманты, што ўтвараюць адпаведныя назвы практычна толькі ва ўсходнеславянскіх гаворках беластоцкага рэгіёна. Гэта найперш фарманты, што былі запазычаны з польскай літаратурнай мовы (*-erca*, *-ničy*, *-ola*, *-aš*). Пры дапамозе іх утвараюцца назвы суб'ектаў, што адносяцца да неактыўных словаўтваральных тыпаў.

Параўнальная характарыстыка словаўтварэння асабовых назваў суб'ектаў дзеяння ў беларускіх гаворках верхняга цячэння ракі Нарэў і ў беларускай літаратурнай мове паказала, што амаль палавіна вылучаных у даследуемых гаворках фармантаў не ўтварае адпаведных назваў у беларускай літаратурнай мове. Гаворкі, асабліва перыферыйныя, як відаць, валодаюць значна большымі словаўтваральнымі магчымасцямі ў параўнанні з літаратурнай мовай. Асабліва гэта датычыцца фармантаў, што ўтвараюць экспрэсіўныя дэрываты.

Асобна М. Саевіч разглядае і сінанімічныя рады. У адной і той жа вёсцы існуюць шматлікія семантычна багатыя словаўтваральныя дублеты, асабліва экспрэсіўныя аддзеяслоўныя назвы суб'ектаў на *-ło*, *-ač* і *-un*, для якіх характэрна самая вялікая актыўнасць. Напрыклад: 1) рыпало — рыпач — рыпун — рыпаўка, 2) лапатун — лапатач — лапацень — лапатня. Пры гэтым заўважаецца своеасаблівая канкурэнцыя фармантаў на карысць польска-літаратурных сродкаў словаўтварэння.

Каля 70 % прааналізаваных суб'ектных назваў дзеянняў утвараюць патэнцыяльныя канструкцыі (схільнасць да дзеяння, уменне выконваць дзеянне, дзеянні прафесіянальнага характару і інш.). Побач з гэтым у гаворках сустракаюцца і шматлікія актуальныя назвы суб'ектаў дзеянняў, якія характарызуюць асобу па выпадковых дзеяслоўных прыкметах, неістотных з пункту гледжання характарыстыкі гэтай асобы.

У рабоце таксама даецца апісанне такіх спадарожных з'яў дэрывацыі, як чаргаванне галосных і зычных гукаў, усячэнне і пашырэнне зыходных словаўтваральных асноў, субмарфізацыя, аплікацыя морфаў і мена месца націску.

Манаграфічнае даследаванне М. Саевіча надзвычай акуратна і грунтоўна пашпартызавана, у ім лёгка адшукаць патрэбны ўзор, тую ці іншую словаўтваральную мадэль, табліцу. Мяркую, што адзначаную працу, як і даследаванні іншых дыялектолагаў Польшчы, неабходна шырэй і як мага паўней уводзіць у навуковы ўжытак, спецыяльна вылучаць у вучэбных курсах па гісторыі беларускага мовазнаўства і беларускай дыялекталогіі. Падобныя працы маюць важнае значэнне і для гісторыі беларускай мовы, паколькі даваляюць рэальна прасачыць няпростыя працэсы моўных узаемапранікненняў, ацаніць рэальны стан этнічна-неаднародных гаворак ва ўмовах адзінамоўнай дзяржавы.

---

**Agnieszka Borowiec** *(Lublin, Polska)*

## OSOBOWE *NOMINA AGENTIS* Z FORMANTAMI *-АР* // *-(А)ТАР* WE WSPÓŁCZESNYM JĘZYKU BIAŁORUSKIM

Niniejszy artykuł został poświęcony osobowym *nomina agentis* (NAg) z formantami słowotwórczymi (FS) *-ар*//*-(а)тар*. Do analizy wybrano 85 rzeczowników (37 reprezentuje FS *-ар*, natomiast 49 *-(а)тар*), pochodzące ze słowników oraz prac z zakresu językoznawstwa białoruskiego. Wśród derywatów z sufiksem *-ар* przeważają leksemy odrzeczownikowe (23), natomiast NAg z FS *-(а)тар* charakteryzuje motywacja podwójna (odczasownikowo-odrzeczownikowa).

Do grupy odrzeczownikowych NAg z FS *-ар* należą nazwy odmiejscowe (por. *аптэкар* [ПБС-04, с. 31; 2, с. 190; 7, с. 37], *бібліятэкар* [ПБС-04, с. 48; 2, с. 190], *карчмар* [ПБС-04, с. 222; 2, с. 190], *кухар* [ПБС-04, с. 265; 2, с. 190], *млынар* [ТСБЛМ, с. 348; ПБС-04, с. 313; СЦБМ-05, с. 237; 2, с. 190]), odobiektowe (por. *бляхар* [ПБС-04, с. 51; 2, с. 190], *гантар* 'ten, kto kryje dach gontą' [СББЛ, с. 58; ТСБМ-5б, с. 531], *гусляр* [4; 2, с. 190], *дудар* [СББЛ, с. 81; ПБС-04,

с. 129; 4; 2, с. 190], *камінар* [ТСБЛМ, с. 269; ПБС-04, с. 241; 2, с. 190], *пчаляр* [ТСБЛМ, с. 527; ПБС-04, с. 535; СЦБМ-05, с. 288; 2, с. 190], *свінар* [ТСБМ-5, с. 91; 13, с. 20],), odnarzędziowe (por. *кабзар* [ТСБЛМ, с. 261; ПБС-04, с. 235], *плугар* [ТСБМ-4, с. 277], *тачкар* [2, с. 190]) oraz odrezultatywne (por. *гантар* [ТСБМ-5б, с. 531] 'ten, kto wyrabia gont', *плагіятар* [ТСБМ-4, с. 264], *пясняр* [ТСБМ-4, с. 539; ТСБЛМ, с. 529; СЦБМ-05, с. 288], *скульптар* [ТСБМ-5, с. 190; ПБС-04, с. 577; 2, с. 190], *сталяр* [ТСБМ-5, с. 301; ПБС-04, с. 618; 2, с. 190], *страхар* [ТСБМ-5, с. 338; 2, с. 190], *трунар* [ПБС-04, с. 666; 2, с. 190], *цагляр* [СББЛ, с. 297].

Grupę formacji odczasownikowych (z których liczne można traktować jako dwumotywacyjne, por. *вудар* < *вудзіць* // *вуда*, *шкляр* < *шкліць*, *шкло*) z FS *-ар* reprezentuje 14 derywatów: *брукар* [ТСБМ-1, с. 407; ПБС-04, с. 58; 2, с. 190] < *брукаваць* 'brukować', *ваяр* [ПБС-04, с. 728; 5, с. 304] < *ваяваць* 'wojować', *вудар* [ТСБМ-1, с. 511; ПБС-04, с. 716] < *вудзіць* 'łowić (na wędkę)', *вясляр* [ТСБМ-1, с. 604; ТСБЛМ, с. 138; СББЛ, с. 55] < *веславаць* 'wiosłować', *гандляр* [ТСБМ-1, с. 25; ТСБЛМ, с. 143; ПБС-04, с. 190] < *гандляваць* 'handlować', *грабар* [ТСБМ-2, с. 72] < *грэбці* // *грабці* 'grabić', *друкар* [ТСБМ-2, с. 202; ТСБЛМ, с. 185; ПБС-04, с. 127; 14, с. 153; 5, с. 304; 2, с. 190] < *друкаваць* 'drukować', *званар* [ТСБМ-2, с. 436; ТСБЛМ, с. 234; ПБС-04, с. 141; 16, с. 82; 14, с. 147] < *званіць* 'dzwonić', *лекар* [ТСБМ-3, с. 34; ТСБЛМ, с. 316; ПБС-04, с. 274; 13, с. 20; 2, с. 190] < *лячыць* 'leczyć', *маляр* [ТСБМ-3, с. 99; ТСБЛМ, с. 331; СЦБМ-04, с. 329; ПБС-04, с. 293; 7, с. 37] < *маляваць* 'malować (pokój)', *пекар* [ТСБМ-4, с. 153; ПБС-04, с. 442; 2, с. 190; 5, с. 304] < *пячы* 'piec', *пісар* arch. [ТСБМ-4, с. 258; ПБС-04, с. 446; 11, с. 5] < *пісаць* 'pisać', *токар* [ПБС-04, с. 657; 13, с. 20] < *тачыць* 'toczyć', *шкляр* [ТСБМ-5б, с. 368; ТСБЛМ, с. 758; ПБС-04, с. 634; 2, с. 190] < *шкліць* 'szklić'.

Regularność budowy słowotwórczej większości derywatów implikuje ogranicznie alternacji głoskowych do kilku typów, przy czym są to zarówno wymiany samogłoskowe, jak i spółgłoskowe. Do pierwszych należą: [*о*:*а*] *гонта* > *гантар*, *золата* > *залатар*, *комін* > *камінар*, *стол* > *сталяр*, [*э*:*а*] *веславаць* > *вясляр*, *песня* > *пясняр*, [*а*:*э*] *лячыць* > *лекар*, *пячы* > *пекар*, [*а*:*о*] *тачыць* > *токар*; do drugich: [*дз'*:*д*] *вудзіць* > *вудар*, [*л*:*л'*] *стол* > *сталяр*, *пчала* > *пчаляр*, [*н'*:*н*] *званіць* > *званар*, *свіня* > *свінар*. FS rzadko wstępuje w relacje synonimiczne z innymi sufiksami, por. *ваяр* — *ваяўнік*, *вудар* — *вудзільшчык*, *грабар* — *грабец*.

Wśród derywatów z FS *-(а)тар* materiał źródłowy stanowią derywaty dwumotywacyjne (odczasownikowo-odrzeczownikowe): *агітатар* [ТСБЛМ, с. 29; 14, с. 153; ПБС-04, с. 19], *адміністратар* [СНСБМ, с. 33; ПБС-04, с. 17], *акампаніятар* [ТСБЛМ, с. 52; ПБС-04, с. 21; 10, с. 79], *аператар* [ТСБМ-1, с. 247; ТСБЛМ, с. 61; ПБС-04, с. 414; 10, с. 82], *арандатар* [ТСБЛМ, с. 64; 10, с. 82], *арганізатар* [ТСБЛМ, с. 65; 16, с. 82; ПБС-04, с. 418; 14, с. 154],

*асенізатар* [ТСБЛМ, с. 68], *газіфікатар* [ТСБМ-5б, с. 531], *дыктатар* [ТСБЛМ, с. 189; ПБС-04, с. 133], *дыстрыб'ютар* [СНСБМ, с. 131; ПБС-04, с. 135; 15, с. 147], *дэгазатар* [ТСБМ-2, с. 230; ТСБЛМ, с. 192], *дэгустатар* [ТСБЛМ, с. 193; ПБС-04, с. 223], *дэкаратар* [ТСБМ-2, с. 232; ТСБЛМ, с. 193; ПБС-04, с. 99], *дэкламатар* [ТСБМ-2, с. 232; ТСБЛМ, с. 193; ПБС-04, с. 543; САіР), *ілюмінатар* [ПБС-04, с. 199], *ілюстратар* [ТСБМ-2, с. 535; ТСБЛМ, с. 254; ПБС-04, с. 199], *імітатар* [ТСБМ-2, с. 538; ТСБЛМ, с. 254; ПБС-04, с. 200], *інвестытар*[1] [10], *інкасатар* [ТСБМ-2, с. 546; СЦБМ-05, с. 185; ПБС-04, с. 202], *інкрустатар* [ТСБМ-2, с. 547; ТСБЛМ, с. 256], *інтэгратар* [15, с. 148; 6; 10], *інтэрпрэтатар* [ТСБМ-2, с. 554; ТСБЛМ, с. 258; САіР), *інфарматар* [ТСБМ-2, с. 554; ТСБЛМ, с. 258; СЦБМ-05, с. 187; СаіР; 7, с. 38], *кааператар* [ТСБМ-2, с. 566], *каардынатар* [ТСБМ-5б, с. 553; ТСБЛМ, с. 261; 6], *каментатар* [ТСБМ-2, с. 601; ТСБЛМ, с. 269; ПБС-04, с. 202], *кампазітар* [ТСБМ-2, с. 604; ТСБЛМ, с. 270; ПБС-04, с. 242], *кампілятар* [ТСБМ-2, с. 606; ТСБЛМ, с. 270], *канструктар* [ТСБЛМ, с. 273; СЦБМ-05, с. 198; ПБС-04, с. 246; 10, с. 82], *ліквідатар* [ТСБЛМ, с. 318], *меліяратар* [ТСБЛМ, с. 341; ПБС-04, с. 302], *папулярызатар* [ТСБЛМ, с. 439; ПБС-04, с. 477], *прыватызатар* [15, с. 148], *рэдактар* [ПБС-04, с. 543], *рэпетытар* [ТСБМ-5б, с. 576], *рэстаўратар* [ТСБМ-5б, с. 576; ПБС-04, с. 246; 14, с. 54], *рэфарматар* [ТСБМ-5б, с. 577; ПБС-04, с. 543], *сістэматызатар* [ТСБМ-5, с. 143], *стандарызатар* [ТСБМ-5, с. 303], *стылізатар* [ТСБМ-5, с. 358; ТСБЛМ, с. 633], *стэрылізатар* [ТСБМ-5, с. 363], *таксатар* [ТСБМ-5, с. 464], *тарыфікатар* [17, с. 4], *трансфарматар* [ТСБМ-5, с. 509; ТСБЛМ, с. 660], *уніфікатар* [ТСБМ-5б, с. 27], *утылізатар* [ТСБМ-5б, с. 85], *фальсіфікатар* [ТСБМ-5б, с. 105; ТСБЛМ, с. 705; ПБС-04, с. 153], *цывілізатар* [17, с. 34], *экзаменатар* [СЦБМ-05, с. 433; ПБС-04, с. 143].

Problem wielomotywacyjności, zwanej także *paralelną motywacją wyrazu* [1, c. 156], *motywacją wielostronną* [11, c. 24; 8, c. 47] interesował językoznawców od przełomu lat 60-tych i 70-tych. W językoznawstwie polskim na motywację tego typu zwróciła uwagę M. Honowska, która analizując relacje w parze słowotwórczej akcentowała możliwość tworzenia kilku peryfraz słowotwórczych, z których każda wskazuje na inny kierunek motywacji [3]. Na grunt języka białoruskiego wielomotywacyjność została przeniesiona z prac badaczy rosyjskich, a także opisana m. in. przez W. Waranowicza, który przy opisie rzeczowników osobowych wskazywał na podwójną motywację przymiotnikowo-rzeczownikową, na przykład *бюджэтнік* 'работнік бюджэтнай сферы' (motywacja odprzymiotnikowa), 'работнік, чыя праца фінансуецца па бюджэту' (motywacja odrzeczownikowa); *падпольнік* 'той, хто займаецца падпольнай дзейнасцю' (motywacja

[1] A. Łukaszaniec w derywatach typu інвестытар, рэпетытар wyróżnia FS -ытар [10, c. 92].

odprzymiotnikowa), ‘той, хто дзейнічае ва ўмовах падполля’ (motywacja odrzeczownikowa) [5, c. 295]. Wielomotywacyjność dotyczy głównie rzeczowników, a jej przyczynę upatrywać należy w derywacji opartej na różnorodnych elementach rzeczywistości pozawerbalnej, która ma bezpośredni wpływ na kształt i rozwój języka. W zakresie słowotwórstwa rzeczowników osobowych występują następujące pola motywacyjne: (1) czasownik$_1$, czasownik$_2$ > rzeczownik (*жан/і/-(ць)*, *жан/і/-(ц)-/ца/ > жаніх*); (2) czasownik, rzeczownik > rzeczownik (*наладж/ва/-(ць)*, *налад/к/-а > наладчык*, *нарыхтав/а/-(ць)*, *нарыхтоў/к/-(а) > нарыхтоўшчык*); (3) czasownik, przymiotnik > rzeczownik (*зайздросц/і/-(ць)*, *зайздросн-(ы) > зайздроснік*); (4) rzeczownik, przymiotnik > rzeczownik (*білет-ø*, *безбілетн-(ы) > безбілетнік*); (5) przymiotnik, przysłówek > rzeczownik (*выдатн(ы)*, *выдатн(а) > выдатнік*); (6) rzeczownik, przymiotnik > rzeczownik (*быт-ø*, *бытав-(ы) > бытавік*); (7) czasownik$_1$, czasownik$_2$, rzeczownik > rzeczownik (*захопл/іва/-(ць)*, *захап/і/-(ць)*, *захоп > захопнік* [9, c. 39–40; por. też 12, c. 80].

Analizowane derywaty należą do pola drugiego (czasownik, rzeczownik > rzeczownik), przy tym liczną grupę (42 derywaty, tj. 86 procent nazw z analizowanym formantem słowotwórczym) stanowią nazwy utworzone od czasowników należących do klasy trzeciej produktywnej (na *-ава-*) oraz rzeczowników abstrakcyjnych zakończonych na *-ыя*, por. *адміністратар < адміністраваць // адміністрацыя*, *арганізатар < арганізаваць // арганізацыя*, *дэкаратар < дэкараваць // дэкарацыя*, *дэкламатар < дэкламаваць // дэкламацыя*, *імітатар < імітаваць // імітацыя*, *кааператар < каапераваць // кааперацыя*, *каардынатар < каадрынаваць // каардынацыя*, *кампазітар < кампанаваць // кампазіцыя*, *кампілятар < кампіляваць // кампіляцыя*, *рэстаўратар < рэстаўраваць // рэстаўрацыя*, *тарыфікатар < тарыфікаваць // тарыфікацыя*, *трансфарматар < трансфармаваць // трансфармацыя*, *уніфікатар < уніфікаваць // уніфікацыя.* Sufiksy *-іра-//-ыра-* w czasownikach motywujących są konsekwentnie ucinane, por. *аператар < аперыраваць // аперацыя*, *дыстрыб’ютар < дыстрыб’юіраваць // дыстрыбуцыя*, *дэгазатар < дэгазіраваць // дэгазіфікацыя*, *каментатар < каменціраваць // каментар*, *рэпетытар < рэпеціраваць // рэпетыцыя*.

Większość analizowanych derywatów należy do grupy nazw neutralnych stylistycznie określających rodzaj wykonywanego zajęcia (tzw. nazwy zawodowe). Nieliczne reprezentują styl książkowy, por. *дэкламатар*, *інтэрпрэтатар*, rzadko posiadają dublety słowotwórcze (tzw. względne), por. *інфарматар — інфармант*[1].

---

[1] Rzeczowniki *інфарматар* oraz *інфармант* posiadają wspólne znaczenie ‘ten, kto udziela informacji na zadane pytania (w sondażu, kwestionariuszu)’, ponadto pierwszy z nich używany jest w znaczeniu ‘ten, kto udziela informacji, informuje o czymś’. Tak więc derywaty te różni pojemność znaczeniowa, co nie pozwala kwalifikować je jako tzw. synonimy pełne.

Niektóre bliskie są nazwom atrybutywnym, por. *агітатар* ‘ten, kto ma w zwyczaju agitację’, *дыктатар* ‘ten, kto jest zwolennikiem dyktatury’, *інтэгратар* ‘ten, kto jest zwolennikiem integracji’, ponadto klasyfikacja semantyczna niektórych derywatów wymaga znajomości kontekstu pozajęzykowego, por. *У цырку працаваў імправізатар.* (NAg), ale: *Гаварылі пра яго, што ён добры імправізатар: заўсёды ведае, што адказаць.* (NAttr). Liczne nazwy podlegają neutralizacji: mogą oznaczać zarówno osobowych wykonawców czynności, jak i nazwy urządzeń, mechanizmów[1], organizacji i firm, por. *арганізатар*, *газіфікатар*, *інвестар*, *кампілятар*, *прыватызатар*, *сістэматызатар*, *стандартызатар*, *стэрылізатар*, *таксатар*, *тарыфікатар*, *трансфарматар*, *уніфікатар*, *утылізатар*. Derywaty z omawianymi FS posiadają synonimy, utworzone od innych podstaw słowotwórczych, por. *вудар — рыбак — рыбалоў*, *дудар — валыншчык*, *дыстрыб'ютар — распаўсюджвальнік — распаўсюднік*, *інтэгратар — аб'яднальнік*, *кааператар — супрацоўнік*, *млынар — мукамол*, *пясняр — спявак*, *скульптар — разьбяр*, *штукар — фокуснік* lub tworzą wyrazy złożone, por. *авіяканструктар*, *радыёкаментатар*.

W większości derywatów z FS *-ар* pod akcentem znajduje się sufiks (por. *грабáр*, *друкáр*, *званáр*, *кабзáр*, *камінáр*, *плугáр*, *тачкáр*), rzadziej — podstawa słowotwórcza (por. *аптэкар*, *бібліятэкар*, *лекар*, *пекар*, *скульптар*, *токар*). W nazwach z FS *-атар* pod akcentem znajduje się pierwsza sylaba sufiksu, por. *агітáтар*, *адміністрáтар*, *арганізáтар*, *асенізáтар*, *газіфікáтар*, *дэгустáтар*, *дэкарáтар*, także w liczbie mnogiej, por. *агітáтары*, *адміністрáтары*, *арганізáтары*, *асенізáтары*, *газіфікáтары*, *дэгустáтары*, *дэкарáтары* (typ akcentowy A).

## Źródła


ПБС-04 = Польска-беларускі слоўнік. Słownik polsko-białoruski. Волкава Я. В., Авілава В. Л. Рэд. Г. А. Цыхун. Мінск, 2004.

САіР = Слоўнік акцёра і рэжысёра. Укл. А. Каляда. Мінск, 1995.

СББЛ = Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі. Шкраба І. Р. Мінск, 2008.

СНСБМ = Слоўнік новых слоў беларускай мовы. Уласевіч В. І., Даўгулевіч Н. М. Мінск, 2009.

СЦБМ-04 = Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы. Плотнікаў Б. А., Трайкоўская В. П. Мінск, 2004.

СЦБМ-05 = Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Мінск, 2005.

ТСБЛМ = Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Рэд. М. Р. Суднік. Мінск, 1996.


---

[1] Formant słowotwórczy jest szczególnie produktywny w tworzeniu nazw narzędzi, urządzeń i maszyn, co potwierdza materiał prezentowany w słownikach wydanych w ostatnim okresie, por. *эмулятар* [СНСБМ, с. 423], *эпілятар* [СНСБМ, с. 424].

ТСБМ = Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т., 6 кн. Рэд. К. Крапіва. Мінск, 1977–1984.

## Literatura


1. Dokulil, M. Teoria derywacji / M. Dokulil. — Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979.
2. Chomko, J. Polskie i białoruskie nazwy zawodów w ujęciu konfrontatywnym / J. Chomko; рэд. С. Мусіенка, І. Крэня. // Шлях да ўзаемнасці : матэр. XIV Міжнар. нав. канф. (26–27 кастрычніка 2006). — Гродна, 2007. — С. 188–193.
3. Honowska, M. Zarys klasyfikacji polskich derywatów / M. Honowska. — Wrocław, 1967.
4. Бандаровіч, В. Назвы выканаўцаў музыкі ў старабеларускай мове / В. Бандаровіч // Роднае слова. — 2004. — № 9. — С. 25–28.
5. Варановіч, В. Асабовыя назоўнікі : шлях да гармоніі / В. Варановіч // Полымя. — 1997. — № 1. — С. 294–310.
6. Варановіч, В. Л. Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы) : дыс. … канд. філал. навук / В. Л. Варановіч. — Гродна, 2000.
7. Губкіна, А. В. Словаўтваральная характарыстыка назваў асоб паводле дзейнасці / А. В. Губкіна // Роднае слова. — 2000. — № 11. — С. 36–39.
8. Каліценя, І. У. Словаўтваральны ланцужок і неадзіная матываванасць слоў / І. У. Каліценя // Беларуская лінгвістыка. — 2002. — Вып. 52. — С. 47–52.
9. Каліценя, І. У. Часцімоўная прыналежнасць слова і множнасць матывацыі / І. У. Каліценя // Беларуская лінгвістыка. — 2004. — Вып. 54. — С. 38–46.
10. Лукашанец, А. А. Грамантычныя аспекты беларускага словаўтварэння : дыс. … док. філал. навук / А. А. Лукашанец. — Мінск, 2001.
11. Марозава, Я. Н. Словаўтварэнне / Я. Н. Марозава. — Віцебск, 2005.
12. Петрухина, У. В. Словообразовательная семантика в системе языковых значений // Праблемы тэорыі і гісторыі славянскага словаўтварэння : дакл. VI Міжнар. канф. камісіі па славян. словаўтварэнні пры Міжнар. камітэце славістаў (2–6 снежня 2003) / У. В. Петрухина. — Мінск, 2004. — С. 76–84.
13. Русак, В. П. Лінейныя і нелінейныя марфалагічныя змены асноў утваральных слоў / В. П. Русак // Беларуская лінгвістыка. — 2002. — Вып. 2. — С. 16–26.
14. Русак, В. П. Марфаналагічныя з’явы пры словаўтварэнні / В. П. Русак // Марфаналогія ў сучаснай беларускай мове. — Мінск, 2003. — С. 130–219.
15. Уласевіч, В. Словаўтваральная актыўнасць запазычанняў з заходнееўрапейскіх моў у сучаснай беларускай мове / В. Уласевіч; рэд. А. А. Лукашанец // Сучасныя праблемы беларускага мовазнаўства : матэр. навук. канф., прысв. 75-годдзю Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі (2 лістапада 2004). — Мінск, 2005. — С. 146–150.
16. Шуба, П. П. Сучасная беларуская мова / П. П. Шуба. — Мінск, 1987.
17. Ялынцава, І. У. Персанальныя найменні як поліматываваныя адзінкі словаўтварэння / І. У. Ялынцава // Беларуская лінгвістыка. — 2007. — Вып. 59. — С. 32–38.

**Павел Давідоўскі** *(Люблін, Польшча)*

# ПЕРАДАЧА ЎЛАСНЫХ НАЗВАЎ ЛАЦІНСКІМІ ЛІТАРАМІ НА БЕЛАРУСІ І Ў ПОЛЬШЧЫ: ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

У сучасным свеце міжнародным алфавітам з'яўляецца лацінскі. Незалежна ад таго, якую сістэму пісьма выкарыстоўвае пэўная мова, ёсць шмат сітуацый, калі з'яўляецца неабходнасць перадаць яе сродкамі лацінскага алфавіта. Перш за ўсё гэта датычыцца тапонімаў і антрапонімаў, якія павінны пісацца лацінскімі літарамі ў дакументах, на міжнародных картах, у тэкстах на замежных мовах і г. д. Ужо склалася сусветная традыцыя, што ў мовах, якія выкарыстоўваюць лацінскі алфавіт як асноўны, уласныя назвы перадаюцца аднолькава, незалежна ад мовы-рэцыпіента, г. зн. у арыгінальным варыянце. Акрамя таго, шмат для якіх моў, якія выкарыстоўваюць нелацінскія сістэмы пісьма, створаныя лацінізаваныя сістэмы, якія і выкарыстоўваюцца для перадачы ўласных назваў сродкамі лацінскага алфавіта [2, с. 20]. Такія сістэмы існуюць у Македоніі, Кітаі, Японіі, Ізраілі і іншых краінах. Цікава сітуацыя выглядае з сербскай мовай, для якой існуюць дзве сістэмы пісьма — кірыліца і лацінка, таму сербскія ўласныя імёны перадаюцца ў арыгінальным лацінскім варыянце (напрыклад, *Milošević*). Аднак праблема перадачы ўласных назваў лацінскімі літарамі вельмі востраў застаецца для беларускай, расійскай і ўкраінскай моў, для якіх выкарыстоўваецца шмат розных і часта непаслядоўных сістэм транслітарацыі і транскрыпцыі. Як зазначае ўкраінскі навуковец А. Дзьякаў: «Нашых суайчыннікаў трэба раз і назаўсёды пераканаць у тым, што правілы канкрэтнай мовы не датычаць замежных уласных імёнаў. І даць зразумець, што ўласная лацінізаваная азбука — гэта адзін з атрыбутаў інтэграцыі Расіі, Украіны і Беларусі ў сусветную (перш за ўсё, у еўрапейскую) супольнасць. Бо адчыненасць, цывілізаванасць грамадства пачынаецца з такіх дробязей» [2, с. 22].

Першымі праблемай перадачы беларускіх уласных назваў і самой назвы *Беларусь* лацінскімі літарамі ў тэкстах на замежных мовах зацікавіліся беларускія дзеячы на эміграцыі [1; 3]. Янка Запруднік яшчэ ў 1956 г. пісаў: «Праблема транскрыпцыі ў заходніх мовах беларускіх назоваў і прозьвішчаў вельмі важная. Той, хто рыўся па бібліятэчных картатэках, па індэксах кніжак ды па іншых альфабэтных сьпісках у пошуках матар'ялаў аб Беларусі, ведае, колькі напружанага высілку й змарнаванага часу гэта каштуе. А далёка ня ўсе, хто цікавіцца Беларусяй, маюць столькі цярплівасьці (і часта кемлівасці), каб гартаць балонкі ці фішкі ды дадумоўвацца — зь ігрэкам ці безь яго, "о" ці "а", "ts" ці "tz" і г. д. у бесканцовасьць» [3]. Гэта, на жаль, застаецца актуальным і ў наш час. Зразумела, у СССР існавалі сістэмы транслітарацыі беларускай

мовы на лацінскі алфавіт, аднак, на практыцы найчасцей выкарыстоўвалася транслітарацыя расійскага варыянта беларускага тапоніма або антрапоніма.

Асабліва актуальнай праблема перадачы беларускіх назваў лацінскімі літарамі сталася пасля атрымання Беларуссю незалежнасці ў 1991 г. і абвастрылася падчас пачатку пашпартызацыі ў 1993–1994 гг. З таго часу многія беларускія і замежныя навукоўцы зацікавіліся гэтай праблемай і выказвалі свае прапановы [6; 9; 12; 4; 16]. Пераважная большасць навукоўцаў выказваецца за выкарыстанне беларускай лацінкі замест розных сістэм транслітарацыі і транскрыпцыі, паколькі беларуская лацінка з'яўляецца другім уласным алфавітам беларускай мовы, які склаўся гістарычна і ідэальна перадае ўсе асаблівасці беларускай мовы. Сітуацыя вельмі падобная да сітуацыі з сербскай мовай, якая таксама гістарычна мае два алфавіты. За перадачу імёнаў і прозвішчаў у пашпартах беларускай лацінкай выказаліся выбітныя беларускія навукоўцы А. Мальдзіс, Г. Цыхун і В. Рагойша, адмысловую прапанову таксама склала Менская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны [9, с. 2]. Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі прапанаваў для гэтых мэт сваю сістэму транслітарацыі на аснове традыцыйнай лацінкі: «Прапанаваная сістэма мае толькі адно адрозненне ад "беларускай лацінкі" паводле граматыкі Б. Тарашкевіча, якое заключаецца ў неаднолькавым абазначэнні мяккага і цвёрдага зычнага "л". У "беларускай лацінцы" літарай *l* абазначаўся мяккі зычны "л", а літарай *ł* — цвёрды зычны "л": слава — *słava*, лес — *les*. Такі прынцып характэрны для сучаснай польскай мовы і, відаць, быў прыняты ў беларускай мове пад непасрэдным уплывам польскай графікі. У прапанаванай Інстытутам мовазнаўства сістэме транслітарацыі перадача цвёрдага і мяккага "л" падпарадкоўваецца агульнаму прынцыпу адлюстравання мяккасці зычных. Літара алфавіта абазначае цвёрды гук, мяккасць зычнага перад галосным перадаецца літарай "і" і адпаведным галосным, мяккасць зычнага перад мяккім знакам і ў канцы слова — рыскай (ˊ) над адпаведнай літарай. Такая сістэма з'яўляецца зручнай для карыстання» [6, с. 6]. Аднак гэтая прапанова была праігнараваная і ў пашпартах да гэтай пары выкарыстоўваецца даволі непаслядоўная сістэма транслітарацыі на англійскую мову.

Таксама ўзнікла праблема перадачы беларускіх тапонімаў лацінскімі літарамі ў картаграфічных і іншых выданнях. Паколькі ў ідэале міжнародная стандартызацыя геаграфічных назваў павінна базавацца на нацыянальных стандартах, што існуюць у кожнай асобнай краіне, група экспертаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па геаграфічных назвах заклікала краіны з нелацінскай пісьменнасцю распрацаваць адзіныя сістэмы раманізацыі (г. зн. перадачы з нелацінскай пісьменнасці ў лацінскую). Методыка перадачы аднаго віду пісьма іншым у асноўным вызначаецца зацікаўленай краінай, а затым прадстаўляецца на зацвярджэнне ў якасці міжнароднай сістэмы [8,

с. 9]. У гэтых мэтах у 2000 г. была прынята «Інструкцыя па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта», створаная на аснове ранейшай прапановы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі [10]. Пачынаючы з 2003 г., выдаюцца нарматыўныя даведнікі «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» па абласцях Беларусі, назвы ў якіх падаюцца кірыліцай і лацінкай. Аўтары, спасылаючыся на «Інструкцыю…», насамрэч у першых тамах выкарыстоўваюць традыцыйную беларускую лацінку (з «*ł*») [7, с. 24–25]. Аднак найчасцей «Інструкцыя…» ігнаруецца выдаўцамі карт і літаратуры пра Беларусь на замежных мовах, нягледзячы на тое, што «Патрабаванні дадзенай Інструкцыі абавязковыя для ўсіх міністэрстваў, ведамстваў, рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый, незалежна ад формаў уласнасці, фізічных асоб, уключаючы замежных, якія маюць спецыяльныя дазволы на ажыццяўленне дзейнасці ў галіне геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь» [10]. Канешне, такая непаслядоўнасць (у т. л. у афіцыйных выданнях) стварае блытаніну ў напісанні беларускіх геаграфічных назваў лацінскімі літарамі. Фактычна не вырашанай застаецца нават сітуацыя з назвай краіны, паколькі згодна з «Інструкцыяй…» павінна пісацца *Bielaruś*, аднак надалей выкарыстоўваецца *Belarus*. Асаблівая ж неўнармаванасць пануе на дарожных знаках, на якіх падаецца лацінскаграфічны варыянт назвы. Беларускія назвы падаюцца не згодна з «Інструкцыяй…» (напрыклад, *Ivatsevichy*). Акрамя таго парушаюцца правілы напісання замежных назваў, паколькі «Правілы транслітарацыі па дадзенай Інструкцыі не распаўсюджваюцца на выпадкі адлюстравання тапонімаў сумежных з Рэспублікай Беларусь тэрыторый лацінапішучых дзяржаў (Польшча, Літва, Латвія). Геаграфічныя назвы тэрыторый гэтых і іншых лацінапішучых дзяржаў, адлюстроўваемых на карце, падаюцца ў нацыянальнай форме напісання, прынятай для кожнай з гэтых дзяржаў» [10]. Украінскія і расійскія назвы павінны падавацца згодна з нормамі транслітарацыі, прынятымі ў гэтых дзяржавах. Аднак, на беларускіх знаках можна сустрэць формы *Warshawa, Warchawa* замест правільнага *Warszawa,* а таксама *Moscow* замест *Moskva* (так павінна быць згодна з расійскім ГОСТам і міжнароднымі правіламі; менавіта так падаецца на тэрыторыі Расіі).

У 2007 г. у «Інструкцыю па транслітарацыі…» ўнесены пэўныя змены: уведзена літара *й* замест ранейшай *ú*, а таксама пазначэнне мяккасці зычных дыякрытыкам над літарай замест дапушчальнага раней апострафа за літарай [11]. У 2007 г. беларускі стандарт транслітарацыі апублікаваны ў зборніку ААН, аднак у ранейшай рэдакцыі, без зменаў 2007 г. [15, s. 60–61].

У Польшчы сітуацыя з назвамі выглядае некалькі інакш, паколькі польская мова выкарыстоўвае алфавіт на аснове лацінскага. Замежныя ўласныя назвы могуць пісацца згодна з моўнай традыцыяй (г. зв. *nazwy spolszczone).* Так пішуцца назвы, якія даўно трапілі ў польскую мову — напрыклад, *Szekspir,*

*Waszyngton, Szopen, Paryż, Rzym, Wilno, Brześć.* Сучасныя ўласныя назвы, якія паходзяць з моў, якія выкарыстоўваюць лацінскі алфавіт, у польскім тэксце найчасцей пішуцца ў арыгінальным варыянце (таксама як і польскія ўласныя назвы ў дакументах і тэкстах на замежных мовах). Выключэнне могуць складаць назвы ў якія ўваходзяць літары, якіх няма ў польскім алфавіце. Тады дапускаюцца варыянтныя напісанні — напрыклад, можна пісаць *Žvaček* або *Żwaczek, Dvořak* або *Dworzak* [14, s. LXXXIII]. У выпадку, калі назва паходзіць з мовы, якая выкарастоўвае нелацінскі алфавіт, у польскім тэксце яна падаецца ў транскрыпцыі або транслітарацыі. Дзеючыя нормы транслітарацыі кірыліцы зацверджаны ў Польшчы ў 1984 г., а транскрыпцыі яшчэ ў 1956 г. [14, s. LXXXIII]. У тэкстах найчасцей выкарыстоўваецца транскрыпцыя, прычым у выпадку беларускіх антрамонімаў распаўсюджанай застаецца практыка перадачы іх расійскай формы — напрыклад, *Bykow, Łukaszenko.* У некаторых выпадках абавязковым стаецца выкарыстанне транслітарацыі (напрыклад, у бібліятэчных каталогах), якая не з’яўляецца вельмі зручнай для карыстання. Напрыклад некаторыя літары беларускай кірыліцы транслітаруюцца ў форме, якае дрэнна перадае асаблівасці беларускай мовы Ё — *Ë*, Ю — *Û,* Я — *Â,* Э — *È,* але Е — *E.* Такая транслітарацыя беларускай мовы часта з’яўляецца спрэчнай з лацінскай сістэмай пісьма, а таксама ўскладняе пошук інфармацыі. У 2005 г. Галоўнае ўпраўленне геадэзіі і картаграфіі (Główny Urząd Geodezji i Kartografii) шосты сшытак даведніка «Nazewnictwo geograficzne świata»*,* куды ўвайшлі назвы Беларусі, Расіі і Украіны. У гэтым даведніку транслітарацыя беларускіх назваў падаецца згодна з беларускай нормай, пададзенай у ААН [13, s. 11]. Паралельна з транслітараванай беларускай формай падаюцца найбольш распаўсюджаныя экзонімы — традыцыйныя формы назваў. Ужыванне экзонімаў дапускаецца ААН, аднак у выпадку міжнароднага выкарыстання павінны выкарыстоўвацца нацыянальныя лацінскія формы [5, с. 127]. Улічваючы гістарычную сувязь Польшчы з усходнімі суседзямі і былы статус польскай мовы на тэрыторыі Беларусі і Украіны, натуральным з’яўляецца тое, што вельмі значная частка тапонімаў на гэтых тэрыторыях мае польскія адпаведнікі-экзонімы, якія найчасцей і выкарыстоўваюцца ў польскамоўных тэкстах. Аднак, у сувязі з міжнароднымі патрабаваннямі, у некаторых выпадках выкарыстоўваюцца беларускія і ўкраінскія формы. Распаўсюджанне атрымліваюць дарожныя знакі з дзвюма формамі — напрыклад, *«Brześć Brest», «Lwów Lviv».* У гэтым выпадку *Brest* — міжнародная форма згодна з беларускім стандартам, *Lviv* міжнародная форма згодна з украінскім стандартам, *Brześć* і *Lwów* — польскія традыцыйныя назвы. Такое ўжыванне з’яўляецца цалкам мэтазгодным і адпавядае міжнародным стандартам. Акрамя таго, беларускія ўласныя назвы ў польскамоўных навуковых і публіцыстычных тэкстах часам перадаюцца беларускай лацінкай, што не адпавядае польскім нормам, але выкарыстоўваецца на практыцы.

Лацінскі алфавіт агульнапрыняты для выкарыстання ў міжнародных зносінах. Таму факт наяўнасці традыцыйнай лацінскай графічнай сістэмы беларускай мовы з'яўляецца вельмі істотным. Менавіта лацінка магла б выкарыстоўвацца пры неабходнасці перадачы беларускай мовы лацінскім алфавітам замест выкарыстання розных сістэм транскрыпцыі і транслітарацыі, што прывяло б да аднастайнага напісання беларускіх назваў у іншамоўных публікацыях, дакументах, бібліятэчных каталогах, на картах і г. д. і прычынілася б да павелічэння прэстыжу беларускай мовы.

## Літаратура


1. Брага, С. Whiteruthenia ці Byelorussia? / С. Брага // Бацькаўшчына. — 1953. — 31 снеж. — С. 5–6.
2. Дьяков, А. С. Транслитерация как составная часть национальной орфографии, или ещё раз об искусственной изоляции / А. С. Дьяков // SlavFile. — 2000. — Vol. 10. — № 1–2. — С. 20–23.
3. Запруднік, Я. Транскрыпцыя беларускіхназоваў і прозьвішчаў / Янка Запруднік // Бацькаўшчына. — 1956. — 19 лют. — С. 4.
4. Запруднік, Я. Пытаньне беларускай лацінкі для замежнага ўжытку / Я. Запруднік // Беларускае асветніцтва : вопыт тысячагоддзя: матэр. Міжнар. кангрэса (Мінск, 20–21 кастрычніка 1998 г.). — Кн. 1. — Мінск, 1998. — С. 104–105.
5. Кадмон, Н. Экзонимы или, как их еще называют, традиционные названия / Н. Кадмон // Руководство по национальной стандартизации географических названий. — Нью-Йорк : ООН, 2007. — С. 125–127.
6. Лукашанец, А. А. Аб правілах транслітарацыі беларускіх уласных назваў / А. А. Лукашанец // Наша слова. — 1994. — 5 каст. — С. 6.
7. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь : Мінская вобласць : нармат. давед. / рэд. В. П. Лемцюгова. — Мінск, 2003. — 346 с.
8. Орт, Д. Дж. Организация национальной программы по стандартизации географических названий / Д. Дж. Орт // Руководство по национальной стандартизации географических названий. — Нью-Йорк : ООН, 2007. — С. 5–13.
9. Пашпарт павінен быць беларускі // Наша слова. — 1994. — 2 лют. — С. 2.
10. Постановление Государственного комитета по земельным ресурсам, геодезии и картографии Республики Беларусь от 23.11.2000 №15 «Об утверждении Инструкции по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита» (вместе с «Правилами транслитерации букв белорусского алфавита буквами латиницы») // Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь. — 2001. — № 3.
11. Постановление Государственного комитета по имуществу Республики Беларусь 11 июня 2007 г. № 38 «О внесении изменений и дополнений в Инструкцию по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита» // Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь. — 2007. — № 159 (1407). — С. 27–28.
12. Таболіч, А. Транслітарацыя, але якая? / А. Таболіч // Наша слова. — 1994. — 30 ліст. — С. 6.

13. Nazewnictwo geograficzne świata, zeszyt 6, Białoruś, Rosja, Ukraina. — Warszawa : Główny Urząd Geodezji i Kartografii, 2005. — 286 s.
14. Popularny słownik ortograficzny PWN / opr. A. Kłosińska. — Warszawa : Wydawnictwo Naukowe PWN, 2002. — 536 s.
15. Technical reference manual for the standardization of geographical names. — New York : United Nations, 2007. — 371 s.
16. Tichoniuk, B. Kilka uwag do sposobu zapisywania łacinką toponimów białoruskich we współczesnej kartografii białoruskiej / B. Tichoniuk // Беларуская мова : шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэр. III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск, 21–25 мая, 4–7 снежня 2000 г.). — Мінск, 2001. — С. 297–299.

**Ірына Савіцкая** *(Мінск, Беларусь)*

## БЕЛАРУСКАЯ І ПОЛЬСКАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ ЯК АБ’ЕКТ КАМПАРАТЫВІСТЫКІ

Моўныя сістэмы славянскіх нацыянальных моў складваліся па-рознаму. Так, асновы сістэмы польскай нацыянальнай мовы складваюцца ў XVI — другой палове XVIII стст. Сучасная беларуская мова як вышэйшая форма нацыянальнай мовы пачала складвацца пазней — у XIX ст. — з прычыны пэўных сацыяльных і гістарычных фактараў. Аднак агульнасць і сумеснасць гістарычнага развіцця польскай і беларускай нацый абумовіла падабенства станаўлення моўнай сістэмы, у прыватнасці, агульны падыход да вызначэння этапаў фарміравання літаратурнай мовы.

З гістарычнага пункту погляду беларуская і польская нацыі падобныя, па-першае, наяўнасцю «залатога веку» ў сваёй культуры (XVI ст. — для польскай мовы, XV–XVI стст. — для беларускай мовы); па-другое, наяўнасцю перыядаў палітычнага і культурнага заняпаду (пач. XVIII ст. — паланізацыя, пасля — русіфікацыя Беларусі, канец XVIII ст. — падзелы Рэчы Паспалітай); па-трэцяе — перыяды росквіту культуры і літаратуры ў выніку набыцця абедзвюма нацыямі дзяржаўнасці (XX ст.). Аднак, натуральна, маюць месца і разыходжанні ў гісторыка-культурным жыцці дзвюх нацый. Такім чынам, шчыльныя ўзаемадачыненні польскай і беларускай нацый дазваляюць правесці пэўныя моўныя паралелі.

Надзвычай важнай эпохай для станаўлення і фарміравання літаратурных моў у гісторыі абодвух народаў з’явілася XIX стагоддзе. У гэтым працэсе найбольш важнае значэнне мае з’яўленне абагульняючых лінгвістычных прац

двух тыпаў: граматыкі і слоўніка нацыянальнай мовы, не столькі падобных тыпалагічна, колькі суадносных паводле іх функцыі ў станаўленні абедзвюх літаратурных моў.

Для беларускай літаратурнай мовы такое значэнне мела «Беларуская граматыка для школ» Б. А. Тарашкевіча, выдадзеная толькі ў 1918 г. у Вільні, якая стала першым навуковым абгрунтаваннем адначасова правапісных і граматычных норм беларускай мовы. Да пачатку XX ст. арфаграфічныя традыцыі ў беларускай мове адсутнічалі, паколькі была страчана пераемнасць са старабеларускай пісьменнасцю пасля пастановы Варшаўскага сейма 1696 г. Выпрацоўка новага правапісу адбывалася стыхійна, непасрэдна ў практыцы беларускага легальнага кнігадрукавання. На пачатку XX ст. адзначаецца значны арфаграфічны разнабой, выкліканы тым, што кожны пісьменнік абапіраўся на лексічныя і граматычныя сродкі роднага дыялекту. І толькі пасля закона аб свабодзе друку ў 1906 г. пачалі з'яўляцца паўнавартасныя легальныя беларускія выдавецтвы, якія і вызначылі прыярытэтныя напрамкі ў станаўленні будучай беларускай арфаграфічнай нормы.

Граматыка Б. Тарашкевіча ўпершыню абагульніла і сістэматызавала пісьмовыя традыцыі тагачаснага беларускага мастацкага, навуковага і публіцыстычнага друку, а таксама зафіксавала асноўныя спецыфічныя фанетычныя і марфалагічныя ўласцівасці беларускай мовы. На падручнік Б. Тарашкевіча арыентавалася школьнае навучанне ў Беларусі на працягу 1918–1929 гг.

Менавіта ў галіне граматыкі знайшло адлюстраванне больш ранняе развіццё польскай літаратурнай мовы. У 1568 г. была выдадзена па-лацінску першая граматыка польскай мовы П. Сарторыуса-Стаенскага [2, с. 4]. А выдадзеная ў 1778–1783 гг. «Gramatyka dla szkół narodowych» А. Капчынскага для 1–3-га класаў з'явілася першым школьным падручнікам па гэтым прадмеце і аказала сур'ёзны ўплыў як на правапіс, так і на пісьмовую мову. У заўвагах да свайго падручніка А. Капчынскі выказаў уласныя тэарэтычныя і дыдактычныя погляды, паводле якіх граматыка павінна рэгуляваць мову пры дапамозе такіх правілаў, якія дапамагалі б найбольш рацыянальна і лагічна выказваць думку. Граматыка А. Капчынскага павысіла цікавасць палякаў да роднай мовы і спрыяла ўстанаўленню і ўпарадкаванню граматычных норм.

Калі гаварыць пра лексікаграфію, то варта адзначыць, што слоўнік адыгрывае першаступенную ролю ў абуджэнні этнічнай самасвядомасці народа, паколькі ахоплівае не толькі сферу мовы, але і сферу культуры. Ён акумулюе лексіку розных грамадскіх пластоў і рэгіёнаў, утрымлівае каштоўныя звесткі пра народную культуру і нават аб'ядноўвае прагрэсіўныя грамадскія колы. Гэтыя рысы лінгвістычных слоўнікаў перыяду станаўлення (адраджэння) славянскіх літаратурных моў дазваляюць вызначыць падобныя слоўнікі як

«працы агульнанацыянальнага маштабу, якія карыстаюцца аўтарытэтам і ў больш познюю эпоху развіцця мовы і культуры народа» [4, с. 10].

У пэўны гістарычны і этапны перыяды лексікаграфічныя крыніцы розных народаў сваімі асноўнымі рысамі адлюстроўваюць працэс станаўлення іх нацыянальных моў і адыгрываюць аднолькавую ролю ў фарміраванні іх моўных сістэм, таму, на наш погляд, можна казаць пра агульныя заканамернасці ў гістарычным развіцці нацыянальнай слоўнікавай практыкі. Пры гэтым нельга не заўважыць розніцу ў колькасных і якасных паказчыках, а таксама ў тэрмінах складання і выдання беларускага і польскага нацыянальных слоўнікаў (слоўнікаў перыяду станаўлення нацыі), якія кожны ў свой час выконвалі функцыю вывучэння нацыянальнай літаратурнай мовы. У гэтай галіне трэба адзначыць розныя храналагічныя межы і колькасныя паказчыкі польскага і беларускага нацыянальных слоўнікаў.

Адной з функцый нацыянальнай лексікаграфіі ў ранні слоўнікавы перыяд з'яўляецца вывучэнне нацыянальнай літаратурнай мовы. Гэты этап звычайна азначаецца выданнем значнай паводле колькасці рэестравага матэрыялу і ролі ў станаўленні моўнай сістэмы лексікаграфічнай працы — слоўніка нацыянальнай мовы. Адносна беларускай літаратурнай мовы неабходна заўважыць, што як у першай, так і ў другой палове XIX ст. у поглядах на беларускую мову не было адзінай думкі: некаторыя даследчыкі (С. Б. Ліндэ, М. Максімовіч) лічылі яе самастойнай славянскай мовай, іншыя (І. Сразнеўскі, А. Сабалеўскі) разглядалі беларускую мову ў якасці дыялекту або рускай, або польскай моў. Нягледзячы на гэта, інтэнсіўнае этнаграфічнае даследаванне Беларусі выявіла багатую старажытную пісьмовую спадчыну, якая патрабавала аналізу і слоўнікавай сістэматызацыі.

Для беларускай мовы такім слоўнікам з'явіўся «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча, запланаваны Імператарскай Акадэміяй навук у якасці другой часткі «Опыта словаря областных наречий», але выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў 1870 г. як самастойная праца пад назвай «Словарь белорусского наречия». І. Насовічу было даручана скласці слоўнік, які «сістэматызаваў бы лексіку жывой народнай мовы і быў бы адначасова крыніцай для лінгвістычных даследаванняў беларускай мовы і дапаможнікам пры чытанні старажытных помнікаў пісьменства» [1, с. 60].

Гэта самы аб'ёмісты паводле колькасці сабранага і лінгвістычна апрацаванага матэрыялу беларускі слоўнік XIX ст. (у параўнанні з папярэднімі лексікаграфічнымі выданнямі — К. Калайдовіча, П. Шэйна, І. Грыгаровіча і інш). Ён ахопліваў больш за 30 тысяч адзінак лексікі і фразеалогіі жывога беларускага маўлення сярэдзіны XIX ст. Матэрыялы да слоўніка былі ўзяты з гаворак Магілёўшчыны, Міншчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны, некаторых паветаў Прывісленскага краю — усяго моўнага ландшафту тагачаснай Беларусі. Многія словы былі са старабеларускіх пісьмовых помнікаў. Усе

значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскімі тлумачэннямі і цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы. Акрамя таго, гэтае выданне паслужыла пачаткам і ўзорам належнай лексікаграфічнай кваліфікацыі зафіксаваных лексем. Маштабнасць слоўніка і навуковае апісанне яго рэестра вынікала з пастаўленай перад яго складальнікам задачы: «въ виду осознанной необходимости иметь подъ руками словарь этого наречія [беларускай мовы. — *І. С.*], между прочимъ и для пониманія важныхъ и любопытных историческихъ актовъ, на немъ писанныхъ» [3, уступнае слова К. Весялоўскага].

Аднак у выніку працы над лексікай аднаго з т. зв. «наречій» І. І. Насовіч дасягнуў значна большай мэты: сабраны слоўны матэрыял зафіксаваў у межах «русскаго языка» не проста «наречія», а самастойнай мовы, здольнай прадуцыраваць адзінкі, прыдатныя для розных камунікатыўных задач. Адметнасць беларускай мовы падкрэслівалася не толькі гістарычным і краязнаўчым каментарам, які надаў слоўніку пэўную гісторыка-культурную вартасць, але і ўласна лінгвістычным аналізам многіх рэестравых адзінак, згодна з якім лексемы або паўсталі адметнымі ў параўнанні з іншымі мовамі, або набылі беларускую фанетычную ці граматычную спецыфіку пры запазычанні: ***сакрамэнт*** *— Тело и кровь Господа нашего Іисуса Христа. Слово заимствованное отъ Поляковъ и употребляемое только въ бывшихъ уніатскихъ приходахъ;* ***по*** *— сверхъ значеній, указанныхъ в Словаре, предлогъ слитный, повторяемый часто при глаголахъ, которыхъ совершенный видъ уже составился изъ предлога По, для большаго усиленія действія, или для означенія действія многихъ и въ несколько пріёмовъ, какъ-то: побрали, попобрали, попобрано; повывозили, поповывозили, поповывезли, поровывезены; побили, попобили; повывернулися, поповывернулися ўси съ саней. Словъ съ удвоеннымъ предлогомъ по чрезвычайно много в Белорусскомъ наречіи; посему, для избежанія внесенія ихъ в Словарь, сделано здесь это общее замечаніе о слитномъ предлоге По.*

Слоўнік І. І. Насовіча быў распачаты як «Опыт словаря **областных** наречий» (вылучана намі. — *І. С.*), але ў працэсе складання пераўтварыўся ў «Словарь **белорусского** наречия». З прычыны запозненасці складвання беларускай нацыянальнай мовы не магчыма было адлюстраваць разгалінаваную беларускую стылістычную сістэму. Аднак абагульненне ў адной крыніцы найбагацейшых лексічных здабыткаў гэтага т. зв. «наречия» дало І. І. Насовічу магчымасць падкрэсліць наяўнасць на славянскім моўным абшары самастойнай славянскай *мовы*, а выкарыстанне стылістычных памет да пэўных лексем — акрэсліць нацыянальную лексічную і граматычную адметнасці гэтай мовы пры ўжыванні ў розных маўленчых сітуацыях.

Што тычыцца польскай нацыянальнай лексікаграфіі, то трэба адзначыць больш ранняе выданне лексікаграфічных прац, якія б паказалі багацце назапашаных лексічных рэсурсаў мовы. У сувязі з гэтым варта згадаць «Słownik języka polskiego» Самуіла Багуміла Ліндэ, выдадзены ў 6-ці тамах

ў 1807–1814 гг. у Варшаве. Выданне слоўніка С. Б. Ліндэ было прадвызначана гісторыка-культурнай сітуацыяй у Польшчы ў канцы XVIII — пачатку XIX стст., калі пад пагрозай страты нацыянальнай незалежнасці барацьба за родную мову набыла вострую палітычную значнасць. Матэрыял для гэтага слоўніка быў узяты з твораў найбольш выдатных пісьменнікаў пачынаючы з XVI ст. і тагачаснай жывой мовы і меў на мэце паказаць усе магчымасці польскай літаратурнай мовы. Рэестравая частка слоўніка ахоплівае агромністы корпус польскай лексікі: гістарычную (мова літаратуры 1540–1800-х гг. — з твораў Я. Каханоўскага, П. Скаргі, І. Красіцкага і інш.) і сучасную для таго перыяду (у тым ліку некаторую частку размоўнай лексікі). Да загаловачных слоў і розных іх значэнняў пададзены нямецкі пераклад, а таксама прыведзены эквіваленты з іншых славянскіх моў, якія разумеліся аўтарам як дыялекты адной, адзінай мовы, што аб'ектыўна спрыяла назапашванню матэрыялу для параўнальна-гістарычнага вывучэння славянскіх моў. Да таго ж, прыклады да прыведзеных адзінак падбіраліся такім чынам, каб выказаць дынаміку гістарычнага развіцця значэння гэтай адзінкі. Ва ўступе да слоўніка Ліндэ падкрэслівае сваё імкненне сабраць разам і параўнаць «сляды славянскай міфалогіі і рэлігіі» [цыт. па: 4, с. 17], г. зн. розныя назвы паганскіх боства ў і народных святаў. Гэта знайшло адлюстраванне ў значным аб'ёме слоўнікавага артыкула ***bożątko***. Аўтар устаўляе і кароткія апісанні абрадаў, якімі суправаджаюцца святы, напрыклад, назва ***badnyak*** — *палена, якое кладуць на агонь перад Калядамі*. Як бачым, нягледзячы на агульную тэндэнцыю імкнення да культурных каштоўнасцей эпохі асветы (пераважная цікавасць да кніжнай лексікі, да з'яўлення грамадскай і навуковай тэрміналогіі), у ім часткова прадстаўлена лексіка матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. На лексікаграфічную канцэпцыю слоўніка С. Б. Ліндэ абапіраўся новы «Слоўнік польскай мовы», створаны на чале з Я. Карловічам, А. Крыньскім і У. Нядзвецкім ужо на мяжы XIX–XX стст. (1900–1927 гг.), аднак рэестравая частка слоўніка 1900–1927 гг. у параўнанні са слоўнікам Ліндэ значна папоўнілася за кошт рукапісаў XV ст., вялікай колькасці запазычанняў, а галоўнае — значнага масіву дыялектнай лексікі.

Гістарычны характар слоўніка Ліндэ забяспечыў яму адно з галоўных месцаў у тагачаснай аўтарскай еўрапейскай лексікаграфіі. Гэтая праца, таксама, як і «Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча, выконвала функцыю вывучэння нацыянальнай мовы і стала на цэлыя дзесяцігоддзі неабходным лексічным дапаможнікам для польскіх пісьменнікаў і вучоных. Аб'ядноўвае абодва слоўнікі і тое, што зацікаўленасць іх складальнікаў нацыянальнай культурай, звязаная спачатку з рамантычнымі тэндэнцыямі, паглыбляецца разам з развіццём этнаграфіі, дыялекталогіі і іншых памежных навук, што і выклікала этналінгвістычны змест слоўнікаў. Адрозненне ж паміж імі заключаецца ў тым, што слоўнік С. Б. Ліндэ, акрамя таго, што створаны больш

чым на паўстагоддзя раней за слоўнік І. І. Насовіча, змяшчае ў сабе лексіку пісьмовых крыніц і толькі нязначна ахоплівае дыялектную лексіку. Наадварот, у слоўніку І. Насовіча зварот да нацыянальна-самабытнай лексікі, увасабленнем якой сталі дыялектызмы, цесна звязана з яе фальклорна-этнаграфічнай базай.

## Літаратура


1. Гуліцкі, М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.) / М. Ф. Гуліцкі. — Мінск : Выш. школа, 1978. — 120 с.
2. Киклевич, А. К. Польский язык : практический курс / А. К. Киклевич, А. А. Кожинова. — Минск : ТетраСистемс, 2001. — 320 с.
3. Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы / І. І. Насовіч. — Мінск : БелСЭ, 1983. — 792 с.
4. Плотникова, А. А. Словари и народная культура: очерки славянской лексикографии / А. А. Плотникова. — Москва : Изд-во Института славяноведения РАН, 2000. — 208 с.


---


**Наталля Снігірова** *(Мінск, Беларусь)*


# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ МОЎНЫЯ СУВЯЗІ: АРЭАЛЬНА-ТЫПАЛАГІЧНЫЯ ЗАЎВАГІ

Праблема беларуска-польскага моўнага ўзаемадзеяння застаецца адной з найбольш дыскутуемых у славянскім мовазнаўстве. У параўнанні з вывучэннем польскага ўздзеяння на беларускую мову, уплыў беларускай мовы на польскую даследаваўся менш і пераважна ў так званай перыферыйнай пальшчызне. Працы, арыентаваныя на вывучэнне «пальшчызны крэсовай», а таксама гаворак Беласточчыны з моцным ўсходнеславянскім (пераважна — субстратным) кампанентам, пакідалі па-за ўвагай даследчыкаў наяўнасць істотнай колькасці інавацыйных моўных з'яў на паўночным усходзе генетычна польскай тэрыторыі, за межамі кантактнага міжмоўнага рэгіёна Польшчы.

Дыялектныя асаблівасці, лакалізаваныя ў паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы К. Нічам, Ч. Кудзіноўскім, К. Дэйнам і іншымі вучонымі, складальнікамі лінгвагеаграфічных атласаў, могуць быць арэальна і тыпалагічна суаднесены з адпаведнікамі, характэрнымі для паўночна-заходніх беларускіх гаворках. Стымул для ўзнікнення або цэнтр ірадыяцыі некаторых значных, аддаленых ад кантактнай мяжы арэалаў інавацый, магчыма, знаходзіцца на Беларусі.

Прысутнасць такіх моўных фактаў па-за межамі вузкай паласы непасрэдна кантактуючых польскіх і беларускіх гаворак нярэдка правакуе дыскусіі, паколькі супярэчыць вядомаму палажэнню пра тое, што ў разглядаемай зоне па гістарычных прычынах не можа быць значных супольных арэалаў. Як вядома, да XIV ст. беларускія і польскія гаворкі сучаснай Гродзеншчыны і Беласточчыны раздзяляла тэрыторыя, населеная яцвягамі, а пасля доўгі час — т. зв. «пасляяцвяжская пустка». Паколькі засяленне апошняй ішло з двух бакоў, пэўная колькасць беларусаў магла пранікнуць далей на захад і змяшацца з мазурскімі каланістамі, перадаўшы ім элементы сваёй гаворкі. Перасяленцы, пакінутыя на Мазурах, маглі аказаць пэўны ўплыў на зараджэнне і пашырэнне інавацый, выкліканых уплывам беларускай мовы ў паўночна-ўсходняй Польшчы. Адпаведна, многія арэалы новых моўных з'яў павінны былі стаць адкрытымі на ўсход і суцэльнымі, паколькі межы дыялектаў і ўвогуле моўных тэрыторый маюць адноснае значэнне і не могуць служыць перашкодай для распаўсюджання інавацый, якое неабавязкова звязана з міграцыямі насельніцтва.

Згодна з меркаваннем Г. А. Цыхуна, пры этымалагізацыі міжмоўных сыходжанняў арэальны крытэрый з'яўляецца адным з вядучых і істотных. Цэнтры ірадыяцыі перыферыйных інавацый знаходзяцца пераважна ў кантактнай зоне, сведчаннем чаго з'яўляецца тыпалагічная сувязь паміж адпаведнымі з'явамі па абодва бакі моўнай мяжы [3, с. 24]. Дынамічны характар арэальнай структуры сведчыць пра тое, што яе фарміраванне павінна адбывацца пераважна за кошт *інавацыйных* працэсаў, якія паступова ахопліваюць усю ці большую частку пэўнай тэрыторыі, спрыяючы яе моўнай кансалідацыі [3, с. 9]. Зразумела, што беларуска-польскае моўнае пагранічча, зона кантактнага ўзаемадзеяння двух славянскіх арэальных масіваў, з гэтага пункту погляду ўяўляе асаблівую цікавасць. Варта падкрэсліць, што гаворка ідзе не пра інфільтрацыю пэўнай з'явы на суседнюю моўную тэрыторыю, а менавіта пра ўплыў беларускай мовы, які выклікае да жыцця саму інавацыю, якая можа значна, структурна і сэнсава, адрознівацца ад з'явы-стымулу.

Неабходна ўдакладніць, што, па-першае, пад тэрмінам **інавацыя** разумеецца новая з'ява ці заканамернасць змен у мове, якія не характэрны для яе ў мінулым і адрозніваюць яе ад першапачатковага або ранейшага стану (у супрацьпастаўленні да архаізма) (ТСБМ, т. 2, 542), [Ахманова, с. 178], [Сцяцко, с. 64]. У дадзеным выпадку інавацыю можна характарызаваць як пэўны дыягнастуючы факт. Па-другое, пры вызначэнні часавых меж паўночна-ўсходніх арэальных інавацый у польскай мове, з улікам вышэйзгаданага, трэба зыходзіць з таго, што да XIV ст. паміж палякамі і беларусамі пад уплывам шэрагу фактараў — прыродных, гістарычных і іншых — актыўных кантактаў не было.

Зразумела, што паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове як **асобныя** моўныя з’явы, зафіксаваныя на розных структурных узроўнях функцыянавання гаворак, маюць эўрыстычную вартасць. Мэтазгодна нагадаць, што каштоўнасць асобна вылучаных з агульнай масы з’яў бясспрэчна даведзена многімі навукоўцамі-славістамі. Так, у адпаведнасці з меркаваннем А. М. Трубачова, «кожнае слова ўяўляе індывідуальны ў пэўным сэнсе прадукт гісторыі развіцця і геаграфічнага размеркавання форм…» [2, с. 212]; на думку В. Дарашэўскага, «…кожная фактычная падрабязнасць у той момант, калі яе паспрабаваць прааналізаваць і інтэрпрэтаваць, перастае быць падрабязнасцю ізаляванай і знаходзіць сваё месца на фоне пэўнага адзінства» [6, s. 427]. Як адзначана А. і Я. Басарамі, такія факты часта могуць указваць на зародкі змен і тэндэнцыі развіцця ў гаворках [5, s. 47].

Да прыкладу, сярод характэрных наваўтварэнняў, лакалізаваных на паўночным усходзе Польшчы, у кантактнай (у шырокім разуменні) польска-беларускай міжмоўнай зоне, асобнае месца займае лексіка-семантычная арэальная інавацыя *wypustka* ‘падгадаваная кабыла, кабыла ад года’ (гл. карту-схему 1).

Паводле матэрыялаў атласа А. Кавальскай «Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia» [Kowalska, s. 78], астраўны несуцэльны арэал лексемы *wypustka* ‘падгадаваная кабыла, кабыла ад года’ мае гарызантальны характар пашырэння ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы. У беларускіх гаворках шырока распаўсюджана аднакарэнная польскаму найменню форма м. р. *выпустак*, зафіксаваная з разнастайнай семантыкай.

Як засведчана ў ЛАБНГ, на тэрыторыі Беларусі слова *выпустак* ужываецца са значэннем ‘пэўны перыяд жыцця хатніх жывёл на першым годзе ці пазней, іх стан’, але ў больш вузкім значэнні, да прыкладу ‘веснавое цяля’ (да восені), сустракаецца толькі спарадычна (ЛАБНГ, т. 1, с. 34). У значэнні ‘цяля-перазімак’ (ЛАБНГ, т. 1, с. 35) і ‘гадун’ (аднагадовае жарабя) (ЛАБНГ, т. 1, с. 42) назва адзначана ў паўднёва-заходніх гаворках (гл. карту-схему 2).



**Карта-схема 1.** *Wypustka* ‘падгадаваная кабыла, кабыла ад года’ — граніца максімальнага распаўсюджання ўсходнеславянскіх гаворак



**Карта-схема 2.** *Выпустак* ‘аднагадовае жарабя’

Два апошнія арэалы прымыкаюць да беларуска-ўкраінскай мяжы і ўтвараюць клін у напрамку да цэнтра краіны. У Баранавіцкім, Нясвіжскім, Уздзенскім і інш. паўднёвых раёнах Беларусі слова *выпустак* выкарыстоўваецца для абазначэння ‘мінулагодняга жарабяці’ (Жывёльны свет, с. 28–29), у Глускім, Нараўлянскім раёнах — увогуле ‘жывёліны мінулагодняга прыплоду’ (Жывёльны свет, с. 98). Назоўнік ж. р. *выпустоўка* ‘карова першага ацёлу’ зафіксаваны ў Дзяржынскім раёне (Жывёльны свет, с. 22). Фанетычныя варыянты *выпусток*, *выпустак*, *віпусток* са значэннем ‘цяля, жарабя ад года да двух гадоў’ маюць ужыванне ў Мазырскім раёне [4, с. 171]. Ізалекса *выпустак* ‘цяля-перазімак’ акрэслівае Палессе і Случчыну [1, с. 186]. У матэрыялах СПЗБ ужыванне слова *выпустак* і яго фанетычных разнавіднасцей праілюстравана наступнымі прыкладамі: «*Гадавалае цялё. Леташняе цяля — выпустак. Цяля, як перазімуе, — выпустак*» (Ганцавіцкі раён), «*Выпусткам пабегала*» (Свіслацкі раён), «*Была цёлка — выпастак, два гады*» (Ляхавіцкі раён), «*Выпусток по другой пашы, подгодуемо шчэ трохі*» (Пружанскі раён) (СПЗБ, т. 1, с. 365). Варыянт *выпусток* ‘аднагадовае цяля’ таксама адзначаецца ДСБ (ДСБ, с. 38). Аднак ніводная з працытаваных крыніц не выявіла значэння, якое дакладна адпавядала б семантыцы польскага новаўтварэння *wypustka* ‘падгадаваная кабыла, кабыла ад года’. Гэтая лексема адлюстроўвае пазнейшы ў жыцці жывёліны час і адзначана толькі ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы.

У беларускіх гаворках лексема *выпустак* называе і цяля, і жарабя як гэтага года, так і мінулага года. Хутчэй за ўсё, на назву гадавалага жарабяці такое абазначэнне перанесена па аналогіі. Аб’ядноўвае гэтыя два значэнні слова агульная адзнака — тое, што жывёліна выпускаецца з хлява, выпускаецца на пашу [1, с. 45–47]. Такім чынам, беларускія назвы як цялят, так і жарабят у залежнасці ад часу іх жыцця і нараджэння матывуюцца тым, што гэтыя жывёліны выпускаюцца з хлява, хутчэй за ўсё на *выган* (рэгіянальнае *выпуск*) ці іншае агароджанае месца для жывёлы [1, с. 43].

Беручы пад увагу тое, што на беларуска-польскім сумежжы назоўнік м. р. *выпустак* ахапіў больш значны арэал, чым назоўнік ж. р. *wypustka*, а таксама большую ў параўнанні з польскімі гаворкамі частотнасць выкарыстання ў

беларускіх гаворках граматычнага варыянта *выпустак*, можна дапускаць, што першаснай была форма м. р. і меркаваць пра магчымае ўздзеянне беларускай мовы на ўтварэнне рэгіянальнай інавацыі у паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі, як вынікае з вышэйпрыведзенага, назоўнік м. р. *выпустак* пашырыў сферу ўжывання на некалькі лексіка-семантычных груп дыялектных найменняў.

Аднак не выключана, што паходжанне лексіка-семантычнай інавацыі *wypustka* можа быць звязана з назоўнікамі м. р. *wypust*, вядомым у польскіх гаворках у асноўных значэннях 'выган', 'агульная паша', а таксама «прастора ў вёсцы, якая знаходзіцца паміж двума радамі хацін і ахоплівае акрамя дарогі пашу» [Karłowicz, т. 6, s. 221], і *wypusk* 'агароджаны выган недалёка ад дома' (ЭСБМ, т. 2, с. 277). У беларускіх гаворках лексема *выпуст* ужываецца для абазначэння 'месца пасеву, якое вытравіла, вытаптала жывёла', іншымі словамі выгану, украінскае *випуст* тлумачыцца як 'месца каля вёскі, куды выпускаюць жывёлу', чэшскае *wýpust* — як 'месца, аддаленае ад чалавечага жылля' (ЭСБМ, т. 2, с. 277). Роднаснае прыведзеным слова *выпуск* м. р. (абазначае дзеянне па дзеяслову *выпускаць*) распаўсюджана на тэрыторыі ўсходняй Магілёўшчыны і ў рускіх дыялектах са значэннем 'выган' (для жывёлы) (Бялькевіч, с. 122; БАСРЯ, т. 3, с. 524), 'выган, агароджанае месца для жывёлы'.

Вышэйназваныя лексемы *выпуст* і *выпуск*, відавочна, з'яўляюцца ўтварэннямі ад двух розных дзеясловаў: *выпусціць* (у значэнні 'на выган') і *вы´пустошыць* ад 'пустошыць' з усячэннем у дадзеным выпадку экспрэсіўнага суфікса (параўнайце таксама рускае, пскоўскае і смаленскае, *выпустовать* 'спустошыць, патравіць жывёлай') (ЭСБМ, т. 2, с. 277). Паколькі слова *выпустак* 'аднагадовае цяля, жарабя' ўтворана ад дзеяслова *выпусціць* пры дапамозе суфікса *-ak* (параўнайце азначэнне 'маладняк, які першы год выпускаецца разам са статкам на пашу') (ЭСБМ, т. 2, с. 277–278), найменне падгадаванай кабылы ва ўзросце ад года *wypustka* магло сфарміравацца паводле названай лексіка-семантычнай мадэлі. Гэта значыць, што слова *wypustka* павінна было ўзнікнуць марфалагічным спосабам ад дзеяслова *wypuścić* (*wypuszczać*) / *выпусціць* (*выпускаць*). Магчыма, пэўную ролю адыгрывае тут і чаргаванне каранёў *пасв- (паст-) // пуст-*, што можна заўважыць у дзеясловах *пасвіцца // пустошыць*. На думку А. Банькоўскага, польскі дзеяслоў *pustoszyć* 'рабіць пустым, разбураць, нішчыць' запазычаны з усходнеславянскіх моў [Bańkowski, s. 504]. Параўнайце яшчэ кашубскае *pustińa* 'поле неураджайнае, незасеянае', *puścić* 'дазволіць пайсці, адпусціць', праславянскае *pustiti* 'перастаць каго-небудзь, што-небудзь трымаць' [Bańkowski, s. 505]. У сваю чаргу А. Брукнер пацвярджае ўсходнеславянскі ўплыў на ўтварэнне дзеяслова *puskać* 'аналогія да *puścić*' і прыводзіць цікавы выраз *pustopas (albo samopas) chodzić* 'пасвіцца далёка ад статка' [Brückner, s. 448].

Найбольш праўдападобным падаецца, што нараджэнне лексемы *wypustka* было выклікана семантычным спалучэннем значэнняў '*выпускаць (на)*' і '*пустое месца*' (або месца, якое ў выніку гэтага стане такім): кабыла, якая ўжо падрасла, выпускаецца на выган, які, у сваю чаргу, уяўляе сабой пустое, нічым не занятае месца. Параўнайце: *пу́сташ* — 'пустка, незанятае месца', 'незасеянае поле', 'няўдобіца', 'абложная зямля', 'вытаптанае месца' і інш. (ЭСБМ, т. 10, с. 237). Цэнтр ірадыяцыі разгледжанай "несумежнай" інавацыі можа змяшчацца ў польска-беларускай кантактнай зоне, якая здольна фарміраваць інавацыйныя з'явы, што істотным чынам могуць адрозніваецца ад з'явы-стымулу. Відаць, ізасема *wypustka* пашырылася франтальным спосабам у паўночна-ўсходнія гаворкі Польшчы, а форма м. р. *выпустак* распаўсюдзілася перш за ўсё на паўднёва-заходнюю Беларусь.

Разгледжаны прыклад даў магчымасць паказаць, што нягледзячы на фармальна астраўны характар, арэал інавацыі *wypustka* ў паўночна-ўсходняй Польшчы суадносіцца з адпаведнымі моўнымі арэаламі Беларусі і з'яўляецца вынікам існавання міжславянскай польска-беларускай кантактнай зоны, спрыяльнай для генерыравання інавацыйных з'яў. Характар фарміравання новаўтварэння тлумачыцца яго лакалізацыяй у зоне кантактаў польскіх гаворак з беларускімі гаворкамі і сведчыць пра інтэнсіўнасць моўнага ўзаемадзеяння ў межах беларуска-польскай арэальнай супольнасці. Інтэнсіўнасць беларускага моўнага ўздзеяння падмацоўваецца тэрытарыяльна: арэальны ўплыў беларускай мовы адзначаецца на прасторы распаўсюджання польскіх гаворак, што выходзяць за межы вузкай паласы непасрэднага заходне-ўсходнеславянскага кантактавання. Асобна трэба падкрэсліць, што паўночна-ўсходняя арэальная інавацыя *wypustka* ў польскай мове, выкліканая уздзеяннем працэсаў, якія адбываліся больш інтэнсіўна і ахапілі большую ў параўнанні з Польшчай плошчу на беларускай тэрыторыі, дастаткова значна адрозніваецца ад з'явы-стымулу, але захоўвае сувязь з ім.

## Крыніцы


Ахманова = Ахманова О. С. Словарь лингвистических терминов. Москва, 1966.

БАСРЯ = Большой академический словарь русского языка. Москва, Санкт-Петербург, 2004 — … .

Бялькевіч = Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

ДСБ = Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мінск, 1989.

Жывёльны свет = Жывёльны свет: тэматычны слоўнік. Мінск, 1999.

ЛАБНГ = Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. Мінск, 1993–1998.

СПЗБ = Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. Мінск, 1979–1986.

Сцяцко = Сцяцко П. У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў. Мінск, 1990.

ТСБМ = Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т., 6 кн. Мінск, 1977–1984.

ЭСБМ = Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978 — … .

Bańkowski = Bańkowski A. Słownik etymologiczny języka polskiego: w 2 t. Warszawa, 2000.
Brűckner = Brűckner A. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957.
Karłowicz = Karłowicz J. Słownik gwar polskich: w 6 t. Kraków, 1900–1911.
Kowalska = Kowalska A. Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia: rzeczownik. T. I, cz. 1: Atlas: mapy 1 — 100. Wrocław [etc.], 1975.

## Літаратура

1. Лексічныя ландшафты Беларусі : жывёльны свет / І. Я. Яшкін [і інш.]; Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. — Мінск, 1995. — 255 с.
2. Трубачёв, О. Н. Лингвистическая география и этимологические исследования / О. Н. Трубачёв // Труды по этимологии: слово, история, культура : в 2 т. — Москва, 2004. — Т. 1. — С. 211–239.
3. Цыхун, Г. А. Арэальная тыпалогія славянскіх моў : прынцыпы і напрамкі даследавання / Г. А. Цыхун; Акад. навук БССР, Беларус. кам. славістаў. — Мінск, 1988. — 40 с.
4. Шур, В. В. Матэрыялы да слоўніка жывёлагадоўчай лексікі Мазыршчыны / В. В. Шур // З народнага слоўніка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд.: А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. — Мінск, 1975. — С. 167–183.
5. Basara, A. Nazwy sporadyczne w materiałach Ogólnosłowiańskiego atlasu językowego (OLA) / A. Basara, J. Basara // Pr. Wydz. I — Językoznawstwa, Nauki o Literaturze i Filozofii / Łódzkie T-wo Nauk. 2002. № 101: Dialektologia jako dziedzina językoznawstwa i przedmiot dydaktyki : księga jubileuszowa dedykowana prof. Karolowi Dejnie / pod red. S. Gali. — Łódź, 2002. — S. 41–47.
6. Doroszewski, W. Przedmiot i metody dialektologii / W. Doroszewski // Studia i szkice językoznawcze. — Warszawa, 1962. — S. 420–448.

**Генадзь Цыхун** *(Мінск, Беларусь)*

# ПАДЛЯШСКІЯ ЭТЫМАЛОГІІ
## *(ПРОКОВЭЦЬ. СТУЛА. ФЭРЦІК. МАЙСЫ. ПОШЕСТЬ. БРОНТАТІСЕ. ХАТКІ)*

У дакладзе на канферэнцыі, прысвечанай стагоддзю з дня нараджэння праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай, я звярнуў увагу на неабходнасць даследавання лексічнага багацця гаворак Беласточчыны, дзе ў сувязі з іх «падвойнай перыферыйнасцю» (як у адносінах да ўсходнеславянскага, так і заходнеславянскага кантынуума) павінны былі захавацца шматлікія архаізмы, а ў сувязі з наяўнай шырокай паласой змешаных гаворак – таксама з'явіцца цікавыя лексічныя інавацыі. Калі дадаць да гэтага і значны балтыйскі (яцвяжскі) субстрат, то зона Падляшша з чыста тэарэтычных меркаванняў уяўляе несумненную цікавасць для этымолага [4, с. 47].

Намі былі прапанаваны некаторыя этымалагічныя версіі для шэрагу падляшскіх слоў, частка якіх пасля была выкарыстана ў чарговых выданых ці падрыхтаваных да выдання тамах «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (*сіты*, *сіхібо*, *прастаполе* і інш.). Разам з тым, некаторыя выказаныя меркаванні адносна паходжання асобных слоў выклікаюць сумненні, ці, ва ўсякім выпадку, патрабуюць крытычнага разгляду ў святле новых выяўленых фактаў. Спынімся на некалькіх такіх словах і звернем увагу на гэтыя факты.

***Проко́вэць***: *кольцо-проковэць* адзначана Калестынам Брэнам у апісанні Бельскага павета (Брэн). Выказанае намі меркаванне пра сувязь з *каваць* знайшло адлюстраванне ў 9 т. «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», дзе названае слова разглядаецца як вытворнае ад **пракаваць*, што здаецца даволі верагодным. У сувязі з гэтым успамінаюцца дзіцячыя назіранні з часоў Другой сусветнай вайны, калі большыя хлопцы ў вёсцы рабілі дзяўчатам пярсцёнкі з манетак, у якіх папярэдне прабівалі адтуліну ў цэнтры, а пасля на жалезным шворні «выкоўвалі» з іх сапраўдныя пярсцёнкі. Такую «тэхналогію» вырабу пярсцёнкаў пацвярджае і ілюстрацыя з «Тураўскага слоўніка»: *зробі мне бручку* [= пярсцёнак] *з копеёк* (ТС, 1, 85). Аднак гэтая версія сустракаецца з пэўнымі фанетычнымі цяжкасцямі, калі ўлічыць іншыя зафіксаваныя на Брэстчыне формы слова – *прукі́вэць* (Нар. лекс., 83), *проку́вэц*: *проку́вэц йес'ц'з о́чком, йес'ц'і кру́глойе* (Лекс. Прыпяц. Палесся, 345). Яшчэ больш сумненняў выклікае форма *кроповец*, зафіксаваная ў 1928 г. на заходнім Палессі Ісакам Сербавым: «На руках носяць пярсцёнкі — "кропоўцы", абавязкова з якога-небудзь белага мэталю» [3, с. 48], а ў наш час фіксуецца В. Вярэнічам у в. Бастынь на Лунінеччыне: *kropу́vec* або *kalcó* (новае) 'пярсцёнак', *kropу́vec s pl'i͡ēškoju* 'пярсцёнак з каменьчыкам' (Вярэніч, 506), у

тым жа раёне ў в. Дварэц адзначаны паралельныя назвы *кропо́вэц, проко́вэц* ‘пярсцёнак’ (Яцукевіч, 70), слова вядомае таксама і ў варыянце з аканнем: *крапо́ва^е^ц* (Лекс. Прыпяц. Палесся, 337). Апошнюю можна разглядаць як форму, узніклую ў выніку метатэзы, параўн. тураўскае *проківа* з *кропіва*, польск. *pokrzywa* з ранейшага *koprzywa*, што ўзыходзяць да праслав. **kropiva* або **korpiva* [7, с. 458]. У такім выпадку больш верагодна за зыходную прымаць форму з пачатковым *к*-, аднак тады паходжанне слова застаецца няясным (ад *крапаць* < **korpati* ‘марудна, старанна рабіць’?).

***Сту́ла*** сустракаецца ў песнях, запісаных Федароўскім на Сакольшчыне: *A jak stànuć bieły rùczki stùłaju wiezàci* (Федароўскі, 5, 515). У «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» адсутнічае, бо, відаць, не фіксавалася на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пры звароце да польскага адпаведніка высвятляецца прычына апошняга: *stuła* ‘перавязь’, дэталь ксяндзоўскага ўбору, якая выкарыстоўвалася і ў шлюбных цырымоніях каталіцкага насельніцтва, характэрнага для Сакольшчыны, можа мець значэнне ‘хустка’ і паходзіць з лац. *stola* ‘доўгае адзенне рымскіх жанчын’, параўн. [8, с. 523]. Не выключана, што ў народнай мове ўспрымаецца як вытворнае ад *стулі́ць* ‘шчыльна злучыць, скласці’ (да *туліць*, гл.: [5, т. 12, с. 356]).

***Фэ́рцік***, *фэ́ртало* (*f'erc’ik*, *f'ertało*) як экспрэсіўныя назвы асобы зафіксаваў Міхал Саевіч у раёне Нараўкі і Белавежы: *f'erc’ik z'au̯še kr'uc’ic:e kruγ'om k’ir'ou̯n’ika, f'ertai̯e tym xvast'om i̯ak sab'aka* (Саевіч, 188). Дзеяслоў *fertać* ‘круціць, рухаць’ як зыходны для польск. *fertyczny* ‘бойкі, рухавы’ падае Аляксандр Брукнер [8, с. 118]; паводле Анджэя Банькоўскага [6, т. 1, с. 364] *fertać się* ‘вярцецца, кідацца, узлятаць (пра птушку)’ хутчэй за ўсё звязана з *(ko-)pertać (się)* і не звязана з *fircyk* ‘франт’, параўн. у Насовіча *фе́рцык* (*ферцикъ*) ‘тс’. Францішак Слаўскі [9, т. 1, с. 226] лічыць вытворным ад гукапераймання *fert!* для перадачы хуткага руху. Цікава, што ў названай гаворцы зафіксаваны назоўнік *вэ́рцік* (*v'erc’ik*) ад *varc’'ėc:e* ‘круціцца, камбінаваць, хітрыць’ (Саевіч, 187), што магло б ўспрымацца як народна-этымалагічная адаптацыя запазычанага слова.

***Ма́йсы*** ў значэнні ‘пустыя размовы, разважанні’ часта сустракаецца ў творах пісьменнікаў з Беласточчыны, асабліва ў Сакрата Яновіча. Параўн.: *Жанчына глянула – на момант толькі спыняючы майсы з сяброўкай* (Ю. Хмялеўскі. Два дні ў іншым свеце // Czasopis, 2002, Nr. 11, s. 14). На тэрыторыі сучаснай Беларусі яно не фіксуецца. Гэта сведчыць аб шырокім пранікненні ў гаворку Падляшша запазычанняў з мовы ідыш, параўн. *majse* ‘казка, аповяд, прыгода; складанае, заблытанае апавяданне’ [1, с. 507].

***По́шест’*** тлумачыцца ў «Слоўніку бельска-падляшскай гаворкі» словам ‘bród’ (Врублеўскі, 182), г. зн. ‘брод’ (калі гэта не памылковае напісанне слова *brud* ‘нечыстота’). У такім значэнні слова невядомае іншым гаворкам і іншым славянскім мовам, узыходзіць да праслав. **pošьstь* і дэманструе

захаванне першаснай семантыкі, звязанай з **šed*- ‘хадзіць’ [5, т. 9, с. 316]. На фоне пераважаючага значэння ‘эпідэмія, насланнё, здань’ падляшскае слова выглядае глыбокім архаізмам, што захаваўся ў зоне беларуска-польскіх кантактаў (параўн. польск. *poszedł* ‘пайшоў’ і пад.).

***Бро́нтатіс’е*** ‘цягнуцца, валачыцца’ (Врублеўскі, 25), *br'ontac:e* ‘хадзіць без мэты, блытацца’: *br'ontai̯ec:ce an'o c'ełym'i dn''am'i* (Саевіч, 234). Несумненна, экспрэсіўнае ўтварэнне, параўн. гродз. *бро́ндацца* ‘хадзіць без справы, гультаяваць’ (Сцяшковіч, 63), *брэ́ндацца* ‘хадзіць, сланяцца без патрэбы’ (Цыхун, 23) з характэрнай для такіх утварэнняў фанетычнай варыянтнасцю, што дазваляе суаднесці іх з *бры́ндацца*, *бры́ндаць* ‘хадзіць, валачыцца, цягацца’ з неарганічнай («эмацыйнай») назальнасцю ў зыходным *брысці́, брыду́* (параўн.: [2, т. 1, с. 252]). Аднак для падляшскага слова можна дапусціць кантамінацыю з формамі тыпу *блёнтацца* ‘блытацца каля рук, перашкаджаць’ (Сцяшковіч, 59), параўн. польск. *plątać się* ‘блытацца’, суадноснымі з *блы́таць*, *плу́таць* (параўн.: [7, с. 439; 5, т. 9, с. 196, 217]).

***Хаткі*** ‘квашаніна, студзень’ (Казбярук, 264), *худкі́* ‘galareta (nóżki)’ (Врублеўскі, 246): *пуд вэсіелэ наварылі худок* (Сл. ПЗБ, 5, 329), параўн. камянец. *худкі́* ‘халадзец’ (Сл. Брэс., 246; Лекс. Прыпяц. Палесся, к. 93). Варыянтнасць у вакалізме ўскладняе вывядзенне зыходнай праформы. З ілюстрацыі ўжывання слова ў в. Курашэва Чыжоўскай гміны, прыведзенай у Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча, можна зрабіць выснову, што слоўнікавая форма ўяўляе множны лік ад мяркуемага назоўніка **худка*, у такім выпадку першая з прыведзеных формаў можа быць народна-этымалагічным збліжэннем з *хата*, *хатка*. Аднак яна можа сведчыць у акаючых гаворках з аглушэннем зычных пра зыходную форму з *о* – **ходка*, якая на поўдні Падляшша можа гучаць як **худка*. У такім выпадку варта дапусціць сувязь з коранем *ход*-, параўн. фразеалагізм *хо́дарам хадзі́ць* ‘моцна трэсціся, калаціцца’ (Калюга, 557), што адпавядае матывацыі іншых назваў квашаніны: *дры́жка*, *дрыгу́ха*, *дрыгва́* і пад. (Лекс. Прыпяц. Палесся, 295, к. 93). Параўн. магчыма аманімічнае зыходнаму слову *ху́тка* ‘разведка (пчаліная), поіск’ (Сл. Брэс., 247), відаць, з **ходка* з аглушэннем, параўн. *ходы́ты* ‘актыўна рухацца перад раеннем’ (там жа, 245). Ці існуе непасрэдная сувязь з эўфемістычнай назвай свінні *хода*, прадстаўленай ў шырока вядомай загадцы: *Хода ходзіць, а віса вісіць, хода вісу хоча з’есці* (в.-дзвін., Сл. ПЗБ, 5, 316), застаецца няясным (праз мяркуемае **ходкі* ‘ножкі (свіныя)’, параўн. у мове польскіх паляўнічых *chody* ‘ногі ў сабакі’).

# Крыніцы


Брэн = Мѣстное Этнографическое описаніе Бѣльского Уѣзда <…> составленное <…> Келестиномъ Ивановым Бренномъ <…>. Архив Русского географического общества, Санкт-Петербург.

Врублеўскі = Wróblewski, Mikołaj. Słownik gwary bielsko-podlaszskiej. Bielsk Podlaski, 2008.

Вярэніч = Вярэніч, В. Л. Палескі архіў. Мінск, 2009.

Казбярук = Казбярук, У. М. Некаторыя дыялектныя асаблівасці гаворкі вёскі Бандары Беластоцкага ваяводства (Польшча) // Жывое наша слова. Дыялекталагічны зборнік да 90-годдзя Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск, 2001. С. 257–264.

Калюга = Гаўрош, Н., Трыпуціна, Т. Слоўнік Калюгавай мовы // Лукаш Калюга. Творы. Мінск, 1992. С. 528–559.

Лекс. Прыпяц. Палесся = Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. Мінск, 2008.

Нар. лекс. = Народная лексіка. Мінск, 1977.

Саевіч = Sajewicz, M. Derywacja sufiksalna osobowych nazw subiektów w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny. Deverbativa. Deadiectiva. Lublin, 2002.

Сл. Брэс. = Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мінск, 1989.

Сл. ПЗБ = Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Мінск, 1986. Т. 5.

Сцяшковіч = Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мінск, 1983.

ТС = Тураўскі слоўнік. Мінск, 1982. Т. 1.

Федароўскі = Federowski, M. Lud Białoruski. Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905. Warszawa, 1958. T. 5.

Цыхун = Цыхун, Г. А. Скарбы народнай мовы. Гродна, 1993.

Яцукевіч, = Яцукевіч, Л. В. З лексікі гаворкі вёскі Дварэц Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні. Мінск, 2010. Вып. 1. С. 69–71.


# Літаратура


1. Астравух, А. Ідыш-беларускі слоўнік / А. Астравух. — Мінск : Медисонт, 2008.
2. Етимологічний словник української мови / ред. О. С. Мельничук. — Київ : Наукова думка, 1982. — Т. 1.
3. Сербаў, І. А. Вічынскія паляне / І. А. Сербаў. — Мінск, 2005.
4. Цыхун, Г. Лексіка Беласточчыны ў арэальна-этымалагічным асвятленні / Г. Цыхун // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami. Studia poświęcone Antoninie Obrębskiej-Jabłońskiej w stulecie urodzin. / red. E. Smułkowa, A. Engelking. — Warszawa, 2001. — S. 47–53.
5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / рэд. Г. А. Цыхун. — Мінск : Беларус. навука, 2004. — Т. 9; 2008. — Т. 12.
6. Bańkowski, A. Słownik etymologiczny języka polskiego / A. Bańkowski. — Warszawa : PWN, 2000. — T. 1.

7. Boryś, W. Słownik etymologiczny języka polskiego / W. Boryś. — Warszawa : Wydawnictwo Literackie, 2005.
8. Brückner, A. Słownik etymologiczny języka polskiego / A. Brückner. — Warszawa : Wiedza Powszechna, 1957.
9. Sławski, F. Słownik etymologiczny języka polskiego / F. Sławski. — Kraków, 1952–1956. — T. 1.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Маргарыта Грудзінава** *(Мінск, Беларусь)*

## ДУХОЎНЫ СВЕТ ШЛЯХЕЦКАГА ДВАРА ВА ЎСПАМІНАХ «КРАЙ ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ» ЯНА БУЛГАКА

Фатаграфічная спадчына Яна Булгака без перабольшвання вядомая ва ўсім свеце і выклікае цікавасць не толькі ў мастацтвазнаўцаў, прафесіяналаў, але і ў звычайных аматараў фатаграфіі. Іншая справа з літаратурным набыткам нашага славутага земляка: на жаль, яшчэ не ўсе яго творы знайшлі свайго чытача і свайго даследчыка. Усё гэта наперадзе, бо інтарэс да асобы і творчасці Яна Булгака ёсць. Зроблены і першыя крокі ў гэтым кірунку. Так, у 2004 г. свет пабачыла кніга ўспамінаў «Край дзіцячых гадоў», якая прапануе здзейсніць падарожжа ў свет забытай прыгажосці, што здолеў змясціцца ў межах шляхецкага двара.

Вобраз *двара* — знакавы ў дачыненні да беларускай культуры, бо, па сутнасці, двор уяўляе сабой мікракосмас, у якім існуе чалавек. Сацыяльна і гістарычна ў нашай літаратуры склаліся дзве праграмы жыцця: сялянская сядзіба са сваімі традыцыямі (узор — паэма «Новая зямля» Якуба Коласа) і шляхецкі двор, якому апошнім часам адмаўляюць у значнасці, што не з'яўляецца аб'ектыўным.

Звычайна шляхецкі засценак быў асяродкам захавання традыцый, сферай, у якой развівалася культура і з малых гадоў закладвалася пачуццё патрыятызму, выхоўвалася годнасць. Жыццё шляхецкага двара стала асацыіруецца са свабодай асобы, бо ў сваіх уладаннях нават бедны шляхціц быў каралём, які сам распараджаўся сваім жыццём, сам дыктаваў правілы і законы, па якіх жыў двор. «Шляхціц на загродзе, — гаварыла прыказка, — роўны ваяводзе» [3, с. 160].

Ян Булгак у сваіх успамінах «Край дзіцячых гадоў» указвае на гэтую характэрную рысу, падрабязна апісваючы ўклад і ўласнага маёнтка Асташына, і суседніх засценкаў. Кожны двор — гэта асобны свет, у якім пануе свой парадак, пабудаваны па пэўных прынцыпах. Але, нягледзячы на індывідуальнасць, вобраз шляхецкага двара можна лічыць топасам, пацверджаннем чаму служаць шматлікія помнікі мемуарнай літаратуры, якія былі створаны пераважна

ў шляхецкім асяроддзі і якія падаюць разгорнутыя апісанні быту і духоўнага жыцця шляхецкіх сядзіб.

Узорам апісання і паэтызацыі шляхецкага ладу, своеасаблівым канонам з'яўляецца шэдэўр «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча. «Край дзіцячых гадоў» — непасрэднае наследаванне традыцыям Адама Міцкевіча: Ян Булгак ідзе па схеме, якую ў сваім творы падаў слынны паэт, стварыўшы канцэпцыю нацыянальнага быцця, асноўны змест якой сканцэнтраваны і выяўлены ў адным вобразе, у вобразе шляхецкага двара. Сама назва ўспамінаў — апеляцыя да тэксту паэмы, пэўны код, які яшчэ да прачытання «Краю дзіцячых гадоў», дае ўяўленне пра асноўную ідэю і пафас твора. Нават настрой, галоўная эмоцыя заключаны ў адной толькі назве.

Вобразам-топасам двор з'яўляецца і ў творах Зоф'і Манькоўскай (Адама М-скага). Паэтызацыя двара — дамінанта санетных нізак «Засценак Зосін», «Новы двор», «Стары двор». «Гэта вызначальны топас, праз які выяўляюцца яе патрыятычныя пачуцці. (…) І цяпер яшчэ здрабнелая шляхецкая сядзібка здольная даць штуршок для натхнення, стаць пляцоўкай для будучага адраджэння» [1, с. 132 — 133].

Двор — складаны комплекс, арганізаваны са шматлікіх элементаў, якія нясуць пэўны сэнс, значэнне і сімволіку. Ян Булгак малюе вельмі яскравы, дэталёвы вобраз шляхецкага двара, выбудоўвае пэўную структуру, кіруючыся асноўным прынцыпам сваёй творчасці, — еднасць слова і візуальнага вобраза, іх арганічнае спалучэнне. Таму апісанне двара — гэта і зварот да знешняй прыгажосці, і даследаванне духоўнай сферы жыцця. Апісанне формы і зместу. Формай у такім выпадку з'яўляецца ўсё тое, што бачыць вока, змест жа заключаецца ў апісанні бытавога і духоўнага жыцця, у сукупнасці тых эмоцый, якія напоўнілі форму. Відавочна, што форма не існуе без зместу, а змест цяжка перадаць без формы.

Звернемся да асноўных фармальна-змястоўных складнікаў паняцця двор.

Стрыжнем двара з'яўляецца, безумоўна, дом. Сама структура ўспамінаў «падказвае» нам гэта: амаль кожны раздзел твора ўжо ў назве мае альбо слова «дом», альбо ўтрымлівае адпаведную каранёвую марфему, увесь час вяртаючы чытача да гэтага цэнтру («Наш дом», «Навокал дома», «Дамашняе жыццё», «Благаславенне дому»). Вобраз дома — ключавы ва ўсёй творчай спадчыне Яна Булгака. Да гэтай тэмы пісьменнік звярнуўся яшчэ ў 1919 г. у паэме «Мая зямля» («Moja ziemia»), а ў 1937 г. была надрукавана аўтабіяграфічная аповесць з гаворачай назвай «ДОМ». Аўтар падкрэслівае сімвалічнасць, важнасць гэтага вобраза, графічна вылучаючы адпаведнае слова. Паняцце *дом* (як і паняцце *двор*) — складанае, бо датычыцца не толькі сферы архітэктуры, але і сферы жыцця ва ўсіх яго праявах: бытавых, псіхалагічных, міфалагічных, агульначалавечых і нават экалагічных. Кожнае аблічча дома так ці інакш прадстаўлена ў творы Яна Булгака.

У міфалагічным плане дом — сімвал упарадкаванага свету, замкнёнасці і бяспекі, найважнейшы сімвал зямнога існавання, мадэль Сусвету, а таксама дублёр Сусветнага дрэва, якое знаходзіцца ў цэнтры райскага саду. Такая міфалагічная традыцыя цалкам упісваецца ў твор Яна Булгака: двор — той жа рай, дом — Сусветнае дрэва, выток духоўнай энергіі, вакол якога і гарманізуецца свет, супрацьстаіць хаосу.

Для Яна Булгака дом сакральны, як і храм, што ў сваю чаргу злучае зямлю і неба. Такі ж падзел мае дом: дах — нябеснае, духоўнае (менавіта з «гарышча» аўтар упершыню ўбачыў панараму Навагрудскага краявіду і палюбіў яго прыгажосць на ўсё жыццё, адчуваючы ў гэтым праявы Боскага); сярэдзіна, пакоі — зямное жыццё (асноўнае дзеянне твора праходзіць у пакоях); падлога, падвал — падземная сфера. Яшчэ адна рэч, што надае дому сакральнасць, — прысутнасць у ім веры, прысутнасць Бога. Першыя дзіцячыя ўспаміны аўтара звязаны з цудам малітвы, той атмасферай, якую стваралі яе чароўныя словы.

Наступнымі складнікамі двара з’яўляюцца шматлікія пабудовы і прадметы, якія маюць сваю гісторыю і нават характары: свіран, вазоўня, стайня, гумно, пякарня, сталярня, лямус, адрына, студня, стайня, хлеў, садовая тэраса, клумбы і кветнікі, дрэвы. Асобае месца займае сад. Вобраз саду — міфалагема страчанага раю, сімвал душы, «вобраз ідэальнага свету, касмічнага парадку і гармоніі, Божага благаслаўлення» [5, с. 379]. Менавіта таму ва ўспамінах так шмат яскравых і лірычных апісанняў саду.

І форма, і змест складаюць *двор*. Паняцце двара — рамка, у якую, як фотаздымак, Ян Булгак змяшчае свой «край дзіцячых гадоў», стварае непаўторную атмасферу «сельска-анёльскага» жыцця і разам з тым дае праекцыю вялікай Радзімы.

Форма для аўтара, безумоўна, вельмі важны аспект, крыніца ўражанняў, але галоўная ўвага скіравана ўсё ж на змест, г. зн. ідэі, атмасферу часу, лад жыцця і традыцыі.

Ян Булгак — традыцыяналіст і ў бытавым, і ў духоўным плане, што сапраўды выяўляецца ў творах пісьменніка, і заключаецца ў першую чаргу ў адданасці ідэям Адама Міцкевіча, які ў сваёй творчасці звярнуўся да феномена сарматызму, стварыўшы непаўторныя вобразы герояў-змагароў, і спрычыніўся да фарміравання ідэі месіянства *польскага = літоўскага = беларускага* народа. Воін-змагар быў запатрабаваны ў часы Міцкевіча (і такія героі былі, доказам таму — паўстанні), такім жа запатрабаваным быў «міцкевічаўскі» герой і ў 1919 г., калі Булгак выдаў паэму «Мая зямля», і ў 40-я гады XX ст. у перыяд працы над успамінамі, калі ўжо час сарматызму і эпоха Міцкевіча сталі набыткам гісторыі ў лепшым выпадку, у горшым — гэтыя супярэчлівыя ідэі, якія заслугоўваюць і ўхвалення, і крытыкі адначасова, сталі трактавацца толькі ў адмоўным ключы (акцэнтавалася ўвага на фанатызме, напышлівасці, несумяшчальнасці ідэй хрысціянства з тэндэнцыямі арыенталізму).

Рэха ідэй сарматызму гучыць даволі моцна ў творах Яна Булгака (і ў паэме, і ва ўспамінах), але гэта не прамое наследаванне, а ўспрыманне іх праз прызму эпохі рамантызму, якая ў пэўнай ступені адрадзіла ключавыя паняцці гэтага комплексу, бо ўжо ў XVIII ст. гэтая ідэалогія перажывала крызіс, а «эпоха Асветніцтва даказала беспадстаўнасць сармацкага міфа» [4, с. 552–553].

Галоўныя выразнікі адпаведных ідэй — шляхта, таму сімптаматычна, што Ян Булгак звярнуўся да апісання бытавога і духоўнага жыцця менавіта гэтага саслоўя, хоць і сялянскія вобразы прысутнічаюць у творы, але яны больш нагадваюць цені, якія дамалёўваюць шляхецкі ўклад. Таму «дэмакратызм» Яна Булгака відавочна абмежаваны: пісьменнік дакладна раздзяляе ў іерархічных адносінах, дзе чэлядзь, прыслуга, працаўнікі двара, а дзе шляхціц, хаця, канечне, прыніжэння годнасці селяніна няма. Аб'ектыўна жыццё тагачаснага шляхціца ў пераважнай большасці мала чым адрознівалася ад сялянскага, пра што піша сам аўтар, але прынцыповым з'яўляецца менавіта тып мыслення — *шляхецкі тып*, а таму найлепшай характарыстыкай асобы з'яўляецца шляхетнасць.

Шляхетнасць для Булгака не проста словы, не проста згадка пра тое, што мінула, гэта — знак якасці, знак адметнасці, якую, нягледзячы на 40-я гады XX ст., калі такія погляды ўжо лічыліся атавізмам, ён імкнецца падкрэсліць. Булгак не хавае, што ён шляхціц. Больш за тое, ён даводзіць, што шляхціц патомны. Непасрэднае сведчанне гэтаму — раздзел «Месца майго нараджэння. Яго тапаграфія. Генеалогія роду», у якой аўтар распавядае не толькі пра родныя мясціны, падкрэсліваючы сувязь з радзімай Міцкевіча, але і выводзіць дзве лініі паходжання роду Булгакаў: літоўска-маскоўскую і татарска-польскую, звяртаючыся да асноўных сармацкіх катэгорый *роду* і *генеалогіі*.

Другім моцным «доказам» радавітасці Булгакаў і самога аўтара з'яўляецца зварот да гісторыі гербаў сям'і.

У «Краі дзіцячых гадоў» Ян Булгак згадвае два родавыя гербы: герб па бацьку — «Сыракомля», які, згодна з традыцыяй апісвае першым і падрабязна, і герб па маці — «Рох» (фактычна толькі згадвае яго, бо быў спадкаемцам герба бацькі).

Традыцыяналізм Яна Булгака праяўляецца і ў тым, што ён адчувае сваю роўнасць з асобамі, якія ўвайшлі ў гісторыю, ён не эксплуатуе імёны Багдана Хмяльніцкага ці Уладзіслава Сыракомлі (якія таксама карысталіся гербам «Сыракомля»). Тут непасрэдна выяўлены і прынцып «паны-браты», і тая самая годнасць і шляхетнасць, якая не пераходзіць у пыху.

Успаміны — гімн шляхецкаму саслоўю, якое захавала найлепшыя традыцыі мінулага, такія як хрысціянская вера, культ продкаў, годнасць, ветлівасць, дабрата, спагада, мілы таварыскі характар, талерантнасць, гасціннасць, людскасць і годная сціпласць, патрыярхальнасць і патрыятычнасць. Гэта ключавыя характарыстыкі, якімі аўтар адорвае прадстаўнікоў

тагачаснай шляхты. Усё жыццё іх асвечана любоўю да сям'і, зямлі, Радзімы, традыцый.

Самымі паэтычнымі, экспрэсіўнымі эпізодамі з'яўляюцца апісанні святкаванняў Калядаў і Вялікадня, прыёмы гасцей. Пісьменнік не шкадуе фарбаў, апісваючы гэтыя моманты, нярэдка гучыць іронія, але яна не становіцца тут разбуральнай. Прыкладна так іранізуюць з сябе падчас сяброўскай гутаркі. Узорам такой «сяброўскай іроніі» з'яўляецца, безумоўна, апісанне рытуалу піцця гарбаты. «На прыезджага кідаліся, як на ахвяру, як на паддоследнага труса, каб на ім выпрабаваць вартасць дамашніх прысмакаў і задаволіць патрэбу шчодрага сардэчнага частавання» [2, с. 91].

Для аўтара шляхецкі свет — духоўнае апірышча, але ён, як і яго славуты папярэднік, Адам Міцкевіч, спрабуе быць аб'ектыўным: жыццё шляхецкага двара для яго найлепшае, але не ідэальнае, а супярэчлівае і ў многім складанае. Так, напрыклад, не можа аўтар дараваць суайчыннікам страту Радзімы, хоць яшчэ мае надзею на адраджэнне; не можа зразумець захаплення чужым; не хоча мірыцца з грамадзянскім нігілізмам, хаця і ведае, спрабуе растлумачыць сабе прычыны, якія выклікалі такі «летаргічны сон». Прычына — у паражэннях паўстанняў, апошняе з якіх (1863 г.), успрымаецца ўвогуле як нацыянальная катастрофа, «dni żałoby narodowej». «Трэба працаваць і сядзець ціха…» [2, с. 290] — такім прынцыпам стала кіравацца шляхта ў сваім жыцці.

Матыў дэградацыі народа адчувальны ва ўспамінах «Край дзіцячых гадоў», бо ад слаўных рыцарскіх традыцый засталіся толькі марныя словы. І гэта трагедыя для традыцыяналіста, патрыёта Яна Булгака. Пры такіх апісаннях ужо няма месца іроніі, тут гучыць асуджэнне.

Такі настрой пануе і ў паэме «Мая зямля», яскрава гаворачы пра тое, што гэта праблема хвалявала аўтара ўсё жыццё:

Miałeś, panie, biały dwór,
miałeś dębów nad nim strop,
miałeś zbożem złote brogi,
miecz, pohańskich pełen szczerb
i szlachecki herb.
Dęby ci wyrąbał chłop,
zbożne łany zabrał żyd,
miecz i herb ci wzięły wrogi,
ostał ci się jedno wstyd
i dziadowski wór. [6, s. 158].

Дамінуючы настрой — настрой тугі, трагічнасці, выкліканы стратай таго свету, да якога нельга вярнуцца, але можна пакінуць памяць нашчадкам, якія будуць шукаць у ім карані. Сімвалічна, што ўспаміны «Край дзіцячых гадоў» пабачылі свет толькі праз шэсцьдзесят год пасля свайго напісання,

9. Orgelbrand, S. Encyklopedyja powszechna / S. Orgelbrand. — T 6 (Cul.-Den.). — Warszawa, 1861. — 419 s.
10. Podręczny słownik pisarzy polskich / K. Jakowska. — Warszawa, 2006. — 669 s.
11. Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX wieku. Mścisław Olechnowicz. — Łódź, 1986. — 250 s.
12. Słownik pisarzy polskich / E. Buszewicz [et al.]; pod red. A. Latuska. — Kraków, 2003. — 720 s.
13. Świrko, S. Z Mickiewiczem pod rękę czyli Życie i twórczość Jana Czeczota / S. Świrko. — Warszawa, 1989. — 325 s.
14. W. R. Katalog ogólny książek polskich drukowanych od roku 1830 do 1850, czyli za lat dwadzieścia jeden : Z oznaczeniem formatu, miejsca i roku wijścia, nakładcy, ceny pierwotnej, oraz z dodaniem podziału naukowego książek niniejszym spisem objętych. — Lipsk : F. A. Brockhaus, 1852. — 324 s.

**Юлія Мацук** *(Мінск, Беларусь)*

## БЕЛАРУСКАЯ І ПОЛЬСКАЯ САТЫРА МІЖВАЕННАГА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ: СПРОБА ПАРАЎНАННЯ

Даследаванне беларуска-польскіх літаратурных сувязяў даўно пацвердзіла свае перспектывы і з кожным годам прасоўваецца наперад. Варта, аднак, зазначыць, што большасць прац мае дачыненне да ўзаемадзеяння гэтых літаратур ў XV — пачатку XX ст. Не вельмі вялікай папулярнасцю карыстаецца параўнанне літаратур польскай і беларускай савецкай. Адным з найменш даследаваных літаратуразнаўцамі з’яўляецца так званы перыяд «міжваеннага дваццацігоддзя» (у польскай літаратуры), а між тым, нягледзячы на розны сацыяльна-палітычны, эканамічны і культурны кантэкст, кропак перасячэння паміж польскай і беларускай літаратурамі гэтага часу дастаткова. Магчыма, гэта звязана з тым, што да 1990-х гг. даследаванне ўласнабеларускай сатыры гэтага перыяду было праблематычным для навукоўцаў, паколькі многія творы замоўчваліся, іншыя падаваліся ў пазнейшых, «прычасаных» аўтарам рэдакцыях. Тым больш складана было казаць пра пэўныя паралелі паміж імі і творамі польскіх сатырыкаў таго часу. І калі ва ўласнабеларускай літаратуры 20–30-х гг. XX ст. з кожным годам «белых» плям становіцца менш, то пра ўзаемадзеянне яе з літаратурамі не-СССР-аўскага блоку гаворыцца вельмі мала. А між тым, не трэба забывацца, што культурны ўзаемаўплыў паміж беларусамі і палякамі (хай сабе і з дамінаваннем апошніх) быў даволі шчыльным ажно да рэвалюцыі 1917 г. Таму мэтай дадзенага

даследавання з'яўляецца не толькі спроба параўнання сатырычных плыняў у польскай і беларускай літаратурах акрэсленага перыяду, але і прыцягненне ўвагі да праблематыкі больш шырокага кола даследчыкаў.

І для польскай, і для беларускай сатыры міжваеннага перыяду характэрным быў зварот на пачатку развіцця да вершаваных і драматызаваных форм з паступовым угрунтаваннем празаічных жанраў. Варта зазначыць, што польская сатыра 1920-х гг. значна менш згубіла сувязей з сатырай старапольскай, сведчаннем чаго з'яўляецца адраджэнне такога адметнага жанру ў польскай літаратуры, як фрашка (асаблівых поспехаў тут дасягнуў Ю. Тувім) [4]. Лаканічная форма жанру ў спалучэнні з вастрынёй тону садзейнічала яго папулярнасці сярод насельніцтва, якое, як і ў Беларусі, складалі пераважна сяляне і жыхары мястэчак. Арыентаванне на чытача з народа абумовіла і мінімалізацыю дыстанцыі паміж гэтым чытачом і аўтарам. Так, той жа Ю. Тувім робіць частым героем сваіх вершаў, у тым ліку і сатырычных, назіральнага жыхара горада з дэмакратычнага асяроддзя са сваім спецыфічным маўленнем [6].

Што тычыцца беларускай літаратуры, то ў ёй адсутнічалі трывалыя традыцыі і адметныя сатырычныя літаратурныя жанры. У цэлым жа сітуацыя была падобная да польскай: пераважную большасць насельніцтва складалі прадстаўнікі сялянства і працоўныя. Адпаведна, на іх узровень і імкнуцца працаваць сатырыкі. Так, К. Крапіва ўводзіць у «высокую» літаратуру папулярны ў народзе жанр байкі, а ў прозе назіраецца часты зварот пісьменнікаў да сказавых форм (практычна кожны з беларускіх пісьменнікаў, які звяртаўся ў творчасці да сатырычнага апавядання, скарыстаўся гэтай формай: Я. Колас [1], К. Крапіва [2], Л. Калюга, А. Мрый [3]). Увогуле варта адзначыць той факт, што беларуская сатырычная «малая» проза 1920-х гг. за кароткі прамежак часу здолела ўзняцца на вышыню, а па жанравай разнастайнасці (традыцыйнае апавяданне, апавяданне-фельетон, апавяданне ў сказавай форме і г. д.) яна пераўзыходзіць польскую празаічную сатыру таго перыяду.

Найбольш жа цікавым пры разглядзе сатырычных плыняў у польскай і беларускай літаратурах «міжваеннага дваццацігоддзя» выглядае наступны парадокс, абумоўлены тым, што з 1917 г. у значнай ступені свет пачынае развіцца пад уплывам камуністычных ідэй. Прычым у капіталістычных краінах сатыра ў пэўнай ступені атрымліваецца прасавецкай (нягледзячы на тое, што аўтар ніколі не пазіцыянаваў сябе як прыхільнік гэтага ладу), а вось адмаўленчы пафас літаратур тых краін, што ўваходзілі ў СССР, часта аказваецца скіраваным у бок «перадавых» ідэй. Тлумачыць гэта можна тым, што сатыра заўсёды мае на мэце выкрыццё недахопаў грамадства, і калі будова буржуазнага свету ўспрымалася як недасканалая ўжо не адным пакаленнем, то камунізм з аддаленасці падаваўся даволі прыцягальнай аль-

тэрнатывай. Тыя ж, хто жыў у дзяржаве, дзе праводзіўся эксперымент па пабудове камунізму, цвярозым вокам назіралі за рэальным ператварэннем у жыццё ідэй Кастрычніцкай рэвалюцыі і хутка ўпэўніваліся ў іх хімерычнасці і ўтапічнасці. Вышэй ужо заўважалася, што беларуская сатырычная «малая» проза развівалася больш плённа, чым польская. Адна з прычын тут бачыцца не столькі ў літаратурных традыцыях, колькі ў тым, што проза абумоўлівае куды большую ступень аналітычнасці ў адрозненне ад паэзіі, скіраванай пераважна да эмоцый чытача. Перад беларускімі сатырыкамі стаяла не проста задача выкрыцця заганаў новага ладу, але і імкненне да таго, каб чытач глыбока задумаўся над тым, што адбываецца ў краіне. У той жа час, польскія аўтары крытыкавалі грамадства з большым узрушэннем, але меншым аналізам прычын яго сапсаванасці.

Так, найбольш папулярныя і значныя польскія сатырыкі 1920–30-х гг. (Ю. Тувім, К. Галчынскі, С. Лец) асноўную прычыну ў хуткім занядбанні грамадствам новастворанай польскай дзяржавай дэмакратычных ідэй і ўсталяванні рэакцыйнага рэжыму Ю. Пілсудскага бачылі ў панаванні мяшчанскага светапогляду, падмуркам якога былі дробнабуржуазныя каштоўнасці. На асноўных носьбітаў і праваднікоў гэтага светапогляду, а канкрэтна — дзяржслужачых і ўласнікаў, і былі скіраваныя іх творы. Паказальнай тут з'яўляецца сатырычна-гратэскавая паэма «Bal w operze» (1936) Ю. Тувіма [5], прасякнутая саркастычным стаўленнем аўтара да пануючага ў дзяржаве ладу, калі пэўныя класы праводзяць ледзь не ўвесь час у забавах і баляванні, а іншыя вымушаныя з раніцы да ночы займацца іх абслугоўваннем. Твор гэты, бясспрэчна, таленавіты, і норавы польскай бюракратычнай і капіталістычнай эліты падпадаюць там пад кпіны зусім небеспадстаўна. Спачувальнае ж стаўленне Ю. Тувіма да ніжэйшых класаў (абмаляваных, праўда, у паэме схематычна) дазваляе казаць пра ўздзеянне на яго мысленне камуністычнай ідэалогіі, хутчэй, канешне, падсвядомае. Аўтар нідзе падкрэслена не выступае з лозунгамі пралетарскай рэвалюцыі, але свет дробнабуржуазны, уласніцкі, яму падаецца невымоўна агідным і, адпаведна, гэтаму свету наканавана знікненне. Зноў жа, твор прасякнуты выкрывальным пафасам, але грунтоўнай аналітыкі там не назіраецца.

Цікава, што беларускія сатырыкі пачыналі з тых жа кпінаў у бок уласніцкага мыслення. Праўда, з-за гістарычных прычын, асноўным яго носьбітам на Беларусі быў селянін. На яго скептычнае стаўленне да новай ідэалогіі, дробнабуржуазнае імкненне трымацца сваёй уласнай гаспадаркі, нежаданне ствараць камуны, калгасы і г. д. прыкладна да сярэдзіны 1920-х гадоў і скіроўвалася сатырычнае вастрыё беларускіх аўтараў (апавяданні і вершы К. Крапівы, К. Чорнага «маладнякоўскага» перыяду). Паступова, аднак, акцэнты змяняюцца, і выкрывацца пачынаюць заганы не вяскоўцаў, але савецкай сістэмы, дзе адзіным уласнікам была дзяржава, у якой плё-

нам працы цэлага народа практычна бескантрольна маглі распараджацца чыноўнікі. Прыстасавальніцкая і паразітычная сутнасць савецкага бюракратычнага апарату ад ніжэйшых пластоў і ледзь не да самых вяршынь і пачала трапляць пад сатырычнае выкрыццё беларускіх пісьменнікаў з другой паловы 20-х гг. XX ст. Паказальныя тут апавяданні «Пракурор» Я. Коласа, «Вось тут і пішы» К. Крапівы, няскончаны раман «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя і інш. Заўважаюцца і выразныя сімпатыі сатырыкаў да селяніна-гаспадара з яго светапоглядам уласніка, асабліва ў К. Крапівы (апавяданне «Тварам да вёскі»). Пісьменнік з сатырычнай прыродай таленту, як правіла, рэалістычна глядзіць на жыццё, і, хоць у свой час той жа К. Крапіва і іншыя знаходзіліся пад уплывам ідэй пралетарскай рэвалюцыі, іх свядомасць даволі хутка пачала вызваляцца ад эйфарыі. Росквіт гэтай, па сутнасці, антысавецкай сатыры быў нядоўгім: бальшавіцкая ўлада за кпіны ў свой бок карала з прасталінейнай жорсткасцю: творца папросту аб’яўляўся «ворагам народа» з усімі адпаведнымі наступствамі, у выніку чаго з 1930 г. сатырычная плынь у беларускай літаратуры практычна знікае.

Падагульняючы, хацелася б зазначыць: як польскія, так і беларускія сатырычныя творы акрэсленага перыяду з’яўляюцца не толькі сведчаннем развіцця тых ці іншых традыцый гэтых літаратур, але і ілюстрацыяй да ўсёй надзвычай неадназначнай эпохі ў гісторыі абедзвюх дзяржаў, што дазваляе сучасніку больш поўна разумець яе.

## Літаратура


1. Колас, Я. Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. — Мінск : Маст. літ., 1973. — Т. 5. — 631 с.
2. Крапіва, К. Збор твораў : у 6 т. / К. Крапіва. — Мінск : Маст. літ., 1997. — Т. 1. — 462 с.; — Т. 2. — 479 с.
3. Мрый, А. Творы / А. Мрый. — Мінск : Маст. літ., 1993. — 317 с.
4. Польские фрашки / редкол. : С. Михалков. — М. : Прогресс, 1964. — 152 с.
5. Tuwim, J. Bal w operze / J. Tuwim. — Warszawa : Czytelnik, 1991. — 47 s.
6. Tuwim, J. Jarmark rymów : Pisma zebrane / J. Tuwim. — Warszawa : Czytelnik, 1991. — 288 s.

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** *(Мінск, Беларусь)*

# СЛАВЯНСКІЯ ПЕРАКЛАДЫ, ПАЭТЫЧНЫЯ АДАПТАЦЫІ, ПЕРАСПЕВЫ «ПЕСНІ ПРА ЗУБРА» МІКАЛАЯ ГУСОЎСКАГА

Паэтычнае хараство і багацце вобразна-мастацкай палітры паэмы «Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis» (якую традыцыйна называюць «Песняй пра зубра») Мікалая Гусоўскага вось ужо амаль сто гадоў вабяць многіх перакладчыкаў. Гісторыя славянскіх перакладаў шэдэўра рэнесансавай паэзіі пачалася ў 1913 г., калі польскі вучоны і пісьменнік Ян Каспровіч зрабіў пераклад паэмы на польскую мову, а ў 1914 г. збіраўся яго апублікаваць. Аднак падзеі Першай сусветнай вайны перашкодзілі ажыццяўленню гэтай публікацыі [Hussowski, 1994, s. 101–102]. Толькі ў 1933 г. і ў 1956 г. былі апублікаваны фрагменты гэтага перакладу. У 1968 г. у часопісе «Нёман» упершыню публікуецца «Песня пра зубра» ў рускамоўнай адаптацыі Якава Парэцкага і Язэпа Семяжона. А ў 1969 г. пачынаецца гісторыя беларускамоўных перастварэнняў помніка: менавіта тады ў часопісе «Полымя» была апублікавана славутая адаптацыя Язэпа Семяжона.

Выдатнае ў мастацкіх адносінах перастварэнне Я. Семяжона прыцягнула ўвагу перакладчыкаў у іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза. Так, у 1971 г. публікуецца пераспеў фрагментаў «Песні пра зубра», выкананы Станіславам Куняевым і Ігарам Шклярэўскім (па-руску). А ў 1974 г. фрагменты паэмы «пераспяваў» па-ўкраінску Раман Лубкіўскі. «Песня пра зубра» ў адаптацыі Язэпа Семяжона прыцягнула ўвагу і вядомай беларускай паэткі-эмігранткі Наталлі Арсенневай. У 1970-х гадах яна стварыла свой пераспеў, які не абапіраўся на тэкст арыгінала, а быў накіраваны, фактычна, на тое, каб удасканаліць семяжонаўскі тэкст у моўных адносінах. Пераспеў Наталлі Арсенневай быў надрукаваны ў часопісе «Крыніца» ў 1997 г.

Пасля цэлага шэрагу адаптацый і пераспеваў чарговы (пасля польскага і літоўскага) пераклад фрагментаў «Песні пра зубра» на ўкраінскую мову стварыў вядомы ўкраінскі вучоны Віталій Маслюк; яны былі апублікаваныя ў 1987 г. [гл.: 6, с. 76–85]. У 1994 г. асобным выданнем выйшаў пераклад на беларускую мову Уладзіміра Шатона [гл.: Гусоўскі, 1994]. У гэтым жа годзе ў Белай Вежы ажыццяўляецца першая публікацыя поўнага тэксту перакладу Яна Каспровіча разам з факсімільным тэкстам першадруку [гл.: Hussowski, 1994]. У 2007 г. у Роўне з’явілася паралельнае выданне «Песні пра зубра» з перакладам на ўкраінскую мову Андрэя Садаморы [гл.: Гусовський, 2007].

Коратка характарызуючы ўсе названыя перастварэнні паэмы ў храналагічнай паслядоўнасці, мушу заўважыць найперш, што Ян Каспровіч

створыў адзін з найбольш дасканалых славянскіх перакладаў «Песні пра зубра», у якім адэкватна ўвасоблены асноўныя вобразы, праблемы і гістарычныя рэаліі, адлюстраваныя ў творы. Неэквіметрычнасць нельга лічыць недахопам гэтага перакладу: яна звязана з акцэнталагічнай спецыфікай польскай мовы. Затое ў перакладзе Я. Каспровіча «пазнаецца» паэтычны помнік эпохі Рэнесансу. Так, у польскім перакладзе дакладна перададзена прадстаўленае ў арыгінале адлюстраванне прававых аспектаў адносін чалавека з прыродай [Carmen 203–204; 257–258][1], а таксама кульмінацыйны момант твора, дзе ключавыя для паэта паняцці *otia* («час спачынку») і *labor* («цяжкая праца») зводзяцца ў адным кантэксце — кантэксце зубрыных ловаў [Carmen 327–330]:

> W tym urok jej i piękno, że rozliczne stada
> Zwierzyny przeszlachetnej to stosowny łup
> Dla mężów, którzy w łowach pragną skrzepić duszę
> Wojnami umęczoną, z wczasem łącząc trud. [Hussowski, 2007, s. 65].

На Беларусі, як было адзначана вышэй, першапачаткова былі створаны не пераклады, а паэтычныя *адаптацыі* «Песні пра зубра». Паводле дэфініцыі Д. Дзюрышына, адаптацыя — гэта «такое стаўленне да арыгінала, пры якім у задумы перакладчыка не ўваходзіць бездакорна захоўваць асаблівасці арыгінала» [1, с. 168]. Няцяжка знайсці матывацыю такога выбару, зробленага Я. Парэцкім (які выдатна ведаў лацінскую мову) і Я. Семяжонам (які віртуозна валодаў беларускім мастацкім словам). Паколькі «Песня пра зубра» была першым крокам на шляху адкрыцця лацінамоўнай паэзіі, у першых перакладчыкаў узнікла спакуса (а можа, гэта была і свядомая ўстаноўка) зрабіць з Мікалая Гусоўскага велічнага паэта-эпіка, своеасаблівага беларускага Гамера, а з «Песні пра зубра» — нацыянальную эпапею. Пра гэта, прынамсі, пісаў польскі даследчык Я. Чапляевіч [7, s. 315–322]. Але ж «Песня пра зубра» — ліра-эпічная паэма, і нават яе паэтычны памер (элегічны двуверш) служыў фармальнай перашкодай для таго, каб паэма класіфікавалася як эпапея. З мэтай трансфармавання «Песні пра зубра» ў эпапею Я. Парэцкі і Я. Семяжон прыпадобнілі рытміку перакладу да памеру класічнага гераічнага эпасу: яны пераклалі «Песню пра зубра» «амаль гекзаметрам» — пяцістопным дактылем. Усё гэта не проста дало патрэбны эфект — поспех гэтага мастацкага праекта быў ашаламляльны. Як велічна-гераічна гучаць добра вядомыя са школьных гадоў радкі пераствэрэння Я. Семяжона! Аднак узнёслыя словы гэтага тэксту, якія адразу западаюць у сэрца («Край мой, цяпер ужо ўласнасць Кароны…» [Гусоўскі, 1980, с. 63]; «Цяжкі ты, хлеб наш надзённы, у промысле цяжкім» [Гусоўскі, 1980, с. 73]; «Час схамянуцца! … Як лес безгалосы, мы пад сякерай…» [Гусоўскі, 1980, с. 82] і інш.) не знаходзяць адпаведнікаў у

[1] Спасылкі на тэкст паэмы «Песня пра зубра» прыводзяцца ў адпаведнасці з традыцыямі цытавання помнікаў класічнай паэзіі (з пазначэннем нумара паэтычнага радка).

тэксце арыгінала, але затое знаходзяць адпаведнікі ў перакладзе на рускую мову Я. Парэцкага і Я. Семяжона.

В. Дарашкевіч, адзначыўшы вялікае значэнне працы Я. Семяжона, указаў на шэраг нацяжак і недакладнасцей як у тэксце перакладу, так і ў каментарыях перакладчыка [1, с. 46–47]. На жаль, у многіх выпадках Я. Семяжон губляе пачуццё меры і дапускае перабольшванні ў справе «абеларушчвання» паэмы. Адпаведныя прыклады дастаткова падрабязна прааналізаваў П. Садоўскі. Вучоны ўказвае на шэраг анахранізмаў і супярэчнасцей, якія ўзніклі як вынік занадта вольнага абыходжання з паэтычным матэрыялам эпохі Рэнесансу. Менавіта П. Садоўскі ўпершыню ўжывае тэрмін «паэтычнае перастварэнне» ў дачыненні да тэксту Я. Семяжона, які, паводле трапнага выразу даследчыка, з’яўляецца «фікцыяй яго індывідуальнай свядомасці, яго разумення еўрапейскай і айчыннай гісторыі і эстэтыкі XVI і XX стагоддзяў» [6, с. 184].

Не магу, што праўда, не адзначыць фенаменальнай мастацкай інтуіцыі Я. Семяжона. У яго перастварэнні, як і ў арыгінале, ключавую ролю адыгрываюць дзеясловы руху ў стварэнні дынамічнага, жывога аповеду. З адпаведных пасажаў, звязаных з перадачай руху або з запрашэннем да перамяшчэння ў прасторы, пачынаюцца ў яго адаптацыі зробленыя адвольна раздзелы (у арыгінале яны адсутнічаюць): «Ну, дык пакрочым на поўнач…», «Я вас павёў — і цяпер, калі ласка, за мною…», «Вось і прыйшлі мы…», «Конныя ўроссып пусціліся…» [Гусоўскі, 1980, с. 57, 84, 86, 93]. Я. Семяжон надзвычай тонка адчувае часам мастацкую стыхію паэмы. Так, І. Лапцёнак звярнула ўвагу на вельмі ўдалы прыклад перадачы алітарацыі, ужытай паэтам, у тэксце перакладу [3, с. 87].

Разам з тым, адаптацыя Я. Семяжона выразна арыентавана на дэмакратычнага чытача. «Перакладчык увесь час імкнецца шляхам неверагодных прыпісак даказваць нейкі неверагодны дэмакратызм Гусоўскага» [5, с. 186]. Я. Семяжон дапаўняе рэнесансавы твор каларытнымі сцэнкамі з народнага побыту, прыказкамі і прымаўкамі, чаго, зразумела, не было і не магло быць у арыгінале. Так, перакладчык «падарыў» паэме Мікалая Гусоўскага наступныя радкі: «Толькі ў жніво ды ў касьбу і на ніве, і ў лузе // Бела ад хустак, намітак, кашуль і бравэрак» [Гусоўскі, 1980, с. 69]. Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. Фактычна «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага *de jure* пераўтварылася ў «Песню пра зубра» Язэпа Семяжона *de facto*. В. Рагойша трапна назваў гэты пераклад узнаўленнем лацінамоўнай паэмы [гл.: 4, с. 59].

І ўсё ж у працу над стварэннем беларускамоўнай адаптацыі «Песні пра зубра» таленавіты філолаг Язэп Семяжон уклаў усю сілу свайго паэтычнага таленту. Яго перастварэнне да сённяшняга дня карыстаецца нязменным поспехам у чытачоў, выкарыстоўваецца ў практыцы школьнага выкладання беларускай літаратуры. Папулярнасць тэксту Я. Семяжона была настолькі вялікай, што ён не толькі паслужыў асновай для стварэння шматлікіх пераспеваў (якія былі названыя на пачатку артыкула), але пачаў нават жыць

самастойным жыццём. Так, у 2004 г. у часопісе «Наш современник» (2004, № 12) С. Куняеў прапанаваў яшчэ адно сваё паэтычнае перастварэнне «Песні пра зубра», прычым на першай старонцы часопіса, у змесце, пазначана: «перевод поэмы с белорусского (!)».

У 80-х гг. ХХ ст. украінскі вучоны В. Маслюк, тонкі знаўца паэтычных тэорый старажытных часоў, зрабіў нарэшце спробу стварэння паўнавартаснага перакладу на адну з усходнеславянскіх моў — украінскую. Толькі ў гэтым перакладзе (упершыню пасля Яна Каспровіча) была дастаткова выразна акцэнтавана элегічная дамінанта паэмы. У перакладзе В. Маслюка захаваная ўстаноўка рэнесансавага паэта на годнае сцвярджэнне свайго аўтарскага «ego». Так, пераказваючы звесткі пра зубра і тура, якія прыводзіць Пліній, Мікалай Гусоўскі падкрэслівае сваю лепшую інфармаванасць у гэтым пытанні ў параўнанні са старажытнарымскім пісьменнікам. В. Маслюк выдатна гэта перадае: «“Дикий, гривастий, — так пише, — він дуже нагадує зубра”. / Краще пізнати хто б хтів — хай прочитає цей твір» [6, с. 77]. Тым не менш, гаворачы словамі П. Садоўскага, імкненне «даказаць неверагодны дэмакратызм» Мікалая Гусоўскага ўласцівае і першаму ўкраінскаму перакладчыку. Напоўненыя рэнесансавай ironіяй словы 143–144-га радкоў «silvestris parcius ergo / Dissona, qui legitis, carpite verba viri» («вы, тыя, хто чытаеце, хапайце больш ашчадна несугучныя словы ляснога мужа»), дзе выраз «несугучныя словы» — паэтычны перыфраз у адносінах да вершаванага памеру твора (элегічны двуверш складаўся з «несугучных» гекзаметра і пентаметра), В. Маслюк разумее як самапрыніжэнне паэта: «А мої вірші безладні (простої людини із лісу) / Ви пощадіть, якщо хтось візьме читати колись» [6, с. 79]. І ўсё ж у цэлым, хаця В. Маслюк і не пераклаў усёй паэмы, яго праца — своеасаблівы прарыў ва ўсходнеславянскім літаратуразнаўстве ў падыходзе да справы перакладу «Песні пра зубра» наогул.

Першы пераклад (а не адаптацыю) паэмы на беларускую мову зрабіў мінскі вучоны-лацініст У. Шатон. Ён захаваў арыгінальны паэтычны памер помніка і прынцып эквілінеярнасці. Але нечакана адбылася новая метамарфоза. Калі ў адаптацыі Я. Семяжона паэма Мікалая Гусоўскага, хоць і пераапранутая ў другое адзенне, дыхала жыватворнай сілай мастацкага слова, то паслоўны, часам нават педантычны пераклад У. Шатона, які павінен быў вярнуць паэму ў яе першапачатковае вобразна-тэматычнае ўлонне, нечакана зрабіўся цесным для паэтычнага хараства і слоўнай выяўленчасці. «Песня пра зубра» ў перакладзе У. Шатона быццам бы «застыла». У чытача ўзнікае ўражанне зацiснутасці роднай мовы рамкамі элегічнага двухверша, калі перакладчык *metri causa* ўжывае ненатуральны парадак слоў або сінкапіраваныя словаформы.

Падобнай «пасткі» шчасліва ўдалося пазбегнуць А. Садамору, які захаваў у сваім перакладзе на ўкраінскую мову не толькі тыя вобразы, матывы і тэмы, якія яўна прапісаны ў мастацкай палітры паэмы, але нават тыя, якія

фарміруюцца на ўзроўні ўспрымання другасных элементаў тэксту: паэтычных тропаў, адпаведнага падбору лексем, іранічнага падтэксту. Так, Мікалай Гусоўскі заўважае, што пісьменнік эпохі Каралінгскага адраджэння Павел Дыякан інфармацыю пра шкуру зубра, на якой спалі пятнаццаць лаўцоў, атрымаў «*rigidi fido senis ore*» («з вуснаў непахіснага ў праўдзе старога») [Carmen 113]. У перакладзе гэты напоўнены ірoніяй радок узноўлены бездакорна з пункту гледжання аўтэнтычнасці: «Пише почуте від одного правдомовного старця» [Гусовський, 2007, с. 45]. Сапраўднай перакладчыцкай удачай А. Садаморы трэба прызнаць той фрагмент у яго перакладзе, дзе паэт, пераходзячы да апісання жыцця зубрынага статка, выкладае сваё творчае *credo*, супрацьпастаўляючы паняцці *otia* («час спачынку», якім для яго з'яўляецца паэтычная творчасць) і *labor* («цяжкая праца», чым для яго было паляванне) [Carmen 92–102]. Адзін з найбольш удалых прыкладаў спалучэння тэкставай адэкватнасці з высокай мастацкасцю — пераклад заключнай малітвы да Багародзіцы ў выкананні А. Садаморы [Carmen 1027–1072]. Перакладчыку ўдалося дасягнуць практычна ідэальнага стылёвага балансу паміж усімі фрагментамі і элементамі твора, што вельмі важна для правільнага ўспрымання помніка гэтай эпохі. У перакладзе А. Садаморы адчуваецца гарманічная цэласнасць твора, выпукла вымалёўваюцца асаблівасці гуманістычнай канцэпцыі аўтара.

На заканчэнне прывяду выразны прыклад, які аб'ектыўна характарызуе розныя славянскія пераклады «Песні пра зубра». На фоне квяцістых твораў паэтаў эпохі Рэнесансу, якія спаборнічалі адзін з адным у дасканаласці рэцэпцыі антычных твораў, паэма Мікалая Гусоўскага выглядае нетыповай з'явай. Гэта звязана найперш з хрысціянскім светапоглядам аўтара. У творы прысутнічае праграмная заява паэта на гэтую тэму:

Pro Iove qui Christum veneror Christique Parentem
    Pro Iunone loqui carmina nostra solent.
Nec miscenda mihi est tam certis fabula rebus. [Carmen 405–407].

Я замест Юпітэра шаную Хрыста, і песні мае маюць звычай праслаўляюць Маці Хрыста замест Юноны. Мне нельга змешваць праўду з байкай.

Усё, што звязана з хрысціянствам, — для аўтара «*certi res*» («надзейныя рэчы»). Багі старажытных рымлян несумяшчальныя з «*pietate*» («набожнасцю») паэта, гэта — «*fabula*» («байка»). Увасабленне веры для паэта-хрысціяніна — Сын Божы і Багародзіца. Супастаўленне Маці Хрыста з Юнонай зразумелае: абедзве з'яўляюцца ў першую чаргу апякункамі жанчын, мацярынства, сям'і. Таму «*Parens Christi*» — гэта Багародзіца: для хрысціян-католікаў знакавай постаццю, апроч самога Збавіцеля, з'яўляецца менавіта Панна Марыя.

Я. Парэцкі зразумеў выраз «*Parens Christi*» інакш, у выніку чаго атрымаўся наступны пераклад: «Все воспевают Юпитера или Юнону, / Я же, Исуса и бога отца почитая, / Смысла не вижу в смешении истины с басней» [Гусоўскі, 1980, с. 143]. У двух беларускамоўных перастварэннях [Я. Семяжона і Н. Арсенневай] і ў перакладзе У. Шатона таксама замест Багародзіцы выступае Бог Айцец. Адэкватнасць арыгіналу ў дадзеным выпадку захоўваюць толькі Ян Каспровіч і Андрэй Садамора[1]:

Chrystusa, nie Jowisza czczę i nie Junony,
Lecz Matki Chrystusowej niech wzywa ma pieśń.
Czyż godzi się baśniami zastępować prawdę? [Hussowski, 2007, s. 71].

І не Юпітера славлю в піснях, а Христа; не Юнону,
А Богородицю; їм — шана найвища моя.
До очевидних речей домішувать байку негоже. [Гусовський, 2007, с. 63].

Такім чынам, розныя паэты і вучоныя, працуючы над перакладам паэмы Мікалая Гусоўскага, надавалі старажытнаму твору новае жыццё, прыўносілі сваё разуменне спрадвечных праблем, узнятых аўтарам, і набалелых пытанняў, пастаўленых ім. Аднак далёка не ва ўсіх перакладчыцкіх перастварэннях «Песні пра зубра» адэкватна перададзены ўсе тыя матывы, тэмы і вобразы, а таксама тая настраёвасць, рэканструявана тая эстэтычная праграма, якія былі закладзены Мікалаем Гусоўскім у ягонай «паэме жыцця». Прызнаючы значнасць творчых намаганняў беларускіх майстроў слова Якава Парэцкага, Язэпа Семяжона, Уладзіміра Шатона, Наталлі Арсенневай, спадзяюся на тое, што найлепшы пераклад «Песні пра зубра» на беларускую мову — яшчэ наперадзе. На сённяшні ж дзень з пункту гледжання як блізкасці да арыгінала, так і мастацкай дасканаласці прыярытэтнае становішча сярод славянскіх перакладаў «Песні пра зубра» займаюць пераклад на польскую мову Яна Каспровіча і пераклад на ўкраінскую мову Андрэя Садаморы.

## Крыніцы


Гусовський М. Пісня про зубра. Поема: на лат. та укр. мовах; перекл. з лат. А. Содомори. Рівне, 2007. 126 с., іл.

Гусоўскі Мікола. Песня пра зубра: на лац., беларус., рус. мовах. Мінск: Мастацкая літаратура, 1980. 192 с., іл.

Гусоўскі Мікола. Песьня пра зубра; пер. У. Шатона. Мінск: БГАКЦ, 1994. 48 с.

[Hussowski Mikołaj] Mikołąja Hussowskiego Pieśń o żubrze, jego postaci, dzikości i o polowaniu na niego w przekł. Jana Kasprowicza = Carmen de statura feritate ac venatione bisontis. Białowieża: Białowieski Park Narodowy — Dział Wydawnictw, 1994. 103 s.


[1] В. Маслюк не пераклаў адпаведны фрагмент.

[Hussowski Mikołaj] Pieśń o żubrze, jego postaci, dzikości i o polowaniu na niego = Carmen de statura feritate ac venatione bisontis = Песьня пра аблічча, дзікасьць зубра і паляваньне на яго = Giesmė apie stumbro išvaizdą, žiaurumą ir medžioklę = Песнь о зубре = A poem on bison (fragments) / tłumaczenia: Natalia Arseniewa, Wiktor Daraszkewicz, Benediktas Kazlauskas, Wojciech Łazewski, Michael J. Mikoś, Jakow Parecki, Vitaut Rudnik, Jazep Siemiażon, Laima Staričenkaite, Marta Szymska. Supraśl: Stowarzyszenie Uroczysko; Agencja Reklamowo-Wydawnicza Arkadiusz Grzegorczyk, 2007. 336 s.

## Літаратура


1. Дорошкевич, В. И. Ян Вислицкий и Николай Гусовский в литературоведческой науке / В. И. Дорошкевич // Книговедение в Белоруссии. — Минск, 1977. — С. 37–53.
2. Дюришин, Д. Теория сравнительного изучения литературы / Д. Дюришин; пер. со словац. — М., 1979. — 245 с.
3. Лапцёнак, І. Праблема стылю і творчай індывідуальнасці : традыцыі Язэпа Семяжона ў сучасным перакладзе / І. Лапцёнак // Пераклад збліжае народы : матэр. Міжнар. «круглага стала». Мінск, 3–4 верас. 2001 г. / рэдкал. : Р. Барадулін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 2002. — С. 84–89.
4. Рагойша, В. Тры ўрокі ў Семяжона / В. Рагойша // І адгукнецца слова ў слове… : літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ, дыялогі. — Мінск, 1992. — С. 56–61.
5. Садоўскі, П. Культурна-моўныя пытанні беларускага перакладу : нататкі мовазнаўцы / П. Садоўскі // Полымя. — 1981. — № 7. — С. 178–198.
6. Українська поезія XVI століття / редкол. : О. Е. Засенко та ін.; упоряд., вступ. ст. та приміт. В. В. Яременка. — Київ, 1987. — 287 с.
7. Czaplejewicz, E. Współczesne przekłądy — białoruski i rosyjski — poematu Mikołaja Hussowskiego o żubrze / E. Czaplejewicz // Przekład literacki. Teoria — Historia — Współczesność. — Warszawa, 1997. — S. 310–326.



**Ганна Серэхан** *(Мінск, Беларусь)*


## ПАЭЗІЯ АНТОНА ГАРЭЦКАГА Ў КАНТЭКСЦЕ ТВОРЧАСЦІ ШУБРАЎЦАЎ

Літаратурная творчасць Таварыства шубраўцаў, якое было заснавана ў Вільні 11 лютага 1817 г.[1], разгортвалася ў першую чаргу на старонках друкаванага органа дадзенага аб’яднання — штотыднёвіка «Wiadomości Brukowe» (1816–1822). Даволі рэгулярна ёй адводзілася месца таксама ў

[1] Дата першага паседжання таварыства.

«Tygodniku Wileńskim», рэдактарам якога з 1818 г. быў Міхал Балінскі, сябра Таварыства шубраўцаў, а з 1819 па 1821 гг. — Ігнацы Шыдлоўскі, што займаў у таварыстве пасаду другога вітальніка[1]. «Tygodnik Wileński» меў адмысловую рубрыку «Literatura szubrawska», пад якой друкаваліся матэрыялы пераважна арганізацыйнага і дакументальнага характару ў дачыненні да таварыства: тут упершыню з'явіўся «Kodex szubrawski» (1819), выдадзены пазней асобнаю брашураю, тут змяшчаліся таксама тэксты, якімі віталіся новыя сябры таварыства, была апублікавана паэтычная гісторыя шубраўцаў пад назваю «Mixtum Chaos» (1819) і інш. Таварыства шубраўцаў пэўны час супрацоўнічала і з «Dziennikiem Wileńskim», рэдактарам якога, гэтаксама як і «Wiadomości Brukowych», быў Антон Марцiноўскі. Пералічаныя выданні з'яўляюцца асноўнаю крыніцаю аналізуемых у дадзеным артыкуле твораў шубраўскага таварыства.

Каб у агульных рысах уявіць характар і стыль гэтай літаратуры, варта звярнуцца да той часткі «Kodexu szubrawskiego», у якой акрэсліваецца мэта дзейнасці таварыства. Правіла I сведчыць, што «zamiarem towarzystwa iest, nie mając na celu żadnych szczególnych osób wyświecać szpetność tych przywar i nałogów, które z natury swoiey nie mogą bydź prawem powściąganemi, są iednak dla społeczności bardzo szkodliwe, a u nas zdawna pospolite, i co gorsza, że w powszechniejszem mniemaniu za występki i wady nayczęściey nie są poczytywane»[2] [Kodex szubrawski, s. 220]. Галоўнаю зброяй шубраўцаў у барацьбе з грамадскімі заганамі была сатыра, якая, на іх думку, адначасова павінна была «zaprowadzić zwyczaj, ażeby w czytaniu szukano rozrywki, i osłabić ten wstręt powszechny, iaki współrodacy nasi od tey drogi niezbędnie potrzebney do oświecania się, okazują»[3] [Kodex szubrawski, s. 217].

Амаль уся шубраўская творчасць, за выключэннем матэрыялаў і дакументаў, звязаных з арганізацыяй таварыства, была афарбавана выразным сарказмам, злосна-з'едлівая іронія была своеасаблівым мастацкім прынцыпам адлюстравання шубраўцамі тагачаснай рэчаіснасці. Таму мова іх твораў часта празмерна закадзіраваная разнастайнымі сімваламі і алегорыямі. На

---

[1] Вітальнік у арганізацыйнай іерархіі Таварыства шубраўцаў меў абавязак вітаць новых сяброў вершамі, одамі, мадрыгаламі. Пасаду першага вітальніка займаў Францішак Гжымала.

[2] Мэта таварыства — не маючы на ўвазе ніякіх канкрэтных асоб, выяўляць агіднасць тых чалавечых заганаў і звычак, якія па сутнасці не могуць быць выкараненыя законам, аднак грамадству прыносяць вялікую шкоду, з'яўляюцца ў нас шырока распаўсюджанымі і, што горш за ўсё, большасцю не ўспрымаюцца як злачынствы і заганы. (Тут і далей пераклад з польскай мовы наш. — *Г. С.*)

[3] …паспрыяць развіццю звычая, каб у чытанні людзі знаходзілі пацеху, і заглушыць тую паўсюдную агіду, якую выклікае ў нашых суайчыннікаў гэты неабходны для самаадукацыі шлях.

гэтую праблему звярнуў увагу аўтар ананімнай[1] байкі «Wół i owieczka», змешчанай у № 78 за 1818 г. «Wiadomości Brukowych» (1818). Нескладана было высветліць, што твор належыць пяру Антона Гарэцкага (1787–1861), ураджэнца Віленшчыны і ўдзельніка кампаніі Напалеона, бо гэтая байка амаль праз чатыры дзесяцігоддзі ўвайшла ў яго паэтычны зборнік «Jeszcze tomik pism» [Gorecki, 1859, s. 57]. У час першай публікацыі твора Антон Гарэцкі яшчэ не з'яўляўся сябрам Таварыства шубраўцаў і вырашыў адгукнуцца на іх дзейнасць у форме байкі. Галоўныя героі твора — вол і авечка, пад постацямі якіх, найверагодней, утоены бясхітрасныя чытачы «Wiadomości Brukowych», — спрачаюцца пра высокі сэнс шпачынага крыку ў наваколлі. Легкаверная авечка захапляецца плённасцю гэтых птушыных «намаганняў»:

Oy! ten krzyk wiele dla nas dobra zdziała,
Jedne szpaki nie mają względu na nikogo
I wszystkim ludziom wymawiają głośnie,
Że nas niewolą nieznosną
Uciskają srogo…[2].

Тым часам вол не ўспрымае сур'ёзна намаганняў гэтага «шпачынага народу», бо ніхто з людзей не ў стане зразумець іх мовы. Гэтую алегорыю А. Гарэцкі непрыхавана скіроўвае на само Таварыства шубраўцаў:

Kogoż tą bajką obdarzę?
Was *Wiadomości Brukowych* Pisarze!
Nie przeczę, że z tych Panów, każdy wiele umie,
Lecz jak się świat poprawi, gdy ich nie rozumie.
Może się zagniewacie, powiem prawdę przecie:
Zbyt często do Polaków po chińsku piszecie[3].

Такім чынам, першай рэакцыяй А. Гарэцкага на дзейнасць Таварыства шубраўцаў была крытыка іх літаратурнага стылю. З іншага боку, байка «Wół i owieczka» магла быць напісана і апублікавана ў «Wiadomościach Brukowych» наўмысна, каб даць шубраўцам магчымасць для адказу-апраўдання, абгрунтавання сваёй эстэтычнай праграмы, што зноў жа ў замаскіраванай іранічнай форме прагучала ў прывітальнай прамове з нагоды прыняцця А. Гарэцка-

[1] Адной з умоў шубраўскай творчасці была яе ананімнасць. Сябры таварыства не мелі права выдаваць пабочным асобам таямніцы аўтарства сваіх твораў.

[2] Ах, гэты крык прынясе нам шмат дабра, шпакі адзіныя ні на кога не зважаюць і ўсім людзям голасна шчабечуць, што нас жорстка прыгнятаюць і няволяць…

[3] Каму ж я прысвячу гэтую байку? Вам, аўтары «Wiadomości Brukowych»! Не пярэчу, што кожны з вас вельмі здольны, але як жа свет выправіцца, калі ён не разумее вас? Можа, вы ўгневаецеся, але скажу вам праўду: занадта часта вы звяртаецеся да палякаў па-кітайску.

га ў склад таварыства, надрукаванай у № 89 за 1818 г. (Mowa Dygnitarza Szubrawissymusa Okopirnosa). Больш за тое, згодна з «Kodexem szubrawskim», перад прыняццем у таварыства новага сябра кандыдат павінен быў падаць у прэзідыум адну са сваіх пісьмовых прац для аналізу і разгляду. Паводле вышэйзгаданай прамовы, А. Гарэцкі для гэтай мэты выкарыстаў менавіта байку «Wół i owieczka», і шубраўцы ўбачылі ў ёй выразны duch szubrawski, які па сутнасці і крытыкаваўся ў байцы.

Працягам спрэчкі наконт мэтазгоднасці і стылю шубраўскай творчасці можна лічыць байку «Morze i rzeki», надрукаваную ў № 85 «Wiadomości Brukowych» за 1818 г. пад псеўданімам *Warpu 2gi*[1]. Паколькі дадзены твор, як і папярэдні, друкаваўся ў зборніку «Jeszcze tomik pism» [Gorecki, 1859, s. 80], то не можа быць сумненняў наконт прыналежнасці гэтага твора А. Гарэцкаму, хоць, на думку даследчыка Ю. Бялінскага, псеўданім *Warpu 2gi* меў паэт Антон Хамінскі [1, s. 74]; паводле З. Скварчынскага, гэта быў адзін з трох псеўданімаў Ваўжынца Путкамера [4, s. 130], а Гарэцкі падпісваўся найменнем *Warpu* без прыдатка [4, s. 121]. Што ж датычыць твора «Morze i rzeki», то стыль яго цалкам адпавядае творчасці байкапісца А. Гарэцкага, а настрой — праблематыцы папярэдняй байкі «Wół i owieczka», бо ў дадзеным выпадку паэт крытыкуе ўжо саму — заўважым, асветніцкую — ідэю выпраўлення свету, укрытага пад вобразам салёнага мора, зухвалымі рэкамі, якія дарэмна зліваюць у яго сваю слодыч:

O sławni filozofowie,
Którzy raczycie łaskawie
Myśleć o świata poprawie,
Dajcie spocząć swojej głowie.
    Cóż wasza praca pomoże?
    Wyście rzekami, a światem jest morze[2].

Такім чынам, пасля выяўлення мастацкіх сродкаў, якія ў дачыненні да шубраўцаў крытыкаваў А. Гарэцкі, лагічна звярнуць увагу на тое, як ён сам спрычыняўся да выканання шубраўскіх задач. Трэба прызнаць, што паэзія А. Гарэцкага на старонках «Wiadomości Brukowych» адпавядала патрабаванню лёгкага і пацешнага стылю. У шубраўскім штотыднёвіку паэт выступаў часцей за ўсё з дасціпнымі фрашкамі і эпіграмамі, або *ucinkami*, якія выкрывалі разнастайныя заганы грамадства: сквапнасць багацеяў («Nędzarz i bogacz»[3],

---

[1] Варп — у літоўскай міфалогіі бажок ваеннай пабудкі.

[2] О слаўныя філосафы, якія робіце людзям ласку, думаючы пра выпраўленне свету, не дурыце сабе галаву. Чым жа ваша праца дапаможа, калі вы — толькі рэкі, а свет — гэта мора.

[3] Твор перадрукаваны ў зборніку А. Гарэцкага «Kłosek polski, czyli nowy tomik poezyi» (1843, s. 63).

№ 100 за 1818 г.), несумленнасць мастакоў і літаратараў («Kradzież Literacka»[1], «Nowy Słownik»[2] № 106 за 1818 г.), нявернасць жонкі («Władza żony»[3], № 106 за 1818 г.) і інш. Надзвычай падобнаю творчаю манераю валодаў шубравец Ігнацы Шыдлоўскі, асноўная частка твораў якога ў той час друкавалася ў «Tygodniku Wileńskim» і «Dzienniku Wileńskim». Назвы гэтых твораў выразна асвятляюць іх тэматыку: «Przegrana», «Na niewdzięczność», «Dłużnik i wierzyciel», «Miłość niezmienna», «Sądy» і інш.

Аднак прыкметна, што ў дадзеным жанры для абодвух паэтаў — А. Гарэцкага і І. Шыдлоўскага — характэрна амаль поўная адсутнасць эзопавай мовы, якая была неад’емным элементам стылю «Wiadomości Brukowych». Іх творы не абцяжараны шматзначным іншаказаннем, а валодаюць сцісласцю і канкрэтнасцю, празрыстаю мараллю, што дазваляе разглядаць іх далёка па-за межамі творчай праграмы шубраўцаў. Падобным чынам чалавечыя заганы высмейваліся ў эпіграмах Ігната Легатовіча, Аляксандра Грота-Спасоўскага, Яна Аношкі і іншых аўтараў, якія не мелі ніякага дачынення да Таварыства шубраўцаў.

Акрамя таго, сама забаўляльнасць стылю і сатырычная абалонка таксама не дазваляюць далучаць творы А. Гарэцкага да адзінага рэчышча шубраўскай літаратуры, бо і сатыра шубраўцаў мела спецыфічны характар у адрозненне ад баек, фрашак і эпіграм А. Гарэцкага. Як адзначаў у канцы XIX ст. даследчык Пётр Хмялёўскі, шубраўцы дапускалі часам «нейкую сатырычную несправядлівасць», не адрозніваючы добрых бакоў пэўнай з’явы ад сапраўды смешных або вельмі шкодных. Дый шубраўская літаратура звяртала ўвагу выключна на недахопы і заганы грамадства, у чым «брукоўцаў» часта дакаралі, ставячы ў віну няправільнае разуменне патрыятызму; па словах М. Махнацкага, шубраўцы былі «таварыствам больш касмапалітычным, чым патрыятычным, больш крытычным, чым арганічным, <…> а ўвесь іх патрыятызм заключаўся ў тым, каб быць не такімі палякамі, як іх продкі» [цыт. па: 1, s. 197]. У канчатковым выніку па розных, у тым ліку і грамадска-палітычных прычынах, таварыства было асуджана на заняпад. На думку даследчыцы Ё. Коваль, А. Гарэцкага вымусіла пакінуць шубраўцаў заўважанае ў іх пасквілях «яўнае парушэнне асноўных прынцыпаў гуманізму» [3, s. 31]. Мяркую, што гэтая прычына не была адзінаю. Важную ролю тут адыграла гістарычная апазіцыя, рэпрэзентантам якой стала філамацкая моладзь. Так, апроч высмейвання ўкаранёных у народзе заганаў, А. Гарэцкі з самага пачатку сваёй творчасці імкнуўся і да апявання былой славы продкаў (да чаго пазней прыйшоў і шубравец Францішак Гжымала, засноўваючы выданне

---

[1] Твор перадрукаваны ў зборніку А. Гарэцкага «Jeszcze tomik pism» (1859, s. 137).

[2] Тамсама. — S. 129.

[3] Тамсама. — S. 135.

«Pielgrzym nadwiślański»), змагаўся таксама за незалежнасць Рэчы Паспалітай далёка не шляхам прыватных рэформ, які цалкам задавальняў шубраўцаў. Акрамя таго, А. Гарэцкі у сваёй паэтычнай творчасці актыўна звяртаўся да рамантычных сродкаў, рэлігійных і месіянскіх матываў, што яднала яго з філаматамі, у прыватнасці, з А. Міцкевічам, які ў паэме «Дзяды» прадставіў пакуты філаматаў таксама з дапамогаю містычных вобразаў, між іншым, выкарыстаўшы байку А. Гарэцкага «Д'ябал і збожжа».

З. Скварчынскі падкрэслівае, што «гістарычная апазіцыя <…> вырасла на ліцвінскай глебе з пасеву саміх шубраўцаў», а «грамадзянскія ідэі, якія натхняюць філаматаў, нараджаюцца не ў апазіцыі да шубраўцаў, а паралельна ім і выяўляюць роднаснасць мэт і задач» [4, s. 191–192]. Можна зрабіць выснову, што ў творчасці А. Гарэцкага шубраўскага перыяду выявіліся асноўныя супярэчнасці, якія сведчылі пра пошукі ў літаратуры Беларусі першай трэці XIX ст. найбольш адпаведных метадаў і сродкаў ажыццяўлення яе асноўнай мастацкай задачы таго часу — выхавання маралі і абуджэння ў народа пачуцця нацыянальнай самасвядомасці.

## Крыніцы

Gorecki A. Jeszcze tomik pism. Paryż: w drukarni L. Martinet przy ulicy Mignon, 2, 1859. 224 s.

Kodex szubrawski // Tygodnik Wileński. 1819. T. VII. № 156–158. S. 217–224; 249–265; 281–285.

Mixtum Chaos czyli Historya Szubrawstwa chronologicznie ułożona // Tygodnik Wileński. 1819. T. VII. № 143. S. 60–63.

Morze i rzeki // Wiadomości Brukowe. 1818. № 85. S. 108.

Mowa Dygnitarza Szubrawissymusa Okopirnosa z powodu przyjęcia do Szubrawstwa nowego członka (Zwóy dziuplowy) // Wiadomości Brukowe. 1818. № 89. S. 129.

Wół i owieczka // Wiadomości Brukowe. 1818. № 78. S. 88.

## Літаратура

1. Bieliński, J. Szubrawcy w Wilnie (1817–1822) / J. Bieliński. — Wilno, 1910. — 244 s.
2. Chmielowski, P. Towarzystwo Szubrawców i Jędrzej Śniadecki. Zarys obyczajowo-literacki / P. Chmielowski // Tygodnik Illustrowany. — 1878. — T. V. — № 107–108, 110–113. — S. 19–20, 36, 75–76, 84–85, 107–108, 115–114.
3. Kowal, J. Droga na Parnas. O twórczości poetyckiej Antoniego Goreckiego / J. Kowal. — Kraków, 2008. — 346 s.
4. Skwarczyński, Z. Kazimierz Kontrym. Towarzystwo Szubrawców. Dwa studia / Z. Skwarczyński. — Łodź, 1961. — 226 s.

**Зося Тычына** *(Мінск, Беларусь)*

# ПРЫЁМ «ПЕРАТВАРЭННЕ» Ў ЕЎРАПЕЙСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ТРАДЫЦЫІ (НА МАТЭРЫЯЛЕ ТВОРЧАСЦІ Я. БАРШЧЭЎСКАГА)

Многія казкі, паданні, міфы расказваюць пра тое, як герой быў абернуты ў ваўка, быка, карову, ката, лебедзя, сокала і г. д. Напрыклад, міфы пра Зеўса і Еўропу, пра Зеўса і Іо, паданне пра ваўкалака, беларускія казкі «Аб каралевічы-чараўніку», «Сіняя світа», руская казка «Хрустальная гара», кіргізская казка «Тры чорныя лебедзі», казка папуасаўКіваі «Адкуль у Бугама, Куніні і Маваце з'явіліся людзі» і шматлікія інш. Ператварэнне адыгрывае важную ролю ў фальклоры. Пры дапамозе прыёму ператварэння падкрэсліваюцца надзвычайныя здольнасці, моц героя альбо таго, хто героя зачароўвае, робіць яго жывёлай, птушкай (герой, як правіла, такім чынам адбывае пакаранне). Становячыся жывёлай, птушкай героі спрабуюць падмануць і заблытаць ворагаў, схавацца ад каго-небудзь, хутчэй пераадолець доўгі шлях. Вельмі цікавая матывацыя перакідвання ў жывёлу сустракаецца ў казках папуасаўКіваі: «Бідзеду ўзяў лук і стрэлы і выправіўся ў дарогу. Ён прайшоў праз Себе, Мірапу, Таці, Бугіа, Самаросе і ў Гуру вырашыў пераначаваць. Прачнуўшыся, ён стаў казуарам — аблічча чалавека яму надакучыла — і ўжо ў абліччы казуара пайшоў далей» [8, с. 60]. На працягу развіцця літаратуры ў самых разнастайных тэкстах можна сустрэць эпізоды, у якіх героі перажываюць ператварэнне ў нейкую істоту. Гэта адбываецца ці па ўласнаму жаданні героя ці насуперак яго волі. Дастаткова згадаць «Метамарфозы, або Залаты асёл» Апулея ці «Ператварэнне» Ф. Кафкі. Можна звярнуцца да «Слова пра паход Ігаравы», дзе расказваецца пра князя Усяслава Чарадзея: «На седьмом веце Трояни врьже Всеслав жребий о девицю себе любу. Тъй клюками подпръся о копии, скочи къ граду Кыеву, и дотчеся стружием злата стола Киевского. Скочи от них лютым зверем въ плъночи из Белаграда, обесися сине мьгле. Утръже вазни съ три кусы: отвори врата Новуграду, разшибе славу Ярославу, скочи влъком до Немиги съ Дудуток» [9, с. 173]. Ператварэнне ў ваўка актуальна для беларускай літаратуры. У ваўкалака перакідваецца адзін з герояў Я. Баршчэўскага («Апавяданне чацвёртае. Ваўкалак» з «Шляхціца Завальні»). У гістарычным рамане «Літоўскі воўк» Алеся Наварыча з'яўляюцца парадаксальныя вобразы «ціхіх і рахманых» [5, с. 6] ваўкоў, якіх пакусаў пан: «З нейкай невядомай прычыны маладому ваўку захацелася пагладзіць пана ў клетцы. Пад'ярак прасунуў лапу за прэнты, а пан і цапнуў дурня зубалямі» [5, с. 5]. У кожным выпадку ператварэнне мае асаблівы сэнс, які раскрываецца, калі прааналізаваць увесь твор цалкам.

У Я. Баршчэўскага героі ператвараюцца не толькі ў ваўкоў, але і ў сарок, у катоў, у інсект. Аднак, зварот да кожнага з вобразаў вымагае прыватнага даследавання. Таму варта засяродзіць увагу на чацвёртым апавяданні «Шляхціца Завальні», дзе галоўны герой Марка становіцца ваўкалакам. Сюжэт апавядання базуецца на паданні, але ў Я. Баршчэўскага вядомы сюжэт абрастае падрабязнасцямі, змяняюцца абставіны перакідвання героя. Адпаведна сам факт ператварэння можа быць інтэрпрэтаваны па-рознаму. Ператварэнне Маркі магчыма палічыць жудасным сном. Як вядома, перад тым, як стаць ваўкалакам, Марка выпіў на вяселлі гарэлкі, якая, відавочна, падзейнічала на яго самым горшым чынам. Ён раззлаваўся і перастаў кантраляваць свае пачуцці і паводзіны. Урэшце ўцёк са свята і бегаў па ваколіцы, пакуль не ператварыўся ў звера. Фантастычныя прыгоды героя ў аблічы ваўкалака ўтвараюць кантраст яго рэальнаму жыццю чалавека. Вяртанне Маркі ў сапраўднае аблічча адбываецца таксама пры досыць падазроных умовах. Ён прачынаецца ў чалавечым выглядзе, а вопратка на ім «тая самая, якую я надзеў калісь, ідучы на Алёніна вяселле» [1, с. 135]. Такім чынам, можна падумаць, што пасля святкавання пад уплывам розных моцных напояў і ўласнага гора, што нявеста выходзіць за іншага, ён мог дзе-небудзь заснуць, прымроіць, што бегаў ваўкалакам, а пасля прачнуцца. Адзінае, што магло б пацвердзіць тое, што ён на яве, а не ў сне быў ваўкалакам — гэта апавяданне аўтара, як герой вяртаецца ў вёску і бачыць, што сапраўды мінула шмат часу і што тыя падзеі, якія адбываліся з ім, пацвярджаюцца іншымі людзьмі. Але Я. Баршчэўскі пра тое не кажа, наадварот, аповед пра незвычайныя падзеі поўнасцю належыць самому Марку. Дарэчы, пра магчымасць жудаснага перапою і сну героя ўскосна сведчаць і наступныя паводзіны героя: усё астатняе жыццё ён пазбягаў розных кірмашоў, ігрышчаў у карчме — мясцін, дзе людзі звычайна выпіваюць. Аднак, ёсць сведчанні на карысць таго, што гэта ўсё ж такі быў не сон. Напрыклад, наяўнасць сноў героя ў стане ваўкалака (існаванне сноў у сне — з’ява досыць незвычайная).

Такім чынам, жыццё Маркі ў ваўкалакавым абліччы можна разглядаць калі не як сон, то як стан блізкі да яго. Гэта дае падставы для сімвалічнага тлумачэння падзей і вобразаў. Тое, што Марка у гэтым сне становіцца ваўкалакам не выпадкова, паколькі на той момант героем кіруе адно пачуццё — моцная злосць, гнеў на свет, жыццё, канкрэтных людзей і на чалавецтва ў цэлым. Калі ў «Слове пра паход Ігаравы» магчыма казаць пра сімвал ваўка як пра велічную моц, то тут ваўкалак — таксама сіла, але разбуральная, стыхія, вар’яцтва, шаленства (можна згадаць выраз «глядзець ваўком» ці беларускае этыялагічнае паданне пра стварэнне ваўка чортам). Адсюль і ўсё горшыя ўчынкі героя ажно да самага жудаснага — выкраданне дзіцяці, пасля чаго Марка адумваецца. Глыбокае пакаянне, з’яўленне чалавечых пачуццяў спагады, шкадавання і выкупленне граху знішчаюць ваўкалака, злосную жывёліну,

ваўчынае сэрца ў чалавека і вяртаюць яму чалавечую сутнасць. У сне Маркі пануюць адчуванні і пачуцці, палітра іх тонаў і адценняў — ад вышэйшай ступені гневу, безнадзейнасці да піка радасці, шчасця.

Вобразы котак-дзяўчатак у сне Маркі сімвалізуюць цяпло і ласку, у якіх мае патрэбу галоўны герой. Павесяліўшыся з коткамі нейкі час, Марка сустракае пакрыўджанае некалі ім дзіця і ўсведамляе, што праз сваю грахоўнасць, «ваўкападобнасць» ён не заслугоўвае ні цяпла, ні любові, ні спагады — таго, чаго ён прагне. У энцыклапедычным слоўніку «Беларуская міфалогія» апісана павер'е, паводле якога нельга трымаць у доме ката, калі памірае чалавек, бо ў яго можа перайсці душа памерлага. «Магчыма, падобным уяўленням папярэднічала стаўленне да коткі як увасаблення душы (параўн. паведамленні кшталту "душа ў час сну скідаецца ў чорнага ката", "душа чарадзея выскоквае з хаты кошкай" ды інш.)» [4, с. 254]. У гэтай сувязі паўстае пытанне, ці коткі — гэта душы людзей, ці гэта жывыя людзі, перакінутыя ў котак. Адна з дзяўчат кажа пра тое, што яна ні жывая, ні мёртвая. З аднаго боку, яна ўсклікае, што лепш памерці, чым быць коткай (з чаго вынікае, што яна жывая), з іншага, з'яўляючыся ў Маркавых мроях, кажа пра сваю магілу, а значыць і смерць: «Не рві маіх кветак. Я садзіла гэтыя лілеі на сваёй магіле, палівала слязамі сваімі» [1, с. 134].

Чалавечае аблічча Марка вяртае сабе ў сне, які выразна падзяляецца на дзве часткі. У першай, прыемнай, герой лётае над рознымі мясцінамі. А вось другая частка напоўненая трывогай і завяршаецца яна жахам: «Я дрыжаў увесь ад страху, прасіў, каб даў мне спакой, але Волат моцна штурхнуў мяне, і я ўпаў на велізарныя грудзі шкілета, а разам з ім — у яму» [1, с. 135]. Палёт у сне ваўкалака звязаны з народнымі ўяўленнямі пра здольнасць душы перамяшчацца ў сне асобна ад цела, пра тое, што сон — гэта шлях у іншасвет. Паводле меркавання культуролага В. Руднева «чалавек пачаў бачыць сны з таго моманту, калі пачаў адрозніваць ілюзію ад рэальнасці і, тым самым, сон ад явы (лічыцца, што да гэтага чалавек жыў ў штодзённым галюцынаторным стане), гэта значыць з распадам міфалагічнай свядомасці. З гэтага часу людзі сталі надаваць значэнне сваім снам як "вокнам у іншую рэчаіснасць", запамінаць іх і спрабаваць тлумачыць» [7, с. 421]. З даследаванняў А. Б. Тайлара вынікае, што сны шмат значылі пры фарміраванні ўяўленняў пра душу: паколькі першабытны чалавек часта бачыў у снах мясціны моцна аддаленыя ад тых, дзе ён засынаў, то ён рабіў выснову, што падчас сну нейкая частка яго аддзялялася ад цела і блукала па свеце [10, с. 222–225]. «Душа падарожнічае, калі цела спіць, яна наведвае сяброў, спускаецца ў мінулае, пераадольвае вялікія адлегласці і паводзіць сябе так, як любая жывая істота. Гэты першасны вопыт можна знайсці ў разнастайных этнаграфічных сведчаннях» [12, с. 35]. Душы без цела ўласціва бязважкасць, таму яна здольная лётаць. У кнізе «Перажыткі старажытнага светусузірання ў беларусаў» (1895) вядомага этнографа А. Багдановіча чытаем: «Беларусы яшчэ захоўваюць перакананне,

уласцівае першабытнай ступені разумовага развіцця, што падчас сну душа выходзіць з цела і наведвае розныя мясціны, у тым ліку і такія, якія недасягальныя для чалавека, калі ён не спіць, як, напрыклад, свет нябожчыкаў. Але яна не пакідае цела зусім. Па меркаванні адных — яна як бы выцягваецца з роту ў выглядзе нябачнай стужкі, якая адным канцом застаецца ў чалавеку, а іншым можа быць, дзе захоча. Гэтым тлумачыцца, што цела падчас сну жывое. Іншыя ж, ігнаруючы апошнюю думку, мяркуюць, што душа выходзіць з цела цалкам, але, як бы далёка яна не адлучылася, не губляе цела з поля зроку, і калі яму пагражае небяспека ці спячага будзяць, то спяшаецца вярнуцца на сваё месца» [3, с. 48].

Лёгкасць душы Маркі, які лётае ў сне, можна трактаваць па-рознаму: як ачышчэнне ад граху, як пазбаўленне ад цела. Пазбаўленне ад цела можа адбыцца праз сон ці з-за смерці, бо герой нібы памірае для цела ваўкалака, а нараджаецца для цела чалавека. М. Бахцін такое перажыванне ў сне перараджэння называў крызісным сном [2, с. 253]. Новае жыццё Марка атрымлівае таму, што выкупіў свае грахі, ўратаваўшы дзіця. Для нас вельмі істотна, як гэта адбылося: «Нейкае прыемнае пачуццё і ціхамірнасць ахінулі мяне пасля гэтага здарэння. Я лёг пад дрэвам і заснуў у салодкіх мроях» [1, с. 134]. Апісанне сну Маркі даследчык Н. Перкін лічыць адным з найбольш ўдалых момантаў у творы, «узорам сапраўднага паэтычнага хараства» [6, с. 223]. «У гэтых рысах, поўных гармоніі, лагоднасці і хараства, уяўленне паэта малявала сабе ідэалізаваны вобраз шчаслівага жыцця. Баршчэўскі лічыў гвалтам над гэтай гармоніяй існаванне Іллі і падобных яму нядобрых людзей, якія з-за багацця здольныя на ўсе злачынствы» [6, с. 223]. У забыцці герой перажывае нанова сваё жыццё, за гэтым ідзе сустрэча з волатам, які дае яму новае цела — цела мерцвяка. «Барукаючыся са смерцю, я прачнуўся. Бачу: я — чалавек» [1, с. 135]. Сон у гэтым выпадку з'яўляецца пераходам з жывёльнага выгляду у чалавечы. Памірае не толькі жывёліна, памірае і мінулае Маркі. Яго грахі, крыўды на людзей забытыя. Але паміраюць назаўжды і яго спадзяванні на яднанне з каханай, сыходзіць у нябыт пачуццё. Вобраз новага чалавека, можа і чыстага, беззаганнага, — не вобраз шчаслівага чалавека, хоць пераўтварэнне прыносіць Марку вялікую радасць. Новы чалавек страціў усё, з мінулым ён страціў і будучыню. З той прычыны ён такі маркотны і неспакойны. Сам герой кажа пра сябе: «Памёр я для свету» [1, с. 127]. Праўда, нашая думка пра тое, што Марка назаўжды страціў мінулае і будучыню, ідзе насуперак меркаванню М. Хаўстовіча, які даводзіць, што сваім учынкам і перараджэннем у сне Марка якраз вяртае сваё мінулае — пра гэта сведчыць і вобраз кветкі-незабудкі, якая здольна часова вяртаць ваўкалаку аблічча чалавека (вярнуць памяць), і надзвычайная радасць шляхціца Завальні, які слухаў гісторыю Маркі, у фінале гэтага апавядання: «І шляхціц Завальня радуецца («Вялікі дзякуй, пане асэсар, што зрабіў мне такую прыемнасць. Скажу пану шчыра: такія апавяданні заўсёды мне па душы»), бо ягоны суайчыннік, нягледзячы

на, здавалася б, сваё канчатковае адступніцтва, перамог самога сябе, знайшоў шлях да сябе і сваіх» [11, с. 97].

Пра значэнне мінулага для Маркі расказваюць і яго сны ў абліччы ваўкалака. Заўважым, што ў апавяданні сны ваўкалака — тая павуцінка, якая знітоўвае яго з людзьмі. Яны — большая ява, чым усё тое, што акружае Марку. «Мой спачын быў заўсёды кароткі, і нязменна снілася мінулае: бацькоўскі дом, сябры мае маладосці, прыязныя суседзі; тыя хвіліны, калі прыйшло каханне да Алёны, забавы, нашыя размовы, яе вясёлыя вочы, яе зграбная постаць у шыкоўным строі, з вянком на галаве, — усё гэта прыходзіла да мяне ў сне, але здавалася яваю» [1, с. 130]. Часам Марку снілася, што каханая ўцякае ад яго ці гоніць яго ад сябе. Тады ён абуджаўся ў жаху.

Прыём ператварэння герояў у жывёл і птушак цесна знітаваны з фальклорам, які, як вядома, быў адной з крыніц натхнення рамантыкаў. Напрыклад, у казцы «Залаты гаршчок» Э. Т. А. Гофмана ёсць вобраз дзяўчынызмейкі. Вядомымі з'яўляюцца казкі «Каліф-бусел» (каліф і візір становяцца птушкамі), «Карлік Нос» (чараўніца робіць хлопчыка вавёркай) В. Гаўфа. Эстэтычная сістэма рамантыкаў, як неаднаразова зазначалася даследчыкамі, была блізкая і Я. Баршчэўскаму. Як можна ўпэўніцца, прыём ператварэння дае магчымасць не толькі падкрэсліць пэўныя здольнасці герояў ці пакараць іх, але і дазваляе глыбей прааналізаваць уласцівасці герояў, даследаваць і супаставіць вонкавае аблічча герояў з іх ўнутраным светам. Перакідванне ў ваўка мае пэўную літаратурную традыцыю. Іншая справа — ператварэнне героя ў насякомае, якое адбылося ў творах «Драўляны дзядок і кабета Інсекта» Я. Баршчэўскага і «Ператварэнне» Ф. Кафкі. Аднак, гэта нагода для другога даследавання.

## Літаратура


1. Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы / Я. Баршчэўскі; уклад., прадм. і камент. М. Хаўстовіча. — Мінск : Беларускі кнігазбор, 1998. — 480 с.
2. Бахтин, М. Проблемы поэтики Достоевского / М. Бахтин. — М. : Изд. худ. лит., 1972. — 472 с.
3. Богданович, А. Е. Пережитки древняго міросозерцания у белорусов. Этнографический очеркъ / А. Е. Богданович / Рэпрынтнае выданне. — Мінск : Беларусь, 1995. — 186 с.
4. Валодзіна, Т. Кот / Т. Валодзіна, Л. Дучыц [і інш.] // Беларуская міфалогія : энцыклапедычны слоўнік / склад. С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. — Мінск, 2004. — С. 254–255.
5. Наварыч, А. Літоўскі воўк : гіст. раман / А. Наварыч. — Мінск, 2005. — 285 с.
6. Перкін, Н. Абсягі думкі. Літаратурна-крытычныя артыкулы / Н. Перкін. — Мінск : Маст. літ., 1980. — 288 с.
7. Руднев, В. П. Сновидение / В. П. Руднев // Энциклопедический словарь культуры XX века: Ключевые понятия и тексты. — М., 2003. — С. 421–425.

8. Сказки и мифы папуасов киваи (из собрания Г. Ландтмана) / сост., пер. с англ. и пиджин инглиш Р. Л. Рыбкина; отв. ред. и автор предисл. Б. Н. Путилов. — М., 1977. — 328 с.
9. Слова пра паход Ігара // Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т імя Я. Купалы; А. І. Богдан [і інш.]; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск, 2003. — С. 166–175.
10. Тайлор, Э. Б. Первобытная культура. / Э. Б. Тайлор; пер. с англ. — М. : Политиздат, 1989. — 573 с.
11. Хаўстовіч, М. В. На парозе забытае святыні : Творчасць Яна Баршчэўскага / М. В. Хаўстовіч. — Мінск : ВТАА Права і эканоміка, 2002. — 186 с.
12. Döbler, H. Magie, Mythos, Religion : Kleine Kulturgeschichte / H. Döbler. — München : Orbis Verlag, 2000. — 358 s.

**Ірына Багдановіч** *(Мінск, Беларусь)*

## ВОБРАЗ БОНЫ СФОРЦА Ў ПОЛЬСКІХ І БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ ТВОРАХ XIX–XX СТАГОДДЗЯЎ, ПРЫСВЕЧАНЫХ БАРБАРЫ РАДЗІВІЛ

Вобраз Боны Сфорца знайшоў сваю літаратурную інтэрпрэтацыю ў польскіх і беларускіх вершаваных драматычных творах XIX і XX стст. Цікавасць пісьменнікаў да гэтай гістарычнай постаці выклікана ў першую чаргу яе дачыненнямі да Барбары Радзівіл. Гісторыя ўзаемнага кахання і таемны шлюб сына Боны Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл, як вядома, набылі надзвычай гучны розгалас у сваім часе, водгук якога, адбіты ў летапісах, чуцён праз вякі. Бона Сфорца, як каралева-маці, займала ў гэтай гісторыі пазіцыю непрыняцця закаханых і іх шлюбу, асабліва варожа яна ставілася да ненавіснай ёй «паганай літвінкі». У беларускіх і польскіх літаратурных версіях сімпатыі аўтараў, бясспрэчна, аддаюцца Барбары Радзівіл. Постаць Боны, як правіла, трактуецца негатыўна: у сваім непрыманні як асобы Барбары, так і ўчынку сына яна чыніць закаханым шматлікія перашкоды і ўрэшце, у якасці помсты, здзяйсняе грэх — інспіруе забойства Барбары. Аднак пісьменнікі ўносяць свае дэталі і нюансы ў мастацкую распрацоўку вобраза, каб зрабіць псіхалагічны партрэт каралевы яркім і найбольш пераканальным адпаведна таму часу і становішчу, якое займала Бона Сфорца.

У нашым дакладзе прадстаўлены чатыры мастацкія версіі Барбары і Боны. Дзве з іх польскамоўныя: трагедыя *«Barbara»* *Алаізія Фялінскага* ў пяці актах, напісаная ў класіцысцкім стылі, і рамантызаваная драматычная

паэма *«Barbara Radziwiłłówna»* *Антонія Эдварда Адынца* (асобнае выданне ў 1858 годзе) у шасці актах з пралогам. І два творы, напісаныя па-беларуску: гістарычная драма ў 2-х дзеях *«Барбара Радзівіл» Раісы Баравіковай* і драматычная паэма ў 3-х частках *«Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава*, абедзве апублікаваныя ў 1999 годзе.

У названых творах і ў самой рэальнай гістарычнай сітуацыі, што складае аснову сюжэта, прысутнічае і дамінуе канфлікт, важны для той эпохі: уладар, дзяржава — і права на асабістыя пачуцці, на асабістае шчасце. Інтарэсы дзяржавы і асабістае жыццё ўладарных асоб амаль ніколі не супадалі, а іх сумяшчэнне выклікала грамадскія хваляванні і пагражала небяспекай самой дзяржаве як на дыпламатычным полі (разрыў адносін з суседнімі краінамі), так і непарадкамі (бунтамі і рушэннямі) унутры свайго краю.

Чаму так дарагая ўсім беларусам-літвінам гісторыя кахання Барбары і Жыгімонта? Бясспрэчна, таму, што Барбара — гэта рэнесансавы сімвал красы, у якім знітаваны самавітая трываласць Вялікага Княства Літоўскага і моц кахання, якое перамагае ўсе перашкоды. У яе вобразе, заўсёды ідэалізаваным і ўзнёслым, спалучана краса знешняя і прыгажосць глыбокай і моцнай натуры, якую адухатварае высокае пачуццё. Такі ж і Жыгімонт. Ён каралевіч і будучы кароль — апошні з дынастыі Ягелонаў. На ягоных руках магутная, аб'яднаная дзяржава і неверагоднае мноства знешніх і ўнутраных палітычных праблем, якія запатрабуюць рашэння, а найперш ахвяравання асабістымі інтарэсамі. Так было да яго і так будзе надалей. Што ж робіць гэты вялікі і мужны рэнесансавы чалавек? Ён хоча паяднаць два інтарэсы — асабісты і дзяржаўны: не толькі не саромеецца свайго патаемнага шлюбу з Барбарай, які ў вачах маці, сейма і публікі быў чымсьці скандальным і недапушчальным, але смела аб'яўляе ўсім пра гэты шлюб і патрабуе яго прызнання. У літаратурных творах пісьменнікі падаюць гэтую акалічнасць звычайна ў рэпліках Жыгімонта, дзе ён кажа, што без Барбары для яго не існуе ні карона, ні дзяржава. Урэшце, усе мусяць прызнаць яго вяршэнства і яго права караля і чалавека быць самім сабой, прызнаць, што яго пачуцці — глыбокія і шчырыя — ёсць не меншы дзяржаўны скарб, чым сама карона і трон. Адбыліся, як вядома, афіцыйнае прызнанне сеймам Барбары за жонку Жыгімонта Аўгуста і ў хуткім часе каранацыя Барбары.

Аднак, прызнаюць усе, апрача маці караля Боны Сфорца. З 1518 г. яна дзяліла трон з Жыгімонтам І Старым, будучы ягонай другой жонкай — каралевай Польшчы і вялікай княгіняй літоўскай. З біяграфічных крыніц вядома, што Бона лічылася вельмі мудрай уладаркай, была дасведчанай у палітычных і гаспадарчых справах, вызначалася гнуткім розумам, моцнай воляй, настойлівасцю ў рашэннях. Адукаваная і выкшталцоная, яна ведала старажытных аўтараў, лёгка прамаўляла лацінскія арацыі. Як італьянка з паўднёвым тэмпераментам была досыць эмацыйнай, часам экзальтаванай. Эдвард Рудзкі

(вядомы біёграф каралеўскіх жонак Рэчы Паспалітай) піша: *«Uważano ją za wyniosła i miała licznych wrogów» («Яе лічылі ганарліўкай, і яна мела шматлікіх ворагаў»)*[1]. У вачах Боны Сфорца шлюб сына з Радзівілянкай быў *«niegodnym małżenstwom» («нявартым саюзам»)*, недапушчальным і шкодным з палітычнага гледзішча. Ужо аўдавеламу па першым шлюбе Жыгімонту каралева-маці жадала высватаць за жонку і будучую каралеву Польшчы габсбургскую прынцэсу. Прадстаўніца роду Радзівілаў не задавальняла каралеву не толькі з прычыны «нецарскай крыві» або нецнатлівых паводзін, але найперш з палітычнага гледзішча — недапусціць узвышэння магутнай літвінскай дынастыі, якое азначала і адпаведнае ўзвышэнне Вялікага Княства Літоўскага, ніколі не жаданае для польскіх каронных інтарэсаў. Такім чынам, вызначаўся яшчэ адзін важны ўнутраны, асабісты, канфлікт — канфлікт маці і сына, які ў вачах маці занядбаў сямейную традыцыю, а сваім скандальным учынкам зняславіў каралеўскую дынастыю і паставіў у палітычна небяспечную сітуацыю краіну.

Для пісьменнікаў адзначаныя канфлікты і гістарычныя постаці, з імі звязаныя, былі, бясспрэчна, удзячным матэрыялам для літаратурных інтэрпрэтацый і выражэння актуальных ідэй свайго часу. Класіцыст Фялінскі быў першапраходцам у дадзенай тэме. Вобраз Боны займае значнае месца ў яго трагедыі. Прычым як пісьменнік ён меў права на вымысел і мадэляванне пэўных сітуацый. Бона ў ягонай трагедыі выпісана як хітры і прадбачлівы палітык, які свой інтарэс праводзіць праз тонкую гульню. Напрыклад, у сцэне размовы з сынам напярэдадні сейма яна дае яму слушную параду адстойваць сваю, каралеўскую, пазіцыю і не паддавацца амбіцыям падданых. Іначай кароль «*na zawsze niewolnikiem jest swoich poddanych*» (*«назаўсёды будзе нявольнікам сваіх падданых»*)[2]. Але далейшая перасцярога, што Жыгімонт атрымае паразу на сейме — гэта ўжо частка той інтрыгі, якую шырока разгарнула сама Бона, каб выглядаць лагоднаю і памяркоўнаю ў вачах сына. Нібыта спрыяючы іх з Барбарай каханню, на самой справе яна дамагалася скасавання шлюбу праз сейм. Калі ж гэты варыянт праваліцца, заставалася адно — пазбавіць жыцця Барбару. Тактыка Боны была нацэленая на дасягненне дзвюх мэт: захаваць свой імідж добрай, любячай маці і дамагчыся пры гэтым староннімі сіламі ліквідацыі Барбары як аб'екта, які стаіць на шляху да правільных рашэнняў яе сына. У сюжэце Бона нават апякуецца Барбарай, называе яе дачкой, хоча выправіць яе ў Італію, у свой маёнтак Бары, каб не гарачыць і без таго напятую сітуацыю ў краі, звязаную з непрыняццем грамадскасцю Барбары за жонку Жыгімонта і будучую каралеву.

---

[1] Rudzki, E. Polskie Królowie (żony Piastów i Jagełłonów) / E. Rudzki. — T. 1. — Wyd. 2. — Warszawa, 1990. — S. 197.

[2] Feliński, A. Dzieła. Wydanie nowe / A. Feliński. — T. 1. — Wrocław, 1840. — S. 227.

Па намове Боны Барбару падманваюць, што на сейме Жыгімонт адрокся ад яе. Але падман хутка раскрываецца. У п’есе супраць караля рыхтуецца бунт, справакаваны таксама Бонай. Цяпер ужо Бона збіраецца ад’язджаць, а свой ад’езд яна тлумачыць тым, што не зможа глядзець на прыніжэнне сына. Аднак і мяцеж таксама не спрацаваў. У апошніх сцэнах — ад’езд Боны і атручэнне Барбары — прама ўказваецца на сувязь гэтых падзей. Забойства здзяйсняе Монцi — доктар-італьянец, які лячыў Барбару і паднёс ёй атруту. Жыгімонт даведваецца пра смерць любай жонкі і пра страшную ролю, якую ў гэтым адыграла яго маці. У заключнай, трагедыйнай, рэпліцы Жыгімонта зліліся пакута чалавека і роспач уладара дзяржавы: *«O Polsko! Jakże trudnej wytagasz ofiary»* (*«О Польшча! Якой жа цяжкай патрабуеш ахвяры!»*)[1].

У драме Адынца Бона Сфорца з’яўляецца толькі ў першым акце. Даведаўшыся пра абвяшчэнне сынам свайго шлюбу, яна перажывае абурэнне, называе той шлюб сорамам дому, занядбаннем яе мацярынскага гонару. Яна ненавідзіць Барбару як прадстаўніцу літвінскай дынастыі, абразлівымі словамі называе ўсіх літвінаў: «*Dzikie, głupie, stepowe stado!»* (*«Дзікія, глупыя, сцяпное стада!»*)[2]. У творы Адынца Бона рыхтуе помсту праз знахарку Праксэду, якая павінна паднесці Барбары атрутны напой з зёлак на мяжы, пры ўездзе ў Польшчу, калі тая будзе ехаць на каранацыю. Прысутнічае тут і персанаж Папагода — прыдворны Боны, яе памагаты, які за грошы таксама здольны выканаць самую брудную справу. Намаўляе Бона і польскага ваяводу Кміту, каб той сарваў шлюб Жыгімонта на сейме або зняў з яго карону як з караля. Дэвіз Боны ў гэтай сітуацыі: «*Rozwód albo bezkrólewie!»* (*«Развод альбо бескаралеўе!*»)[3].

Драма Адынца заканчваецца ўрачыстай сцэнай каранацыі Барбары і ад’ездам у Італію такога персанажа драмы, як малады паэт Ян Каханоўскі. Менавіта ягонымі вуснамі выказана тужлівае прароцтва, што, калі ён вернецца ў край, Барбары ўжо не будзе. Адынец ускладвае віну за смерць Барбары на шляхту і не развівае матыў атручэння Барбары Бонай. Аб гэтым сведчыць заключная рэпліка Яна Каханоўскага: «*O! Szlachto Polska! Biada tobie, biada! Tys w niej zabiła plemie Jagełłonów!»* (*«О! Польская шляхта! Гора табе, гора! Ты ж у ёй забіла племя Ягелонаў!»*)[4].

У беларускіх творах канца 1990-х гадоў праўдзіва захоўваюцца ўсе асноўныя рысы гістарычнага сюжэта. Аднак і Раіса Баравікова, і Аляксей Дудараў значна больш увагі, чым пісьменнікі XIX стагоддзя, надаюць

---

[1] Feliński, A. Dzieła. Wydanie nowe / A. Feliński. — T. 1. — S. 245.

[2] Odyniec, Ant. Edw. Barbara Radziwiłłówna / Ant. Edw. Odyniec. — Wilno, 1858. — S. 78.

[3] Ibid. — S. 101.

[4] Ibid. — S. 412.

Радзівілам Рудому і Чорнаму — братам Барбары і іхняй ролі ў другім замужжы сястры. Яно тлумачыцца не толькі праўдзівасцю кахання Барбары і Жыгімонта, але і інтрыгамі братоў, якім шлюб сястры і яе каранацыя адчынялі дзверы да вышынь улады ў дзяржаве. У сюжэце гэтых сучасных твораў Бона таксама негатыўна ставіцца да жаніцьбы сына, але ў новых версіях вобраза акцэнтуецца ўвага не толькі на асабістым непрыманні Бонай Барбары, але і на душэўных пакутах самой Боны як маці. Гэтыя пакуты эмацыйна дакладна і псіхалагічна напружана перадала ў сваёй драме Раіса Баравікова:

Каб ведаў хто, як зараз горка мне,
Чаго я тут, у гэтай старане?
Мне сын — чужы… Ён выбраў Радзівілаў.
Ну хоць бы колькі напісаў радкоў!
Яго, здаецца, нават не здзівіла,
Што я ў Варшаву з’ехала цішком.
Навошта я? Там без мяне ўсё проста.
За балем баль… Ёй хоча дагадзіць.
Барбара! Будзе страшнай мая помста —
Я ведаю, што трэба мне рабіць.
Мой сын, яна і я… Які трохкутнік,
Ды відавочна лішні адзін кут[1].

Такім чынам, пачуцці Боны-маці і Боны-каралевы аказваюцца важнымі, а яе пункт погляду на справу заслугоўвае спачування. Сітуацыя вымушае яе да помсты і ў нейкай ступені з’яўляецца калі не апраўданнем (бо грэх немагчыма апраўдаць), то падставай для прабачэння. У драме Р. Баравіковай, як і ў Фялінскага, сваю помсту Бона здзяйсняе рукамі таго ж Монці.

Аляксей Дудараў яшчэ больш узмацняе матыў апраўдання ўчынкаў Боны-маці, якая дбае пра сваё дзіця, што заблыталася ва ўласных пачуццях і абавязках. Як і ў Фялінскага, у яго Бона наладжвае дыялог з Барбарай, дыпламатычна выкарыстоўваючы розныя хітрыкі для дасягнення сваёй мэты — не даць адбыцца кароннаму саюзу Жыгімонта і Барбары. Яна нават правакуе іх на захаванне далейшай блізкасці. Паводле літаратурнай версіі Дударава, Бона наносіць асабісты тайны візіт Барбары і прапануе ёй стаць яе фрэйлінай для таго, каб каханая была заўсёды блізка да караля. Сам жа кароль, па яе словах, у гэты момант выехаў сватаць габсбургскую прынцэсу. Падманутая такім спосабам Барбара сама выпівае атруту, не жадаючы замінаць каханаму ў яго дзяржаўных справах і разумеючы сваю неадпаведнасць ролі каралевы. Дудараў перадае душэўныя пакуты Барбары, якая замест высокага і шчырага пачуцця, асвечанага шлюбам, мусіць задавальняцца роляй пабочнага аб’екта

[1] Баравікова, Р. Барбара Радзівіл / Р. Баравікова // Сучасная беларуская драматургія. — Мінск: Полымя, 1999. — С. 136–137.

каралеўскіх асалод: *«Я — фрэйліна… Я — фрэйліна… Быць побач / І быць далёка ад цябе… О не! / Такой пакуты не знайсці і ў пекле»*[1]. У п’есе Дударава створаны надзвычай моцныя характары персанажаў: Жыгімонт, які рвецца ў Вільню да пакінутай Барбары і гатовы адрачыся і ад Польшчы і ад кароны без яе; Бона, для якой страшны сон — *«Літвінка ўжо на троне»*; Барбара — ахвяра тонкага падману і інтрыг каралевы-маці: *«Я злу паверыла і грэшнай болей стала, / І не зямны, нябёсаў строгі суд / Абвесціць справядлівы свой прысуд…»*[2].

Такім чынам, чатыры творы двух стагоддзяў прадстаўляюць чатыры псіхалагічна персаналізаваныя вобразы Боны Сфорца (а таксама Барбары і Жыгімонта Аўгуста). Бона малюецца не толькі як увасабленне зла, інтрыг, помсты і бяздушнага выканання дваровага этыкету. Перажыванні самой Боны, маці і каралевы, яе ўнутраная барацьба ўлічваюцца як важны фактар для стварэння вобраза гістарычна даставернага і псіхалагічна пераканальнага. Літаратурная Бона — гэта не толькі ўвасабленне зла закулісных інтрыг, але і засмучаная жанчына-маці, а таксама экс-уладарка, якая страчвае ўладу. Менавіта гэтыя акалічнасці прымушаюць яе шукаць адпаведнае паняццям свайго асяроддзя выйсце і спакушаюць яе на грахоўныя ўчынкі. Раскрываючы вобраз Боны выключна ў сітуацыі з Барбарай Радзівіл, пісьменнікі нязменна падкрэслівалі яе жорсткую ўладарнасць, але не заўсёды развівалі тэму яе спрычыненасці да смерці Барбары. Такую спрычыненасць мы назіраем у трагедыі Алаізія Фялінскага і Раісы Баравіковай. Антоні Эдвард Адынец пакідае па-за сцэнай эпізод атручэння Барбары і ва ўсіх злачынствах вінаваціць польскую шляхту. Зусім выводзіць з падазрэння ў інспірацыі забойства Барбары Бону Сфорца Аляксей Дудараў, распрацоўваючы версію самагубства Барбары.

Такім чынам, чатыры мастацкія версіі вобраза Боны разглядаліся ў нашым дакладзе на чатырох літаратурных творах двух стагоддзяў. Яны даюць магчымасць убачыць гістарычны персанаж праз прызму літаратурных інтэрпрэтацый з улікам асаблівасцей часу напісання твораў і суб’ектыўнай пазіцыі кожнага аўтара. Вобраз Боны, за якой праз стагоддзі цягнецца шлейф «гістарычнай віны» ў дачыненні да Барбары Радзівіл, у разгледжаных творах прадстаўлены не столькі як негатыўны, колькі як вобраз трагедыйны.

---

[1] Дудараў, А. Чорная панна Нясвіжа / А. Дудараў // Полымя. — 1999. — № 2. — С. 43.

[2] Тамсама. — С. 51.

# ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

**Юрась Бачышча** *(Мінск, Беларусь)*

## ДА ПЫТАННЯ РАСПАЎСЮДЖАННЯ ПРАТЭСТАНТЫЗМУ НА ПАЎНОЧНЫМ ЗАХАДЗЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У 20-Я ГАДЫ ХХ СТАГОДДЗЯ

Пратэстантызм, які ўпершыню масава пашыраецца на беларускіх землях у XVI ст., у 20-я гг. ХХ ст. перажывае свой рэнесанс. Своеасаблівым феноменам стаў распаўсюд метадызму ў 20-я гг. ХХ ст. на Віленшчыне. Пачаткі метадызму на Беларусі найбольш лагічна тлумачацца метадысцкім пастарам Янам Пятроўскім. Ён піша, «што адразу пасля сусветнай вайны, калі беларускае насельніцтва ў Польшчы было ў катастрафічнай сітуацыі, частымі былі звароты па дапамогу да розных амерыканскіх арганізацый. Відаць, беларусы звярнуліся і да метадысцкага цэнтру, які аказаў дапамогу. Гэта была дапамога для беларускіх пасляваенных сіротаў, а пазней для інтэрнатаў сярэдніх школаў і беларускіх гімназіяў у Радашковічах, Клецку, а таксама ў Вільні» [2, с. 81].

Першыя згадкі аб метадыстах на беларускіх землях сустракаюцца ў перапісцы польскіх урадоўцаў. Стараста Віленска-Троцкі дакладаў у Вільню, што «да 1923 г. метадыстычную прапаганду праводзіў нейкі Марцін Лось, які скончыў курсы метадыстаў у Лодзі» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 17). Аднак верагодна, што ён быў памылкова занесены да метадыстаў, бо ў іншым дакуменце М. Лось двойчы фігуруе як баптыст (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 1, 5). З'яўленне метадысцкай царквы на Беларусі хутчэй за ўсё непасрэдна звязана з прыездам шведскага місіянера Джона Віта. Газета «Виленское утро» за 14 верасня 1925 г. паведамляла ў нататцы «Поспехі метадыстаў», што ў Вільню прыбыў генеральны прадстаўнік метадыстаў пастар Джон Віт і адразу пачаў закладаць метадысцкія суполкі ў трох ваяводствах — Віленскім, Навагрудскім і Палескім. Газета пісала, што на той час, «сп. Віт заклаў каля ста суполак, большасць якіх знаходзіцца па-за Віленскім ваяводствам» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 25). Найбольшую ўвагу місіянер надаваў беларусам. На снежань 1926 г. метадысты ва ўсходніх ваяводствах прысутнічалі ў 80 гмінах, населеных пераважна беларусамі, а колькасць іх у Польшчы сягала недзе да тысячы вернікаў (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 5).

Цэнтр місіі метадыстаў знаходзіўся ў Познані, дзе жыў біскуп Дарлінгтон. Яму падначальваўся суперінтэндант Віленскага дыстрыкта Эдмунд Чэмберс, які стала жыў у Варшаве. Паводле іншых крыніц, цэнтрам місіі быў Амерыканскі камітэт у Варшаве, на чале з біскупамі Чэмберсам і Удардам (З матэрыялаў, с. 10). Апроч іх у Варшаўскі Амерыканскі камітэт уваходзілі: Дранеўскі, дырэктар гімназіі ў Клярысове пад Варшавай, Галляш Ляўковіч, сакратар камітэту і адначасова сябра Беларускага нацыянальнага камітэта ў Варшаве, а таксама кс. Шчапкоўскі. Пастар Віт займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Ён часта бываў у Польшчы, Латвіі, розных усходніх ваяводствах. Менавіта праз яго праходзіла ільвіная доля перапіскі Антона Луцкевіча з Брытанскім замежным біблійным таварыствам у справе выдання беларускага перакладу Новага Запавету. Віт быў пасярэднікам з прадстаўнікамі таварыства ў Варшаве Аляксандрам Энгольцам, Берліне — Артурам Хэйгам і штаб-кватэрай таварыства ў Гельсінгфорсе Уілфрыдам Уайзманам (АР ЦНБ АНЛ, ф. 21, спр. 283, арк. 12–15; спр. 302, арк. 11). З перапіскі Віта з Луцкевічам бачна, што Віт моцна лабіраваў выданне Новага Запавету па-беларуску, бо не толькі перадаваў лісты Луцкевіча, але і пісаў свае, абгрунтоўваючы неабходнасць гэтага выдання.

Дзейнасць пастара Віта на беларускай ніве гэтым не абмяжоўвалася. Вядома, што метадысты фундавалі школы і інтэрнаты ў Радашковічах, Вільні, Слоніме і Клецку [4, с. 4]. У Клецку з вучнямі гімназіі працаваў пастар Нагуй, прыязджалі англічанін Чэмберс і швейцарац Дып. Аддзяленні місіі актыўна дзейнічалі ў Лідзе і Шчучыне [1, с. 202].

Цікава, што справа метадыстаў, нягледзячы на іх невялікую колькасць, моцна хвалявала польскі ўрад. Найперш гэта было звязана з беларускай нацыянальнай і палітычнай заангажаванасцю метадыстаў.

Паводле польскай канстытуцыі ад 17 сакавіка 1921 г. усе пратэстанцкія цэрквы адносіліся да непрызнаных канфесій, што выклікала пільны нагляд з боку ўладаў і абмежаванне пэўных праў. Таму 31 студзеня 1924 г. прадстаўнікі Міністэрства вызнанняў рэлігійных і асветы публічнай абавязалі метадыстаў абмежаваць сваю дзейнасць у абмен на часовае прызнанне іх праў у Польшчы. Прадстаўнік метадысцкай царквы ў Варшаве Э. Чэмберс засведчыў, што «місія метадыстаў будзе абмяжоўвацца ў сваёй дзейнасці толькі працай чыста гуманітарнай, праводзячы свае набажэнствы толькі ў закрытым коле сваіх аднаверцаў» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 186).

Такі стан метадысцкай царквы быў пацверджаны ў лісце намесніка міністра ўнутраных спраў да прадстаўніка ўрада ў Вільні ад 1 траўня 1925 г. Метадыстаў абавязвалі «ўстрымлівацца ад усялякай публічнай прапаганды» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 188). Да ліста далучаўся пералік асоб, якія былі прызначаны місіяй метадыстаў актыўна разгортваць рэлігійную дзейнасць на Віленшчыне. У гэты спіс патрапілі: Ян Маразовіч, Галляш Ляўковіч,

Марыя Смалонская, Аляксандра Протас, Любоў Кабяка, Мікалай Дуровіч, Ігнат Мятла і сенатар Уласаў (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 187).

Дзеля кантролю колькасці метадыстаў польскі ўрад кожны год рассылаў адмысловыя запыты (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 21, 23). З гэтых справаздач даведваемся, што на тэрыторыі Віленшчыны сфармаваўся Віленскі камітэт метадыстаў, у складзе кіраўніка сенатара А. Уласава, пасла Б. Тарашкевіча, яго жонкі Веры Снітко-Тарашкевіч, Я. Гаўрылюка, А. Більдзюкевіча, пасла А. Аўсяніка, С. Нядзведзкага і К. Крачкоўскага. Паводле прадстаўніка польскага ўрада ў Вільні У. Дваракоўскага, усе яны былі чальцамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) і парушалі падпісанае Чэмберсам абавязацельства, праводзячы актыўную палітычную агітацыю. Так, ён паведамляе, што 16 жніўня [1925–?] у Аляхновічах у прыватным памяшканні адбыўся сход, арганізаваны эмісарамі царквы метадыстаў. На ім падрабязна тлумачылася праграма БСРГ і прысутных заклікалі запісвацца ў яе шэрагі. А 21 жніўня таго ж году ў Варшаве адбыўся сход сяброў Варшаўскага беларускага камітэта. Сакратар камітэта Ляўковіч тлумачыў, што дзейнасць камітэта накіравана на «з’яднанне ўсіх беларусаў, якія жывуць у межах Польскай дзяржавы. Сродкам такога з’яднання павінна была стаць адзіная вера, а паколькі яна ўжо знайшлася і прыняла яго і іншых беларусаў у сваё ўлонне, толькі патрэбна гэтым скарыстацца. Злучаныя на грунце адной веры, беларусы павінны распачаць дзейнасць супраць прыгнятальнікаў» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 185–185 адв).

26 красавіка 1926 г. Дваракоўскі паведамляў куратару Віленскай школьнай акругі, што «ў беларускай гімназіі ў Радашковічах шырыцца прапаганда метадыстаў» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 26). Асабліва гэта датычылася гімназічнага інтэрната, дзе жылі 30 хлопцаў і 15 дзяўчат. Інтэрнат знаходзіўся пад кіраўніцтвам жонкі А. Уласава, а навучалі моладзь Эльжбета Шацманаўна і Марыя Смалонская. У нядзелю да інтэрната часта прыязджаў сенатар Уласаў і іншыя, а потым у сталоўцы інтэрната праводзілі набажэнствы. Старэйшыя казалі пропаведзі. А ў працоўныя дні кіраўніцтва інтэрната таксама збірала вучняў для супольных малітваў.

Час ад часу Радашковічы наведваў пастар Віт. Аднак Вілейскі стараста піша, што перадусім дзейнасць метадыстаў прапагандуе менавіта Уласаў. Апошні нібыта хоча папоўніць гімназіяльны фундуш праз субсідыю ад Віта за пашырэнне метадысцкай ідэі. Паводле звестак старасты, за межы інтэрната дзейнасць метадыстаў не выходзіць і не мае значнага ўплыву на мясцовы люд (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 9). Праўда, камісар урада ў справаздачы да ваяводы ад 22 снежня 1926 г. паведамляе адваротнае «Уплыў місіі метадыстаў у ваколіцах [Радашковічаў. — *Ю. Б.*] з кожным разам узмацняецца» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 5). Прычыну гэтага польскія чыноўнікі бачылі ў тым, што беларусы не мелі сваёй уласнай царквы.

3–5 жніўня 1926 г. у Вільні ў прысутнасці біскупа метадыстаў Дарлінгтона адбыўся з'езд метадыстаў Віленшчыны. На ім прысутнічалі каля сарака прадстаўнікоў розных гмін, сярод якіх былі палякі, амерыканцы, англічане, немцы, латышы, беларусы і літоўцы. На з'ездзе высветлілася, што колькасць метадыстаў нязначная, але павялічваецца. Беларусы былі прадстаўлены двума дэлегатамі з Радашковічаў, па адным з Глыбокага, Ашмянаў і Вілейкі (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 5).

Увогуле шырокая і добра арганізаваная сетка місій метадыстаў у розных краінах, а таксама, па падазрэнні польскіх улад, прыхільнае стаўленне метадыстаў да савецкага ладу, трактаваліся як небяспечныя фактары, якія могуць выклікаць антыдзяржаўную дзейнасць апошніх (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 160, арк. 5 адв). З пункту гледжання польскіх чыноўнікаў, за такую ўважалася любая дзейнасць на карысць беларускага народа. Метадысты ж вялі такую дзейнасць. Побач з Вітам, сваёй актыўнасцю вылучаўся Галляш Ляўковіч. З мэтай пашырэння новага веравучэння сярод беларусаў ім у 1925 г. былі падрыхтаваны і выдадзены асобнай кніжкай «Галоўныя асновы метадызму», дзе на шаснаццаці старонках на беларускай мове лацінкай тлумачылася вучэнне метадыстаў. У прадмове падкрэсліваецца пераемнасць з першай адозвай супольнасці метадыстаў, падрыхтаванай Джонам Уэслі. Пазначаецца, што гэта толькі першая частка, за якой мусіць быць другая з тлумачэннем унутранай і іерархічнай будовы царквы. Ляўковіч напрыканцы пісаў, што гэтыя магутныя праўды ўжо змянілі жыццё мільёнаў душ і ён будзе лічыць сваю працу недарэмнай, калі гэта кніга дапаможа ў будучыні дасягнуць таго ж самага на Беларусі.

Сутнасць метадысцкай царквы тлумачылася як «сход людзей», якія «збіраюцца разам для супольнай малітвы, злучаюцца для напамінання і пільнавання ўзаемнай любові, каб такім чынам супрацоўнічаць для атрымання збавення» (Hałoŭnyja, c. 3–4). Свой пачатак царква вяла з 1739 г. Адзінай умовай далучэння да царквы называлася «жаданне ўхіліцца ад Божага гневу і асягнуць збавенне» (Hałoŭnyja, c. 4). Асаблівая ўвага звярталася на тое, што вера мусіць адлюстроўвацца ў жыцці і справах чалавека. Да грахоў залічваліся — прызыванне імя Госпада надарэмна, купля альбо продаж у нядзелю, п'янства ці ўжыванне спіртных напояў, бойкі, спрэчкі, учыненне скандалаў, судовая цяганіна і адплата злом за зло, або здзекамі за здзекі, гандаль без аплаты падаткаў і інш. Асуджалася ўпрыгожванне сябе дарагімі рэчамі, пагоня за нягоднымі гульнямі, пяянне і чытанне кніжак, якія не вядуць да пазнання і кахання Бога, паблажлівасць да самога сябе, збіранне непамерных скарбаў гэтага свету, пазыкі звыш магчымасці іх вярнуць. Да добрых і міласэрных учынкаў адносна цела залічваліся кармленне галодных, апрананне голых, наведванне хворых і вязняў і дапамога ім; адносна душы — навучанне

несвядомых, напамінанне грэшных і праціўленне погляду, што «ад асабістага хацення можа залежаць аказванне дабра бліжнім» (Nałožnyja, c. 4–5).

Далей пацвярджалася вера ў асноўны хрысціянскі сімвал веры — св. Троіцу. Пералічваліся агульнапрынятыя кананічныя кнігі Старога і Новага Запавету і сцвярджалася, што яны ёсць адзіным цэлым і не пярэчаць адзін другому. Магчымасць збавення абвяшчалася толькі праз уласную веру ў Збаўцу, а не праз уласныя заслугі чалавека. Адмаўляліся каталіцкія вучэнні пра чысцец, абразы і мошчы, малітвы да святых.

Асобна агаворвалася пытанне мовы ў царкве. «Не згаджаецца з Божымі наказамі і адвечнымі звычаямі царквы маліцца, або выконваць св. Тайны ў мове, незразумелай для верных» (Nałožnyja, c. 12).

Прызнаваліся толькі дзве Таямніцы — Хрост і Гасподня Вячэра. У метадысцкай царкве маглі хрысціцца не толькі дарослыя, але і немаўляты. Святары маглі мець жонак і сем'і. Адмаўлялася абагульненне маёмасці вернікаў, але кожны мусіў па меры магчымасці ахвяраваць на бедных.

Пра ўзаемаадносіны царквы і дзяржавы пісалася, што «Абавязкам усіх Хрысціян, а асабліва пастараў, прызнавалася захаванне закону і тасаванне сябе да распараджэнняў улады таго гаспадарства, грамадзянамі якога яны лічацца або ў межах якога яны знаходзяцца» (Nałožnyja, c. 15).

Як бачна, асноўныя пастулаты метадызму стасаваліся з іншымі пратэстанцкімі кірункамі (апроч хрышчэння немаўлят), а агульны сімвал веры яднаў яго з усімі хрысціянскімі канфесіямі. Маральныя патрабаванні сапраўды маглі садзейнічаць пераменам да лепшага ў грамадстве, а выкарыстанне роднай мовы — пашырэнню нацыянальнай свядомасці.

З'яўленне і дзейнасць метадыстаў была насцярожана ўспрынята не толькі польскімі ўладамі, але і духавенствам іншых канфесій. Пропаведзь пратэстантаў сярод люду іншага вызнання звычайна выклікала канфлікты з прадстаўнікамі розных цэркваў.

У лютым 1927 г. Віленскі ваявода разаслаў у паветы цыркуляр, дзе гаварылася, што «ўсё часцей сустракаецца ў дзяржаве парушэнне грамадскага супакою на глебе вызнанняў, выкліканы спаўненнем практык рэлігійных праз вернікаў, г. зв. царквы народнай і метадыстаў…». Ваявода адзначаў, што часта ўмяшанне органаў бяспекі ў канфлікт яшчэ болей распальвала рэлігійнае напружанне. У іншым месцы чытаем, што даведаўшыся пра намеры А. Уласава пабудаваць у сваім маёнтку ў Мігаўцы Радашковіцкай гміны школу метадыстаў, «мясцовы праваслаўны поп і рымска-каталіцкі ксёндз пачалі з амбону выкараняць і проста кляйміць намеры п. Уласава і прыезджых святароў» (ЦДАЛ, ф. 51, воп. 1, спр. 2, арк. 69 адв). У выніку стасункі Уласава з папом былі разарваныя.

Найбольш дакладна ахарактарызаваў успрыманне і прыняцце мясцовымі людзьмі метадызму адзін з чытачоў газеты «Грамадзкі голас», які сам будучы з

Радашковіцкай воласці, пісаў, што «адны з удзячнасьці, другія з пераконаньня, а трэція з карысных пабудак пераймаюць гэтае вучэнне» [3, с. 4].

Метадысцкая царква не змагла значна пашырыцца сярод беларусаў. Органы бяспекі правялі шэраг арыштаў метадыстаў у Варшаве, якія «затрымалі далейшае развіццё метадысцкай царквы ў Польшчы» (З матэрыялаў, с. 11). Пасля разгрому Грамады і ад'езду ў 1931 г. пастара Віта з Беларусі актыўнасць метадысцкай царквы ідзе на спад. У канцы 20-х гг. змянілася і палітыка польскіх улад у рэлігійных пытаннях. З 1929 г. узмацніўся паліцэйскі надзор за дзейнасцю пратэстантаў, была забаронена рэгістрацыя суполак і спынена распрацоўка закона па прававому прызнанню пратэстанцкіх цэркваў. Да 1944 г. на Беларусі засталося ўсяго 10 метадысцкіх суполак [1, с. 202].

## Крыніцы і скарачэнні

АР ЦНБ АНЛ = Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

З матэрыялаў = З матэрыялаў II аддзелу Генеральнага штабу Польскай Рэспублікі // Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку XX ст. : артыкулы і ўспаміны / укл. А. Латышонак, С. Акінчыц; рэд. З. Шыбека. — Мінск, 2006. — С. 10–11.

ЦДАЛ = Цэнтральны дзяржаўны архіў Літвы.

Hałoŭnyja = Hałoŭnyja asnowy metadyzmu. — Waršawa : Misja Metadystau, 1925.

## Літаратура


1. Бажэнаў, Ю. Метадысты / Ю. Бажэнаў, М. Макулік // Рэлігія і царква на Беларусі : энцыкл. давед. — Мінск, 2001. — С. 202.
2. Бергман, А. Максім Бурсевіч / А. Бергман // Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку XX ст. : артыкулы і ўспаміны / укл. А. Латышонак, С. Акінчыц; рэд. З. Шыбека. — Мінск, 2006. — С. 69–85.
3. Валоцкі. Навачасны прарок / Валоцкі // Грамадзкі голас. — № 38. — 1925. — 11 сакавіка.
4. Латышонак, А. Беларускія палітыкі і пратэстанты. Ад «Гомана» да Грамады / А. Латышонак // Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку XX ст. : артыкулы і ўспаміны / укл. А. Латышонак, С. Акінчыц; рэд. З. Шыбека. — Мінск, 2006. — С. 3–9.

**Артур Высоцкі** *(Люблін, Польшча)*

# САВЕЦКАЯ СІСТЭМА АСВЕТЫ Ў 1939–1941 ГАДАХ У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І УКРАІНЕ ВА ЎСПАМІНАХ ПОЛЬСКІХ ВУЧНЯЎ І НАСТАЎНІКАЎ

У сваім выступе я хачу выкласці вынікі сацыялагічнага аналізу стаўлення польскіх вучняў і настаўнікаў да савецкай сістэмы асветы ў Заходняй Беларусі і Украіне 1939–1941 гг. Стаўленне, аб якім вядзецца, з'яўляецца надзвычай цікавай і разгорнутай ілюстрацыяй праяў і вынікаў кантакту з новай, адрознай грамадска-культурнай рэчаіснасцю. Паводле камуністычнай ідэалогіі і з гледзішча савецкага насельніцтва, сістэмныя рашэнні ў асвеце не сустрэлі станоўчага прыёму з боку польскага насельніцтва. Ва ўзятых для аналізу ўспамінах асаблівую ўвагу прыцягвае рэакцыя мясцовага насельніцтва на іншыя, у параўнанні з дагэтуль вядомымі, формы і змест савецкага школьнага навучання. Змешчаныя ў біяграфічным матэрыяле сведчанні пра суб'ектыўнае *пачуццё розніцы*, выклiканае кантактам з прадстаўнікамі савецкай культуры, утвараюць дакладны прадмет аналізу — такі прыём дазваляе раскрыць істотную розніцу паміж культурай, у шырокім разуменні, мясцовага і прышлага насельніцтва[1].

Сістэмным зменам у асвеце, якія пачаліся ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне ў першыя гады Другой сусветнай вайны, прысвячу толькі згадку, паколькі гэта агульнавядомыя факты, падрабязна апісаныя ў гістарычнай літаратуры. Засяроджуся на найважнейшай для мяне рэчы — пазіцыях польскага насельніцтва адносна ўведзеных змен; паспрабую пры гэтым не толькі апісаць найбольш тыповыя, але і патлумачыць іх.

Уваход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 г. на ўсходнія землі II Рэчы Паспалітай распачаў ваеннае панаванне і актывізаваў шматузроўневы працэс дастасавання старога грамадскага ладу да новага — савецкага, што ў боль-

[1] Асноўная частка эмпірычнага матэрыялу паходзіць са збораў Усходняга архіва (*Archiwum Wschodni*, далей — AW) пры фундацыі Цэнтр карты (*Fundacja Ośrodek Karta*) у Варшаве. Аналізаваныя ўспаміны, як правіла, з'яўляюцца матэрыяламі шматлікіх конкурсаў успамінаў 1989–1994 гг. У сувязі з гэтым варта памятаць, што на вобраз савецкай сістэмы асветы, які вынікае з гэтых матэрыялаў, паўплывалі розныя чыннікі, што мелі месца паміж самімі падзеямі і іх апісаннем. Падобна, што асабліва значным было жаданне аўтараў распавесці, перадусім, пра тыя факты, перажыванні і роздумы, якія не маглі быць выказаны ў часы ПНР і / альбо траплялі пад скажэнне ці паклёп з боку прапаганды. Гэтым можна тлумачыць (хаця, відавочна, не толькі і не галоўным чынам) адназначна негатыўную ацэнку савецкай сістэмы асветы палякамі. У цытаваных успамінах захоўваецца арыгінальнае напісанне.

шай ці меншай ступені датычыла кожнага, хто быў тады на гэтай тэрыторыі. Гэты працэс значыў не толькі юрыдычна-палітычную ўніфікацыю далучаных зямель з астатняй часткай Савецкай Расіі, але і (магчыма, нават, перадусім) спробы фармавання, выхавання новага тыпу грамадзяніна — савецкага чалавека. Як заўважае Рычард Пайпс, «адной з галоўных задач усіх інстытутаў [савецкай] дзяржавы, ад прафесійных саюзаў да Чырвонай Арміі, было прышчапленне грамадзянам камуністычных прынцыпаў» [5, s. 337]. Каб здзейсніць гэтую мэту на занятых тэрыторыях, СССР усялякімі сродкамі і метадамі намагаўся разбурыць ранейшыя грамадскія сувязі — сямейныя, рэлігійныя, этнічна-нацыянальныя і грамадзянскія. Навязванне новага грамадскага ладу трымалася на шырокай сістэме рэпрэсій ды разгорнутай індактрынацыі амаль ва ўсіх галінах грамадскага жыцця.

Адной з галоўных прыладаў прывучэння да новага грамадскага ладу была асвета. Ужо ў 1919 г. у праграме бальшавіцкай партыі школы яе назвалі «прыладай камуністычнага пераўтварэння грамадства», што адпавядала канстатацыі Леніна пра палітычна нейтральную адукацыю, якой папросту не існуе [3, s. 473–474].

Амаль адразу пасля ваеннага захопу ўсходніх земляў Польшчы, усім працоўным і навучэнцам было загадана вярнуцца да сваіх заняткаў [Kochanowski, s. 9]. Сістэмная рэарганізацыя школы з польскай на савецкую агулам заключалася ў: увядзенні ўсеагульнасці, абавязковасці і бясплатнасці навучання, поўнай нацыяналізацыі адукацыйных пляцовак ўсялякага кшталту, скасаванні падзелу на мужчынскія і жаночыя класы, ліквідацыі школ пры касцёлах і манастырах [Anders, s. 3], выкрэсленні з навучальных праграмаў рэлігіі, лаціны, грэчаскай мовы і прадметаў, звязаных з польскай дзяржавай (перадусім гісторыі і геаграфіі) разам з увядзеннем у якасці навучальных родных моў вучняў (беларускай, украінскай, рускай ды ідыш). У класах месцы герба Польшчы, крыжа і партрэтаў саноўнікаў II Рэчы Паспалітай занялі савецкія эмблемы і партрэты Сталіна, Леніна, Маркса, Энгельса. Замест даваеннай 12-гадовай поўнай сярэдняй школы (калі лічыць агульную школу, гімназію і ліцэй) была ўведзена трохступеневая сістэма: пачатковае навучанне (I–IV класы: 8–12 год), няпоўнае сярэдняе навучанне (I–VII класы: 8–15 год) і поўнае сярэдняе навучанне (г. зв. дзесяцігодка: I–X класы: 8–18 год) [Gdowski, s. 2–3]. Поруч з агульнаадукацыйнай школай у савецкай сістэме адукацыі функцыянавалі: прафесійная школа (базаваная пераважна на няпоўнай сярэдняй школе), завадскія школы, г. зв. школы працоўнага рэзерву, вечаровыя школы, курсы падвышэння кваліфікацыі для дарослых, а таксама яслі і дамы дзіцяці [Kozłowski, s. 2–3]. Школьны год быў падзелены на чвэрці, якія заканчваліся выстаўленнем адзнак, апошняя чвэрць заканчвалася экзаменам. Новыя прадметныя і праграмныя нормы, у параўнанні з міжваенным перыядам, сведчылі пра большую ролю дакладных навук.

Ад комплекснага навучання адмовіліся дзеля надання праграмнаму зместу нягнуткіх прадметных рамак, гэтак жа як ад пошукавых метадаў навучання — дзеля тлумачальных метадаў: лекцый, гутарак і працы з падручнікам. Такія змены, паводле ацэнкі аднаго са сведкаў, прывялі да ўсё большага раздраблення і расшчаплення атрыманых ведаў, пасіўнага, на памяць, засваення інфармацыі пераважна энцыклапедычнага кшталту і, урэшце, абмежавання самастойнага здабывання ведаў і самастойнасці ў інтэрпрэтацыі і выказванні думак [Wojnicz-Araszkiewicz, s. 5; гл. таксама: 1, s. 411–481; 9, s. 227–242; 7, s. 445–524; 2, s. 161–167; 11, s. 21–31; 12, s. 27].

Поўнае фармальнае дастасаванне школы ўсходніх зямель II Рэчы Паспалітай да савецкай адукацыйнай сістэмы адбылося ў першыя тыдні 1940 г. Тады былі ўведзены новыя планы, праграмы і навучальны змест, настаўнікаў рыхтавалі на колькідзённых тлумачальных сходах [Krupa, s. 18]. Нягледзячы на адсутнасць новых падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, перапоўнасць класаў ці недахоп адпаведна кваліфікаваных настаўніцкіх кадраў, рэформа была праведзена хутка і ў адпаведнасці з папярэднімі прынцыпамі [10, s. 91–92; Krupa, s. 22].

Якой была першая рэакцыя вучняў і настаўнікаў на ўведзеныя змены? У аналізаваных успамінах дамінуюць пачуцці здзіўлення, недаверу ці перакананасці ў недарэчнасці новых рашэнняў [Drodziński, s. 32]. «У навуцы не было ладу. Былі ўведзены новыя метады навучання і новыя парадкі. Выглядала гэта, быццам мы пачыналі вучыцца ўсяму ад канца» [Świderski, s. 6].

Структура савецкай мадэлі адукацыі была надзвычай іерархізаваная, з шырокімі кантрольнымі паўнамоцтвамі дзяржаўных і партыйных уладаў. Функцыянаванне асветных пляцовак падлягала цэнтральнаму кіраванню, што спалучалася з іх глыбокай стандартызацыяй і ўніфікацыяй. Вынікам сталі аднастайныя праграмы навучання і немагчымасць для настаўнікаў адвольна інтэрпрэтаваць праграмны змест. Падпарадкаванне новаму праграмнаму зместу і новым школьным патрабаванням было абавязковым, пад пагрозай страты працы ці нават волі. Першая масавая дэпартацыя 10 лютага 1940 г. толькі замацавала пазіцыю пакоры, страху і нежадання чыніць хоць які супраціў.

Усялякія праявы школьнага жыцця падлягалі класіфікацыі, планаванню, дакументаванню і ацэнцы (як правіла, у працэнтах). Былі ўведзены падрабязныя і разгорнутыя справаздачы дзейнасці школ. Яны, аднак, паўсюдна фальшаваліся. У выпадку невыканання закладзенага плана паўставала пагроза трапіць пад рэпрэсіі — ад абвінавачання ў сабатажы да высылкі ў лагер.

Галоўнай задачай савецкай асветы было не столькі забеспячэнне вучня неабходнай адукацыяй, колькі, перадусім, выхаванне, фармаванне грамадзяніна камуністычнай дзяржавы. Школа была адным з найважнейшых інстытутаў савецкай прапаганды. Індактрынацыя пачыналася ўжо на самым раннім аду-

кацыйным этапе [Aniśko, s. 9][1]. Яна рабілася задачай не толькі настаўнікаў, але і дзвюх камуністычных моладзевых арганізацый, дзейных у асветных установах — піянерскай і камсамольскай.

Любыя школьныя заняткі маглі быць скарыстаныя для прапаганды камуністычных каштоўнасцей праз бачны ці прыхаваны навучальны змест. Элементамі фармавання камуністычнага і матэрыялістычнага светапогляду, што паралельна пранізвалі навучальны змест кожнага прадмета, звычайна былі: атэістычнае выхаванне, інтэрнацыянальнае выхаванне, пачуццё савецкага патрыятызму (выяўлялася ў барацьбе за сацыялізм і супраць яго ворагаў) ды савецкі этас працы, вызначальны, сярод іншага, працоўным саперніцтвам (напр., спаборніцтва ў паляпшэнні наведвання ці адзнак у школе з папярэднім абяцаннем) [7, с. 485]. Прапаганда атэізму нярэдка вялася з выкарыстаннем найпрымітыўнейшых сродкаў: «[…] прыехала руская настаўніца і ўжо ў 1940 годзе пачалася навука па-руску. Я пачаў хадзіць у тую рускую школу: у першыя дні мы пісалі самыя простыя рэчы: мама, тата, баба і гэтак далей. Польскія дзеці былі звыклыя да іншай школы: маліліся штодня перад урокамі і на сканчэнне ўрокаў, кожны чацвер прыязджаў ксёндз […] на ўрок рэлігіі. Навука ў гэтай рускай школе была для нас дзіўнай. Настаўніца казала, што *Бог не даст конфет, а Совет даст*. Прыносіла ў жбане такія цукеркі-падушачкі і на словы: *Совет, совет, дай конфет!* — сыпала цукеркі. Крыж у класе знялі» [Borsuk, s. 1]. Што паказальна, паралельна з атэістычным выхаваннем паглыбіўся працэс сакралізацыі выяў камуністычных правадыроў, асабліва Сталіна. «Найважнейшымі навучальнымі прадметамі ў новай школе былі вывучэнне гісторыі ВКП(б) і канстытуцыі СССР. На першых такіх уроках, на лекцыю прыйшоў рускі настаўнік. Калі ён увайшоў у клас, а мы па старым звычаі ўсталі з месцаў для прывітання, ён з зычлівай усмешкай адгукнуўся словамі: *не надо, я не пан и молиться не будем, бога нет, от сейчас нашим богом будет Ленин и Сталин* […] Пасля некалькіх урокаў па гэтым прадмеце, ён даручыў нам, каб мы дома зладзілі *красный уголок* з партрэтам Леніна і Сталіна, а яшчэ лепш з іх бюстамі, якія ўжо наплывалі да нас ва ўсё большай колькасці, як ці не адзіныя найважнейшыя пастаўкі, для задавальнення культурных патрэб вызваленых народаў. Гэта падавалася ліцэістам з максімальнай сур'ёзнасцю. Ясна, мы мелі да гэтага адпаведнае стаўленне, хаця нельга было нават найменшым жэстам выявіць нашыя сапраўдныя пачуцці. Настаўнік за ўзор ставіў нам савецкіх вучняў, якія ў сябе дома ладзілі алтарыкі, нават у кожным куце памяшкання, дзе жылі чатыры сям'і» [Muzyk, s. 14]. Працытава-

---

[1] Аўтар успамінае: «Мой найменшы брат пайшоў у школу, зарганізаваную ў маёнтку. Яму было 6 год з паловай. Праз пару месяцаў ён сказаў сваякам, што мае бацьку Сталіна, пазней прачытаў верш: *“Як паночкі уцякалі / рукавіцы пагублялі / рукавіцы і партфелі як шалёныя ляцелі”* (у арыгінале: *“Jak panoczki uciekali / rukawicy pohablali / rukawicy i portfele / jak szalonyje lecieli”*)».

ны фрагмент сведчыць пра істотныя разыходжанні паміж ранейшым і новым грамадскім ладам. Польскасць вызначала той тып культуры, якая інтэгруе на грунце нацыянальнай ідэалогіі (нацыянальная сувязь), дзе цэнтральнае месца займала каталіцкая рэлігія. Што да савецкага тыпу культуры, тая інтэгруе на базе класавай ідэалогіі (класавая сувязь), месца рэлігіі займае сакралізаваны вобраз Леніна і Сталіна. Адсюль жа, паводле даследчыцы савецкай сістэмы асветы Эльжбэты Трэлі-Мазур, «усебаковыя дзеянні прапагандыстаў-сейбітаў не заўсёды траплялі […] на падатлівую, урадлівую глебу» [10, s. 83].

Асаблівай формай калектыўнай агітацыі настаўнікаў і вучняў былі мітынгі, зарганізаваныя звычайна з нагоды важных падзей ці дзяржаўных гадавін, напр., перад выбарамі ці пачаткам савецка-фінскай вайны [Wojnicz-Araszkiewicz, s. 6]. «Гэта былі цяжкія часы, — успамінае адна з вучаніц. — Штодня ладзіўся на вялікім перапынку мітынг, прысутнасць на якім была абавязковай. Ён заўсёды рабіў на нас вялізнае ўражанне, яго ўзмацняў паўзмрок, спецыяльна, хіба, укручвалі слабыя лямпачкі. Сяброўкі каля мяне часта млелі — мы ніколі не ведалі, ці не прымусяць нас да чаго-небудзь, ці наступным днём зможам пайсці ў школу» [Wojnicz-Araszkiewicz, s. 5–6].

Даволі хутка выявілася, што навакольная рэчаіснасць выразна разыходзіцца з тым, што абвяшчала прапаганда. Абяцаныя карціны шчаслівай будучыні, ухвала генія савецкіх правадыроў і вучоных, падкрэсліванне сучаснасці поглядаў і дасягненняў савецкіх грамадзян сутыкаліся, не толькі ва ўспрыманні польскага насельніцтва, са штодзённай барацьбой за існаванне, за асноўныя тавары, з распрацаванай сістэмай рэпрэсій, безупынным страхам арышту, дэпартацыі, даносу, даведзенай да мяжы абсурду бюракратыяй ды г. д. [8, s. 249–250].

Кіраўніцтва школ з часам было амаль цалкам зменена, а поруч з ранейшымі настаўнікамі з'явіліся новыя, прышлыя з усходу педагогі. Пасада дырэктара школы стала палітычнай (а дакладней — партыйнай). Паступова вялася селекцыя педагагічнага асяроддзя з выключэннем настаўнікаў «няпэўных» поглядаў і «неналежнага» сацыяльнага паходжання. Узмоцненая патрэба ў новых кадрах прывяла да працаўладкавання асоб з нізкай кваліфікацыяй (напр., пасля кароткіх курсаў павышэння кваліфікацыі) [Borodyn, s. 2]. Як ацэньвае Войцех Сьляжыньскі, «у кантактах старых кадраў з новымі ўражвала адсутнасць культуры і павагі, характэрных для асобы настаўніка. Савецкія педагогі не здолелі здабыць сімпатыі вучняў. Даючы нізкі ўзровень навучання і не імпануючы сваёй павярхоўнасцю, яны стваралі добрую тэму для жартаў і кпінаў. Культурныя адрозненні часта былі прычынай смешных сітуацый […]. Паводзіны прышлых з усходу кадраў […] паўсталі ў выразнай супярэчнасці са звычаямі, прынятымі ў даваеннай школе» [7, s. 499–500].

Ад пачатку савецкія ўлады спрабавалі змяншаць ролю настаўніка праз абмежаванне правоў, мінімальны заробак, альбо, урэшце, праз факт змены назвы самой прафесіі: настаўніка (*учитель*) перайменавалі ў школьнага

працаўніка (*школьный работник*). Савецкая сістэма ў тагачасных умовах не прадбачыла для настаўніка шырэйшай грамадскай ролі, апрача толькі звязанай з перадачай ведаў ці нават выхаваннем моладзі. З улікам таго, што такая роля вымагала адукаванай асобы, настаўнік, як мала хто, быў прыдатны для фармавання поглядаў усіх грамадзян дзяржавы. Настаўнік стаў агітатарам. Ён быў уключаны ў машыну ўкаранення камуністычнай ідэалогіі праз накладанне шэрагу дадатковых, звыш адукацыі, функцый: ад тлумачальных сустрэч з бацькамі сваіх вучняў да агітацыі ў мясцовым асяроддзі за палітычныя дзяржаўныя змены (лекцыі, артыкулы ў прэсе, гутаркі ды інш.). Каб перачакаць цяжкі перыяд акупацыі, шмат польскіх настаўнікаў больш ці менш свядома падпарадкоўваліся правілам новай рэчаіснасці [7, s. 506–507]. Частка іх верыла ці хацела верыць у высокія лозунгі новай школы, але заўважала велічэзны разлад паміж імі ды іх рэалізацыяй, ці не згаджалася з метадамі насаджэння. Іншыя прынялі канфармісцкую пазіцыю, «зыходзячы з прынцыпу, што лепш застацца з моладдзю і лагодзіць жорсткі палітычны курс выхавання […] ды спрабаваць ахоўваць вучняў ад дэпартацыі» [10, s. 93].

Атмасфера ў школе была прасякнута страхам і няўпэўненасцю, абумоўленымі бояззю даносу ў найбліжэйшым атачэнні. Паклёпніцтва атрымала дазвол і стала адной з грамадскіх нормаў, што вызначала пажаданыя грамадзянскія паводзіны. Ранейшыя сяброўскі сувязі былі гэткім чынам разбураны, а нефармальныя кантакты паміж вучнямі абмяжоўваліся вузкім колам найбольш давераных і надзейных сяброў [Adamowski, s. 4; Arciszerwski, s. 1; Brodziński, s. 37–39].

Школа перастала вучыць самастойнаму мысленню, вольнай інтэрпрэтацыі падзеяў, якія адбываліся вакол. Адаптацыя да новай рэчаіснасці значыла адмову ад сваёй індывідуальнасці дзеля ўласцівага савецкай дзяржаве калектывізму. Заняпад аўтарытэту настаўніка[1], паслабленне дысцыпліны і разлад паміж праграмным зместам і навакольнай рэчаіснасцю пацягнуў за сабой спад прэстыжу школы і навучання ўвогуле[2].

---

[1] Даходзіла да сітуацый, якія цяжка ўявіць у польскай даваеннай школе. Прыкладам з'яўляецца апісаная адным з аўтараў успамінаў гульня ў снежкі ўзімку 1940–41 гг.: «сітуацыя радыкальна змянілася, калі ўвялі спаборніцтва. Яно заключалася ў тым, што хлопцы з усіх класаў абступалі толькі аднаго настаўніка і біліся з ім снежкамі. Пачаткова я здрыгаўся ўжо нават ад самой думкі, каб кінуць у яго снегам, […] неяк зусім не меў мужнасці, каб проста так зрабіць сабе снежку і кінуць у твар, нібыта не было настаўніка. Таму спачатку бяздзейна прыглядаўся, аж пакуль урэшце не ўвайшоў у нейкі злы дух, ды не наважыўся. З кожным наступным днём быў штораз больш баявым. Дайшло нават да таго, што з нецярпеннем чакаў гэтага перапынку, а верхам мараў было патрапіць яму ў правае косае вока» [Sobków, s. 111].

[2] Адзін з аўтараў успамінаў піша: «Недзе пад канец кастрычніка, бліжэй да другой паловы, пачаліся заняткі ў школе, якія згадваю з вялікім замілаваннем. Узялі

Вучань трапляў пад безупынную індактрынацыю ў школе і ў яе атачэнні. Малодшыя вучні лягчэй падпарадкоўваліся ўплыву прапаганды і ахвотней удзельнічалі ў рознага кшталту гуртках па інтарэсах, піянерскіх і камсамольскіх дружынах. Старэйшыя вучні, больш абазнаныя ў культуры даваеннай Польшчы, цяжэй засвойвалі каштоўнасці савецкай школы і часцей ўчынялі (пераважна незарганізавана і спантанна) супраціў. Ён палягаў, як правіла, на самаадукацыі [Borodyn, s. 2–3] ці на акцыях, якія ў гітлераўскай акупацыі азначаліся як «малы сабатаж»[1]. Сярод малодшых вучняў у большай ступені, хоць далей няшмат, з'яўляюцца прыклады станоўчай ацэнкі савецкай школы. Гэта выказванні кшталту: «У школе развіўся мой музычны талент» [Krupa, s. 22] альбо: «Пачалося сур'ёзнае навучанне ў замкнёнай сістэме, якая нават ўцягвала, на што, пэўна, уплываў і ваенны разлад. Можна было мецъ да яе шмат заўваг, але, калі хто хацеў, мог шмат чаму і навучыцца. Было бачна, што ўлады надаюць гэтаму вялікую ўвагу, у сувязі з чым школа і навучанне былі адной з нешматлікіх галін на добрым узроўні» [Zieliński, s. 27–28]. Гэта, аднак, былі спарадычныя выпадкі, бо пазнавальныя функцыі савецкай школы адсоўваліся польскімі вучнямі на другі план, як менш значныя і каштоўныя. На першым плане, галоўным чынам, бачылася яе ідэалагічная функцыя.

---

тады за гонар не перазаймацца навукай — вайна, то ёсць важнейшыя справы, дык ці варта так спецыяльна высільвацца, зубрыць, добра вучыцца? Гэта было неяк дробязна — вучыцца на адзнаку. Таксама і я, які быў сапраўды першым у сваім класе, вельмі добра вучыўся, пачаў вучыцца вельмі пасрэдна, бо было шмат цікавых рэчаў […]» [Bułhak, s. 42].

[1] Прыкладам можа служыць такі расповяд: «Калі прыйшоў час адзначаць першае свята, гадавіну рэвалюцыіі, дзякуючы прафесару-камуністу, дырэкцыя дазволіла змясціць над дзвярыма нашага "польскага" класа транспарант з залатым надпісам (пра бел-чырвоны не вялося) на чырвоным фоне "Жыве Савецкая Польшча!". Які ж гэта быў скандал, калі на другі дзень выявілася, што нехта адцяў слова "Савецкая"» [Muzyk, s. 14]; «Са старэйшых класаў у класе стварылі хор. Калі нас вучылі "Інтэрнацыяналу", нам прапанавалі ўкраінскую, рускую і польскую версіі. Мы выбралі нашу. Кіраўнік хору вучыў нас таксама песні пра Сталіна, у якой словы "Наш народ за Сталином идёт" мы вельмі гучна спявалі "идиот". Паколькі кароткае *і* ў нашым выкананні было недасяжным ў тым выразе, ён мусіў адмовіцца ад гэтай кантаты. Тое ўзняла наш дух і мы маглі супрацьстаяць уладзе спосабам, якому нельга было нічога супрацьпаставіць» [Wojnicz-Araszkiewicz, s. 8]; «У змененую школу прыйшоў украінска-рускі настаўнік спеваў, брунет з палкімі вачыма, празвалі яго Багун; ён казаў вучыць рэвалюцыйныя песні, каб выступіць падчас кастрычніцкай урачыстасці — помста (сабатаж, несубардынацыя) палягала на тым, што падчас рэпетыцыяў спявалі найлепш як умелі, затое падчас урачыстасці "забываліся" словы» [Anders, s. 1]; «Адмянілі школьную форму як праяву панскага прыгнёту вучняў перад вайной. На ўрачыстасці мы апраналі асабліва кідкія і не пасуючыя дэталі ўбору» [Anders, s. 1].

## Высновы

З прычыны гвалтоўнага працэсу сістэмных пераўтварэнняў, у тым ліку ў галіне адукацыі, польскаму насельніцтву было цяжка заставацца нейтральным. Гэты працэс датычыў практычна ўсіх і ў большай ці меншай ступені прымушаў да пэўных паводзінаў. У выніку, прыманне той ці іншай пазіцыі рабілася няўхільным. На іх змест, кірунак і моц уплывалі не толькі непасрэднае сутыкненне з савецкімі інстытутамі і асобамі ва ўмовах вайны і акупацыі, але і папярэднія гэтаму кантакту чыннікі — асабісты досвед, веды пра царскую, а пазней савецкую Расію, переказы ў сем'ях з пакалення ў пакаленне альбо праз сродкі масавай інфармацыі (ці праз папулярную на той час падарожную літаратуру), афіцыйная антыбальшавіцкая прапаганда ўлад II Рэчы Паспалітай, а таксама ўзяты з тых ці іншых крыніц цэлы комплекс стэрэатыпаў адносна нацыянальных і этнічных груп, што знаходзіліся на тагачасных занятых Чырвонай Арміяй землях [6, s. 162–187]. Аналізуючы гэтыя пазіцыі на прыкладзе сістэмы ўсеагульнай школы, як адносна вучняў, так і настаўнікаў, можна прыйсці да наступных высноў.

Вынікі сістэмных пераўтварэнняў у сферы адукацыі ў дачыненні да польскага насельніцтва адыходзілі ад пачаткова планаваных. Пачатак нямецка-савецкай вайны перарваў нядаўна распачаты працэс і вучні ніводнага ўзросту на якім-небудзь ўзроўні адукацыі не прайшлі поўнага цыкла савецкай адукацыі і выхавання. У гэтым святле цяжка зрабіць адназначныя высновы, што да плённасці ўзятых метадаў і падатлівасці ім мясцовага насельніцтва, да таго ж, з улікам пададзенай тут перспектывы, даволі значным быў уплыў і культурных чыннікаў. Навязаная мадэль асветы ўсведамлялася польскім насельніцтвам як чужая і недапасаваная ані да яе патрэб, ані да менталітэту. Уражвала стаўленне да асветы і навучання як да інструмента насаджэння камуністычнай ідэалогіі, навязанне выхавання ў духу інтэрнацыяналізму і савецкага патрыятызму (замест нацыянальнага патрыятызму і гонару за нацыянальныя традыцыі), увогуле, адмаўленне нацыянальных і рэлігійных каштоўнасцей (а ў выніку — ранейшай пазіцыі польскасці ў адукацыйнай сістэме). Галоўнымі атрымальнікамі выгадаў сталі іншыя нацыянальныя і этнічныя групы (украінцы, беларусы, габрэі, літоўцы і рускія). Польскае насельніцтва набыла ў такой мадэлі статус нацыянальнай меншасці, што выявілася ў колькасці профільных установаў, прысутнасці польскай мовы як мовы навучання і праграмах ды змесце адукацыі. Цяжкім для прымання быў да таго ж стан рэчаў, у якім арганізацыйныя і людскія высілкі, адарваныя, як правіла, ад рэальных патрэб і актуальнай грамадскай карысці, былі разлічаны, галоўным чынам, на агітацыйны эфект, прычым сам змест прапаганды нярэдка істотна адыходзіў ад тагачаснай рэчаіснасці. Апрача таго, цяжкімі для разумення і прымання для насельніцтва былі такія элементы новай адукацыйнай сістэмы, як развітая і паглыбленая бюракратыя, адмаўленне

ранейшых школьных звычаяў, адсутнасць самакіравання калегійных органаў ды, што асабліва крыўдна ў ацэнцы даваенных кадраў, заняпад прэстыжу настаўніка, як з-за перафармулявання яго ролі ў новай мадэлі, так і з-за недастатковай кваліфікаванасці, асабліва ў дачыненні да новых кадраў. У выніку «сутыкненне са школай, дзе быў паўсюдны дух бязбожжа, прапаганда марксізму-ленінізму і выключна матэрыялістычнае асвятленне прыродных з'яў — сталася культурным шокам» [7, s. 480].

Як ацэньвае Альбін Главацкі, савецкая асвета прынесла з сабой таксама пэўныя выгады. Яна ўзняла даступнасць адукацыі сярэдняга ўзроўню, асабліва для асоб вясковага і працоўнага паходжання. Дзякуючы ўвядзенню сістэмы адзнак, абапертай на сістэматызаваную і ўніфікаваную праграму навучання, у пэўным сэнсе раўняліся шанцы для ўсіх, з'явілася магчымасць дасягнуць адукацыйнага поспеху і вучням з пасрэднымі здольнасцямі [1, s. 480–481]. Да таго ж, можна казаць, асабліва на пачатковым этапе, пра павышэнне статусу беларускай, украінскай, габрэйскай і рускай школы, дзякуючы ўвядзенню нацыянальных моў як навучальных паўсюль, дзе гэта вынікала з нацыянальнай структуры і волі мясцовай супольнасці [4, s. 159–164].

Такім чынам, ажыццяўленне асноўнай мэты савецкай сістэмы асветы, якой была ў «найкарацейшы час — найлепш цягам аднаго пакалення, суцэльная змена менталітэту грамадзян і яе дастасаванне да шаблонаў камуністычнай рэчаіснасці» [7, s. 491], напаткала істотную перашкоду (у дадатак да іншага) у пазіцыі культурнага несупадзення паміж польскім насельніцтвам і савецкім грамадскім ладам.

*З польскай мовы пераклала Вольга Мазурава.*

## Крыніцы


Adamowski S. Wspomnienia. AW II/560.
Anders M. Byłam uczennicą dziesięciolatki w Stanisławowie. AW II/1226/2K.
Aniśko A. Wschodnie losy Polaków — konkurs zwierzenia. AW II/20.
Arciszewski W. Wspomnienia z sowieckiego więzienia 1939/40 roku. AW II/585.
Borodyn Z. Relacja. AW I/52.
Borsuk W. Relacja. AW I/54.
Brodziński W. K. W drodze. AW II/2766.
Bułhak H. Relacja. AW I/70.
Drodziński W. K. W drodze. AW II/2766.
Gdowski J. Rzeczywistość okupacji sowieckiej 1939–41. AW II/2347.
Kochanowski J. Relacja. AW I/1206.
Kozłowski R. Relacja. AW I/393.
Krupa A. Relacja. AW I/410.
Muzyk L. Za Bugiem. AW II/1803/J.
Sobków M. Koropiec nad Dniestrem (1425–1993). AW II/2577.
Świderski S. Krew za krew. Od śniegów Sybiru do Monte Cassino. AW II/2194/p.

Wojnicz-Araszkiewicz M. Wkroczenie wojsk sowieckich, represje, życie codzienne w Łucku we wspomnieniach 17-letniej licealistki. AW I/12.

Zieliński Z. Lwowskie okupacje. AW II/1501/2K.

## Літаратура


1. Głowacki, A. Oświata i szkolnictwo wyższe / A. Głowacki // Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939–1941. — Łódź, 1997.
2. Jackiewicz, S. A. Oświata narodowa na Białorusi Zachodniej w latach 1939–1941 / S. A. Jackiewicz // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia i Litwa Wschodnia) w latach 1939–1941 / red. M. Giżejewska, T. Strzembosz. — Warszawa, 1995.
3. Komunistyczna Partia Związku Radzieckiego w rezolucjach i uchwałach zjazdów, konferencyj i posiedzeń plenarnych KC. — Warszawa, 1956. — Cz. I : 1898–1924.
4. Mironowicz, E. Białoruś / E. Mironowicz. — Warszawa, 2007.
5. Pipes, R. Rosja bolszewików / R. Pipes. — Warszawa, 2005.
6. Radzik, R. Polsko-białoruskie stereotypy w międzywojennym dwudziestoleciu / R. Radzik // Kim są Białorusini? — Toruń, 2002.
7. Śleszyński, W. Polityka oświatowa władz sowieckich na Białostocczyźnie. Ideologiczna i propagandowa rola szkoły sowieckiej / W. Śleszyński // Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939–1941. Propaganda i indoktrynacja. — Białystok, 2001.
8. Trela-Mazur, E. Kontrola procesu nauczania i nauczycieli w szkołach obwodu lwowskiego w 1940 roku / E. Trela-Mazur // Sowietyzacja Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej / red. A. Sudoł. — Bydgoszcz, 1998.
9. Trela-Mazur, E. Reorganizacja oświaty na okupowanych ziemiach wschodniej Polski w latach 1939–1940 / E. Trela-Mazur // Sowietyzacja Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej / red. A. Sudoł. — Bydgoszcz, 1998.
10. Trela-Mazur, E. Sowiecki system oświatowy na ziemiach wschodniej Polski na przykładzie Wydziału Oświaty Ludowej we Lwowie / E. Trela-Mazur // Okupacja sowiecka ziem polskich 1939–1941 / red. P. Chmielowiec. — Rzeszów; Warszawa, 2005.
11. Wierzbicki, M. Stosunki polsko-białoruskie w okresie okupacji sowieckiej ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (1939–1941) / M. Wierzbicki // Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941). Obywatele polscy na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką w latach 1939–1941 / red. T. Strzembosz. — Warszawa, 1997.
12. Wnuk, R. «Za pierwszego Sowieta». Polska konspiracja na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej (wrzesień 1939 — czerwiec 1941) / R. Wnuk. — Warszawa, 2007.

**Лена Глагоўская** *(Беласток, Польшча)*

# АТОН КРАСНАПОЛЬСКІ — СКУЛЬПТАР І АРХІТЭКТАР МІНСКА, ВІЛЬНІ І ГДАНЬСКА

У гісторыі польска-беларускіх адносін XX ст. згубілася шмат постацей, якія адыгралі немалаважную ролю. З-за складанасці нацыянальных лёсаў яны вядомы найчасцей у гісторыі аднаго народа (польскага). Заслугі іх перад іншай нацыяй — беларускай — часта заставаліся ў ценю або наогул забываліся. Такой асобай шмат дзесяцігоддзяў быў скульптар і архітэктар Атон Краснапольскі, самы плённы перыяд у жыцці якога — мінскі — ахоплівае не так і шмат гадоў.

Постаць Атона Краснапольскага зараз амаль забытая, хаця спадчына яго часткова захавалася ў форме архітэктурных помнікаў, а таксама артыкулаў. Кар'еру сваю Краснапольскі пачынаў у Мінску. Дасюль па вуліцы Кірава, 11 стаіць будынак былога Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі, на якім апошнім часам пасля рамонту з'явілася мемарыяльная дошка з інфармацыяй, што будынак 1911 г. былога Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі, які спраектаваў «арх. А. Краснапольскі» — гэта «гісторыка-культурная каштоўнасць». У Беларусі пра архітэктара згадвалі ў сваіх працах Леанід Дробаў [3], Зянон Пазняк [5] і Захар Шыбека [8]. Апошні напісаў пра мастацкую выстаўку ў Мінску 1911 г., на якой Атон Краснапольскі прадстаўляў свае скульптуры [8, с. 173]. Адбывалася яна ў Польскім грамадскім таварыстве «Агніска» па ініцыятыве Фэрдынанда Рушчыца і Яраслава Тышынскага [10, s. 211–220]. Да выстаўкі быў выдадзены адмысловы каталог [4]. Звесткі пра яе былі змешчаны ў прэсе: «Dość licznie był reprezentowany dział rzeźb, wśród których dominowało parę studyów J. Tyszyńskiego i O. Krasnopolskiego, Weysenhoffa, Dembowskiego, etc.» [5; 17].

У энцыклапедыі «Архітэктура Беларусі» (1993) сярод персаналій няма прозвішча Краснапольскага, хаця пры апісанні помніка архітэктуры — будынка па вуліцы Кірава, 11 — яно з'яўляецца [1, с. 344]. 17–19 мая 2007 г. В. Чарнатаў з факультэта архітэктуры Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта на канферэнцыі «Авангард и культуры: искусство, дизайн, среда» прадставіў паведамленне «От эклектики до ар-деко (архитектурное наследие Минска первой половины XX века)», у якім не абмінуў дасягненні Атона Краснапольскага: «Известно, что среди деятелей художественной культуры Беларуси были неординарно мыслящие личности, наделенные умом и талантом, имеющие сугубо индивидуальные творческие взгляды на процессы, происходящие в современном искусстве. Так, минский архитектор-скульптор Оттон Краснопольский (1877–1971) уже в начале XX столетия четко

излагал свою позицию по вопросам современного искусства, в частности, по проблеме закономерности построения “архитектурного организма” и возрождения лучших форм и пластического языка в архитектуре. В теоретических концепциях и непосредственно в своем творчестве, сугубо индивидуализированном по характеру, он стремился к созданию выразительных по композиционной пластике объемов и форм» [7, с. 87]. Атон Краснапольскі пісаў у 1911 г. у «Tygodniku Wileńskim»: «Любуючыся прымітыўнай прастатой Сярэднявечча, я пранікся духам раманскіх замкаў і таму, не зважаючы на наватарства формы маёй архітэктуры, адчуваецца на ёй пацiна стагоддзяў. Марачы аб стварэнні арыгінальнай нацыянальнай архітэктуры, я іду дарогай нямецкіх мадэрністаў, але толькі ў тым сэнсе, што не кампілюю ў скончаных стылях, а, пераўтвараючы знешнюю форму (праз спрашчэнне), імкнуся зразумець і захаваць дух старых пабудоў… Так я ствараю свае замкі і касцёлы» (Krasnopolski O. «Moje credo»; тут пераклад на беларускую мову ўзяты з [5]). Зянон Пазняк, каментуючы напісанае Атонам Краснапольскім дадаваў: «Самаацэнку сваёй эстэтычнай пазіцыі Краснапольскі зрабіў даволі дакладную, адлюстраваўшы мастацкую сутнасць спалучэння мадэрна і рэтрастыляў (у дадзеным выпадку неараманскага) у адзінай канцэпцыі формы і вобраза» [5].

Хаця пасля Першай сусветнай вайны Атон Краснапольскі жыў у Польшчы і шмат рабіў як архітэктар, там ён не надта шырока вядомы. Яго біяграфіі змешчаны ў некаторых польскіх даведніках: «Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających» [16], «Państwowa Szkoła Techniczna w Wilnie im. Józefa Piłsudskiego» [13], «Wileński słownik biograficzny» [18]. Пра яго згадваецца ў каталогах выставак віленскага мастацкага асяроддзя [19, s. 100]. Памяць пра яго захавалі сябры і вучні. Успамінаў яго ў сваіх дзённіках мінскі сябра — Фердынанд Рушчыц, дэкан мастацкага факультэта ў Вільні, які запрасіў Краснапольскага на аддзяленне архітэктуры [14, s. 148, 155, 177, 191, 200, 329, 385, 410, 426, 569]. Асабліва захаваўся ён у памяці сяброў і блізкіх з часоў пражывання ў Гданьску (пасля Другой сусветнай вайны) — з 1945 па 1971 г. Дакументы пра Атона Краснапольскага знаходзяцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы, у архіве Гданьскага політэхнічнага ўніверсітэта і ў сямейных фондах[1]. Даследаванне жыцця і дзейнасці Атона Краснапольскага я пачала весці з 90-х гадоў XX ст. Вынікам стала публікацыя ў 2008 г. артыкула ў польска-беларускім выданні «Czasopis» [9].

---

[1] У Гданьску жыве нявестка Данута Краснапольская, у Познані — хрэснік Марак Чурыла, у Варшаве — пляменнікі Ганна і Анджэй Бобэр, дзеці брата жонкі А. Краснапольскага. У Гданьску пра яго ўспаміналa доктар Надзея Бітэль-Дабжыньская (1919–1999); у Гдыні жыве Юлія Багнеўская, унучка мінскага доктара Рышарда Яноўскага, якая таксама знала А. Краснапольскага.

Паколькі Атон Краснапольскі пакуль малавядомы ў Беларусі, я вырашыла падзяліцца сваімі пошукамі пра мінскага архітэктара, які сваім жыццём і дзейнасцю звязаны таксама з Вільняй (1921–1945) і Гданьскам (1945–1971).

Атон Краснапольскі нарадзіўся 10 снежня 1877 г. у Расіі на чыгуначнай станцыі Абідзіма (рус. Обидимо) Тульскай губерні ў сям'і Кандрата і Ядвігі з Маліноўскіх[1]. Відаць, бацькі паходзілі з Беларусі, бо гадаваўся і вучыўся ён у Мінску. У 1898 г. скончыў класічную гімназію ў Мінску[2]. Пасля паступіў на аддзяленне механікі Вышэйшай тэхнічнай школы ў Маскве. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1899 г. і ў 1902 г. быў арыштаваны, выключаны з ВНУ і высланы на адзін год у Мінск без права вяртання. У Мінску Краснапольскі не змог атрымаць стажыроўку па механіцы, таму летам праходзіў стажыроўку па прафесіі будаўніка. Тэорыю засвоіў самастойна, а практычныя веды атрымаў, працуючы на будоўлі. Так набыў права весці будаўнічую працу і званне тэхніка-будаўніка[3]. У 1903 г. паступіў на аддзяленне наземнага будаўніцтва (і архітэктуры) Львоўскай політэхнікі[4]. Магчыма, спалучаў два напрамкі, бо як сам пісаў у аўтабіяграфіі, сваё навучанне ў Львове дапоўніў праектаваннем польскай архітэктуры ў прафесара Адольфа Шышкі-Богуша[5]. У 1905 г. здаў першы дзяржаўны экзамен па гэтай спецыяльнасці. Вылучаўся сярод студэнтаў грамадскай актыўнасцю, на штогадовым агульным сходзе студэнтаў 4 і 9 снежня 1905 г. яго выбралі намеснікам старшыні новага аддзялення Саюза студэнтаў архітэктуры[6]. Атрымаўшы абсалюторыум у Львове, у 1908 г. паступіў на аддзяленне скульптуры Мастацкай акадэміі ў Кракаве, дзе вучыўся ў Канстантага Ляшчкі. Адтуль у 1909 г. выехаў у слаўную акадэмію Жуліяна у Парыж. Пасля года навучання скульптуры вярнуўся ў Мінск і адкрыў сваё архітэктурна-будаўнічае бюро з майстэрняй скульптуры[7]. У 1910 г. здаў экзамен на будаўніка ў Інстытуце грамадзянскіх інжынераў у Пецярбургу,

---

[1] Гл.: LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 5, Akt uznania M.S.W. Komisarjat rządu na m. st. Warszawę Ratusz, z dn. 8.10.1921 r., odpis.; 1. 17, Odpis metryki ślubu O. Krasnopolskiego.

[2] Гл.: AWAPG, Teczka osobowa mgr inż. O. Krasnopolskiego, Życiorys inż. arch. Ottona Krasnopolskiego, byłego zast. prof. Uniwersytetu S.B. w Wilnie i wykaz prac. — S. 1.

[3] Пісьмо А. Краснапольскага да Я. Стуліньскага (копія, без даты, с. 1) са збораў аўтара артыкула.

[4] А. Краснапольскі раз падае (у 1928 г.) *Wydział Architektoniczny Politechniki we Lwowie* (гл.: LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae z 19.05.1928 r., kopia), тое самае падае ў лісце да Яна Стуліньскага, свайго былога вучня (копія са збораў аўтара, без даты, але ліст пісаны пасля 1958 г. — выхаду на пенсію), іншым разам (таксама пасля Другой сусветнай вайны) — *Wydział budownictwa lądowego politechniki we Lwowie* (AWAPG, Teczka osobowa…, Życiorys inż…).

[5] AWAPG, Teczka osobowa…, Życiorys inż… — S. 11.

[6] Architekt. — 1906. — Z. 1. — S. 21.

[7] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae…

што давала яму магчымасць весці будаўнічыя працы. Прадставіў там рэферат «Архітэктурныя формы ў агульных масах (схематычны сінтэз парадкаў Вігнолі)»[1]. Менавіта ў той час ён выйграе конкурс на праект і пабудову дома праўлення Лібава-Роменскай чыгункі і ўдзельнічае ў мастацкіх выстаўках, здабываючы славу правінцыйнага Міхала Анёла[2].

На аснове «Curriculum vitae» з 1928 г., дзе Атон Краснапольскі пісаў, што мае больш за 20 гадоў прафесійнай практыкі ў галіне архітэктуры і будаўніцтва, можна даведацца, што ў Мінску ён вёў архітэктурнае бюро, выкладаў на курсах і ў гімназіі[3].

Мінскі перыяд жыцця Атона Краснапольскага быў вельмі актыўны у праекна-архітэктурнай і скульптурнай дзейнасці. У 1911 г. ён пабудаваў памяшканне для Упраўлення чыгункі на рагу вуліц Серпухаўскай і Магазіннай (зараз вуліца Кірава, 11), якое было ўласнасцю Эдварда Вайніловіча[4]. Захар Шыбека называе яго домам Кастравіцкай [8, с. 234]. Атон Краснапольскі праектаваў і збудаваў двухпавярховы дом па Захар'еўскай вуліцы для О. Яніцкага. Ад імя камітэта пад кіраўніцтвам кс. Баляслава Усаса займаўся рэканструкцыяй падамініканскага касцёла мяжы XVII і XVIII стст., які знаходзіўся на рагу Петрапаўлаўскай (зараз вуліца Энгельса) і Крашчэнскай (зараз вуліца Інтэрнацыянальная). Спраектаваў і пабудаваў драўляныя будынкі: два двухпавярховыя дамы для О. Яніцкага па вуліцы Бабруйскай, гарадскую шасцікласную школу па вуліцы Васільеўскай, дзве вілы для М. Лапіцкай пры станцыі Ратамка пад Мінскам, дом з 18 пакоямі В. Яніцкай у маёнтку Новы Двор на Наваградчыне. Спраектаваў і выканаў столі сістэмы Франсуа Гэнэбіка (жалезабетонныя) у доме Вайніловіча ў Мінску, 2 светлні і эркеры ў мінскіх дамах Э. Вайніловіча і О. Яніцкага. Быў аўтарам і выканаўцам печаў уласнай сістэмы, якія прэзентаваў на сельскагаспадарчай выстаўцы у Мінску перад Першай сусветнай вайной. Спраектаваў і выканаў біялагічную станцыю ў доме Э. Вайніловіча і два артэзіянскія калодзежы. Спраектаваў таксама чатырохпавярховы дом для Ядвігі Кастравіцкай, сястры Э. Вайніловіча на рагу вуліц Захар'еўскай і Новай у Мінску[5].

У мінскі перыяд жыцця Атон Краснапольскі актыўна ўдзельнічаў у мастацкіх і архітэктурных выстаўках у Львове, Мінску, Вільні і Маскве. Выканаў скульптуру ў касцёле Св. Сымона і Алены [6].

У 1912–1913 акадэмічным годзе запісаўся на вучобу ў Львоўскую політэхніку, дзе ў прафесара Адольфа Шышкі-Богуша вывучаў праектаванне

---

[1] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38a, Curriculum vitae…

[2] Пісьмо А. Краснапольскага… — С. 1–2.

[3] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae…

[4] Ibid.

[5] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38–39, Curriculum vitae…

ў польскай архітэктуры. У 1913 г. напісаў працу «Abstraktywizm w sztuce młodych», якая ў скарочаным варыянце была выдадзена ў 1917 г. у Маскве (Краснопольский О. Абстрактивизм в искусстве новаторов (постимпрессионизм и неоромантизм). У 1912 і 1914 гг. прадстаўляў яе падчас публічных лекцый у Львове[1]. У маі 1914 г. выступіў з дакладам «Польскі Рэнесанс як камбінацыя барока і рамантызму (параўнальная класіфікацыя з Рэнесансам англійскім, французскім, нямецкім, расійскім і іспанскім)», пра што паведамляла львоўская «Gazeta wieczorna»[2].

Гэтую ідылію — як пісаў Атон Краснапольскі да свайго вучня Яна Стулінскага — перарвала Першая сусветная вайна[3]. Падчас яе быў у Маскве, дзе ў 1915–1916 акадэмічным годзе паступіў у эвакуаваную туды Рыжскую політэхніку, каб атрымаць дыплом інжынера. Правучыўшыся год, здаў акадэмічную праграмную розніцу, але не паспеў выканаць дыпломны праект[4]. У Маскве працаваў на Маскоўска-Казанскай чыгунцы, праектаваў новыя вакзалы[5]. Быў мабілізаваны ў рускую армію. Апынуўся на фронце, служыў у дарожным аддзяленні арміі і кіраваў працамі на адрэзку Казяны–Шаркаўшчына–Дзісна.

Паддаўся настроям новай бальшавіцкай улады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1917 г. у Мінску быў узведзены помнік «Чырвонаармеец» яго-нага выканання. Гэта быў першы манумент рэвалюцыйнай эпохі і адначасова першы манумент кубістычнага характару на Беларусі [2].

Тады Краснапольскі таксама распрацаваў новы праект будаўнічай акадэміі, які разглядаўся 44 знаўцамі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у Літоўска-Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы. У 1919 г. у Л-БССР Атон Краснапольскі атрымаў пасаду гарадскога архітэктара ў Вільні і права рэалізаваць канцэпцыю будаўнічых школ. У сувязі з заняццем Вільні палякамі вясной 1919 г. і аднаўленнем Віленскага ўніверсітэта Атон Краснапольскі як інструктар атрымаў дазвол на арганізацыю на ім аддзялення архітэктуры[6].

Дыплом інжынера-архітэктара Краснапольскі атрымаў толькі ў 1920 г. у Львоўскай політэхніцы, здаўшы там 20–29 лістапада 1919 г. практычны экзамен, а 27 сакавіка 1920 г. — вусны (тэорыю)[7]. У маі 1920 г. быў запро-

---

[1] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38a, Curriculum vitae…

[2] Ibid.

[3] Пісьмо А. Краснапольскага… — С. 2.

[4] Тамсама.

[5] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae…

[6] Пісьмо А. Краснапольскага… — С. 2.

[7] AWAPG, Teczka…, l. 7, Odpis Protokółu egzaminu Szkoły Politechnicznej we Lwowie Wydział Architektury; у пратаколе: Ma prawo używania tytułu inż. — Prezes Dr. Tadeusz Obmiński, czlonkowie Komisji G. Bisanz, W. Sadłowski, Dr. Jan Sas Zubrzycki.

шаны на пасаду кіраўніка Дзяржаўнай будаўнічай школы ў Вільні, але ў сувязі з польска-савецкай вайной пераехаў у Варшаву на пасаду штатнага настаўніка ў Дзяржаўнай школе будаўніцтва, у якой працаваў у 1920–1921 навучальным годзе[1].

3 кастрычніка 1921 г. адмовіўся расійскага грамадзянства і напісаў заяву на польскае, даказваючы пры гэтым сваё польскае паходжанне. 8 кастрычніка 1921 г. быў прызнаны грамадзянінам Польшчы і ўпісаны ў адпаведны рэестр пад нумарам 3926 [2]. Тады Рада Мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта запрасіла Атона Краснапольскага на пасаду намесніка прафесара кафедры будаўніцтва на аддзяленні архітэктуры. Выкладаў там будаўнічыя канструкцыі і механіку, статыку будоўлі, жалезнае і жалезабетоннае будаўніцтва ў рамках аддзялення будаўнічай тэхнікі (да 1928 г.)[3]. 2 красавіка 1922 г. Фердынанд Рушчыц запісаў у сваім дзённіку: «Усё больш цэнім Краснапольскага» [14, s. 177]. Сабраў ён шматлікую калекцыю спецыяльна падрыхтаваных дапаможнікаў, табліц і багаты кнігазбор [12]. З 1922 г. выкладаў таксама статыку ў Дзяржаўнай тэхнічнай школе ў Вільні[4]. У сувязі з няпэўным статусам аддзялення архітэктуры Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы у 1925–1927 гг. штогод адхіляла пастановы сената УСБ аб намінацыі Атона Краснапольскага на пасаду надзвычайнага прафесара, які павінен быў узначаліць аддзяленне архітэктуры[5]. У 1928 г. аддзяленне архітэктуры было зачынена ўладамі. Атон Краснапольскі працаваў на УСБ з 1 кастрычніка 1921 г. па 1 кастрычніка 1928 г. без перапынку да самага закрыцця аддзялення архітэктуры і скасавання 1 кастрычніка 1928 г. кафедры будаўніцтва і будаўнічай механікі[6]. Важнасць адукацыі архітэктараў у Вільні Атон Краснапольскі даказваў у асобным артыкуле «Felczerstwo w architekturze» (Wilno, 1927)[7]. У артыкуле «W sprawie rozbudowy wyższ. uczelni architektury oraz likwidacji średn. szkół budowlanych» пісаў, што будаўнічае аддзяленне Віленскай тэхнічнай школы павінна быць уключана ў аддзяленне архітэктуры мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта (1927). На жаль, яго меркаванні не былі падтрыманы тагачаснымі адукацыйнымі ўладамі Польшчы.

---

[1] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae…

[2] Ibid, l. 5, Akt uznania…

[3] Kronika //Architektura i budownictwo. 1925–1926. — № 7. — S. 35.

[4] LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 38, Curriculum vitae…

[5] Ibid, l. 40, Referat Komisji wyłonionej przez Radę Wydziału Sz P USB w Wilnie w sprawie obsadzenia Katedry Budownictwa.

[6] Ibid, l. 45, Zaświadczenie Rektora USB w Wilnie z dn. 13.03.1930 r.

[7] Тое ж самае было апублікавана ў «Alma Mater Vilnensis» за 1927 г., сш. 6.

Пасля Атон Краснапольскі чытаў яшчэ лекцыі і вёў заняткі па сельска-гаспадарчым будаўніцтве на матэматычна-прыродазнаўчым факультэце[1]. У 1932–1945 гг. кіраваў будаўнічым аддзяленнем у Дзяржаўнай тэхнічнай школе. У 1928–1931 гг. быў акруговым візітатарам прафесійнага школьніцтва ў Вільні[2]. Як гарадскі архітэктар Вільні ў 1927–1928 гг. быў адным з ініцыятараў перабудовы віленскай ратушы на музей паводле праекта Ваўжынца Гуцэвіча і членам спецыяльнай камісіі дзеля каранацыі абразу Маці Божай Вастрабрамскай [14, s. 385, 410]. У 1931 г. супольна з Фердынандам Рушчыцам і Юльюшам Клосам узначаліў журы над праектам на прамыслова-гандлёвую палату ў Вільні [14, s. 569]. Сам праектаваў дзіцячы шпіталь фонду княжны М. Агінскай у Вільні, будову якога перарвала вайна; канструкцыі даху на корках Кіблера над лекцыйнай залай УСБ, даху ў форме лука Эмыега над паперняй пад Вільняй. Кіраваў працамі пры пабудове памяшкання павятовага суда ў Вільні[3]. Публікаваў спецыяльныя артыкулы ў «Wiadomościach Stowarzyszenia Techników Polskich w Wilnie», «Przeglądzie Technicznym», «Alma Mater Vilnensis, Szkołach Akademickich»[4]. Напісаў падручнік па статыцы будоўляў і апрацаваў канцэпцыю сістэматалогіі; у 1934 г. — працу «Systematologia jako nowa metoda pracy naukowej, dydaktycznej i organizacyjnej».

7 жніўня 1924 г. у касцёле Св. Яна ўзяў шлюб з малодшай на 26 гадоў Яўгеніяй Бобэр, дачкой Аляксандра і Ядвігі з Чарнякоў. Сведкамі на шлюбе былі Стэфан Нішык і Станіслаў Матусяк[5]. У 1926 г. нарадзіўся сын Яцэк.

Пражыўшы вайну ў Вільні, у 1945 г. Атон Краснапольскі з сям'ёй прыехаў у Гданьск. Пачаў працаваць настаўнікам у Гданьскіх навуковых установах («Gdańskie Zakłady Naukowe»), дзе сустрэліся выкладчыкі, што прыехалі з Дзяржаўнай тэхнічнай школы ў Вільні[6]. У 1947–1949 гг. кіраваў працамі Гданьскай дырэкцыі адбудовы ў Сопаце і Страхавачнага Прадпрыемства

---

1 LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 47, Pismo Studium Rolniczego przy Wydz. Mat-Przyr. USB do Senatu Akademickiego USB z 28.10.1933 r.

2 AWAPG, Teczka osobowa…, Życiorys inż… — S. 3.

3 Ibid.— S. 1–2.

4 Іх пералік гл. у: LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 39, Curriculum vitae…; AWAPG, Teczka osobowa…, Życiorys inż… — S. 2.

5 LCVA, f. 175, ap. ibb, b. 125, l. 17, Odpis metryki ślubу O. Krasnopolskiego. С. Матусяк (1895–1945?) — мастак, займаўся графікай і прыкладным мастацтвам, у 1923–1930 гг. мастацкі кіраўнік аддзялення ўпрыгожвання і графікі на мастацкім факультэце УСБ у Вільні. З 1930 г. працуе ў Львове, у 1933 г. заснаваў там і вёў мастацкую школу «Фрэска». Падчас Другой сусветнай вайны дзейнічаў у польскім падполлі. У красавіку 1945 г. арыштаваны ў Львове і сасланы на Усход. Звестак пра С. Нішыка знайсці не ўдалося.

6 На аснове успамінаў Ю. Аляхновіча; AWAGP, Teczka osobowa…, Życiorys inż… — S. 3.

(ZUS) у Гданьску; працамі, звязанымі з перабудовай гінекалагічнай клінікі, пабудовай фундаментаў на жалезабетонных падпорах будынка Падатковай палаты ў Гданьску-Вжэшчу[1]. У 1950–1951 гг. быў настаўнікам VII Асяродка прафесійнага навучання ў Гданьску, у 1951–1953 гг. — старшым верыфікатарам Бюро праектаў прамысловага будаўніцтва ў Гданьску, а з 1956 г. — камунальнага будаўніцтва[2]. У 1958 г., ва ўзросце 80 гадоў, выйшаў на пенсію[3]. Тады канчаткова заняўся навуковай працай, даводзячы да канца кандыдацкую дысертацыю, якую падрыхтаваў яшчэ ў 1938 г., але не паспеў абараніць[4].

21 лістапада 1960 г. на факультэце архітэктуры Гданьскага політэхнічнага ўніверсітэта адбылася публічная абарона кандыдацкай дысертацыі Атона Краснапольскага «Ujednostajnienie nazw łączy drewnianych typu tradycyjnego jako wstęp do systematograficznej metody racjonalizatorstwa»[5]. Яе навуковым кіраўніком быў прафесар Мар’ян Асіньскі, сябра са студэнцкіх часоў у Львове. 24 лістапада рада факультэта архітэктуры Гданьскай політэхнікі прысвоіла Атону Краснапольскаму званне кандыдата навук. 29 снежня 1962 г. Цэнтральная кваліфікацыйная камісія пры Міністэрстве вышэйшага школьніцтва адмовіла ў прызнанні пастановы рады факультэта: «Praca ob. mgr. inż. nie odpowiada kryteriom stawianym pracy doktorskiej. Prof. dr hab. Stefan Minc»[6]. Тады не быў спрыяльны час для драўлянага будаўніцтва[7]. Лічылася яно састарэлым і нямодным. У модзе тады быў бетон. Зусім інакш было б зараз, калі драўлянае будаўніцтва перажывае рэнесанс.

Пакуль чакалася зацвярджэнне Цэнтральнай кваліфікацыйнай камісіі Атон Краснапольскі 23 лютага 1961 г. прадставіў дэкану факультэта архітэктуры Гданьскай палітэхнікі доктарскую дысертацыю «Systematograficzna metoda racjonalizatorstwa a reforma nauk», у якой разглядаў праблему дыялектычнай логікі, заснаванай на праве стварэння Ю. Гоэнэ-Вронскага[8]. Аднак кіраўніцтва політэхнікі вырашыла, што яна не адпавядае напрамку політэхніч-

[1] AWAGP, Teczka osobowa…, Życiorys inż… — S. 2.

[2] Ibid. — S. 3.

[3] Ibid. — S. 23.

[4] Пісьмо А. Краснапольскага… С. 3.

[5] AWAPG, Teczka osobowa…, l. 42, Informacja o obronie pracy doktorskiej doktora Ottona Krasnopolskiego; 43, Lista obecności na publicznej obronie; Інфармацыя пра абарону ў: *Dziennik Bałtycki*. № 271 ад 11.11.1960 г. S. 2.

[6] Ibid.

[7] Паводле ўспамінаў Ю. Аляхновіча з Гданьска, Ю. Багнеўскай з Гдыні.

[8] AWAPG, Teczka osobowa…, Materiały dotyczące habilitacji dr O. Krasnopolskiego, l. 1, Pismo O. Krasnopolskiego do Dziekana Wydziału Architektury Politechniki Gdańskiej z dn. 23.02.1961 r.

ных навуковых даследаванняў[1]. Дасюль гісторыю навуковай кар’еры Атона Краснапольскага расказваюць амаль як анекдот, што ва ўзросце больш чым 80 гадоў таксама можна абараніць кандыдацкую дысертацыю. «Пры больш спрыяльных умовах быў бы ён даўно прафесарам і аўтарам-прамотарам арыгінальнай канцэпцыі сістэматыкі» — гаварыў Юры Аляхновіч, вучань Атона Краснапольскага яшчэ ў даваеннай Вільні.

Атон Краснапольскі памёр у Гданьску 26 кастрычніка 1971 г., у 1988 г. памерла яго жонка Яўгенія, а ў жніўні 2007 г. — іх сын Яцэк[2]. Усе яны спачылі на могілках у Гданьску-Аліве. З радні Атона Краснапольскага засталася ў жывых нявестка Данута, якая шмат што са спадчыны цесця захавала і перадала аўтару гэтага артыкула. Частку спадчыны (фатаграфіі) перадала Ганне Бобэр, пляменніцы Яўгенні Краснапольскай.

Атон Краснапольскі сваёй мастацкай, архітэктурнай, педагагічнай і навуковай дзейнасцю заслужыў многа большую пашану да яго асобы ў польскага і беларускага народаў, чым зараз існуе ў грамадскай і гістарычнай свядомасці ў Польшчы і Беларусі. Пра гэтага выдатнага архітэктара і скульптара вельмі мала вядома. Яго прозвішча ў грамадскім успрыманні амаль не існуе. Хаця ягоная спадчына магла б стаць асновай прынамсі сціплай экспазіцыі ў пабудаваным ім мінскім доме па вуліцы Кірава, 11. Сярод гэтай спадчыны знаходзяцца партрэты, здымкі, архіўныя дакументы. Паспрыяла б гэта і ўвекавечанню яго прысутнасці на роднай зямлі — у Мінску.

## Скарачэнні

AWAPG — Archiwum Wydziału Architektury Politechniki Gdańskiej.
LCVA — Lietuvos Centrinis Valstybes Archyvas.

## Крыніцы


Краснопольский О. Абстрактивизм в искусстве новаторов (постимпрессионизм и неоромантизм). Москва, 1917.

Krasnopolski O. Moje credo // Tygodnik Wileński. 1911. № 14.

Krasnopolski O. Felczerstwo w architekturze. Wilno, 1927.

Krasnopolski O. W sprawie rozbudowy wyższ. uczelni architektury oraz likwidacji średn. szkół budowlanych // Szkoły Akademickie. 1927. № 2–3.


[1] AWAPG, Teczka osobowa…, Materiały dotyczące habilitacji dr O. Krasnopolskiego, 4–5, 8, 10; Korespondencja O. Krasnopolskiego z Dziekanatem Wydziału Architektury Politechniki Gdańskiej.

[2] Паводле інфармацыі бюро могілак у Гданьску-Аліве, Дануты Краснапольскай і надпісу на надмагільным помніку.

## Літаратура


1. Архітэктура Беларусі : энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993.
2. Дапіро, Т. Беларускае выяўленчае мастацтва [Электронны рэсурс] / Т. Дапіро. — Рэжым доступу : http://www.bestreferat.ru/modules.php?name=referat&func=show_referat&referat_ID=25492б. — Дата доступу : 10.09.2009.
3. Дробов, Л. Живопись Белорусии XIX — начала XX века / Л. Дробов. — Минск, 1974.
4. Каталог художественной выставки в Минске в помещении Польского общественного собрания «Огниско». — Минск, 1911.
5. Пазняк, З. Рэха даўняга часу [Электронны рэсурс] / З. Пазняк. — Мінск, 1985. Рэжым доступу : http://www.zianonpazniak.de/publications/creation/reha_historism.htm. — Дата доступу : 10.09.2009.
6. Харэўскі, С. Бацька Сымона і Алены [Электронны рэсурс] / С. Харэўскі. — Рэжым доступу : http://www.nn.by/index.php?c=ar&i=2385&p+1&c2=calcym&cjmbo_calmonth=6&. — Дата доступу : 10.09.2009.
7. Чернатов, В. От эклектики до ар-деко (архитектурное наследие Минска первой половины XX века) / В. Чернатов // Авангард и культуры : искусство, дизайн, среда : матер. Междунар. науч. конф. 17–18 мая 2007 г. — Минск, 2007.
8. Шыбека, З. Мінск. Старонкі дарэвалюцыйнага горада / З. Шыбека. — Мінск, 1990.
9. Głogowska, H. Zapomniany architekt / H. Głogowska // Czasopis. — 2008. — № 1. — S. 43–48.
10. Kabzińska, I. Jarosław Tyszyński — artysta zapomniany… Życie. Miłość. Śmierć / I. Kabzińska // Wrocławskie Studia Wschodnie. — 1997. — Z. 1. — S. 211–220.
11. Kształcenie artystyczne w Wilnie i jego tradycje / pod red. J. Malinowskiego, M. Woźniaka, R. Janonienė. — Inowrocław, 1996. — S. 100.
12. Mienicki, R. Uniwersytet Wileński / R. Mienicki // Wilno i ziemia wileńska. Zarys monograficzny. — T. II. — Wilno, 1937. — S. 38.
13. Państwowa Szkoła Techniczna w Wilnie im. Józefa Piłsudskiego. — Warszawa, 1991. — S. 193.
14. Ruszczyc, F. Dziennik / F. Ruszczyc. — Warszawa, 1996. — Cz. II.
15. Salon w Mińsku litewskim // Świat. — № 18. — 6 maja 1911 r. — S. 4.
16. Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających. — T. 4. — Warszawa; Kraków; Gdańsk; Łódź, 1986. — S. 247.
17. Tygodnik Wileński. — 1911. — № 14.
18. Wileński słownik biograficzny / pod red. H. Dubowika, L. J. Malinowskiego. — Bydgoszcz, 2008. — S. 247.
19. Wileńskie środowisko artystyczne 1919–1945. — Olsztyn, 1989.

**Іна Соркіна** *(Гродна, Беларусь)*

# МЯСТЭЧКІ ЯК АСЯРОДКІ ШЛЯХЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Своеасаблівае месца ў гістарычнай сістэме паселішчаў Беларусі займалі мястэчкі. Яны вялі сваю гісторыю з XIV–XV стст. і адыгрывалі надзвычай важную ролю ў развіцці беларускіх зямель, выконваючы адмысловыя эканамічныя, адміністрацыйныя і культурныя функцыі. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што *мястэчкі — культурна-гістарычны феномен нашага мінулага*. Унікальнасць гэтых паселішчаў вызначаецца некалькімі асноўнымі фактарамі:

1) мястэчкі — скрыжаванне горада і вёскі; яны арганічна паядналі ўклад вясковага і гарадскога жыцця, побыт селяніна і гараджаніна;

2) мястэчкі — «памежжа» этнасаў, рэлігій, моў і культур; асяродкі захавання мясцовых традыцый самакіравання на прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэнічнасці;

3) мястэчкі — асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры, асноўныя населеныя пункты на ментальнай карце страчанага габрэйскага свету Усходняй Еўропы.

Вывучэнне культуры мястэчак дазваляе убачыць рознакаляровы «калейдаскоп» культурных працэсаў, з’яў і падзей, што мелі месца ў гэтых паселішчах. Культурная прастора мястэчка Беларусі шматмерная, шматузроўневая, шматукладная. З аднаго боку, відавочны поліэтнічны, поліканфесійны, полілінгвістычны характар местачковай культуры. З другога боку, культурнай сітуацыі ў мястэчках было ўласціва суіснаванне субкультур розных сацыяльных слаёў — традыцыйнай, элітарнай.

На канкрэтным фактычным матэрыяле паспрабуем паказаць праявы шляхецкай культуры ў мястэчках і ўплыў яе на штодзённае жыццё местачкоўцаў на прыкладзе пераважна перыяду канца XVIII — першай паловы XIX ст.

Фактарам, які садзейнічаў станаўленню мястэчак як асяродка шляхецкай культуры Беларусі, з’яўляўся іх прыватнаўласніцкі статус. Працэсу імклівага развіцця прыватнаўласніцкіх мястэчак садзейнічаў Статут ВКЛ 1588 г., які скасаваў абмежаванні на заснаванне мястэчак прыватнымі асобамі. З гэтага часу і да ўсталявання савецкай улады абсалютная большасць мястэчак Беларусі належала прыватным асобам. Так, у Гродзенскай губерні па даных на 1807 г. сярод 86 мястэчак 74 былі прыватнаўладальніцкімі, 9 — дзяржаўнымі, 3 — духоўнымі (НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 1, спр. 100, арк. 28–30).

Дзякуючы найперш менавіта сваім адукаваным уладальнікам, носьбітам гуманістычных і рэфармацыйных, а пазней і асветніцкіх ідэй, мястэчкі

праявілі сябе яскрава і шматгранна не толькі ў эканамічным жыцці, але і на культурным ландшафце Беларусі, змаглі ператварыцца ў буйныя культурныя цэнтры, вядомыя нават за межамі Беларусі.

У XVI — першай палове XVII ст. яны, побач з гарадамі, з'яўляліся цэнтрамі Адраджэння (Рэнесансу) і Рэфармацыі. На гэты час прыпадае росквіт інстытута патранату (ці мецэнацкай дзейнасці). Такім магнатам, як Сапегі, Радзівілы, Пацы, Хадкевічы, Сцыпіёны і інш., належала большасць гарадоў і мястэчак Беларусі. У сваіх мястэчках многія з іх будуюць асобныя рэзідэнцыі, якія становяцца культурнымі цэнтрамі, дзе працуюць дзеячы навукі, мастацтва, літаратуры. Многія мястэчкі былі цэнтрамі адукацыі, кнігадрукавання, бібліятэчнай, музейнай справы. Так, напрыклад, кнігадрукаванне развівалася ў Лоску (друкарня існавала з 1574 па 1592 г. на сродкі Яна Кішкі), Любчы (1612–1656 гг., Крыштаф Радзівіл), Бялынічах (Казімір Сапега), Буйнічах (Багдан Статкевіч), магчыма Уздзе і Заслаўі. Многія магнаты для пашырэння і росквіту кніжна-пісьмовай культуры запрашалі ў свае маёнткі вядомых друкароў: Сымона Буднага, Даніэля Ланчыцкага, Яна Карцана (Лоская друкарня); Пятра Бластуса Кміту, Яна Ланге (Любчанская друкарня); Спірыдона Собаля (друкарня ў Буйнічах). Яны ўнеслі свой уклад у развіццё кніжна-пісьмовай справы не толькі як друкары, але і як перакладчыкі, мовазнаўцы, паэты, тэолагі.

У канцы XVIII — першай палове XIX ст., нягледзячы на палітыку царскіх улад, накіраваную на разбурэнне культурнай інфраструктуры, якая склалася да канца XVIII ст., у мястэчках назіралася актывізацыя культурнага жыцця, яны заставаліся асяродкамі шляхецкай культуры, тут знаходзіліся бібліятэкі і музейныя зборы, наладжваліся тэатральныя паказы і канцэрты, ствараліся палацава-паркавыя ансамблі.

Поўнай статыстыкі *прыватных бібліятэк і музейных збораў* не існуе. Таму даныя пра іх вельмі фрагментарныя. Культурныя каштоўнасці захоўваліся практычна ў кожнага больш менш значнага абшарніка. Музейныя калекцыі, сямейныя архівы, карцінныя галерэі і бібліятэкі мелі каля 400 маёнткаў (у межах сучаснай Беларусі). З іх каля 54 знаходзіліся ў мястэчках і толькі 4 — у гарадах [17, с. 193].

Самымі вялікімі прыватнымі бібліятэкамі ў мястэчках былі бібліятэкі магнатаў Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне. Пачатак кнігазбору дала ружанская бібліятэка, якая ў 1786 г. была перанесена ў Дзярэчын. У дзярэчынскім архіве былі 232 назвы рукапісаў і кніг XV–XVII стст. [16]. У сапегаўскім кнігазборы меліся кнігі на любы розум і густ на французскай, нямецкай, італьянскай, іспанскай, англійскай, рускай, польскай, лацінскай, грэчаскай і нават арабскай мовах. Адчуваецца, як адзначае М. Нікалаеў, бібліяфільскае стаўленне да кнігазбору: шматлікія экслібрысы, спецыяльныя і рэдкія выданні, у большасці кніг уніфікаваны пераплёт з залатым цісненнем [10].

За ўдзел Яўстаха Каятана Сапегі ў паўстанні 1830–1831 гг. маёмасць гэтага славутага роду была канфіскаваная і перайшла ў казну. Большая частка дзярэчынскага архіва і бібліятэкі (2151 кніга, 287 кодэксаў архіва) трапіла ў імператарскую публічную бібліятэку ў Пецярбургу, частка — у музей старажытнасцей у Вільні. У 1838 г. загадчык бібліятэкі Гродзенскай губернскай гімназіі Яўстах Арлоўскі прыняў 279 тамоў, канфіскаваных у Сапегаў [13, с. 78].

У вырашэнні лёсу дзярэчынскіх каштоўнасцей прымаў удзел сам Мікалай І. Па яго непасрэдным загадзе найбольш каштоўная частка калекцыі Сапегаў была накіраваная ў Царскае Сяло (25 скрыняў, у т. л. 22 статуі, 287 карцін і інш.). Імператар асабіста адбіраў мастацкія творы для Эрмітажа і Акадэміі мастацтваў, а 23 карціны прызначыў для знішчэння (галоўным чынам партрэты) [18, с. 197–201]. Антыкварная зброя паступіла ў Анічкін палац, розныя ўзнагароды — у капітул расійскіх ордэнаў, асобныя рэчы Мікалай І пакінуў сабе [11, с. 68].

Багатую бібліятэку і калекцыю мастацкіх твораў мелі Тышкевічы ў Лагойску. Паводле сведчання П. Шпілеўскага, у бібліятэцы налічвалася да 3000 тамоў сачыненняў пераважна на польскай і французскай мовах, з якіх каля 500 старажытных, мноства старадаўніх рукапісаў, карт, грамат. У тагачаснай Лагойскай галерэі было больш за 200 карцін італьянскага жывапісу, вялікі збор этрускіх ваз, больш за 1000 медалёў і манет, старажытныя крыжы, кальчугі, шчыты, мячы, коп'і, бердышы, калекцыя ільняных вырабаў Лагойскай фабрыкі (Шпилевский, с. 174).

Браты Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы ператварылі ў 1842 г. гэты своеасаблівы цэнтр гістарычнай і археалагічнай навукі ў Лагойскі археалагічны музей — першы на Беларусі музей старажытнасцей. Ён размяшчаўся ў двюх спецыяльна адведзеных для гэтай мэты залах палаца. Прадметы групаваліся наступным чынам: археалагічная калекцыя; калекцыя гравюр; манеты, медалі, пячаткі; зброя, даспехі і рыштунак. Упершыню прыватнае збіральніцтва было пастаўлена на сур'ёзную навуковую глебу. На працягу 1830–1850-х гг. пры ўдзеле вучоных у Лагойску ішла праца па фарміраванні калекцый, іх навуковай апрацоўцы, складанні каталогаў і будаўніцтву экспазіцый. А. Ельскі адзначаў, што лагойскі збор — навуковы матэрыял найвышэйшай каштоўнасці, асабліва таму, што ўсё гэта было каталагізаванае і знаходзілася ва ўзорным парадку, і заключаў: «Нам толькі застаецца пажадаць, каб гэты Храм захоўваўся нераздроблены з думкай пра нашчадкаў» [6, с. 296].

Аднак лёс калекцыі склаўся па-іншаму. Усведамляючы важнасць лагойскага збору для развіцця навукі, К. Тышкевіч ахвяраваў большую яго частку для стварэння музея старажытнасцей у Вільні, частку археалагічных знаходак перадаў у Кракаўскі музей археалогіі, Маскоўскае археалагічнае таварыства, калекцыю шкла эпохі Рымскай імперыі — у Нацыянальны музей у Варшаве [4,

с. 28–29]. Частку лагойскага збору ў 1905 г. купіў археолаг Татур, а астатнюю частку музея і бібліятэку Юзаф Тышкевіч у 1910–1911 гг. перавёз у Вільню. Найменш каштоўныя рэчы і кнігі былі знішчаныя ў 1917–1920 гг. [12, с. 28].

Значным культурна-асветніцкім і навуковым цэнтрам з'яўлялася мястэчка Паставы. Канстанцін Тызенгаўз меў тут карцінную галерэю, стварыў арніталагічны музей, у якім было некалькі тысяч узораў птушак з Беларусі, Літвы і Украіны. Пры музеі была значная бібліятэка, якая складалася з кніг па арніталогіі, а таксама рэдкіх помнікаў польскага пісьменства, каштоўнага збору гравюр і сямейнага архіва, дакументы якога пачыналіся ад XIII ст. У парку побач з палацам у звярынцы ўтрымліваліся птушкі і млекакормячыя. Палац у Паставах нагадваў сапраўдную навукова-даследчую станцыю, дзе дваровыя выконвалі абавязкі птушкаловаў, паляўнічых, прэпаратараў. Збор К. Тызенгаўза аглядалі вучоныя і ўсе зацікаўленыя. У 1851 г. ён перадаў у дар Дрэздэнскаму прыродазнаўчаму музею спецыяльна падабраную калекцыю птушак Беларусі [4, с. 28]. Пасля смерці К. Тызенгаўза справу па падтрыманні музея і бібліятэкі і іх папаўненні працягваў яго сын Рэўнольд. У 1856 г. экспанаты арніталагічнага музея адышлі Віленскай археалагічнай камісіі, пры якой быў створаны арніталагічны кабінет. Бібліятэка засталася ў Паставах у нашчадкаў. У час Першай сусветнай вайны бібліятэка Тызенгаўзаў была перавезена ў Смаленск. Далейшы яе лёс невядомы [9, с. 574].

Багатыя кнігазборы мелі Касакоўскія ў Вялікай Бераставіцы, Друцкія-Любецкія ў Шчучыне, Чацвярцінскія ў Скідзелі, Чартарыйскія ў Воўчыне, Адам Солтан у Дзятлаве, Слізні ў Дзевяткавічах, Валіцкія ў Азёрах, Патоцкія ў Росі і Высока-Літоўску [7; 19].

На жаль, гэтыя размешчаныя некалі ў мястэчках шматтысячныя зборы рэдкіх кніг, старадаўніх актаў, мастацкіх твораў, музейныя калекцыі расцярушаныя па свету і знаходзяцца за межамі Беларусі — у Пецярбургу, Маскве, Кіеве, Вільні, Варшаве і інш.

Адзначым, што ў эпоху Асветніцтва прыватныя магнацкія бібліятэкі выконвалі функцыю публічных бібліятэк. Уласнікі кнігазбораў лічылі сваім абавязкам дазваляць імі карыстацца ўсім ахвотным, дапамагаць у пошуках крыніц, збіранні матэрыялаў для даследчыцкіх прац. У гэтых адносінах найбольш славіліся бібліятэкі Храптовічаў у Шчорсах, Валіцкіх у Азёрах, а таксама кнігазборы Сапегаў [19]. Аднак усё роўна прыватныя кнігазборы і музейныя калекцыі, што належалі арыстакратыі, былі даступныя пераважна вузкаму колу — іх сем'ям, гасцям, прадстаўнікам таго ж самага саслоўя, а з жыццём местачкоўцаў не мелі амаль ніякай сувязі.

Найбольшы ўплыў на штодзённае жыццё местачкоўцаў мела дзейнасць уладальнікаў на ніве *адукацыі*. Многія з іх забяспечвалі матэрыяльную падтрымку пачатковым вучылішчам, а некаторыя — і сярэднім навучальным установам. Дзякуючы сваім ўладальнікам, некаторыя мястэчкі сталі значнымі

адукацыйна-асветніцкімі цэнтрамі. Яскравы прыклад — Свіслач графа Вінцэнта Тышкевіча, дзе была адкрытая Гродзенская губернская гімназія.

Наяўнасць вучэльні ў мястэчку актывізавала развіццё прамысловасці і гандлю, сферы паслуг. У некаторых выпадках эканамічнае ажыўленне пасля адкрыцця навучальнай установы было настолькі моцным, што мястэчка пачынала прэтэндаваць на атрыманне статуса горада (Свіслач) і нават яго атрымлівала (Горкі). І наадварот, часам закрыццё навучальных установаў садзейнічала заняпаду мястэчак, набліжэнню іх да ўзроўню звычайных сельскіх паселішчаў (Халопенічы).

Актыўным было **тэатральнае жыццё** шляхецкіх сядзібаў у мястэчках. Спецыфічнай пераходнай формай ад пастановак школьных тэатраў да прафесійнага прыватнага тэатра з'яўляўся прыгонны тэатр XVIII — пачатку XIX ст. Тэатры ўзнікалі ў прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках, якія з'яўляліся цэнтрамі як буйных латыфундый, так і больш дробных маёнткаў. Маёнткавы тэатр Беларусі меў, як правіла, лакальны, закрыты характар, трупы яго не вызначаліся высокім прафесіяналізмам, паказы былі дамарослыя па форме. Тэатры ў гарадах і мястэчках — цэнтрах магнацкіх латыфундый — былі блізкія па сваім прафесійным узроўні да сталічных, мелі характар публічных тэатраў.

На працягу канца XVIII — пачатку XIX ст. спектаклі і канцэрты наладжваліся ў цэнтрах адносна невялікіх памесцяў — мястэчках Глуск, Дзярэчын, Дуброўна, Горы-Горкі, Чачэрск, Прапойск, Мір, Лагойск і інш. Буйныя магнацкія тэатры і капэлы высокага мастацкага ўзроўню існавалі ў мястэчках Шклоў і Ружаны.

Капэлы і аркестры займалі вялікае месца ў музычным жыцці магнацкіх мястэчак. Нацыянальны склад аркестрантаў і спевакоў быў вельмі разнастайны: немцы, італьянцы, французы, чэхі, галандцы, палякі, беларусы. Разнастайныя былі і рэпертуар, і абавязкі самога аркестра: аркестранты суправаджалі спектаклі, ігралі на балях і ў час палявання. Беларускія прыгонныя музыканты былі ў аркестрах і капэлах Масальскага ў Ружанах (1752), у Юдзіцкіх у Глуску (90-я гг. XVIII ст.), Сапегаў у Дзярэчыне (1762–1765 гг.), Любамірскіх у Дуброўне (1783 г.) і інш. [2, с. 52].

Захапленне музыкаю ў Ружанах мела даўнія традыцыі: яшчэ ў 1752 г. у замку выступала капэла, якая належала М. Масальскаму. Але першыя звесткі пра ружанскую капэлу Сапегаў адносяцца да 1765 г. Музыкантаў было 40 чалавек «пры бубнах і трубах». З 1775 г. у Ружанах працаваў у якасці капельмайстра і кампазітара К. Чыпрыяна (Кіпрыяні). Вядома, што ў Ружанах існавала музычная оперная школа, і што «тэатр у Ружанах налічваў 60 артыстаў і танцоўшчыкаў». Адзін з іх, а менавіта М. Пранчынскі, пазней быў кіраўніком балета ў Вільні (на ружанскай сцэне працаваў з 1780 па 1785 г.) [3, с. 209, 211]. Уражанні ад ружанскага тэатра ў 1778 г. пакінуў у сваім дзённіку

літаратар Юльян Нямцэвіч: «Запрасіў нас князь А. Сапега ў тэатр. Заля была новая, чыстая, дэкарацыі свежыя. Акторы, падрыхтаваныя з юных сялянаў і сялянак, сыгралі па-французску аперэтку Русо “La devin village”, як мне падалося, няблага» [цыт. па: 13, с. 23]. Застаўся вельмі задаволеным, пачуўшы ружанскую капэлу ў 1784 г., кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі: ён загадаў шчодра ўзнагародзіць музыкаў.

Філіяламі ружанскай сцэны лічыліся тэатры Сапегаў ў Дзярэчыне і Зэльве. У гэтых мястэчках працавалі таксама і капэлы. Тэатральныя будынкі ў Ружанах і Дзярэчыне былі пабудаваны па праектах прыдворнага архітэктара Іагана Самуэля Бекера. Магчыма, што І. С. Бекер быў аўтарам і дэкарацый да спектакляў. Спецыяльна размаляваная мастаком К. Отэльсанам заслона на сюжэт купання Дыяны-паляўнічай у далейшым аддзяляла сцэну тэатра ў Вільні [15, с. 196].

Буйным асяродкам жыцця правінцыі ў другой палове XVIII ст. называе Раман Афтаназы Воўчын, які з 1721 г. належаў Панятоўскім (тут у 1738 г. нарадзіўся Станіслаў Антоні — будучы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі), а з 1738 г. — Чартарыйскім. Тут наладжваліся шматлікія балі, тэатральныя паказы, гонкі на лодках па канале («марскія бітвы») [18, s. 157–162].

Захаваліся звесткі пра тэатр Тышкевіча ў Свіслачы. Вядома, што кіраўніком капэлы быў К. Чыпрыяна, які служыў «прыдворным кампаністам» у 1788 г. У свіслацкім тэатры, які фактычна быў пры гімназіі, паказы даваліся самымі рознымі сіламі. Былі паказы аматараў — вучняў гімназіі, запрашаліся праезжыя «вольныя» трупы Я. Шыманскага (1803), віленскага тэатра пад дырэкцыяй М. Кажынскага (1817–1819). Усе прафесійныя трупы Тышкевіч браў на сваё ўтрыманне, плаціў ім грошы і даваў некаторыя каштоўныя прэзенты, за што яны павінны былі ставіць п’есы і нічога не патрабаваць ад публікі. Запрашаліся да паказаў таксама артысты з сялян і жыхароў мястэчка. Музычны рэпертуар быў самы разнастайны, складаўся з твораў кампазітараў Д. Паізіэла, І. С. Баха, Л. Бакерыні і інш. Вядома, што ў пачатку XIX ст. у свіслацкім парку быў пастаўлены аднапавярховы драўляны будынак пад гонтавым дахам, прызначаны спецыяльна для тэатра: мелася вялікая тэатральная зала і 2 танцавальныя залы [1, с. 432].

Асабліва актывізавалася тэатральнае і музычнае жыццё мястэчак, у тым ліку і Свіслачы, у час кірмашоў. Акрамя непасрэдна гандлёвай, яны выконвалі і культурную функцыю: адыгрывалі вялікую ролю ў грамадскім і духоўным жыцці мястэчак. У «культурнай праграме» кірмашоў былі танцавальныя вечары, прафесійныя і народныя тэатральныя прадстаўленні, выступленні ансамбляў музыкаў і цыркавых артыстаў. Маляўніча апісвае кірмашовую Свіслач Леан Патоцкі. Паводле яго слоў кірмаш быў важнай падзеяй, якую з найвялікшай нецярплівасцю чакалі гандляры, маладыя і старыя. Першыя спадзяваліся на ім шмат зарабіць, другія — натанцавацца, трэція — нагаварыц-

ца. Нічога так не нагадвала «замежныя воды», як Свіслацкі кірмаш. Назіраўся вялікі збор мясцовых паноў. Яны жылі ў асобных дворыках, адведвалі адзін аднаго, рабілі прагулкі конна, пешшу, у вазках, штодня збіраліся на абеды, балі, публічныя маскарады, у тэатр. У кірмашовыя дні самадзейныя артысты інсцэніравалі асобныя песні Асіяна, урыўкі з сервантэсаўскага «Дон-Кіхота», сюжэты са Старога Запавету, грэчаскай і рымскай міфалогіі, а таксама з айчыннай гісторыі (напрыклад, адпачынак Канстанціна Астрожскага пасля перамогі пад Оршаю) (Патоцкі, с. 69).

Успаміны Леана Патоцкага праліваюць святло на мову, якая выкарыстоўвалася ў тэатральных пастаноўках у Свіслачы. Паведамляецца, што жонка Тышкевіча арганізавала ў Свіслачы «прыгожы і элегантны тэатрык», у якім з падабранай групай аматараў разыгрывала французскія п’есы. Далей Л. Патоцкі адзначае: «Народная мова, у тую эпоху выгнаная з модных салонаў, захоўвалася толькі па шляхецкіх дамах. Адчыніў ёй свае дзверы нанова муж, пакінуты жонкаю, бо тая, ад’язджаючы ад яго, забрала з сабою тое, што было моднае, чужое, нясвойскае» (Патоцкі, с. 34). Пад назвай «народная» фігуруе, напэўна, польская мова. Але можна дапусціць, што яна мела шмат беларусізмаў.

*Архітэктурную адметнасць* мястэчак — цэнтраў магнацкіх латыфундый ці шляхецкіх маёнткаў — вызначалі замкавыя і палацава-паркавыя комплексы. Абсалютная большасць прыватнаўласніцкіх мястэчак сфарміравалася ў эпоху барока. Калі ў гатычных і рэнесансных мястэчках існаваў адзіны кампазіцыйны цэнтр — рынак, то барочныя мястэчкі мелі два кампазіцыйныя ядры: ансамбль забудовы плошчы і ансамбль палацава-замкавага комплексу. У рэдкіх выпадках абодва цэнтры зліваліся (Паставы, Лужкі), але, як правіла, яны падзяляліся рэкрэацыйнымі прасторамі. Былі і рашэнні, калі абодва цэнтры звязвала кампазіцыйная вось забудовы (Варняны). Мястэчак, у якіх двары ўладальнікаў знаходзіліся непасрэдна на рынкавых плошчах, няшмат. А вось вуліцы, што звязвалі рынак з сядзібай у мястэчках сустракаліся даволі часта. Падобныя вуліцы мелі назву «Дворская» альбо «Замкавая».

У канцы XVIII — пачатку XIX ст. у архітэктуру местачковых маёнткаў і сядзіб прыходзіць класіцызм. Класіцыстычныя палацы канца XVIII — першай паловы XIX ст. мелі шырокую тыпалогію: ад невялікага палаца-сядзібы да гарадскога палацавага комплексу, які займаў важнае месца ў планіровачнай структуры горада ці мястэчка. Але рысы класіцызму найбольш выразна ўвасобіліся пераважна ў буйных планах. Сярэднія і дробныя маёнткі ўжо ў першай трэці XIX ст. будуюцца ў стылі так званага гістарызму альбо рамантызму. Прыкладамі палацавай архітэктуры класіцызму ў мястэчках могуць служыць Лагойскі палац Тышкевічаў, Дзярэчынскі палац Сапегаў.

Уладальнікі мястэчак паўплывала на знешні выгляд мястэчак не толькі праз будаўніцтва палацава-паркавых комплексаў. Яны клапаціліся пра іх

планіроўку і забудову ў цэлым. Яркім прыкладам з’яўляецца Свіслач у часы валодання В. Тышкевіча. Заглянем у Тышкевічаву Свіслач праз позірк сучасніка таго перыяду графа Леана Патоцкага: «Вінцэнт Тышкевіч атрымаў Свіслач ад бацькі. Малы, бясформенны і брудны гарадок перабудаваў зусім нанова, заклаў галандскага кшталту парк, перарэзаў яго каналамі і заснаваў вялікі заасад. (…) У самай сярэдзіне горада быў квадратны рынак, аздоблены спічастаю пірамідаю, што завяршалася доўгім пазалочаным шпілем. Вялі да яго шырокія, пад шнур выцягнутыя вуліцы, забудаваныя ладнымі дамамі, пакрытымі гонтай, — Гродзенская, Рудаўская, Мсцібаўская, Брэсцкая і Варшаўская». Вуліцы былі брукаваныя, па баках абсаджаныя дрэвамі. На рыначнай плошчы ў пачатку XIX ст. былі ўзведзены гандлёвыя рады з 48 крамамі, размяшчаліся 5 пастаялых двароў, «кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезжых», аптэка. Каля плошчы знаходзіліся фарны касцёл, пры ім — вежа з гадзіннікам, непадалёк — уніяцкая царква са званіцай. У парку стаялі палац, будынак тэатра, аранжарэя, звярынец (у якім «трымалі да ста ланяў і больш за дзясятак аленяў»), а таксама альтанкі, гаспадарчыя пабудовы. Л. Патоцкі пісаў, што госці Свіслацкай зямлі здзіўляліся яе добраўпарадкаванасці: «…Едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар’ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забывалі на хвіліну, дзе знаходзіліся і пераносіліся ў думках на берагі Эльбы альбо Рэйна…» (Патоцкі, с. 24–28).

У разглядаемы перыяд у мястэчках, як і ў цэлым у Беларусі, ішоў паступовы працэс навязвання своеасаблівых культурных «масцікаў» паміж рознымі слаямі грамадства на шляху фармавання адзінай культурнай прасторы Новага часу. Традыцыйная культура была «донарам», які аддаваў назапашаныя стагоддзямі каштоўнасці ў агульны фонд новай культуры [8, с. 92, 106]. Гэта назіралася і ў мястэчках. Тут прафесійнае мастацтва кантактавала з народнай творчасцю, чэрпала для сябе таленты з народа. Адначасова жыхары мястэчак мелі магчымасці далучыцца да некаторых галін элітарнай культуры праз пасрэдніцтва настаўнікаў, святароў, уладальнікаў мястэчак, якія прытрымліваліся асветніцкіх ідэалаў. Найбольш адчувальна гэта было ў галіне асветы, паколькі ў мястэчках былі сканцэнтраваныя навучальныя ўстановы. Культурныя «масцікі» паміж жыхарамі мястэчак (сялянствам, мяшчанствам) і адукаванай элітай былі таксама ў тэатральным і музычным мастацтве. Архітэктура фарміравала ўяўленні местачкоўцаў пра новыя стылі і тыпы пабудоў.

Такім чынам, наяўнасць рэзідэнцыі ўладальніка ў мястэчках ператварала гэтыя паселішчы ў асяродкі шляхецкай культуры, што істотна паўплывала на розныя бакі жыцця і функцыянавання мястэчак: знешні выгляд, эканоміку і культуру. Яскравыя прыклады — росквіт Ружанаў, Дзярэчына, Гальшанаў за часамі Сапегаў [13; 5], Свіслачы ў часы ўладання ім Вінцэнта Тышкевіча

[14]. Палацава-паркавыя комплексы ўплывалі на фармаванне планіроўкі і забудовы мястэчак, надавалі адметнасць іх архітэктурнаму абліччу. Уладальнікі нярэдка спрыялі адукацыйна-асветніцкаму развіццю мястэчак, актывізацыі іх тэатральнага і музычнага жыцця. Менавіта цераз шляхецкую сядзібу мястэчка (а таксама вёска) атрымлівала большасць ведаў пра новыя павевы ў культурным жыцці, адбіраючы з іх тое, што найбольш адпавядала сялянскаму ці мяшчанскаму светаўспрыманню. У арбіту культурных уплываў магнацкай ці шляхецкай сядзібы часткова ўцягвалася нават габрэйскае насельніцтва мястэчак. У шэрагу выпадкаў з канфіскацый маёнткаў, у тым ліку і мястэчак, і перадачы іх у дзяржаўную ўласнасць адбывалася паступовае спусташэнне не толькі сядзібаў, але і гаспадарчых комплексаў, пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча жыхароў, збядненне іх культурнага жыцця.

## Крыніцы


НГАБ у Гродна = Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна

Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану. Мінск, 1997.

Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Минск, 1992.


## Літаратура


1. Архітэктура Беларусі : энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993.
2. Барышаў, Г. І. Прыгонныя аркестры / Г. І. Барышаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1972. — № 4.
3. Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. — Т. 1. — Мінск, 1983.
4. Гужалоўскі, А. А. Нараджэнне беларускага музея / А. А. Гужалоўскі. — Мінск, 2001.
5. Дзетліковіч, К. Гальшаны — дзе ажывае гісторыя / К. Дзетліковіч // Спадчына. — 2002. — № 2–3. — С. 119–129.
6. Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / уклад. Н. Мазоўка, У. Казбярук. — Мінск, 2004.
7. Коўкель, Л. І. Прыватныя бібліятэкі Гродзеншчыны (канец XVIII — пачатак XX ст.) / Л. І. Коўкель // Шлях у навуку : матэр. навук. канфер. — Мінск, 1997. — С. 80–84.
8. Куль-Сяльверстава, С. Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур : Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII — 1820-я гады) / С. Я. Куль-Сяльверстава. — Мінск, 2000.
9. Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X–XIX ст. : энцыкл. даведнік. — Мінск, 1995.
10. Нікалаеў, М. В. Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі : кнігазборы Сапегаў / М. В. Нікалаеў // Мастацтва Беларусі. — 1985. — № 7. — С. 64–67.
11. Радзюк, А. Р. Канфіскацыя прыватнай уласнасці на Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. : дыс. … канд. гіст. навук / А. Р. Радзюк. — Мінск, 2006.
12. Самцэвіч, В. Мястэчка Лагойск (Менскай акругі) / В. Самцэвіч // Наш край. — 1928. — № 4. — С. 28.
13. Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш / М. Скобла. — Мінск, 1999.

14. Соркіна, І. Асаблівы сусвет м. Свіслач / І. Соркіна // Спадчына. — 2002. — № 2–3. — С. 102–118;
15. Страчаная спадчына / Т. В. Габрусь, А. М. Кулагін, Ю. У. Чантурыя і інш. — Мінск, 1998.
16. Цыбуля, В. А. Прыватныя бібліятэкі, архівы і музеі Беларусі / В. А. Цыбуля // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1982. — № 3. — С. 36–38.
17. Шыбека, З. В. Гарады Беларусі (60-я г. XIX — пачатак XX ст.) / З. В. Шыбека. — Мінск, 1997.
18. Aftanazy, R. Dzieje Rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. — T. II. — Warszawa, 1987.
19. Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku / L. Kowkiel // Przegląd Wschodni. — 2001. — T. VII. — Zeszyt 4 (28).

**Андрэй Унучак** *(Мінск, Беларусь)*

## «ВЕЧЕРНЯЯ ГАЗЕТА» (1912–1915): ДА ПЫТАННЯ РАЗВІЦЦЯ ІДЭАЛОГІІ БЕЛАРУСКАГА РУХУ НАПЯРЭДАДНІ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Паўстанне 1863 г. надзвычай абвастрыла расійска-польскую культурную барацьбу, якая ішла на беларускіх землях і вызначала палітыку, эканоміку і культуру краю.

Для пакалення Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Кастуся Каліноўскага было натуральным змагацца ў саюзе з Варшавай супраць Масквы. Абсалютная большасць эліты беларускіх зямель другой паловы XIX ст. лічыла расійскае дамінаванне ў рэгіёне ненатуральным і таму часовым. Прыспешыць час вызвалення можна было, згодна з тагачаснай грамадскай думкай, двума шляхамі: 1) праз узброенае паўстанне; 2) праз сістэму арганічнай працы (кожны дзень падрываць трываласць расійскай улады «малымі справамі» ў галіне культуры і адукацыі). І калі ў 1863–1864 гг. было даведзена на практыцы, што на той момант і далей, у сярэдняй перспектыве, паўстанне не магло мець поспеху, то лагічна, што заставалася арганічная праца, якая мела шанцы на поспех зноў жа толькі ў саюзе з палякамі.

У канцы 1870–1880-я гг. узнікла новая плынь у грамадскім руху Беларусі — т. зв. «беларускія народнікі», якія выдалі шэраг публіцыстычных матэрыялаў сацыялістычна-рэвалюцыйнага характару на расійскай мове. Выданні «народнікаў» сведчаць пра тое, што частка інтэлігенцыі з беларускіх губерняў Расійскай імперыі арыентавалася на антыманархічны расійскі рух,

звязваючы з яго перамогай надзеі на дасягненне аўтаноміі Беларусі ў будучай дэмакратычнай Расіі. Але ўплывы «беларускіх народнікаў» былі мізэрнымі, сведчаннем чаго з’яўляецца той факт, што «нашаніўцы» перад рэвалюцыямі 1917 г. пра іх амаль нічога не ведалі (АР БАНЛР[1], ф. 21, спр. 289, арк. 5). Такім чынам, відавочна, што сацыялістычна-рэвалюцыйная прарасійская ідэалогія не атрымала шырокага распаўсюджання ў колах, з якіх выйшлі галоўныя лідары беларускага руху пачатку XX ст.

Таму, калі узнік младабеларускі рух на пачатку XX ст., то перад ім стаяла задача выразна сфармаваць нацыянальны светапогляд насельніцтва Беларусі практычна ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, асабліва што тычыцца беларуска-польскіх і беларуска-расійскіх стасункаў.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны (1912–1914 гг.) беларускі рух меў значныя здабыткі ў розных сферах грамадскага жыцця, ён стаўся даволі ўплывовым чыннікам гэтага жыцця. Былі ўжо свае выдавецтвы і свая перыёдыка («Наша Ніва», «Саха», «Лучынка», «Biełarus»). Да гэтага часу з’явілася даволі сур’ёзная беларуская мастацкая літаратура, тэатр, гурткі і пэўная колькасць нацыянальнай інтэлігенцыі, здольная рэалізаваць і больш маштабныя праекты.

Гэта быў час, калі лідары віленскага асяродка беларускага руху, у першую чаргу браты І. і А. Луцкевічы, А. Уласаў, В. Ластоўскі распрацоўваюць і рэалізуюць праграму пашырэння сацыяльнай базы руху. Для гэтага, безумоўна, патрэбна было адпаведнае ідэйнае апірышча, далейшае развіццё ідэалогіі беларускага руху.

Пачынаючы змаганне за апазіцыйную царызму інтэлігенцыю краю, беларускія лідары пачуліся даволі моцнымі як у ідэйным, так і ў рэсурсным плане, каб канкураваць з расійскай і польскай опцыямі на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта з мэтай паспяховага вядзення барацьбы за разнамоўную інтэлігенцыю і была заснаваная «Вечерняя газета». А так як беларускі рух не быў выразна сепаратысцкім, як скажам літоўскі, хоць і арыентаваўся на сялян, то існаванне гэтай газеты ніколькі не супярэчыла тым ідэям, якія, напрыклад, распрацоўваліся і папулярызаваліся на старонках «Нашай Нівы».

На пачатку лістапада 1911 г. на сустрэчы з удзелам Івана Краскоўскага, Антона Луцкевіча, Браніслава Крыжаноўскага, Зыгмунта Нагродскага і Міхала Ромэра была выказана думка пра выданне ў Вільні расійскамоўнага штотыднёвіка краёвага кірунку. Аднак газета выйшла толькі ў верасні 1912 г. у фармаце штодзённіка. Ужо ў першым нумары «Вечерней газеты»[2] было заяўлена, што «Культурны стан нашага краю варты слёз. Неадукаванасць

---

[1] АР БАНЛР = Аддзел рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі.

[2] Далей у спасылках «Вечерняя газета» будзе пазначацца як ВГ.

народных масаў, прыгнёт спрадвечных забабонаў, слабое развіццё пачуцця людское годнасці, цяжкія ўмовы народнай працы — вось характэрныя рысы нашага жыцця» (ВГ, 1912, 19 вер.)

Калі ўважліва ўчытацца ў гэтую фразу, то становіцца зразумела, што фактычна гэта працяг ці нават паўтарэнне асноўнай лініі нашаніўскай публіцыстыкі, але тут важныя некалькі момантаў. Па-першае, аўтар рэдакцыйнага артыкула (хутчэй за ўсё А. Луцкевіч. — *А. У.*) пісаў далей пра тое, што адначасова з нацыянальным адраджэннем розных нацый краю адбываецца выхад на гістарычную арэну сацыяльных «нізоў». Па-другое, «народ» (сяляне і дробнае чыноўніцтва) павінен быць прадстаўлены ва ўсіх органах, ад Дзяржаўнай Думы і да органаў мясцовага самакіравання. Па-трэцяе, востра ставіцца пытанне свабоды веравызнання: «Усялякія абмежаванні свабоды веры, усялякія веравызнаўчыя прывілеі вечна будуць уносіць разлад паміж дэмакратычнымі элементамі краю, паміж каталіком і праваслаўным, паміж праваслаўным і стараверам, хоць бы яны належалі да адной нацыянальнасці». У апошнім выказванні, у адрозненне ад «Нашай Нівы», на першы план ставіцца не мова набажэнства, а свабода веравызнання як такая, пра мову няма нават згадкі.

Цікава, што гаворачы пра варты жалю культурны стан краю, газета пісала і пра тое, што, па-сутнасці, эканамічны стан Беларусі не такі ўжо і кепскі, нягледзячы на розныя складанасці, а ў параўнанні з расійскімі губернямі ён шмат лепшы : «наш край дзякуючы асаблівасці мясцовых умоваў, такіх як правільная і шырокая гандлёвая арганізацыя, лёгкасць збыту прадуктаў у масе дробных гандлёвых пунктаў — мястэчак і г. д., знаходзіўся ў больш спрыяльных умовах, чым іншыя абшары Імперыі» (ВГ, 1912, 30 каст.). Хоць у сферы гандлю і ўзнікаюць пэўныя праблемы, але яны пераважна не эканамічнага характару, сцвярджаў аўтар артыкула «Кааператывы і нацыяналізм». На яго думку, кааператывы і матывацыя іх стварэння часта выкарыстоўваецца пэўнымі сіламі як антыгабрэйская дзейнасць. Газета адзначыла, што гэта недапушчальна (ВГ, 1912, 19 верас.).

Але нягледзячы на тое, што становішча ў гаспадарцы краю было ў прынцыпе здавальняючае, сітуацыя ў сферы культуры і асабліва адукацыі была кепская і не магла прынцыпова палепшыцца, пакуль не было ўніверсітэта. Пытанне ўніверсітэта для Беларусі і Літвы, якое падымала «Наша Ніва» ў 1908 г., было зноў узнята «Вечерней газетой» напрыканцы 1912 г. Але калі «Наша Ніва» выстаўляла на першы план нацыянальны момант, то «Вечерняя газета» ў першую чаргу апелявала да сацыяльнай сітуацыі ў краі, казала пра тое, што насамрэч адсутнасць універсітэта перакрывае магчымасць вялікай колькасці людзей з невялікімі даходамі атрымаць вышэйшую адукацыю ўвогуле (ВГ, 1912, 2 снеж.).

На думку А. Луцкевіча, які рэдагаваў «Вечернюю газету», расійска-польская барацьба ў нашым краі можа спыніцца толькі тады, калі тут будзе сапраўдная дэмакратыя і ўсе будуць мець роўныя ўмовы, і расійцы з палякамі пачнуць улічваць беларускія інтарэсы і акцэптаваць беларускую прысутнасць (ВГ, 1912, 5 ліст.). Такім чынам, прадстаўнікі беларускага руху не збіраліся браць удзел у расійска-польскім культурным змаганні, а выступалі за найхутчэйшае яго спыненне.

Разам з гэтым, «Вечерняя газета» актыўна выказвалася за адмену т. зв. антыпольскіх законаў, якія, на думку рэдакцыі, істотна запавольвалі развіццё эканомікі краю і спрыялі росту польскай апазіцыйнасці і нацыяналізму: «Забарона асобам польскага паходжання набываць маёнткі ў нашым краі прывяла да таго, што факт продажу зямлі абшарнікам цалкам выкідваў яго са “свайго” асяродка, пазбаўляючы надзеі на вяртанне. Вось чаму абшарніцкая зямля амаль цалкам перастала служыць прадметам гандлю, а між тым запатрабаванасць у гэтым моцна адчувалася як самімі абшарнікамі, так і сялянамі … Такім чынам, забарона палякам набываць зямлю выклікала сярод апошніх толькі ўзмацненне нацыянальнага пачуцця і імкнення да самазахавання, якое сваёй чаргой мела толькі тое наступства, што затрымала правільны рух зямельнай уласнасці з абшарніцкіх рук да сялянскіх» (ВГ, 1912, 30 каст.).

Разам з тым газета нібыта абстрагавалася ад нацыянальнага пытання падчас думскіх выбараў: «Выбар шляху: наперад ці назад, — гэта задача, якую даводзіцца развязваць незалежна ад нашай сімпатыі да той ці іншай партыі. Колькі б ні было партыяў і палітычных праграмаў, усе яны падзяляюцца на дзве групы: прагрэсіўную і кансерватыўную, левую і правую. І як бы мы ні адхрышчваліся ад партыяў, як бы гучна ні заяўлялі пра нашую беспартыйнасць ці пазапартыйнасць, мы ўсё ж мусім сабе сказаць, хто мы: прагрэсісты ці кансерватары, правыя» (ВГ, 1912, 23 вер.). Але такое абстрагаванне мела месца толькі на першы погляд, бо рэдакцыя «Вечерней газеты» пастаянна ўзнімала пытанні грамадскага і культурнага жыцця ўсіх нацыянальных груп незалежна ад іх партыйнай прыналежнасці.

Так, у нумары за 15 кастрычніка 1912 г., у артыкуле «Асноўныя пытанні», выданне звярнулася да так званага «расійскага пытання» ў краі. «Асноўнае пытанне», на думку рэдакцыі, палягала ў тым, як расійцы ставяцца да мясцовага насельніцтва, і тут магчымыя два варыянты: або як каланісты да каланізаваных, або як грамадзяне краю, якія жадаюць усебаковага развіцця таго абшару, дзе яны жывуць (ВГ, 1912, 23 вер.). Выбар павінны зрабіць самі расійцы, у першую чаргу тыя, якія жывуць у Вільні — нефармальнай сталіцы краю. Востра была пастаўлена «расійская» праблема ў «Вечерней газете» за 18 снежня 1912 г., дзе аўтар публікацыі пісаў, што нават, калі лагічна зыходзіць з тэорыі «агульнарускага адзінства», то вынікае, што нацыянальнае адраджэнне беларусаў і ўкраінцаў павінна падтрымлівацца «агульнарусамі»,

бо ўзбагачае расійскую культуру, часткамі якой, у адпаведнасці з гэтай тэорыяй, з'яўляюцца ўкраінцы і беларусы. Але гэтага не адбываецца, а наадварот беларусаў і ўкраінцаў усяляк намагаюцца асіміляваць — з аднаго боку іх лічаць «рускімі», а з іншага — ніякія правы, якімі карыстаюцца расійцы ў нацыянальным жыцці, на беларусаў і ўкраінцаў не распаўсюджваюцца (ВГ, 1912, 18 снеж.).

Калі «расійскае пытанне» было для «Вечерней газеты» «асноўным», то «габрэйскае» — было названа «балючым» (ВГ, 1912, 23 вер.). Газета пісала: «звяртаючыся да стану рэчаў у нашым краі, немагчыма не адзначыць ненармальнай з'явы, што склад гарадскога насельніцтва зусім нічога не паведамляе пра склад насельніцтва краю». Такое становішча абумоўлена расійскай палітыкай у краі, увядзеннем мяжы аселасці, што прывяло да «прымусовага» дамінавання габрэяў у гарадах, выклікаўшы істотныя дэфармацыі развіцця ўсіх нацыянальнасцей былога Вялікага Княства Літоўскага. Выйсце з гэтага прыкрага стану рэчаў можа быць толькі адно — скасаванне мяжы аселасці.

З гарадамі газета звязвала і вырашэнне «польскага» пытання ў краі: «Сёння польскія нацыяналісты гвалтам крычаць … з нагоды скарачэння плошчы польскага землеўладання. Яны да таго атаясамліваюць інтарэсы сваёй зямельнай буржуазіі з інтарэсамі палякаў увогуле, што пагібель апошняй гатовыя разглядаць як пагібель польскай справы ў краі, зусім *не разумеючы, што вырашальная роля ў краёвым жыцці ўсё больш і больш пераходзіць да гарадоў*, па меры росту апошніх, што менавіта *ў гарадах паўстае перад намі польскае пытанне* (курсіў «Вечерней газеты» — *А. У.*) найбольш поўна, бо толькі тут можна казаць пра наяўнасць дыферэнцаванага польскага народу ў шырокім сэнсе гэтага слова» (ВГ, 1913, 10 снеж.). Тут ёсць два істотныя моманты: па-першае, разводзяцца паняцці «польская справа», «польскія інтарэсы» і погляды «польскіх нацыяналістаў»; па-другое, канстатуецца, што «польскае пытанне» насамрэч паўстае менавіта ў гарадах, дзе ёсць усе сацыяльныя пласты польскага насельніцтва. Наконт апошняга тэзіса газета дае аргументацыю, якая абапіраецца на той пастулат, што «народнай масе чужы нацыянальны шавінізм, нацыянальная варожасць, калі гэтыя антыгуманітарныя пачуцці часам прысутныя, дык толькі таму, што іх штучна распальваюць» (ВГ, 1913, 12 снеж.). Тут відавочна праяўляецца сацыялістычны светапогляд Антона Луцкевіча, згодна з якім, дэмакратычнымі з'яўляюцца толькі «народныя масы», а эліты грамадства часта пільнуюцца сваіх матэрыяльных інтарэсаў, выдаючы іх за інтарэсы нацыянальныя.

Падобны матыў можна прасачыць і ў матэрыяле, прысвечаным нарадзе прадстаўнікоў партыі рэальнай палітыкі ў Варшаве, якая адбылася ў сакавіку 1913 г. Там, у прыватнасці, выступаў рэдактар «Kurjera Litewskiego», які выказваўся наконт стасункаў паміж польскай і расійскай супольнасцямі краю. На ягоную думку, у расійскіх колах назіраецца некаторае імкненне

пайсці на збліжэнне з палякамі краю, і апошнія павінны станоўча адказаць на гэтае імкненне. І далей ідзе каментар аўтара (А. Луцкевіч?) — «казаць жа пра збліжэнне расійцаў і палякаў, як нацыянальных цэлых на глебе нашага краю наўрад ці магчыма. Замыслоўскі гэткі ж чужы расійскім дэмакратам, як афіцыйнае прадстаўніцтва мясцовых палякаў у Дз[яржаўнай] Думе, якое складаецца з абшарнікаў, чужое расійскаму дэмакратызму. Збліжэнне паміж такімі скрайнімі супрацьлегласцямі абсалютна неймавернае» (ВГ, 1913, 13 сак.).

«Вечерняя газета», у адрозненне ад «Нашай Нівы», пісала пра паўстанне 1863 г., называючы яго «польскім», і ўздымала пытанні «мілітарнай культуры». У невялікім матэрыяле, прысвечаным 50-м угодкам паўстання, адзначалася: «паўстанне 1863 г. ясна паказала, што недастаткова аднаго жадання змагацца. Для таго, каб перамагчы, трэба яшчэ валодаць "мілітарнай культурай". Нацыянальная культура не поўная, калі яна толькі літаратурная, эканамічная і сацыяльная і ў ёй няма элементаў, якія забяспечваюць стварэнне нацыянальнага войска» (ВГ, 1913, 21 студз.). Калі «Наша Ніва» пісала пра тое, якія поспехі палякі мелі ў галіне стварэння ўласнай сеткі школьнай адукацыі («Наша Ніва», 1907, 21 снеж.), то «Вечерняя газета» адзначала, што палякі здольныя выбудаваць нават уласнае войска без уласнай дзяржавы. Натуральна, што гэтыя ідэі, агучаныя напярэдадні Першай сусветнай вайны, дыскутаваліся ў асяродку беларускага руху, а праз некалькі гадоў іх дэталёвая распрацоўка зрабілася пытаннем жыцця і смерці беларускай дзяржаўнасці.

Падсумоўваючы, варта адзначыць, што выданне «Вечерней газеты» было своеасаблівым адказам ідэолагаў «нашаніўскага» руху на польска-расійскую барацьбу, якая вялася ў краі і якая не дазваляла ўзняцца беларускаму руху.

Асновай ідэалогіі выдання быў так званы «дэмакратызм», сутнасць якога ў тым, што і польскія і расійскія эліты краю павінны лічыцца з беларускім «дэмасам», які варты таго, каб ажыццяўляць інтарэсы краю ва ўсіх структурах краёвай і імперскай улады.

«Вечерняя газета» нават выкарыстоўвала імперскі тэзіс аб адзінстве рускага народа, які нібыта складаўся з велікарусаў, маларусаў і беларусаў, каб нагадаць пра тое, што «беларускаму племю» патрэбна даць магчымасць рэалізаваць і развіваць свае асаблівасці з мэтай «узбагачэння агульнарускай» і агульначалавечай культуры.

Галоўная заслуга «Вечерней газеты» нам бачыцца ў тым, што яна зрабіла свой унёсак у развіццё ідэалогіі беларускага руху і распаўсюджвала гэтую ідэалогію сярод зрусіфікаваных пластоў насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага.

## Крыніцы

Экономика и национализм // Вечерняя газета. — 1912. — 30 окт.
Кооперативы и национализм // Вечерняя газета. — 1912. — 19 сент.
К университетскому вопросу // Вечерняя газета. — 1912. — 2 дек.
К постановке местных вопросов // Вечерняя газета. — 1912. — 5 нояб.
Два пути // Вечерняя газета. — 1912. — 23 сент.
Основные вопросы // Вечерняя газета. — 1912. — 15 окт.
Национальная культура // Вечерняя газета. — 1912. — 18 дек.
Больной вопрос // Вечерняя газета. — 1912. — 26 окт.
Непримиримый конфликт // Вечерняя газета. — 1913. — 10 дек.
Две силы // Вечерняя газета. — 1912. — 12 дек.
А. Иванов. Совещание польских реалистов / А. Иванов // Вечерняя газета. — 1913. — 13 мар.
В Польше. 1863 года // Вечерняя газета. — 1913. — 21 янв.
Польская Маці Школьная // Наша Ніва. — 1907. — 21 снеж. (Факсімільнае выданне. Вып. 1. Мінск: Тэхналогія, 1992).

**Рышард Радзік** *(Люблін, Польшча)*

# РАЗУМЕННЕ НАЦЫІ Ў «НАШАЙ НІВЕ» (1906–1915)

Разам з распадам СССР і з’яўленнем на яго месцы звыш дзясятка дзяржаваў, паўстала, прынамсі ў частцы іх эліт, напружаная рэфлексія — не толькі пра стан уласных нацый, але і пра магчымыя разуменні гэтага паняцця. Гэтая з’ява мела (і мае) розны грамадскі ахоп і тычылася розных аспектаў фармавання і працягласці супольнасцей такога тыпу. Падобнага кшталту рэфлексіі можна было назіраць, пераважна, у Прыбалтыцы, Заходняй Украіне і рэспубліках Каўказу.

Са стратай сваіх «ускраін» Расія апынулася ў стане інтэлектуальнага (канцэпцыйнага) «завісання»: паміж разуменнем (і будаваннем) нацыянальнай расійскасці як палітычнай супольнасці ў дзяржаўных межах, прывязаных (у зусім іншых рэаліях) да часоў імперыі яшчэ перад стварэннем (у 1832 г., віцэ-міністрам асветы Сяргеем Уваравым) г. зв. трыадзінай дактрыны «афіцыйнай нацыі» («праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць») — і жаданнем працягнуць адзінства у межах усходнеславянскай, праваслаўнай рускасці. Першая з названых канцэпцый, з часам, павялічвала шанцы атрымаць згоду на канчатковае аддзяленне ад Расіі Украіны і Беларусі. Неабходна, аднак, усведамляць, што ў еўрапейскіх умовах будаванне палітычнай нацыі было магчымым толькі ў

выпадку згоды (прывабнасці для) этнічных груп гэтай тэрыторыі, што агулам вынікала з гарантаваных дзяржавай вольнасцей.

Украіна раздзерта паміж дамінуючым на захадзе краіны культурным (моўна-этнічным) тыпам нацыі — і палітычным тыпам на поўдні і ўсходзе дзяржавы (напр., Крым, Луганск), у моўна, культурна (рэлігійна), этнічна і нават нацыянальна змяшаных асяроддзях. Магчымы агульнадзяржаўны, нацыянальны поспех Украіны, безумоўна, запатрабуе моцных эканамічных умоў — беручы пад увагу постсавецкія рэаліі гэтай тэрыторыі.

У нечым падобнай (але і значна адрознай) сітуацыі знаходзіцца Беларусь, хаця дыскусіі пра змястоўна-паняццевае поле беларускай нацыі тут моцна абмежаваны і найчасцей зводзяцца (калі наогул маюць месца) да вузкіх колаў інтэлектуалаў. Беларусы, пасля стагоддзяў дзяржаўнага нябыту, фармальна — суб'екты ўласнага права, кажуць пра магчымасць узнікнення беларускай палітычнай, дзяржаўнай, нацыянальнай супольнасці, якая яднае розныя этнасы і мовы (перадусім рускую і беларускую). Без паглыблення ў беларускую сучаснасць (якая не з'яўляецца галоўным прадметам дадзеных развагаў), хачу паказаць пачаткі ўзнікнення сучаснай беларускай нацыянальнай супольнасці ў першыя два дзесяцігоддзі XX ст.; звярнуся, аднак, і да першай выразнай спробы акрэсліць беларускую нацыянальную ідэалогію — у перадапошнім дзесяцігоддзі XIX ст.

Сучасная нацыі Сярэдне-Усходняй Еўропы (па-за тэрыторыяй Асманскай імперыі) паўставалі ад канца XVIII да першых дзесяцігоддзяў XX стст., агулам, з дзвюх вялікіх палітычных супольнасцей: польскай і венгерскай (за выключэннем аўстрыйскай Чэхіі і Славеніі). Гэтая тэрыторыя была заваявана расіянамі і нямецкамоўнымі прусамі ды аўстрыйцамі, якія знішчылі існуючыя на ёй дзве дзяржавы. Бліжэй да мяжы XVIII–XIX стст. ва ўсёй асветніцкай Еўропе нацыя была палітычна-дзяржаўным паняццем — г. зн. лічылася, што шматнацыянальнай дзяржавы існаваць не можа, а нацыянальную (палітычна-нацыянальную) свядомасць, увогуле, мелі адны эліты. Відавочна, разам з заняпадам дзяржавы паўстала пытанне: чальцамі якой нацыі з'яўляюцца эліты былой дзяржавы? Што да Рэчы Паспалітай, некаторыя выдатныя прадстаўнікі яе былых палітычных эліт былі гатовы вызнацца рускімі, немцамі ці аўстрыйцамі. Паводле складанага шэрагу прычын, гэтага не адбылося. Захаванне нацый гэтай тэрыторыі альбо ўзнікненне «новых» за межамі расійскай, нямецкай і аўстрыйскай супольнасцей, было магчыма толькі ў іх новай, пазапалітычнай формуле. Палітычна ў расійскім захопе можна было быць толькі расіянінам, бо ніхто іншы не меў «уласнай» дзяржавы. Такім чынам, пазарасійская нацыянальная эмансіпацыя ў межах царскай дзяржавы мусіла падкрэсліваць іншыя, апрача палітычна-дзяржаўных, рэальныя нацыянальныя / нацыятворчыя рысы / чыннікі. Палітычная незалежнасць магла быць мрояй, вартай рэалізацыі, магчыма, за яе нават трэба было змагацца — але

яна не стварала інстытуцыйных рэалій, на якія б можна было абаперціся. У гэткіх абставінах, нацыі паміж Нямеччынай і Расіяй маглі паўстаць толькі на грунце культурных адметнасцей, перадусім — этнічнасці, мовы, рэлігіі. Палякі, якія мусілі перафармуляваць і значна звузіць паняцце нацыянальнай польскасці, абаперліся на адметныя ад двух галоўных суседзяў і нацыянальна-палітычных канкурэнтаў рысы: мову і рэлігію. Падобнае адбылося з усімі іншымі нацыямі гэтай часткі Еўропы, а таксама — пасля знакавага 1832 г. — з расіянамі, якія не змаглі асіміляваць польскую шляхту раней і, у выніку такой няздольнасці, звярнуліся да паняцця «іншародцаў» як да сведчання недахопу асіміляцыйных здольнасцей і магчымасцей збудаваць палітычную нацыю. Украінцы, літоўцы, латышы і эстонцы аспрэчвалі сваю прыналежнасць да расійскай культурнай (нацыянальнай), супольнасці, выстаўляючы сваю моўную і, часта, рэлігійную адметнасць. Той, хто ў тагачаснай Еўропе гэтага не рабіў, альбо рабіў занадта слаба, растаў ў шырэйшых супольнасцях — напрыклад, правансальцы (поўдзень Францыі). Не было ніякай аб’ектыўнай, гістарычнай неабходнасці, якая б «загадвала» кожнаму этнічнаму калектыву ствараць ўласную нацыю / дзяржаву.

Фармаванне сучаснай нацый у Еўропе XIX ст. было абумоўлена, па-першае — эмансіпацыяй грамадскіх мас, па-другое — ступенню іх культурнай адрознасці ад атачэння, па-трэцяе — магчымасцю спасылацца на гістарычна сфармуляваную палітычную традыцыю. Беручы пад увагу дыялектна-культурную неаднароднасць расійскага грамадства на працягу стагоддзяў, выжыванне беларускага этнасу / нацыі — у выпадку гіпатэтычнага паглынання Маскоўскім Княствам беларускіх зямель — не падаецца праўдападобным. Гэтае сцвярджэнне грунтуецца як на супольнай рэлігіі і моўнай блізкасці, так і на сістэме ажыццяўлення ўлады ў маскоўскай дзяржаве. Можна, такім чынам, сказаць, што беларусы выжылі як асобны этнас і здабылі шанец стварыць асобную нацыянальную супольнасць, апелюючы да супольнай з літоўцамі дзяржавы, што прывяло не толькі да стварэння ўласнай палітычна-дзяржаўнай традыцыі, але і нажывіла іх культуру зместам, выразна адрозным ад расійскага. Сувязь з царскай дзяржавай паступова скасавала гэтыя адметнасці. Заходнерускі «рух», які паўстаў у другой палове XIX ст., пераважна ў асяроддзі праваслаўнага духавенства, рабіў з беларусаў адно з адгалінаванняў расійскай нацыі. З часам такі тып мыслення, у яго розных праявах, стаў на Беларусі празмерна ўплывовым. Пад канец XIX ст. яму супрацьстаялі толькі асяроддзі, якія, незалежна ад этнічных каранёў, паходзілі з традыцыйнай, палітычна зразумелай, польскасці — і пры гэтым усё больш эвалюцыянавалі ў бок польскасці сучаснай, культурнай. Такая эвалюцыя паняцця нацыі, не толькі з польскага, але і з расійскага (ды нават украінскага і літоўскага) боку спрыяла з’яўленню, на пачатку XX ст., асяроддзя беларускіх навачасных

нацыяналістаў з выразна заходняй скіраванасцю, якія разумелі нацыю хутчэй як палякі, чэхі ды літоўцы, чым як расіяне.

Гэта, аднак, была не першая выразная задума беларусаў стварэння сучаснай беларускай нацыі і беларускай нацыянальнай ідэалогіі. У першай палове 80-х гг. XIX ст. пецярбургскія чальцы народніцкіх колаў (якія, збольшага, паходзілі з беларускіх зямель) агучылі ў шэрагу нелегальных рускамоўных выданняў, пераважна — у выдадзеных у 1884 г. двух нумарах газеты «Гоман», накід беларускай нацыянальнай ідэалогіі. Нягледзячы на пэўную неадназначнасць народніцкіх лістоў, у іх можна заўважыць разуменне (беларускай) нацыі ў сучасных катэгорыях. Выкананае імі параўнанне ўласнай сітуацыі з той, у якой былі чэхі на пачатку свайго нацыянальнага адраджэння (калі тыя дыстанцыяваліся ад нямецкамоўных вышэйшых пластоў і звярнуліся да простага люду), і вывядзенне з гэтага для сябе аптымістычных высноў сведчыць пра ўспрыманні нацыі ў сучасных этнічна-культурных катэгорыях, разумовым памкненні ў кірунку, які здабыў практычнае вымярэнне ў выпадку шмат якіх нацыянальна абуджаных грамадстваў Сярэдне-Усходняй Еўропы [7, s. 244-255]. Тое, што адзіны ў XIX ст. накід беларускай нацыянальнай ідэалогіі быў сфармуляваны не на беларускіх землях, сведчыць, пэўна, таксама пра тое, як цяжка было знайсці ў грамадстве Беларусі месца сярод сутыкнёных, ужо сфармаваных культур і нацый, канкуруючых за мясцовы народ — расіян і палякаў. Нішто не сведчыць, аднак, пра знаёмства галоўных дзеячаў нашаніўскага перыяду з выданнямі народнікаў, а пагатоў пра ўплыў апошніх на творчасць публіцыстаў «Нашай Нівы» — хаця выключаць такога не выпадае.

Заснаваная ў 1906 г. «Наша Ніва» згуртавала надзвычай вялікае кола прыхільнікаў нацыянальнай беларускасці, паступова яго пашыраючы. Са спазненнем, у параўнанні з украінцамі, на сем дзесяцігоддзяў, яны пачалі ствараць сучасную выяву беларускай нацыі. Паўстае цікавае і, на маю думку, вартае сціслага адказу пытанне: як яны бачылі нацыю ўвогуле і беларускую ў прыватнасці? У перыяд узнікнення «Нашай Нівы» на літоўска-беларускіх землях актыўна дзейнічала Нацыянальна-дэмакратычная партыя, якая прамаўляла выразна акрэсленую, культурную, моўна-этнічную ідэю польскай нацыі. Раней, у XIX ст., на беларускіх землях дамінавала думка пра нацыі ў традыцыйных катэгорыях, хаця пасля студзеньскага паўстання яна зазнала вельмі павольную (павольней, як на астатніх землях былой Рэчы Паспалітай) эвалюцыю. На пачатку XX ст., асабліва пасля 1905 г., сітуацыя на беларускіх землях ў гэтым сэнсе ўжо выглядала інакш. Веданне пра існаванне ў нашай частцы Еўропы нацыянальных ідэалогій, якія абапіраліся на культурныя (моўна-этнічныя) крытэрыі, ды нават сутыкненне з праявамі іх актыўнасці на тэрыторыі Беларусі, было ўжо значным. Гэта не магло не паўплываць на ўзнікненне беларускага руху і на змест ствараемай ідэалогіі.

Вынікам было цалкам сучаснае разуменне нацыі з боку беларускіх дзеячоў, адпаведнае тым выявам нацыі, якія ўжо прысутнічалі, напоўніцу, на тэрыторыі Сярэдне-Усходняй Еўропы. Гэтае разуменне выходзіла за катэгорыю «рускасці» як нацыянальна яднаючай велікаросаў, маларосаў і беларусаў. Беларушчына была прызнана паўнапраўнай, асобнай мовай, а не дыялектам рускай ці польскай. Усе дзевяць год існавання газеты беларуская мова падавался як галоўны элемент — утваральнік беларускай нацыянальнай адметнасці, а мова ўвогуле — як істотная характарыстыка кожнай нацыі. Ужо ў другім нумары «Нашай Нівы» можна было прачытаць словы рэдактара-выдаўца З. Вольскага: *«Z roznych staron dalacieli krytyki, szto hazetka, wydawanaja pa biełarusku, susim niepatrebna, szto hetu hazetku lepiej było by wydawać, jak adny każuć — pa polsku, druhije — pa rasiejsku, bo biełaruski jazyk, każuć — jazyk miortwy, jaho nie warta padymać z mahiły. — Adkazywać na heta doůha nia budziem, — skażem tolki, szto my chacia i mahli by wydawać hazetku ci pa polsku, ci pa rasiejsku, ci pa niemiecku abo francusku, ale pastanawili drukawać jaje na jazyku "tutejszym" biełaruskim. Heta jazyk nia miortwy, im haworyć kale dziesiaci miljonou narodu, narodu ciomnaho, skryůdżenaho — i jon skarej nas zrazumieje, kali my budziem pisać u naszaj rodnaj biełaruskaj, jak szmat chto każe — "mużyckaj" mowi»*[1] [10].

Праз сем год, у некалькі тэарэтызаваным тэксце *«Нашы цэннасьці»*, аўтар характарызаваў паняцце нацыі, суадносячы разгляданыя прыкметы з беларускай супольнасю. Нацыянальныя каштоўнасці ён падзяляў на *«матэрьяльные і моральные»* — надаючы першыя дзяржаўным нацыям. Разам з тым зазначаў, што нацыі, якія не маюць сваіх дзяржаў, могуць трываць тысячагоддзі, яднаючыся тады на *маральных* нацыянальных каштоўнасцях, якія, у сваю чаргу, падзяляў на *«інстытуціонные і ідэальные»*. Інстытуцыйныя (у іх маральнай і арганізацыйнай выяве) — мова, рэлігія, царква, пачуццё нацыянальнага адзінства і звычаяў. Ідэальныя каштоўнасці — гісторыя, традыцыя і ідэалы. На думку аўтара тэксту, наяўнасць такіх каштоўнасцей стварае моцную нацыю, нават без матэрыяльных каштоўнасцей, ці дзяржаўных арганізацый. Праз гэткія развагі аўтар даводзіў, што беларусы з'яўляюцца нацыяй, што на той час зусім не было відавочным. Мову мы маем, яна жыве — сцвярджаў невядомы (схаваны за псеўданімам) аўтар тэксту. Існуе таксама — на яго думку — пачуццё нацыянальнага адзінства, якое абапіраецца на мову; жывуць таксама супольныя звычаі. Затое ў беларусаў няма нацыянальнай царквы — аднак без яе нацыя можа існаваць. З ідэальных каштоўнасцей у беларусаў ёсць свая гісторыя і нават была свая дзяржава. Існуюць таксама нацыянальныя традыцыі, хаця і слабыя, паколькі *«яны не захаваліся праз утрату нашай*

[1] Газета выходзіла да кастрычніка 1912 г. лацінкай і кірыліцай, а пасля толькі кірыліцай (у цытатах захавана напісанне арыгінала).

| *Nazwisko* | *Nosiciele nazwiska w pow. hajnowskim* | *Nosiciele nazwiska w Polsce* | | *Nosiciele nazwiska w pow. hajnowskim na tle ogólnopolskim w %* | *Miejsce pow. hajnowskiego w Polsce pod względem liczby nosicieli nazwiska* |
|---|---|---|---|---|---|
| | | *A* | *B* | | |
| Szymaniuk | 145 | 815 | 750 | 17,79 | 1 |
| Martyniuk | 137 | 2210 | 2042 | 6,20 | 4 |
| Ochrymiuk | 129 | 307 | 282 | 42,20 | 1 |
| Łukaszuk | 126 | 2615 | 2681 | 7,80 | 5 |
| Ostapczuk | 125 | 885 | 854 | 14,20 | 1 |
| Artemiuk | 124 | 442 | 442 | 28,05 | 1 |
| Trofimiuk | 122 | 386 | 329 | 31,60 | 1 |
| Panasiuk | 120 | 4440 | 4269 | 2,70 | 6 |
| Dawidziuk | 120 | 1457 | 1510 | 8,24 | 3 |
| Nikołajuk | 119 | 681 | 777 | 17,47 | 3 |
| Parfieniuk | 113 | 412 | 358 | 27,43 | 1 |
| Miszczuk | 109 | 2902 | 2640 | 3,76 | 3 |
| Antoniuk | 106 | 2054 | 2412 | 5.16 | 3 |
| Tarasiuk | 105 | 2973 | 2790 | 3,53 | 7 |
| Osipiuk | 105 | 617 | 591 | 17,02 | 1 |
| Bołtromiuk | 102 | 149 | 149 | 68,46 | 1 |
| Andrzejuk | 101 | 1006 | 1038 | 9,94 | 2 |
| Tomaszuk | 101 | 697 | 657 | 14,49 | 2 |

7) Znaczna liczba nazwisk na *-uk* sugeruje, że warto się zastanowić, czy te wszystkie formy pozostały niezmienne od momentu ich utworzenia, czy też zostały przekształcone administracyjnie w okresie późniejszym na prośbę nosiciela nazwiska lub bez jego wiedzy. Badania tzw. nazwisk transformowanych wykazują, że powstały one w rezultacie polszczenia, rusyfikacji i błędów popełnianych przez urzędników.

8) Pod względem popularności nazwisk z formantem *-uk* powiat hajnowski wyraźnie nawiązuje do południowej Białostocczyzny (powiat bielski, siemiatycki), a także Podlasia południowego (pow. bialskopodlaski). Znacznie się różni pod tym względem od terenu północnej Białostocczyzny, gdzie nazwiska z formantem *-uk* należą do rzadszych. Jest to uwarunkowane przede wszystkim zróżnicowanym przebiegiem procesów osadniczych w części północnej i południowej Białostocczyzny. Jest także potwierdzeniem tezy, że największą rolę w kolonizacji ziem między Bugiem i Narwią — z wyjątkiem stosunkowo niewielkiego terenu nad Narewką, odegrało osadnictwo ruskie idące z południa.

# Bibliografia

## Słowniki i opracowania w języku polskim

[AGWB] — *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, t. 1, Mapy lingwistyczne, red. S. Glinka, A. Obrębska-Jabłońska, J. Siatkowski, Wrocław 1980.

[APB] — B. Tichoniuk, *Antroponimia południowej Białostocczyzny w XVI wieku*, Opole 1988.

[IF] — B. Tichoniuk, *Imiona i ich formy na pograniczu polsko-białoruskim od XVI wieku do roku 1839*, Wyd. WSP, Zielona Góra, Zielona Góra 2000.

[KNI] — J. Bubak, *Księga naszych imion*, Wrocław — Warszawa — Kraków 1993.

[NPSHE] — K. Rymut, *Nazwiska Polaków. Słownik historyczno-etymologiczny*, PWN, Kraków 2001.

[NPNO] — Najbardziej popularne nazwiska odimienne z formantem -*uk* (-*czuk*) w powiecie hajnowskim na Białostocczyźnie, [w:] *Мае Афіны тут — назваў іх Бандарамі*, «Acta Albaruthenica» 10, red. M. Timoszuk, M. Chaustowicz, Warszawa 2010.

[PTNB] — A. Sadowski, *Proces tworzenia się nowych Białorusinów na Białostocczyźnie*, [w:] *Droga ku wzajemności. Polsko-białoruskie związki językowe, literackie i kulturowe*, Grodno 1999.

[SHNO] — Z. Abramowicz, L. Citko, L. Dacewicz, *Słownik historycznych nazw osobowych i elementów identyfikacyjnych Białostocczyzny (XV — XVII wiek)*, Białystok 1997.

[SNXXI] — K. Rymut, *Słownik nazwisk używanych w Polsce na początku XXI wieku*, Instytut Języka Polskiego PAN, Kraków 2003.

[ŚNBB] — J. Czykwin, *Świadomość narodowa Białorusinów polskich w przekazie literackim*, [w:] *Edukacja międzykulturowa*, Białystok 1995.

[TN] — B. Tichoniuk, *Transformacja nazwisk wschodniosłowiańskich w Polsce na przykładzie niektórych struktur antroponimicznych z sufiksem -uk /-czuk,* [w:] *Ze studiów nad językami i literaturami wschodniosłowiańskimi*, red. B. Tichoniuk, W. Wilczyński, Zielona Góra 2004.

[ZIO] — M. Sajewicz, *Zmiany w imiennictwie osobowym prawosławnych społeczności powiatu hajnowskiego na Białostocczyźnie*, [w:] «Studia Białorutenistyczne» 1, red. R. Radzik, M. Sajewicz, Lublin 2007.

[ZMIO] — M. Sajewicz, *Zmiany w męskim imiennictwie osobowym prawosławnych mieszkańców powiatu hajnowskiego na Białostocczyźnie jako rezultat asymilacji kulturowej*, [w:] *Мовазнаўства. Матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін»*, Мінск, 6–9 чэрвеня 2005 г., «Беларусіка=Albaruthenica» 30, Мінск 2010.

## Słowniki i opracowania w języku białoruskim, ukraińskim i rosyjskim

[АНП] — У. Ліпскі, *Аповесць пра нашы прозвішчы*, Мінск 2006.

[БА] — М. В. Бірыла, *Беларуская антрапанімія*, Мінск 1982.

[РФ] — Б. О. Унбегаун, *Русские фамилии*, Москва 1989.

[РФПЭС] — Ю. А. Федосюк, *Русские фамилии: популярный этимологический словарь*, Москва 2004.

[САУІ] — А. К. Усціновіч, *Слоўнік асабовых уласных імён*, Мінск 2011.
[СБІ] — І. Я. Яшкін, *Слоўнік беларускіх імёнаў*, Мінск 2009.
[СРЛИ] — Н. А. Петровский, *Словарь русских личных имен*, Москва 2000.
[СНФРИ] — А. В. Суперанская, *Словарь народных русских имён*, Москва 2010.
[ССРФ] — И. М. Ганжина, *Словарь современных русских фамилий*, Москва 2001.
[СУІ] — І. І. Трійняк, *Словник українських імен,* Київ 2005.

**Strony internetowe**

[GEN] — J. Stankiewicz, *Genealogia, Przodkowie, badania genealogiczne, forum dyskusyjne*. *Etymologia nazwisk*, *http://www.stankiewicze.com/index.php?kat=44*
[MK] — *moikrewni.pl*, *http://www.moikrewni.pl/mapa/*
[NNP] — *Najpopularniejsze nazwiska w Polsce*, *http://www.wykop.pl/raMKa/5401 / najpopularniejsze-nazwiska-w-polsce/*
[SH-G] — *Serwis heraldyczno-geneologiczny*, *http://herby.com.pl/*
[Бел. им.] — *The Kurufin's Castle* 2008–2010. *Европейские имена: значение и происхождение. Белорусские имена*, *http://kurufin.narod.ru/html/Belarusian.html*
[ЕИЗП] — *The Kurufin's Castle* 2008–2010. *Европейские имена: значение и происхождение*, *http://kurufin.narod.ru*
[Польск. им.] — *The Kurufin's Castle* 2008–2010. *Европейские имена: значение и происхождение*. *Польские имена*, *http://kurufin.narod.ru/html/polish.html*
[Рус. им.] — *The Kurufin's Castle* 2008–2010. *Европейские имена: значение и происхождение*. *Русские имена*, *http://kurufin.narod.ru/html/rus.html*
[СРФ] — *Словарь русских фамилий*, *http://www.nazovite.ru/rus_lastnames/*
[Укр. им.] — *The Kurufin's Castle* 2008–2010. *Европейские имена: значение и происхождение*. *Украинские имена*, *http://kurufin.narod.ru/html/ukrainian.html*

---

**Алена Астапчук** *(Мінск, Беларусь)*

## АДЛЮСТРАВАННЕ ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАГА МОЎНАГА ЎЗАЕМАЎПЛЫВУ Ў ТВОРАХ САКРАТА ЯНОВІЧА

Польска-беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч піша ў жанры эсэ, рамана, аповесці, апавядання, замалёўкі, гумарэскі, лірычнай мініяцюры, у якіх праяўляюцца разнастайныя грані таленту аўтара.

Янка Брыль адзначаў, што для прозы С. Яновіча «…характэрны добрае веданне жыцця, удумлівае пранікненне ў яго глыбінны змест, шчырыя пошукі сацыяльнай справядлівасці, любоў да чалавека працы, адчуванне красы прыроды і роднага слова. Праўда, сям-там у яго зашмат надзеі на падтэкст, крыху залішняя для прозы, а то і выразна знарокавая, ледзь не штучная паэтычнасць,

мнагавата часамі стамляючай інверсійнасці, заўважаецца не заўсёды карысны ўплыў польскай мовы на граматычны лад і слоўнік Яновіча, у цэлым у яго свабодны і сакавіты» [4, с. 186].

Польскамоўны ўплыў у мастацкіх тэкстах С. Яновіча, напісаных пабеларуску, праяўляецца, перш за ўсё, на лексічным узроўні — у выкарыстанні паланізмаў *фатэль* (fotel — 'мяккае крэсла'), *самаход* (samochód — 'аўтамабіль'), *карэтка* (karetka — ад karetka pogotowia ratunkowego — 'карэта хуткай дапамогі'), *квадранс* (kwadrans — 'чвэрць гадзіны; пятнаццаць хвілін')[1]. Напрыклад: *Лосеў усеўся ў* ***фатэль*** *і без спеху даставаў з папкі рапарты сышчыкаў і агентаў, раскладваў іх на пакрытым сукном стале* [4, с. 13]. *У такую понач я-ж цёпла кладавіўся б спаць у рагавым, блакітным пакоі, пачытаўшы ў* ***фатэлі****, што пад фікусам, кавалак «У палескай глушы» або кніжыцу «Жменя сонечных промняў»* [3, с. 166].

*— Глядзі, Віцечка, не падлезь пад* ***самаход****!* [4, с. 108].

*Завыла бальнічная* ***карэтка****, але ніхто не чуў таго* [2, с. 50]. *Памерла ў бальнічнай* ***карэтцы*** [4, с. 84].

*Заставаліся* ***квадрансы****, каб дабрацца да базы, што на адной з пэрыфэрыяў, дзе начэквалі нас з начлегам* [3, с. 166].

Спарадычна ўжываюцца словаформы *мэнчыць* (męczyć — 'мучыць'), *людкове* (ludkowie — 'людцы'), *правідлова* (prawidłowy — 'правільны'), *паспаліты* (pospolity — 'звычайны; просты'); *мапа* [mapa — 'карта (геаграфічная)']. Напрыклад: *Матуля … безвынікова* ***мэнчыла*** *нямеччыну, нягледзячы на некаторае веданне жыдоўскае гамонкі, якою шумелі нядаўнія Крынкі* [6, с. 82].

*І жывуць* ***людкове****, заглядзеўшыся ня столькі ў будучыню, колькі самі ў сябе* [3, с. 174]. ***Людкове*** *дбаюць пра тое, каб мы не мелі спачыну* [2, с. 158].

*Не, узялі ды апублікавалі матэрыял, які, на добры лад,* ***правідловей*** *было б назваць пасквілем альбо нават даносам!* [2, с. 191].

*Была ў Плянтацкім завулку дзяўчына, якую ахвотнікі ў нарачоныя ёй называлі Івонаю, хоць мела яна ймя іншае, але* ***паспалітае*** [3, с. 162].

Некаторыя паланізмы ўжываліся ў беларускай мове да 30-х гадоў XX ст., але пазней перайшлі ў пасіўны запас. Так, словы *мапа* з рускім адпаведнікам 'карта (географическая)', *паспаліты* — 'общенародный' зафіксаваны ў «Беларуска-расійскім слоўніку» М. Байкова, С. Некрашэвіча 1926 г. (далей — БРС-26).

У гэтым жа слоўніку знаходзім займеннік *там-той* — 'вон-тот'. У тэкстах С. Яновіча гэта слова ўжыта з напісаннем *тамтой*: *Кажа хто-небудзь: я дапамагаю таму і гэтаму, і* ***тамтому*** [2, с. 141]. *Скажыце, каб нашы людзі*

---

[1] Тут і далей пераклад падаецца па выданні: Волкава, Я. В. Польска-беларускі слоўнік / Я. В. Волкава, В. Л. Авілава. — 2-е выд. — Мінск, 2005. — 880 с.

*не давалі волю языкам. Рабочаму* ***тамтому****. Важна!* [2, с. 183] (у польскай мове існуе лексема *tamten* — ‘той’).

Для абазначэння грамадскага аб’яднання пісьменнік выкарыстоўвае назоўнік *гміна* (gmina — ‘воласць; абшчына, суполка’) і вытворны ад яго прыметнік *гмінны* (gminny — ‘валасны; абшчынны’): *Новы год сустракалі перш ва ўправе* ***гміны*** [1, с. 65]. *Андрэй зразумеў, што яна* [маці] *не заплаціла ў касу* ***гміны*** *невялікую суму грошай* [2, с. 28]. ***Гмінны*** *вэтэрынар прывёз эпідэміялагічную камісію* [1, с. 63]. Лексемы *гміна* ў значэнні ‘самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы’ і *гмінны* — ‘які мае адносіны да гміны’ зафіксаваны ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» ў 5-і тамах, 1977 — 1984 (далей — ТСБМ); назоўнік *гміна* знаходзім і ў БРС-26 з рускім адпаведнікам ‘сельская община’.

Даволі частотнымі для прозы С. Яновіча з’яўляюцца такія лексемы, як *каляжанка* (koleżanka — ‘калега, сяброўка’), *крэданс / крэдэнс* (kredens — ‘буфет, пасудная шафа’), *валізка* (walizka — ‘чамадан’), *пакрыёму* (po kryjomu — ‘употай’), *квят* (kwiat — ‘кветка, краска’), *гвязда* (gwiazda — ‘зорка’). Напрыклад: *Чарада не заўсёды ўчыняла вэрхал, відавочна кемячы, што шчаслівая* ***каляжанка*** *ўцякае на крылах са здабычаю ў дзюбе* [1, с. 41].

*Марыя Грыгатовіч нарыхтавала гарбаты, дастала з* ***крэданса*** *пернікаў і цукерак* [4, с. 11]. *Сусед у настроі. У яго нешта добрае здарылася. І ён, напэўна, дапамагае жонцы мыць пасуду, выціраць яе да сухасці ды ўстаўляць у* ***крэдэнс*** [2, с. 135].

*Малады ... так цiснуў на газ у падораным «ролс-ройсе», што на галалёдзіцы пад Беластокам разбіў аўто, забіў сябе і Лідзію (поўныя* ***валізкі*** *пакралі мужыкі)* [1, с. 45].

*Сёй-той* ***пакрыёму*** *выціраўся* [2, с. 74].

*Тым часам над верхалінаю, бы на каляднай елцы з жыдоўскай* ***гвяздою****, засвяціў месяц* [1, с. 36].

*Пання́ты напусьцілі ў хату бабам моды* ***квяты*** *тыя сеяць замест радка буракоў ці морквы* [3, с. 169].

Трэба адзначыць, што прыведзеныя вышэй лексемы ўжываюцца ў гаворках польска-беларускага памежжа і фіксуюцца ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» ў 5-і тамах, 1979 — 1986 (далей — СПЗБ): *калежанка* — ‘сяброўка, таварышка’; *крэдэнс* — ‘буфет’; *валіска* — ‘чамадан’; *пакрыёма* — ‘тайком’; словы *квяты мн.* — ‘вазоны, кветкі’ і *гвязда, гвязды мн.* — ‘зоркі’ ў гэтых гаворках маюць толькі множналікавую форму.

Прыслоўе *веле* (пол. *wiele* — ‘шмат, многа, багата’) і яго варыянты *веля, велё* фіксуецца ў СПЗБ са значэннямі 1) шмат, многа; 2) колькі, колькі-н.; 3) толькі; 4) працяглы час. Пісьменнік утварае на яго аснове лексемы *таквеле* і *шматвеле*: — *Ой, — віснула, — не будзьце* ***таквеле*** *лакомымі на чужы*

*тавар* [3, с. 84]. *Богам вам прысягаюся, бацька мой грашоў літоўскіх коп* ***шматвеле*** *насыпле ў торбу вашэцю за тое…* [3, с. 210].

Найбольш частотнай з'яўляецца словаформа, утвораная шляхам злучэння слоў *мала* і *веле* — *малавеле.* Напрыклад: *Марыя Грыгатовіч* ***малавеле*** *не ўпусціла сподачак на стол* [4, с. 12]; *Пазаўчораляснік з Копнай Гары праязджаў роварам праз вёску ды Антолю* ***малавеле*** *не раз'ехаў…* [4, с. 108]; *Юлька прызнавалася: — Тады я* ***малавеле*** *не плакала…* [4, с. 157]; *Вярнуўся, і стала вядома, што Самасея* ***малавеле*** *не зарэзала дачка Кабылхі…* [3, с. 185]; *Учора —* ***малавеле*** *не забіў скрыняю чалавека*! [2, с. 101]. Гэтая лексема фіксуецца ў СПЗБ з напісаннем праз злучок: *мала-веле* — 'крыху; няцяжка'.

Ад асновы прыметніка fachowy — 'прафесіянальны' ўтворана словаформа *фаховісты*: *Зніштажаюць вучаных або палітыканаў, а* ***фаховістых*** *— не* [6, s. 85]. У СПЗБ фіксуюцца словы *фахово* — 'па-майстэрску, як належыць майстру'; *фаховы* — 'уласцівы сапраўднаму майстру'.

У беларускіх творах С. Яновіча пры перадачы простай мовы здараюцца ўкрапленні ў тэкст элементаў польскага маўленчага этыкету: *Шаноўная* ***пані****! Дасылаем Вам тыднёвы заробак* [2, с. 183].

*— О не, я не дазволю вам,* ***пане*** *дырэктар, сядзець над гэтым тэкстам праекта праграмы…* [2, с. 147].

*— Будзе* [мэбля] ***проша пана****, — адказваў ён* [столяр] *мне праз цэлы Божы год і ў другую вясну* [3, с. 191].

*— Добры вечар.* ***Проша*** *ў дом* [4, с. 11].

*— Просім,* ***проша****… — маўляла суседка, смакавіта, бы псычэнне каўбасы ў накрытай патэльні* [2, с. 136].

*Святы Франак, што баяўся дзяўчат і ўсё пекненька казаў «****дзянкуе****» і «****дзянкуе****», чамусьці дастаў па зубах…* [1, с. 72].

Некаторыя сінтаксічныя канструкцыі будуюцца пісьменнікам згодна з правіламі польскай граматыкі, у прыватнасці, такія пасіўныя канструкцыі, як ***Прынесена*** *мінеральнай вады* [2, с. 187]. *Выступіў Андрэй у суботу, калі настала ўрачыстая хвілінка пасля таго, як жанчынам* ***паднесена*** *ружы* [2, с. 196].

Адмысловым чынам перадаецца аўтарам змешаная беларуска-руска-польская гаворка (адпаведна кірыліцай і лацініцай): *Hallo! А-алё!!.. Ciotuniu, to ty?! Здравствуй, to ja! Здравствуй, цётачка, даражэнькая, mówię! Со чуваць у вас, pytam!?* [1, с. 18].

Трэба аднак заўважыць, што празмернае ўжыванне паланізмаў можа шкодзіць ўспрыманню тэкста беларускім чытачом, асабліва ў выпадку міжмоўнай аманіміі. Так, напрыклад, сказ — *Ім* ***залежыць*** *на мне! — не без радасці канстатаваў Андрэй* [2, с. 208] можа выклікаць непаразуменне, бо з польскай мовы *zależeć* (komuś na czymś) перакладаецца як 'быць зацікаўленым (у чым), быць важным, быць патрэбным, быць неабходным (для каго)'; у

беларускай жа мове лексема *залежаць* ужываецца ў значэннях ‘быць падпарадкаваным чыёй-н. уладзе, волі; быць абумоўленым якімі-н. абставінамі, прычынамі; з’яўляцца вынікам чаго-н.’ (ТСБМ).

У творах С. Яновіча, напісаных па-польску, назіраецца ўплыў беларускай мовы. Беларусізмы нясуць, перш за ўсё, пэўную стылістычную нагрузку ў тых выпадках, калі з’яўляюцца намінацыямі асоб: *Branie siłą **kniaziówny** okazało się być zemstą za jej hardość, a zwłaszcza poprzednią odpowiedź swatom, aluzyjnie przejrzystą, że nie życzy ona sobie w łożu małżeńskim «**rabynicza**», czyli syna (nowogrodzkiej) nałożnicy* [6, s. 21].

*Polesie natomiast, to żadne borowe skojarzenia u **praszczurów**, … lesz metamorfoza hydronimów niesłowiańskih Pelesa, Pelysza, cj u bliskih Jaćwiegom krewniaków żmudzkich wiązało się z bagniskami, bagiennym lasem* [6, s. 14].

У польскамоўных тэкстах некаторыя назвы песень падаюцца па-беларуску праз транслітарацыю: *Wesele rankem zaśpiewało: «**Rawiela bura, dożdż szumieu**», «**Rasprahajce chłopcy koni**»* [7, s. 51].

Сустракаюцца шматлікія лексемы, агульныя для польскай і беларускай моў (намінацыі раслін, гаспадарчых пабудоў, мясцін і г. д.): *Uwziąłem się posadzić w tej ciasnocie **malinówkę** i **antonówkę** oraz krzak czerwonej **porzeczki*** [5, s. 31].

*Podwórzec zastawił ojciec **chlewem*** [5, s. 31]. *Na wieczorne pogwarki do sąsiedstwa chadzało się poprzez przełazy w zapłociu, **ścieżynkami** w ogrodah, między **chlewami** i **stodołami*** [5, s. 10]. ***Garbarnie** istniały tutaj, odkąd pamięć ludzka sięgała. Także parę **browarów**, nie wspominając mrowia sklepikarzy* [5, s. 9].

*Nie przypuszczałem, że w tej ubogiej **mieścine** dawało się także … bogacić* [5, s. 106]. *Pewnego razu przestąpiłm mu* [żandarmu] *drogę do **miasteczka**, w targowy dzień, partyzant jakiś* … [5, s. 9].

*Za nocnymi oknami łyskającozami wilków mijane **wioski*** [7, s. 43]. Za *światłami Białegostoku, za ostatnimi ulicami, … w doline za **pagórkami** ciemnieje **wioska*** [7, s. 49].

Трапляюцца і выпадкі міжмоўнай аманіміі. Так, польская лексема *siedziba* перакладаецца як ‘месцазнаходжанне, месцапрыбыванне’; беларускае ж *сядзіба* мае значэнне ‘жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, якія складаюць адну гаспадарку’ (ТСБМ), і ў пададзеным ніжэй кантэксце гэтая лексема ўжываецца са значэннем, замацаваным у беларускай мове: *Między Bugiem a Narwią ale także Supraślą, Sokołdą i Biebrzą gospodarowali niewątpliwi praszczurowie ubiegłowiecznych Poleksian po części wytrzebieni i wyniszczeni w dymie pożarów ich **siedzib**, także w ostępach kniei, nad strumieniami* [6, s. 17].

Сустракаюцца таксама выпадкі, калі беларускія лексемы падаюцца паралельна з польскімі намінацыямі: *Była też wielka niecierpliwość z przeczekaniem swego dzieciństwa i młodości, by pójść i stać się gospodarzem, **haspadarom*** [5, s. 30].

*Łapówka czyli* ***chabor****, choć i wycieńczająca zasoby, była i pozostała najprostszym zadziałaniem w krańcowych sytuacjach* [5, s. 121]. *Kuąc żelazo póki gorące, wsunąłem ręce do kieszeni, w której przygotowałem* ***chabora****, łapówkę* [7, s. 56].

*Dla mnie ta gęstwa to od maleńkości moc wroga — z duszącym zapachem suszonych w chatynce grzybów, z czerwiącymi się wszelkim paskudztwem wykrotami, ... z odliczającymi ci lata* ***zazulami****-kukułkami, z leniwym wężem w nagrzanej kurzawie kolein i tysącem innyh ohydności* [5, s. 18].

*Zanim począłem znajdować ... owe miłosne grypsy, niektóre przewiązane miniaturową kokardką w lubianym przede mnie kolorze bławatka —* ***wałoszki****..* [5, s. 94].

У польскім тэксце пры перадачы дыялогаў можна сустрэць украпленні некаторых рэплік па-беларуску:

*— Bywajcie z Boham, dobryja liudzi* [5, s. 86].

*— To był zawsze on! —* ***Kolka, kab ty zhareu!*** *— rugałem go* [5, s. 77].

*— Ale kiedy zawinąl się koło ciebie «parciejny» albo —* ***Hospsdzi pamiłuj*** *— sam sekretarz Hryczkiewicz, tedy nie proś o zlitowanie* [5, s. 83].

— … ***Dobra sami wiedajecie, szto taja partyzanka, jakaja nie stralaje tutejszych, daużej pratrymaecca****...*

*— Pszecież nie wierzysz w nasze zwycięstwo?*

— ***Na co wy zwodzicie razmowu? Każu tak: ja nie czapaju was, wy nie czapajcie mianie. A czas pakaża, kamu być, kamy nie być****...*

*— Chytryś, bałamucie!*

— ***Lepej z razumnym zhubić, czymści z durniem znajści, panie kamandant… Dawajcie tak: ja pażywu biez was, a wy pażywiecie biez mianie*** [5, s. 24].

Такім чынам, узаемаўплыў польскай і беларускай моў у мастацкіх творах С. Яновіча відавочны. Чытача, па словах У. Рубанава, «не павінны бянтэжыць … адчувальны ўплыў польскай мовы на сінтаксіс, марфалогію і граматычны лад пісьма Сакрата Яновіча, бо ён, гэты ўплыў, арганічны сваёй непазбежнасцю» [2, с. 4]. Тое ж можна сказаць і пра беларускі ўплыў на мову польскіх твораў аўтара, які праяўляецца, перш за ўсё, на лексічным узроўні. С. Яновіч у роўнай ступені валодае той і другой мовай і па-майстэрску выкарыстоўвае іх вобразны патэнцыял для ўвасаблення мастацкай задумы.

## Літаратура


1. Яновіч, С. Запісы веку / С. Яновіч. — Беласток, 1999. — 98 с.
2. Яновіч, С. Самасей : аповесць, апавяданні / С. Яновіч. — Мінск, 1992. — 382 с.
3. Яновіч, С. Сцяна : раман, апавяданні / С. Яновіч. — Мінск, 1997. — 220 с.
4. Яновіч, С. Сярэбраны яздок : аповесць, апавяданні, замалёўкі, гумарэскі / С. Яновіч. — Мінск, 1978. — 192 с.
5. Janowicz, S. Dolina pełna losu / S. Janowicz. — Białystok, 1993. — 134 s.

6. Janowicz, S. Terra inkognita: Białoruś / S. Janowicz. — Białystok, 1993. — 96 s.
7. Janowicz, S. Trzecia pora / S. Janowicz. — Białystok, 1983. — 233 s.

**Ірына Будзько** *(Мінск, Беларусь)*

## ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў СТАРАБЕЛАРУСКІМ ПЕРАКЛАДЗЕ ПСАЛТЫРА XVI СТ.

Псалтыр XVI ст. — рукапісны помнік старабеларускай мовы ранняга перыяду яе функцыянавання. У кантэксце старабеларускага пісьменства гэты тэкст (Масква, рукапіс Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, № 335) займае асобае месца. Гэта адзін з першых перакладаў кананічнага твора на старабеларускую мову. Як вядома, «моўная сітуацыя Паўднёва-Заходняй Русі … калькавала лацінска-польскае двухмоўе ў Польшчы, прычым функцыянальным эквівалентам польскай мовы ў Паўднёва-Заходняй Русі з'яўлялася "проста мова"» [2, с. 70; 3, с. 83]. Пераклад Псалтыра XVI ст., што ўяўляе сабой кантамінацыю польскай і царкоўнаславянскай крыніц, стаў спробай спалучэння ў адным тэксце дзвюх літаратурна-пісьмовых традыцый. Як адзначаюць польскія даследчыкі, «звароту да польскіх перакладаў спрыяла тактыка, прынятая пратэстантамі ў адносінах да праваслаўных: пратэстанты мелі надзею, што яны змогуць пераканаць вернікаў грэчаскай рэлігіі перамяніць сваю веру спакойным шляхам» [4, s. 183].

Даследчыкі, якія звярталіся да яго, а гэта былі Я. Карскі, А. І. Жураўскі, А. Болек і інш., адзначаюць, што помнік, відавочна, паўстаў у пратэстанцкім асяроддзі. Перакладзены ён з польскага тэксту, аўтарам якога быў В. Врубель, стваральнік аднаго з самых ранніх перакладаў Псалтыра на польскую мову. Старабеларускі тэкст захаваўся практычна ў поўным аб'ёме (рукапіс налічвае 142 аркушы, г. зн. 284 старонкі), да кожнага псалма маецца прадмова. Сучаснымі даследчыкамі помнік несправядліва забыты. Аўтары падручнага выдання «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (Т. 1. Даўняя літаратура XI — першая палова XVIII стагоддзя. Мінск, 2010) нават не ўзгадалі яго сярод іншых перакладаў Біблії на старабеларускую мову. Цікава адзначыць, што і ў фундаментальным шматтомным выданні «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (Мінск, тт. 1–31, 1980–2011 гг., далей — ГСБМ) надзвычай рэдка прыводзяцца цытаты з гэтай аўтарытэтнай крыніцы — прыкладна па 20 цытат на адзін том. А тэкст, тым не менш, мала вывучаны і з лінгватэксталагічнага, і з культуралагічнага пункту погляду. Дастаткова

ўзгадаць некалькі прыкладаў намінацый, якія не трапілі па розных прычынах у «Гістарычны слоўнік беларускай мовы»: дзеепрыметнікі *боручийся, борючийся*, *важный* у значэнні ‘шматлікі’, *вдержати* ‘утрымаць’, *взбоятися*, *вздрыжанье, взможеный, вкохатися* ‘атрымаць асалоду’: тихие *ж* ѡсѧгнѵ*т* землю и вкохаютсѧ на многости покою (с. 37б), *вмилосердитися* ‘адчуць міласэрнасць’: говорите з ср*д*це а на ложе идѵчи вмилосердитесѧ (с. 8б); *внебовступити* ‘ўваскрэснуць’, *возглянути*, *вринутися* (у ГСБМ толькі *вринути*) ‘рынуцца, укінуцца’: выкопали … ямоу и вринѵлисѧ в нее (с. 57), *всмеятися*, *вспачь* ‘назад’, *встеречися*, *всяспаленье*, *выличати* ‘узвялічваць’: в той пѣсни вылича пр*о*ркъ добродейство (с. 24б), *вытончити* ‘знішчыць, расцерці’: вытончи*л* и*х* яко поро*х* который лежи*т* пре*д* обличнос*т*ю ветроу (с. 20), *горучесть* ‘цеплыня, спякота’: в слнцѵ положи*л* мешка*н*е свое … и не есть хто бы сѧ оукры*л* ѡ*т* горѵчести его (с. 21), *горучо*, *дакука* ‘гвалт, прыцясненне’: ѡ*т* крыкѵ непріательского и ѡ*т* дакѵкы грешны*х* (с. 54б).

Некаторыя лексемы, якія трапілі ў «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», адзначаюцца толькі ў названым помніку: *вжитлити* ‘усяліць, пасяліць, умацаваць’: бо ве*м* ты г*с*ди едино*г* на надею вжитли*л* мѧ еси (с. 9); прыслоўе *взарань* ‘рана, раніцай’ і інш.

Даследчыкі лексікі дадзенага помніка адзначаюць, што «суадносіны розных лексічных стыхій наглядна выяўляюцца ў характары беларускіх поўнагалосных і запазычаных няпоўнагалосных форм. Агульнаславянская з уласцівай для беларускай мовы агаласоўкай яўна пераважае над адпаведнымі формамі кніжнаславянскай і польскай моў» [1, с. 178], калі не па колькасці асобных выразаў, то па частотным індэксе поўнагалосных лексем. Сярод усходнеславянскіх форм можна назваць наступныя: *беремя, боронити, вздоровити, ворота, голова* (7)[1], *голодный* (2), *голодъ, голосъ* (26), *городъ* (8), *дерево* (3), *дорога* (33), *дорогой, жеребий, жерело* (2), *засоромотити, здаровый, здоровье, оболока, оболокъ, оболочися, оборона, оборонитель, оборонити, оборонца, огородокъ, перекормити, перелезти, переменитися, перемешкати, перемочи, перепрети, переселити, переступати, перехвалятися, перечести, поколоти, поломень, полоненье, полонъ, порохъ, посорометі, посорометися, посоромити, посоромленый, посоромотитися, посоромоченый, проколоти, соромъ, черево*.

Няпоўнагалосныя формы, адзначаныя ў дадзеным помніку, размяркоўваюцца на дзве групы: царкоўнаславянскага паходжання і заходнеславянскія. Лексем з няпоўнагалосным кантынуантам царкоўнаславянскага паходжання ў помніку няшмат: *время, вретище, глава, гласъ, градъ, драгый, жребей, злато, сребро*. Большасць няпоўнагалосных форм маюць заходнеславянскае (у дадзеным выпадку польскае паходжанне): *впредити, засро-*

[1] У дужках пазначана колькасць фіксацый лексемы на першыя 38 псалмоў.

*мотити, навратити, наврачати, навротитися, навроченье, обратитися, злотый, оброна, обронца, посредокъ, посромотити, прожность, прожный, сромота.* Вялікую частку гэтай групы складаюць прэфіксальныя ўтварэнні з прыстаўкай *пре-* (што адпавядае польск. *prze-*): *пребачати, пребачити, пребити, пребывати, превротный, превысити, превыше, предати, предолжити, преискуючий, прекладати, преклоняти, прекормити, премолчати, преноситися, преперезати, преплывати, препоясати, препущати, прреканье, пререкати, преселникъ* 'вандроўнік', *преследовати, преслядовца, престати, преступити, преступовати, претерпети, прехвалять, прехилити.*

Спалучэнне дзвюх моўных стыхій выразна адлюстроўваецца і спецыфікай ужывання ў помніку прэфіксаў *вы-, з-* усходнеславянскага паходжання і *из-*, што мае царкоўнаславянскі генезіс: *выбавеный, выбавенье, выбавитель, выбавити, выбавляти, выбавца, выбранный, выбрати, вывести, выворотити, выганяти, выгладити, выгнати, выгубити, выдавати, выдати, выженитися, вызнавати, вызнаватися, выйти, выкиненый, выкинути, выкопати, выкормити, выкорянити, выкорянитися, выкупити, выливати, вылитися, выличати, выметати, вымовити, вымовяти, вымышленый, выняти, выповедати, выполнити, выправеный, выправити, выпуженый, выпытати, выразумети, вырвати, вырыти, вырядити, высвободити, высвоборженье, выситися, выславити, выславляти, выслуханье, выслухати, выспевати, выступити, вытончити, выторгнути, вытягнути, выхваленье, выхвалити, выхваляти, выхвалятися, выходити, выходъ.* Прэфікс *з-* сустракаецца ў помніку значна радзей, аднак таксама мае польскае паходжанне: *збавеный, збавенье, збавитель, збавити, збудовати, звести, зветшати, згорбити, зготовати, змиловатися, змыслити, зступити, зступенье, зъяденье, зыйти*. Спарадычна сустракаецца царкоўнаславянскі прэфікс *из-*: *избавенье, избавленье, избавити, изгнити, изгорбатитися, изсохнути, изторгнути, изыйти.*

Аналагічнае ўзаемадзеянне розных моўных плыней назіраецца і ў рэалізацыі праславянскага кантынуанта **ort* на ўзроўні прэфіксаў *роз(с)-, раз(с)-*. У беларускім перакладзе Псалтыра XVI ст. у першых 38-мі псалмах адзначаны 32 ужыванні царкоўнаславянскага прэфікса: *разбогатети, разгневатися, разделяти, размиловатися, размножитися, разодрати, разорванный, разоряти, разрушити, разумети, разумеючий, разумне, разумъ, распалятися, располитися, распорошеный, растовати, расширитися.* Формаўжыванняў з прэфіксам ва ўсходнеславянскай агаласоўцы не нашмат больш — 49: *розводнитися, розгнати, розгневанье, розграбляючий, роздати, розделити, розделитися, розженути, розлиянье, розмиловатися, розмножити, розмножитися, розмышление, розорвати, розревнити, розрушити, розселина, розславити, розогнати, розумети, розширити, розславляти, росказати, роскошитися, роскошовати, россаавити, росплынутися, росповедати, росполитися, роспорошити, роспорошоний, россудити, россыпати, ростаеный, росхватати, росширити* і інш.

Падобныя міжмоўныя спалучэнні на фармальным узроўні не маглі не адбіцца і на слоўнікавым складзе дадзенага рукапісу. Асабліва паказальнай у дадзеным аспекце з'яўляецца рэлігійная лексіка, у межах якой міжмоўнае ўзаемадзеянне пераходзіць ва ўзамадзеянне міжканфесійнае. У першых 38-мі псалмах адзначаны наступныя «міжканфесійныя» лексічныя варыянты:

*адъ — пекло, пекелный*;

*благо- — добро*: першая лексема мае царкоўнаславянскае паходжанне і функцыянуе толькі ў складзе кампазітаў *благословеный, благословенство, благословити, благословенье, благословящий*. Што тычыцца ўсходнеславянскага адпаведніка *добро, добре*, то ў значэнні, якое адпавядае царкоўнаславянскаму *благо*, лексема ў тэксце функцыянуе аўтаномна, ад'ектыў *добрый* ужыты ў помніку ў тэксталагічнай адпаведнасці царкоўнаславянскаму *благий*; у перакладзе адзначаны і кампазіты *добродейство, добродеявшый* (інавацыя). Сінонімамі да *добро* з'яўляюцца субстантываваны ад'ектыў *доброе*, а таксама субстантывы *доброта, доброть*;

*Бог — господь — панъ*: па індэксе частотнасці самай ужывальнай у помніку з'яўляецца лексема *господь* (313), слова *богъ* мае частотнасць 200, а *панъ* для абазначэння Госпада ўжыты толькі адзін раз, асноўнае значэнне — 'гаспадар, валадар'.

Лексемы *крестъ — крыжъ* маюць адзінкавыя фіксацыі, паколькі хрысціянская тэрміналогія ўвогуле не ўласцівая старазапаветным тэкстам; рэфлексіі хрысціянства сустракаюцца пераважна ў прадмовах да псалмоў. Аналагічна можна сказаць і пра варыянты *крестианинъ — хрестиянинъ, хрестианский*.

Для намінацыі ўваскрэсенння і ўзнясення Госпада старабеларускі перакладчык выбірае лексічныя сродкі заходняга паходжання: *внебовступенье, внебовступити, востанье зъ мертвыхъ, встати з мертвыхъ* (але спарадычна ў тэксце сустракаюцца і царкоўнаславянізмы *възнестися, въскреснути*). Гэтае ж тычыцца і намінацый *офяра, офера, офяровати, офяроватися* (аднак сусракаецца і слова *жертва*). У якасці намінацыі месца, дзе адбывалася ахвярапрынашэнне, адзначана лексема *олтарь, олтаръ*. Побач са старажытнарускай *всесожжение, всясожжение* адзначана і кантамінацыйнае ўтварэнне *всяспаленье* (параўн. польск. *całopalenie*). Функцыянуюць у тэксце і дублетныя намінацыі *притча — приповесть.*

Наяўнасць польскага пратографа абумовіла і функцыянаванне ў тэксце перакладу тэрмінаў каталіцкага веравызнання: *балвохвалство, баранокъ, безаконие, безаконикъ, жидъ* (у значэнні 'іўдзей'), *жидовский, казанье, кацыръ, обетница, обетовати, приказанье, приказати, просьба* 'маленне', *сведецство* 'адкрыццё' (адпавядае царкоўнаславянскаму *откровение*)*, дедицство, сведка, споведь, таемница, таемность, тастаментъ* 'запавет', *шлюбъ.*

Лексема *церковь*, дастаткова ўжывальная ў прадмовах да псалмоў, у значэнні 'праваслаўны храм' не адзначана ўвогуле. Семантычны спектр яе:

‘сабранне, збор’; ‘храм’ (у т. л. іўдзейскі); ‘чартог, закрытае памяшканне’ (апошняе значэнне не адзначана ў ГСБМ).

Даследчыкі мовы старабеларускіх помнікаў пісьменства прызвычаіліся вылучаць у старабеларускай мове некалькі моўных і тэрміналагічных плыней. Аднак, на нашу думку, ужо надышоў час засведчыць, што суіснаванне, кантамінацыя і трансфармацыя розных моўных стыхій і далі феномен, які прынята называць «рускай мовай» Вялікага Княства Літоўскага.

## Літаратура


1. Жураўскі, А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы : у 2-х т. / А. І. Жураўскі. — Т. І. — Мінск, 1967.
2. Успенский, Б. А. Языковая ситуация Киевской Руси и ее значение для истории русского литературного языка / Б. А. Успенский. — М., 1983.
3. Целунова, Е. А. К вопросу о межславянских языковых контактах во второй половине XVII века (на материале Псалтыри Авраамия Фирсова) / Е. А. Целунова // Советское славяноведение. — № 2. — 1985. — С. 82–89.
4. Bolek, A. Biblia brzeska u Słowian wschodnich / A. Bolek // Dialog w literaturach i językach słowiańskich. — T. 2 : Językoznawstwo. — № 5. — Opole, 2003. — S. 183–188.


---


**Іна Глінnік** *(Мінск, Беларусь)*


## ВЫРАЖЭННЕ КАТЭГОРЫЙ ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛЬНАСЦІ І ПАСЕСІЎНАСЦІ (НА МАТЭРЫЯЛЕ БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОЎ)

У сучасных лінгвістычных даследаваннях можна прасачыць павышаную цікавасць да вывучэння граматычнага ладу рознасістэмных моў у сінхронным плане, г. зн. да праблем, якія ўзнікаюць пры супастаўленні моў адной структуры з граматычнай будовай моў іншай структуры.

Вядома, што супастаўляльнае даследаванне і апісанне адной мовы праз сістэмнае параўнанне яе з іншай мовай накіравана ў першую чаргу на выяўленне адрозненняў паміж дзвюма мовамі. Супастаўляльны аналіз найбольш эфектыўны пры вывучэнні роднасных моў, паколькі іх кантрасныя рысы праяўляюцца найбольш ярка на фоне падобных рыс. Па сваіх генетычных прыкметах беларуская і польская мовы ўваходзяць у склад розных падгруп у межах суседніх славянскіх моў, аднак у арэальным плане належаць да аднаго паўночнаславянскага рэгіёна.

Дзеясловы *быць* і *мець*, а таксама іх сінонімы звязаны з такімі найважнейшымі філасофскімі паняццямі, як *быццё* і *валоданне*. Спробы вызначэння гэтых паняццяў займаюць адно з цэнтральных месцаў у філасофіі, пачынаючы ад «Метафізікі» Арыстоцеля.

Для выражэння катэгорый быцця і валодання ў розных мовах свету выкарыстоўваецца акрэслены набор сінтаксічных адзінак. Акрамя таго, важная роля надаецца семантычнаму аналізу слоў, якія служаць для апісання гэтых катэгорый, у прыватнасці дзеясловам *быць* і *мець*, якія ў большасці моў з'яўляюцца ўніверсальнымі сродкамі для выражэння названых паняццяў.

Агульнапрынята, што асноўным значэннем дзеяслова *быць* з'яўляецца экзістэнцыяльнае: *— Адолеюць, як бог ёсць на небе, адолеюць! // Przetmogą, jak Pan Bóg wszechmogący na niebie jest, tak przetmogą. Але вось і яго* [Чарнаручанка] *не будзе // I oto już go nie było*[1].

У лінгвістычнай літаратуры няма адзінай думкі наконт крытэрыяў вызначэння экзістэнцыяльных сказаў. Як правіла, да экзістэнцыяльных адносяць сказы, якія ўтрымліваюць прэдыкат існавання (г. зн. дзеясловы *быць*, *існаваць* або іх сінонімы). Функцыю дзейніка ў такім сказе выконвае назоўнік ці яго эквівалент [10, s. 13]. Як сцвярджае К. Фелешка, «obecność owego wykładnika nieokreśloności jest jeśli nie obligatoryjna, to statystycznie przeważająca» [9, s. 70]. Польскія лінгвісты вылучаюць два тыпы экзістэнцыяльных сказаў: сказы з экзістэнцыяй агульнай (абсалютнай) і сказы з экзістэнцыяй канкрэтызаванай (рэлятыўнай) [11, s. 143]. П. Жмігродскі звяртае ўвагу на тое, што ў экзістэнцыяльных сказах выкарыстоўваюцца наступныя сінтаксічныя канструкцыі з дзеясловам *быць*:

$NP_N + V_{быць}$; $NP_N$®[-zdarzenie]: *— Jest sanitariuszka, towarzyszu majorze.* Тут проста канстатуецца факт існавання.

$NP_{Loc} + V_{быць} + NP_N$ + (który Ç S): *Chyba jest jeszcze sprawiedliwość w tej Polsce. W Krakowie jest człowiek, który leczy ziołami.*

$NP_{Temp}+V_{быць} + NP_N$: *— Rok byłam w tym pułku i nigdzie stąd nie pójdę. Był pan przed początkiem, jest teraz i będzie trwać.*

Сказы групы 2 і 3 адносяцца да экзістэнцыі канкрэтызаванай: у іх складзе ўжываецца ўдакладняючая акалічнасць (а дзеяслоў *быць* можна замяніць сінонімамі *znajdować się / знаходзіцца, odbywać się, zdarzyć się / адбывацца, здарацца*). У сказах групы 1 замест *быць* можна ўжыць *istnieć / існаваць.*

Увогуле, класічныя экзістэнцыяльныя выказванні складаюцца з трох кампанентаў: адзін з іх фіксуе вобласць быцця, другі ўказвае на бытуючы ў гэтай вобласці прадмет, трэці — на факт быцця. Агульнапрынята, што вобласць быцця можа ахопліваць увесь свет аб'ектыўнай рэчаіснасці, а таксама

---

[1] Супастаўляльны матэрыял — фрагменты з твораў В. Быкава і іх перакладаў на польскую мову.

сферу вымыслу. Перакрыжаванне вобласці быцця і бытуючага прадмета дае розныя семантычныя тыпы экзістэнцыяльных выказванняў. Аднак ні ў беларускай, ні ў польскай мовах не існуе нейкага канкрэтнага (тыповага, адзінага) сінтаксічнага паказчыка экзістэнцыяльных сказаў, які б дазволіў адназначна вызначыць гэты тып. Таму вельмі часта ўзнікаюць цяжкасці пры размежаванні экзістэнцыяльных і лакатыўных сказаў. Мы прытрымліваемся той думкі, што «экзістэнцыяльныя выказванні адрозніваюцца ад лакатыўных толькі па камунікатыўнай структуры: экзістэнцыяльныя сказы паведамляюць пра наяўнасць аб'екта (*Y*-а) у прасторы, а лакатыўныя — пра тое, дзе знаходзіцца *Y*» [6, с. 14]. Як адзначае В. Селіверстава, традыцыя адносіць сказы тыпу *У лесе ёсць возера* да экзістэнцыяльных звязана з тым, што такім сказам прыпісваецца значэнне 'быць сапраўдным, быць у рэчаіснасці'. Вылучэнне гэтай прыметы, магчыма, абумоўлена тым, што інфармацыя пра знаходжанне аб'екта ў той ці іншай канкрэтнай фізічнай прасторы мае на ўвазе яго існаванне. Можна думаць, што падобныя меркаванні паслужылі асновай для ўключэння ў катэгорыю экзістэнцыяльнасці і сказаў, пабудаваных па мадэлі «ў *X* ёсць *Y*»: «обладание предметом предполагает его существование» [6, с. 13].

Экзістэнцыяльныя выказванні разглядаюцца як асобны тып сказаў, якія маюць у сваёй семантыцы значэнне валодання. А паколькі катэгорыя быцця ўключае катэгорыю валодання, то можна разглядаць пасесіўныя канструкцыі як тып экзістэнцыяльных выказванняў, як адну з формаў іх праяўлення [2, с. 136].

Сёння ў лінгвістычнай літаратуры ёсць дзве асноўныя тэндэнцыі тлумачэння паняцця пасесіўнасці: з аднаго боку, гэта паняцце часта зводзіцца да паняцця валодання, уласнасці, а з другога боку, даецца надзвычай шырокае азначэнне, у адпаведнасці з якім пасесіўнасць ахоплівае амаль любыя адносіны паміж субстанцыямі, а часам і адносіны паміж прадметам і прыметай [6, с. 19]. Паколькі гэта паняцце было жыццёва неабходным, яно атрымала выражэнне ўжо ў старажытных мовах. Да ўзнікнення ўласнасці паняцце пасесіўнасці распаўсюджвалася ў асноўным на часткі цела, прадметы адзення, напоі, сваяцкія адносіны. Часцей за ўсё, пасесіўнасць выражалася пры дапамозе дзеяслова *быць* з называннем таго, хто гаворыць, ва ўскосным склоне, напрыклад, у лацінскай мове канструкцыяй *mihi est* [1, с. 213]. З'яўленне спецыяльных дзеясловаў, на думку А. Мее, звязана з узнікненнем уласнасці, г. зн. прыналежнасцю маёмасці нейкай асобе [3, с. 163]. Аднак і пазней у многіх індаеўрапейскіх мовах дзеяслоў *быць* працягваў і працягвае ўжывацца для выражэння пасесіўнасці паралельна з дзеясловам *мець* і яго сінонімамі. У сучаснай беларускай мове таксама паралельна з дзеясловам *мець* у пасесіўных сказах ужываецца дзеяслоў *быць*, чаго нельга сказаць пра польскую мову, дзе пасесіўную мадэль утвараюць дзеясловы: *mieć*, *posiadać*, *należeć do* (+NGen). Акрамя таго, у беларускай мове пасесіўная канструкцыя можа быць пабудавана і без дзеяслова (мадэль *У X-а Y*).

Беларуская канструкцыя *У X-а Y* (паралельная польская канструкцыя *X ma Y-a*) можа разглядацца як паказчык адносін валодання, дзе спалучэнне *У X-а* (і *X* у польскай мове) можна акрэсліць як пасэсар. У адносінах да пасесіўнасці, а дакладней валодання, пры дапамозе дадзенай канструкцыі прадмет валодання адначасова з'яўляецца суб'ектам, а пасэсар *У X-а* выражаецца пры дапамозе роднага склону [10, s. 114]. Беларускія сказы маюць паверхневую структуру тыповую для экзістэнцыяльных сказаў. У той жа час польскія сказы разглядаюцца як структуры, што выражаюць уласна пасесіўнасць, якая дазваляе замяняць ўжытыя ў яе складзе кампаненты: *мець* + вінавальны склон → *posiadać* + вінавальны склон. Для праверкі пасесіўных дзеясловаў К. Пісаркова прапануе карыстацца наступнымі формуламі: а) X (N) + V (*mieć*, *posiadać*) + Y (NAcc) і б) Y (N) + V (*być, należeć*) + X (NAcc, do + NAcc) [5, с. 175].

Трэба адзначыць, што дзеясловы *mieć*, *posiadać* (*мець*, *валодаць*) утвараюць глыбінныя структуры, што выражаюць адносіны валодання (*X ma Y-a = 'X jest właścicielem Y-a': Kowalski ma dom*), а дзеясловы *należeć / належаць* утвараюць структуры, што выражаюць адваротныя адносіны — адносіны прыналежнасці да каго-небудзь або чаго-небудзь (*Y jest X-a = 'Y jest właścicielem X-a': Dom należy do Kowalskiego*) [5, с. 175]. — *Może masz co zapalić, lejtnancie? Kościół ten posiadał swoje cudowne ikony i ośrodki kultowe. Dziad jej, ongrodzki mieszczanin, posiadał dwa własne domy.*

У нашых матэрыялах прадстаўлена 241 канструкцыя. З іх 80 прыкладаў, дзе ў аналагічных польскіх пасесіўных канструкцыях замест дзеяслова *być* ужываецца дзеяслоў *mieć*; 66 канструкцый, у якіх польскаму *mieć* адпавядае беларускае *мець*; 95 канструкцый, дзе пры перакладзе з польскай мовы на беларускую дзеяслоў *mieć* або яго формы апускаюцца. Аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што толькі 27 % аналагічных канструкцый у беларускай і польскай мовах пабудавана пры дапамозе дзеяслова *мець*. Ва ўсіх астатніх выпадках польскаму *mieć* адпавядае беларускае *быць* або яго пропуск.

Уласцівае дзеяслову *быць* значэнне валодання ў слоўніках беларускай мовы зафіксавана не поўнасцю [8, т. 1, с. 431–432]. Агульнавядома, што па сваёй зыходнай семантыцы ён з'яўляецца экзістэнцыйным (у асобных выпадках лакатыўным), таму у адпаведных пасесіўных канструкцыях валоданне прыраўноўваецца да ўласцівасці або месцазнаходжання.

А. Міхневіч першым з беларускіх навукоўцаў звярнуў увагу на тое, што выбар пасесіўнай канструкцыі *ў мяне ёсць* ці *я маю* ў беларускай мове «залежыць ад семантыка-сінтаксічных асаблівасцей слоў, якія ўтвараюць сказ» [4, с. 181].

Канструкцыя «у *X* ёсць *Y*» паведамляе пра наяўнасць, існаванне *Y* у *X* [7, с. 97], г. зн. паведамляе пра тое, што *X* мае *Y*-а: *Патроны то ёсць, — неяк загадкава адказаў Маркін… — Гранат трэба болей. У каго яшчэ ёсць гранаты?* У польскай мове такія канструкцыі прадстаўлены дзеясловам *mieć*: *Naboje*

*uzupełnie ma… — Trzeba więcej granatów. Kto ma jeszcze granaty?* А канструкцыя «у *X Y*» можа перадаваць інфармацыю пра тое, які менавіта *Y* маецца ў *X* або дакладней — члену якога класа тоесны той *Y*, які ёсць у *X* [7, с. 97].

Аналіз перакладных тэкстаў пацвердзіў думку, што канструкцыям з прэдыкатамі тыпу *мець, валодаць* уласціва семантыка ўласна валодання, калі ў іх склад уваходзяць адчужальныя назоўнікі-аб'екты: *Kiedy jeszcze miała fortepian, to jak zacznie, bywało, grać jaką polkę czy mazura, to aż na dwóch ulicach wszyscy słyszą.* // *Калі мела яшчэ фартэпіяна, дык як пачне, бывала, граць польку ці мазурку, дык на суседніх вуліцах было чутно. Buty też miał na sobie do kolan wysokie*. Калі ж у склад такіх канструкцый уваходзяць неадчужальныя назоўнікі-аб'екты, то выражаецца непасесіўная семантыка, размова ідзе пра дзеянне, стан, уласцівасць, прымету суб'екта (перадаецца непасесіўная семантыка). Канструкцыі з дзеясловам *належаць* перадаюць значэнне прыналежнасці, а не валодання.

Такім чынам, у адрозненні ад польскай, у беларускай мове пасесіўнасць можа перадавацца «праз быццё»: *У мяне ёсць кніга // Mam książkę.* Асноўным значэннем пасесіўных сказаў з канструкцыяй *у мяне ёсць* з'яўляецца значэнне ўласна валодання. У пасесіўных сказах суб'ект валодання заўсёды эксплiцытна прысутнічае, бо без лакалізатара асобы сказ становіцца не пасесіўным, а экзістэнцыяльным (параўн. *У мяне ёсць бабуля; Ёсць бабуля*) [6]. Інфармацыю пра адносіны пасесіўнасці ўносіць сама мадэль «у *X* ёсць *Y*», а дзеяслоў *мець*, так як і *быць,* не з'яўляецца дзеясловам глыбіннай структуры [12, s. 78]. Сказы з дзеясловам *мець* уводзяць назву ўладальніка ў паверхневай структуры ў пазіцыю дзейніка ў адносінах да пазіцыі залежнага аргумента, якую займае ў сказе з *быць*: *Карта з нанесенай на яе абстаноўкай батальёна была ў ягонай сумцы // Mapę z naniesioną sytuacją batalionu miał Wołoszyn.* У пасесіўных сказах з *habeo* на першым месцы знаходзіцца пасэсар; калі possessum з'яўляецца акрэсленым, тады ён можа быць дзейнікам, а сказ мае дыятэзу з *esse* [12, s. 78]. Падобна і ў лакатыўных сказах, з тым, што пры дыятэзе з *habeo* яны часцей маюць безасабовую форму. *Быць* і *мець* узаемазамяняюцца ў канструкцыях аднолькавага лексічнага зместу, а таксама ў адменных тэматычна-рэматычных структурах.

Польская мова ўяўляе несемантычную мадэль, г. зн. ужыванне канкрэтнай дыятэзы бывае тут наогул аблігатарыйна (напрыклад, у польскай мове для лакацыі заўсёды *być,* для адмаўлення заўсёды *mieć*) або ў значнай ступені сфразеалагізавана (*mam chęć, mam czas*) [12, s. 79].

Трэба звярнуць увагу і на тое, што канструкцыі з *мець* у беларускай мове звычайна ўжываюцца ў кніжнай, афіцыйна-дзелавой і навуковай мове, а канструкцыя з *быць* не мае стылістычных абмежаванняў.

Такім чынам, з праведзенага аналізу фактычнага матэрыялу бачна, што дзеяслоў *быць* сустракаецца ў 33 % выпадках ад агульнай колькасці ўсяго

сабранага матэрыялу ў беларускай мове ў складзе пасесіўных канструкцый, а дзеяслоў *мець* — у 25 %. А ў аналагічных польскіх канструкцыях ужываецца выключна дзеяслоў *mieć*. Дзеясловы *быць* і *мець* прыблізна аднолькава пашыраны ў прэдыкатыўных пасесіўных канструкцыях беларускай мовы. Правамерна адносіць польскую мову да групы habeo-моў, а беларуская спалучае ў сабе прызнакі esse- і habeo-моў, бо ў ёй пасесіўнасць можа выражацца праз быццё. Сродкі, якія служаць для выражэння катэгорыі пасесіўнасці, адначасова выкарыстоўваюцца для выражэння і экзістэнцыяльных адносін.

## Літаратура


1. Бенвенист, Э. Глаголы «быть» и «иметь» и их функции в языке / Э. Бенвенист // Общая лингвистика. — М., 1974. — С. 213.
2. Келейникова, А. Г. Некоторые вопросы описания экзистенциальных высказываний / А. Г. Келейникова // Семантико-синтаксическая организация предложения (романские языки) : сб. научн. трудов. — Вып. 254. — М., 1985. — С. 124–145.
3. Мейе, А. Общеславянский язык / А. Мейе. — М., 1951.
4. Міхневіч, А. Я. Сінанімія зваротаў *у мяне ёсць — я маю ў беларускай мове* / А. Я. Міхневіч // Беларуская мова і літаратура ў ВНУ : тэз. рэсп. навук.-метад. канф. — Брэст, 1971.
5. Писаркова, К. Посессивность как грамматическая проблема (на примере польского языка) / К. Писаркова // Грамматическое описание славянских языков. Концепции и методы / ред. кол. : Н. Ю. Шведова, И. Н. Кручинина, В. В. Лопатин. — М., 1974. — С. 171–176.
6. Селиверстова, О. Н. Контрастивная синтаксическая семантика : (Опыт описания) / О. Н. Селиверстова. — М., 1990.
7. Селиверстова, О. Н. Семантический анализ предикативных притяжательных конструкций с глаголом «быть» / О. Н. Селиверстова // Вопросы языкознания. — 1973. — № 5.
8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5 т. (6 кн.) / пад аг. рэд. К. Крапівы. — Мінск, 1977–1984.
9. Feleszko, K. Sądy egzystencjalne a kategorie nominalne / K. Feleszko // Studia gramatyczne. — 1982. — № 5.
10. Lubocha-Kruglik, J. Rosyjskie zdania egzystencjalne w konfrontacji z polskimi. Wydawnictwo Uniwersytetu Śląskiego / J. Lubocha-Kruglik. — Katowice, 2001.
11. Maksimowska, S. Egzystencjalne znaczenie czasowników być i mieć w językach : polskim, macedońskim, serbsko-chorwackim i słoweński / S. Maksimowska, B. Oczkowa, T. Pretnar, J. Raszković // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. — Warszawa, 1981. — S. 141–155.
12. Sawicka, I. Problematyka predykacji imiennej na przykładzie języka serbsko-chorwackiego / I. Sawicka. — Wrocław, 1979.

**Ядвіга Казлоўская-Дода** *(Польшча, Люблін)*

# ВЫЯЎЛЕННЕ КАТЭГОРЫІ АДУШАЎЛЁНАСЦІ — НЕАДУШАЎЛЁНАСЦІ Ў ПОЛЬСКАЙ МОВЕ ЖЫХАРОЎ ВОРАНАЎШЧЫНЫ

## 1. Уступ

Прадстаўленыя ніжэй дадзеныя — толькі фрагмент нашых даследаванняў, праведзеных у 1999–2002 гг. у былых шляхецкіх і сялянскіх вёсках Воранаўскага раёна. Мы запісвалі польскую мову абедзвюх сацыяльных груп, а на занатаваным матэрыяле спрабавалі знайсці агульныя і адрозныя рысы, вызначыць, як яны суадносяцца і што паўплывала на тыя ці іншыя адметнасці.

Вынікі даследавання, сабраныя ў кандыдацкай дысертацыі, абароненай у 2004 г. у Інстытуце польскай мовы ПАН у Кракаве [8], неаднаразова прадстаўляліся на навуковых канферэнцыях і ў друку, але дасюль у поўным выглядзе не апублікаваны.

## 2. Спроба супастаўлення маўлення былой дробнай шляхты і сялян: афармленне катэгорыі адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці

### 2.1. Адзіночны лік

У адзіночным ліку катэгорыя адушаўлёнасці як у польскай, так і беларускай літаратурных мовах перадаецца толькі ў назоўніках мужчынскага роду, дзе назіраецца супадзенне формы вінавальнага склону з формай роднага [4, с. 67; 3, s. 235]. Формы вінавальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў супадаюць з фомай назоўнага склону.

Пераважная большасць прыкладаў адушаўлёных назоўнікаў адзіночнага ліку мужчынскага роду, зафіксаваных у абодвух сацыяльных варыянтах, маюць форму вінавальнага склону, тоесную з родным склонам (на 36 прыкладаў толькі 1 выключэнне), напр. *końa mamo, i̯edna za tatažyna vyšła, vźońść młodego kotka, l’isa zab’il’i, końa zakładamy,* а неадушаўлёных назоўнікаў — тоесную з назоўным склонам (501 прыклад з 507): *ńeχ postav’i čai̯ńik, pośada ten dom, i̯a m’ałem drob’inny drapčak* і г. д.

Пэўныя адхіленні занатаваны для неадушаўлёных мужчынскіх назоўнікаў (6 прыкладаў з 507): *vźeła m’odu na pal’uχa, zrob’ił b’ˈeńćika* ‘перавязку’, *pot kombai̯na popadl’i, pogrˈuščyka pšysłał*. Іншыя прыклады, як *bogu duχa oddał* (фраз. зварот), *pap’aroska spal’im, pap’aroska čšeba kup’ić* функцыянуюць і ў

літаратурнай польскай мове, параўн. *palić papierosa, strzelić gola, kupić fiata, tańczyć walca*, падобныя формы маюцца і ў літаратурнай беларускай мове: *узяць слана, пабіць валета, абагнаць «Масквіча»*. Магчымы, але нязначны, уплыў маглі мець беларускія паўднёва-заходнія гаворкі, у якіх неаднойчы ўжываецца родны склон неадушаўлёных назоўнікаў замест вінавальнага (ДАБМ, к. 211; ЛГГБГ, с. 63).

У запісах працяглых тэкстаў намі зафіксаваны адзінкавы прыклад пашырэння сінкрэтызму вінавальнага і роднага склонаў адзіночнага ліку на адушаўлёныя назоўнікі жаночага роду, прычым у сялянскім маўленні: *s'ostry šołkofsk'ego zaščel'il'i, i̯edno granata žuc'il'i do m'eškańa l'evo reŋko, to i̯ei̯ zaščel'il'i* (датычыць не толькі назоўніка, але і асабовага займенніка). Падобны сінкрэтызм дасведчаны таксама Г. Турскай у міжваенны перыяд ў польскай мове на Віленшчыне; даследчыца характарызавала гэты працэс як самаадвольны [13, s. 71]. Рыса, сёння рэдкая на Віленшчыне, уласцівая некалі вышэйшым сацыяльным слаям, лічыцца гіперстараннай [10, с. 267]. Даволі часта сустракаецца ў наваколлі Каўнаса, дзе пражывала вялікая колькасць дробнай шляхты [7, s. 199].

### 2.2. Множны лік

У літаратурнай польскай мове ў множным ліку вінавальны склон мае форму роднага для асабовых назоўнікаў мужчынскага роду. Адушаўлёныя неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду, а таксама жаночыя і ніякія маюць форму назоўнага склону [4, s. 67, 148–154]. Інакш справа выглядае ў беларускай літаратурнай мове, дзе менавіта ў вінавальным склоне множнага ліку катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці знайшла сваё выражэнне: назоўнікі са значэннем адушаўлёных прадметаў усіх родаў маюць формы, тоесныя роднаму склону, назоўнікі са значэннем неадушаўлёных прадметаў — формы, тоесныя назоўнаму склону: *бачыць людзей, мужчын, жанчын, даглядаць коней, гусей* і г. д. [3, с. 235]. У некаторых гаворках адушаўлёныя назоўнікі (не датычыць асабовых) могуць мець форму назоўнага склону або неадушаўлёныя могуць суадносіцца з формай роднага склону [3, с. 236].

Занатаваныя ў мове былой дробнай шляхты прыклады аформлены падобным чынам, як і ў літаратурнай польскай мове: форма вінавальнага склону адушаўлёных назоўнікаў трох родаў супадае з формай назоўнага склону (акрамя мужчынскіх асабовых) — 98 прыкладаў, напр.: *vrubl'i łap'a kot; mam dva prośak'i, kury m'el'i; ma ʒećontka tak'e mała, voły zapšeŋgal'i; m'ała čšy kaćuk'i; kob'eta krovy doiła; paša krufk'i; kot myšk'i łov'i; ov'ečk'i čšymal'i, krovy popoi̯a; m'ał curk'i, oddal'i dva byk'i; šv'ińe nakorm'iš, ćel'ak'i zaprovaʒiš*. Формы адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага (неасабовых), жаночага і ніякага родаў або неадушаўлёных тоесных з родным склонам сустракаюцца даволі рэдка,

у якасці выключэння (5 прыкладаў), напр. *i̯agńakof mało kto čšyma, kačkof ščeľaľi, vyvołyvaľi matkuf, pobraľi našyχ ʒ́efčont*, раз выступіла форма В.=Р. неадушаўлёнага назоўніка жаночага роду: *mam i̯a gazetuf, параўн. таксама on [zydel] ńev́eľk'i, na osup čšy*.

У польскай мове сялян справа выглядае вельмі падобна: *ma duže curk'i, m'ał służonce, doi̯ark'i; krufk'i vypuś''ćć''ic''; pui̯da vypuś'c'ic' krovy; ma i ś'v'ińa, i kury; zapeńʒ'iľi te kury; cygank'i braľi, zab'eraľi i krovy, i końi*; выключэнні таксама нешматлікія (4 прыклады): *nazyvamy psuf, m'ałam ś'ostruf, zaprašaľi ʒ'efčont;* параўн. таксама *zabraľi moi̯e roʒ'icof*.

Можна меркаваць, што гэта нязначны ўплыў беларускіх гаворак. Суіснаванне форм вінавальнага склону сінкрэтычных з родным і назоўным склонамі адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду (у функцыі аб’екта дзеяння пры пераходных дзеясловах) характэрна для гаворак на паўднёвызахад ад лініі Ашмяны — Маладзечна — Клічаў — Лоеў (ЛГГБГ, с. 62–63; ДАБМ, к. 210; 1, с. 81). Падобным чынам выглядае сітуацыя адпаведных форм у назоўніках жаночага роду (ЛГГБГ, с. 62–63; ДАБМ, к. 209; 1, с. 83). Невялікая колькасць адхіленняў сведчыць пра мінімальны ўплыў беларускай (і / або рускай) літаратурнай мовы або пра яго адсутнасць. У літаратурнай мове найбольш выразнай і сталай рысай адушаўлёнасці з’яўляецца сінкрэтызм вінавальнага і роднага склонаў назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду ў множным ліку (у ніякім родзе датычыць асобных слоў) (параўн. [2, с. 83; 1, с. 81–83; 3, с. 235]).

## 3. Асабовыя назоўнікі

У літаратурнай беларускай мове (як і ў рускай мове) усе назоўнікі падзяляем на тры роды: мужчынскі, жаночы і ніякі. Асабовыя назоўнікі змяняюцца па склонах так, як іншыя адушаўлёныя. Дапасаваныя да назоўнікаў прыметнікі, займеннікі, лічэбнікі маюць адзіную форму. Існуе адзіная форма на *-лі* для ўсіх дзеясловаў у форме 3 ас. мн. л. прошлага часу.

Інакш сітуацыя выглядае ў літаратурнай польскай мове, дзе адрозніваюць пяць родаў: мужчынскаасабовы, мужчынскажывёльны, мужчынскарэчавы, жаночы і ніякі [4, s. 66, 148–149]. Нас будзе цікавіць першы.

Як падкрэслівае Я. Зенюкова, мужчынскаасабовы род у польскай літаратурнай мове характарызуецца наступнымі паказчыкамі: сінкрэтызмам Н.-Р. скл. мн. л. мужчынскаасабовых назоўнікаў; сінкрэтызмам Н.-Р. скл. мн. л. займеннікаў, прыметнікаў, некаторых лічэбнікаў, якія адносяцца да мужчынскаасабовых назоўнікаў; асобнымі канчаткамі для Н. скл. мн. л. мужчынскаасабовых назоўнікаў; Н. скл. мн. л. займеннікаў, прыметнікаў, некаторых лічэбнікаў, якія адносяцца да мужчынскаасабовых назоўнікаў; формай прошлага часу 3-й ас. мн. л.: форма на *-li* адносіцца да мужчынскаасабовых назоўнікаў, іншая на *-iy* да немужчынскаасабовых [14, s. 55–56].

### 3.1. Сінкрэтызм вінавальнага і роднага склонаў у множным ліку

На першае месца, паводле згаданай даследчыцы, варта паставіць менавіта сінкрэтызм В.-Р. мн. л. мужчынскаасабовых назоўнікаў і дапасаваных да іх азначэнняў [14, s. 56].

У пераважнай большасці выпадкаў форма вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем асобы тоесная форме роднага склону, а адпаведных назоўнікаў са значэннем назвы жывёл і прадметаў — супадае з формай назоўнага склону. Пра адхіленні мы пісалі вышэй. З аднаго боку, захаваліся архаічныя формы, у якіх назоўнікі мужчынскага роду са значэннем асобы маюць вінавальны склон, тоесны форме назоўнага склону, з іншага боку — сінкрэтызм роднага і вінавальнага склонаў распаўсюдзіўся не толькі на асабовыя мужчынскія назоўнікі, а і шырэй — на ўсе адушаўлёныя, часам нават на неадушаўлёныя.

Прыклады на вінавальны склон, сінкрэтычны з родным, знаходзім у абодвух сацыяльных варыянтах польскай мовы. У мове былой дробнай шляхты, напр. *popeńʒiłby tyχ boľševʼikof, poščeľał tyχ carskʼiχ ofʼicerof; tyχ osadńikof povyvoźiľi; pańi pytała śe o tyχ osadńikof; ośim χłopof našyχ zabʼiľi, ja pui̯de za tyχ boľševʼikuf voi̯ovać, vyvʼeźľi roʒicuf, žyduf poščeľafšy byľi, у мове сялян: ńemcy žyʒʼuf vybʼiľi; tyχ žyʒʼi vypeńʒʼiľi; ńemcuf peńʒʼiľi; fšystkʼiχ tyχ poľakuf zavʼezʼľi; okronžyľi tyχ poľakuf i iχ rozbroiľi; katovaľi ruskʼe poľakuf; zaprašaľi χłopcuf; ma synuf, mʼał pasasoruf, za cyganaf* і г. д.

Сінкрэтызм форм вінавальнага і назоўнага склонаў для асабовых назоўнікаў мужчынскага роду запісаны таксама ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках: *склікаў сыны*, параўн.:[1, с. 81], напр., у мове былой дробнай шляхты: *te ksʼenže daľi s poľskʼi, χłopcy kobʼeta taka učyła, mai̯stry mam, vzʼońśćʼ varšavʼakʼi, mʼał takʼe pakcʼažy* ‘арандатары’, у словазлучэннях з лічэбнікам: *on dva syny ma, mam dva vnukʼi, na čšy kruľi*; у мове сялян: *te, kture paropkʼi mʼeľi; f kułakʼi fstavʼiľi*, а таксама з лічэбнікам: *on ma dva syny, i̯a mam dva syny* і г. д. У мове сялян неаднойчы непаслядоўна аформлена дапасаванне назоўніка з формай займенніка, напр., *zabraľi moi̯e roʒʼicuf, mʼał robotńikuf svoi̯e.*

### 3.2. Асобныя канчаткі для назоўнага склону множнага ліку

Канчаткі назоўнага склону множнага ліку як фармальныя паказчыкі асабовых назоўнікаў мужчынскага роду выглядаюць наступным чынам.

Канчатак *-owie,* які мае выключна семантычнае адрозненне і не звязаны з асновай слова, характарызуе ў шляхецкім варыянце маўлення толькі палову адпаведных назоўнікаў: *panovʼe, panovʼa, ʒʼatkovʼe, pšeʒʼatkovʼe, kumovʼe, ofʼicerovʼa, але pany, kruľi, mʼińistry, syny, pasasory, patrony, praʒady, oi̯cy, nau̯čyćeľi*; у мове сялян вельмі рэдкі, напр. *panovʼe, ʒʼatkovʼe* (на маё пытанне), *synowi*, але: *ofʼicery, pasasory, syny* і г. д.

Назоўнікі з асновай на цвёрды зычны (апрача *k, g, r*), якія ў літаратурнай мове маюць канчатак *-i*, у мове былой шляхты афармляюцца ў 62,3 % з канчаткам *-y*: *b'iskupy, partyzanty, śaržanty, sav'ety, sov'ety, l'itv'iny, bandyty, menščyzny, agenty, cygany* і г. д., толькі 37 % назоўнікаў маюць формы на *-i*: *sons'eʒ'i, žyʒ́i, menščyźńi, partyzanci* і г. д., у мове сялянскіх вёсак канчатак *-y* пераважае: *muzykanty, s'eržanty, partyzany, l'itv'iny, komunisty* і г. д., хоць формы з *-i* таксама прысутнічаюць: *bandyći, sov'eći, l'itv'ińi, sov'ec'i, kuzyńi, di̯abl'i* і г. д.

Асновы на *k, g, r* з чаргаваннем і канчаткам *-y* яшчэ больш рэдкія, у мове нашчадкаў шляхты складаюць 16 % і выступаюць толькі ў лексемах *osadńicy* і *pol'acy,* канчатак *-i* без чаргавання апошняга галоснага асновы пераважае: *śpevak'i, sług'i, osadńik'i, oχotńik'i, kol'eg'i, bol'šev'ik'i, pȯl'ak'i, pol'ak'i, poručńik'i* і г. д. У сялянскім варыянце галоўным чынам занатавана: *pol'ak'i, kol'eg'i, s'p'evak'i, katol'ik'i, mužyk'i* і г. д., гіперстараннае: *χam'i*.

Назоўнікі са значэннем асобы, аснова якіх заканчваецца на *-ec* маюць такую ж форму, як і ў літаратурнай мове — *-y*, пры чым без выключэнняў: *χłopcy, kupcy, ńemcy, posłancy* і г. д.

Даволі шмат (43 %) назоўнікаў з асновай на мяккі зычны маюць канчатак -е: *gospodaže, žołńeže, але: rycežy, złaʒei, žołńežy, stružy, gospodažy, goś'c'i* і г. д.

Канчатак *-a* (характэрны для былых зборных назоўнікаў) выступіў у абодвух варыянтах у назоўніках *braća, šl'aχta, ks'enža*, але таксама: *žyʒ''a, žyʒa, menščyzna*, з аканнем: *krewna* (субстантываваны прыметнік)*, roʒica, cygańa, złaʒe̯i̯a*; гіперстаранныя: *žyÁe, kÜenže,* з вузкім вымаўленнем неакцэнтаванага *-e* або ў якасці беларуска-рускага ўплыву, напр., *braći, žydy, braty, šl'aχty.*

Канчаткі назоўнага склону множнага ліку для асабовых назоўнікаў мужчынскага роду, праўдападобна, не сведчаць пра існаванне мужчынска-асабовага роду, хутчэй за ўсё, маем дачыненне з формамі без значэння роду. Назіраецца ўніфікацыя форм назоўнага склону шляхам захавання даўняга канчатка *-i* /*-y*, які супадае з беларускім. Падобная сітуацыя шырока вядома на тэрыторыі Віленшчыны [13, s. 70–71; 6, s. 34–35 і г. д.]. Канчатак *-i* / *-y* характарызуе сёння не толькі перыферыйныя польскія гаворкі, але таксама вусную польскую мову інтэлігенцыі Вільні [11, s. 56–57] і яе пісьмовы варынт [12, s. 62]. Даследчыкі здаўна звяртаюць увагу на фанетычную абумоўленасць гэтага канчатка (між іншых — [10, s. 168]).

### 3.3. Афармленне дапасаваных азначэнняў і выказніка ў прошлым часе

Не змяняюць намалёванай карціны словазлучэнні асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з прыметнікам, займеннікам ці лічэбнікам, а таксама — з дзеясловам. У маўленні былой шляхты выступаюць канчаткі *-i* / *-y* ў назоўным склоне множнага ліку дапасаваных прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў (формы *dwaj, trzej* намі не занатаваны), але назіраецца адсутнасць

паслядоўнасці: *roʒ'ice byl'i bogac'i, fšystk'e panov'e bogac'i, bogate žydy tak'e byl'i, byl'i bogate l'uʒ'e, gžečńi l'uʒ'i tak'e, gžečne l'uʒ'i i dobre, fšyscy čšy kuzyńi, fšyscy pol'acy, fšystk'e pol'acy, našy m'ińistry, krevna moi̯a byl'i* і г. д., у сялянскім варыянце маўлення выступіла значна менш форм з канчаткам *-i* /*-y*: *fšystk'e l'uʒ'i, roʒ'ice fšystk'e, te l'itv'ińi fšystk'e, dva syny, te pasasory, tak'e pany, te roʒ'ice, te młučše menščyzny, proste žołńeży, fšystk'e pol'acy, te cygańi, te s' p'evak'i* і г. д.

Мужчынскія неасабовыя дзеяслоўныя формы даволі рэдкія, але выступаюць у маўленні дробнай шляхты, напр. у 3 ас. мн. л.: *były pecy, skały čšasły, ružńicy były, te ʒ'efčynk'i ńe pošły, ʒeći uroʒiły śe, podrenčńik'i ńe zaχovały śe, burak'i zostavały śe, pokryły śe krovy, roʒiny rozmnožały śe, ʒeći poum'erały*. У маўленні жыхароў былых сялянскіх вёсак зафіксавана ў якасці выключэння: *ozdob'eńa były, moi̯e ʒ'ec'i vyχoʒ'iły*. Найбольш дзеяслоўных форм на na *-iy* мы запісалі ў асобы сялянскага паходжання, якая пасля чатырох класаў усеагульнай школы вучылася граматыцы прыватна, але і тут трэба падкрэсліць адсутнасць паслядоўнасці ва ўжыванні, напр.: *l'ata były, rynkuny były, rou̯b'išk'i zostały, krany były, były daχy, pošły kołχozy, kombai̯ny zżeły, vymarły pščoły, ale babk'i učyl'i, ńemcy zašły, roʒ'ice ńe znały, sov'eći konf'iskovały, zabrały; barkofsk'e* (муж і жонка) *pobudovały, fšyscy pošły, ońi dostały, kul'ešy* (муж і жонка) *vyi̯eχały*. Нягледзячы на занатаваныя прыклады мужчынскаасабовая форма выказнікаў у форме 3 ас. мн. л. прошлага часу з'яўляецца дамінуючай (падобным чынам у іншых формах прошлага часу).

З. Курцова бачыць тут адначасова дзве тэндэнцыі: агульнапольскую — накіраваную на захаванне мужчынскаасабовасці і мясцовую — каб зацерці супрацьпастаўленне мужчынскаасабовасці і немужчынскаасабовасці, як вядома, беларускай мове яна не характэрная. У выніку парушаецца сінтаксічная сувязь [10, s. 259]. З'ява датычыць таксама афіцыйнага варыянта польскай мовы інтэлігенцыі [11, c. 46–49] і мовы віленскай прэсы [12, s. 149].

У паўночна-заходніх польскіх перыферыйных гаворках у іменных формах назіраецца ўніфікацыя канчаткаў немужчынскаасабовага роду. Дзеяслоўны канчатак *-li* ў множным ліку прошлага часу выступае пры ўсіх назоўніках. «Мужчынскаасабовы род (семантычны) не мае асобнай граматычнай формы, — піша І. Масойць, — выяўляецца выключна на семантычна-прагматычным ўзроўні, не выконвае функцыі флектыўна-сінтаксічнай катэгорыі, як ў літаратурнай мове» [11, s. 47–49]. Стан падтрымліваецца ўздзеяннем беларускай і рускай моў, дзе няма супрацьпастаўлення роду ў множным ліку.

Мужчынскаасабовасць вельмі слаба адрозніваецца і ў шматлікіх польскіх этнічных гаворках. Калі адсутнічаюць мужчынскаасабовыя і немужчынскаасабовыя канчаткі, то ўсе яны не маюць катэгорыі роду [9, s. 288]. На значных абшарах (у гаворках паўночнай і ўсходняй Польшчы, у тухольскіх, кацеўскіх, мальборскіх, любаўскіх, мазавецкіх гаворках) поўнасцю знікла катэгорыя роду ў множным ліку прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў і формах выказніка ў прошлым часе [9, s. 288; 5, s. 233, m. 70].

## 4. Падабенствы і адрозненні ў выражэнні мужчынскаасабовасці ў польскай мове шляхты і сялян

Практычна няма розніцы ў афармленні адпаведных форм у нашчадкаў дробнай шляхты і сялян. У абодвух варыянтах маўлення па-польску ў формах іменных пераважаюць формы немужчынскаасабовыя, а ў дзеясловах прошлага часу — формы на *-li*. Параўнанне паказала, што ў шляхецкім варыянце выступае больш мужчынскаасабовых форм дапасаваных азначэнняў пры назоўніках са значэннем асобы, а формы дзеясловаў пры немужчынскаасабовых назоўніках маюць больш форм *-iу*. Не дазваляе тое, аднак, сцвярджаць, што катэгорыя мужчынскаасабовасці — немужчынскаасабовасці была ўфармавана ў мове шляхты, напр., у другой палове XIX ст. Не ведаем таксама ці гэта толькі рэлікты дадзенай катэгорыі, якая не магла вытрываць пад уздзеяннем беларускай і / або рускай мовы, дзе катэгорыя асобы падпарадкавана і разглядаецца ў межах катэгорыі адушаўлёнасці. Хутчэй за ўсё, мужчынскаасабовасць не развілася на даследаваным моўным абшары. Мова сялян, якая ў якасці ўзору выкарыстоўвала шляхецкае маўленне, характарызуецца падобнымі асаблівасцямі, з тым жа яны больш не паслядоўныя.

## Скарачэнні

ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Каментарый / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск, 1963.

ЛГГБГ — Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак (кніга інтэрпрэтацыі ізаглос) / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Атраховіча, Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск, 1968.

## Літаратура


1. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, І. І. Крамко. — Мінск, 1979.
2. Виноградов, В. В. Русский язык. Грамматическое учение о слове / В. В. Виноградов. — Изд.-е IV. — Москва, 2001.
3. Сучасная беларуская мова / пад рэд. Л. М. Грыгор’евай. — 3-е выд. — Мінск, 2010.
4. Bańko, M. Wykłady z polskiej fleksji / M. Bańko. — Warszawa, 2009.
5. Dejna, K. Dialekty polskie / K. Dejna. — Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1973.
6. Grek-Pabisowa, I. Współczesne gwary polskie na dawnych kresach północno-wschodnich. Eksploracja terenowa i rozpisanie tekstów przy udziale M. Ostrówki i A. Zielińskiej / I. Grek-Pabisowa, I. Maryniakowa. — Warszawa1999.
7. Karaś, H. Gwary polskie na Kowieńszczyźnie / H. Karaś. — Warszawa, 2002.
8. Kozłowska-Doda, J. Język polski kilku wsi rejonu woronowskiego. Fleksja imienna i werbalna / J. Kozłowska-Doda. — Krakyów, 2003. (*На правах рукапісу.*)
9. Kucała, M. Rodzaj gramatyczny w dialektach / M. Kucała // Encyklopedia języka polskiego. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1994. — S. 287–288.

10. Kurzowa, Z. Język polski Wileńszczyzny i kresów północno-wschodnich XVI–XIX w. / Z. Kurzowa. — Warszawa; Kraków,1993.
11. Masojć, I. Regionalne cechy systemu gramatycznego współczesnej polszczyzny kulturalnej na Wileńszczyźnie / I. Masojć. — Warszawa, 2001.
12. Mędelska, J. Język polski na Litwie w dziewiątym dziesięcioleciu XX w. / J. Mędelska. — Bydgoszcz, 1993.
13. Turska, H. O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie / H. Turska // Studia nad polszczyzną kresową. — T. I. — Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk; Łódź, 1982. — S. 19–122. [Fragment pracy (45 paragrafyw) z roku 1939.]
14. Zieniukowa, J. Rodzaj męskoosobowy w dialektach polskich (w świetle opracowań dialektologicznych) / J. Zieniukowa // Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej. — T. XIII. — 1974. — S. 55–63.

**Дар’я Кійко** *(Люблін, Польшча)*

# ПЕРАКЛАД ЯК ФОРМА МІЖКУЛЬТУРНАЙ КАМУНІКАЦЫІ (НА ПРЫКЛАДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, АНГЛІЙСКАЙ І РУСКАЙ МОЎ)

Уапошнія гады на вялікай колькасці канферэнцый гучыць тэма камунікацыі. У назвах семінараў дысцыпліна гэта аб’яднана з іншымі, напрыклад, псіхалогіяй, этналінгвістыкай, журналістыкай і інш. З’явілася і такая прапанова аб’яднання дысцыплін (прыклад запазычаны з канферэнцыі ў Паўночнай Карэі ў 2004 г.): «Пераклад і іншыя формы міжкультурнай камунікацыі». Варта засяродзіцца на гэтым прыкладзе.

Тэорыя перакладу як дысцыпліна развіваецца ад пачатку ХХ стагоддзя. Гэта досыць малады кірунак ведаў у параўнанні з іншымі. Але роля перакладчыка ў развіцці культур, літаратур ды ўзаемным абмене ведамі добра задакументавана. Пераклад — гэта частка глабальных працэсаў развіцця і эвалюцыі чалавека.

Варта адзначыць, што камунікацыя з’яўляецца пакуль што маладой дысцыплінай. Але яе актуальнасць у сучасным свеце вельмі выразная. Камунікацыя прысутнічае паўсюль, кожны дзень, у жыцці кожнага чалавека. Акрамя таго, можна таксама гаварыць пра розныя ўзроўні камунікацыі ў штодзённым жыцці і працы чалавека.

У той момант, калі сфарміравалася навука камунікацыі, тэорыя перакладу ўжо карысталася схемамі гэтай новай дысцыпліны. Каб зразумець чаму гэта менавіта так, варта пашукаць адказ на пытанне: што такое пераклад?

Падаецца, адказ можа быць наступным: пераклад — гэта акт камунікацыі. Вядома, шматмоўны.

Разгледзім акт камунікацыі. Карыстаемся такімі тэрмінамі з галіны камунікацыі як *адрасат*, *адрасант*, *код*, *паведамленне*. Адрасант фармулюе паведамленне, карыстаючыся кодам, зразумелым для адрасата. Дарэчы, «празрыстасць» кода, яго дабранасць да адрасата, з'яўляецца сродкам эфектыўнасці ўсяго акта камунікацыі.

Разгледзім акт перакладу. У адрозненне ад звычайнага акта камунікацыі, ён аб'ядноўвае дзве фазы. У першай фазе адрасант і адрасат карыстаюцца мовай *А*. Гэта мова з'яўляецца кодам камунікацыі. Перакладчык з'яўляецца менавіта адрасатам, ён атрымлівае паведамленне. Наступная фаза, дзе перакладчык фармулюе паведамленне, бо ён з'яўляецца адрасантам, карыстаючыся кодам Б, ці кодам адрасата. Спецыфіка гэтай сітуацыі менавіта ў тым, што ад магчымасцей перакладчыка, яго здольнасці да перакладу ў гэтых дзвюх мовах залежыць паспяховасць усяго акта. Акрамя таго, перакладчык павінен добра валодаць як кодам *А*, так і кодам *Б*.

Для адлюстравання важнасці кантэксту — гаворка ідзе менавіта пра культурны кантэкст у яго розных праявах — разгледзім наступны, вельмі практычны прыклад: выпускнік расійскай установы адукацыі складае дакументы на працу ў Злучаныя Штаты Амерыкі, бо плануе туды выехаць. Скончыўшы інстытут на выдатна, ён мяркуе, што мае добры шанец. Свой дыплом ён нясе на пераклад з рускай мовы на англійскую. Перакладзеныя дакументы высылае працадаўцы. У адказе на яго ліст працадаўца адмаўляе выпускніку без тлумачэння прычыны.

У пададзеным прыкладзе прычынаю адмовы магла быць памылка, а менавіта недасканаласць працы перакладчыка. Калі перакладчык пакінуў адзнакі з расійскай установы адукацыі як у дыпломе — 5, 4, 3 і г. д., можна з упэўненасцю казаць, што працу ён выканаў неэфектыўна. Варта было прапанаваць, напрыклад, у заўвагах, адпаведнік на рускай мове: «отлично», «хорошо», «удовлетворительно» і г. д. Такім чынам, у перакладзе падаём варыянт адзнакі на англійскай мове — «excellent», «good», «satisfactory», што дае магчымасць працадаўцу правесці аналогію з адзнакамі ў сваёй сістэме адукацыі. Як бачна, моўная кампетэнцыя яшчэ не сведчыць пра кампетэнцыю перакладу.

Часам здараецца, што дасведчаны перакладчык трапляе ў сітуацыю, дзе элементарныя рэчы з'яўляюцца для яго клопатам. Напрыклад, англійскі выраз «I'm good». Для чалавека, які не мае камунікатыўнай кампетэнцыі, толькі моўную, выраз гэты няпросты. Адсюль варыянты пры перакладзе на беларускую мову: «У мяне ўсё добра», «Я добры» і г. д. Насамрэч, перакладчык, які ведае культурны кантэкст, не можа памыліцца: выраз «I'm good» — гэта формула ветлівасці. За сталом можа значыць толькі «Не, дзякуй», бо вы-

раз — гэта формула адмоўнага адказу на пытанне пра дабаўку. Такім чынам, здараецца, што моўная кампетэнцыя, пазбаўленная камунікатыўнага зместу, наогул не адлюстроўвае сэнс сітуацыі.

Гаворачы пра культуру, не падаецца магчымым пазбегнуць такой галіны перакладу, як літаратурны пераклад. Тэксты мастацкай літаратуры, у адрозненне ад літаратуры тэхнічнай, насычаны моўнымі фігурамі, напрыклад, метафарамі. Мэтай для перакладчыка з'яўляецца не толькі сам пераклад метафарычнага выразу, але і яго асэнсаванне, здольнасць зразумець, што гэты выраз менавіта тут з'яўляецца метафарай.

Скарыстаем прыклад з беларускага фальклору. Для больш дакладнай ілюстрацыі важнасці культурнага кампанента мовай перакладу ў гэтым прыкладзе будзе польская. Выраз «За дзедам шведам». Падаецца, простая справа для польскага перакладчыка: «Za dziadem szwedem». Магчыма, польскі перакладчык пазнае метафару. Тады пераклад зменіцца на «Za szwedów». Але ці мае сэнс гэты выраз для польскага чытача? Гэта не проста выраз, гэта прыказка. Вядома, што прыказка — алюзійны тэкст. Метафара тут выконвае ролю згадкі, напрыклад, пра вядомую падзею. Такім чынам, наступным крокам будзе менавіта такі пераклад, які будзе адлюстроўваць каларыт прыказкі. Ведаючы гісторыю Беларусі, можна зразумець, што беларуская гістарычная памяць адносіць падзеі канфліктаў з Швецыяй да сівой даўніны. Гэтак, магчыма, паўстане пераклад «w starożytności».

На прыкладзе перакладу на польскую мову таксама выдатна ілюструецца важнасць культурнага кантэксту ў гутарковай мове. Калі ў амерыканкі, якая была прафесійна паспяховай асобай, запыталіся, што для яе галоўнае — сям'я ці праца, яна адказала: «Kids kinda come first». Па-першае, можна апусціць слова «kinda» наогул. Ні ў якім выпадку не трэба перакладаць гэтае слова як «chyba», «trochę» і г. д. Акрамя таго, у дадзеным выразе слова «kinda» мае сваю сэнсавую ролю, і хутчэй за ўсё было выкарыстана, каб падкрэсліць відавочнасць адказу. Такім чынам, існуе магчымасць паставіць такі ж акцэнт у перакладзе, напрыклад: «Wiadomo, dzieci są na pierwszym miejscu».

У апошнія гады ў такіх галінах як менеджмент, PR, рэклама і перамовы спецыялісты часта праводзяць працэдуру, якая мае назву «Cultural Applicability» альбо «Linguistic Screening»: культурная адпаведнасць альбо лінгвістычны скрынінг. Кожны рэкламны тэкст ці назва маркі кантралююца на прадмет «культурнай адпаведнасці» да мэтавай аудыторыі. Падставай гэтаму паслужылі вядомыя няёмкія сітуацыі з мінулага, напрыклад, з італьянскім напоем «Traficante» ў Іспаніі, дзе ў сучаснасці гэтае слова азначае не проста «гандляр», але «наркадылер». Кампанія «Honda» прадставіла новую версію машыны ў скандынаўскіх краінах — «Fitta», але была змушана хутка змяніць вульгарызм — а менавіта ў гэтай катэгорыі апынулася назва машыны — на «Jazz». Нават у межах адной мовы здараюцца культурныя непаразуменні. Так

на перамовах амерыканскай і брытанскай кампаній прапанова брытанскага боку «to table some of the key notions» завяла перамовы ў тупік. «To table something» у Паўночнай Амерыцы значыць «не абмяркоўваць, прыпыніць абмеркаванне». У Вялікабрытаніі — наадварот, штосьці высвятліць.

Варта адзначыць, што многія ўстановы адукацыі ў розных краінах ужо выразна разумеюць непазбежнасць інтэграцыі дысцыплін перакладу і камунікацыі. Кіруючыся гэтай тэндэнцыяй, уводзяць курсы, ствараюць факультэты, аб’ядноўваюць праграмы па камунікацыі і перакладзе. Сярод іншых, універсітэт у Мадрыдзе, Сіднеі, універсітэт Прынстан у ЗША, некаторыя інстытуты Фінляндыі. Каб паказаць прыклад рэалізацыі гэтай тэндэнцыі ў Польшчы, адзначым абавязковы курс лекцый па камунікацыі для перакладчыкаў-магістрантаў кафедры прыкладной лінгвістыкі ва ўніверсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне. Зрэшты, у Мінску, а менавіта ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, ёсць факультэт міжкультурнай камунікацыі, дзе таксама рыхтуюць перакладчыкаў.

Міждысцыплінарнасць сёння — гэта шлях да пашырэння, паляпшэння, удакладнення кантэкстаў. Гэта магчымасць і адначасова неабходнасць. Адназначнай падаецца непазбежнасць узаемнай інтэграцыі тэорыі перакладу і тэорыі камунікацыі.

**Кацярына Любецкая** *(Мінск, Беларусь)*

## ІНАВАЦЫІ Ў БЕЛАРУСКАЙ БАТАНІЧНАЙ ЛЕКСІЦЫ

Спробы апрацоўкі і ўдасканалення батанічнай тэрміналогіі ў беларускай мовы знайшлі выразнае адлюстраванне ў шэрагу тэрмінаграфічных выданняў [гл.: 1–8, 10–15]. Для асэнсавання гістарычнага руху тэндэнцый па ўпарадкаванні беларускай батанічнай лексікі зробім панарамны агляд лексічных змен у шырокім кантэксце беларускай практычнай лексікаграфіі. Паколькі да пачатку XX ст. задача фарміравання і кадыфікацыі беларускай тэрміналогіі не ставілася, калі не лічыць слоўнікі-даведнікі для чытання старабеларускіх юрыдычных актаў, якія, аднак, мелі спецыяльную і абмежаваную функцыю, зыходным можна лічыць «Сямімоўны слоўнік» (1918) [15], у якім здзейснены першыя спробы стварэння, апрацоўкі і кадыфікацыі тэрмінаў сучаснай беларускай мовы. Для аб’ектыўнага аналізу залучаны найперш тэрміналагічныя і нарматыўныя руска-беларускія слоўнікі, «паколькі яны ў перакладной частцы даюць найбольш поўнае ў рамках беларускай

лексікаграфіі ўяўленне пра лексічную норму і яе змены на працягу ўсёй гісторыі новай беларускай літаратурнай мовы» [9, с. 34]. Лексічны матэрыял гэтых перакладных даведнікаў не заўсёды вызначаны якой-небудзь сістэмай у падачы тэрмінаў розных галін ведаў. Разам з тым практыка іх стварэння садзейнічала развіццю беларускай спецыяльнай лексікі, а ў даведніках адлюстраваны спробы намінацыі і дэфініцыі слоў і спалучэнняў намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Тэрміналагічная сітуацыя пэўнага часу, безумоўна, знайшла адлюстраванне і ў агульных слоўніках.

Батанічныя найменні «Сямімоўнага слоўніка» складаюць даволі шматлікую групу (92 адзінкі). Да іх ліку аднесены ў першую чаргу назвы відаў і класаў раслін, лексічныя намінацыі паняццяў, звязаных з будовай і жыццём раслін; лексемы, што маюць дачыненне да тэрміналогіі лесазнаўства. Магістральным шляхам пры распрацоўцы адпаведнай галіны ведаў стала арыентацыя на ўласныя здабыткі беларускай мовы. Варта адзначыць пры гэтым, што складальнікамі шматмоўнага даведніка для перакладу былі выбраны пераважна найбольш ужывальныя наменклатурныя назвы. Большасць з іх у далейшым часта апісваліся ў лексікаграфічнай практыцы і да сёння функцыянуюць як асноўныя эквіваленты адпаведным паняццям батанічнай тэрмінасістэмы. У актыўны слоўнікавы запас увайшлі такія найменні, як ням. *Ölbaum* — бел. *aliйkawaje drewa*, ням. *Hallimasch* (*Pilz*) — бел. *apienka*, ням. *Espe* — бел. *asina*, ням. *Hafer* — бел. *awios*, ням. *Flieder* — бел. *bez*, ням. *Preißelbeere* — бел. *brušnicy*, ням. *Kohlrübe* — бел. *bručka*, ням. *Kürbis* — бел. *harbuz*, ням. *Erbse* — бел. *haroch*, ням. *Pilz* — бел. *hryb*, ням. *Eiche* — бел. *dub*, ням. *Moosbeere* — бел. *žurawiny*, ням. *Roggen* — бел. *žyta*, ням. *Apfelbaum* — бел. *jabłyna*, ням. *Beere* — бел. *jahada*, ням. *Gerste* — бел. *jačmień*, ням. *Ahorn* — бел. *klon*, ням. *Ähre* — бел. *kołas*, ням. *Pfeffergurke* — бел. *kornišon*, ням. *Linde* — бел. *lipa*, ням. *Blatt* (*am Baum*) — бел. *list*, ням. *Flachs* — бел. *lon*, ням. *Himbeere* — бел. *malina*, ням. *Moos* — бел. *moch*, ням. *Vergissmeinnicht* — бел. *niezabudka*, ням. *Petersilie* — бел. *piatruška*, ням. *Pfeffer* — бел. *pierec*, ням. *Paradiesapfel* — бел. *rajski jabłyk*, ням. *Gras* — бел. *trawa*, ням. *Hopfen* — бел. *chmiel*, ням. *Meerrettich* — бел. *chren*, ням. *Zuckerrübe* — бел. *cukrowy burak*, ням. *Blaubeere* — бел. *čarnica*, ням. *Knoblauch* — бел. *časnok*, ням. *Spinat* — бел. *špinat*.

Пашырылася ў навуковай мове частка тых лексічных адзінак, якія пад непасрэдным уздзеяннем суседняй рускай мовы ўдакладнілі сваю структуру, параўн.: замест ням. *Weißkohl* — бел. *biełaja kapusta* прыжылося *белакачанная капуста*; замест ням. *Rosenkohl* — бел. *brukselskaja kapusta* — *капуста брусельская*; замест ням. *Rotkohl* — бел. *čyrvonaja kapusta* — *чырвонакачанная капуста*. У выпадку ням. *Maronenpilz* — бел. *zajačy barawik* замацаванне ў далейшым атрымала спалучэнне *зайцаў грыб*, бо варыянт «Сямімоўнага

слоўніка» няпоўнасцю адпавядаў граматычным і лексічным нормам сучаснай беларускай мовы.

Для часткі батанічных паняццяў на працягу ўсяго стагоддзя існавалі розныя лексічныя адпаведнікі, у такіх выпадках варыянт «Сямімоўнага слоўніка» сутыкаўся з іншымі прапановамі і канкураваў з імі. Так, у слоўнікавай практыцы акрамя ням. *Stiefmütterchen* — бел. *bratki* вядома і *фіялка*, гэтыя лексемы сустракаюцца таксама як сінонімы: *фіялка трохколерная*, *браткі*. У радзе ням. *Kresse* — бел. *nasturcija* ў другой палове ўтрымліваецца варыянтнасць *настурцыя* — *настурка*. Для паняцця ням. *Rübe* — бел. *burak* існуе некалькі канкурэнтных абазначэнняў: *бурак*; *буракі*; *буракі*, *бурак* і ў 1920-я гады *буракі*, *бурачкі*. У некаторых нямецка-беларускіх слоўніках эквівалентам паняццю выступае таксама слова *рэпа*. У ням. *Fliegenpilz* — бел. *muchamor* канкурэнтнымі на працягу стагоддзя з'яўляюцца формы слова з рознай родавай прыналежнасцю, параўн.: *мухамор* і *мухамора*. Прапанова «Сямімоўнага слоўніка» ням. *Kümmel* — бел. *kmin* замацоўваецца як *кмі*(*е*)*н* або падаецца ў якасці другаснага сіноніма як *кмен*, *кмін*. Слоўнікавую перавагу пры гэтым атрымоўвае лексема *кмен*. Цікавы лёс мае ням. *Erle* — бел. *wolcha*. Як адзіны адпаведнік паняццю замацоўваецца слова *вольха*. Разам з тым на працягу стагоддзя актыўна выкарыстоўваюцца *вольха*, *алешына*; *алешына*, *вольха*, а ў 1920-я гады прыводзяцца *вольха*, *альха*, *альшына*, *алешына* і *вольха*, *альха*, *альшына*.

Існуюць таксама выпадкі, калі ў пазнейшай лексікаграфічнай практыцы знайшлі адлюстраванне прапановы аўтараў шматмоўнага лексікону, аднак у 20-я гады XX ст., калі адбываліся актыўныя пошукі народных сродкаў фарміравання нацыянальнай мовы, фіксуюцца і іншыя назвы, крыніцай якіх часта выступае народная мова, параўн.: для ням. *Stachelbeere* — бел. *ahrest* на пачатку стагоддзя прапануюцца *агрэст*, *агрэсьнік*; *аграст*; *агрыст*; для ням. *Brombeere* — бел. *ažyna* падаюцца *жавіны*; *яжавіны*; *ежавіны*, *ажына*; для ням. *Steinpilz* — бел. *barawik* — *баравік*, *шчыры грыб*; для ням. *Kartoffel* — бел. *bulba* — *бульба*, *картопля* і *бульба*, *картопля*, *бараболя*; для ням. *Hanf* — бел. *kanopli* — *каноплі*, *калопні* і *канаплі*, *калапні*, *канопы*; для ням. *Dorn* — бел. *kalučka* — *калючка*, *шып*, а таксама *пыж*; *калючка*, *пыж*, *дзіда*, *шып* і *цёрн*, *шыпы*; для ням. *Klee* — бел. *kaniušyna* — *канюшына*, *дзятліна*; *дзяцiліна* і *канюшына*, *дзяцеліна*, *дзятліна*; для ням. *Mais* — бел. *kukuruza* — *какорыцы*; *кукуруза*, *кіяхі* і *кіяхі*, *кукуруза*; для ням. *Malve* — бел. *talwa* — *праскуркі*; *праскурка*; *праскурнік*, *мальва* і *мальва*, *проскурка*; *мальва*, *праскурнік*; для ням. *Johannisbeere* — бел. *parečka* — *смуродзіна*, *парэчкі* і *парэчка*, *смародзіна*; для ням. *Raps* — бел. *raps* — *сурэпіца* і *бручка*, *рапс*, *сьвірэпіца*; для ням. *Reis* — бел. *ryž* — *рыс*, *рыж.*

Невялікая група з індывідуальных утварэнняў батанічнай мовы засталася на ўзроўні спарадычнага ўжывання і не сустракаецца ў беларускай

тэрмінаграфіі: ням. *Bastardklee* — бел. *dzikaja kaniušyna*, ням. *Seetang* — бел. *marskaja trawa*. У некаторых выпадках складальнікамі шматмоўнага лексікону адпаведнасць была вызначана памылкова, а таму некаторыя прапанаваныя імі намінацыі з самага пачатку мелі аказіянальны характар і выйшлі з ужытку, параўн.: замест ням. *Pomeranze* — бел. *apelcyna* замацавалася ў слоўнікавай практыцы *памяранец*; замест ням. *Ansatz* (*eines Astes*) — бел. *hurno* замацавалася *аснова ліста*.

Адной з крыніц фарміравання батанічнай лексікі з'явілася мясцовая і абласная лексіка, якая сёння ўключаецца ў «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Складальнікі пазнейшых тэрміналагічных слоўнікаў пазбаўляюцца гэтых прапаноў, параўн.: замест ням. *Haselnuß* — бел. *harech* ужываецца *арэх*; замест ням. *Schwarzwurzel* — бел. *žywakost* на пачатку XX ст. пашыраецца *казёлкі*, *рагулькі*; *рагулька пасяўная*, але распаўсюджанне атрымала *рагулькі*; замест ням. *Myrte* — бел. *mirta* — *мірт*; замест ням. *Morchel* — бел. *smarščok* прапануецца *смаршчок*, *асялок*, *храпач*; *сморж*; *смаржок*, *весялок*, але пашыралася *смаржок*; замест ням. *Spargel* — бел. *šparaha* даецца *шпарагі*; *шпараг*; *шпаржа*, але ў далейшым пераважае *спаржа*; замест ням. *Sauerampfer* — бел. *ščajjo* рэкамендавана *шчавель*; *шчавель*, *шчаўе*; *шчаўе*, *шчавель*; *шчавель*, *шчаўе*, *шчавух*, а агульнапрынятым зрабілася слова *шчаўе*.

Некаторыя лексемы «Сямімоўнага слоўніка», што маюць дачыненне да батанічнай тэрмінасістэмы, адлюстраваны ў ТСБМ і ТСБЛМ у іншым значэнні. Нежыццяздольнай у батанічнай тэрмінасістэме аказалася пашыраная ў народнай мове такая прапанова, як ням. *Sonnenblume* — бел. *soniečnik* (сучаснае *сланечнік*). Лексема ням. *Zimt* — бел. *cynamon* актыўна прадстаўлена ў слоўніках 1920-х гадоў, аднак пачынаючы з канца 1930-х гадоў пад уплывам рускай мовы яе месца займае слова *карыца*.

Запазычанні з іншых моў, акрамя рускай, у батанічнай лексіцы складаюць нязначную групу, і ў наш час заменены іншымі, найбольш пашыранымі ў батанічнай мове найменнямі. Уплыў рускай мовы на фарміраванне беларускай часткі шматмоўнага лексікону выявіўся ў адборы такіх слоў, як ням. *Ingwer* — бел. *inbir* (усталявалася *імбір*); ням. *Wundklee* — бел. *jaźwienik* (усталявалася *пералёт*, але ёсць і *пералёт*, *пералётнік жоўты*); ням. *Schimmel* (*Pilz*) — бел. *plesień* (усталявалася канкурэнцыя паміж лексемамі *плесня* і *цвіль*, а ў 1920-я гады прыводзяцца таксама *цьвіль*, *зацьвіль*; *плесьня*, *бросьня*, *цьвіль* і *плесьня*, *бросьня*, *цьвіль*, *тля*); ням. *Pappel* — бел. *topal* (усталявалася *таполя*). З польскай мовы для фарміравання беларускай часткі лексікону залучаліся такія лексемы, як ням. *Kohlrabi* — бел. *kalarepa* (польск. *kalarepa*) (сёння выкарыстоўваецца *кальрабі*); ням. *Melone* — бел. *melon* (польск. *melon*) (сёння выкарыстоўваецца *дыня*, аднак ў 1920-я гады ёсць таксама *мэлён*; *дыня*, *малён*); ням. *Tulpe* — бел. *tulipan* (польск. *tulipan*)

(сёння выкарыстоўваецца *цюльпан*, у 1940-я гады прапануецца *тульпан*, а 1920-м гадам уласціва *тулiпан*). Не вызначаліся жыццяўстойлівасцю таксама лексемы, створаныя шляхам літаральнага перакладу. У навуковай мове, пры гэтым, на іх месцы замацаваліся ў якасці моўных выразнікаў паняцця лексічныя адзінкі, пашыраныя ў суседняй рускай мове, параўн.: на месцы ням. *Grünkohl* — бел. *zialonaja kapusta* ужываецца *капуста кармавая*; на месцы ням. *Granatapfelbaum* — бел. *hranatnaja jabłyna — гранатавае дрэва*; на месцы ням. *Blumenkohl* — бел. *kwietnaja kapusta — цвятная капуста* або *квяцістая капуста*; на месцы ням. *Wirsingkohl* — бел. *italjanskaja kapusta* замацавалася *капуста савойская* і *капуста кучаравая*.

Асаблівасцю батанічнай тэрміналогіі «Сямімоўнага слоўніка» з'яўляецца яе выразная сінанімічнасць, калі адно паняцце знаходзіць некалькі розных лексічных эквівалентаў. Падчас стварэння і распрацоўкі тэрміналогіі гэта, аднак, выступае натуральным і заканамерным. Адметным пры гэтым можна лічыць тое, што ў сінанімічныя рады залучаны, як правіла, лексічныя адзінкі, створаныя на базе ўласнага беларускага матэрыялу. У некаторых выпадках у слоўнікавай практыцы замацаваліся абодва сінонімы, паміж якімі ў перакладных даведніках назіраецца канкурэнцыя, параўн.: у радзе ням. *Fichte* — бел. *sasna*, *chwoja* на першае месца ў даведніках вынесена слова *сасна* або прыярытэт аддадзены лексеме *хвоя*. Іншыя сінанімічныя рады ў выніку фарміравання функцыянальных стыляў беларускай мовы не захаваліся. З паметай *разм*. фіксуецца ў ТСБМ лексема *казёл* з сінанімічнага рада ням. *Butterpilz* — бел. *maślak*, *kazioł*. Асноўнае значэнне перадаецца ў сучасных слоўніках лексемай *масляк*. У радзе ням. *Pfifferling* — бел. *hruzd*, *lisička*, паводле ТСБМ і ТСБЛМ, слова *грузд* мае іншае значэнне. У некаторых сінанімічных радах зрухі адбыліся ў бок надання нарматыўнага статусу аднаму слову з сінанімічнага ланцужка, а іншае наогул выходзіць з тэрміналагічнага ўжытку, параўн.: у ням. *Bohne* — бел. *bob*, *šalbabon* далейшае выкарыстанне атрымала лексема *боб*; у ням. *Buchweizen* — бел. *hrečka*, *hreččyna — грэчка*, у ням. *Blüte* (*Blumen*) — бел. *kwietka*, *ćwiet — кветка*, але ў слоўніках пачатку XX ст. пашырана выкарыстоўваецца сінанімічны рад *кветка*, *краска*; у ням. *Möhre* — бел. *morkwa*, *biełaja morkwa — морква*; у ням. *Schnittlauch* — бел. *cybula*, *batańjo cybuli — цыбуля*.

Ужытая ў «Сямімоўным слоўніку» ням. *Holzapfel* — бел. *lasny jabłyk*, *dzička* пашырылася ў гутарковай мове, а ў сучасных тэрміналагічных даведніках на ўзор рускай мовы прапануецца *дзікі яблык*. Памылкова вызначаная складальнікамі шматмоўнага лексікону адпаведнасць ням. *Pflanze* — бел. *flans*, *rasada* і ням. *Hülse* — бел. *šałupa*, *łupnia* таксама не замацавалася, а пашырэнне атрымалі лексемы *расліна* і *струк*, *стручок*. Распаўся сінанімічны рад ням. *Harz* — бел. *smała*, *žywica* і за кожным кампанентам замацавалася сваё значэнне.

Такім чынам, аналіз лексікі, звязанай з батанікай, дазваляе сцвярджаць, што батанічная лексіка належыць да ліку стабільных, і істотных змен на працягу XX — XXI стст. у ёй не адбылося. Ядро батанічнай тэрміналогіі склалі агульнаўжывальныя словы, добра вядомыя беларусам яшчэ са старажытных часоў, якія пашырыліся ў моўнай практыцы і, калі не ўлічваць правапісных варыянтаў, захаваліся ў сучаснай тэрміналогіі (38 %). Устойлівымі ў тэрмінасістэме з'явіліся таксама намінацыі, што ўдакладнілі сваю структуру (4 %), а таксама тыя, якія на працягу ўсяго стагоддзя знаходзіліся ў канкурэнтных адносінах з іншымі лексемамі, што прывяло да замацавання найбольш дакладнага адпаведніка паняццю, удала створанага згодна з законамі беларускай мовы (20 %).

## Літаратура


1. Англо-русско-белорусский русско-белорусско-английский словарь лесохозяйственных терминов / Белорус. гос. технол. ун-т; каф. лесоустройства; сост. О. А. Атрощенко. — Мінск, 1995. — 125 с.
2. Беларуска-рускі тэрміналагічны тлумачальны слоўнік па батаніцы і кветкаводстве : для студэнтаў спецыяльнасцей Т.16.01, 16.02 / Беларус. дзярж. тэхнал. ун-т; скл. Т. М. Бурганская, Л. С. Пашкевіч, А. І. Скорабагатая; нав. рэд. В. Р. Анціпаў. — Мінск, 1996. — 54 с.
3. Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. 6. Ботаніка агульная і спэцыяльная / Ін-т Беларускае культуры. — Менск, 1924. — 83 с.
4. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Вып. 24. Слоўнік тэрміналёгіі агульнае расьлінагадоўлі (Праект) / Беларус. Акад. навук. Тэрміналёгічная камісія ін-ту мовазн. — Менск, 1930. — 100 с.
5. Верас, Зоська. Беларуска-польска-расейска-лацінскі ботанічны слоўнік / Зоська Верас. — Вільня : Выд. газэты «Голас беларуса», 1924. — 76 с.
6. Вызначальнік кветкавых раслін. Двухдольныя : метад. дапам. па дысцыпліне «Батаніка» для студ. спецыяльн. Т.16.01.00 / Беларус. дзярж. тэхнал. ун-т; каф. лесаводства; скл. Л. С. Пашкевіч; навук. рэд. В. Р. Анціпаў. — Мінск, 1995. — 68 с.
7. Кароткі руска-беларускі слоўнік па земляробстве і раслінаводстве / Магіл. дзярж. ун-т; укл. С. С. Барсукоў, А. С. Лаўшук; нав. рэд. М. В. Машчанка. — Магілёў, 1998. — 42 с.
8. Киселевский, А. И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь / А. И. Киселевский. — Мінск, 1967. — 159 с.
9. Літвіноўская, А. Г. Вукава традыцыя і беларуская лексічная норма / А. Г. Літвіноўская // Веснік БДУ. Сер. 4: Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. — 1995. — № 1.
10. Навуковыя назвы раслін : метадычныя парады студэнтам, якія вывучаюць батаніку / Брэсц. дзярж. ун-т; каф. батанікі; скл. В. М. Яромін, У. І. Бойка, Ю. Ф. Рой, П. П. Рафеенка; навук. рэд. М. П. Жыгар. — Брэст, 1996. — 27 с.
11. Русско-белорусский словарь по анатомии и морфологии растений / Брест. гос. пед. ин-т; сост. В. М. Еремин, М. П. Жигар; ред. Т. Д. Фенчук. — Брест, 1995. — 76 с.
12. Русско-белорусский словарь по морфологии и анатомии растений / Белорус. гос. пед. ун-т; сост. Л. М. Ерей, С. Т. Кухарева, Т. Н. Никитина. — Мінск, 1993. — 32 с.

13. Русско-белорусский словарь по физиологии растений / Мин. гос. пед. ин-т; сост. Л. Б. Утыро. — Мінск, 1992. — 25 с.
14. Сапегин, Л. М. Русско-белорусско-латинская терминология и этимология растений юго-востока Белорусского Полесья : учебно-методическое пособие : в 2 ч. / Л. М. Сапегин, Р. И. Маркелова; Гомел. гос. ун-т. — Гомель, 1991–1992.
15. Sieben-Sprachen-Wörterbuch : Deutsch-Polnisch-Russisch-Weissruthenisch-Litauisch-Lettisch-Jiddisch. — Leipzig : Otto Spamer Verl., — 1918. — 420 S.

**Ірына Савіцкая** *(Мінск, Беларусь)*

## БЕЛАРУСКІ І ПОЛЬСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СЛОЎНІКІ: САЦЫЯЛЬНА-ГІСТАРЫЧНЫ КАНТЭКСТ

У артыкуле ўвага звернута на нацыянальныя, а больш дакладна, *нацыятворчыя* слоўнікі беларускай і польскай моў: «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча (Санкт-Пецярбург, 1870 г.) і «Słownik języka polskiego» С. Б. Ліндэ (у 6-ці тамах, Варшава, 1807–1814 гг.). Хоць гэтыя лексікаграфічныя крыніцы надзвычай адрозныя і храналагічна, і колькасна, лічым патрэбным завастрыць іх агульны нацыятворчы характар, паколькі абедзве яны ўключаюць у свой рэестравы матэрыял якраз такія лексічныя адзінкі, якія ўказваюць на псіхалагічнае і культурнае адзінства носьбітаў іх моў на розных этапах гістарычнага развіцця нацый (г. зн. на ўстойлівыя сувязі і адносіны людзей унутры сацыяльнай групы, што выражае іх этнічнасць).

Згодна з меркаваннем этнолагаў, этнічнасць не з’яўляецца стабільнай і нязменнай адзінкай: «у розныя гістарычныя эпохі, у розных народаў і ў розных рэгіёнах этнічнасць мела розныя формы праяўлення, адчувала на сабе ўплыў ізаляцыянісцкіх, інтэграцыйных і іншых тэндэнцый» [2, с. 110]. І тут неабходна ўказаць на той агульнаеўрапейскі сацыяльна-гістарычны кантэкст, у межах якога ствараліся абодва слоўнікі, як і ўвогуле працы такога ўзроўню і значэння. Другая палова XVIII і пачатак XIX стагоддзяў — гэта эпоха Асветы ў Паўднёвай і Усходняй Еўропе (у Францыі, Англіі і Заходняй Еўропе ў цэлым — гэта сярэдзіна і другая палова XVIII стагоддзя) [6, с. 3]. Для гэтай эпохі характэрныя наступныя сацыяльныя тэндэнцыі: ідэалістычныя ўяўленні пра ролю свядомасці ў развіцці грамадства, жаданне патлумачыць грамадскія хібы неадукаванасцю людзей, імкненне да пераўтварэння грамадства, палітыкі, нораваў, побыту шляхам распаўсюджання навуковых ведаў, ідэй дабрыні і справядлівасці; гэта прыводзіла да вызвалення ад рэлігійна-феадальнага

светабачання, стварэння адзіных сістэм адукацыі, распаўсюджання навук і мастацтва [6, с. 3–4].

Пасля падзелаў тэрыторыі Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй у польскай лексікаграфіі адбыўся вялікі перарыў (апошнія значныя слоўнікі, Абрагама Троца і Пётра Данета, выйшлі ў 1740-х гг.). Таму слоўнік тэзаўруснага тыпу Самуіла Багуміла Ліндэ, які быў выдадзены на ўзор французскага, нямецкага, рускага акадэмічных слоўнікаў, адкрыў, па сутнасці, новую эпоху ў польскім слоўніцтве. Таксама і горад выдання, Варшава, з'явіўся сімвалам перамяшчэнняў, якія адбываліся ў Польшчы, паколькі ўжо не Кракаў, а Варшава стала галоўным асяродкам культурнага жыцця.

Праца Ліндэ сустрэла гарачы прыём, паколькі з'явілася ў перыяд (пасля вышэйпамянёных падзелаў), калі мова бачылася як сродак захавання нацыі. Гэты слоўнік прынцыпова адрозніваўся ад папярэдніх, якія мелі сінхранічны характар і прызначаліся для выкарыстання пры навучані замежным мовам, у той час як Ліндэ надаў сваёй працы тлумачальна-гістарычны характар. У ёй былі сабраны словы, якія хоць калі-небудзь ужываныя ў друку, разам з аўтэнтычнымі прыкладамі ўжывання гэтых слоў (напрыклад, як імі карысталіся Я. Каханоўскі, П. Скарга, І. Красіцкі і іншыя майстры слова). Такім чынам, слоўнік стаў адначасова падручнікам узорнай тагачаснай польскай мовы.

Згодна з ідэямі эпохі Асветы, слоўнік Ліндэ пры семантызацыі змяшчае пераклад польскіх слоў на іншыя мовы. Наяўнасць іншамоўных адпаведнікаў, асабліва славянскіх, надзвычай аблегчыла далейшыя славістычныя даследаванні, асабліва этымалагічныя, паколькі звяртала ўвагу або на іх падабенства, або на адрозненне, а таксама на геаграфію распаўсюджання слова, што часта давала магчымасць выявіць шляхі «вандравання» слоў і знайсці крыніцу запазычання. Слоўнік С. Ліндэ, як і ўвогуле слоўнікі гісторыка-тлумачальнага кшталту, можна лічыць «кульмінацыйным здабыткам у сферы лексікаграфіі» [7, s. 29].

Другая палова XVIII — пачатак XX стагоддзяў храналагічна яшчэ адносяцца да Асветы, аднак менавіта тады ўзнікаюць канцэпцыі І. Гердэра і В. фон Гумбальта, якія часта кваліфікуюцца як рамантызм, паколькі абодва філосафы пачалі казаць пра «дух» асобных народаў. Сфера мовы і маўлення вылучылася на прыярытэтныя пазіцыі сярод тагачасных гуманітарных даследаванняў, і В. фон Гумбальт прапанаваў ідэю пра тое, што мова адыгрывае большую ролю, чым проста сістэма знакаў для механічнай перадачы інфармацыі. Мовы з'яўляюцца нацыянальнымі і значна адрозніваюцца адна ад адной, таму варта казаць пра непаўторную спецыфіку нацыянальных характараў, якія выражаюцца ў гісторыі і прадуктах духоўнага жыцця [4, с. 59].

Хваля славянскага рамантызму наблізілася і да ўсходніх славянскіх народаў. Асабліва гэта праявілася ў 1840-х гг. і ў канцы 1860-х гг. пры падрыхтоўцы да І славянскага з’езда ў Расіі, калі адрадзілася ідэя агульнаславянскай мовы, пад якой разумелася, акрамя старога кніжнага маўлення, і аднесенасць да сучаснага маўлення, да таго агульнага, што ўласціва многім жывым славянскім мовам, што пранесла кожная славянская мова праз Сярэдняевечча. Увогуле падчас гэтага перыяду узаемаадносіны славістаў развіваліся ў складанай палітычнай абстаноўцы. Напрыклад, у расійскіх грамадскіх колах узніклі паланафобныя настроі, звязаныя з паўстанцкімі падзеямі 1830-х гг., а вось паўднёвыя і заходнія славянскія народы, наадварот, спадзяваліся на падтрымку Расіі ў іх барацьбе супраць Турцыі і Аўстра-Венгрыі. Якраз падчас гэтай хвалі (1854–1860 гг.) і было здзейснена ў Львове 2-е выданне слоўніка Ліндэ, дапоўненае прадмовай рэдактара, А. Бялоўскага.

Такім чынам, славістычныя сувязі з’яўляліся не толькі формай навуковых кантактаў, але і формай спрыяння нацыянальна-вызваленчаму руху 60-х гг. XIX ст. Пецярбургская Акадэмія навук і ўвогуле расійскія даследчыкі праблем вывучэння славянства падтрымалі захады славянскіх вучоных. Прыкладам такога, калі можна так сказаць, этнічнага дыскурсу, папулярнага ў тыя гады, можна лічыць выказванні І. І. Сразнеўскага (1842 г.): «Мы, хто б мы ні былі, рускія або палякі, мы павінны любіць і паважаць іншых славян, як нашых братоў. Мы павінны любіць славянства ва ўсім яго аб’ёме, таму што мы славяне; без гэтага мы не можам мець сапраўднай любові, сапраўднай павагі да саміх сябе; гэта абавязак маральнасці, прамы наш чалавечы абавязак, абавязак любові роднага да роднага, брата да брата» [цыт. па: 3, с. 143].

Што тычыцца этнічнага дыскурсу, які так актыўна распачаўся ў Заходняй і Паўднёвай Еўропе і разгарнуўся ў Расіі, у тым ліку і адносна да Беларусі, то трэба нагадаць, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі, разам з польскімі і ўкраінскімі, апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Так рускія і беларусы былі штучна аб’яднаны ў адной дзяржаве, і беларускія землі аўтаматычна падпалі пад прапагандаванае вывучэнне славянства. Хочацца, аднак, адзначыць, пэўную аднабаковасць і непаўнату вывучэння беларускіх зямель расійскімі вучонымі. Нават праца ў т. зв. «западнорусском крае» экспедыцыі 1860-х гг. Рускага геаграфічнага таварыства, якая павінна была апісаць «племянныя і побытавыя адрозненні народнасцей заходняга краю, іх колькасныя адносіны, размеркаванне паводле веравызнанняў і ступеней культуры, нарэшце гаспадарчы побыт і ступень матэрыяльнага дабрабыту» [5, с. 148], таксама не спрыяла канчатковаму сцвярджэнню самастойнасці беларускай мовы і ўвогуле беларускай культуры: «дзеячы 1860-х гадоў у заходнім краі так многа гаварылі пра “аб’яднанне”, “абрусенне” і да т. п., так настойвалі на пазбаўленні ад усяго мясцовага, якое нагадвала “польскі” ўплыў, так моцна лічылі польскім усё, што не было падобна да маскоўскага, што

мясцовае жыццё стала хавацца ў шкарлупу, і вучоным даследчыкам (асабліва раней чужым краю) з цяжкасцю прыходзілася б вышукваць яго праявы, замест таго, каб бачыць яго адразу ўвачавідкі без канцылярскіх шырмаў» [5, с. 148]. Больш за тое, стаўленне афіцыйнай Расіі да насельнікаў беларускіх зямель было прасякнута ўпэўненасцю ў іх індыферэнтнасці і неразвітасці. Па словах віленскага генерал-губернатара У. І. Назімава, «калі рускае [г. зн. пераважна беларускае] насельніцтва ў Заходніх губернiях нельга яшчэ назваць аджылым свой век, то не памылімся, калі скажам, што што ў ім жыццёвая сіла яшчэ не абудзілася, скажам больш — пачуцці народнай самабытнасці знаходзяцца ў такім адчайным летаргічным усыпленні, што ўслед за наступным абуджэннем ён [народ] з аднолькавай гатоўнасцю пойдзе як за руска-праваслаўнаю, так і за польска-каталіцкай прапагандаю» [цыт. па: 1, с. 139].

Тым не менш патрабаванне лексікаграфічнай апрацоўкі выяўленай спадчыны беларускага народа прывяло да падрыхтоўкі І. І. Насовічам «Слоўніка беларускай мовы». Гэтая праца на пачатковым этапе складання выявіла тагачаснае разуменне Імператарскай акадэміяй навук беларускай мовы як дыялекту («наречия») рускай мовы, ды і была запланавана ў якасці другой часткі «Опыта словаря областных наречий». Тым не менш работа па збіранні і публікацыі спецыфічных ў адносінах да корпуса рускай літаратурнай лексікі беларускіх слоў была скончана ў 1861 г. і прывяла да выдання ў 1870 г. лексікаграфічнай працы, якая набыла значэнне агульнанацыянальнага слоўніка.

Такім чынам, у абодвух слоўніках памкненне іх складальнікаў вылучыць сваю мову з ліку іншых моў і адначасова ўключыць іх у агульнаславянскі кантэкст было выклікана агульнай асветніцка-рамантычнай хваляй вывучэння духоўных здабыткаў народа і гістарычнай тэндэнцыяй да кансалідацыі нацыі: для польскага народа — гэта ўздым нацыянальнай самасвядомасці пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, для беларускага — наспелая патрэба вылучыцца з межаў «заходнерусізму».

## Літаратура


1. Долбилов, М. Полонофобия и политика русификации в Северо-Западном крае империи в 1860-е гг. / М. Долбилов // Образ врага / сост. Л. Гудков; ред. Н. Конрадова. — Москва, 2005. — С. 127–174.
2. Крысько, В. Г. Этническая психология : учеб. пособ. для студ. высш. учеб. заведений / В. Г. Крысько. — Москва, 2002. — 320 с.
3. Отечественные лексикографы XVIII–XIX вв. / Рос. акад. наук, Институт рус. яз. им. В. В. Виноградова. — Москва, 2000. — 508 с.
4. Перлов, А. М. История науки : введение в методологию гуманитарного знания / А. М. Перлов. — Москва, 2007. — 308 с.
5. Пыпин, А. Н. Исторія русской этнографіи. Томъ 4 : Белоруссія и Сибирь / А. Н. Пыпин. — Санкт-Петербург, 1892. — 488 с.

6. Эпоха Просвещения в Белоруссии. Методические указания для самостоятельной подготовки студентов по истории культуры Беларуси. — Могилёв, 2003. — 42 с.
7. Urbańczyk, S. Słowniki i encyklopedie. Ich rodzaje i użyteczność / S. Urbańczyk. — Kraków, 2000. — 125 s.

**Марына Свістунова** *(Мінск, Беларусь)*

## МОВАЗНАЎЧАЯ ТЭМАТЫКА НА СТАРОНКАХ «DZIENNIKA WILEŃSKIEGO»

«Dziennik wileński» (далей — DW) — штомесячнае навукова-асветніцкае выданне, якое выходзіла на працягу 1805–1830 гг. і разглядала «ўсё тое, што, з'яўляючыся карысным і прыемным, можа зацікавіць грамадскасць; акрамя толькі матэрый палітычных, якіх Дзённік наогул не будзе датычыцца»[1] [DW, 1805, № 9 (grudzień), паведамленне ад рэдактараў]. І сапраўды, на працягу 25 гадоў DW змяшчаў самую разнамасную інфармацыю. Сёння досыць дзіўна бачыць пад адной вокладкай, скажам, пераклады з Гарацыя і — трохі далей — рэцэпты квашання капусты ці спосабаў «odbierania wodce zapachu przypalonego» [DW, 1828, № 7 (lipiec), s. 108–117, 212–213]. Аднак менавіта такі шырокі дыяпазон зацікаўленняў і рабіў выданне па-сапраўднаму папулярным — чытачы з самымі рознымі інтарэсамі маглі знайсці ў ім неабходныя звесткі, атрымаць найноўшую навуковую інфармацыю ці гаспадарчыя рэкамендацыі. Ролю DW у гісторыі, культуры, літаратуры і навуцы Беларусі і Польшчы варта вывучаць спецыяльна; у гэтым жа артыкуле мы звернемся да асвятлення таго, як на старонках DW была прадстаўлена мовазнаўчая тэматыка і — больш вузка — да тых матэрыялаў, якія так ці інакш звязаны з беларускай мовай.

Цікавыя для нас звесткі эпізадычна прадстаўлены ў DW у складзе артыкулаў па гісторыі або літаратуры. Так, матэрыял звязаны з мовазнаўчымі тэмамі, знаходзім у № 8 (sierpień) DW за 1818 г., дзе на с. 331–336 змешчана рэцэнзія «Аб пачатку літоўскага народа розныя паведамленні» («Początku narodu litewskiego, rozmaite dochodzenia») карэспандэнта, які падпісаўся ініцыяламі Y. Q. Аўтар паведаміў, што ў 1808 г. пабачылі свет даследаванні Ксаверыя Богуша (Xaw. Bohusz, «O początkach narodu i języka litewskiego», Warszawa) і Іяхіма Лелявеля (J. Lelewel, «Rzut oka na dawność litewskich

[1] Тут і далей ў тэксце пераклад на беларускую мову наш. — *М. С.*

narodów i związki ich z Herulami», Wilno), прысвечаныя этнагенезу літоўцаў і іх мовы. Не без іроніі Y. Q. заўважае, што гэтым навукоўцам варта прачытаць працу шведскага вучонага Ёхана Тунмана — «Даследаванні па старажытнай гісторыі некаторых паўночных народаў» (J. Thunman, «Untersuchungen über die alte Geschichte einiger nordischen Völker», Berlin, 1772), у якой між іншым ідзе гаворка і пра славянскія плямёны венедаў. Y. Q. паведамляе, што Тунман у шэрагу іншых выкарыстоўваў і моўныя доказы сваіх меркаванняў пра зліццё славян з фінамі і готамі. Падобна, што такіх жа поглядаў прытрымліваецца і сам аўтар рэцэнзіі, які заўважае, што, хаця ўздзеянне з боку гоцкай і фінскай моў было моцным, «аднак механізм мовы застаўся славянскі, і тры чвэрці слоў яго сапраўднай асновы»[1] (s. 335). Безумоўна, у цэнтры ўвагі Y. Q. знаходзіліся найперш погляды на паходжанне палякаў і польскай мовы. Аднак тут нашу ўвагу прыцягвае, па-першае, сам факт цікавасці да праблемы этнагенезу славян і іх узаемадзеяння з неславянскімі этнасамі, а па-другое — тое, што такія даследаванні абапіраліся на дадзеныя параўнальнага мовазнаўства.

Пра актыўнасць дадзенага напрамку тагачасных навуковых пошукаў сведчыць і анонс, змешчаны ў майскім нумары DW за 1821 г. у раздзеле пра навуковыя вынаходніцтвы і адкрыцці («Wynalazki, odkrycia i rozmaitosci naukowe»). Аўтар невялікай нататкі паведамляе, што ў 1820 г. у Ляйпцыгу І. С. Фатэр апублікаваў «Зборнік паведамленняў пра мовы» («Analekten der Sprachenkunde», ч. I; ч. II выйшла ў 1821 г.), у якой апісвае розныя мовы.

Вынікам вывучэння славянскіх літаратур і моў ў канцы XVIII — на пачатку XIX стст. сталі апісальна-абагульняльныя працы, якія траплялі ў поле ўвагі аўтараў DW. Так, Леон Рагальскі [Leon Rogalski, DW, 1825, № 12 (grudzień), s. 568–576] даў змястоўную рэцэнзію на працу «Гісторыя чэшскай літаратуры» Юзафа Юнгмана (Józef Jungman, «Historya literatury czeskiey», Прага, 1825), якую пачаў, як ён сам выказаўся, з найбольш слабага месца ў працы Юнгмана — з лінгвістычных выкладак апошняга. Нягледзячы на тое, што даследаванне чэшскага навукоўца прысвечана літаратуры, у ім прадстаўлены і некаторыя лінгвістычныя назіранні і высновы аўтара. Так, рэцэнзент паведамляе, што «Заходнія славянскія мовы падзяліў праф. Юнгман на славацкую, чэшскую, мараўскую (з ганацкай і валоскай), сырбскую (сарабскую! верхнюю і ніжнюю) і польскую (са шлёнскай)»[2] (s. 569). Асобную групу, паводле Юнгмана, утвараюць мовы царкоўная, названая таксама ўласна стараславянскай, расійская, харвацкая, віндыйская (краінская), ілірыйская

---

[1] jednakże mechanizm języka pozostał sławiański, i trzyczwarte jeszcze wyrazów prawdziwey jego zasady.

[2] Zachodnie języki słowiańskie podzelił prof. Jungman na słowacki, czeski, morawski (z hanackim i wołoskim), syrbski (sorabski! górny i dolny) i polski (ze szlązkim).

(балгарская, сербская, баснійская, далмацкая)[1] (s. 569). Як бачна, тагачаснае еўрапейскае мовазнаўства, якое яшчэ толькі знаёміцца са славянскімі мовамі як аб'ектамі навуковай думкі, не вядзе гаворку пра асобныя ўсходнеславянскія мовы, а тым больш іх дыялекты. Больш за тое, наступнае выказванне Рагальскага выключна трапна характарызуе тагачасныя ўяўленні на гэты конт: «Што датычыцца падзелу расійскай мовы на дыялекты, не трэба вымагаць ад аўтара, каб ён ведаў тое, чаго мы самі яшчэ не ведаем»[2] (с. 569). Такім чынам, «расійскія дыялекты», да якіх, трэба думаць, маглі б быць аднесены ў той час і беларуская, і ўкраінская мовы, з'яўляліся для еўрапейскіх лінгвістаў terra incognita. Мы спецыяльна досыць падрабязна спыніліся на дадзенай рэцэнзіі і лінгвістычных назіраннях, прадстаўленых у ёй, таму што яны ў пэўнай меры тлумачаць абмежаванасць беларускамоўнай праблематыкі і акрэсліваюць кола мовазнаўчай праблематыкі ў DW.

Пра тагачасную цікавасць да славянскіх народаў і іх моў сведчыць змешчанае ў DW [1827, № 2 (luty), s. 65–78] «Статыстычнае паведамленне пра народы славянскага племені ў першай палове XIX ст.» — гэта вытрымкі са знакамітай працы «Гісторыя славянскай мовы і літаратуры на ўсіх дыялектах» Паўла Ёзафа Шафарыка («Geschichte der Slawischen Sprache und Literatur nach allen Mundarten») (Буда, 1826). Няма неабходнасці пераказваць тут частку працы Шафарыка, змешчаную ў DW, адзначым толькі, што, у адпаведнасці з навуковымі ўяўленнямі гэтага аўтара, да паўднёва-ўсходняй галіны славянскіх народаў адносяцца расіяне («Rossyanie») і русіны [«Ruśniacy albo Rusini (Ruthenen, Małorossy)»]. Уласна пра беларусаў гаворка не ідзе, асобна згадваецца літва («Litwa w Wilnie, Grodnie i Białymstoku, mówiąca po łotewsku»), аднесеная Шафарыкам разам з казакамі (!) і лотвай («Łotwa») да паўднёва-ўсходняй галіны славян [DW, 1827, № 2 (luty), s. 70].

Эпізадычны характар маюць у DW асобныя невялікія паведамленні пра розныя помнікі старажытнага пісьменства. Так, у № 2 (luty) за 1822 г. у раздзеле «Карэспандэнцыя» («Korrespondencja») адной з традыцыйных частак «Літаратурныя весткі» («Wiadomości literackie») на с. 281–282 змешчаны цытаты з ліста Пятра Кёпена [ад 19 (31) студзеня 1822 г. з Львова] да прафесара Віленскага ўніверсітэта Івана Лабойкі, які выкладаў рускую мову і літаратуру, з просьбай звярнуць увагу на рунічны надпіс на жэзле [«lasce (czyli pręcie)»] і грэчаскі надпіс на мармуры, якія знаходзяцца ў Крамянецкім ліцэі. Далей Кёпен піша, што К. Ф. Калайдовіч друкуе ў Маскве складзены ім (Кёпенам)

[1] język cerkiewny, nazwany także Wlastny Staroslawanské, umieszczony jest obok języków rossyyskiego, illiryyskiego, horwatskiego i windyyskiego (kraińskiego). Pod nazwiskiem języka illiryyskiego zaymuje autor język bulgarski (wolharské), serbski (srbské), bosniyski (boseńske), dalmacki (dalmatsé).

[2] Co się tycze podziału języka rossyyskiego na dyalekty, nie trzeba zapewne od autora wymagać, ażeby znał to, czego w tym względzie sami jeszcze nie znamy.

збор старажытных помнікаў пісьменства, які паслужыць гісторыі айчыннай палеаграфіі. У post scriptum Кёпен паведамляе, што выявіў у Львове надпіс на звоне 1341 г., грамату 1294 г. князя Льва Данілавіча Ануфрыеўскаму манастыру і ў царкве Св. Ануфрыя — надгроб'е Івана Фёдарава 1583 г.

Не менш змястоўныя і цікавыя за цытаты з ліста Кёпена каментары, якія даў прафесар Лабойка [DW, 1822, № 2 (luty), s. 282-283]. Па-першае, ён паведаміў чытачам DW некаторыя біяграфічныя звесткі пра самога Кёпена; па-другое, патлумачыў, што такое руны; па-трэцяе, сцісла апавёў пра дзейнасць Калайдовіча; па-чацвёртае, рэкамендаваў чытачам, якія хочуць больш даведацца пра Івана Фёдарава, звярнуцца да «Словаря исторического о бывших в России писателях духовного чина» (у 2-х т., Санкт-Пецярбург, 1818), складзенага пскоўскім архіепіскапам Яўгеніем (Балхавіцінавым).

Далей у тым жа нумары DW, у раздзеле пра навуковыя вынаходніцтвы і адкрыцці («Wynalazki, odkrycia i rozmaitosci naukowe»), на с. 283 змешчана невялікае паведамленне пра рукапіс з бібліятэкі князёў Радзівілаў (1615–1616 гг., in folio, 551 с.), напісаны на рускай, польскай і лацінскай мовах, які мае назву «Acta publika rerum polonicarum spectantia sub Sigism. III. R. Pol. tempora belli Moscovitici, 1615 et 1616». Як вынікае з апісання складу рукапісу (с. 284–285), у ім былі сабраныя афіцыйныя дакументы.

Працягвае апісанне выяўленых крыніц старажытнага пісьменства наступны нумар часопіса. У № 3 (marzec) I тома за 1822 г. на с. 399–400 у раздзеле пад назвай «Славянская палеаграфія» («Paleografia Sławiańska») С. Жукоўскі (Symon Żukowski) паведамляе пра пергаментную грамату Вялікага князя літоўскага Вітаўта (W. X. Witołda). Грамата была дадзена ў Троках і датычылася ловішчаў (месца для ловаў — палявання), якія сталі прычынай спрэчкі паміж біскупам віленскім і Вікгайлам. Што важна для гістарычнай філалогіі, у нататцы прыведзена транслітарацыя тэксту граматы лацінскімі літарамі, а ў канцы нумара, пасля с. 408, размешчана факсімільная выява і на асобным лісце — кірылічны тэкст самой граматы.

У наступным нумары ў раздзеле «Карэспандэнцыя» [DW, 1822, № 4 (kwiecień), s. 540–542] прыводзяцца цытаты з ліста З. Хадакоўскага да прафесара І. Лабойкі (29 студзеня 1822 г. з Масквы) з назіраннямі і развагамі першага адносна назваў вёсак, паселішчаў, урочышчаў і інш., якія ён наведаў падчас свайго навуковага падарожжа па Расіі.

Адзін з найбольш значных раздзелаў выдання — «Права» («Prawo») — прысвечаны вывучэнню тагачасных і ранейшых прававых адносін, пры гэтым у якасці крыніц даследаванняў часта выкарыстоўваліся старажытныя дакументы. Так, у нататцы «Wiadomość o statucie litewskim, drugim powszechnie zwanym, przez X. Antoniego Sosnowskiego» [DW, 1822, № 6 (czerwiec), s. 200–212] уніяцкі святар Антоній Сасноўскі паведамляе, што перадаў князю Аляксандру Хадкевічу друкаваны і рукапісны экзэмпляры Статута, якія сам адшукаў, і прапаноўвае ўласныя заўвагі адносна рукапіснага экзэмпляра.

А Сасноўскі засяродзіўся на дакументах, якія былі прыпісаны на пачатку і пасля асноўнага тэксту — прывілеях Жыгімонта Аўгуста ад 11.03.1566 і Стэфана Баторыя 1578 ці 1579 г. Дадзеныя апісанні, хаця і не маюць уласна мовазнаўчы характар, тым не менш закранаюць некаторыя моўныя адметнасці помнікаў.

Пяру А. Сасноўскага належыць яшчэ адзін артыкул, які можа мець важнае значэнне для гісторыі беларускага мовазнаўства і які быў змешчаны ў DW за 1822 г. у № 7 (lipiec) пад назвай «Паведамленне аб правах Казіміра Вялікага, перакладзеных на чырвонарускую мову ў часы Уладыслава Ягайлы» («Wiadomość o prawach Kazimierza Wielkiego przełożonych na język czerwonoruski za czasów Władysława Jagełły przez X. Antoniego Sosnowskiego»). На жаль, у тых бібліятэках Беларусі, дзе нам давялося працаваць (НББ і БАН), дадзены экзэмпляр адсутнічае. Пра існаванне ж самога артыкула вядома з № 8 (sierpień) DW за 1822 г.

Натуральна выглядае размяшчэнне ў раздзеле «Права» зробленага Ігнатам Даніловічам грунтоўнага «Бібліяграфічнага апісання вядомых экзэмпляраў Статута Літоўскага рукапісных і друкаваных як на рускай арыгінальнай, так і на польскай і лацінскай мовах»[1] [DW, 1823, № 7 (lipiec), s. 261–295; гэта чацвёртая і апошняя частка апісання, тры папярэднія змешчаны ў нумарах DW, якія адсутнічаюць у НББ і БАН]. У № 7 (lipiec) за 1823 г., на с. 261–295 прыведзена бібліяграфічнае апісанне экзэмпляраў Статута, надрукаваных папольску, паведамляюцца акалічнасці іх выхаду з друку, а таксама прыводзяцца некаторыя тэксталагічныя назіранні і аўтарскія разважанні. Падобна на тое, што І. Даніловіч не праводзіць выразнай мяжы паміж паняццямі, выражанымі тэрмінамі «język», «mowa» і «dyalekt», прыкладам чаго можа служыць і наступнае яго выказванне: «…na Ukrainie około Kijowa, znaydnją się w rękopismach starych tłumaczenia Statutu na dyalekt rossyysko-ukraiński, w ktorych przewlekły język białoruski w zwięzleyszey mowie rossyyskiey zawarty»[2] [DW, 1823, № 7 (lipiec), s. 291]. У DW гэты пасаж, здаецца, адзіны, дзе ўжываецца словазлучэнне «беларуская мова» («język białoruski»).

У раздзеле «Навуковыя навіны» («Nowiny naukowe») у падраздзеле «Права» («Prawo») DW за 1827 у № 1 (styczeń) на с. 13 паведамляецца пра выданне рукапісу Статута караля Казіміра XV ст., адшуканага, даследаванага і падрыхтаванага да друку Ігнатам Даніловічам. Помнік гэты мае важнае значэнне як крыніца для вывучэння гісторыі беларускай мовы. Таксама як і

---

[1] Opisanie bibliograficzne dotąd znanych exemplarzy Statutu Litewskiego, rękopiśmiennych i edycyy drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też w polskim i łacińskim języku.

[2] Выдзяленне курсівам у цытаце наша. — *М. С.* Гэтае выказванне падаецца на мове арыгінала ў сувязі з неадназначнасцю магчымых сучасных інтэрпрэтацый перакладу.

другі рукапіс, вядомы найперш дзякуючы І. Даніловічу, — «Летапісец Літвы і Хроніка Руская» — анонс пра асобнае выданне якога быў змешчаны ў DW за 1827 у № 6 (czerwiec) на с. 176–177. Дарэчы, у DW папярэдне тэкст рукапісу друкаваўся часткамі на працягу 1824 г., а ўдзел у падрыхтоўцы яго да публікацыі прымаў выдатны вучоны свайго часу, славіст, ідэйнае ядро гуртка ўніяцкіх святароў — Міхаіл Баброўскі.

Часта ў цэнтры ўвагі аўтараў раздзела «Права» («Prawo») знаходзіўся Статут ВКЛ. Так у 1829 г. DW змяшчае досыць вялікую нататку, у якой праводзіцца параўнанне арыгінальнага тэксту 1588 г. і польскага перакладу 1816 г. [DW, 1829, № 1 (styczeń), s. 15–31]. Аўтар падпісаўся ініцыяламі А. Р. У № 3 (marzec) змешчаны не менш грунтоўныя «Заўвагі, якія адносяцца да бібліяграфіі Статута Літоўскага» («Uwagi, odnoszące się do bibliografii Statutu Litewskiego») таго ж аўтара [DW, 1829, № 3 (marzec), s. 153–205].

Такім чынам, хаця навукова-культурна-асветніцкае выданне, якім з'яўляўся «Dziennik wileński», і не ставіла перад сабой непасрэдных задач прадставіць на сваіх старонках мовазнаўчых праблем, тым не менш яны знайшлі ўскоснае адлюстраванне ў шэрагу матэрыялаў і рэалізоўваліся праз апісанне (палеаграфічнае і бібліяграфічнае) і публікацыю старажытных помнікаў пісьменства, апісанне моў розных народаў, папулярызацыю навуковых выданняў, у якіх у той ці іншай ступені была прадстаўлена і мовазнаўчая праблематыка. «Dziennik wileński» з'яўляўся своеасаблівым рупарам тагачаснай перадавой навукі і культуры і транслятарам заходне- і ўсходнееўрапейскіх навуковых ідэй і пошукаў. Пазіцыянаванне выданнем сваёй апалітычнасці, на нашу думку, спрыяла яго існаванню, бо ў іншым выпадку расійскія імперскія ўлады маглі б ліквідаваць яго раней за 1830 год. Часопіс адыграў важную ролю ў фарміраванні і выхаванні не толькі навуковай думкі і цэлай кагорты навукоўцаў, пісьменнікаў і паэтаў, але і светапогляду жыхароў тагачаснай Беларусі.

**Наталля Снігірова** *(Мінск, Беларусь)*

# АСАБЛІВАСЦІ СЕМАНТЫЧНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІХ АРЭАЛЬНЫХ ІНАВАЦЫЙ У ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

Польска-беларускае сумежжа ў выніку сутыкнення моўных сістэм выяўляе вялікую колькасць інавацыйных з'яў і агульнасць многіх рыс, уласцівых непасрэдна не кантактуючым паміж сабою польскім і беларускім дыялектам. Вынікі праведзенага арэальна-тыпалагічнага даследавання паўночна-ўсходніх інавацый у польскай дыялектнай мове [4] дазваляюць сцвярджаць, што надзвычай плённае польска-беларускае моўнае ўзаемадзеянне спрыяе ўтварэнню на паўночным усходзе Польшчы адпаведнай інавацыйнай занальнай супольнасці.

Супастаўляльны аналіз лінгвагеаграфічных, структурна-семантычных, этымалагічных дадзеных аб польскіх арэальных новаўтварэннях з беларускім, у першую чаргу, а таксама з іншым усходнеславянскім і балцкім матэрыялам дае магчымасць прасачыць дынаміку развіцця рознаўзроўневых міжмоўных сувязей. Нягледзячы на тое, што прырода аб'ектаў вывучэння на кожным моўным узроўні адрозніваецца, назіраецца пэўны ізамарфізм фанетычнага, марфалагічнага, лексіка-семантычнага і лексіка-словаўтваральнага ўзроўняў мовы, на якіх былі выяўлены і прааналізаваны польскія паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі.

Класіфікацыя семантычных новаўтварэнняў паводле арэальна-этымалагічных тыпаў размеркавання ў моўнай прасторы дазволіла паказаць спецыфіку фарміравання кожнай з'явы. Аналіз лексіка-семантычных з'яў, выбраных з паўночна-ўсходніх гаворак Польшчы, выявіў характэрныя інавацыі, прастымуляваныя як агульнымі арэальнымі і ўнутрымоўнымі заканамернасцямі (*krasak*, *koza* 'шышка', *łych*, *skolzjak*, *sopuch*), так і асаблівасцямі лакалізацыі ў кантактнай, заходне-ўсходнеславянскай і балта-славянскай, міжмоўнай зоне (*wypustka*, *kaszele*, *łusta*, *skaracz*, *świeronek* і інш.). Значная колькасць інавацый распаўсюдзілася ў паўночна-ўсходняй Польшчы таксама ў выніку актывізацыі і прадуктыўнага выкарыстання беларускіх лексіка-семантычных і словаўтваральных рэсурсаў. Як паказала вывучэнне асобных новаўтварэнняў, за кошт выкарыстання беларускіх словаўтваральных элементаў і лексіка-семантычных рэсурсаў утварылася значная колькасць інавацый (*bzdziel*, *bzdziuch*, *cygo*, *tygo*, *koza* 'конік', *łychun*, *puścian* / *pościen*, *samotużki* і інш.). Разгледжаны матэрыял з'яўляецца разнастайным з пункту погляду словаўтваральнай структуры. Экспрэсіўна афарбаваныя лексемы складаюць амаль палову ад агульнай колькасці найменняў [4].

Шэраг фармальных змен, якія недастаткова поўна тлумачацца з пункту гледжання структуры ці формы, могуць быць матываваны семантычнымі зрухамі (*darmozjada*, *mańkuta*, *przygasznia*, *kłomel*, *pacuk*, *porszuk*, *wypustka*, *gwiazdocha*…). Агульнавядомыя на паўночным усходзе Польшчы лексемы *bździel*, *bździuch*, *koza*, *mnich*, *skrzynka*, *samotużki*, *sopuch* і інш. набылі новую семантыку, а новыя найменні *łych*, *łychun*, *krasak*, *puścian* / *pościen*, *świeronek*, *zimówka* і інш. захавалі значэнні слоў, ад якіх былі ўтвораны. Сярод працэсаў, якія суправаджалі ўзнікненне інавацыйных лексіка-семантычных з'яў, пераважаюць пераносы значэнняў разнастайных вядомых прадметаў і паняццяў паводле іх уласцівасцей на новыя словы, семантычнае калькаванне, суфіксальная і семантычная дэрывацыя і інш. Вывучэнне арэальных інавацыйных фактаў у сферы семантыкі пашырыла ўяўленні пра асацыятыўныя сувязі слоў, аб'ём іх значэнняў, аманімічныя і сінанімічныя ўзаемадачыненні шматлікіх варыянтаў у польскай, беларускай і іншых славянскіх мовах [4].

Інтэрпрэтацыя ізаглос, абумоўленая асаблівасцямі семантычнай рэканструкцыі і арэальнага апісання, выявіла складаныя тэарэтычныя праблемы лінгвістычнай арэалогіі, у выніку распрацоўкі якіх робіцца ўсё больш зразумелым, што эфектыўнасць яе метадаў залежыць ад тыпалогіі, спецыфікі саміх арэалаў і карэктнасці працэдуры стратыфікацыі храналагічных зрэзаў у гісторыі развіцця пэўнага моўнага адзінства і іх прасторавай праекцыі [2, с. 71].

Пытанне найбольш верагодных спосабаў распаўсюджання лексічных інавацый грунтоўна было распрацавана Г. А. Цыхуном, які вылучае *франтальны* шлях, калі арэал слова пашыраецца ў выніку кантактаў блізкародных гаворак, і *дэсантны*, калі лексема з асобных культурных цэнтраў распаўсюджваецца на бліжэйшае дыялектнае асяроддзе. Паміж гэтымі двума спосабамі не існуе непраходнай мяжы, аднак другі шлях найбольш характэрны для ўзаемадзеяння літаратурных моў і дыялектаў, якія знаходзяцца ў сферы ўплыву гэтых моў [7, с. 416]. У адпаведнасці з прапанаванай інтэрпрэтацыяй, абсалютная большасць асобна прааналізаваных лексіка-семантычных арэальных з'яў пашырылася франтальным спосабам (*bzdziel*, *bzdziuch*, *kaszele*, *koza* 'конік', *łusta*, *łychun*, *puścian* / *pościen*, *samotużki*, *świeronek*, *wypustka*). Дэсантным шляхам, з дыстанцыраваных культурных цэнтраў, распаўсюдзілася на дыялектнае атачэнне інавацыя *kapłoniarz*, якая мае глыбокія лацінскія карані.

Акрамя таго, Г. А. Цыхун вызначае спецыфіку інавацый і архаізмаў у галіне семантыкі, якая выражаецца ў тым, што «пра *сістэмную* інавацыю можна гаварыць толькі ў тым выпадку, калі новае значэнне вядомай лексемы становіцца адзіным асноўным значэннем гэтай лексемы на нейкай тэрыторыі; г. зн. фарміруецца інавацыйная зона, супрацьпастаўленая зоне архаікі і дыфузнай зоне, дзе з'явы архаічныя і інавацыйныя суіснуюць на пэўнай

тэрыторыі. Фактычна гутарка ідзе аб тэрытарыяльных амонімах, у ролі якіх выступаюць лексемы са старым і новым значэннем» [6, с. 202]. Даследчык падкрэслівае, што *кантакт паміж моўнымі сістэмамі можа быць толькі стымулам змен, вынікам якіх бывае з'ява, зусім не падобная да той, што стымулявала яе з'яўленне*, і ўзнімае яшчэ адну праблему: «ці можна гаварыць аб супольным арэале пэўнай семантычнай з'явы, калі яна грунтуецца на фармальна нятоесным матэрыяле?» [6, с. 205]. Па словах вучонага, адказ на гэтае пытанне мае істотнае значэнне для этымалогіі, бо «закранае даволі частыя выпадкі, калі арэалы падобных семантычных з'яў у розных мовах прымыкаюць з двух бакоў да моўнай мяжы і трэба вызначыць паходжанне гэтых з'яў у кожнай з моў» [6, с. 205]. Згодна з меркаваннем Г. А. Цыхуна, пры наяўнасці «сістэмнай інавацыі, якая ахапіла разнамоўныя тэрыторыі, арэальная лінгвістыка мае ў сваім арсенале прыёмы, якія дазваляюць вызначыць, адкуль распаўсюджваецца на пэўнай тэрыторыі гэтая інавацыя, г. зн. вызначыць цэнтр і кірунак яе ірадыяцыі. Для міжмоўных арэальных з'яў у галіне семантыкі гэта адзінае аб'ектыўнае рашэнне пытання аб паходжанні, якое можа прапанаваць этымалогія» [6, с. 206]. Некаторыя паўночна-ўсходнія польскія інавацыі (*cygo-tygo*, *mnich*, *skaracz*, *skrynka*, *sopuch*, *zimówka*) набылі сістэмны характар функцыянавання, сфарміраваўшы інавацыйную зону, — новыя значэнні вядомых лексем сталі для іх адзінымі асноўнымі на кампактнай тэрыторыі [4]. Такім чынам, пры ўтварэнні інавацый «старыя формы набываюць новыя значэнні, старыя значэнні пераносяцца на новыя формы» [5, с. 176].

Для вырашэння праблемы міжмоўных кантактаў пры інтэрпрэтацыі ізалекс таксама важна размяжоўваць дзве розныя формы лексічнага ўплыву: *запазычанне* і *пранікненне* (*інфільтрацыя*). Размежаванне гэтых паняццяў дае магчымасць выкарыстоўваць семантычны крытэрый у якасці аднаго з асноўных пры вызначэнні характару лексічнага ўзаемадзеяння паміж кантактуючымі мовамі [3, с. 33]. *Запазычанне* — элемент чужой мовы (слова, марфема, інш. канструкцыі), перанесены з адной мовы ў другую ў выніку моўных кантактаў [8, с. 158] (лексічнага ўплыву іншай мовы або звароту да яе лексічных фондаў для выражэння новых паняццяў ці далейшай дыферэнцыяцыі наяўных, якія выкарыстоўваюцца для абазначэння невядомых раней рэалій), а таксама сам працэс пераходу элементаў адной мовы ў іншую. Запазычванне слоў звязана з узаемадзеяннем народаў, іх культурнымі, гаспадарчымі і інш. сувязямі і абумоўлена гістарычна. Асноўная прычына запазычвання — культурны ўплыў, тэрытарыяльная сумежнасць не з'яўляецца абавязковай умовай [3, с. 31] (параўн. з інфільтрацыяй). Запазычанні могуць быць не толькі простымі (якія ўзяты непасрэдна з пэўнай мовы), але і ўскоснымі (якія прыйшлі праз пасрэдніцтва трэцяй мовы). *Інфільтрацыя* — пранікненне на суседнюю моўную тэрыторыю ў выніку

абавязковай тэрытарыяльнай сумежнасці і двухмоўя ў прыгранічным раёне [3, с. 31] пэўных адзінак або элементаў кантактуючых моў. Акрамя таго, у выніку кантактавання моў можа адбывацца *ўзаемапранікненне* моўных элементаў — *інтэрферэнцыя* [8, с. 197; 1, т. 1, с. 542].

Пад уплывам семантычных і арэальных фактараў у дыялектнай мове адбываюцца змены, якія маюць незаканамерны характар. Асаблівасці семантычнай арганізацыі паўночна-ўсходніх арэальных інавацый у польскай мове сведчаць пра неабходнасць комплекснага падыходу ў этымалогіі, які абавязкова ўлічваў бы розныя аспекты вывучэння новаўтварэнняў — арэальны, генетычны, тыпалагічны, а таксама гісторыка-культурны і інш.

## Літаратура


1. Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў : у 2 т. / А. М. Булыка. — 1-е выд. — Мінск, 1999.
2. Вендина, Т. И. Словообразовательные особенности восточнославянских языков (в сравнении с другими славянскими языками) / Т. И. Вендина // Общеславянский лингвистический атлас : материалы и исслед., 1982 / АН СССР, Ин-т рус. яз.; отв. ред. В. В. Иванов. — М., 1985. — С. 41–67.
3. Мартынов, В. В. Славяно-германское лексическое взаимодействие древнейшей поры : к проблеме прародины славян / В. В. Мартынов; Акад. навук БССР, Ин-т языкознания им. Я. Коласа. — Минск, 1963. — 252 с.
4. Снігірова, Н. А. Паўночна-ўсходнія арэальныя інавацыі ў польскай мове : аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук : 10.02.03 / Н. А. Снігірова; Беларускі дзяржаўны універсітэт. — Мінск, 2009. — 23 с.
5. Трубачёв, О. Н. Славянская филология и сравнительность. От съезда к съезду / О. Н. Трубачёв // Труды по этимологии : слово, история, культура : в 2 т. — М., 2004. — Т. 1. — С. 154–188.
6. Цыхун, Г. А. Арэальныя аспекты семантычнай рэканструкцыі / Г. А. Цыхун // Studia etymologica Brunensia 1 / ed. : I. Janiškova, H. Karlikova. — Praha, 2000. — S. 201–207.
7. Цыхун, Г. А. Кирилло-Мефодиевская лексика одного полесского говора / Г. А. Цыхун // Philologia slavica : к 70-летию академика Н. И. Толстого : сб. ст. / Рос. акад. наук, отд-ние лит. и яз., отд-ние истории, ин-т славяноведения и балканистики; отв. ред. В. Н. Топоров. — М., 1993. — С. 416–424.
8. Языкознание : большой энцикл. слов. / гл. ред. В. Н. Ярцева. — 2-е изд. (репр.). — М., 1998. — 683 с.

**Вікторыя Уласевіч** *(Мінск, Беларусь)*

# ІНАВАЦЫЙНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў ЛЕКСІЦЫ БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОЎ КАНЦА XX — ПАЧАТКУ XXI СТ.: СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫ АСПЕКТ

Кардынальныя пераўтварэнні ў грамадска-палітычным, эканамічным і культурным жыцці Беларусі і Польшчы канца XX — пачатку XXI ст. выклікалі істотныя змены ў лексічным складзе беларускай і польскай моў. Абедзве мовы папоўніліся ў гэты час значнай колькасцю новых слоў за кошт новаўтварэнняў, запазычанняў з іншых моў, набыцця новых значэнняў агульнавядомымі словамі. Асаблівая роля ў гэтых працэсах належыць сродкам масавай інфармацыі. Нягледзячы на наяўнасць агульных тэндэнцый пры ўзнікненні лексічных інавацый у беларускай і польскай мовах, гэтыя працэсы нельга назваць ідэнтычнымі. У кожнай з моў пад уплывам экстра- і інтралінгвістычных фактараў яны набылі спецыфічныя рысы.

Для беларускай і польскай моў згаданага перыяду, як і для іншых славянскіх моў, уласціва тэндэнцыя да інтэрнацыяналізацыі [3, с. 61; 6, с. 5; 8, s. 271; 9, s. 13]. Пашырэнне слоўнікавага складу абедзвюх моў адбываецца за кошт значнага павелічэння колькасці запазычанняў, найперш з англійскай мовы і яе амерыканскага варыянта. Запазычанні належаць да самых розных сфер жыцця сучаснага грамадства: палітыкі (бел. *інаўгурацыя, прэс-рэліз, саміт, спічрайтар, электарат*; пол. *pluralism, electorat, opozycja, prezydencja, autorytarny*), эканомікі і фінансаў (бел. *афшор, бартар, дэфолт, клірынг, тэндар, холдынг*; пол. *transha, barter, holding, broker, dealer, audit*), сферы інфармацыйных тэхналогій (бел. *брандмаўар, дамп, драйвер, ноўтбук, сканер, прынтар*; пол. *mikroprocesor, modem, notebook, kursor, server, czat*), быту (бел. *гамбургер, памперсы, сайдынг, фаст-фуд, шэйкер*; пол. *hamburger, chipsy, hot dog, klimatyzacja, puzzle*), культуры і шоу-бізнесу (бел. *байкер, перфоменс, прадзюсар, рэп, тэйп-арт, хіп-хоп*; пол. *show, reality show, talk-show, remake, sitcom*[1]) і інш. Пры гэтым у беларускай мове колькасна пераважаюць іншамоўныя словы, якія пранікаюць праз пасрэдніцтва рускай мовы, хаця

[1] Прыклады беларускіх лексем узяты з выдання: Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. — Мінск : ТетраСистемс, 2009. — 448 с.; польскіх — з выданняў: Markowski, A. Leksykon najnowszych wyrazów obcych używanych w praise, radiu i telewizji / A. Markowski. — Warszawa : Wydawnictwo Książkowe «Twój Styl», 1997. — 176 s.; Nowy słownik języka polskiego PWN. — Warszawa : Wydawnictwo naukowe PWN, 2002. — 1314 s.; Czeszewski, M. Słownik polszczyzny potocznej / M. Czeszewski. — Warszawa : Wydawnictwo naukowe PWN, 2006. — 388 s.

апошнім часам павялічваецца колькасць лексем, што ўваходзяць непасрэдна з мовы-крыніцы. У польскую мову англа-амерыканізмы таксама пранікаюць не толькі з мовы-крыніцы, але і з нямецкай мовы, кантакты з якой у польскай мовы больш цесныя, чым з англійскай [9, с. 4].

Трэба адзначыць, што традыцыйна для называння новых прадметаў і з'яў польская мова, у адрозненне ад беларускай, не заўсёды выкарыстоўвае прамыя запазычанні, а знаходзіць свае ўласныя адпаведнікі, напрыклад: бел. *прынтар* — пол. *drukarka,* бел. *ксеракс* — пол. *kopiarka / ksero,* бел. *кампакт-дыск* — пол. *płyta kompaktowa,* бел. *мабільны тэлефон / мабільнік* — пол. *telefon komórkowy / komórka* і пад.

Новыя словы ўжываюцца для называння новых рэалій, уключаюцца ў сінанімічныя рады, атрымліваюць пэўнае распаўсюджванне. Адзначаецца вар'іраванне матэрыяльнай формы запазычанняў, што праяўляецца ў ваганнях у вымаўленні, напісанні, акцэнтуацыі і пад. Так, для беларускай мовы характэрны цяжкасці пры фанетыка-арфаграфічным афармленні запазычанняў (перадача цвёрдасці-мяккасці зычных на пісьме: бел. *бізнес / бізнэс, інтэрфейс / інтэрфэйс, менеджар / мэнэджар*; перадача іншамоўных зычных [d], [t] перад галосным [i]: бел. *бутык / буцік*, *джойстык / джойсцік, дыджэй* / *дзіджэй*; напісанне слоў разам або праз злучок: бел. *бізнес-вумен / бізнесвумен, джэк-пот / джэкпот, саўнд-трэк / саўндтрэк* і інш.). Да таго ж, колькасць запазычанняў у апошні час настолькі вялікая, што многія з іх проста не паспяваюць засвойвацца нават графічна. У выніку ў друку актыўна выкарыстоўваюцца лексемы ў напісанні лацінкай, а таксама гібрыдныя напісанні (лацінкай і кірыліцай): бел. *CD*, *DVD*, *MMS*, *SMS; CD-магнітола, CD-плэер; DVD-прайгравальнік, DVD-сістэма; IP-адрас, IP-тэлефанія; IT-кампанія, IT-спецыяліст; SMS-банкінг, SMS-чат* і пад. Уяўляюць цікавасць лексемы, утвораныя ад іншамоўных абрэвіятур (у напісанні лацінкай) па словаўтваральных мадэлях беларускай мовы: *PR-шчык, PR-ыць*; *SMS-ка, SMS-ны;* а таксама выпадкі, калі да напісанага лацінкай патэнцыяльна зменнага слова праз злучок або апостраф далучаецца склонавы канчатак у напісанні кірыліцай: *e-mail-ы блогераў, праграма эмуляцыі CD-ROM'а* [5].

Праблемы адаптацыі новых запазычанняў існуюць і ў польскай мове. Часта запазычаныя лексемы захоўваюць арыгінальнае напісанне (як у мове-крыніцы). Пры гэтым вымаўляюцца яны таксама па законах мовы-крыніцы, такім чынам, іх вымаўленне не супадае з напісаннем [9, s. 5]: пол. *ecstasy* [ekstasi], *leasing* [lizing], *transparency* [trensperensi], *zombie(s)* [zombi], а таксама абрэвіятуры *CV* [si-wi], *CD-ROM* [si-di-rom], *DVD* [di-vi-di] і пад. Некаторыя з падобных лексем, як і ў беларускай мове, нягледзячы на напісанне, пачынаюць падпарадкоўвацца правілам змянення, характэрным для польскай мовы: пол. *bluetooth* [blutus]: *zasięg bluetootha, PIN: ne podasz PIN-u* і пад. [9, с. 6]. Частка лексем існуе ў варыянтных формах: неадаптаванай і адаптаванай да

польскай фанетыка-арфаграфічнай сістэмы: пол. *clearing / kliring, gadget / gadżet, consensus, consens / consensus, konsens* і пад.

Тэндэнцыя да інтэрнацыяналізацыі знаходзіць сваё праяўленне і ў словаўтварэнні. У прыватнасці, гэта датычыцца ўзмацнення прадуктыўнасці іншамоўных афіксальных фармантаў і актывізацыі ўтварэння кампазітаў, у тым ліку па новых мадэлях, нетыповых для традыцыйнага славянскага словаўтварэння. Так, у славянскіх мовах на мяжы XX–XXI стст. назіраецца значная актывізацыя кампазітаў з першымі інтэрнацыянальнымі або запазычанымі (пераважна з англійскай мовы) кампанентамі: бел. *аква-, арт-, аўдыя-, аўта-, відэа-, вэб-, еўра-, кіна-, нарка-, тэле-* і інш.: *аквамабіль, аквапарк; арт-бар, арт-клуб; аўдыяальбом, аўдыязапіс; аўтабізнес, аўтаклуб; відэааматар, відэаапаратура; вэб-выданне, вэб-камера; еўразона, еўрапарламентарый; кінабізнес, кінапрацэс; наркабанда, наркагандаль; тэлеверсія, тэлегульня*; пол. *auto-, cyber-, eko-, euro-, tele-, wideo-* і пад.: *automafia, autosklep; cybermiasto, cyberportret; ekosystem, ekopolityka; eurokampania, eurowybory; teleterapia, telewidownia; wideoimpreza, wideoklip* і г. д. Сярод такіх структур асаблівай увагі патрабуюць першыя кампаненты, якія заканчваюцца на зычны. Падобная мадэль раней была нехарактэрнай для польскай мовы, паколькі, у адрозненне ад беларускай, у ёй вызначальны кампанент знаходзіцца ў постпазіцыі да азначаемага [1, с. 214]: пол. *dostawa ekspresowa, muzyka jazzowa.* Аднак апошнім часам колькасць такіх лексем павялічваецца, што дазваляе даследчыкам выказваць меркаванне аб тым, што ў славянскіх мовах назіраецца рух словаўтварэння ў бок аналітызму [1, с. 218]. Яшчэ адной нетыповай для польскага словаўтварэння мадэллю стала ўтварэнне лексем з першай часткай *e-* (скарачэнне ад *electronic*) на ўзор лексемы *e-mail*: пол. *e-banking, e-business, e-commerce, e-firma, e-handel, e-książka* [8, s. 116; 9, s. 10]. Для беларускай мовы такі спосаб утварэння лексем нехарактэрны, у ёй для выражэння адпаведнага значэння выкарыстоўваюцца лексемы з першымі часткамі *анлайн-* і *інтэрнэт-*: бел. *анлайн-бізнес, анлайн-гандаль; інтэрнэт-банкінг, інтэрнэт-кампанія* і пад.

Іншамоўная лексіка актыўна ўключаецца ў сістэму словаўтварэння моў-рэцыпіентаў. Пры гэтым некаторыя з запазычанняў становяцца базавымі для цэлага рада лексем, напрыклад: бел. *камп'ютар — камп'ютарны, камп'ютаршчык, камп'ютарызаваць, камп'ютарызацыя, мікракамп'ютар, мінікамп'ютар, суперкамп'ютар, суперкамп'ютарны; спонсар — спонсарскі, спонсарства, спонсарша, спансіраваць, праспансіраваць, спансіраванне*; пол. *leasing — leasingować, wyleasingować, leasingowy, leasingodawca, leasingobiorca; sponsor — sponsorować, sponsorowanie, sponsorski; tuning — tuningowy, tuningować, tuningowanie* і пад.

Для польскай мовы канца XX — пачатку XXI ст. уласціва таксама тэндэнцыя да дэмакратызацыі, або, як вызначыў А. Маркоўскі, кадыфікацыя

размоўнай лексікі, наданне ёй «высакароднасці» («nobilitacja słownictwa potocznego») [8, s. 272]. Размоўная, жаргонная і нават вульгарная лексіка актыўна пранікае ў публічнае жыццё. Пачынаецца фарміраванне новага моўнага ўзору, які значна адрозніваецца ад моўных канонаў другой паловы ХХ ст. [8, s. 144, 147]. Актыўна развіваюцца крымінальны, маладзёжны, наркаманскі, камп'ютарны, музычны, вайсковы і г. д. жаргон. Напрыклад, пол. *komp, diwidik, sidik, wypalarka, net* (камп'ютарны жаргон); *waciana gorącska, zejście, maria / marycha / maryśka* 'marichuana', *marichuańczyk* (наркаманскі жаргон) і г. д.

Для сучаснай беларускай мовы «характэрна фактычна поўная адсутнасць такой разнавіднасці сацыяльных дыялектаў, як крымінальны жаргон. Гэтую сферу моўнай дзейнасці ў нашай камунікатыўнай прасторы цалкам абслугоўвае руская мова» [2, с. 110]. Тым не менш, беларуская мова канца ХХ — пачатку ХХІ ст. характарызуецца наяўнасцю студэнцкага і маладзёжнага жаргону: бел. *беспантовы, драйвовы, мадэрновы, мажор, навароты, прасунуты, прыколвацца, файны, фішка* і пад. Дастаткова інтэнсіўна фарміруецца і беларускамоўны камп'ютарны слэнг: бел. *сеціва*, *слімак* (параўн. пол. *małpa*), *гузік* 'кнопка', *гартач / праглядач* 'браўзер', *спампаваць, дзяк* 'дзякуй' і інш.

У беларускай мове канца ХХ — пачатку ХХІ ст. актыўна праяўляецца тэндэнцыя да нацыяналізацыі, выкліканая галоўным чынам пурыстычнымі падыходамі, якія маюць пераважна дэрусіфікатарскі характар [3, с. 64]. Для польскай мовы, як і для некаторых іншых славянскіх моў (напрыклад, рускай, чэшскай), гэты аспект нацыяналізацыі (унутрыславянскага моўнага пурызму) неактуальны [4, с. 38].

Калі ў папярэдні перыяд іншамоўная лексіка беларускай мовы папаўнялася ў асноўным праз пасрэдніцтва рускай мовы і непасрэдна русізмамі, то ў 1990-я гг. праяўляецца тэндэнцыя пазбаўлення русізмаў, «робіцца прыкметны крэн у бок "заходніх" крыніц папаўнення лексічных сродкаў» [7, с. 26], у прыватнасці, актывізуецца працэс запазычвання лексікі з польскай мовы і праз яе пасрэдніцтва. Паланізмы звычайна выступаюць дублетамі беларускіх нарматыўных лексем: бел. *выбітны* (польск. wybitny) — выдатны; *выкшталцоны* (польск. wykształcony) — адукаваны, сфарміраваны; *гжэчны* (польск. grzeczny) — далікатны, ветлівы, выхаваны, пачцівы; *імпрэза* (польск. impreza) — мерапрыемства; *кіроўца* (польск. kierowca) — вадзіцель, шафёр; *кшталціць* (польск. kształcić) — адукаваць, навучаць; *наклад* (польск. nakład) — тыраж; *пляцак* (польск. plecak) — рукзак і г. д.

Вяртаюцца з пасіўнага запасу словы (уласнабеларускія і запазычаныя), якія з 1930-х гг. знаходзіліся ў пасіўным запасе, а з 1990-х — зноў выкарыстоўваюцца ў перыёдыцы як дублеты нарматыўных лексем: бел. *адсотак* (замест *працэнт*), *бачына* (замест *старонка*), *жарсць* (замест *страсць*), *інстытуцыя* (замест *установа*), *мапа* (замест *геаграфічная карта*), *травень*

(замест *май*), *стасункі* (замест *адносіны*), *страйк* (замест *забастоўка*). Выкарыстоўваюцца ў друку і лексемы, якія ўжываюцца ў мове беларускай дыяспары: бел. *гледзішча* (замест *пункт погляду*), *задзіночанне* (замест *аб'яднанне*), *звяз* (замест *саюз*), *кружэлка* (замест *пласцінка*).

Тэндэнцыя да нацыяналізацыі праяўляецца і ў сферы словаўтварэння беларускай мовы. Так, у апошнія дзесяцігоддзі павялічылася колькасць назоўнікаў, утвораных нульсуфіксальным спосабам, большасць з якіх з'яўляюцца дублетамі агульных з рускай мовай нарматыўных лексем: бел. *аповед, выступ, назоў, параза, перасled, спадзеў, сумнеў*. Узмацняецца канкурэнцыя словаўтваральных тыпаў. Для называння аднаго паняцця часта ўтвараецца некалькі назоўнікаў, якія звычайна з'яўляюцца поўнымі сінонімамі і не маюць адрозненняў у семантыцы, напрыклад: бел. *выступовец, выступоўца, выступальнік, выступанец, выступальшчык, выступант* 'прамоўца'; *размоўнік, размоўца, суразмоўнік, суразмовец, суразмоўца, моўнік, моўца* 'субяседнік'. Пры ўтварэнні прыметнікаў значна пашырыў прадуктыўнасць суфікс *-ав- (-ёв-, -ев-)*. Пры яго дапамозе актыўна ўтвараюцца новыя словы, узнікаюць новыя варыянтныя прыметнікі замест агульных з рускай мовай лексем: бел. *зместавы, натоўпавы, наўпроставы, паводзінавы, цанавы / цэнавы*; *беспераcадкавы* (замест *беспераcадачны*), *быццёвы* (замест *быційны*), *ідэёвы* (замест *ідэйны*), *маладзёвы / моладзевы* (замест *маладзёжны*), *нармалёвы* (замест *нармальны*) і інш.

Такім чынам, беларуская і польская мовы ў канцы XX — пачатку XXI ст. папоўніліся значнай колькасцю новых слоў. Лексічныя працэсы ў гэтых мовах хоць і маюць агульныя рысы, але не з'яўляюцца аднолькавымі. У беларускай мове знаходзяць адлюстраванне розныя і часам супярэчлівыя працэсы, у прыватнасці, тэндэнцыі да нацыяналізацыі і інтэрнацыяналізацыі. У польскай мове на першы план выступаюць тэндэнцыі да інтэрнацыяналізацыі і дэмакратызацыі.

## Літаратура


1. Земская, Е. А. Новые явления в словообразовании русского и польского языков на рубеже XX–XXI веков / Е. А. Земская, З. Рудник-Карватова // Новые явления в славянском словообразовании : система и функционирование : докл. XI Междун. науч. конф. Комиссии по славянскому словообразованию при Международном комитете славистов, Москва, 24–26 марта 2009 г. / под ред. проф. Е. В. Петрухиной. — Москва, 2010. — С. 212–219.
2. Лукашанец, А. А. Беларуская нацыянальная мова на сучасным этапе : сістэма, статус, функцыянаванне / А. А. Лукашанец // Весці Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гум. навук. — 2009. — № 1. — С. 107–117.
3. Лукашанец, А. А. Сучасныя працэсы ў словаўтварэнні беларускай мовы : Да праблемы міжмоўнага збліжэння і адштурхоўвання / А. А. Лукашанец // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка : XIII Міжнар. з'езд

славістаў, Любляна, 2003 : Дакл. бел. дэлегацыі / НАН Беларусі. Беларускі камітэт славістаў. — Мінск, 2003. — С. 52–69.
4. Лукашанец, А. Языковой пуризм как фактор развития словообразовательной системы (на примере белорусского языка) / А. Лукашанец // Новые явления в славянском словообразовании : система и функционирование : Докл. XI Междунар. науч. конф. Комиссии по славянскому словообразованию при Международном комитете славистов, Москва, 24–26 марта 2009 г. / под ред. проф. Е. В. Петрухиной. — Москва, 2010. — С. 37–49.
5. Уласевіч, В. І. Асаблівасці фанетыка-графічнай, граматычнай і словаўтваральнай адаптацыі запазычанняў у сучаснай беларускай мове / В. І. Уласевіч // Молодежь в науке — 2009 : прил. к журн. «Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» : в 5 ч. — Ч. 2. Сер. гуманит. наук / редкол. : А. А. Коваленя (гл. ред.) [и др.]. — Минск, 2010. — С. 322–325.
6. Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. — Мінск, 2009. — 448 с.
7. Шакун, Л. М. «Усходнія» і «заходнія» крыніцы папаўнення лексічных сродкаў беларускай мовы / Л. М. Шакун // Веснік БДУ. Сер. 4 : Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. — 1995. — № 2. — С. 22–26.
8. Markowski, A. Kultura języka polskiego. Teoria. Zagadnienia leksykalne / A. Markowski. — Warszawa, 2006. — 294 s.
9. Waszakowa, K. Różnorodność i intensywność procesów przejmowania elementów obcych w słowotwórstwie współczesnej polszczyzny / K. Waszakowa // Poradnik Językowy : organ Towarzystwa Kultury Języka. — 2001. — Z. 6. — S. 2–14.

**Ніна Рашэтнікава** *(Мінск, Беларусь)*

# КАМУНІКАТЫЎНАЯ СТРАТЭГІЯ Ў РАЗВІЦЦІ МОВЫ ВУЧНЯЎ [З ВОПЫТУ РАБОТЫ НАВУКОВАЙ ШКОЛЫ ПРАФЕСАРА МАРЫІ ДУДЗІК (ВРОЦЛАЎСКІ ЎНІВЕРСІТЭТ, ПОЛЬШЧА)]

Сёння асаблівае значэнне ў развіцці навукі і падрыхтоўкі навуковых кадраў належыць навуковым школам. Вядома, што навуковая школа ўяўляе сабой нефармальнае згуртаванне, аб'яднанае вучоным, які валодае арыгінальнай творчай ідэяй і даследчай стратэгіяй, што маюць навуковую, сацыяльную і культурную каштоўнасць, як на радзіме, так і за яе межамі. Менавіта такую навуковую школу стварыла ў Вроцлаўскім ўніверсітэце прафесар Марыя Дудзік у 90-х гадах XX стагоддзя.

Цэнтральнай задачай, якая яднала навукоўцаў і настаўнікаў, была неабходнасць выпрацоўкі камунікатыўнай стратэгіі ў развіцці мовы вучняў. Метад мадэлявання, які ляжыць у аснове камунікатыўнай стратэгіі, істотна змяняе прыёмы навучання. Ён рэалізуецца ў рознага віду сітуацыйных практыкаваннях, заснаваных на залежнасці зместу і маўленчага афармлення нашых выказванняў ад маўленчай сітуацыі. Развіваючы ў вучняў уменне суадносіць змест і форму сваіх выказванняў з маўленчай сітуацыяй, гэтыя практыкаванні дысцыплінуюць мысленне, абвастраюць адчуванне мовы, навучаюць умела карыстацца імі, выбіраючы з некалькіх маўленчых варыянтаў той, што падыходзіць да дадзеных умоў. Сітуацыйныя практыкаванні развіваюць маўленчую культуру вучняў і такім чынам выхоўваюць чалавека.

У адной са сваіх асноўных прац «Грамадская камунікацыя і навучанне кантактам з чалавекам у межах польскай мовы як навучальнага прадмета» прафесар М. Дудзік падкрэслівала: «Пазнанне рэчаіснасці, адаптацыя ў ёй і ацэнка яе, дзейнасць па законах этыкі, выражэнне сваіх адносін з дапамогай індывідуалізаванай мовы, якая адпавядае грамадскай камунікацыі, з’яўляецца агульнаўжывальнай, выходзіць з сістэмы польскай мовы і этыкі. Пазнанне рэчаіснасці акумулюе не толькі пазнанне жыцця і дзейнасці чалавека, але і мастацтва (у прыватнасці літаратуры), і навукі (навучальныя прадметы, што складаюць курс школьнай адукацыі). Гэтая канцэпцыя закладвае падмурак для прадуктыўнага выкарыстання польскай мовы пры засваенні розных прадметаў школьнага цыкла. Апірышча на рэчаіснасць, на ўласны вопыт (інтэлектуальны і эмацыйны), выражанае ў мове, спрыяе творчаму выбару літаратуры і мастацтва» [1, s. 8–9].

Канцэпцыя даследавання патрабавала праводзіць эксперыментальную работу сярод навучэнцаў школ рознага тыпу ў горадзе і вёсцы. У эксперыменце ўзялі ўдзел магістранты Марыі Дудзік, настаўнікі з розных рэгіёнаў Польшчы. Кожны ўдзельнік даследавання складаў для сябе сістэму работы пад кіраўніцтвам прафесара і адначасова ўносіў свае прапановы і змены, згодна з выпіскамі канстатуючага эксперымента.

У методыцы выкладання мовы маўленчае развіццё разумеецца як рух наперад у авалоданні маўленнем, у авалоданні ўменнем ствараць вызначальныя маўленчыя практыкаванні.

Разважаючы пра праблематыку творчых работ школьнікаў, прафесар М. Дудзік пісала: «Гаворка ідзе пра камунікацыю паміж людзьмі, пра вербалізацыю духоўнай сферы чалавека ў штодзённым жыцці і пра неабходнасць вербалізацыі пры ўспрыманні твораў мастацтва, аднак з пазіцыі асабістай зацікаўленасці вучня і без прымусу» [1, s. 11]. Прафесар М. Дудзік надавала вялікае значэнне азнаямленню бацькоў вучняў з тэматыкай пісьмовых работ, якія выконваюць іх дзеці. Гутарка з навучэнцамі пры выбары

тэматыкі работы павінна быць, на думку вучонага, адкрытай і зразумелай вучню. Напрыклад:

— Што заўважаю ў людзях? Што разумею, а што не магу зразумець у іх паводзінах? Што з гэтага вынікае?

— Чалавек і вера.

— Чалавек чалавеку … воўк … брат … вораг … істота абыякавая нам… з'яўляецца нечым … .

— Чалавек і каштоўнасці.

— Чалавек і час.

— Канфлікт пакаленняў — ці ёсць? Ці павінен быць? У чым прычына?

— Талерантнасць у жыцці чалавека.

— Хлопец — дзяўчына; мужчына — жанчына.

— Мова польская — гэта мой дом.

— Паважлівасць, непаважлівасць у мове і ў спосабе быцця. Як гэта можа выражацца?

— Мяжа — розныя значэнні. Што можа з гэтага вынікаць?

— Я і мінуўшчына.

— Творчасць чалавека ў маім успрыманні.

— Я і мастацтва.

— Мае адносіны да падману.

— Разуменне мовы.

— Чалавек і яго інтарэсы.

— Чалавек і абавязак.

— Чалавек у адносінах да чалавека слабога ў маім успрыманні.

— Праблема смерці ў існаванні чалавека [1, s. 12].

Наступны этап работы — асэнсаванне вучнямі абранай тэмы, пасля чаго распачынаецца работа над тэкстам. Тэксты могуць быць запісаны з дапамогай ТСН, і ў класе вучні ўважліва іх праслухаюць. Пасля праслухоўвання тэксту можа быць свабодная гутарка на абраную тэму.

Так, працуючы з вучнямі VI–VII класаў над тэмай «Група аднагодкаў — хлопцы», настаўнік прапануе школьнікам праслухаць тры тэксты, дзе даюцца розныя характарыстыкі падлеткам. «Свабодная размова на вызначаную тэму дае магчымасць калектыўна абмеркаваць атрыманую інфармацыю ў маральным аспекце, паразважаць над сэнсам выразаў і адказнасцю за іх ужыванне і г. д.» [1, s. 14]. На дом вучням прапануецца заданне: паназіраць за аднагодкамі (хлопцамі), іх паводзінамі, узаемаадносінамі, паслухаць, як яны ацэньваюць тую ці іншую сітуацыю. Пасля даць загаловак свайму апаведу. У выпадку, калі ёсць патрэба ўжыць выраз жаргонны, то неабходна даць яму тлумачэнне на мове агульнаўжывальнай. Другое заданне: напісаць невялікую замалёўку пра цяжкасці ў засваенні граматыкі. Наступная работа ў адным з вызначаных класаў больш складаная для падлеткаў. Вучням прапануецца за-

«Naszym» nazwał go też w jednym z wywiadów Andrej Chadanowicz, tłumacz jego poezji na język białoruski. A na łamach białostockiej «Nivy» o «naszym» Czesławie Miłoszu pisali Hanna Kondratiuk-Świerubska i Maciej Chołodowski, zaś w «Czasopisie» — Sokrat Janowicz.

## Бяздомнасьць праўды. Спрэчка пра Гэрлінга-Грудзінскага[1] *(фрагмэнт)*

Адзінота Густава Гэрлінга-Грудзіньскага ў Італіі сталася зьместам двух артыкулаў і інтэрв'ю, напісаных італьянцамі: Робэрто Сальвадоры, Маўро Мартіні і Марчэллё Флорэса («Gazeta Świąteczna», 22 чэрвеня 2002 г.).

Гэрлінг-Грудзіньскі, перад вайной малады паланіст з левымі схільнасьцямі і пачаткуючы літаратуразнавец, пасля 1939 г. трапіў у савецкі лягер, дзе пазнаў сутнасьць сістэмы. Звольнены пасля амністыі ў 1941 г., выйшаў з лягера, несучы пачуцьцё абавязку ў адносінах да рускіх сяброў, якія ў лягеры засталіся.

Вопыт лягеру назначыў яго на ўсё жыцьцё. Вывязваючыся з абавязку, напісаў кнігу «Іншы сьвет» («Inny świat»), якая запэўніла яму трывалае месца ў польскай і сусьветнай літаратуры. Многія гады жыў ён у Італіі і быў чалавекам, які ведаў, калі літаратурнае асяродзьдзе гэтай краіны не патрабавала яго ведаў і акружыла яго доўгатрывалай канспірацыяй маўчаньня.

Гэта не зводзілася да кантраляваньня італьянскага культурнага жыцьця Італьянскай Камуністычнай Партыяй. Дзейнічалі тут многа больш далікатныя мэханізмы, якія належалі да няпісаных сяброўскіх дамоваў, пакрытых заслонай маўчаньня. Знаем гэта таксама з абычаяў польскага літаратурнага асяродзьдзя, асабліва сталінскіх часоў.

## Прыпавесьць першая

У 1933 г. адбыўся абмен палітычнымі вязьнямі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. З польскай турмы звольнілі дзеяча беларускай Грамады Браніслава Тарашкевіча, з лягера на Салаўках звольнілі ўзамен беларускага пісьменьніка Францішка Аляхновіча. Аляхновіч меў за сабой сем гадоў катаргі ў лягеры, у інстытуцыі, прыдуманай за Леніна, якая намервалася разрасьціся ў агромністую сетку ГУЛАГа. Паняў там сутнасьць сыстэмы, абапёртай на тэроры. Мы яго слухалі і чыталі ў Вільні, скрываючы непрызваітае падазрэньне, якое сьведчыць пра польскі — хочаш не хочаш заходні — мэнталітэт, што абазначае: калі ёсьць кара, мусіць быць і нейкае злачынства. Вядома, польская прэса пісала пра Салаўкі і пра савецкі тэрор, і чым больш правая, тым рабіла гэта з большай ахвотай, што зьмяншала верагоднасьць вестак сярод тых, якія правых не любілі, хаця ў гэтым выпадку мела абсалютную рацыю.

---

[1] Пераклады твораў падаюцца ў аўтарскай рэдакцыі. — *Заўв. рэд.*

Аднак Аляхновіча зусім не цікавіла польская прэса, ён хацеў прамовіць да беларускіх студэнтаў і паэтаў, загледжаных у чырвоную зорку, бо там, у Менску, беларуская мова ўводзілася ў школы і ўніверсітэты, а ў Польшчы замыкаліся беларускія школы, і іх саджалі ў турмы за камунізм. Аляхновіч хацеў асьцерагчы іх перад гэтым, што мелася надысьці, гэта: замест беларускай у школах — руская, а тую інтэлігэнцыю, якая хацела ствараць беларускую культуру, вынішчылі ў Курапатах. Так што веды Аляхновіча аказаліся не патрэбнымі і сёньня ніхто на сьвеце, а магчыма, і ў Беларусі, не памятае яго прозьвішча.

## Прыпавесьць другая

Станіслаў Сьвяневіч, эканаміст, быў адным з маіх малодшых прафэсараў ва ўнівэрсытэце Стэфана Баторыя ў Вільні. Як афіцэр запасу змагаўся ў верасьнёўскай кампаніі і быў інтэрнаваны ў Казельск. Разам з транспартам у красавіку 1940 г. перавезьлі яго на станцыю Гняздова, дзе быў затрыманы ў цягніку, але бачыў, як яго сяброў закідалі ў аўтобус з замаляванымі вапнай шыбамі. На аснове загаду ўладаў у апошняй хвіліне быў адпраўлены на Лубянку, каб там дасьледаваць яго надуманы шпіянаж на шкоду Нямеччыны, тады саюзьніка Масквы. Дзякуючы дзіўнаму недагляду ўладаў гэты каронны сьведка забойстваў у Катыні пакінуў межы СССР з арміяй Андэрса і напісаў кнігу «У цені Катыні» («W cieniu Katynia»). Кнігу гэтую ў 1976 г. выдаў Гедройц у Літаратурным Інстытуце, у 1981 г. выйшла яна ў падпольнай Афіцыне лібералаў, а ў 1990 г. паказалася ў легальным выдавецтве «Чытальнік» («Czytelnik»).

Мае адносіны да Сьвяневіча былі крыху іншымі, чым удзячнага студэнта да добрага прафэсара. Спалучалі нас розныя справы. Быў ён сэньёрам Акадэмічнага клуба валацугаў, і гэтыя сэньёры былі магчыма больш ідэйнымі, чым сам клуб, гэта значыць дэмакратычныя, і заўзята дыскутавалі пра будучыню і сучаснасьць Віленшчыны. Сьвяневіч быў крыштальным чалавекам, які спалучаў свой заўзяты каталіцызм з палітычнай талерантнасьцю. Я спатыкаўся са Сьвяневічам пасля вайны і стараўся пераканаць людзей тэлебачаньня, каб запісалі на плёнку размовы з ім, навочным амаль сьведкам Катыні. Памёр, маючы 98 гадоў.

Я атрымаў акурат кнігу «У цені Катыні» («W cieniu Katynia»), перакладзеную на англійскую мову сынам аўтара Вітаўтам Сьвяневічам і нявесткай, выдадзеную нікому не вядомай фірмай у Канадзе проста за кошт перакладчыка. І мушу прызнацца, што гэтая публікацыя мяне прыніжыла. Пасьля дзясяткаў гадоў, калі ўрады заходніх краінаў пагаджаліся, што забойства ў Катыні зьдзейснілі немцы, каб не дражніць Маскву, не знайшлася ні адна вялікая выдавецкая фірма на Захадзе, каб выдаць гэты твор, так важны для разуменьня гісторыі XX ст., і хаця ў гэты спосаб праінфармаваць грамад-

зкасьць пра вялікую хлусьню, падтрымліваную гадамі ўрадамі і масмэдыямі. Няўжо памяць пра адно з вялікіх забойстваў XX стагодзьдзя была толькі справай палякаў, а ў сапраўднасьці пераймалася ёй толькі сям'я найбольш верагоднага сьведкі?

## Надзея

Надзея бывае, калі нехта верыць,
Што зямля гэта не сон, а жывое цела,
І што вочы, рукі ні вушы не хлусяць.
А ўсе рэчы, якія я тут ведаў,
Гэта быццам агарод, калі стаіш у браме.

Увайсьці туды нельга. Але ён там ёсьць.
Каб мы лепш і мудрэй глядзелі,
Яшчэ новую кветку і не адную зорку
У агародзе сьвету пабачылі б.

Некатарыя кажуць, што нас вока спакушае
І што нічога няма, толькі ўсё нам здаецца,
Але тыя й не маюць надзеі.
Думаюць, што калі чалавек адвернецца,
Увесь сьвет за ім канчаецца,
Быццам схапілі яго рукі зладзеяў.

*Przekład Helena Głogowska.*

---

**Маргарыта Грудзінава** *(Мінск, Беларусь)*

# САКРАЛІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА КРАЯВІДУ Ў НАРЫСАХ ЯНА БУЛГАКА «ВАНДРОЎКІ ФАТОГРАФА Ў СЛОВЕ І ВОБРАЗЕ»

Творчы набытак знакамітага Яна Булгака не абмяжоўваецца толькі фатаграфіяй, Булгак яшчэ і адораны пісьменнік, які сцвердзіў сябе ў многіх жанрах. Пяру Яна Булгака належыць лірычная паэма «Мая зямля», аўтабіяграфічная аповесць «ДОМ», кніга па фотамастацтве «Эстэтыка святла», мемуары «Край дзіцячых гадоў», а таксама шматлікія артыкулы,

нататкі, вершы і нарысы, якія склалі цэлую серыю. Нарысы выходзілі пад загалоўкам «Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» і аб'ядноўваліся адной тэмай — тэмай роднай зямлі.

«Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» — гэта 9 сшыткаў, 9 нарысаў, першы з якіх — «Віленскі краявід» — выйшаў у 1931 годзе. Наступнымі былі нарысы: «Краявід, убачаны праз аб'ектыў» (1933), «Праз Панары да Трокаў» (1933), «Возера Нарач» (1935), «Чалавек — творца краявіду» (1936), «Рушчаўскія дажынкі» (1935) і «Пейзаж Вільні» (8–9 сшытак, 1936). 10 і 11 сшыткі — «Віленская Кальварыя» і «Навагрудскае («Край дзіцячых гадоў») — так і не пабачылі свет.

Матыў вандравання ў беларускай літаратуры непарыўна знітаваны з адкрыццём прыгажосці роднай зямлі, яе самабытнасці. І гэта датычыцца не толькі усведамлення каштоўнасці прыродных багаццяў, але і адкрыцця духу гэтай зямлі, вандравання ў яе гісторыю, народную культуру. Усё XIX стагоддзе амаль цалкам прасякнута адпаведным матывам адкрыцця і вандравання.

У жанравых адносінах «Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» з'яўляюцца яскравым прыкладам нарысаў, у якіх увага засяроджваецца на падрабязным апісанні інтэр'ераў, краявідаў, а таксама на расповедзе аб пэўных падзеях і персанажах. Як жанр нарыс не мае строгіх канонаў кампазіцыйнай пабудовы, галоўная задача твора заключаецца ў выяўленні аўтарскай пазіцыі.

Нарысы «Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» генетычна звязаныя і з жанрам падарожжа, «у аснове якога — апісанне відавочцам пэўных звестак аб якіх-небудзь, у першую чаргу невядомых чытачу альбо малавядомых краінах, землях, народах у форме нататак, запісак, дзённікаў, нарысаў, мемуараў»[4, с. 314].

Парадаксальна, але для беларускага народа самай невядомай краінай была і застаецца Беларусь. Змены дзяржаўнага ладу, змены назвы краіны — усё гэта актуалізавала пытанні ведання гэтага краю. Так званы феномен «тутэйшасці» — гэта і спроба самаідэнтыфікацыі, і адлюстраванне абмежаванасці ведаў пра Беларусь адначасова. Беларусам важна адкрыць прыгажосць сваёй краіны, яе ўнікальнасць, усвядоміць і прыняць яе самабытнасць. Эфектыўным сродкам такога «адкрыцця» становіцца мастацкае слова, жывое, эмацыянальнае, пранікнёнае.

Падарожжа з'яўляецца адным з самых старажытных жанраў: старажытнаегіпецкая «Казка аб пацярпелым караблекрушэнне», паэма пра Гільгамеша. Герой-вандроўнік — фальклорны, архетыпічны, вызначальнай пазіцыяй якога з'яўляецца «пазіцыя назіральніка чужога свету; супрацьстаянне "свайго" (свету, прасторы) і "чужога" — формаарганізуючы фактар жанру падарожжа» [4, с. 314]. Для героя падарожжа роднае — гэта адпраўны пункт у параўнанні і супастаўленні. Падарожнік у Булгака — іншы. Пісьменнік «пераварочвае»

традыцыйную схему: адштурхоўваецца ад прыгажосці чужога, каб даказаць незвычайнасць свайго.

У XIX стагоддзі жанр падарожжа набывае неверагодную папулярнасць: яскравымі ўзорамі жанру становяцца «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» Уладзіслава Сыракомлі, якія вылучаюцца не толькі падрабязным апісаннем геаграфіі краю, але і прадстаўляюць шырокую панараму тагачаснага жыцця, а таксама распавядаюць пра багатую гісторыю мясцін. Спецыфічнай вандроўкай па Беларусі, але ў сферу яе «падсвядомасці» з'яўляецца твор «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага. І Сыракомля, і Баршчэўскі адкрывалі Беларусь ва ўсёй прыгажосці, самабытнасці і чароўнасці, каб захаваць і перадаць унікальны характар роднай зямлі.

Варыянтам падарожжа з'яўляецца жанр сярэднявечнага хаджэння, якое распавядае пра паломніцтва ў Святую Зямлю (Ефрасіння Полацкая, Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка і іншыя), здзейсненае ў якасці абету, і заўсёды ў сваёй сутнасці нясе пазнаку сакральнасці. Паломніцтва ў Святую Зямлю — спосаб вынаходніцтва духоўнага апірышча.

Зварот літаратараў да жанру падарожжа — паказальны, звязаны ён таксама з пошукам «зямлі абяцанай» (адсюль у літаратуры так шмат вобразаў пілігрымаў, вандроўнікаў і выгнаннікаў). Пілігрым — гэта чалавек, які імкнецца да сакральнага і кіруецца хрысціянскай ідэяй вандравання, мэта якога — прыход да Бога. У філасофскім плане чалавек — проста вандроўнік у гэтым свеце, нізрынуты з неба, і які шукае шляхі вяртання назад.

Прадчуванне і адчуванне катастрофы пабудзілі Яна Булгака звярнуцца да тэмы падарожжа па родным краі і ўвекавечвання яго выгляду. Першапачаткова дадзенае імкненне рэалізоўвалася толькі ў фатаграфічным матэрыяле, але Булгаку не хапала яшчэ і слоўнай «падмацоўкі» візуальнага вобраза. З каментарыяў да фотаздымкаў выраслі паўнавартасныя літаратурныя творы, апрацаваныя да той ступені, калі ўжо цяжка ўстанавіць, ці «мастак ілюстраваў тэкст фотаздымкамі, ці тлумачыў краявіды дыскурсам» [6, с. 23]. Немажлівасць раз'яднаць слоўны і візуальны вобраз сведчыць аб тым, што галоўная мэта Булгака была дасягнута.

Пры напісанні «Вандровак фатографа ў слове і вобразе» Ян Булгак кіраваўся моцнай традыцыяй, класічным узорам якой з'яўляюцца падарожныя нарысы Уладзіслава Сыракомлі. У «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» (1853) Сыракомля пісаў: «… ваколіца, прыгожая для вока таго, хто тут прыжыўся, але пустая для чужака, які не звязаны з гэтымі мясцінамі ніякімі ўспамінамі, таму не можа зразумець спеваў тутэйшых салаўёў, шуму тутэйшага ветру» [5, с. 19].

Ян Булгак, нібы паўтараючы за сваім папярэднікам, піша: «Не запярэчым, калі нехта захоча сказаць аб нашым краявідзе, што ёсць ён аблудны і неўпарадкаваны, нязручны для падарожжаў і турыстыкі, што стварае

для прыезджых шмат перашкодаў і цяжкасцяў, якія невядомыя ў краінах цывілізаваных. Вольна чужому гаварыць аб ягонай шэрасці і манатоннасці, убостве і мізэрнасці ягонага выразу — але ж і пастэль ёсць такою жа ў параўнанні з алейным жывапісам — а дзе ж нашым далінам і пагоркам раўняцца з палуднёвымі цудамі гораў, скалаў, пропасцяў і марскіх абшараў? Несумненна, шмат недахопаў, вельмі мала повабу знойдзе ў гэтым краявідзе вока паспешліва праязджаючага камівояжора» [2].

Жанр падарожных нататак знаходзіцца на мяжы публіцыстыкі і ўласна мастацкай літаратуры. Звязана гэта са спалучэннем у нарысе наглядна-вобразнага і аналітычнага пачаткаў. Нарыс цікавіць, звычайна, адзінкавая з'ява, але прадстаўляецца яна ва ўсёй сваёй шматграннасці. Так, у нарысах У. Сыракомлі, прысвечаных апісанню родных ваколіц, знайшлі сваё месца і гістарычныя звесткі, і нораваапісальныя замалёўкі, і сацыялагічныя даследаванні, і нават філасофскія развагі, якія часам «уводзяць» расповед пісьменніка ў іншыя сферы, але заўсёды падпарадкоўваюцца і вяртаюцца да галоўнай тэмы. Такім чынам, у рамкі, здавалася б, невялікага твора, мажліва ўключыць шэраг важных праблем і даць ацэнку пэўным з'явам.

Жанраваствaральным у нарысе з'яўляецца факт, пададзены праз прызму аўтарскага бачання. Як і эсэ, нарыс характарызуецца суб'ектыўнасцю аповеду і адбору жыццёвага матэрыялу, таму часам даволі складана правесці выразную мяжу паміж гэтымі жанрамі.

«Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» — яскравае паяднанне ўласна мастацкага і публіцыстычнага пачаткаў. Ян Булгак выкарыстоўвае дыялагічную форму выкладання, ён увесь час памятае пра чытача, звяртаецца да яго, нібы заклікаючы ўключыцца ў аповед і стаць сутворцам тэксту, адказаўшы на пастаўленыя аўтарам пытанні: «…на чым жа, уласна, палягае загадка ягоных (краявіду. — *М. Г.*) неадольных чараў, у чым крыецца таямніца ягонага вялікага ўплыву на нашыя пачуцці? Чаму гэтак уладарна кранае ён струны нашае душы і загадвае вібраваць ім у дасканалай сугучнасці? Чаму засланяе ўсё найпрыгажэйшае, на што дзе-небудзь яшчэ глядзелі б са здзіўленнем, і чаму становіцца ён найвышэйшым выразам замілавання, незаменным прадметам міласці для кожнага — ад наіўнага прастака да геніяльнага паэта?» [2]. Ужыванне рытарычных пытанняў — адзнака стылю Булгака, яны разбураюць уласцівую падарожным нарысам апісальнасць і ствараюць настрой твора, а таксама выконваюць функцыю ўздзеяння і пераканання.

Праз рытарычныя пытанні аўтар здолеў перадаць вялікі дыяпазон магчымай камунікацыі з чытачом: ён вядзе дыскусію, высакародная мэта якой — даказаць каштоўнасць і прыгажосць роднай зямлі, роднага краявіду («Дзе на хвалёным палуднёвым небе, адвечна аднолькавым у сваёй банальнай лазурнасці, убачыць хто такія цуды, якія ў нас — штодзённае відовішча?»), апелюе да патрыятычных пачуццяў і пачуцця годнасці, яўна хітруючы («…а

дзе ж нашым далінам і пагоркам раўняцца з палуднёвымі цудамі гораў, скалаў, пропасцяў і марскіх абшараў?»), безапеляцыйна сцвярджае («Ну што? Бачыш, як тут прыгожа?») і ўрэшце, упэўнены, што ўжо даўно пераканаў чытача, замацоўвае гэтае перакананне («Ці можна яго не любіць?») [2]. Такое завяршэнне твора мае сапраўды палемічнае гучанне, але адказ на пытанне відавочны.

Нарысы Булгака не маюць вызначанага сюжэта (фактычна сам жанр не прадугледжвае дзеяння), адпраўны пункт — сустрэча з краявідам. Але, нягледзячы на фактычную бессюжэтнасць твора, гаварыць пра статычнасць аповеду нельга. Галоўнымі дзеючымі асобамі нарыса з’яўляецца аўтар і прырода, якая пастаянна знаходзіцца ў руху. Менавіта гэты рух замяняе звыклае сюжэтнае дзеянне, надаючы твору дынамічнасць. Сінтаксічна гэта выяўляецца ва ўжыванні аднародных членаў сказа, выражаных дзеясловамі: «А бітва гэтая спараджае яшчэ адну цудоўную з’яву — нашае высокае, глыбокае воблачнае неба, па якім *снуюць, праходзяць*, зноў *наплываюць, пераліваюцца, грувасцяцца, бурляць* хмары нязлічаных кшталтаў і барваў» [3].

Яшчэ адным спосабам стварэння дынамікі ў творы з’яўляецца антрапамарфізацыя прыроды: краявід Булгак апісвае як чалавека з унікальнай знешнасцю і ўнікальным характарам. Аўтар шырока выкарыстоўвае найменні частак цела і арганізма чалавека ў дачыненні да краявіду (у цэлым, гэта — дастаткова характэрная з’ява для чалавечага мыслення): «Сялянская двухсхільная хата сваім касым глыбокім абрэзам даху на пярэднім шчыце нагадвае падлетка з шапкаю, насунутай на вочы» [2].

Такія параўнанні дазваляюць зазірнуць глыбей: Булгак даводзіць думку аб сузалежнасці краявіду і характару беларуса. Спазнаўшы сутнасць краявіду, можна спазнаць і душу народа, бо яны звязаныя патаемным спляценнем. «Наш краявід бязлюдны, дзікі і неўтаймаваны, — піша Ян Булгак. — Краявід спалучае ў сабе велізарнасць, самотную цішу, задумёнасць, “стыхію і вечнасць”» [2].

Беларускі краявід ніколі не быў залішне аблашчаны сонцам, а таму ён такі суровы, лясісты і не ведае яскравых фарбаў (беларускі краявід — не алейны жывапіс, але пастэль, якой, дарэчы, аддавалі перавагу імпрэсіяністы), ён часам неўпарадкаваны, хаатычны, нязручны і непрактычны. Але ў гэтай стыхійнасці і неўпарадкаванасці і заключаецца яго ная ўнікальнасць.

Такі ж і характар мае і жыхар гэтай зямлі (даказана, што менавіта недахоп сонечнага святла ў многім абумоўлівае характар беларусаў), ён — не купец, «што гоніцца за грашыма», але «адвечна тутэйшы» аратай, які навучыўся жыць у гармоніі з гэтым краявідам, кардынальна не змяняючы ягонага аблічча.

Такога кшталту развагі і высновы надаюць нарысам Булгака моцнае філасофскае гучанне, значна выходзячы за рамкі дадзенага жанру.

Гэта датычыцца і мовы твора: Ян Булгак здолеў у невялікім памеры выявіць сябе як выдатнага мастака, які і вельмі тонка адчувае слова, і разам

з тым не баіцца эксперымента з ім. Пісьменнік даволі смела выкарыстоўвае парадоксы, робіць акцэнты на кантрастах, праводзіць незвычайныя аналогіі і робіць нечаканыя параўнанні: «Хмары — упыры і апакаліптычныя бестыі; хмары — заснежаныя горныя пікі і застылыя лядовішчы; хмары — флатыліі парусьнікаў і стада кучаравых авечак; хмары — купалы і вежы казачнай архітэктуры альбо крылы арханёлаў, згубленыя і раскіданыя мімаходзь па блакітных разлогах; хмары — бясконцыя спалучэнні несказана пекных формаў, якія вабяць нястомнае вока, неаглядных, вечна розных і пераменлівых…» [2].

У «Вандроўках фатографа» Булгак застаецца верным імпрэсіяністычнай манеры пісьма, якая культывуе каштоўнасць першага ўражання. Пейзаж Булгака не мае аднаго аблічча і характару. Часам ён з'яўляецца рамантычным, з уласцівай яму эмацыянальнай узрушанасцю, пачуццёвасцю і гіпербалізаванасцю светаўспрыняцця, такі пейзаж сімвалізуе «повязь чалавека і вечнасці» [1, с. 19]. Зрэшты, аўтар здолеў звыклы пейзаж перавесці ў ранг рамантычнага г. зн. «экзатычнага, узнёслага, велічнага» [1, с. 20]. Часам на старонках нарысаў паўстае выключны імпрэсіяністычны пейзаж, які з'яўляецца выяўленнем прыроды «ў пластычнай і каларыстычнай дынаміцы, зменлівасці, праз прызму тонкіх суб'ектыўных уражанняў і адчуванняў» [1, с. 23]. Імпрэсіяністычны пейзаж насычаны гукамі і светлаценямі. Часам жа пейзаж з'яўляецца сімвалісцкім і вызначаецца «ўмоўна-сімвалічнай вобразнасцю, паэтыкай алегорый і асацыяцый» [1, с. 23].

У «Вандроўках фатографа ў слове і вобразе» Ян Булгак не засяроджвае ўвагу на размежаванні эстэтычнага ці не эстэтычнага, яго цікавіць цэласны малюнак: «Тут нас сустрэне няўдалая імітацыя неабходнай мэблі і ad libitum — насякомыя і ўсюдыісны пах цыбулі. Выходзім ў мястэчка» [3]. Фрагмент нарысаў, прысвечаны апісанню Мірскага замка, у многім перагукаецца з апісаннем Сыракомлі: падобным з'яўляецца адбор і інтэрпрэтацыя гістарычных фактаў, падаецца яскравы вобраз мястэчка Мір і Мірскага замка, сімвала даўно мінулых спраў. Як і ў паэме «Мая зямля», у нарысах Булгак стварае змрочны, гатычны малюнак: «Там, у векавым забыцці стаяць іржавыя муры з радамі пустых вокнаў і налітымі крывёй вачыма жмурацца байніцы. Цямнеюць панурым мрокам скляпенні ў вежах. Вінтавыя лесвіцы, спускі, пераходы з таямніча закручанага лабірынта вырываюцца з-пад зямлі чорнымі сківіцамі глыбокіх арачных праёмаў» [3].

Пісьменнік увесь час звяртаецца да мінулага, заўважна рамантызуе гісторыю, падае гістарычныя факты праз прызму ўласнага разумення: «Тут, у адноўленым з яшчэ больш вялікім майстэрствам замку гучалі віваты князя Пане Каханку, у гэтых чорных лабірынтах гучала і цякла шумная хваля магнацкага дастатку, раскошы і задавальненняў» [3].

Гісторыя Мірскага замка — гісторыя краіны, трагічная і непрадказальная, звязаная з матывам лёсу, наканаванасці, які ў тэксце нарысаў падкрэсліваецца

біблейскім вобразам піру Бальтазара: «На рубяжы стагоддзяў і на рубяжы лёсу ў крывавым вогнішчы заходу гісторыі, ён сутыкаўся са знакамі і стыгматамі смерці, але, верны абавязку, ён бліскаў свецкім глянцам і багаццем, як госць у Асірыйскім палацы на пірах Бальтазара, не ведаючы, што перст указуючы ўжо піша на сцяне вогненнымі промнямі вечнае *Mane — Tekel — Phares*, і ўжо падлічаны дні за ўсё навокал. І замка, і караля, і айчыны» [3].

Як і «лірнік вясковы» ў нарысах «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», Булгак у сваіх нарысах спалучае падрабязнае апісанне краявіду, мястэчак, шляхецкіх двароў з глыбокай рэфлексіяй, роздумам. Аўтар працягвае традыцыі Сыракомлі: апісанні ягоных падарожжаў па родным краі дакладныя (маем акрэслены план і маршрут вандроўкі), дэталёвыя (звяртаецца ўвага нават на дробязі) і разам з гэтым маляўнічыя.

У нарысах «Вандроўкі ў слове і вобразе» Булгак звяртаецца да вобразаў і матываў, якія ўжо сустракаліся ў ягоных творах: празаічнае і паэтычнае апісанне Мірскага замка, паэтызацыя краявіду. Тым самым пісьменнік акрэслівае пэўнае кола тэм і выяўляе сваё творчае credo — пісаць пра родную зямлю, фіксаваць яе прыгажосць.

## Літаратура


1. Бельскі, А. І. Жывая мова краявідаў : Пейзаж у беларускай паэзіі / А. І. Бельскі. — Мінск, 1997. — 136 с.
2. Булгак, Я. Вандроўкі фатографа : Віленскі краявід / Я. Булгак // Белорусский фотографический веб-альманах [Электронны рэсурс]. — 2009. — Рэжым доступу : http://www.photoscope.by/history/view/77.html. — Дата доступу : 10.01.2012.
3. Булгак, Я. Замак у Міры / Я. Булгак // Zнята : главный белорусский портал [Электронны рэсурс]. — 2004. — Рэжым доступу : http://www.znyata.com/o-foto/bulgak-mir-blr.html. — Дата доступу : 10.01.2012.
4. Гуминский, В. М. Путешествие / В. М. Гуминский // Литературный энциклопедический словарь / под общ. ред. В. М. Кожевникова, П. А. Николаева; редкол.: Л. Г. Андреев, Н. И. Балашов, А. И. Бочаров [и др.]. — М., 1987. — С. 314–315.
5. Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах : Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў / У. Сыракомля. — Мінск, 1992. — 159 с.
6. Taylor-Terlecka, N. Pisarstwo Jana Bułhaka — rekonesans / N. Taylor-Terlecka // Ян Булгак і культура заходнебеларускага рэгіёну ў канцы XIX ст. і да Другой сусветнай вайны : зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. : В. В. Швед (адк. рэд.) [і інш.]. — Гродна, 2009. — С. 20–30.

**Таццяна Кабржыцкая, Эла Дзюкава** *(Мінск, Беларусь)*

# ПАШЫРАЮЧЫ ЭТЫЧНЫЯ МЕЖЫ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ: СТАРАЖЫТНАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ КАНТАКТЫ Ў РАННЕСЯРЭДНЯВЕЧНЫМ ПІСЬМЕНСТВЕ

Храналагічна заяўленае даследаванне абапіраецца на факты, якія датычацца перыяду гісторыі славян X–XI стст.

Вядома, што Кіеўская Русь была магутнай дзяржавай, з якой лічыліся вялікія краіны Еўропы, і нават Візантыя, улічваючы моц дзяржавы, вымушана была нейкі час выплачваць Кіеўскай Русі падаткі. Кіеваруская краіна імкнулася да ўмацавання свайго міжнароднага статуса. Для ўзвелічэння дзяржаў вяліся войны, заключаліся перамір'і, ажыццяўляліся дынастычныя шлюбы паміж прадстаўнікамі кіруючай эліты. Дынамічны, то сяброўскі, то драматычна напружаны характар тагачасных міжнародных кантактаў абумоўлены фарміраваннем этнасаў у народы, этнаплемянных саюзаў — у самастойныя дзяржавы. Пра заваёўніцкія акцыі, якія мелі месца ў гісторыі старажытнарускай і польскай дзяржаў, ужо напісана дастаткова. Падкрэслім, што сённяшняя канкрэтная камунікатыўная, культурная сітуацыя ў адносінах паміж усходнімі славянамі і палякамі абавязвае пры звароце да старажытнага пісьменства выбудоўваць мадэль, у якой няма месца крайнасцям іманентнай інтэрпрэтацыі тэкстаў.

Сёння ў Расіі і Украіне актывізуецца ўвага даследчыкаў, скіраваная на пытанні міжславянскіх сувязей у час Ранняга Сярэднявечча. Мэта нашага даследавання — высветліць узаемадачыненні паміж насельніцтвам польскіх і ўсходнеславянскіх зямель у час іх хрысціянізацыі праз скандынаўскі чыннік. Для пошукавай працы прыцягваюцца тэксты ўсходнеславянскіх летапісаў, скандынаўскіх саг, фальклорных былін, а таксама манаграфічныя даследаванні знакамітых славістаў А. Прыцака «Походження Русі», Л. Нідэрле «Славянские древности».

Па зразумелай прычыне першай і найбольш важкай фактаграфічнай крыніцай пра тагачаснае жыццё ўсходніх славян лічылася «Аповесць мінулых гадоў». Высвятленне міжнародных кантактаў Кіеўскай Русі дапаўнялася звесткамі са славянскіх замежных крыніц.

Засяродзіўшыся на асобе князя Уладзіміра Вялікага (?–1015), высветлім, што і ён сам, і яго нашчадкі, сыны і дочкі, трымалі моцныя кантакты з Польшчай. Старажытныя тэксты раскрываюць цэлую мазаіку фактаў. Так, дочкі князя Уладзіміра ад Полацкай княгіні Рагнеды Прадслава і Дабранега (ці Прадмыслава) апынуліся ў Польшчы. Першую з іх, як некалі Уладзімір Рагнеду, прымусам забраў да сябе Баляслаў, другую лічаць жонкай польскага караля

Казіміра I. Казімір I Аднавіцель (Kazimierz I Odnowiciel, 1016–1058) уклаў ваенна-палітычную ўмову паміж Кіеўскай Руссю і Польшчай. У 1038 г. ён ажаніўся з сястрою Яраслава Мудрага (каля 978 – 1054) Марыяй-Дабранегай (яна ж дачка Рагнеды). Старэйшы сын кіеўскага князя Ізяслаў (1024–1078) узяў за жонку сястру Казіміра Гертруду. Гэтая ж звестка пацвярджаецца наступнай: сярод нявестак кіеўскага князя Яраслава Мудрага значацца дочкі польскага караля Мешка II.

Першым гістарычна засведчаным кіраўніком Польшчы лічыцца Мешка I (922–982), які прыняў хрысціянства ў 966 г. Сын Мешкі I — польскі кароль Баляслаў I Храбры (967–1025). Пры Казіміры былі адноўлены колішнія межы дзяржавы, адсюль і назва караля — Аднавіцель. Сынам Баляслава I Храбрага з'яўляецца Мешка II (990–1034).

Як і кіеварускія князі, так і польскія мелі дынастычныя сувязі са скандынавамі. Генеалогія Мешкі I выводзіцца, паводле легенды, запісанай Ананімам Галам, з дынастыі Пястаў і гэтым атрымлівае славянскі корань. У заходнееўрапейскай традыцыі імя Мешка — Meśko падаецца і як Месіка-Дагр. Яго першай жонкай была дачка знакамітага вікінга шведскага паходжання Скоглар-Тосці, ён зрабіў выдатную кар'еру ў Даніі, заваяваў частку Англіі. Другі раз Мешка, з палітычных меркаванняў, ажаніўся з чэшскай прынцэсай Дабравай (Дубравай). Ад першай жонкі Мешка I меў дачку Сігрыд, якая атрымала да імя прыдомак Ганарлівая.

У далейшым сувязі Польскай краіны з краінамі Скандынавіі яшчэ больш узмацніліся: Сігрыд мела некалькі мужоў, сярод іх былі швед і датчанін: кароль Упсалы Эйрык Пераможац (каля 957 – 995), другі яе муж — кароль Даніі Свейн Вілабароды (984–1014). Прыдомак да імя Месіка — *Дагр* вучоныя тлумачаць як лацінізаваную форму старанардычнага Dag-r. Гэта, урэшце, паказвае, што гістарычную асобу Мешка ўспрымалі як караля — rex Sclavie, які падначаліў сабе велізарныя тэрыторыі. Існуюць меркаванні, што сястра Мешкі Інгігерд была замужам за другім тагачасным заходнеславянскім аўтарытэтным кіраўніком Бурыцлавам — правіцелем краіны Вагрыі, што знаходзілася на польскім узбярэжжы Балтыі. Абодва кланы мелі «шведскія сувязі».

Знакамітымі сувязнымі паміж скандынавамі, славянамі і паўднёвымі краінамі з'яўляліся вялікі дняпроўскі Усходні шлях, а таксама заходні, Бурштынавы шлях. Галоўныя гарады Бурштынавага шляху: Познань на беразе Варты, Торунь на беразе Віслы, Шчэцін на беразе Одры. Яны і развіваліся як цэнтры гандлёвых метраполій, яднаючы краіны Балтыкі з Міжземнамор'ем. З аднаго боку, геаграфічнае размяшчэнне спрыяла іх развіццю. З другога — за іх вялася жорсткая барацьба паміж суседзямі. І гістарычныя рэаліі часу ў шырокім вымярэнні, і канкрэтыка непасрэдных узаемадачыненняў заходніх і ўсходніх славян знайшлі адлюстраванне ў летапісным матэрыяле скандынаваў, які афармляўся пераважна ў форме сагі.

Апошнім часам прасочваецца тэндэнцыя звароту вучоных, і гісторыкаў, і філолагаў, якія цікавяцца Сярэднявеччам, да скандынаўскага старанардычнага эпасу. Скандынаўскія сагі з'яўляюцца дадатковым інфарматыўным полем і пры спробах вызначэння канструктыўна культуралагічнай парадыгмы ўкраінска-беларуска-польскіх міжнацыянальных сувязей.

Скандынаўскія сагі ўжо дапамаглі В. Чаропку здзейсніць спробу рэабілітацыі князя Святаполка, які ўслед за звесткамі з «Аповесці мінулых гадоў» увайшоў у гісторыю як «Святаполк Акаянны». «Сага пра Эймунда» дала В. Чаропку факты, кіруючыся якімі беларускі даследчык прачытвае па-новаму ўзаемаадносіны Кіева, Турава, Польшчы [10]. В. Чаропка лічыць, што адмоўная характарыстыка Святаполка была напісана аўтарам «Аповесці…» па загадзе яго патронаў, кіеўскіх князёў, якія імкнуліся абяліць сябе, выратаваць сваю рэпутацыю, ускласці адказнасць за братазабойства на Святаполка. І ў «Аповесці…», і ў сазе гаворка вядзецца пра ўзаемадачыненні Святаполка з польскім каралём Баляславам І Храбрым. Да рэабілітацыі Святаполка схіляюцца і ўкраінскія вучоныя [11, с. 725–726].

Паказальным з'яўляецца лёс знакамітага Воліна, які вызначаўся велізарным багаццем. У выніку ваенных дзеянняў ён быў спалены, а ў 1177 г. адышоў да немцаў. Археалагічныя даследаванні нямецкіх вучоных толькі ў 1934 г. канкрэтызавалі месцазнаходжанне горада Волін: рэшткі вялікага порта былі адшуканы на востраве, што знаходзіўся ў вусці ракі Дзіўна. Росшукі працягвалі польскія вучоныя. Праца «Wolin — największe miasto Słowiańszczyzny Zachodniej» (1958) У. Філіп'яка дазволіла атрымаць канчатковае ўяўленне пра Волін як значны горад-порт, гандлёвы цэнтр, які імкліва развіваўся з VIII ст. і да 60-х гг. XII ст., калі быў зруйнаваны Даніяй. У заходнееўрапейскіх дакументах горад Волін значыцца яшчэ як Julin, Jumneta, Ём, Ёмсборг, Лівільні. Як *Волін* і *Юмна* ён фігуруе ва ўсходнеславянскіх тэкстах. Характэрна, што Волін славіўся велізарнай колькасцю скульптурных разнастайных бажкоў-дэманаў, якія былі вычасаны з дрэва, мелі ўжо металічныя аплікацыі. Пра актыўны гандаль у гэтых месцах сведчыць і скарб візантыйскіх манет IX ст., знойдзены ў суседняй памеранскай Вагрыі [6].

А. Прыцак на падставе глыбокага аналізу тэкстаў старанардычных саг, запісаў скандынаўскіх бардаў-скальдаў, замежных гістарычных дакументаў, усходнеславянскіх летапісных матэрыялаў ставарае «Экскурс пра храналогію Олава Тругвасана і Уладзіміра Вялікага: параўнальная храналогія сагі як гістарычнай крыніцы» [8, с. 887–910]. Олава Тругвасана ісландцы лічаць сваім хрысціянскім апосталам. Звесткі А. Прыцака маюць асабліва важкае значэнне для агульнай карціны польска-ўсходнеславянскіх дачыненняў сярэдзіны X ст.

Першы момант, на якім варта спыніць увагу: Олаў Тругвасан, асірацеўшы, яшчэ дзіцем трапляе з Скандынавіі да князя Уладзіміра, калі той правіў у Ноўгарадзе Вялікім. Олаў на Русі знаходзіўся паміж 968 і 977 гг. Сагі падаюць

Олава як брата Уладзіміравай жонкі Алогіі. Амяльян Прыцак разрознівае легендарнае і гістарычнае ў сагах. У прыватнасці, вучоны лічыць, што пад Алогіяй (сімвалічнае імя) трэба разумець «гордую Рагнеду» (Рагнгільд). Уладзімір жа ў сагах характарызуецца як названы бацька Олава, будучага караля Нарвегіі, які, гіпатэтычна, звязаў Уладзіміра з польскімі землямі.

З Русі Олаў рушыў на Балтыю, выявіў сябе як герой, ажаніўся з дачкою Бурыцлава Старградскага, колішняга караля Вендланду. Краіна Вендланд ужо ў 968 г. мела сваё Вендскае епіскапства. Вендланд — тэрыторыя з некалькіх краёў, што знаходзіліся на польскім узбярэжжы Балтыкі, якімі кіравалі заходнеславянскія князі. Вядома каля пяці такіх краёў. Сярод іх значыліся Вагрыя, Любек, Волін. У канцы X ст. адбываўся актыўны працэс хрысціянізацыі польскіх і венгерскіх зямель пад кіраўніцтвам Отана III. Лічыцца, што памочнікам яго быў Олаў Тругвасан.

Аўтар «Аповесці мінулых гадоў», складаючы біяграфію князя Уладзіміра, адзначае, што некалькі гадоў князь вымушаны быў «знаходзіцца за морам», паколькі старэйшы брат Уладзіміра Яраполк захапіў уладу ва ўсёй Русі [7, с. 62–316]. Як вылічыў А. Прыцак, тры гады «эміграцыі» Уладзіміра супалі з часам панавання Олава Тругвасана ў краіне Вендланд: 977–980 гг. Адсюль узнікае меркаванне, што Уладзіміравы тры гады знаходжання «за морам» — гэта час, праведзены князем у Олавым Вендландзе.

Для пацвярджэння верагоднасці выказанай гіпотэзы звернем увагу на наступныя акалічнасці. Яшчэ заходнееўрапейскі аўтар Адам Брэменскі, канонік з Брэмена, аўтар знакамітай «Гісторыі архіепіскапаў Гамбургскіх», змясціў дакладную інфармацыю пра балтыйскія землі, Mare Balticum 1070–1080 гг. Урывак з нямецкамоўнага выдання «Гісторыі…» («Gesta», Berlin, 1961) друкуе ў сваёй працы А. Прыцак [8, с. 882–883]. «Гісторыя…» Адама Брэменскага стваралася тады, калі зносіны паміж варагамі і грэкамі былі ў стадыі найбольшай інтэнсіўнасці. У яго кнізе як «сапраўды найбольшы з усіх еўрапейскіх гарадоў» пазначаны горад Волін. У канцы кнігі Адам Брэменскі дае канкрэтныя звесткі пра адрэзак «шляху з варагаў у грэкі», якія дапаўняюць сведчанні «Аповесці мінулых гадоў». Пазначаная частка знакамітага шляху злучала Ноўгарад і Волін, усходнеславянскія землі і Балтыйскае ўзбярэжжа. Як лічыць А. Прыцак, «як Ноўгарад, так і Кіеў атрымалі значнасць, таму што знаходзіліся ўздоўж шляху з Воліна да Канстанцінопаля» [8, с. 905].

Факт гэты сенсацыйны і для нашага чытача, бо ў свядомасці сучаснікаў замацавалася ўяўленне пра *прамы* кірунак «шляху з варагаў у грэкі». Рух варагаў нібыта адбываўся ў напрамку са скандынаўскай поўначы непасрэдна праз Дняпро і яго водны басейн, далей праз Чорнае мора на візантыйскі поўдзень. Як запісана ў Адама Брэменскага, існавалі трывалыя сувязі паміж Ноўгарадам і Волінам. Каб пераадолець адлегласць паміж імі, патрэбна было толькі чатырнаццаць дзён, бо актыўна выкарыстоўваліся караблі. У сувязі з

гэтым А. Прыцак выказвае здзіўленне: «незразумела, чаму дагэтуль ніхто з вучоных, асабліва тых, хто спецыялізуецца на варажскім пытанні, не ўключыў паведамленні гэтай першакласнай крыніцы адносна праблем прыбалтыйскіх зямель да сваіх даследаванняў пра “шлях з варагаў у грэкі”» [8, с. 881].

Вернемся да гістарычнай хронікі, звязанай з біяграфіямі Уладзіміра і Олава. Зусім верагодна тое, што Уладзімір знаходзіўся ў Вендландзе. Ва ўсходнеславянскіх летапісах адпаведныя тры гады жыцця Уладзіміра — з 977 па 980 гг. — «апускаюцца», замоўчваюцца. Да «рэстаўрацыі» біяграфіі князя выдатна дапасоўваюцца народныя фальклорныя тэксты эпічнага складу, якія атрымалі назву быліны.

Як вядома, быліны як жанр сцвярджаліся з канца X да сярэдзіны XIII ст. Сюжэты іх ствараліся ў выніку фальклорнай рэакцыі на гістарычныя падзеі, у цэнтры якіх знаходзіліся Кіеў, Ноўгарад Вялікі, Полацк. Цікавасць для нас уяўляюць былінныя тэксты з героямі *Дунай* і *Дабрыня*. «Паступова страціўшы рытуальнае прызначэнне, фальклор звяртаўся да гістарычнай і духоўна-рэлігійнай тэматыкі, што выклікала ўзнікненне гераічных песень — былін і сказаў», — заўважаюць С. Гаранін, В. Чамярыцкі, аўтары раздзела «Ранняе Сярэднявечча» з выдання «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» [3, с. 62–63].

Фалькларысты вылучаюць у былінах два асноўныя сюжэтныя пласты. У адным з іх адлюстраваны міфалагічныя элементы. Другі захаваў звесткі пра людзей, якія рэальна існавалі. Да апошніх належаць і князь Уладзімір, і Дабрыня, і Ілля Мурамец, і Дзюк Сцяпанавіч. Гістарычныя былінныя героі не пазбаўлены індывідуальнасці, у той жа час іх вобразы пазначаны пэўнымі тыпізаванымі рысамі, характарыстыка іх у значнай ступені прадвызначана месцам, тэрыторыяй стварэння фальклорных тэкстаў. Так, расійскія даследчыкі лічаць, што князь Уладзімір падаецца ў былінах пераважна як «благодушный и лично совершенно бессильный правитель» [4, с. 107]. Дабрыня ж, пры разглядзе яго біяграфічных прыкмет, выступаючы як абагульнены вобраз, успрымаецца як «олицетворение вежливости и изящного благородства» [4, с. 107]. Ва ўкраінскай літаратурнай традыцыі Мурамец разглядаецца менавіта як чарнігаўскі герой Муравец: яго магіла яшчэ ў XVII ст. захоўвалася ў Кіева-Пячэрскай лаўры [5, с. 82].

Выгнаны з Ноўгарада братам Яраполкам, Уладзімір імкнецца завалодаць вялікакняжацкім пасадам у Кіеве. Разам са сваім памагатым Дабрынем, каб трымаць пад кантролем гандлёвы шлях з Ноўгарада да Балтыі, Уладзімір спачатку ў 976 г. захапіў Полацк, які з’яўляўся важным цэнтрам балтыйскага гандлю. Пры дапамозе Дабрыні была знішчана дынастыя Рагвалода, які правіў у Полацку. У выніку Полацк як цэнтр усходняга славянства заняпаў, узвялічыліся Ноўгарад, Кіеў. Адпаведна з гэтымі гістарычнымі акалічнасцямі ажыццяўлялася развіццё наўгародскага і кіеўскага былінных цыклаў. З беларускімі падзеямі звязаны быліны пра Дуная. У быліне «Пра Дуная

Іванавіча» эпічнае адлюстраванне атрымала гісторыя сватаўства Уладзіміра да полацкай княжны Рагнеды. Як бачна з быліны «Бой Дуная з Дабрынем», Дунай, які сваім паходжаннем звязаны з беларускімі землямі, доўгі час знаходзіўся на службе ў ляхавіцкага караля [гл.: 9, с. 200]. Сустрэўшыся з Дабрынем у баі, Дунай пазней пасябраваў з ім, забраў яго з сабою ў Кіеў. Сталася так, што ў Кіеве Дабрыню пасадзілі ў поруб-яму, адкуль яму ўдаецца вызваліцца. Рускія быліны фіксуюць у далейшым яго геройскія ўчынкі: «Тут Добрыне и славу поют».

У «Аповесці мінулых гадоў» пад 970 г. запісана, што наўгародцы прасілі сабе князя ў Кіева. І Святаслаў, сын княгіні Вольгі, накіраваў у Ноўгарад Уладзіміра: «І пайшоў Уладзімір у Ноўгарад з дзядзькам Дабрынем». З летапісу вядома, што Уладзіміра нарадзіла Малуша — любіміца княгіні Вольгі, бабкі Уладзіміра. Малуша, ад якой Святаслаў меў пазашлюбнага сына Уладзіміра, была, як піша аўтар «Аповесці мінулых гадоў», сястрою Дабрыні. Бацькам іхнім быў Малк Любячанін. А. Прыцак, услед за А. Шахматавым, указваючы на сувязі Дабрыні з заходнімі славянамі, прыходзіць да думкі, што Малк Любячанін сваім паходжаннем звязаны з заходнім балтыйскім горадам Любек (Ljubek, пазней, у нямецкай мове, — Lübek) [8, с. 907]. Любек, як ужо адзначалася, уваходзіў у склад Вендланда, якім валодаў названы сын Уладзіміра Олаў Тругвасан. Нагадаем, што да Вендланда належаў і Волін. Сёння Волін, востраў у вусці Одры, знаходзіцца ў складзе Польшчы. Значная частка тэрыторыі — заказнік Волінскага нацыянальнага парку з унікальнай фаўнай. З Шчэцінскага заліва паромы накіроўваюцца ў Швецыю і Данію.

Геапалітычная, эканамічная характарыстыка польскіх прыбалтыйскіх зямель дазваляе меркаваць, што Дабрыня, як і пазней каманда князя Уладзіміра, сапраўды маглі прыйсці з Вендланда ва ўсходнеславянскі Ноўгарад. І калі, як сцвярджаецца, род Дабрыні паходзіць з Любека, то дарога гэта для княскага акружэння была добра вядомая, ёю актыўна карысталіся і гандлёвыя экспедыцыі.

Сувязі ўсходніх і заходніх славян цікава адлюстраваны ў цыкле паўночнаславянскіх былін пра Дзюка Сцяпанавіча. У выданні «Славянский фольклор» (1965) узнімаецца пытанне пра геаграфічныя рэаліі гэтых былін. У даследаванні У. Вілінбахава і М. Энгаватага «Где была Индия русских былин?» метафарычная Індыя раскрываецца як канкрэтная Vendland = Вендландыя. Назвы Волын // Волынце, якія фігуруюць у былінных тэкстах, як лічаць даследчыкі, суадносяцца з гістарычнымі старажытнапольскімі мясцінамі, адпавядаюць тым высокім характарыстыкам, якія былі дапасаваны да рэальна існаваўшых старажытных гандлёвых і культурных цэнтраў — Воліна, Любека, Старграда, Вендланда. Героі былін ідуць

Из Волын-земли из богатыя,
Из той Карелии из упрямыя,
Из тоя Индии богатыя… [2, с. 98–108].

Такім чынам, усходнеславянскія фальклорныя тэксты пацвярджаюць меркаванні А. Прыцака пра існаванне інтэнсіўнага ўзаемадзеяння паміж усходнімі і заходнімі славянамі па лініі Ноўгарад — Вендланд. Актывізуючым чыннікам у гэтым працэсе з'яўляліся скандынавы. Не выключана, што гіпатэтычнае знаходжанне князя Уладзіміра ў 977–980 гг. у прыбалтыйскіх землях мела пэўнае ўздзеянне на яго рэлігійную свядомасць. На паўночным усходзе паўвострава Руген, што таксама належаў да Вендланда, знаходзіўся порт, а таксама і горад Аркона са знакамітым храмам язычніцкага бога Светавіта, яго скульптурнай выявай. Слава пра Светавіта была вельмі гучнай у Сярэднявеччы. Зрэшты, выявы бога не страцілі сваёй вядомасці і сёння, што засведчана і сучаснымі беларускімі фалькларыстамі [1, с. 430–431]. Кіеўскі летапіс паведамляе, што ў 980 г. (як бачым, дата адпавядае часу звароту Уладзіміра «з-за мора») князь Уладзімір загадаў паставіць каля свайго княжага палаца пантэон язычніцкіх багоў. Магчыма, гэтая акцыя адбылася пад уплывам убачанага Уладзімірам у Вендландзе. Не выключана і адваротнае: сустрэча ў паўночнапольскіх прыбалтыйскіх землях з хрысціянізаваным светам, кантакты з Олавам Тругвасанам спрыялі павароту Уладзіміра да рэлігіі хрысціян, урэшце прыскорылі прыняцце князем рашэння пра пераход Русі ад язычніцтва да хрысціянства.

## Літаратура


1. Валодзіна, Т. Светавіт / Т. Валодзіна, С. Санько, Г. Цыхун // Міфалогія беларусаў : Энцыклапедычны слоўнік / навук. рэд. Т. Валодзіна, С. Санько. — Мінск, 2011.
2. Вилинбахов, В. Б. Где была Индия русских былин? / В. Б. Вилинбахов, Н. Б. Энговатов // Славянский фольклор. — М., 1965.
3. Гаранін, С. Ранняе Сярэднявечча / С. Гаранін, В. Чамярыцкі // Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў : у 2 т. — Т. 1. — Мінск, 2007.
4. Зуева, Т. В. Былины // Литературная энциклопедия терминов и понятий / Т. В. Зуева. — М., 2001.
5. Літературознавчий словник-довідник / під ред. Р. Гром'яка [і інш.]. — Київ, 1997.
6. Нидерле, Л. Славянские древности / Л. Нидерле. — М., 2010.
7. Повесть временных лет. Библиотека литературы Древней Руси : в 20-и т. / под ред. Д. С. Лихачева [и др.]. — Т. 1 : XI–XII века. — СПб., 1997.
8. Прицак, О. Походження Русі : Стародавні скандинавські саги і Стара Скандинавія / О. Прицак. — Київ, 2003.
9. Салавей, Л. Быліна / Л. Салавей // Беларускі фальклор : Энцыклапедыя : у 2-х т. / рэдкал. : Г.П. Пашкоў [і інш.]. — Т. 1. — Мінск, 2005.
10. Чаропка, В. Імя ў летапісе / В. Чаропка. — Мінск, 1994.
11. Шуст, Р. Святополк Володимирович / Р. Шуст // Довідник з історії України. — Київ, 2002.

**Сяргей Кавалёў** *(Люблін, Польшча)*

# АСВАЕННЕ ЕЎРАПЕЙСКАЙ ПРАСТОРЫ Ў РАМАНЕ АРТУРА КЛІНАВА «ШАЛОМ» (2011)

Яшчэ зусім нядаўна беларуская проза трывала асацыіравалася з вясковай тэмай, менавіта ў вёсцы адбывалася дзеянне большасці твораў Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана Шамякіна (выключэннем былі толькі асобныя апавяданні Міхася Стральцова). Напрыканцы XX ст. маладыя аўтары Адам Глобус, Уладзімір Сцяпан, Максім Клімковіч і інш. пачынаюць эстэтычнае асваенне гарадской прасторы. Характэрна, што перанясенне дзеяння мастацкіх твораў з вёскі ў горад спалучалася з пераходам ад рэалізму да постмадэрнізму.

Цікавай тэндэнцыяй у беларускай прозе пачатку XXI ст. з'яўляецца асваенне еўрапейскай геаграфічнай прасторы: дзеянне асобных празаічных твораў пераносіцца з блокаў Мінска ў кавярні Варшавы і клубы Берліна. Выразным праяўленнем гэтай тэндэнцыі з'яўляецца новы раман «Шалом» (2011) Артура Клінава [6].

Вядомы мастак-авангардыст, рэдактар незалежнага часопіса «pARTizan» Артур Клінаў дэбютаваў у літаратуры аповесцю-эсэ пра Мінск «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца» (2008), якая выклікала цікавасць у айчыннага чытача (невялікі наклад кнігі быў раскуплены вельмі хутка) і сталася даступнай для чытача замежнага (аповесць перакладзена на нямецкую і польскую мовы, у Польшчы выйшла ў прэстыжным выдавецтве «Czarne»). Хаця «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца» пазіцыяніравалася аўтарам як «аўтабіяграфічны раман», але насамрэч уяўляла сабой сінтэз дзяцячых успамінаў і культуралагічнага эсэ, таму не ўспрымалася як сур'ёзная заяўка мастака Клінава на пачатак літаратурнай кар'еры, хутчэй — як творчы эксперымент, вербальная паралель да ягонага фотаальбома «Горад СОНца» (2006). Зусім іншая справа — фабулярны раман «Шалом», фрагменты якога друкаваліся ў найлепшым беларускім часопісе «Дзеяслоў», і які трапіў на шорт-ліст прэміі імя Ежы Гедройца Польскага Інстытута ў Мінску.

Цяжка знайсці ў сучаснай беларускай літаратуры твор, які б так выразна і мэтанакіравана як «Шалом» узнімаў праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, пошукаў Беларусі свайго месца ў Еўропе, успрымання беларусаў іншымі еўрапейскімі народамі. Цяжка знайсці ў беларускай літаратуры тэкст настолькі прыдатны і «адкрыты» для даследавання тэхнікі апісання прасторы, літаратурнай тапаграфіі еўрапейскіх гарадоў, мастацкага адлюстравання апазіцыі «Усход — Захад» і іншых праяваў сучаснай геапалітыкі. Пры чым, яшчэ раз падкрэслім, перад намі не культуралагічны

трактат і не зборнік падарожных эсэ, а авантурны раман з каларытнымі героямі і дасціпным гумарам.

Адразу трэба прызнаць, што ідэя ўздзець на галаву героя кайзераўскую каску часоў Першай сусветнай вайны і адправіць у сучасную Беларусь — надзвычай прадуктыўная для стварэння шматлікіх сюжэтных калізій і выпрабавання самых розных ідэалагем і стэрэатыпаў. Дзіўны ўчынак героя выклікае шмат пытанняў, у залежнасці ад сітуацыі па-рознаму тлумачыцца аўтарам і стварае шырокае поле для чытацкіх інтэрпрэтацый. Слова «шалом» у беларускай мове азначае старадаўні воінскі шлем, але ў той жа час можа разумецца і як габрэйскае «Мір табе!». Таму шалом на галаве Андрэ — гэта абвяшчэнне вайны, але і знак міру, гэта выклік «звышчалавека» нікчэмнаму свету, але і прызнанне поўнай капітуляцыі перад светам, гэта выдатны, самы значны арт-праект героя, але і канчатковае адмаўленне ад мастацкіх праектаў, гэта прадуманая ідэалагічная дыверсія і ў той жа час звычайнае вар'яцтва, урэшце рэшт шалом — гэта поўны абсурд, туга ў квадраце, бессэнсоўнасць у кубе.

Нават калі прыняць «ваенную версію» ўчынка героя (невыпадкова жанр твора вызначаны аўтарам як «ваенны раман»), узнікае пытанне: што гэта за таямнічая вайна, куды рушыць у паход і з кім будзе змагацца беларускі мастак, уздзеўшы сабе на галаву прускую каску? Найпрасцейшы адказ: Андрэ адпраўляецца на заваяванне свету, у паход за славай, ён, як і кожны мастак, вымушаны змагацца за прызнанне, «легітымізацыю сваёй творчасці» (П. Бурдзьё). Альбо наадварот: Андрэ не збіраецца нікога заваёўваць, ён адзявае каску і забіраецца ў акопы, каб абараняць сваю мастакоўскую свабоду ад наступлення нікчэмнага, прадажнага свету. Ёсць алкагольны варыянт: Андрэ са сваімі сябрамі штовечар змагаюцца з шыхтамі чырвонага віна, залацістага піва, віскі, гарэлкі, настоек няпэўнага паходжання ды іншых выбуховых трункаў аж пакуль не палягуць на полі бою (у такой сітуацыі мецц на галаве шалом вельмі зручна). Але найбольш цікавую інтэрпрэтацыю набывае шалом і вайна ў рамане Клінава ў катэгорыях геапалітыкі (у постмадэрністычным яе выданні): Андрэ збіраецца ўзяць удзел у вялікай бітве дзвюх цывілізацый, у рашаючым сутыкненні Усходу і Захаду.

У залежнасці ад таго, кім з'яўляецца ягоны субяседнік, Андрэ па-рознаму вызначае сваю ролю і месца на полі бою. Нямецкаму кіроўцу, які падвёз яго на сваёй шыкоўнай машыне, ён прызнаўся, «…што ў яго ўсяліўся дух прускага воіна, і цяпер ён мусіць выправіцца на ўсход, каб вярнуць на гістарычную радзіму свой бедны, заблукалы ў багнах і стагодзьдзях народ. Што ён даў абяцаньне ніколі да часу, калі ён убачыць сваё балотнае племя радасным і вольным на берагах бацькі Рэйна, не здымаць шалома з галавы. Праўда, місія гэта вельмі складаная. Існуе яго антыпод у касцы ваяра-вызваліцеля, які жадае заманіць ягоны люд на берагі матухны Волгі. І, уласна, на двубой

волатаў, ад якога залежыць будучыня ягонага народу, ён і кіруецца» (с. 44–45)[1]. Свайму магілёўскаму начальніку, які абвінаваціў яго ў ідэалагічнай дыверсіі, ён напісаў у тлумачальнай запісцы, што ў сітуацыі, калі Беларусь акружана варожымі дзяржавамі, кожны грамадзянін павінен насіць на галаве шалом: «Гэты прадмет служыў бы сымбалем няскоранага духу нашага народу, які, насуперак усім зласьліўцам, цьвёрда і ўпэўнена ідзе да сваёй, яму аднаму вядомай мэты. Гэты шалом, або ў прастамоўі “каска”, сваім задраным угару шпілем кідаў бы выклік супольнасці непрыязных дзяржаў» (с. 256).

Сімвалічным увасабленнем адвечнага змагання Захаду і Усходу за душы Андрэ і ягоных няшчасных землякоў выступаюць два ільвы, змешчаныя на франтоне шалома, якім герой даў характэрныя імёны «Валенрод» і «Святаполк»: «На шыкоўным франтоне шалома важна гарцавалі два залатыя львы. Яны ці то трымалі ў лапах, ці то спрабавалі вырваць адзін у аднаго залаты рыцарскі шчыт. Львы відавочна займаліся геапалітыкай, тузаючы распластаную на шчыце рыбу» (с. 30). У многіх сітуацыях Валенрод і Святаполк паводзяць сябе як жывыя, рэагуюць на небяспеку, як напрыклад, пры набліжэнні да беларускай дзяржаўнай мяжы: «Яны быццам сьціснуліся ад напругі, мацней ухапіліся за шчыт і ў трывожным чаканьні глядзелі адзін на аднаго, у прадчуваньні дзіўнай, таямнічай азёрнай краіны зь бясконцымі лясамі, багнамі, незьлічонымі вурдалакамі, чырвонаносымі ёрыкамі й блакітнай водарасьцю, што выпраменьвае дурманлівы пах» (с. 151).

Апазіцыя Захад — Усход выразна праяўляецца на працягу ўсяго рамана Артура Клінава і падаецца не толькі ў жартаўлівым ключы. Яскравым прыкладам адлюстравання постмадэрністычнай геапалітыкі з’яўляюцца апісанні гарадоў і краін, у якіх даводзіцца пабываць Андрэ. У свядомасці галоўнага героя адбываецца псіхалагічнае і эстэтычнае асваенне сярэднееўрапейскай прасторы, трансфармацыя геапалітычных рэалій у культуралагічныя фантомы.

З гэтай перспектывы «Шалом» адкрываецца ў першую чаргу як «раман-падарожжа», а не як «ваенны раман»; сюжэт твора тыпалагічна ўзыходзіць да «Адысеі», а не да «Іліяды» (паводле борхесаўскай класіфікацыі сюжэтаў).

І, сапраўды, раман распавядае пра *вяртанне героя*: з Бона ў Магілёў праз Гановер, Берлін, Варшаву, Брэст і Мінск. Дзеянне твора адбываецца ў сямі пералічаных гарадах, якія маглі б даць назву сямі раздзелам твора, калі б аўтар з’яўляўся пісьменнікам-рэалістам і не вылучаўся буйнай фантазіяй. Але раман відавочна народжаны пад зоркай постмадэрнізму, мастацкая фантазія аўтара не ведае межаў — і таму не гарады, а спажытыя ў іх героем спіртныя напоі далі назвы раздзелам, уваскрашаючы дух незабыўнага Венечкі Ерафеева: «Чылійскае чырвонае», «Егермайстар», «Фінляндыя», «Крупнік», «Скарб

[1] Тут і далей раман цытуецца па выданні: Клінаў, А. Шалом. Ваенны раман / А. Клінаў. — Мінск, 2011. У круглых дужках пазначаюцца старонкі.

Радзівілаў», «Белая Русь», «Крыжачок». Толькі назва апошняга, восьмага раздзела выбіваецца з «алкагольнага» стылю: «Ідал вярнуўся», але гэты раздзел выконвае ў рамане функцыю эпілога, і да таго ж герой апынаецца ў выцвярэзніку, дзе здабыць чарговы алкагольны напой вельмі цяжка.

У рамане Клінава паўстаюць маляўнічыя партрэты-апісанні сямі згаданых гарадоў. Рухаючыся з Захаду на Усход, услед за героем чытач спазнае асаблівасці тапаграфіі, архітэктуры, атмасферы кожнага горада, даведваецца пра яго месца ў біяграфіі і сістэме каштоўнасцей героя. Вобразы еўрапейскіх гарадоў паказаны ў рамане «Шалом» праз прызму свядомасці чалавека адукаванага, творчага, надзвычай назіральнага, але што найбольш істотна — таго, які быў народжаны ў савецкую эпоху за «жалезнай заслонай», а цяпер вымушаны жыць на руінах сацыялізму.

Як з геаграфічнага, так і з кампазіцыйнага пункту гледжання лагічна было б пачаць экскурс па галерэі еўрапейскіх гарадоў, створаную Артурам Клінавым, з Бона, у якім распачынаецца дзеянне рамана. Але такі пачатак быў бы недаравальнай памылкай, бо з першых старонак рамана перад вачыма чытача ўзнікае вобраз іншага, улюбёнага горада героя — Парыжа. Парыж і Францыя выступаюць у рамане як недасяжная мара, як увасабленне ідэальнай, найбольш гарманічнай з мастацкага пункту гледжання прасторы для жыцця творчага чалавека: «Францыя… Цудоўная, прыгожая краіна, што вабіла яго з самога юнацтва. Парыскія кавярні, Эйфелева вежа, “Мулен Руж”, пляц Пігаль, Ван Гог, Дэга, Тулюз-Лятрэк…» (с. 8).

Невыпадкова імя героя ўжываецца ў рамане найчасцей у французскім варыянце: Андрэ. Так назвала яго мастачка Франка, якую ён сустрэў у Боне і ў якую адразу закахаўся: Андрэ любіў маркотныя вочы Франкі, бачыў у ёй музу і, магчыма, мадэль для будучай скульптуры. Адно яе імя ўвасабляла ў сабе нешта ўзнёслае. Франка… Францыя…» (с. 9). «Андрэем», «Андрэйкам» называюць героя сябры і жонка, а калі ён сам называе сябе так у думках — значыць, учыніў нешта непрыемнае і брыдкае, за што сорамна перад «Андрэ», перад Франкай, перад Францыяй. Узнікае выразная апазіцыя паміж «Андрэ» і «Андрэйкам», у якой французскі варыянт увасабляе найлепшыя якасці героя (шляхетнасць, незалежнасць, смеласць), а памяншальны беларускі — найгоршыя (правінцыйнасць, «жлобства», хамства). Стаўленне «Андрэйкі» да Франкі не такое ўзнёсла-паэтычнае як у «Андрэ»: «Ён хацеў зацягнуць Франку ў ложак: месячнае ўстрыманне ўжо адбівалася на парадку ягоных думак…» (с. 8).

Захапленне Парыжам як сімвалам культуры і цывілізаванасці, жаночай і мастацкай прыгажосці можа падацца ў XXI ст. праявай стэрэатыпнага мыслення і традыцыйнага, нават банальнага густу. Яшчэ Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч высмеяў у «Ідыліі» (1844) франкаманію, уласцівую ў XIX ст. палякам і беларусам. У нейкім сэнсе герой Артура Клінава нагадвае героя

«Ідыліі» Караля Лятальскага, які патэтычна ўсклікваў: «О чаму край наш дагэтуль яшчэ не можа набраць тае цывілізацыі, якою вызначаецца Францыя? Тут усё так панура! Так глуха! <…> Няма нідзе як у Францыі! Там кожная, хоць бы найпрасцейшая сялянка далёка асвячнейшая за тутэйшую паненку. О, Францыя, Францыя!» [5, с. 109–110].

Напрыканцы XX ст. у беларускай літаратуры узнік шэраг тэкстаў, у якіх свядома разбураецца міф Парыжа як мастацкага цэнтра Сусвету і ўзора для наследавання, сцвярджаецца анталагічная роўнасць паміж вершамі Рыльке і песнямі палескай бабулькі, сусветнавядомымі нацюрмортамі Мацiса і «цікеткамі» (малюнкамі кветак на драўляных дошчачках) нязнаных давыд-гарадоцкіх мастакоў. Паэт Леанід Дранько-Майсюк у эсэ «Стомленасць Парыжам», вандруючы па парыжскіх вулках і скверах услед за Гіёмам Апалінэрам, па-майстэрску ўплятае беларускія ўспаміны і асацыяцыі ў габелен французскіх ураЖанняў і прыходзіць да жыццесцвярджальнай высновы, што «калі мы сапраўды адстаём ад сваіх суседзяў на сто, дзвесце ці нават на больш гадоў, калі мы часта прыстаём, стамляемся, басанож адольваючы дадзены гістарычны шлях, то адставанне нашае (я ўпэўнены!) вельмі блізкае да той відавочнай розніцы, якая некалі існавала паміж пакутнай хадою босых галілейскіх рыбакоў і зладжаным крокам абутых рымскіх легіянераў» [4, с. 115–116]. Філосаф Валянцін Акудовіч у эсэ «Разбурыць Парыж», узяўшы ў якасці эпіграфа выказванне Дранько-Майсюка, а ў якасці інтэлектуальнага ўзбраення — працы Дэрыды, Льётара, Барта, Дэлёза, упэўнена абвясціў «усім зануранным у паныласць беларусам, што ў нас няма альтэрнатывы: альбо мы разбурым Парыж, альбо Парыж сваім цяжкім ценем разбурыць нас — дашчэнту» [1, с. 132]. Парыж разумеўся як Сталіца вялікага еўрапейскага наратыву, як глабальны Сімулякр, што засланіў нашыя вочы ад белага свету, як сімвал лагацэнтрычнага мыслення, у катэгорыях якога Беларусь нязменна выглядала як незавершаны праект, краіна-аўтсайдар, інтэлектуальная і культурная правінцыя. На думку Акудовіча, збаўцам беларусаў з-пад інтэлектуальнага прыгнёту Вялікага еўрапейскага наратыву станецца Постмадэрн, прыход якога ў «родныя балоты» беларускі філосаф горача вітаў [1, с. 120–140].

Культавая постаць беларускага альтэрнатыўнага мастацтва[1] пісьменнік-постмадэрніст Артур Клінаў ласкава дазволіў свайму герою, прыхільніку авангарднага метаду «некрарамантызму-турбаабстракцыянізму» захаваць у свядомасці досыць старамодны, «неразбураны» вобраз Парыжа, насіць яго ў сэрцы як узнёслую мару, немагчымую для здзяйснення, як і каханне да Франкі (здзейсніцца мог толькі палавы акт Андрэйкі). З'едлівым водгукам на распрацоўку тэмы Парыжа ў айчыннай літаратуры гучыць у рамане рэпліка Андрэ пра паэта і мастака Буяна, які нібыта стварае батальнае палатно пра

[1] Падобнае азначэнне ў дачыненні да Артура Клінава нярэдка ўжываецца ў прэсе.

тое, як «мандавошкі выпраўляюцца захапіць Парыж» (с. 92). Ідэя палатна нагадвае жартаўлівую фантасмагорыю з эсэ Акудовіча пра калону трактароў «Беларусь», якая рухаецца «да Парыжа, каб засадзіць Елісейскія Палі беларускай бульбай» [1, с. 133].

У адрозненні ад далёкага Парыжа, горада мар і летуценняў героя, нямецкі горад Бон прысутнічае ў «Шаломе» рэальна: тут Андрэ пражыў цэлы месяц на творчай стыпендыі, тут адбываецца дзеянне першага раздзела рамана. Але гэты *рэальны* горад уяўляецца герою *не зусім сапраўдным* у параўнанні з той рэчаіснасцю, якую Андрэ пакінуў на радзіме: «Ён нагадваў яму вялікі ціхі санаторый, куды часам прыемна патрапіць, каб паправіць змучаную «Крыжачкамі» і нягодамі жыцьця па той бок плоту нэрвовую сыстэму. Зрэшты, усе нямецкія гарады, акрамя Бэрліну, былі для яго падобныя да санаторыяў. Калі час ад часу Андрэ прыяжджаў у Нямеччыну, яму нават здавалася, што ён жаўнер, якога адпусьцілі з фронту на пабыўку ў глыбокі тыл — каб адпачыць і набрацца сілаў. Але праз некалькі дзён апошні вечаровы цягнік ізноў павязе яго на ўсход, у смуродныя брудныя акопы, туды, дзе вошы й блохі, туды, дзе страляюць, — на перадавую» (с. 20).

Ізноў узнікае апазіцыя Захад — Усход, у якой Захад асацыіруецца з мірным жыццём, тылам, санаторным лячэннем, а Усход — з вайной, акопамі, вошамі (аўтар рамана відавочна мае замілаванне да розных падвідаў гэтых насякомых). Апазіцыя праяўляецца і на ўзроўні алкагольных напояў (у Германіі і Польшчы Андрэ спажывае шляхетныя гатункі, а ў Беларусі — сумніўныя сурагаты накшталт «Скарбу Радзівілаў» ды «Крыжачка»), і нават у эратычных упадабаннях (Андрэ адштурхоўвае тып тургенеўскіх дзяўчат і прыцягвае вобраз фасбіндэраўскай жанчыны). На вакзале ў Гановеры Андрэ знаёміцца з «фасбіндэраўскім анёлкам» Інгрыд, якая тае ж начы робіцца яго баявой сяброўкай, а раніцай адпраўляецца разам з ім у Берлін. У Гановеры герой праводзіць усяго адну ноч, і таму гэты горад паказаны ў рамане фрагментарна (начны вакзал, кватэра бой-фрэнда Інгрыд), а мо яшчэ й таму, што якраз гэты нямецкі горад «асвоены» беларускай літаратурай дастаткова добра: варта згадаць эсэ «Няхай жывуць гановерскія вароны» Уладзіміра Арлова [2, с. 124–142], альбо зборнік «Гановерскія пункціры» Алеся Разанава [7], які пражыў у Гановеры некалькі гадоў («Пакуль ты карміў гановерскіх птушак, тут памірала эпоха» [3, с. 12], — напіша пазней у паэтычным лісце да Разанава Ігар Бабкоў).

У раздзеле «Фінляндыя», дзеянне якога адбываецца ў Берліне, чытач нарэшце даведваецца, чаму гэты горад у адрозненне ад іншых нямецкіх гарадоў не асацыіраваўся ў героя з санаторыем: бо нагадваў яму Пецярбург часоў маладосці, з такімі ж пашарпанымі аблезлымі сценамі, смуродам у парадных пад'ездах, прусакамі ў кватэрах (яшчэ адно любімае насякомае аўтара рамана). Таксама, як і ў Пецярбургу, бытавая неўладкаванасць жылых

раёнаў спалучаецца ў Берліне з архітэктурнай веліччу і хараством музейна-турыстычнага цэнтра: «Дабраўшыся да Музейнай выспы, Андрэ акамянеў ад убачанай прыгажосьці. Уражвала нават не архітэктура, што прамянела магутнасьцю і размахам, а тая атмасфера, якая ахутвала велічныя палацы» (с. 83).

З усіх партрэтаў-характарыстык гарадоў у рамане «Шалом» апісанне Берліна найбольш разгорнутае і маляўнічае, адчуваецца архітэктурная адукацыя і мастакоўская назіральнасць Клінава. У апісанні каларытнага жыцця «калоніі хобітаў» у Тахелес — беларускіх мастакоў, асеўшых у Берліне — праяўляецца веданне рэалій і выдатнае пачуццё гумару аўтара (спісаны са Зміцера Вішнёва вобраз паэта і мастака Буяна — несумненна адзін з найлепшых у рамане).

Аднак не толькі назіральнае вока, але і розум, уяўленне актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні вобраза Берліна, густа ахутанага колішнімі ўражаннямі Андрэ ад знаёмства з нямецкай літаратурай і філасофіяй: «Гэта здавалася квінтэсэнцыяй прускага духу, тым, што несла ў сабе вобраз Нямеччыны, намаляваны ў яго ўяўленні яшчэ ў юнацтве, калі ён узахлёб чытаў Гётэ, Кляйста, Гофмана, іншых нямецкіх рамантыкаў ды спрабаваў пранікнуць у “Крытыку чыстага розуму” Канта» (с. 83).

Вызначаючы сутнасць клінаўскага метаду апісання еўрапейскіх гарадоў, згадваеш выснову Валянціна Акудовіча з цытаванага ўжо эсэ «Разбурыць Парыж»: «…Чалавек спакваля развучыўся бачыць бытнае ў яго канкрэтна-рэальнай самоце, урэшце як і ўвогуле бачыць вокам. Ён ужо даўно толькі *глядзіць* вокам, а бачыць розумам. <…> Мы мерым тапаграфію рэальнасці не яе ўласнай мерай, а маштабамі, напрацаванымі ў “прасторы” а-рэальнасці» [1, с. 123].

Таксама і расійскі Пецярбург ва ўспамінах, трызненнях, начных кашмарах героя паўстае не толькі як горад ягонай маладосці, як частка рэальнай біяграфіі, але і як горад Дастаеўскага, дзе з падваротняў выныраюць прывіды Раскольнікава, бабулькі-працэнтніцы, Свідрыгайлава. Пецярбург цяжкіх успамінаў, як і Парыж нязздзейсненых мараў, займае ў свядомасці героя даволі значнае месца, атаясамліваецца з пагрозай, небяспекай, подыхам Імперыі (Маскву Андрэ па-просту не любіў і яна амаль не згадваецца ў рамане).

Яшчэ адно праяўленне апазіцыі Усход — Захад у рамане Клінава — гэта процістаянне еўрапейскай і расійскай філасофіі ды культуры: Гофмана і Тургенева, Канта і Дастаеўскага, Маркса і Бярдзяева. Здаецца, і герой рамана, і яго аўтар цалкам падзяляюць знаны тэзіс Ігната Абдзіраловіча пра спецыфіку Беларусі як культурнай прасторы *паміж*: паміж Захадам і Усходам, паміж лацінскай і візантыйскай цывілізацыяй, паміж каталіцызмам і праваслаўем. Характэрна ў гэтым плане размова Інгрыд з Андрэ на вакзале ў Гановеры:

— Ты адкуль? — пацікавілася тая, зразумеўшы па акцэнце, што ён ня немец.

— Зь Беларусі.

— А дзе гэта?

— На ўсходзе. Адразу за Польшчай.

— У Расеі?

— Паміж. На лініі фронту.

— Ааа! Чарнобыль! (с. 62)

Такім чынам, Беларусь — гэта лініі фронту. Але і Польшча ва ўяўленні героя — памежная краіна, *ужо* не Усход, але не зусім і Захад. У адрозненне ад Андрэ ягоны польскі сябра Яцак хутка прыстасаваўся да законаў мастацкага рынку і зрабіў паспяховую кар'еру, малюючы сексуальныя акты ў грамадскім транспарце. Творчасцю Яцка цікавяцца ўплывовыя куратаркі і найбуйнейшыя еўрапейскія галерэі, ён даўно выйшаў з брудных акопаў, стаўшы ці то шчаслівым пераможцам, ці то пераможаным у той вялікай вайне, якую ўсё яшчэ вымушаны весці Андрэ. З іншага боку, у Варшаве на кожным кроку сустракаюцца яшчэ сляды іншай вайны, выразна чуецца подых гісторыі: старая полька раіць герою зняць нямецкі шалом, бо ён можа выклікаць непрыемныя пачуцці ў яе суайчыннікаў, Палац Культуры і Навукі перадае гарачае прывітанне ад бацькі народаў Іосіфа Сталіна.

Але дамінуе ва ўспрыманні Польшчы героем рамантычны вобраз даўняй Рэчы Паспалітай, агульнай дзяржавы палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў; невыпадкова ягоным ўлюбёным алкагольным напоем з'яўляецца не «Wyborowa» ці «Żytnia», а «Krupnik»: «Гэта быў старалітоўскі крупнік, моцная і смачная, настоеная на мёдзе гарэлка — напой, калісьці папулярны за Бугам, ва Усходняй частцы Рэчы Паспалітай. Пазьней там на яго рэцэптуру забыліся, не перасталі яго вырабляць толькі ў Польшчы. І кожнага разу, калі Андрэ вяртаўся на каронныя землі, з усіх напояў ён аддаваў перавагу менавіта крупніку. Кожны яго глыток здаваўся яму прывітаньнем з таго салодкага часу, калі іх краіна магутнела і цягнулася ад мора да мора, а ў гарадах, замках і мястэчках квітнеў смачны, як мёд, залаты век сармацкай культуры» (с. 166).

Нягледзячы на гаючае ўздзеянне старалітоўскага крупніка, у Варшаве з Андрэ адбываецца нервовы зрыў, і ён, сам таго не жадаючы, учыніў дэбош у майстэрні Яцака, які гасцінна прыняў даўняга сябра і нават спрабаваў уладкаваць яго лёс, знаёмячы з уплывовымі куратаркамі мастацтва. Адной з прычынаў зрыву з'яўляецца паблажліва-спачувальнае стаўленне куратарак да Андрэ як да прадстаўніка няшчаснай краіны, дзе пануе «дыктацюр», а па гарадскіх вуліцах ходзяць мядзведзі, што перабраліся сюды з Масквы. З праяўленнямі такога стаўлення да яго радзімы герою даводзіцца сутыкацца на працягу ўсяго шляху з Бона да Брэста: Чарнобыль, дыктатура, бяда і нястача, гаротны народ, які цягнецца да імперскай Расіі, замест таго каб гарнуцца да цывілізаванага Захаду.

Менавіта мастацкае выкрыццё як заходніх стэрэатыпаў у дачыненні да беларусаў, так і паслухмянай гатоўнасці беларусаў адпавядаць гэтым стэрэатыпам, выкарыстоўваючы брэнд «няшчаснага народа» для карыслівых мэтаў, з’яўляецца важнейшай заслугай аўтара «Шалома». Метафарычным увасабленнем падобнай сістэмы стэрэатыпаў і ўсталяванай мадэлі ўзаемадносінаў еўрапейцаў з беларусамі становіцца параўнанне беларусаў з хобітамі[1], а таталітарнай улады — з Мордарам: «Ён жа прадстаўляў маленькую, забытую Богам краіну, што прытулілася дзесьці пад плотам Эўропы. Усім, хто знаходзіўся з гэтага боку плоту, яна ўяўлялася нейкім страшным Мордарам з казак Толкіна, дзе ўладу захапілі оркі, якія зьдзекаваліся зь бедных хобітаў ды ўсяляк уціскалі іх грамадзянскія правы.

Каб дапамагчы няшчасным хобітам, іх час ад часу запрашалі ў Эўропу на які-небудзь сэмінар — растлумачыць, як перамагчы оркаў на выбарах і ператварыць Мордар у дэмакратыю хобітаў, альбо на літаратурны фэстываль — паслухаць, як гучыць іхняя дзіўная архаічная мова, альбо, як цяпер, на скульптурны пленэр, каб пераканацца, што яны ўвогуле яшчэ існуюць і нават здольныя выраблять творы мастацтва» (с. 10).

Праблема героя і аўтара рамана заключаецца ў тым, што іхні вобраз Беларусі мала чым адрозніваецца ад стэрэатыпных уяўленняў еўрапейцаў, створаны ён не насуперак, а як бы насустрач іхнім фобіям, жалям, спачуванням.

Андрэ ў думках неаднаразова наракае на свой лёс, ён перакананы, што яго геніяльныя мастацкія праекты завісаюць у пустэчы толькі таму, што нарадзіўся ён у гіблым месцы, за плотам. Са шкадаваннем думае пра свайго сябра-мастака Хведара, што «калі б ён служыў у іншай арміі — французскай, або нямецкай, то напэўна насіў бы ўжо пагоны калі не генерала, то палкоўніка ці маёра. Але ў Мордары генэралаў у мастацтве не існавала, дакладней, мелася пару, якіх прызначалі зьверху» (с. 88).

Артур Клінаў у другой, «беларускай» частцы рамана малюе карціну бязрадасную і проста апакаліпсічную, ад якой упору звар’яцець не толькі герою, але і чытачу «Шалома». У Брэсце аўтар адпраўляе свайго героя ў брудную прывакзальную закусачную, дзе той выслухоўвае споведзь алкагалічкі Кацярыны і даведваецца пра існаванне таннага пойла пад высакароднай назвай «Скарб Радзівілаў». Брэсцкая Кацярына — ці то рэальная асоба, ці то персанаж рамана Дастаеўскага — не ідзе, вядома, ні ў якае параўнанне з Інгрыд, істотай з гановерскага вакзала (таксама як «Скарб Радзівілаў» не ідзе ні ў якае параўнанне з «Егермайстарам»). Архітэктурнаму вобліку Мінска

[1] Як вядома, Толкіен «спісваў» сваіх маленькіх чалавечкаў з суайчыннікаў-англічан, але параўнанне беларусаў з хобітамі часта сустракаецца на старонках беларускай перыёдыкі, выклікаючы ажыўленыя дыскусіі.

аўтар прысвячае некалькі паэтычных абзацаў у стылі «Малой падарожнай кніжыцы па Гораду Сонца», але асноўны змест «мінскага» раздзела складае падрабязнае апісанне візіту Андрэ ў віна-водачную краму і ўцёкаў героя ад нейкіх таямнічых тыпаў (хутчэй за ўсё, супрацоўнікаў КДБ). Якраз у дзень візіту героя ў сталіцы адбываецца несанкцыянаваны мітынг гандляроў на Кастрычніцкай плошчы, па вуліцах ездзяць калоны аўтобусаў з амапаўцамі і грузавікоў з жаўнерамі, у дварах чакаюць на арыштаваных дэманстрантаў вялізныя чорныя аўтазакі.

Вярнуўшыся ў родны Магілёў, Андрэ трапляе ў зону для мутантаў-выраджэнцаў, у недарэчныя раёны панурых дамоў без усякага намёку на архітэктуру, з цёмнымі смярдзючымі пад’ездамі, з дабітымі ліфтамі, спісанымі непрыстойнымі словамі. Трэба аддаць належнае герою, ён усё роўна любіць свой родны горад, але не за рэшткі захаванага хараства (цудоўны від на Дняпро, напрыклад), а якраз за ягоную брыдоту: «Ва ўбостве няўдалага твора ён бачыў праўдзівы бок жыцьця. У ім было больш глыбіні, і шчырасьці, і дасканаласьці, чым у гарадах прыгожых, пышных, пампэзных. Бо ў гэтым, здавалася яму, і ляжала задума Бога, які сьвядома стварыў гэты сьвет няўдалым выродцам» (с. 243).

Можна бачыць у дысгарманічнасці вобліку роднага горада праяўленне волі Усявышняга, але калі шукаць вінаватых на зямлі, для героя няма сумнення, што да заняпаду Магілёва прычынілася Расія: «Калісьці — гадоў трыста таму — ён меў шарм эўрапейскага горада: мноства барочных касцёлаў, вежы замка, ратуша, вузкія вулачкі з дамамі пад высокімі чарапічнымі дахамі. Але потым прыйшлі сьвятаполкі, і горад захрос у шэрай правінцыйнай нудзе. Касьцёлы зьнесьлі, замак зруйнавалі, ратушу ўзарвалі, дамы перабудавалі, сьпічастыя дахі замянілі на плоскія, чарапіцу — на бляху, — адным словам, з квітнеючага горад стаў звычайным пазаштатным лузэрам, што згубіўся дзесьці на задворках Расейскай Імпэрыі» (с. 241).

Характэрна, што нягледзячы на свае антырасійскія настроі, Андрэ спрабаваў у маладосці перасяліцца ў Пецярбург, але тамтэйшыя мастакі яго не прынялі. Няўтульна пачуваецца Андрэ і ў цацачна-санаторнай Германіі, ён прызнаецца, што не хацеў бы застацца там назаўсёды. А Беларусі, у якой герой мог бы быць шчаслівым як чалавек і запатрабаваным як творца, ужо (ці яшчэ) не існуе.

У выніку герой «Шалома» насамрэч апынаецца ў трагічнай сітуацыі: *паміж*, *на лініі*, а канкрэтна: пад мастом, які звязвае левы і правы берагі Дняпра, злучае Усход і Захад. Андрэ збіраецца ўзарваць гэты мост. Узнікае пытанне: чаму? Толькі ў знак пратэсту? Ці, можа, гэта свядомы геапалітычны выбар героя?

## Літаратура

1. Акудовіч, В. Разбурыць Парыж / В. Акудовіч. — Менск, 2004.
2. Арлоў, У. Мой радавод да пятага калена. Эсэ / У. Арлоў. — Менск, 1993.
3. Бабкоў, І. Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб / І. Бабкоў. — Мінск, 2009.
4. Дранько-Майсюк, Л. Акропаль / Л. Дранько-Майсюк. — Мінск, 1994.
5. Дунін-Марцінкевіч, В. Збор твораў : у 2 т. / В. Дунін-Марцінкевіч. — Т. 1. — Мінск, 2007.
6. Клінаў, А. Шалом. Ваенны раман / А. Клінаў. — Мінск, 2011.
7. Разанаў, А. Гановерскія пункціры / А. Разанаў. — Мінск, 2002.


---

**Гун-Брыт Колер** *(Ольдэнбург, Германія)*

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ З ПЕРСПЕКТЫВЫ ТЭОРЫІ ПОЛЯ

> Mi smo malo Latini, malo Niemci, malo Talijani, malo Mađari i malo Slavjani, a ukupno (iskreno govoreći) nismo baš ništa!
>
> *Ivan Kukuljević, 1843*

## 1. Уводзіны ў праблему

Пад сцягам «літаратурных сувязей» часта разглядаецца не толькі тое, што ўяўляецца істотным параметрам у кантакце розных нацыянальных літаратур у вузкім сэнсе, але і ўсё тое, што хочацца зрабіць такім параметрам. Прадметам, аб'ектам даследаванняў у галіне літаратурных сувязей з'яўляецца, такім чынам, не толькі сам «арыгінальны літаратурны дыскурс», але і гісторыя рэцэпцыі, і сам навуковы дыскурс. Гэтае апошняе ўказвае і на тое, што дысцыпліна даследавання літаратурных сувязей у пэўнай ступені падпадае пад уздзеянне палітычных, ідэалагічных і светапоглядных фактараў. У сярэдзіне чэрвеня 2011 г. на кафедры славістыкі ў Ольдэнбургу адбылася вельмі плённая камерная канферэнцыя пра пытанне «малых» літаратур[1]. Вядомы галандскі даследчык-літаратуразнаўца Кес фон Рэс (Kees van Rees) у ягоным дакладзе выказаў думку, якая — якой бы лаканічнай яна ні была — мне здалася вельмі слушнай. Фон Рэс сказаў, што трэба звярнуць увагу на

[1] Гл. http://www.slavistik.uni-oldenburg.de/53311.html.

тое, каб *правільна паставіць пытанні*. Пры гэтым, зразумела, ён меў на ўвазе ўзаемаадпаведнасць пэўнага пытання і методыкі.

Удзельнікі канферэнцыі ў Ольдэнбургу перагледзелі і абмеркавалі тэорыю літаратурнага поля П'ера Бурдзьё[1]. Асаблівая ўвага надавалася пытанню, наколькі гэтая тэорыя можа быць карыснай, каб апісваць і аналізаваць спецыфіку «малых» літаратур. (Шмат, зразумела, дыскутавалася і пытанне, што ўвогуле ёсць «малой» літаратурай і чаму — але пра гэта тут гаворка не ідзе.)

Але ў рамках дадзенага даклада хацелася б паразважаць пра пытанне, якое ў пэўным сэнсе доўжыць праблематыку Ольдэнбургскай канферэнцыі: пытанне, на якім узроўні і ў дачыненні да якіх феноменаў можа быць карыснай методыка, прадстаўленая тэорыяй літаратурнага поля пры даследаванні літаратурных сувязей увогуле, і беларуска-польскіх сувязей у прыватнасці.

Каб тут «правільна паставіць пытанні», як параіў фон Рэс, трэба звяртаць увагу на агульную спецыфіку гэтых беларуска-польскіх літаратурных сувязей. У вызначальнай меры спецыфіка гэтая заключаецца ў праблеме напластавання, прасоўвання і перасячэння саміх палёў. Гісторыю іхніх суадносін можна апісваць (насамрэч, зыходзячы з тэорыі літаратурнага поля, як яе мадэляваў французскі сацыёлаг) як гісторыю раздыферэнцыяцыі, эмансіпацыі ды раз'яднання самога літаратурнага поля.

Упарадкаванне пэўных аўтараў у пэўную літаратурную сістэму (значыць, у пэўную літаратурную традыцыю) менавіта ў гэтым выпадку выконвае ключавую ролю: у сувязі са «збіраннем літаратурных фактараў» у склад нацыянальнай літаратурнай традыцыі, польская і беларуская літаратуры ў пэўным сэнсе супернічаюць, і гэтае суперніцтва ўказвае на тое, як важны тут фактар абмежавання ўласнага поля. Гэтае імкненне да абмежавання можна назіраць як на ўзроўні саміх аўтараў, так і на ўзроўні навуковага ці літаратурна-гістарычнага дыскурсу. І можна сказаць, што ў залежнасці ад статусу развіцця пэўнага поля, гэтае абмежаванне выяўляецца больш пад формай выключэння або ўключэння (exclusio vs. inclusio).

Калі разумеем вызначэнне межаў і абгрунтаванне гэтага вызначэння пераважна як пытанне самой сістэмы, тады тэорыя поля можа быць карыснай ужо з дзвюх прычын: па-першае, яна перадусім (хаця і не толькі) вывучае

---

[1] Тэорыю літаратурнага поля П. Бурдзьё выпрацоўваў перадусім у рамках працы Bourdieu P. *Les règles de l'Art. Genèse et structure du champ littéraire*. Paris 1992. Па-ангельску *The Rules of Art. Genesis and structure of the literary field*. Oxford 1996, па-нямецку *Die Regeln der Kunst. Genese und Struktur des literarischen Feldes*. Frankfurt a. M. 2001. Рускі пераклад скарочанага варыянта гэтай манаграфіі: Бурдьё П. «Поле литературы». *Новое Литературное Обозрение* 45 (2000) 22–87..

*сістэмныя параметры*, а па-другое, яе методыка дазваляе разглядаць літаратурнае поле не выключна як «нацыянальнае», але і як «наднацыянальнае». І менавіта тым яна адпавядае нашаму выпадку польска-беларускіх літаратурных сувязей.

## 2. Вызначэнне меж: моўны крытэрый

У традыцыі нацыянальнага літаратурнага дыскурсу адным з самых важных, самых пераканальных і рашучых крытэрыяў для вызначэння меж літаратурнага поля з'уляецца мова. Вельмі цікавым момантам Ольдэнбургскай канферэнцыі была дыскусія, якая датычылася дакладаў Міколы Хаўстовіча[1] і Сяргея Кавалёва[2]. Хаўстовіч, з аднаго боку, выступіў у абарону польскамоўнай плыні беларускай літаратуры XIX ст. З другога боку, у сувязі з дакладам Кавалёва, удзельнікам дыскусіі не вельмі хацелася, здаецца, безапеляцыйна ўключаць сучасную рускамоўную літаратуру ў беларускую літаратуру ў вузкім сэнсе. У дыскусіі самымі важнымі аргументамі для процілеглых ацэнак гэтых феноменаў былі: па-першае, аргумент, што ў XIX ст. сапраўднага, *выбару мовы не было*, а па-другое, факт, што тады *не было* адпаведнай (беларускай) *дзяржавы*. Карацей кажучы, дыскусія зноў даказала рэлятыўнасць і прынцыповую залежнасць моўнага крытэрыю, менавіта ў сувязі з нацыянальнай мадэллю літаратуры.

Такія праблемы ўпарадкавання аўтараў ці плыняў у пэўную літаратурную традыцыю ў адносінах да мовы ёсць, канешне, у розных літаратурах, і не ў апошнюю чаргу і ў нямецкамоўнай (ці ў нямецкамоўных). Як, з аднаго боку, адрозніваць нямецкую літаратуру ад аўстрыйскай, ці нават ад нямецкамоўнай літаратуры Швейцарыі? У якой меры, з другога боку, напрыклад, Кафка ўяўляецца нямецкім, а не аўстрыйскім, ці чэшскім, ці яўрэйскім аўтарам? (І звяртаю ўвагу на тое, што французска-італьянская пара Дэлёз і Гатары менавіта ў сувязі з феноменам Кафкі гаварылі пра «малую» літаратуру, прычым мелі на ўвазе «суб-форму "вялікай" літаратуры, чые аўтары пішуць на *этнічна чужой для іх мове*». Але гэта проста мімаходзь[3].)

У сувязі са згаданымі праблемамі тэорыя поля можа быць карыснай, бо яна дазваляе сістэматычна даследаваць літаратурнае дзеянне ў рамках самой

---

[1] Хаўстовіч, М. Беларускамоўная і польскамоўная плыні ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

[2] Кавалёў, С. Новая беларуская драматургія: паміж нацыянальным дыскурсам і расійскай школай.

[3] Упар. Deleuze G. / Guattari F. Kafka. Für eine kleine Literatur. — Frankfurt a. M., 1976.

сістэмы, як літаратурнай, так і палітычнай, эканамічнай і г. д., значыць, у сувязі з тым, што Бурдзьё называе «поле ўлады»[1].

Гэтае даследаванне адносіцца да трох (зразумела, узаемазалежных) галін, а менавіта:

a) да агульнай галіны сістэматыкі поля як «рынку», у сэнсе сфер прадукцыі і раздачы літаратурных твораў і каштоўнасцей (гаворка тут ідзе не толькі пра «матэрыяльную» і «сімвалічную» прадукцыю — твораў, але і *творцаў*)[2];

b) да ўнутранай галіны сістэматыкі поля, у сэнсе яго залежнасці ад поля ўлады, г. зн. у сувязі з яго статусам як «аўтаномнае» ці «гетэраномнае»;

c) да ўнутранай галіны сістэматыкі магчымасцей і схем дзеяння індывідуальных аўтараў.

Трэба сказаць крыху больш пра тое, што ў дадзеным выпадку здаецца самым важным — пункты а) і с). Пры гэтым, зразумела, адыгрываюць вельмі важную, вырашальную ролю менавіта і палітычныя фактары, як напрыклад: моцная русіфікацыя ў розных галінах на працягу XIX ст. ці фактычная адмена ўніяцкай царквы ў 1839-м годзе. Але пра гэтыя фактары тут гаворка не ідзе; нас тут цікавіць пытанне літаратурнага поля як рынку ў шырокім сэнсе.

Відавочна, гэтая схема не дакладна адпавядае той сітуацыі, пра якую тут ідзе гаворка — польска-літоўска-беларускай сферы XIX ст. З іншага боку, менавіта такая схема выразная найперш у сувязі са статусам развіцця і раздыферэнцыяцыі пэўнага літаратурнага поля. Па-другое, яна сведчыць пра тое, што ўвесь працэс раздачы і размеркавання літаратурных твораў ад саміх аўтараў да чытачоў адыгрывае важную ролю (нават тады, калі не звяртаем увагі на такія фактары, як напрыклад, прафесіянальныя літаратурныя згуртаванні, прафесіянальную літаратурную крытыку або на сетку бібліятэк, чытальных залаў і клубаў).

Адносна беларускай літаратуры XIX ст. пытанне тады заключаецца ў тым, як і ў якой меры моўная сітуацыя ўплывае на сітуацыю літаратурнага «рынку» (пра які, зразумела, можна гаварыць датычна гэтага часу толькі з агаворкай, але гэта іншае пытанне).

У дадзеным выпадку на арэале Беларусі ў XIX ст. літаратурнае жыццё пераважна адбываецца ў польскамоўным (ці рускамоўным) кніжным свеце. Група чытачоў не толькі абмежавана колькасцю (*хто* ўмее чытаць), але і

---

[1] Поле ўлады, паводле Бурдзьё, складаецца з узаемадзеяння тых дзейсных фактараў, якія ў розных суб- палях (эканамічным, палітычным, рэлігійным і г. д.) забяспечваюць самыя прэстыжныя пазіцыі, і тым самым уплываюць і на літаратурнае поле.

[2] Van Rees K. / Dorleijn G. «The eighteenth-century literary field in Western Europe: The interdependence of material and symbolic production and consumption». *Poetics* 28 (2001), 331–348, тут: 332.




**Фол. 1.** Дыяграма літаратурнага поля ў XX ст. (Van Rees / Dorleijn 2001:333)

якасцю (на *якой мове* чытае)[1]. М. Хаўстовіч у дакладзе згадаў Баршчэўскага, які ў «Шляхціцы Завальні» кажа, што піша па-польску, каб чытач яго разумеў. Можна прыгадаць і Рыпінскага, які кажа, што шляхціц сам не ведае, на якой мове размаўляе, што ён «чытаць ня ўмее, друкаванага ня церпіць, падпісваецца не па-шляхецку, бо толькі крыжыкам або, што ўжо па-вучонаму, якімсьці кручком, якога і не пазнае»[2].

[1] Грамадская «эліта» (шляхта), зразумела, польскамоўная. А палітыка «дэпаланізацыі» Расійскай імперыі пасля 1831 г. на тэрыторыі Беларусі выконваецца выключна ўмацаваннем рускага, а ні ў якім выпадку не беларускага элемента; Mark R. «Die nationale Bewegung der Weißrussen im 19. und zu Beginn des 20. Jahrhundert». *Jahrbücher für Geschichte Osteuropas* 42/4 (1994), 493–509.

[2] Rypiński, A. Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewach, tancach / A. Rypiński. — Paris 1840, — 200. Менавіта такія

З іншага боку, трэба сказаць, што падобную да Баршчэўскага матывацыю мог бы даць і сучасны беларускі аўтар, які піша па-руску — верагодна яшчэ з большым правам, улічваючы тое, што рыначныя правілы сёння больш суровыя, чым тады.

Таму, безумоўна, можна і трэба сказаць, што тагачасны літаратурны рынак адпаведна з моўнай сітуацыяй *спрыяў* тым, хто пісаў па-польску (а не па-беларуску). Але, з іншага боку, сам факт, што пэўныя аўтары *пісалі* і па-беларуску, указвае на тое, што, нягледзячы на яўную асіметрыю моў, *выбар*, у пэўным сэнсе, быў магчымы.

У сувязі з гэтым можна прыгадаць яшчэ зусім іншае, на што ўказвае эпіграф гэтага даклада, выбраны з харвацкай літаратуры XIX ст. Харвацкі гісторык, літаратар і палітычны дзеяч Іван Кукулевіч (Ivan Kukuljević) у 1843 годзе, з нагоды ўвогуле першай прамовы *на харвацкай мове* ў харвацкім парламенце (Hrvatski sabor) сказаў: «Mi smo malo Latini, malo Niemci, malo Talijani, malo Mađari i malo Slavjani, a ukupno (iskreno govoreći) nismo baš ništa!»[1]. Яшчэ малады Кукулевіч (яму 27 гадоў), зразумела, свядома правакуе, але гэтая цытата ўказвае на тое, што нацыянальна-дзяржаўная, культурная, літаратурная і не ў апошнюю чаргу моўная сітуацыя ў Харватыі першай паловы XIX ст. у пэўным сэнсе недалёкая ад сітуацыі на літоўска-польска-беларускім арэале. Няма харвацкай дзяржавы; харвацкая тэрыторыя падзяляецца на Венецыю, Габсбургскую Аўстрыю, Асманскую імперыю і Венгрыю. Народ гаворыць на розных дыялектах, а нешматлікая грамадская эліта на паўночнай тэрыторыі (дзе пачынаецца нацыянальны рух) гаворыць і чытае пераважна па-нямецку (або па-лацінску). Інфраструктура, урэшце, хутчэй нават горшая, чым на тэрыторыі Беларусі. Дык *задача*, якую трэба рашаць у Харватыі, вельмі падобная да той, якую трэба рашаць і на гэтай тэрыторыі. Але ў Харватыі ўжо з пачатку 1830-х гадоў і перадусім па ініцыятыве грамадскага дзеяча Людэвіта Гая (Ljudevit Gaj) аўтары пачынаюць свядома, праграмна і паспяхова пісаць і публікавацца на харвацкай (так званай «ілірскай») мове і на яе перакладаць[2].

Параўнанне з Харватыяй, здаецца, для вытлумачэння тагачаснай моўнай сітуацыі на Беларусі ўказвае не столькі на тое, што *выбару мовы няма*, колькі на тое, што *выбару* паміж польскай і беларускай мовамі, магчыма, пакуль

меркаванні, як і меркаванні іншых сучасных даследчыкаў сведчаць пра тое, як неабходнасць адмежавацца ад рускага ўплыву, з аднаго боку, спрыяе, а, з другога боку, звязвае беларускі элемент з польскім этнасам і з польскай культурай — якраз у той момант, калі «трэба было б» адмежавацца і ад гэтых апошніх.

[1] Цыт. паводле: Jelčić, D. Hrvatski književni romantizam / D. Jelčić. — Zagreb, 2002. — S. 422.

[2] Пры тым як на Беларусі, так і ў Харватыі, канешне, ёсць разнамоўныя літаратурныя традыцыі і плыні, якія доўжацца і якімі нават свядома карыстаюцца яшчэ і ў час нацыянальнага руху, менавіта з тых самых прычын, як, напрыклад, Баршчэўскі.

*не трэба*. Інакш кажучы, сувязь паміж моўным выбарам аўтара і *сістэмнай семантыкай гэтага выбару* не такая, якой яна стала *пасля* фарміравання нацыянальных літаратурных сістэм. Выбар мовы, верагодна, *не з'яўляецца «пазіцыянаваннем»* у сэнсе (паводле Бурдзьё) дакладнай, праграмнай *дыстынкцыі* беларускага ад польскага элемента, менавіта з ужо названых прычын.

Мадэль літаратурнага поля тут (зыходзячы з тэзіса прынцыповай *параўнальнасці* з іншымі, па пэўных крытэрыях падобнымі літаратурнымі палямі і сістэмамі) дазваляе ўсведамляць і аб'ектыўна і сістэматычна *аналізаваць спецыфічнасць* дадзенага поля[1].

## 3. Сістэмы руху (радыус)

Пытанне тады, відаць, не ў тым, *чаму* пэўны аўтар выбраў пэўную мову, але хутчэй, чым (калі не толькі палітычнай сітуацыяй) можна вытлумачыць перавагу польскага элемента ў, магчыма, сучаснай і гістарычнай ацэнцы.

У сувязі з гэтым трэба звярнуцца да іншых, а не толькі пытання выбару мовы, літаратурных дзеянняў і пазіцыянаванняў аўтараў. Менавіта ў гэтым плане падаецца вельмі цікавым параўнанне Адама Міцкевіча з Янам Чачотам — параўнанне, пра якое, мусіць, у беларускім і польскім літаратуразнаўчым дыскурсе ўжо шмат гаварылася. Трэба сказаць, што для літаратуразнаўцы, які ўваходзіць у беларускую літаратуру «звонку», гэтае ўваходжанне ў пэўным сэнсе звязана з падвярганнем сумненню Адама Міцкевіча як (выключна) польскага аўтара[2]. З гэтай перспектывы трэба запытацца, ці агульнае ўключэнне

---

[1] Параўнанне беларускай сітуацыі з Харватыяй у дыскусіі выклікала моцныя і гарачыя пярэчанні з боку асобных беларускіх калег, якія сцвярджалі «прынцыповую непараўнальнасць» суровасці Расійскай імперыі з талерантнасцю Габсбургскай Аўстрыі менавіта ў адносінах да нацыянальных рухаў «малых» народаў. Гаворка, канешне, ніяк не ішла пра агульнае «атаясамліванне» беларускай і харвацкай сітуацый, але пра параўнанне пад пэўнымі (названымі мной: моўная сітуацыя, дамінацыя розных і этнічна «чужых» дзяржаў, грамадскія эліты і г. д.) крытэрыямі з чыста эўрыстычных мэт. Суровасці Расійскай імперыі ніхто не аспрэчвае. Але трэба запытацца, адпаведна з тым, што сказаў фон Рэс у Ольдэнбургу: ці розныя шляхі развіцця харвацкай і беларускай культур сапраўды і цалкам вытлумачваюцца гэтым (дарэчы, паступовым) адрозненнем адпаведных палітычных сітуацый. Мне здаецца, што менавіта асцярожнае і эўрыстычнае параўнанне (на якое, зразумела, у рамках даклада можна толькі ўказаць) абяцае новыя перспектывы і пазнанні. А «прынцыповая» параўнальнасць пацвярджаецца самім эпіграфам Івана Кукулевіча.

[2] З думкай, што на Міцкевіча можна глядзець як на прадстаўніка беларускай літаратурнай традыцыі я пазнаёмілася, калі першы раз прыехала ў Мінск; і тут з боку вядомага літаратуразнаўцы пачула катэгарычнае сцвярджэнне, што «Міцкевіч — наш». Такое сцвяджэнне мне падалося дзіўным, і я ніяк не магла з гэтым пагадзіцца.

Міцкевіча ў літаратурную сістэму, якая пераважна лічыцца *польскай*, не з'яўляецца, у пэўным сэнсе, вынікам «выпадку». Кантынгенцыя (выпадак) менавіта ў мадэлі Бурдзьё выконвае важную ролю, бо сістэмныя фактары, якія вызначаюць само функцыянаванне поля знаходзяцца ў пастаянным узаемадзеянні з дзеяннямі і рухамі асобных «агентаў» (аўтараў, крытыкаў, чытачоў, выдаўцоў і г. д.) і імі рэлятывуецца. Такім чынам можна, напрыклад, аналізаваць тое, што Бурдзьё называе *кар'ера пісьменніка* (le trajectoire de l'auteur): «аўтарскую біяграфію» пэўнага пісьменніка. Такая біяграфія развіваецца і вызначаецца ва ўмовах узаемадзеяння «тыповых» дзеянняў і пазіцыянаванняў, вызначаных самім полем, з аднаго боку, і спецыфічных індывідуальных дыспазіцый і пэўных асобных дзеянняў і выбараў, з другога боку. У рамках аналізу гэтай «кар'еры пісьменніка», у нашым выпадку, вельмі выразным аказваецца параўнанне Чачота з Міцкевічам на ўзроўні іх кірунку і радыуса руху. Выходзячыя з прыблізна падобных перадумоў, Міцкевіч і Чачот праходзяць зусім розныя дарогі, якія па-рознаму ўплываюць як на іх творчы шлях, так і на іх далейшыя магчымасці пазіцыянавання ў полі. З Віленскага ўніверсітэта далейшы шлях вядзе Чачота ў Сібір і потым, праз Маскву і розныя іншыя гарады, назад у родны край; Міцкевіч жа ў той самы час трапляе ў розныя заходнееўрапейскія цэнтры, у самы цэнтр Парыжа (горада, які потым у пэўным сэнсе стане сталіцай польскага рамантызму) і аж да самага Канстанцінопаля.

Гэтая розніца ў галіне «радыуса руху» — знаходжанне Міцкевіча ў заходніх культурных цэнтрах, і перадусім у Парыжы, з аднаго боку, і знаходжанне Чачота на рускай перыферыі, а потым у родным арэале, з другога боку, магчыма, аказваецца тыповай розніцай паміж так званымі «польскімі» і «беларускімі» аўтарамі. Яна адносіцца да таго, што літаратуразнаўца Паскаль Казанава (Pascale Casanova) называе «сусветнай рэспублікай літаратуры» (la république mondiale des lettres)[1]. Носьбітам асобнага літаратурнага прэстыжу, асобнага сімвалічнага капіталу з'яўляецца звычайна той аўтар, хто дзейнічае блізка да «méridien littéraire de Greenwich», г. зн. да літаратурных цэнтраў пэўнага перыяду, да якіх імкнуцца літаратурныя наватары, у якіх ствараюцца літаратурныя меркі, вызначаюцца характэрныя для перыяду параметры і рысы, як і паняцці літаратурных каштоўнасцей. Тое, што адбываецца ў такім цэнтры, у адпаведнасці з «дыстанцыяй» іншых літаратурных цэнтраў ад са-

---

Прыняць такое катэгарычнае стаўленне [у выключаючым («наш, значыць, *не* ваш»), а не ў уключаючым («наш і ваш») сэнсе] менавіта ў навуковым плане я не магу і сёння і не бачу ў ім карысці. Але стала зразумелым, што тут праблема ёсць менавіта таму, што Міцкевіч, хаця і не пісаў на беларускай мове (ці такія творы не захаваліся), уплываў на тую традыцыю, якая складвалася на беларускай глебе.

[1] Casanova, P. La république mondiale des lettres / P. Casanova. — Paris, 1999.




**Фол. 2.** Я. Чачот і А. Міцкевіч. Кар’еры аўтараў (сістэмы руху)

мога цэнтра больш ці менш моцна ўплывае на гэтыя больш перыферыйныя літаратурныя цэнтры і на тое, што ў іх адбываецца[1].

Прыклад Міцкевіча і Чачота ўказвае на тое, што на беларуска-літоўска-польскім арэале ствараюцца дзве розныя «сістэмы руху аўтараў», да якіх, магчыма, у пэўным сэнсе можна аднесці цэнтры літаратурных публікацый[2]. Таму можна запытацца, ці ўпарадкаванне і прызнанне Міцкевіча не стала б зусім іншым, калі б трэцяя частка «Дзядоў» не пісалася б на захадзе, а «Пан Тадэвуш» не ў Парыжы, з аднаго боку, а з другога боку, напрыклад, «Шляхціц

[1] Гаворка тут ідзе не столькі пра дыстанцыю ў чыста прасторавых адносінах, колькі пра дыстанцыю ў сувязі са статусам развіцця і г. д.

[2] Пытанне, дзе розныя аўтары гэтага часу пераважна друкаваліся, з іншага боку, закранае пытанне, дзе, у якіх «цэнтрах» адпаведныя аўтары шукаюць прызнанні — г. зн. дзе знаходзяцца не ідэалагічныя, але рэальныя цэнтры іх літаратурнага дзеяння і ўспрымання: дзе і паміж кім яны дзейнічаюць.

Завальня» пісаўся б на захадзе (а гэта, у пэўным сэнсе, далучыцца да дыскусіі, якая вялася на канферэнцыі ў Мінску ў сувязі з Міцкевічам і Багушэвічам). Пытанне, да якой літаратурнай сістэмы далучаецца пэўны аўтар і пэўны твор, такім чынам, рашаецца не толькі праз яго мову, але і ў пэўным сэнсе праз тое, дзе яго ўпершыню чытаюць і кім ён чытаецца, г. зн., на якой дыстанцыі ад самога літаратурнага цэнтра пэўнага перыяду ён знаходзіцца.

М. Хаўстовіч у Ольдэнбургскім дакладзе вельмі пераканальна сказаў пра тое, як упарадкаванне аўтараў ды іх твораў залежыць ад дыскурсу пэўнага часу. Можна на базе гэтых дзвюх розных «сістэм руху», пра якія я гаварыла, запытацца: ці спосаб, як упарадкаваўся Міцкевіч, не ўплываў у пэўным сэнсе на тое, у які дыскурс упарадкавалася самая Вільня як інтэлектуальны і літаратурны цэнтр той літаратуры, якую стваралі на літоўска-польска-беларускім арэале XIX ст.?

## 4. Заключэнне

Заключэнне можа быць кароткім. Мадэль Бурдзьё (пакуль) не вельмі прыдатная для даследавання асобных твораў з пункту гледжання эстэтыкі (хаця і тут перспектывы ёсць). Але яна карысная тады, калі гаворка ідзе пра пытанне далучэння твора і аўтара да літаратурнай сістэмы (як і да агульнага кантэксту). Менавіта ў гэтым плане і, вядома, пры асцярожным і чыста эўрыстычным прымяненні яна можа быць карыснай і для даследавання працэсаў напластавання і перасячэння таго, з чаго толькі *ex post* атрымліваюцца два розныя літаратурныя полі, як беларускае і польскае.

---

**Алена Манкевіч, Мікалай Хмяльніцкі** *(Мінск, Беларусь)*

# ВІЛЬНЯ Ў ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА ТАНКА І К. І. ГАЛЧЫНСКАГА

Не адно стагоддзе беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей сведчыць пра іх плённасць і шматвектарнасць. Гэтаму спрыялі і спрыяюць па сённяшні дзень вядомыя фактары: геаграфічная блізкасць, суадноснасць гістарычных лёсаў, полікультурная парадыгма і г. д. У гэтых сувязях, падкрэслім, няма нічога выпадковага: яны маюць глыбокія карані як ва ўнутраным свеце асобнага пісьменніка, так і ў духоўнай і культурнай роднаснасці беларускага і польскага этнасаў.

Безумоўна, польская паэзія XX стагоддзя — блізкая нам па духу, але адрозненні, дастаткова адчувальныя, найперш у форме, эстэтычных пошуках надаюць той дыстанцыйны ракурс, які пры дамінантным панаванні рэалістычнай традыцыі ў беларускай літаратуры дае падставы ўспрымаць польскую паэзію як нешта аддаленае ад нас, непадобнае. Такой, на першы погляд, падаецца і паэзія Канстанты Ільдэфанса Галчынскага (1905–1953). Але пры больш уважлівым яе разглядзе заўважаюцца тыпалагічныя паралелі з беларускай паэзіяй XX стагоддзя, з асобнымі айчыннымі паэтамі, а гэта непазбежна дасць магчымасць убачыць нешта новае, сказаць пра творчасць тых ці іншых аўтараў свежа і арыгінальна.

У кантэксце вышэйсказанага цалкам абгрунтаваным падаецца даследаванне ў кампаратыўным рэчышчы творчасці К. І. Галчынскага і Максіма Танка, галасы якіх амаль адначасова загучалі ў польскай і беларускай паэзіі. Паэты нязменна былі патрабавальнымі да сябе і сваёй творчасці, усё правяралі на духоўную і маральна-этычную трываласць, аддавалі ў паэзіі перавагу матывам адказнасці перад гісторыяй і будучыняй, сцвярджалі высокія духоўныя каштоўнасці.

Лёсы, творчасць К. І. Галчынскага і М. Танка паядналіся праз жыццёвыя шляхі-дарогі, пераклады, навуковыя даследаванні, тыпалагічныя перагукі, гісторыка-культурны кантэкст. Не выключана і магчымасць іх сустрэчы. Знамянальна, што першы пераклад з К. І. Галчынскага на беларускую мову быў здзейснены Максімам Танкам яшчэ ў 1937 годзе — гэта быў верш «Serwus Madonna». На гэты конт Алег Лойка слушна заўважае: «Тым не менш у давераснёўскі час будзе пераважаць у М. Танка больш імпульсіўны пачатак у выбары польскіх арыгіналаў, а яшчэ і пошукавы» [3, с. 134]. А. Лойка ў якасці аднаго з прыкладаў «імпульсіўнасці» Танка-перакладчыка згадвае наступны запіс з «Лісткоў календара» ад 30.12.1937 г.: «Пад снегапад пачаў перакладаць цудоўны верш І. Галчынскага “Прывет, Мадонна”. Некаторыя строфы яго пераклікаюцца з нашым Янкам Купалам:

Хай там другія пішуць кнігі. Нават
Хай слова гучыць ім званіцай стазвоннай,
Пісаць я не ўмею, не дбаю аб славе, —
Прывет, Мадонна!
Не для мяне полкі кніг аж да столі,
Не для мяне вясна, рунь на загонах,
Толькі ноч цёмная, дождж з алкаголем, —
Прывет, Мадонна!
Былі да мяне людзі, будуць і потым,
Бо жыццё вечнае, не знае скону,
Усё, як у вар’ята сон мімалётны, —
Прывет, Мадонна!
Ты ўся прыбраная маем, вясною,

Кветкамі, што назбіраў на загонах,
Бруд з рук сваіх я змываю расою, —
Прывет, Мадонна!
Не пагарджай ты вянком хулігана,
Знаёмага з прэсай, з паліцыяй коннай,
Ты ж мая маці, муза, кахана, —
Прывет, Мадонна!

Недзе яшчэ ў мяне ляжыць перапісаная два-тры гады таму назад паэма І. Галчынскага “Інга Бортш”. Усё ніяк не магу сабрацца і перакласці яе. А паэма гэта калісьці была для мяне цэлым адкрыццём. Знайшоў яе выпадкова ў нейкім жаночым часопісе, пазычаным у нашай вясковай настаўніцы» [8, с. 184].

Максім Танк неаднаразова будзе звяртацца да перакладаў твораў І. Галчынскага, частка якіх увойдзе не толькі ў зборнікі М. Танка, але і ў кнігу выбраных твораў польскага паэта ў перакладах Л. Дранько-Майсюка, А. Хадановіча, В. Болбаса, Г. Герасінай, Л. Баршчэўскага, Н. Русецкай і інш. [1]. А ў вершы «Гальфстрым», напісаным у 1961 годзе, словы з верша Галчынскага паслужаць эпіграфам:

Скажы, дзяўчына, на маёй радзіме,
Калі б я прадчасна загінуў,
Што патануў, змагаючыся, і на дно
Прайшоў, як карабель, поўны скарбаў. [7, с. 340].

Культурным цэнтрам розных народаў, у якім аднолькава важка гучала слова беларускіх і польскіх пісьменнікаў на працягу доўгага часу была Вільня. «Міжваенная Вільня — асаблівы горад, у якім перасякаліся палітычныя інтарэсы, перапляталіся альбо напластоўваліся культуры розных народаў, своеасаблівы межамі акружаны востраў, супярэчлівы характар якога выявіў Чэслаў Мілаш: “Як быццам Польшча, як быццам не Польшча, як быццам Літва, як быццам не Літва, як быццам правінцыя, як быццам сталіца, хаця перш за ўсё правінцыя”. Сапраўды, у геапалітычным сэнсе Вільня ў той час была правінцыя, але з пункту гледжання духоўнасці, творчасці правінцыяй яна ніколі не была» [2, с. 321].

К.І. Галчынскі выязджае з Варшавы ў Вільню ў студзені 1934 года. У хуткім часе знаходзіць кватэру на вуліцы Млыновай, 6, побач з рэчкай Віленкай. Жонка польскага пісьменніка ў сваіх успамінах напіша: «Кот (так яна называла Галчынскага) любіў Вільна. Меў там тое, што яму заўсёды было патрэбна: прыгажосць архітэктуры, добры дом, прыязных людзей, якія адразу паддаліся яго прывабнасці, спакой для працы, адносную фінансавую стабільнасць. Жыццё ў Вільні было неверагодна танным. Пісаў ён вельмі шмат. Сваю віленскую паэзію лічыў пэўным дасягненнем» [9, с. 107].

Галчынскі ўладкоўваецца на працу на радыё: вядзе штотыднёвую сатырычную перадачу «Kwadrans dla ponurych». Даволі хутка ў літаратурна-мастацкім часопісе «Завулак», дадатку да «Слова», з'явілася яго знакамітая «Modlitwa do Anioła Stryża». А на паштоўцы, якую польскі паэт даслаў каханай жонцы ў Варшаву, напісаў «Zaproszenie do Wilna»:

W tym Wilnie będziesz różą, w tym Wilnie matką z młodu
Ej, woźnico, zatrzymaj swe konie!
Znam domek: drzwi w ulicę, a okna do ogrodu,
A w ogrodzie rosną dwie jabłonie.

Гэты твор быў апублікаваны ў «Слове» (1934, № 13) пад назвай «Szczęście w Wilnie». А яшчэ ў хуткім часе з'явяцца такія вершы Галчынскага з «віленскай серыі», як «Wesoły most», «Elegie wileńskie», «Noc w Wilnie», «Wileńskie imbroglio». Тым самым польскі паэт далучыўся да вядомай рамантычнай традыцыі апявання старажытнага горада. Але ў гэтым, па яго словах, «barokowo cerkiewnym, łacińskim, tatarskim Wilnie» ён бачыў не толькі рамантычную спадчыну. Як узгадвае ў сваіх успамінах Ч. Мілаш, з якім у Галчынскага складваліся няпростыя адносіны, «dla przybyszów z Warszawy, takich jak K. I. Gałczyński, Wilno przedstawiało się jako zupełna egzotyka» [10, s. 41].

Максім Танк, у адрозненне ад К.І. Галчынскага, прыехаў у Вільню не са сталіцы. Таму ў яго аўтабіяграфіі чытаем наступнае: «Памятнай для мяне асталася першая сустрэча з гэтым горадам. Яшчэ на вакзале я быў затрыманы сышчыкамі, якія перарылі мой вучнёўскі чамадан. Відаць, яны былі папярэджаны аб прыездзе радашковіцкіх гімназістаў і мо спадзяваліся знайсці ў мяне нелегальную літаратуру. Спыніўся я з сябрамі на прадмесці Новы Свет, дзе пераважна жылі рабочыя і чыгуначнікі, у якіх часта потым прыходзілася хавацца ад паліцыі. Пасля захалуснага мястэчка Радашковічы Вільня здалася мне вялізным, шумным, бурлівым горадам. <…> У вольны час я любіў хадзіць і адкрываць новыя, невядомыя для мяне закуткі і завулкі Вільні, якія то ўпіраліся ў абрывістыя берагі бурлівай Віленкі ці прыгажуні Віліі, то ў векавыя сосны Закрэта, Звярынца, Антокаля. Адзінай перашкодай у маіх вандроўках быў слабы абутак, які ўвачавідкі гарэў на маіх нагах, і таму часта прыходзілася вяртацца на канікулы дамоў ледзь не басанож» [4, с. 470].

Там жа, у аўтабіяграфіі, Танк так апісваў магчымасці, якія давала яму Вільня: «У вольны ад рэдакцыйнай работы час я шмат чытаў і пісаў. Тут, у Вільні, у мяне была магчымасць больш грунтоўна пазнаёміцца з тагачаснай польскай рэвалюцыйнай літаратурай, з творамі пісьменнікаў, якія гуртаваліся каля такіх легальных і напаўлегальных камуністычных часопісаў і газет, як "Нова культура", "Месенчнік літэрацкі", "Левар", "Дзвігня", "Левы тор", "Облічэ дня", "Папросту", "Сігналы" і іншыя, а таксама з творамі многіх рэвалюцыйных украінскіх і літоўскіх пісьменнікаў» [4, с. 478].

У Вільні з'явіліся і першыя кнігі паэта: «На этапах» (1936), «Журавінавы цвет» (1937), «Пад мачтай» (1938), паэма «Нарач» (1937). Але разам з тым, добра вядома, што Лукішская турма таксама знаходзілася ў Вільні. «У сакавіку 1932 года па ўсёй Польшчы, асабліва ў Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі, пачаліся масавыя рэпрэсіі і арышты. У гэты час і я трапіў у віленскую турму "Лукішкі" за супрацоўніцтва ў "Часопісе для ўсіх" і ў львоўскай газеце» [4, с. 472].

Але паэт не падае духам. Для яго Лукішкі — гэта нават пэўныя магчымасці: «Нягледзячы на новы турэмны рэгламент, на новае абмежаванне правоў палітвязняў, "Лукішкі" па-ранейшаму аставаліся тым "універсітэтам", дзе ішла няспынная вучоба, якой кіраваў турэмны камітэт» [4, с. 473].

Знаходзім у «Лістках календара» і наступны запіс: «Марудна цягнецца час у астрозе. Пасля галадоўкі адміністрацыя пазбавіла нас пісьмовых прылад і кніг. І агрызак алоўка стаў небяспечнай зброяй, на якую пачалі паляваць стражнікі. І ўсё ж у кожнай камеры мы мелі чарніла і алоўкі. Горш было з паперай. Але і яе ўдавалася раздабыць ад крымінальных вязняў. Гэта дало мне магчымасць зноў пісаць вершы, якія я не пакідаў пісаць, нават працуючы ў падполлі. Тады я заўсёды з сабою насіў сшытак, у які, акрамя вершаў, запісваў народныя прыказкі, вершы. У канцы 1933 года я пачаў "друкаваць" першы нумар астрожнага часопіса "Краты"» [4, с. 473].

У Галчынскага лад жыцця ў Вільні быў іншы.

Апошнім пунктам праграмы першага дня II Фестывалю Чэслава Мілаша ў Кракаве, які праходзіў у маі 2011 года, быў паказ трох фільмаў пра Чэслава Мілаша ў «Кіно пад Баранамі» — кінатэатры, які ахвотна далучыўся да святкавання Года Мілаша і арганізаваў прагляд серыі фільмаў.

Першыя два фільмы рэтраспектывы былі знятыя братам пісьменніка, Анджэем Мілашам. Стужка «Вільня Мілаша» (2000) стала апошняй працай гэтага рэжысёра. У фільме набеліст расказвае пра сваё дзяцінства ў Вільні і пра тыя пачуцці, якія гэты горад выклікаў у яго падчас прыездаў у сталым узросце. Згадвае пра кур'ёзы таго часу, напрыклад, пра візіт да Канстанты Ільдэфанса Галчынскага, які доўга не здаваў абяцаны верш для часопіса «Kukułka» — настолькі доўга, што да яго адправілі маладога Мілаша. Той застаў Галчынскага зусім голым — паэт акурат адпачываў на канапе. Мілаш пачаў пытаць яго пра верш, і пазней Галчынскі так адкаментаваў падзею: «Прыходзіў да мяне юнак з нейкімі абуральнымі патрабаваннямі» [11].

Падчас побыту ў Вільні К. І. Галчынскі асабліва пасябраваў з Тэадорам Буйніцкім, супрацоўнічаў з ім на радыё; па яго запрашэнні правёў летнія вакацыі на Браслаўшчыне.

Паэт не супрацоўнічаў доўгі час ні з адной рэдакцыяй ці літаратурным згуртаваннем Вільні. Гэту незалежнасць К. І. Галчынскага Чэслаў Мілаш назаве нават «паказваннем языка тагачасным літаратурным модам». Дарэчы,

у грамадска-культурным штотыднёвіку «Prosto z mostu» (1935, № 20) ён надрукуе верш «Wilno, ulica Niemiecka», у якім прадэманструе іншы, рэальны і антырамантычны вобраз Вільні:

A kryzys kroczy jak śmierć z kosą
przez ulicę Niemiecką i dalej,
gdzie jest więcej rozpaczy niż w morzu korali.

Нямецкая была, па ўспамінах таго ж Мілаша, найбольш вялікагарадской, тлумна-гандлёвай і выключна габрэйскай вуліцай Вільні. Насуперак традыцыі К. І. Галчынскі напіша, што тут «więcej rozpaczy niż piasku w pustyni». Рэальная польская сучаснасць і звязанае з ёй катастрафічнае светаўспрыманне нараджалі «трагічны аптымізм». Летам 1936 года польскі паэт пераехаў зноў пад Варшаву. Своеасаблівым аўтакаментарыем віленскіх уражанняў паэта стане верш «Jubileuszowa rozmowa z Kirą» (1938).

У «Лістках календара» Максіма Танка 21.01.1935 зроблены запіс, дзе чытаем наступнае: «Відаць, зноў гэтымі днямі паеду ў Вільню. Там, чуваць, пачаліся антысеміцкія выступленні эндэкаў, сутычкі, біццё на Нямецкай вуліцы акон, вітрын…» — яшчэ адно пацверджанне значнасці вуліцы Нямецкай [10 с. 30].

Выказваючы свае ўражанні ад побыту ў гэтым горадзе 17.02.1935 Танк напіша: «Неяк хутка прывык я да Вільні. Можа, таму, што вуліцы акраін, дзе я туляюся, мала чым адрозніваюцца ад вясковых. Летам тут можна сустрэць коней, кароў, коз, пачуць, як голасна пераклікаюцца пеўні, восенню гэтыя вуліцы пахнуць сенам, гароднінай, садавінай, зімой — бярозавым ды сасновым дымам з комінаў, а вясной — верхаводкай, капяжамі, балотам. Ды і неба тут не заслонена ніякімі камяніцамі. Здалёк відаць, якія набліжаюцца хмары, навальніцы, як ідуць змены года» [10, с. 33–34], а 17.05.1935 г. наступнае: «Зноў пачаліся з ранку да вечара мае бясконцыя вандроўкі па Вільні — вандроўкі па цікавых старонках гісторыі, розных прыгод і паэзіі. З кожным годам гэты горад усё больш і больш прываблівае да сябе турыстаў, я ўжо не гавару пра натоўпы багамольцаў, якія, пачынаючы з мая, праз усё лета цягнуцца да Вострай Брамы і да Кальварыі. Ідуць не толькі з Віленшчыны, Навагрудчыны, Гродзеншчыны, але і з Літвы і Латвіі…» [10, с. 460].

У вершы «Вільня», напісаным у 1936 годзе, паэт назаве гэты горад родным:

Цішэй, ідзе бульварам варта,
І блудзіць дождж па бруку гразкім,
А дрэвы нешта мне гавораць…
Увесь пакрыт я мокрым снегам…
Ну дзе ж сягоння, родны горад,
Мяне прытуліш без начлегу? [5 с. 98].

А ў вершы, напісаным у 1945 годзе, яшчэ раз падкрэсліць сваю адданасць Вільні:

І хоць юнацтва тут прайшло даўно,
Але, як адгалосак песні шчырай,
прыходзе з успамінамі яно,
Вяртаецца, бы ў час вясенні вырай.
Яно на кожнай вуліцы ўстае,
Гарыць у вераснёвай пазалоце,
Дзе вецер думы першыя мае
Рваў на лукішскім, на калючым дроце…
Я гэты горад знаю з даўніх дзён.
І каб не хвойны пах бацькоўскай хаты,
І каб не нарачанскай хвалі звон
Ля курганоў, ля сосен расахатых, —
Хацеў бы я, каб мой апошні спеў,
Тут, сярод гэтых незабыўных вулак,
Дзе ўпершыню ён гулка празвінеў,
Знайшоў спакой і вечны свой прытулак. [6, с. 33–34].

Вільні прысвечаны таксама вершы «Імглой», «Вільнюс», «Готыка Святой Анны» і шмат іншых. Але найбольш уражвае верш «Прасвет», напісаны ў 1992 годзе. Гэта цёплы лірычны ўспамін пра светлыя хвіліны маладосці:

Ну як з табой памілавацца?!
У мерзлым віленскім пакойчыку
Сядзіць ля грубкі твая маці
Са сваім неадлучным коцікам
І пераматвае пражу,
Як Пенелопа,
вяжа,
вяжа…
— Глянь, Лю, мароз крапчае хіба,
Замаляваў акно малюнкамі…
І мы адаграем на шыбе
Прасвет сваімі пацалункамі.

Слынны польскі пісьменнік К. І. Галчынскі зноў прыехаў у Вільню на свой аўтарскі вечар за некалькі месяцаў да пачатку Першай сусветнай вайны. Гэтаму спадарожнічала паўторнае захапленне гэтым горадам, праўда, ужо з відавочным налётам меланхоліі. Слова «шчасце» саступіла месца слову «горыч». Але бясспрэчна адно: віленскі перыяд быў плённы ў станаўленні творчай індывідуальнасці К. І. Галчынскага, пазначаны няпростымі адносінамі да свету, шырокай паэтычнай настраёвасцю і рэфлексійнасцю.

Пытанне прысутнасці Вільні як матыву і вобраза ў творчасці К. І. Галчынскага і М. Танка пакуль што не атрымала належнай увагі, але пэўная база для высноў і магчымых перспектыў такога даследавання ўжо назапашана.

На падставе вышэйсказанага можна сцвярджаць, што творчае асэнсаванне Вільні ў К. І. Галчынскага і М. Танка шмат у чым супадае ў плане далучэння да літаратурнай традыцыі і яе ўзбагачэння індывідуальна-аўтарскім успрыманнем гэтага стражытнага горада, яго непаўторнай атмасферы, архітэктуры, пейзажаў, жыцця, але і адрозніваецца ідэалагічнымі, светапогляднымі пазіцыямі, эстэтычнымі пошукамі, а таксама прычынамі, якія прывялі кожнага з творцаў у Вільню.

## Літаратура


1. Галчынскі, К. І. Сёмае неба. Выбраныя творы : пер. з польск. / К. І. Галчынскі; укл. і рэд. А. Хадановіч. — Мінск, 2006.
2. Лапінскене, А. Беларуская літаратура ў літоўскім друку міжваеннай Вільні / А. Лапінскене // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе; пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі. — Мінск, 2007.
3. Лойка, А. Роўнакутны трохвугольнік, або Ад Палямона да Максіма Танка / А. Лойка // Дапам. па спецкурсе «Беларуска-руска-польскія літаратурныя сувязі». — Мінск, 2003.
4. Пяцьдзесят чатыры дарогі : Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. — Мінск, 1963.
5. Танк, М. Збор твораў : у 6 т. / М. Танк. — Т. 1. Вершы, паэмы 1930–1945. — Мінск, 1978.
6. Танк, М. Збор твораў : у 6 т. / М. Танк. — Т. 2. Вершы, паэмы 1945–1954. — Мінск, 1978.
7. Танк, М. Збор твораў : у 6 т. / М. Танк. — Т. 3. Вершы, паэмы 1954–1964. — Мінск, 1979.
8. Танк, М. Збор твораў : у 13 т. / М. Танк. — Т. 9. Лісткі календара. Дзённікі (1941–1959). — Мінск, 2009.
9. Gałczyńska, K. Srebrna Natalia / K. Gałczyńska. — Warszawa, 2006.
10. Wspomnienia o K. I. Gałczyńskim. — Warszawa, 1961.
11. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу : http://www.instpol.by/milash/news/194.html. — Дата доступу : 10.01.2012.

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** *(Мінск, Беларусь)*

# НЁМАН ЯК ІНТЭГРАЦЫЙНЫ ФАКТАР КУЛЬТУРНАЙ ПАМЯЦІ Ў ШМАТМОЎНАЙ ПАЭЗІІ БЕЛАРУСІ І ПОЛЬШЧЫ: АД СТАРАЖЫТНАСЦІ ДА СУЧАСНАСЦІ

Тэматыка і сімволіка Нёмана ў сучаснай беларускай культурнай прасторы сталіся трывалым «аспектам “калектыўнай свядомасці”», істотным складнікам грамадскага і мастацкага дыскурсу сённяшняй Беларусі. Пра гэта сведчыць хаця б тое, што прысвечаная вялікай рацэ песня на музыку Несцера Сакалоўскага і верш Анатоля Астрэйкі («Ой Нёман, і песня, і слава народу майго і зямлі…») карыстаецца папулярнасцю не толькі сярод беларусаў. Да адпаведнай высновы прыводзяць водгукі, пакінутыя карыстальнікамі *Internet*, якія пазнаёміліся з гэтым саунд-трэкам у сусветнай інфармацыйнай сетцы.

Падобнае — агульнанацыянальнае — значэнне, як адзначыў Эрнст-Ульрых Пінкерт, набыла сімволіка Рэйна ў паэзіі Генрыха Гейнэ і іншых нямецкіх лірыкаў XIX ст. [11, s. 249]. Калі ж гаварыць пра пачаткі беларускай літаратурнай традыцыі, звязанай з мастацкім увасабленнем Нёмана, то найперш прыгадваецца адзін з нашых класікаў — Якуб Колас — з яго шырока вядомай метафарай — «бацька Нёман». Песнярамі Нёмана па праве можна лічыць таксама Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлю. Аднак тая мастацкая традыцыя, якая спрычынілася да ўспрымання гэтай ракі як ідэнтыфікацыйнага, дзяржаўна-нацыянальнага маркёра, сімвала сваёй краіны, сягае сваімі каранямі ў літаратуру часоў Рэнесансу.

Храналагічна першая згадка Нёмана ў кніжнай паэзіі належала пяру Адама Шротара з Сілезіі. У 1553 г. у Кракаве выйшла з друку яго паэма «De fluvio Memela Lithuaniae» («Песня пра Нёман, раку Літвы»), напісаная элегічным двувершам. На думку В. І. Дарашкевіча, гэты твор «мае вартасць літаратурна-гістарычнага дакумента аб асваенні Нёмана» [2, с. 32]. Сапраўды, у паэме ўхваляецца актыўная, нават падзвіжніцкая дзейнасць перамышльскага харунжага Мікалая Тарла, які займаўся ачысткай Нёмана і рупіўся пра наладжванне судаходства.

Твор адкрываецца паэтычнай прэзентацыяй зямель, якія знаходзяцца ў басейне Віслы. Пачатак «Est locus» («Ёсць месца») часта сустракаецца ў антычных паэтаў, найперш — у Авідзія. Паэт быў зачараваны спевам рачных німфаў, і нарэшце да яго звярнулася сама Вісла. А. Шротар называе яе «бацькам» (*pater*), магчыма, таму, што ў нямецкай мове слова рака (*der Fluß*) — мужчынскага роду. У межах сваёй прамовы Вісла прэзентуе той край, дзе цячэ Нёман, пачынаючы з зямель сённяшняй Беларусі:

Ortus apud Grodnae sinuosus Memela fines,
Saxoso Litauas perluit amne plagas.
Praeterit et Caunae loca mercatoribus apta
Vrbis, et inde tuos Prussia stringit agros[1]. [13, s. 9 н. н.].

Наступную згадку пра раку сустракаем у гераічнай эпапеі Яна Радвана «Radivilias sive De vita et rebus praeclarissime gestis, immortalis memoriae, illustrissimi principis Nicolai Radivili» («Радзівіліяда, або Пра жыццё і подзвігі бессмяротнай памяці, учыненыя з найвялікшай славай, найсвятлейшага князя Мікалая Радзівіла», Вільня, 1592). Першы раз Нёман упамінаецца ў «Радзівіліядзе» ў шэрагу іншых рэк Вялікага Княства Літоўскага, прычым аўтар ужывае антычную назву ракі, вядомую з часоў Клаўдзія Пталямея, — Хрон. Цікава, аднак, што адпаведны радок суправаджае глоса: «*Lit[uanis] Niemen*» — «у літвінаў Нёман» [12, с. 70]. Узгадаўшы на пачатку магутны Барысфен і вірлівую Дуну (Заходнюю Дзвіну), Ян Радван «падыходзіць» да Нёмана праз яго прыток — Вілію:

**Ioannes Radvanus:**
Nec multum minor hoc Litauum liquidissimus amnis
Iglionum veteres campos, et pinguia stringens
Vilia culta secat, Vilnaque sorore recepta,
Fratris in amplexus Chroni decurrit amaeni,
Chroni, quo nobis non est formosior amnis:
[Radivilias I, 71–75; гл.: 12].

Ёсць у Літве і такая рака, што не надта саступіць
Рэкам старым ільёнскім: цячэ паміж ніваў багатых
Вілія чыстая (Вільню вядзе за сабой, як сястрычку),
Лёгка і хутка бяжыць у абдымкі цудоўнага брата
Хрона[2] — вось як для мяне, то ракі прыгажэйшай у свеце[3].

Менавіта Хрон (Нёман) у першую чаргу атаясамліваецца з Вялікім Княствам Літоўскім, выступае, так бы мовіць, паўнамоцным прадстаўніком гэтай дзяржавы. Так, у другой кнізе «Радзівіліяды» ўпамінаюцца абаронцы Лівоніі, сярод іх — «promptique manu Chrononis alumni» («гатовыя да бітвы гадаванцы Хрона») [Radivilias II, 306]. У чацвёртай кнізе, дзе падрабязна апісваецца склад войска Стэфана Баторыя, якое ідзе на Пскоў, Нёман згадваецца двойчы: першы раз — як Хрон («qua Nerys conditur ingens // In vada

[1] Недалёка ад Гродна бярэ пачатак звілісты Мемель, ён цячэ між камяністых берагоў і амывае літоўскія землі; прамінае таксама вобласці горада Коўна, карыснага для купцоў, а адтуль дасягае тваіх зямель, Прусія.

[2] Хрон — антычная назва Нёмана.

[3] Паэтычны пераклад аўтара артыкула.

Chrononis valles diffusa per imas» — «дзе магутны Нярыс, працякаючы нізкімі далінамі, хаваецца ў водах Хрона») [Radivilias IV, 145–146]), другі раз — як Нёман («qui procul hinc flavi Nemenis ad altas / Rura colunt valles» — «тыя, хто абрабляюць зямлю блізу высокіх кручаў жоўтага Нёмана») [Radivilias IV, 164–165]. Па ўсім відаць, што ўзбярэжжа Нёмана паэт апісваў паводле ўласных назіранняў: пра жоўты колер Нёманавых водаў з высокімі кручамі берагоў можа ведаць той, хто бываў, напрыклад, у Гародні.

Уяўленне пра Нёман як сваю, родную, свойскую раку замацоўваецца ў XIX ст. у творчасці паэтаў-рамантыкаў. Так, менавіта ў звароце да «domowej rzeki» Нёмана вылівае Адам Міцкевіч самыя інтымныя свае пачуцці, пакуты сэрца. Сам рытмічны малюнак гэтага санета быццам бы заклікаў перадаць нетаропкі рух рачных хваляў:

Niemnie, domowa rzeko moja! gdzie są wody,
Które niegdyś czerpałem w niemowlęce dłonie,
Na których potem w dzikie pływałem ustronie,
Sercu niespokojnemu szukając ochłody? [10, s. 28].

Бадай, самую вялікую ўвагу да Нёмана праявіў у сваёй літаратурнай творчасці Уладзіслаў Сыракомля. Яго пяру належыць кніга «Нёман ад вытокаў да вусця» (Вільня, 1861), якая складаецца з дзвюх частак: «Манаграфія ракі Нёман ад яго вытокаў да Коўна» і «Успаміны пра падарожжа…» [14]. Яшчэ раней, у 1855 г., паэт прадставіў дасканалае паэтычнае ўвасабленне Нёмана як вобраза-сімвала ва ўступе («Przedśpiewek do litewskiego czytelnika») да сваёй паэмы «Jan z rodu Dęborog»:

Cicho Niemen przebiega rodzinne siedziby,
Nie straszny dla żeglarza i spokojny niby,
Pozwala sibie łodziom deptać całe lato,
Zimą da się w ciemnicę zakuć lodowatą;
Nie stawi groźno czoła — nie rwie się, nie ryczy,
Taki zda się pokorny, taki niewolniczy!
O! Nie wierz tej pokorze — i patrz kiedy łaska,
Gdy się na wiosnę wzburzy i lody potrzaska —
Biada! Ocknął się olbrzym — wie, kto go znieważa:
Gruchoce dom rybaka i statek żeglarza,
Falą zalewa błonie, echem brzmi po borze,
A gdyby jeszcze chwila — świat zniszczyłby może.
Lecz gniew jego przekipiał, już krzywd zapomina…
Ot tak samo jak Niemen i serce Litwina. [15, s. 1–2].

Як гэта ўласціва было паэтам-рамантыкам, У. Сыракомля непасрэдным чынам звязвае прыродную істоту з чалавечай натурай, прычым, так бы мовіць, паводле прынцыпу краёвасці, тутэйшасці. У больш агульным, тыпалагічным

плане гэтае імкненне праз прыём сімвалічнага паралелізму супастаўляць стан ракі са станам чалавечай душы яскрава прадстаўлена і ў фальклоры беларускага народа:

«Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная,
Чаму ж ты няпоўная, з беражкоў няроўная?»
«А як жа мне поўнай быць, з беражкамі роўнай быць:
Янка коніка паіў, Лена ваду чэрпала…»

Цікава, што ўзоры падобнага сімвалічнага паралелізму можна было сустрэць і ў лацінскіх аўтараў. Адзін з такіх прыкладаў прэзентуе гераічная паэма «Караламахія» Хрыстафора Завішы, прысвечаная перамозе гетмана Яна Караля Хадкевіча пад Кірхгольмам у 1605 г. Паэт, у творы якога рэкі Дзвіна, Гаўя і іншыя неаднаразова прамаўляюць, фарміруе мастацкае ўяўленне пра «дух рэк» («fluviis mens» [Carolomachia, 1607, гл.: 8]) і здольнасць гэтага духа спачуваць людзям.

На адпаведным грунце, з апораю як на фальклорную, так і на кніжную паэтычную традыцыю адбывалася далейшая мастацкая распрацоўка вобраза-сімвала Нёмана ў новай беларускай літаратуры. У вершах паэтаў XX ст. гэта найперш — сімвал унутранай знітаванасці з Радзімай, сімвал духоўных вытокаў і духоўнага адраджэння. Успомнім канкрэтны кантэкст, дзе з'яўляецца Нёман у «Новай зямлі» Якуба Коласа:

Хоць я няволяй цяжка змучан
І з родным берагам разлучан,
Ды я душою ажываю,
Як вокам мыслі азіраю
Цябе, мой луг і бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны. [6, с. 8].

Падобным чынам, у вершы «Нёман» Колас прадстаўляе раку як своеасаблівы рухавік душы («Гой ты, Нёман, быстры Нёман, колькі дум ты мне нагнаў!»). Разам з тым, у фінале гэтага верша, таксама як у Адама Шротара і ў Яна Радвана, Нёман выступае своеасаблівым прадстаўніком той зямлі, па якой ён цячэ:

Ты цячэш далёка, знаю,
З веку ў век і з году ў год.
Раскажы ж другому краю,
Як у нас жыве народ. [5].

Бліскучае вырашэнне мастацкага канцэпту Нёмана прапанаваў Анатоль Вярцінскі ў вершы «Купала ідзе да Коласа». Сюжэтная аснова звязана з падарожжам Купалы да Коласа, калі ў адказ на пытанне «А як дабірацца да Смольні?» паэт пачуў параду ісці па-над Нёманам, не збочваючы нідзе.

Так і кіруе Купала.
Купала прыспешвае крок.
Шыр нёманская заззяла,
завабіла здалёк.
Плынь нёманская дыхнула
свежасцю густой,
сустрэла прахожага чула —
з яго імклівай хадой.
Нібы благаслаўляла,
давала сілы і ўздым…
Ідзе, ідзе Купала
нёманскім берагам тым.
Купала да Коласа ідзе,
Купалу Нёман вядзе,
Рака вяла, спрыяла,
бы ведала, што да чаго,
хто ідзе да каго…
Да Коласа — Купала. [1].

Сімвалічна аб’ядноўваючы сабою двух класікаў беларускай літаратуры, вобраз Нёмана ў гэтым вершы набывае сапраўдную глабальнасць у агульнанацыянальным маштабе.

І ўсё ж для большасці сучасных паэтаў Нёман — гэта перадусім Беларусь. «“Краю мой Нёман”, — так Данута Бічэль злучала ў адно радзіму і раку ў зборніку “Загасцінец”», — трапна заўважыў у сваёй рэцэнзіі на апошнюю кнігу паэткі Міхась Скобла [7, с. 61]. У. Караткевіч у двух сваіх патрыятычных вершах узгадвае Нёман кожны раз у моцнай пазіцыі тэкста: або ў пачатку, або ў канцы твора. У гэтым сэнсе «не вытрымлівае канкурэнцыі» нават апеты многімі паэтамі розных краін Дняпро. Параўнаем:

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро. [3, с. 198].

І тады закахалася хмара…
Ў паплавы, ад расы прамяністыя,
І ва ўсю Беларусь маю чыстую,
Ў мары бору, ў палёў абшары.
<…>
І пад птушак зялёны гоман
Нарадзіліся для абшараў, —
Плод каханя бору і хмары, —
Мой Дняпро, і Бяроза, і Нёман. [4].

У стылістыцы другога паэтычнага твора адчуваецца тонка зашыфраваная біблійнасць, імкненне стварыць уласную інтэрпрэтацыю легенды Тварэння. У такім кантэксце заключную гідранімічную трыяду (Дняпро, Бяроза і Нёман) можна супаставіць з хрысціянскай Троіцай (Айцец, Сын і Дух Святы). Нёман у гэтым выпадку, як бачым, будзе займаць месца Духа Святога.

Бедрых Лёвенштайн звяртаў увагу на выключную ролю агульназначных у нацыянальным маштабе мастацкіх сімвалаў, якія ўвасабляюць сабой культурную памяць народа. Яна ж, культурная памяць, у сваю чаргу, «забяспечвае зваротную сувязь грамадства са старажытнымі культурнымі парадыгмамі, з міфамі, якія носяць аб'яднаўчы або раз'яднаўчы характар і адрозніваюцца моцнай апелятыўнасцю». Гэтая культурная памяць «становіцца тым інтэграцыйным фактарам, які напаўняе разрозненае грамадства "мы" — свядомасцю і адмяжоўвае яго вонкі» [9, с. 23]. У шэрагу сімвалаў, рэлевантных для культурнай памяці і культурнай свядомасці беларусаў, Нёман — адзін з самых старажытных і адначасова адзін з самых «адухаўлёных», пра што сведчыць творчасць паэтаў розных эпох і народаў. Невыпадкова Адам Шротар, прадстаўнік «нямецкай культурнай прасторы»[1], вылучыў менавіту гэтую раку як сімвал Вялікага Княства Літоўскага. У плане акцэптавання гэтага змястоўнага сімвала сучасная беларуская паэзія з'яўляецца, на маю думку, годнай правапераемніцай адпаведнай мастацкай традыцыі ўсіх тых дзяржаў, у культурным улонні якіх развівалася шматмоўная кніжная паэзія Беларусі.

## Літаратура


1. Вярцінскі, А. Купала ідзе да Коласа / А. Вярцінскі // [Электронны рэсурс] Рэжым доступу : http://www.vershy.ru/content/kupala-idze-da-kolasa. — Дата доступу : 10.06.2011.
2. Дарашкевіч, В. І. «Песня пра Нёман» Адама Шротара з Сілезіі / В. І. Дарашкевіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1977. — № 2. — С. 30–32.
3. Караткевіч, У. Беларуская песня / У. Караткевіч // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzunegen). — München : Verlag Otto Sagner, 1983. — С. 198–199.
4. Караткевіч, У. І тады закахалася хмара… / У. Караткевіч // [Электронны рэсурс] Рэжым доступу : http://vershy.ru/content/i-tady-zakakhalasya-khmara. Дата доступу : 10.06.2011.
5. Колас Якуб. Нёман / Якуб Колас // [Электронны рэсурс] Рэжым доступу : http://yakubkolas.ru/category/1906. — Дата доступу : 10.06.2011.
6. Колас, Якуб. Новая зямля / Якуб Колас. — Мінск, 1967.


[1] Гэты ўдалы, на нашу думку, тэрмін (deutsche Kulturraum), якім карыстаецца Герман Віганд [гл.: 16] дазваляе пазбегнуць «нязручнасцей» нацыянальнай ідэнтыфікацыі тых ці іншых паэтаў эпохі Рэнесансу.

7. Скобла, М. Мост у краіну Неманіну / М. Скобла // Наша вера. — 2011. — № 1. — С. 61–63.
8. Bojeris, L. Karolomachija : Poema / L. Bojeris; Iš lot. k. vertė B. Kazlauskas; Įvadą, parašė A. Tyla; Pabaigos str., parašė S. Narbutas. — Vilnius, 1991.
9. Loewenstein, B. Symbole, Mythen, nationale Integration : Anmerkungen zum Thema «Historische Feldbeherrschung» / B. Loewenstein // Geschichtliche Mythen in den Literaturen und Kulturen Ostmittel- und Südosteuropas / Hrsg. von E. Behring u. a. — Stuttgart, 1999. — S. 23–31.
10. Mickiewicz, A. Pisma poetyczne/ wydał T. Pini / A. Mickiewicz. — Kraków, 1925.
11. Pinkert, E.-U. Differenz und Identität, Krieger und Sänger. Zur Rheinsymbolik bei Heine und in den deutschen Lyrik des 19. Jahrhunderts / E.-U. Pinkert // Differenz und Identität. Heinrich Heine : (1797–1856); europäische Perspektiven im 19. Jahrhundert / hrsg. Von Alfred Opitz. — Trier, 1998. — S. 249–262.
12. [Radvanus J.] Opera = Jonas Radvanas. Raštai; Iš lotynų kalbos vertė Sigitas Narbutas. — Vilnius, 2009.
13. Schrötherus Silesius, A. De fluvio Memela Lithuaniae, qui cura et industria Generosi ac Clarissimi viri Domini Nicolai Tarło, navibus permeabilis factus est. Carmen elegiacum. Authore Adamo Schröthero Silesio. Cracoviae : Lazarus Andraeae excudebat, 1553.
14. Syrokomla, Wł. Niemen od źródeł do ujścia. 1) Monografija rzeki Niemna od jego źródeł do Kowna przez Władysława Syrokomlę. 2) Pamiętnik podróży żeglarza Litewską wiciną z Kowna do Królewca zredagowany i przerobiony, przez tegoż / Wł. Syrokomla. — Wilno, 1861.
15. Syrokomla, Wł. Urodzony Jan Dęboróg… przez Władysława Syrokomlę. Wydanie drugie / Wł. Syrokomla. — Wilno, 1855.
16. Wiegand, H. Hodoeporica. Studien zur neulateinischen Reisedichtung des deutschen Kulturraums im 16. Jahrhundert / H. Wiegand. — Baden-Baden, 1984.

**Генадзь Праневіч** *(Брэст, Беларусь)*

# ДУХ АЙЧЫНЫ, АБО МІСТЫЦЫЗМ І САКРАЛЬНА-БІБЛІЙНЫ КАНТЭКСТ ВОБРАЗАЎ МАЦІ-ПЛАЧКІ І БЕЛАЙ САРОКІ Ў «ШЛЯХЦІЦЫ ЗАВАЛЬНІ...» Я. БАРШЧЭЎСКАГА

У XIX стагоддзі рамантызм на землях колішняй Рэчы Паспалітай фарміраваўся як літаратурны кірунак са шматлікімі ўнутранымі плынямі, супярэчнасцямі і кантрапунктамі, дыскрэтны і зменлівы ў кожным моманце свайго развіцця.

У 1830-х і першай палове 1840-х гг., адразу пасля паражэння паўстання 1830–1831 гг., у агульнапольскім і краёвым рамантызме поруч з рэвалюцыйнай шляхецкай і фальклорна-этнаграфічнай плынямі пачала актыўна фарміравацца рэлігійна-містычная плынь, якая пераважна жывілася настальгіяй па страчанай дзяржаве, настроямі роспачы і расчаравання ў выніках рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы з рускім царызмам, якія спараджалі ў яе ўдзельнікаў адчуванне канца свету і апошняга Страшнага суда, надзеі на прышэсце Месіі-збавіцеля.

Менавіта на хвалі эсхаталагічных ідэй і месіяністычных чаканняў першай паловы XIX ст., якія адпавядалі грамадскім настроям і памкненням паняволеных народаў былой Рэчы Паспалітай, з’явіліся такія творы, як «Дзяды» і «Кнігі народу польскага і пілігрымства польскага» А. Міцкевіча, «Кароль-Дух» і «Генезіс з Духа. Малітва» Ю. Славацкага, «Успаміны» і «Споведзь пакутніка» Ф. Савіча і інш., зарыентаваныя на містычны змест біблейскіх прароцтваў аб будучыні.

Поруч з раннімі творамі А. Міцкевіча (балады «Рамантычнасць», паэма «Дзяды» і інш.) асабліва значны ўплыў на фарміраванне ў краёвым рамантызме містычнай плыні і ідэй месіянізму аказала багаслоўскае вучэнне А. Тавянскага і дзейнасць арганізаванага ім пры падтрымцы А. Міцкевіча і В. Ваньковіча ў эміграцыі ў Парыжы Кола прыхільнікаў Божай Справы, якое знаходзілася ў апазіцыі да афіцыйнага касцёла і фактычна ўяўляла сабой аб’яднанне неапратэстанцкага кшталту.

На думку Т. Лубеньскага, сустрэча А. Міцкевіча з А. Тавянскім (апошняга аўтар характарызуе як сваяка, земляка, прастачка-прарока ў гусце А. Міцкевіча), які прарочыў у найбліжэйшай будучыні «рай» уваскрэслай, вернутай айчыны, прынесла паэту «мілае пацвярджэнне ўнутранага перакапання, што ўласна Літва ёсць асабліва важная для свету, раз адтуль таксама паходзіць і прыходзіць вястун добрай навіны» [1, с. 220].

У сферы гэтых містычных уплываў і ўяўленняў А. Тавянскага ў 40–50-х гг. XIX ст. развівалася не толькі творчасць Ю. Славацкага, С. Гашчынскага, А. Ходзькі, якія непасрэдна належалі да парыжскага згуртавання, але і пецярбуржца Я. Баршчэўскага, які, знаходзячыся пад моцным уплывам А. Міцкевіча, шмат у чым, відаць, падзяляў таксама філасофію і ідэі новаяўленага прарока. Асабліва, калі ўлічыць, што містыцызм (рэлігійны і народна-паэтычны) з'явіўся важнейшым чыннікам яго ўласнага творчага метаду і светаадчування як арыгінальнага мастака.

Можна дапусціць, што Я. Баршчэўскі пазнаёміўся з А. Тавянскім яшчэ ў 1832 г., калі той наведаў Пецярбург і амаль на працягу цэлага года жыў у горадзе над Нявой, шукаючы прыхільнікаў свайго вучэння ў паўночнай сталіцы. Пазнаёміць іх мог, хутчэй за ўсё, малодшы калега Я. Баршчэўскага па Полацкай езуіцкай акадэміі мастак В. Ваньковіч, які быў блізкім сябрам і адным з найбольш паслядоўных адэптаў вучэння А. Тавянскага і апроч таго добра ведаў пецярбургскія арыстакратычныя салоны і міграцыйныя асяродкі ліцвінскай і польскай моладзі, сярод якіх новаяўлены прарок спадзяваўся знайсці падтрымку сваім ідэям.

Ускосна на гэтую версію працуе таксама наведванне Я. Баршчэўскім у ліпені 1838 г. Віленшчыны, аб чым ён піша ў лісце да Юліі Корсак [2, с. 408–409], ніяк не тлумачачы пры гэтым ні прычыны, ні мэты свайго візіту, які па збегу абставін адбыўся неўзабаве пасля вяртання А. Тавянскага з-за мяжы ў родныя Антошвіцы, дзе ён успадкаеміў бацькаву гаспадарку, вызваліў сваіх сялян-беларусаў (у сваіх успамінах ён называе іх прозвішчы: Федарук, Лушчук і г. д.) ад прыгону, утварыўшы сярод іх своеасаблівую хрысціянскую абшчыну, у побыт і дзейнасць якой паспяхова ўкараняў прынцыпы евангельскага жыцця.

Зрэшты, незалежна ад справядлівасці выказаных намі вышэй здагадак адносна магчымых стасункаў Я. Баршчэўскага з В. Ваньковічам і А. Тавянскім мусім канстатаваць, што ідэі багаслоўскага вучэння А. Тавянскага, часткова выкладзеныя пазней ў апублікаваных у Парыжы «Бяседзе» (1842) і адозве «Да землякоў, вандроўнік, які завяршае вандроўку» (1863), аказалі відавочны ўплыў на мастацкую канцэпцыю такіх твораў А. Баршчэўскага, як «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», аповесцях «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта», «Душа не ў сваім целе» і інш.

Можна пабачыць, што разгорнутыя ў «Шляхціцы Завальні…» Я. Баршчэўскага шматлікія фантастычныя гісторыі аб людзях і чараўніках, панах і д'яблах-чарнакніжніках, вужах, ваўкалаках і волатах надзвычай сугучныя ідэям А. Тавянскага аб нябачных, іерархічна выбудаваных паміж зямлёй і небам, калонах злых і добрых духаў, арэнай барацьбы якіх становяцца людзі і іхнія сэрцы. Вышэйшыя духі займаюць свае месца бліжэй да неба і на нябёсах, а падпарадкаваныя ім ніжэйшыя духі, што знаходзяцца непадалёку ад зямлі,

перасяляюцца ў людзей ці спрабуюць падпарадкаваць іх сабе, завалодаць іх думкамі і кіраваць ўчынкамі. І толькі намаганні людзей, іх воля і выбар могуць устанавіць канчатковы баланс паміж сіламі дабра і зла.

Прыгадаем аб некалькіх такіх метамарфозах, звязаных з «перасяленнем» духаў, якія адбываюцца з героем навелы-прытчы «Ваўкалак» сялянскім дзецюком Маркам, які становіцца страшным ваўкалакам, помсціць людзям і пакутуе ў аблічча звера, а пасля пакаяўшыся, перамогшы ў сабе страшную пачвару, уцелесняецца ў сувымерныя з яго духоўным подзвігам парэшткі магутнага волата, каб зноў стаць чалавекам:

«Волат загадвае мне адкапаць магілу і дастаць адтуль мерцвяка. Ахоплены страхам, выконваю ўсе Волатавы загады, дастаю з зямлі велізарны шкілет.

— Гэта будзе тваё цела, — гаворыць мне велікан. Мусіш плакаць у ім, пакуль не паклічуць цябе да новага жыцця…

Я дрыжаў увесь ад страху, прасіў, каб даў мне спакой, але Волат моцна штурхнуў мяне, і я ўпаў на велізарныя грудзі шкілета, а разам з ім — у яму. Барукаючыся са смерцю, я прачнуўся.

Бачу: я чалавек» [2, с. 135].

Не паддаецца чарам і спакусам д’ябла, зберагае сваю чыстую душу і вернасць хрысціянскім запаветам Агапка, гераіня «Апавядання першага. Пра чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем», вымушаная па волі пана выйсці замуж за панскага паслугача і «злога чалавека» Карпа, які прадаў сваю душу д’яблу. Пры гэтым і Карпа, і ягоны пан, не кажучы пра чарнакніжніка, выступаюць тут хаўруснікамі цёмных духаў, якія сумесна робяць свае чорныя справы на зямлі:

«Апоўначы наш пан, той госць шатанскі і лёкай Карпа ўзялі ў аборы чорнага казла, завялі яго на могілкі. Кажуць, што выкапалі яны з магілы наўца, чарнакніжнік надзеў на сябе нябожчыкаву чамарку, забіў казла і яго мясам і крывёю адпраўляў нейкія страшныя ахвяры. А што там дзеялася тае начы, нельга ўспомніць без страху. Казалі, што нейкія страшыдлы запоўнілі ўсё неба, нейкія звяры, падобныя да мядзведзяў, дзікоў і ваўкоў, бегалі вакол, равучы так, што пан і Карпа ад страху знепрытомнелі і пападалі на зямлю» [2, с. 96].

Паводле гэтага ж прынцыпу ў апавяданні «Плачка» ўцелясняецца ў аблічча сялянскай сіраты-прыгажуні пакутны дух страчанай радзімы-маці, які то злучаецца з прыхільным да яе чулым сэрцам простага люду, то раптоўна зноў знікае ў недаступных нябёсах, сутыкнуўшыся з ачарсцвелымі душамі хцівых мясцовых магнатаў і багацеяў, якія дбаюць толькі пра багацце і золата.

У гэтай сувязі варта заўважыць, што вобраз Плачкі ствараўся Я. Баршчэўскім у атмасферы пошукаў краёвымі беларускімі і польскімі рамантыкамі шляхоў адраджэння радзімы, прасякнутых духам містыцызму і месіянства канца XVIII — першай паловы XIX стст., калі ўвесь хрысціянскі свет жыў чаканнем спаўнення прароцтваў Данііла і Яна Багаслова аб пачатку Божага

Суда на небе над сусветнымі сіламі зла і сатаны і адраджэннем царквы Хрыстовай і сапраўднай веры ў Бога.

Паводленазіранняў вучоных-экзэгетаў, якія глыбока вывучалі сэнс і прызначэнне «Кнігі прарока Данііла» і «Адкрыцця Яна Багаслова», сімвалічным знакам пачатку Суда на небе і наступлення новай эпохі стаў арышт напалеонаўскім генералам Барцье ў 1798 г. рымскага папы Пія VI, а прароцтва Яна Багаслова аб Судзе Божым і ягоны заклік да пакаяння перад Богам і прызнанні яго Тварцом неба і зямлі [3, Адкрыц.: 14:7; с. 371] у гістарычным часе адносяцца да 1844 г. Як лічыць сучасны вучоны-тэолаг А. Балотнікаў, «гэта была вестка анёла, які нёс вечнае Евангелле ўсім народам. Суд Божы на небе супроць сатанінскай рэлігійна-палітычнай сістэмы пачаўся і ў народа Божага з'явілася ўнікальная магчымасць свабодна прапаведаваць Евангелле, не баючыся праследаванняў» [4, с. 173].

Варта звярнуць увагу і на тое, што пачатак публікацыі першых дзвюх кніжак «Шляхціца Завальні…», дзе аўтар упершыню вывеў вобраз Плачкі, таксама прыпадае на 1844 г., г. зн. сімвалічна супадае з містычным часам пачатку Божага Суда на небе над сатанінскай рэлігійна-палітычнай сістэмай, прадказаным у прароцтвах Яна Багаслова як час завяршэння пакутаў Хрыстовай царквы, праследаванай у пустыні цмокам, і Божага Суда над ілжэ-Царквой — Вавілонам-блудадзейкай, нахняемай Люцыферам.

Згадаем, што тая ж самая лічба — 44 — раней фігуравала ў «Дзядах» А. Міцкевіча, а пазней і ў прароцтвах А. Тавянскага як час прышэсця Збавіцеля і вызвалення Айчыны.

У «Дзядах» А. Міцкевіча — гэта новы Хрыстос-Месія, ацалелы ад праследавання і крывавай разні нявінных немаўлят, учыненай паўночным царом Ірадам:

> Patrz! — ha! — to dziecię uszło — rośnie — to obrońca!
> Wskrzesiciel narodu, —
> Z matki obcej; krew jego dawne bohatery,
> A imię jego będzie czterdzieście i cztery. [5, s. 208–209].

А. Тавянскі не толькі ўспрыняў гэтую ідэю А. Міцкевіча, але і даў ёй уласную трактоўку, трансфармаваўшы постаць Збавіцеля паводле вызначаных ім эпох хрысціянства ў калону выдатных дзеячаў, палкаводцаў, прарокаў і праваднікоў Божага Духу, уключаючы Т. Касцюшку, Напалеона і інш., што працягнулася ад Хрыста да мужа-44, чыё вучэнне і духоўны прыклад адкрыюць радзіме шлях да збаўлення Айчыны і вызвалення ад тыраніі і рабства ўсіх народаў свету.

Пры гэтым асаблівую місію духоўнай ахвяры і адкупіцелькі-пакутніцы за людскія грахі чалавецтва (прыгадаем створаны А. Міцкевічам у «Дзядах» вобраз Польшчы як Хрыста народаў) А. Тавянскі і А. Міцкевіч адводзілі ця-

пер найперш сваёй радзіме — гістарычнай Літве і народам Вялікага Княства Літоўскага, што выявілася і ў сімваліцы прызначанага сябрам Кола Божай Справы ў Парыжы эмблемы-медальёна з выявай Віленскай Божай Маткі Вастрабрамскай. Дарэчы, распрацаванага і выкананага паводле ўласнага эскіза мастака В. Ваньковіча — аднаго з трох духоўных лідараў і натхняльнікаў апазіцыйнага да афіцыйнага касцёла рэлігійна-грамадскага згуртавання.

Ю. Калленбах са спасылкай на публікацыю Яўстаха Янушкевіча ў «Dzienniku Narodowym» (1841) так перадае змест выступлення А. Тавянскага 27 верасня 1841 г. у парыжскім саборы Notr-Dam, дзе прарок упершыню абвесціў аб хуткім цудзе вызвалення айчыны: «Гаварыў 40 хвілін з вялікай мудрасцю і натхненнем, паведаміў, што хвіліна канца нашых і Айчыны пакут набліжаецца, што справа адраджэння чалавецтва ўжо разгледжана і вырашана на нябёсах, сыходзіць на зямлю і даверана людзям, якіх Боскі Промысел абірае за сваю прыладу, і што хутка наступяць часы, калі Евангелле стане законам, абавязковым для людскага роду» [6, s. 23].

Важны аспект поглядаў ліцвінскага містыка і багаслова раскрывае польскі даследчык Юзаф Траццяк, які адзначае, што паколькі А. Тавянскі верыў, «што страта незалежнасці і пакуты, якія зазналі палякі, з’яўляюцца Божай карай за іх правіны, значыць не ў збройным паўстанні бачыў шлях да выратавання Айчыны, але ў маральным ўдасканаленні паводле евангелічных прынцыпаў. Вызваленне айчыны павінна было адбыцца само праз сябе, як вынік маральнага адраджэння народа» [7, s. 464].

Зазначым, што адраджэнская філасофія і сам лад думак А. Тавянскага аказаліся надзвычай сугучнымі поглядам Я. Баршчэўскага, які ў лісце да Ю. Корсак ад 2 жніўня 1839 г. пісаў сваёй адрасатцы: «Шаноўная сястра! Дасылаю абяцаную кнігу Бібліі — Новы Запавет. Адна гэтая кніга магла б служыць свету з большай карысцю, чым найаграмаднейшая бібліятэка, калі б толькі людзі хацелі шукаць у ёй праўды; гэтая кніга — крыніца сапраўднае мудрасці, яна вучыць пазнаваць свае абавязкі перад бліжнім і Богам. О, калі б свет уважліва чытаў яе, дык закончыліся б няшчасці народаў і ганенні. Закон Збавіцеля — гэта адзінае, што можа прынесці мір свету» [2, с. 415].

Падобны падыход у значнай ступені вызначыў і мастацкую канцэпцыю вобраза маці-Плачкі ў «Шляхціцы Завальні» Я. Баршчэўскага, які таксама звязвае пакутны лёс радзімы з духоўнай недасканаласцю людзей. І найперш з маральнай аблудай прадстаўнікоў пануючых класаў, якія забыліся на людское сумленне і слова Божае. Невыпадкова Плачка наракае на свой лёс і заліваецца слязьмі, а тыя, хто набліжаўся да яе, чулі такія словы: «Няма каму даверыць таямніцу сэрца майго!» [2, с. 165].

Важнае месца ў багаслоўскай канцэпцыі А. Тавянскага, выкладзенай у «Бяседзе», займае таксама ягонае разуменне дачыненняў і сакральнай ролі Хрыста і Божай Маці Дзевы Марыі ў іх місіі ўратавання свету. Паводле пра-

рока, «Хрыстос выратаваў свет, бо прынёс на свет нябесны агонь любові і ахвяры, агонь, які выпраменьваючы Ласку Божую, набліжае неба да зямлі, разганяе цемру і перамагае зло, што пануе на зямлі. Маці Божая сцяла галаву змею, бо была саўдзельніцай у той справе набліжэння неба, перамогі над злом і выратавання свету» [8, s. 474].

Мажліва, што той сэнсавы акцэнт, які А. Тавянскі робіць на мацярынстве Дзевы Марыі як правадніцы Божага Духу і яго матэрыялізацыі ў зямным жыцці ў асобе Хрыста, спрычыніўся да таго, што пісьменнік істотна мадыфікаваў ідэйна-выяўленчую аснову вобраза радзімы-адкупіцелькі, звязаўшы яе трагедыю і будучы трыумф адраджэння не з традыцыйнай для польскага рамантызму евангельскай легендай аб смерці і ўваскрэсенні Хрыста, але з містычнымі прароцтвамі і персанажамі «Адкрыцця Яна Багаслова», дзе постаць «жанчыны ў сонцы», «якая нарадзіла дзіця мужчынскага полу, якому належыць пасвіць усе народы жазлом жалезным; і ўзята было дзіця да Бога і да трона Ягонага» [3, Адкрыц., XII :5; с. 369], займае адно з важнейшых месцаў у вышэйшай іерархіі светлых і цёмных духаў, прадстаўленых у біблійным творы.

Паводле логікі, якой кіраваўся заангажаваны ў вучэнне А. Тавянскага і такіх еўрапейскіх містыкаў-багасловаў, як француз П'ер Мішэль Вінтрас, немец Карл Экартсгаўзен і інш., Я. Баршчэўскі звязваў лёс радзімы і будучыню беларускага люду з зыходам супрацьстаяння на зямлі двух містычных нябесных духаў, што прадстаўляюць сілы дабра і зла — «жанчыны ў сонцы», якую Бог схаваў на зямлі і даў ёй арліныя крылы, каб ратавацца і ратаваць свет ад праследавання д'ябла і нячыстай сілы; і Цмока, што ўвасабляе гэтыя цёмныя сілы, сусветнае зло і карыслівасць, што прагнуць уладарыць над светам і людзьмі.

Маці-Плачка, якая выступае ў «Шляхціцы Завальні» як светлы дух дабра і Божай Міласэрнасці, нябеснае звеставанне адроджанай айчыны, таксама мусіць уцялесніцца і здзейсніцца ў зямной рэальнасці праз людзей, напоўніўшы іх сэрцы пабожнасцю і міласэрнасцю, любоўю і ласкаю да Бога і бліжняга свайго. Падобна да таго, як Сын Божы Хрыстос сышоў на зямлю, каб уласнай ахвярай змяніць гэты свет і людзей, надаць новы сэнс і змест іх зямному існаванню, так і Плачка выконвае ў творы Я. Баршчэўскага сваю адкупіцельную місію, праліваючы слёзы і молячыся за сваіх страчаных дзяцей, пакутуючы за недасканалы свет і прыхільных да яе сумленных і чыстых душой людзей, змушаных цярпець над сабою ўладу і здзек жорсткіх паноў-прыгнятальнікаў, злых духаў-нячысцікаў, фармазонаў і чарнакніжнікаў.

Усё гэта надзвычай зближае вобраз маці-Плачкі з вобразам «жанчыны ў сонцы» з «Адкрыцця Яна Багаслова», разлучанай з дзіцем, змушанай ахвяраваць дзеля яго ўратавання сваёй мацярынскай любоўю, праследаванай на небе і зямлі цмокам:

«І раз’юшыўся цмок на жанчыну і пайшоў, каб уступіць у бойку з астатнімі ад насеньня яе, якія захоўваюць запаведзі Божыя і маюць сведчаньне Ісуса Хрыста» [3, Адкрыц., XII : 17; с. 370].

У гэтай сувязі варта звярнуць увагу на таямнічую прыроду і містычныя рысы Плачкі, яе сакральную сувязь з Богам, здольнасць тварыць цуды, нечакана з’яўляцца і гэтак жа таямніча знікаць:

«Цьмяныя здагадкі хадзілі па наваколлі. Усюды гаварылі пра яе толькі як пра дзіўную камету, што з’яўляецца на небе ў выглядзе вогненнае мятлы. Хацелі даведацца, дзе яна жыве і адкуль прыходзіць, але ўсё марна. Нібы які дух, апускалася яна на зямлю і знікала ў паветры» [2, с. 167–168]. Нам ужо даводзілася пісаць аб залежнасці створанага Я. Баршчэўскім вобраза Плачкі ад выявы іконы Божай Маці Вастрабрамскай, у абліччы якой паядналіся рысы «жанчыны ў сонцы і месяцы» з «Адкрыцця Яна Багаслова» і натурнага партрэта каралевы польскай і апошняй вялікай княгіні літоўскай Барбары Радзівіл [9, с. 87–98].

У кантэксце містычнага вучэння А. Тавянскага аб адраджэнні зняволенай айчыны варта звярнуць увагу на тое, што абодва сакральныя чыннікі Вастрабрамскай іконы маюць самае непасрэднае дачыненне да гісторыі і гістарычнага лёсу ВКЛ.

Так, напрыклад, выява Божай Маці з дзіцем на руках у атачэнні сонца і месяца, якая сімвалізуе нябеснае заступніцтва і Божую апеку радзімы, змяшчалася разам з Пагоняй на харугвах ВКЛ [10, s. 273–274]. Падабенства ж выявы Божай Маці да партрэта Барбары Радзівіл, як і адсутнасць дзіцяці на руках мадонны на іконе Божай Маці Вастрабрамскай, пазней пачалі ўспрымацца як сімвал гістарычнай драмы і нацыянальна-дзяржаўнага сіроцтва ліцвінаў-беларусаў, якія праз акт Люблінскай уніі 1569 г. спярша страцілі сваю палітычную незалежнасць, а пасля цалкам і саму дзяржаву, знішчаную ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай.

Варта падкрэсліць, што мысленне падобнымі алегорыка-сімвалічнымі дэталямі, сакральнымі і гістарычнымі кантэкстамі ўвогуле складае адну з найважнейшых асаблівасцей мастацкага стылю і творчага метаду Я. Баршчэўскага, які не толькі валодаў глыбінным адчуваннем айчыннай гісторыі, але ў адпаведнасці з уласным тэакратычным разуменнем законаў развіцця і мэты свету надаваў ёй сакральны сэнс.

Так, у лісце пісьменніка да Ю. Корсак ад 6 кастрычніка 1839 г. чытаем: «Часам разважаю пра даўно мінулыя стагоддзі ды, выбіраючы тое, што адпавядае маім думкам, занатоўваю на паперы» [2, с. 417].

Аб тым, што адпаведныя гістарычныя паралелі, суаднясенні і сакральныя вобразныя асацыяцыі сапраўды мелі месца ў творчым метадзе Я. Баршчэўскага выразна сведчыць, напрыклад, «Апавяданне першае. Пра

чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем», гераіня якога Агапка моліцца да іконы Божай Маці Сірацінскай.

Ва ўборы сялянскай сіраты з'яўляецца ў ваколіцах Полацка і розных кутках Беларусі і сама маці-Плачка, амбівалентны вобраз якой сумяшчае і акумулюе ў выглядзе алегарычных праекцый і алюзій абодва планы свайго існавання: зямны — гістарычны і нябесны — біблійна-сакральны.

Да сказанага трэба дадаць, што намаляваныя аўтарам фантастычна-казачныя карціны жыцця краю ў цэлым даволі дакладна накладваюцца на рэальную гісторыю Беларусі і ВКЛ перыяду трох падзелаў Рэчы Паспалітай і пазнейшых паўстанняў, уключаючы аўтарскія рэтраспекцыі і звароты да часоў росквіту і ўпадку Літвы як самастойнай і незалежнай дзяржавы.

Нездарма рамантычная перадгісторыя Беларусі-Плачкі цесна звязана ў творы з закапанымі ў зямлю скарбамі, залатымі і срэбранымі дукатамі і талерамі, «на якіх з аднаго боку былі выявы каралёў, а з другога — Пагоня» [2, с. 166]. Імі (як бясцэннай памяткай аб страчанай Айчыне, якая чакае сваё ўваскрэсенне) адорвае Плачка сваіх занядбаных і абяздоленых, але чыстых душою і сэрцам і нашчадкаў.

Як згадку аб слаўных і гераічных часах, што перажыла радзіма пад знакам Пагоні ў часы ВКЛ, варта разглядаць і прывід Волата-рыцара ў жалезных даспехах, з узнятым мячом, які пагражае помстай здраднікам і адшчапенцам, што выракліся радзімы, а традыцыі высакароднага рыцарскага служэння айчыне прамянялі на бляск золата, пагоню за багаццем і нажывай:

«Нікчэмныя людзі! Золату і срэбру прадалі вы свае душы. Думаючы адно пра багацце, вы зняважылі прах героя, які слаўна скончыў тут сваё жыццё. Прыйдзе час падняцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваны перад усім светам! Азваўся ў хмарах гром, і волат знік. Страх апанаваў іх душы. Забылі на пагорку рапіру і свае рыдлёўкі; забылі, якая дарога вядзе да горада; беглі праз лугі і палеткі, і здавалася ім, што той Волат з мячом у руках доўга гнаўся за імі» [2, с. 171].

Разгортваючы сюжэт апавядання паводле сімвалаў, адлюстраваных у дзяржаўным гербе «Пагоня» і на харугвах ВКЛ, Я. Баршчэўскі не толькі імкнуўся абудзіць у сучаснікаў памяць аб былой рыцарскай славе і духоўных каштоўнасцях страчанай радзімы, але засведчыць і сцвердзіць ідэю дзяржаўна-палітычнай і гісторыка-культурнай пераемнасці паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Беларуссю, сцвердзіўшы апошнюю ў якасці прамой спадкаемніцы гістарычных і духоўных традыцый нашай сярэднявечнай дзяржавы.

Непасрэдна гэтая ідэя была выяўлена ўжо ў самой антуражнай аснове вобраза маці-Плачкі, якая блукае па руінах разбураных замкаў, месцах былых бітваў, ускладае вянкі і шчыра моліцца за сваіх памерлых дзецях; якую бачылі заснуўшай ў падземным палацы, у лёхах якога несуцешная ў жальбе і смутку кабета вартавала памяткі былой славы: зброю і воінскія даспехі рыцараў,

незлічоныя скарбы ў золаце і срэбры, прызначаныя для тых, «хто ў іншым чалавеку бачыць бліжняга свайго і брата», хто сэрцам спазнаў цуд радзімы як найвялікшай духоўнай святыні.

Аднак праекцыя на грамадзянскую, палітычную гісторыю краю часоў ВКЛ здаецца сёння недастатковай для поўнага раскрыцця зместу вобраза маці-Плачкі ў Я. Баршчэўскага, паколькі ў створаным пісьменнікам вобразе, як на палотнах даўнейшых мастакоў, адкрываецца адразу некалькі напластаванняў, аб'яднаных агульным архетыпам жанчыны і маці-Плачкі.

На гэтай падставе лёгка ўбачыць залежнасць створанага пісьменнікам вобраза Плачкі як ад шматлікіх фальклорных увасабленняў, так і ад вобразаў сусветнай і айчыннай літаратуры, пачынаючы ад біблійнай Суламіты, Рахілі і Божай Маці Дзевы Марыі, гістарычных постацяў Рагнеды, Еўфрасінні Полацкай, Барбары Радзівіл, уключаючы ў гэты спіс і алегарычны вобраз маці-святой праваслаўнай царквы ў «Трэнасе» М. Сматрыцкага, якім асабліва цікавіўся Я. Баршчэўскі [9, с. 87–98; 11, с. 15–21].

Не выклікае сумнення сувязь вобраза маці-Плачкі ў «Шляхціцы Завальні» з біблійна-хрысціянскім архетыпам Дзевы Марыі, аб чым сведчыць яе містычна-трансцэндэнтная сутнасць — здольнасць нечакана з'яўляцца і гэтак жа нечакана знікаць, тварыць цуды і г. д. Аднак ёсць і адрозненні: напрыклад, калі Дзева Марыя ўзятая на неба, «каб быць хадатайкай за увесь свет, асабліва за верных, тых, хто моліцца ёй і звяртаецца да яе па дапамогу» [12, с. 672], дык Плачка *сама* ўзносіць малітвы да неба за сваіх памерлых, занядбаных альбо страчаных дзяцей. Ды і апякуецца яна выключна духоўнай прасторай і жыхарамі Беларусі.

Гэта дае падставы думаць, што ў містычным вобразе маці-Плачкі, якая часцей за ўсё з'яўляецца на месцах былых баёў, руінах замкаў, у пустых касцёлах і капліцах, плача па сваіх памерлых, занядбаных альбо страчаных дзецях, імпліцытна выяўлены не толькі грамадзянскі сум па ахвярах шляхецкіх паўстанняў і бунтаў канца XVIII — пачатку XIX стст. (Т. Касцюшкі, 1830–31 гг. і інш.) супраць расійскага самадзяржаўя, але і трагедыя знішчанай уніяцкай царквы — духоўнай маці і апякункі пераважнай большасці насельніцтва Беларусі, незадоўга перад тым, у 1839 г., гвалтоўна вернутых да праваслаўя.

Для такога меркавання маецца цэлы шэраг падстаў. Па некаторых звестках, уніяцкім святаром быў бацька пісьменніка. З Віленскай і Полацка-Віцебскай епархіяй цесна звязаны палемічная творчасць і жыццёвы лёс двух буйнейшых знакавых постацей пачатку XVII ст. у зацятай палемічнай спрэчцы і змаганні праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў, імёны якіх неадрыўныя ад гісторыі ўніяцтва — Мялеція Сматрыцкага і Язафата Кунцэвіча. Сам Я. Баршчэўскі, як вядома, атрымаў адукацыю ў Полацкай духоўнай акадэміі, у езуітаў — асноўных натхняльнікаў Брэсцкай царкоўнай уніі, а ў далейшым апекуноў уніяцкай царквы на Беларусі — і, безумоўна, быў цудоўна дасведчаны ў

гісторыі дачыненняў уніяцкай і іншых хрысціянскіх цэркваў на Беларусі, добра знаёмы з творамі царкоўна-рэлігійнай палемікі XVI–XVII стст.

Варта звярнуць увагу таксама і на несумненную гістарычную парадыгму, што злучае абодва творы, ставіць іх ў выразны гістарычны і асацыятыўна-сэнсавы кантэкст: «Трэнас» М. Сматрыцкага, як вядома, з'явіўся ў часы гвалтоўнага ўсталявання уніі; «Шляхціц Завальня» — у часы знішчэння ўніяцкай царквы і вяртання ўніятаў (зноў жа — гвалтоўнага) на праваслаўных, калі ўжо вернікі-ўніяты «з абурэннем сустрэлі так званае "ўз'яднанне": бачылі ў ім вялікую несправядлівасць — лічылі, што іх вера прададзена, а пастыры здрадзілі. Іхні пратэст падаўляўся адміністрацыйнымі мерамі, а, бывала, і карнымі аперацыямі» [13, с. 21].

Але, бадай што, найбольш пераканаўча гэтая версія пацвярджаецца змястоўнай мастацкай арыентацыяй аўтара «Шляхціца Завальні» на традыцыі знакамітага твора М. Сматрыцкага перыяду антыўніяцкай палемікі, у якім пакінутая сваёй паствай і святарамі святая праваслаўная царква таксама прадстаўлена ў вобразе маці-Плачкі, якая наракае на сваіх дзецей альбо плача па іх, спрабуе абудзіць сумленне сваіх багатых і заможных апекуноў:

«Дзяцей нарадзіла і выхавала, а яны адракліся ад мяне і сталі прычынай майго заняпаду. Вось чаму я сяджу адна цяпер, падобна той удаве, якая з гора лементуе. Яшчэ нядаўна гаспадыня ўсходу і захаду сонца, паўднёвых і паўночных краёў, цяпер дзень і ноч плачу, а слёзы цякуць па шчаках маіх як патокі рачныя і няма каму мяне супакоіць: усе ад мяне паўцякалі, усе пагарджаюць мною» [14, с. 264].

У сувязі з гэтым можна правесці паралель паміж заклікам маці-святой праваслаўнай царквы да сарака сямі найбольш знатных праваслаўных княжацкіх родаў вярнуцца ў лона царквы ў «Трэнасе» і сціплым напамінкам маці-Плачкі валадарам краю аб сваёй сціплай персоне ў Я. Баршчэўскага:

«Калі некаторыя нашы багатыя і вучоныя паны падарожнічаюць у шыкоўных фаэтонах або на ловах гойсаюць з ганчакамі па лясах, гарах і пустках, гэтая Плачка часта сустракае іх, нібыта сірата, ва ўбогім сялянскім уборы, моўчкі падымае на іх блакітныя, слязьмі залітыя вочы, быццам просячы ў іх літасці, але з гэтых паноў ніхто на яе не зважае» [2, с. 172].

Увядзенне Я. Баршчэўскім ў твор пры распрацоўцы вобраза радзімы кантрастных матываў роднай маці і ілжэматкі, трэба думаць, таксама звязана з асваеннем эстэтычнага вопыту «Трэнаса», дзе гэтыя матывы вызначаюць асноўны сэнс ідэйнага супрацьстаяння паміж праваслаўнай царквой-радзімай і касцёлам. Пра тое, прынамсі, выразна сведчыць характар жальбы і нараканняў маці-праваслаўнай царквы на свой няшчасны лёс:

«Сыны і дочкі мае, якіх я нарадзіла і выхавала, пакінулі мяне і пайшлі за той, якая імі не пакутавала, каб досыць насыціцца ад яе тлустасці» [14, с. 265].

Калі характар мастацкага ўвасаблення вобраза Плачкі досыць выразна паказвае на яго залежнасць ад свайго літаратурнага прататыпа ў «Трэнасе», дык вобраз ілжэматкі (Белая Сарока), якая зваблівае і спакушае тутэйшых жыхароў абяцанкамі даброт, грашыма і багаццем, не мае сабе ў творы М. Сматрыцкага такой жа відавочнай і бясспрэчнай апоры. У пошуку алегарычнага займенніка аўтар відавочна зыходзіў тут найперш з канкрэтных рыс характару і партрэтнага падабенства да зусім пэўнай гістарычнай асобы, у фантастычна-казачным абліччы якой некаторыя даследчыкі не без падстаў пазнаюць рускую імператрыцу Кацярыну II [2, с. 22]:

«Толькі сказаў гэта — залятае ў вакно сарока, большая і зграбнейшая за іншых сарок, пёры на ёй белыя, як снег, вочы чорныя. Апусцілася на стол. Здзіўлены гаспадар паглядае на жвавыя і імклівыя рухі прыгожае птушкі. Зляцела на падлогу — і ў міг вока стаіць пасярод пакоя кабета чароўнае красы: рост высокі, твар ружовы, вочы вялікія, поўныя прывабнасці, на галаве і на ўсім адзенні зіхацяць дыяменты і каштоўныя камяні» [2, с. 210].

Яшчэ больш набліжае да арыгінала і надае яму аўтэнтычнасці характарыстыка, якую дае сваёй гаспадыні пасланец Белае Сарокі — падобны да чорта «чалавек на танюсенькіх нагах, худы, вочы круглыя, дробным і вострым тварам падобны да птушкі», які расхвальвае перад Скамарохам сваю гаспадыню:

«О! Белая сарока мудрасцю свет здзіўляе, яе твар — цуд прыгажосці, постаць высокая, велічная; адзенне з дарагіх дыяментаў і перлаў, жыве ў палацы, якога ты яшчэ ніколі бачыў, ёй кланяюцца багатыя паны і мудрыя галовы, духі па яе загадзе здабываюць скарбы з зямлі і мора, дзікіх мядзведзяў прывучыла да сябе, і тыя, як пакорлівыя сабакі, заўсёды гатовыя ёй служыць. Словам, яна мацнейшая за ўсіх чарнакніжнікаў. Толькі часам убіраецца ў пёры белае птушкі, калі хоча бачыць тых, хто спрыяе ёй; і іх узнагароджвае, узбагачае, робіць шчаслівымі» [2, с. 207].

Няцяжка ўбачыць, што вобразы Плачкі і Белай Сарокі ствараюцца і падаюцца тут як вобразы-антыподы: калі Белая Сарока апранута ў адзенне з дыяментаў і каштоўных каменняў, дык Плачка, як бы наследуючы лёс няшчаснай маці-царквы ў «Трэнасе», распранутай аблуднымі дзецьмі з яе каралеўска-княжацкіх шатаў на ганьбу і асмяянне ўсяму свету, прадстае ў вопратцы беднай сялянскай сіраты; калі Белая Сарока балюе са Скамарохам, п’е віно ды вярбуе сабе іншых прыхільнікаў у краі, а яе пасланец цмок цягае ім па начах мяхі з золатам, каб зрабіць іх адданымі слугамі сваёй гаспадыні, дык Плачка пралівае ў гэты час слёзы па загінуўшых для радзімы дзецяхадшчапенцах:

«Вартаўнікі расказваюць, што чулі яны ўначы, як па вёсках вылі сабакі, рыкала жывёла, і бачылі, *як з поўначы* (вылучана намі. — *Л. П.*), шугаючы полымем, ляцеў цмок і іскры сыпаліся з яго; пэўна нёс золата для нейкае

душы, што пабраталася з д’яблам, а аканом казаў, што некаторыя бачылі кабету, якая плакала на цвінтары, ды так, што яе голас наводзіў на ўсіх трывогу і смутак» [2, с. 211].

Напышлівай, брутальна-панскай уладарнай красе Белай Сарокі, у абліччы якой аўтар падкрэслівае вульгарна-цялесныя, фізіялагічныя рысы прыгажосці (высокі рост, ружовы твар, вялікія вочы), пісьменнік супрацьпастаўляе сціплую духоўную красу, дабрыню і міласэрнасць Плачкі. Прынцып рамантычнай ідэалізацыі гераіні ажыццяўляецца тут не паводле фармальнага, вонкавага кантрасту прыгожага і брыдкага (бо якраз тут брыдкае ў асобе Белай Сарокі імкнецца камуфляваць сябе пад прыгожае), а мае пад сабой найперш маральны, духоўны крытэрый і змест — тыя хрысціянскія гуманістычныя каштоўнасці альбо, інакш кажучы, «духоўныя вочы», якія і дазваляюць адрозніць праўду ад фальшу, чысціню ад бруду, сапраўдную маці-радзіму ад ілжэматкі.

У цэлым карціны жыцця і свету разгортваюцца Я. Баршчэўскім у рамках традыцыйнай біблійна-хрысціянскай дуалістычнай канцэпцыі свету, згодна з якой існуюць два «грады»: «зямны, да якога чалавек належыць паводле фізічнага нараджэння і якому належыць служыць у межах, што вызначаюцца сумленнем, і другі, *нябесная айчына* (вылучана намі. — *Л. П.*), да якой атрымліваюць доступ дзякуючы новаму нараджэнню і які адзін заслугоўвае поўнага служэння і поўнай адданасці» [15, с. 44].

Плачка ў творы Я. Баршчэўскага якраз і ёсць увасабленне гэтай сакральнай «*нябеснай айчыны*», чый воблік адкрываецца толькі людзям вялікай душы і сэрца, што прайшлі праз вялікія цярпенні і пакуты, надзеленым «духоўным зрокам», здольнасцю бачыць і спасцігаць свет невідочнага, рабіць міласэрныя ўчынкі, жыць паводле вышэйшых чалавечых і боскіх цнотаў.

Для рамантыка Я. Баршчэўскага — гэта адзіны сапраўдны і годны крытэрый чалавечай вартасці, паводле якога ён падзяляе ўсіх людзей (па-за ўсімі іншымі іхнімі адрозненнямі) на дзве вялікія катэгорыі. Нездарма да катэгорыі людзей, надзеленых «духоўнымі вачыма», здольных бачыць і разумець сваю нябесную айчыну, Я. Баршчэўскі адносіць людзей самага рознага кшталту і сацыяльнага становішча: сляпога жабрака Францішка, вывучанага ў езуітаў пляменніка шляхціца Завальні Янку, вечнага пілігрыма з дзівосным імем Сын Буры — людзей, якія навучыліся разумець цуды сэрцам, захопленых і апантаных думкамі аб лёсе Плачкі.

Паводле Я. Баршчэўскага, зямное жыццё ёсць адлюстраванне жыцця нябеснага, над якім распасцірае сваю волю Усявышні. Выдатны знаўца прыроды і перакананы хрысціянін, ён не толькі верыў у першапрычыннасць Бога ў свеце, але як і герой біяграфічнай аповесці А. Грозы «Нечаканы госць. З аповесці пра Яна Баршчэўскага» Севярын шчыра верыў у агромністыя пазна-

вальныя магчымасці непрадузятага, чыстага сузірання свету як акта Божага Тварэння, быў перакананы ў тым, што «чыстае сузіральнае жыццё адчыняе сэрца і вочы ды ўводзіць чалавека ў духоўны свет» [2, с. 436].

Такім чынам, усё, што адбываецца ў фантастычным свеце «Шляхціца Завальні», закранае і ўцягвае ў сваю арбіту, як мінімум, дзве паралельныя сферы быцця: нябесную (духоўную, сакральна-містычную) і залежную ад яе зямную (гістарычную, рэальную), якія пастаянна перасякаюцца і ўзаемадзейнічаюць, утвараючы яшчэ адзін алегарычны — на гэты раз сакральна-містычны — кантэкст твора, яго шматслойнае асацыятыўна-вобразнае алегарычнае поле.

Ключом для яго дэшыфроўкі ў такім выпадку з'яўляецца характэрны для сярэднявечнага хрысціянскага светаразумення прынцып дэтэрмінаванасці зямнога нябесным, рэальнага — сакральна-містычным, іх суадпаведнасць і спалучанасць з колам сусветнай свяшчэннай гісторыі, адлюстраванай у тэкстах Бібліі.

Пры такім метадалагічным падыходзе высвятляецца напрыклад, *сістэмная*, канцэптуальна арыентаваная на змест «Адкрыцця Яна Багаслова» сэнсавая сувязь створаных Я. Баршчэўскім вобразаў Плачкі, Рыцара-Волата, а таксама іх ідэйных антаганістаў Белай Сарокі і цмока-нячысціка з іх біблійнымі адпаведнікамі-архетыпамі — «жанчынай у сонцы», вершнікам на белым кані, у акрываўленым адзенні, «які называецца Верны і Справядлівы, Які праведна судзіць і ваюе», нарэшце, з вавілонскай блудадзейкай і цмокам, «называным д'яблам і сатаною» [3, Адкрыц., XII : 1–10; XVII : 1–6; XVIII : 1–7; XIX : 11–15].

Так, сакральны сэнс і своеасаблівая адраджэнская выяўленчая стылістыка вобраза маці-Плачкі, як і залежнасць ад біблейскага першатэксту некаторых іншых персанажаў Я. Баршчэўскага, як д'яблы-нячысцікі, цмокі-змеі і гадзюкі, становяцца асабліва зразумелымі і відавочнымі ў святле містычных аб'яў і прароцтваў Яна Багаслова аб «жанчыне ў сонцы»:

«1. І з'явілася на небе вялікае відовішча — жанчына, адзетая ў сонца; пад нагамі ў яе месяц, і на галаве ў яе вянок з дванаццаці зорак.

2. Яна мела ва ўлоньні і крычала ад болю і родавых пакутаў.

3. І другое відовішча з'явілася на небе: вось вялікі чырвоны цмок зь сямю галовамі і дзесяцьцю рагамі, і на галовах у яго сем дыядэм;

4. хвост ягоны звалок зь неба траціну зорак і кінуў іх на зямлю. Цмок гэты стаў перад жанчынаю, якая мелася радзіць, каб, калі яна народзіць, зжэрці яе дзіця.

5. І нарадзіла яна дзіця мужчынскага полу, якому належыць пасьвіць усе народы жазлом жалезным: і ўзята было дзіця да Бога і да трона Ягонага.

6. А жанчына ўцякла ў пустыню, дзе прыгатавана было ёй месца ад Бога <…>

7. І адбылася на небе вайна: Міхаіл і анёлы ягоныя ваявалі супраць цмока, і цмок і анёлы ягоныя ваявалі *супроць* іх,

8. але ня ўстоялі, і не знайшлося ўжо ім месца на небе.

9. І скінуты быў вялікі цмок, старавечны зьмей, называны д’яблам і сатаной, змусьціцель усяго свету, скінуты на зямлю, і анёлы ягоныя скінуты зь ім. <…>

13. А калі цмок убачыў, што скінуты на зямлю, пачаў прасьледаваць жанчыну, якая нарадзіла дзіця мужчынскага полу» [3, Адкрыц., XII: 1–9, 13; с. 369].

Прыгадаем, што як своеасаблівая рэцэпцыя сюжэта «Адкрыцця Яна Багаслова» вобразы Плачкі і цмока ўпершыню з’яўляюцца ў «Апавяданні другім. Зухаватыя ўчынкі». У ім расказваецца:

«…Аднаго разу ўлетку ў ціхую, пагодлівую ноч з поўначы на поўдзень ляцеў, палаючы агнём, цмок, нёс нібыта з сабою шмат золата і срэбра грэшніку, які прадаў д’яблу душу. <…> Раптам раскалоўся блакіт неба, разлілося вялікае святло, людзі, молячыся, кленчаць, а цмок, выцяты промнем нябеснага святла, дранцвее ўвесь, валіцца на пагорку і ператвараецца ў камень. <…> Адны бачылі на камені Плачку, якая выцірала сабе слёзы агнёваю насоўкаю; другія, ідучы позняй парою па дарозе сустракалі карузлікаў, чорных і тоўстых, як бочка, што скакалі на пагорку; іншым мроіліся чорныя казлы, што скакалі з зямлі на камень, а з каменя на дол, і шмат іншых дзівосаў» [2, с. 113–114].

Камень — межавы знак, якім ў творы Я. Баршчэўскага заканчваецца нябесная і працягваецца зямная гісторыя «жанчыны ў сонцы і месяцы», якая з’яўляецца ў абліччы таямнічай Плачкі.

Нябеснае паходжанне і сакральную духоўную прыроду Плачкі, якая дзівосным чынам аб’яўляецца жыхарам Полаччыны і ўсёй Беларусі, аўтар нездарма звязвае з нябеснай каметай, «што з’яўляецца на небе ў выглядзе вогненнай мятлы» як знак Божага пасланніцтва і вестка аб Божым наканаванні адроджанай айчыны.

У той жа час цяжкі і пакутны шлях адраджэння радзімы пісьменнік відавочна суадносіць з іпастассю «жанчыны ў сонцы» як парадзіхі і маці, паколькі Плачка ў Я. Баршчэўскага ўвасабляе лёс пакутнай маці-радзімы, а матыў страчаных дзяцей (пад імі трэба разумець найперш герояў, пакутнікаў і ахвяр нацыянальна-вызваленчых бітваў), іх праследавання з боку нячысцікаў і змееў-цмокаў, а таксама іх зямных хаўруснікаў і слуг, што прадалі свае душы д’яблу, суправаджаецца ў творы плачам нябачнага немаўляці («Думкі самотніка»).

Водсвет «Адкрыцця Яна Багаслова» ляжыць таксама на фантастычных малюнках бітваў няведамых коннікаў-рыцараў, што адбываюцца на небе, пазнаецца ў абліччах шматлікіх міфічна-казачных персанажаў апавяданняў Я. Баршчэўскага.

Напрыклад, рысы аблічча «чырвонага цмока», называнага яшчэ «старавечным змеем», «д'яблам і сатаной», праглядваюць у аўтарскім апісанні «злога духа», якога заклікае да сябе зняверaны ў людзях, абуяны зайздрасцю і злосцю Альберт — герой «Апавядання сёмага. Вогненныя духі»:

«О! Калі ёсць злы дух, — сказаў сам сабе, — што абагачае людзей, які б дапамог мне хоць на кароткі час, — я пакланіўся б яму цяпер.

Ледзь ён гэта сказаў — бачыць перад сабою: нехта сядзіць пад дрэвам на трухлявым пні, велізарнага росту, нос доўгі, востры, твар шчуплы, *румяны*, барада і валасы на галаве *чырвонага колеру*, вопратка хоць і зліняла‍я, аднак адсвечвала яшчэ *чырвонаю фарбаю* (вылучана намі. — *Л. П.*)» [2, с. 184].

Пры гэтым, разгортваючы сюжэт апавядання ў духу ідэй А. Тавянскага аб тым, што не толькі злыя духі шукаюць сабе ахвяр сярод людзей, але і самі людзі спрыяюць таму, што скінутыя з неба, паліняльыя і патрапаныя ў бітвах з Богам і нябеснымі ангеламі нячысцікі і цмокі, нанова аджываюць на зямлі, падпітваючыся людской зайздрасцю, нянавісцю і пыхай, Я. Баршчэўскі стылёва збліжае свой мастацкі тэкст з сімволікай і вобразнасцю бачанняў-апавешчанняў Яна Багаслова:

«Пакланіся цемры, і дух агню будзе табе служыць, верне табе золата і сяброў; будзь хітры і празорлівы, бо слабасць натуры згубіць цябе.

— Што трэба зрабіць, каб дух служыў мне?

— Слухай і адразу выконвай мае парады. Здабудзь кроплю крыві са свайго пальца. (Альберт здабывае кроў з пальца.) Гэтая адна, адна кропля, — сказаў незнаёмы — напоўніць гадзюку ядам. Дык ідзі цяпер з гэтай крывёю; выходзячы з лесу, узыдзеш на гару. Там поўзае *гадзюка, якая хацела ўкусіць дзіця, але перапалоханая крыкам маці, страціла яд і цяпер, выгнаная іншымі гадамі блукае адна* (вылучана намі. — *Л. П.*)**.** Пазнаеш яе лёгка: жоўты хвост значыць адсутнасць сіл, дай лізнуць ёй кроплю тваё крыві: умомант займее яд і сіл набярэцца, а потым ідзі за ёй, яна дасць табе сваю мудрасць і багацце, убачыш духа ў кожнай іскрынцы агню, а слугою тваім будзе Нікітрон, на кожны твой кліч ён народзіцца з полымя» [2, с. 184–185].

Такім чынам, нябесная гісторыя «жанчыны ў сонцы» не толькі атрымлівае ў «Шляхціцы Завальні» своеасаблівы зямны працяг, але і шмат у чым вызначае сюжэтную фабулу, праблематыку і вобразную стылістыку такіх апавяданняў, як «Плачка», «Вогненныя духі», «Белая Сарока», «Дзіўны кій» і інш. Пры гэтым створаныя Я. Баршчэўскім шляхам фантазійнай кантамінацыі разнастайных літаратурна-фальклорных крыніц і жыццёвых уражанняў вобразы Плачкі, Волата-Рыцара, змея-цмока і Белай Сарокі не толькі захоўваюць сюжэтна-сэнсавую парадыгму біблейскага першатэксту, але і даволі дакладна адлюстроўваюць асаблівасці вобразна-стылявой структуры біблейскай першакрыніцы.

Напрыклад, вобразы Белай Сарокі і яе пасланца змея-цмока ў апавяданні Я. Баршчэўскага з'яўляюцца, па-сутнасці, рэдуцыраванымі адпаведнікамі біблейскага вобраза Вавілона-блудадзейкі і д'ябла-сатаны, пра якіх расказвае ў сваіх бачаннях-апавешчаннях Ян Багаслоў:

«3. … і ўгледзеў я жанчыну, якая сядзела на зьверы барвовым, поўным назоваў богазьняважлівых, зь сямю галовамі і дзесяццю рагамі.

4. І жанчына адзетая была ў парфіру і ў пурпуру, аздобленая золатам, каштоўнымі камянямі і жэмчугам, і трымала залатую чару ў руцэ сваёй, напоўненую мярзотамі і поскудзьдзю блудадзейства яе;

5. І на лобе ў яе напісана імя: таямніца, Вавілон вялікі, маці блудадзеек і мярзотаў зямных» [3, Адкрыц., XVII: 3–5; с. 374].

Пры гэтым не трэба забываць, што пісьменнік, памятаючы пра лёс сваёй аповесці пра татараў, забароненай цэнзурай, пільна камуфляваў змест твора, ужываў прыёмы алегарычнай шыфроўкі, алюзіі, спецыяльна (з аглядкай на цэнзуру) выдаваў твор асобнымі кніжкамі, у некалькі прыёмаў, каб раз'яднаць, прыхаваць сюжэтна-фабульныя асацыяцыі, якія непазбежна ўзнікалі паміж асобнымі вобразамі і персанажамі апавяданняў.

Варта звярнуць увагу на тое, што 14 асноўных пранумараваных аўтарам апавяданняў, у якіх прадстаўлены і раскрываецца асноўны ідэйны змест кнігі, аказаліся даволі сіметрычна размеркаваны па ўсёй прасторы твора і абламаваны замалёўкамі і невялікімі расказамі фонавага характару і лакальнага, дапаможнага зместу, звязанага з выяўленнем ідэйнага зместу.

Па той жа прычыне вобразы-антыподы Плачкі і Белай Сарокі, якія несумненна ўтвараюць у «Шляхціцы Завальні…» важнейшы ідэйна-сэнсавы цэнтр, па волі аўтара аказаліся адасобленымі, размешчанымі ў розных — другой і трэцяй — кніжках твора як вобразы лакальнага зместу, абмежаваныя сюжэтам аднаіменных апавяданняў.

Апроч гэтага, Я. Баршчэўскі як чалавек, які сам займаўся жывапісам і быў знаёмы з такімі выдатнымі мастакамі-землякамі, як Валенцій Ваньковіч, Казімір і Рудольф Жукоўскія, Юзаф Аляшкевіч, відавочна выкарыстоўваў у сваім творы прыёмы т. зв. празрыстага і непразрыстага жывапісу, калі змест і значэнне вобраза, напісанага празрыстымі фарбамі, змяняліся, як у дыярамах Луі Ж. М. Дагерра, у залежнасці ад асвятлення фонавага малюнка, які пісаўся непразрыстымі фарбамі на адваротным баку карціны.

Відавочна, што ведаў ён і пра звязаныя з вынаходніцтвам дагератыпа эфекты негатыва і пазітыва, а таксама прынцыпы стварэння пры дапамозе стэрэаскопа, вынайдзенага англічанінам Чарльзам Уітстанам у 1838 г., эфекта maqic eye (магічнага вока) альбо аб'ёмнага стэрэабачання, заснаванага на накладванні, сумяшчэнні двух адлюстраванняў аднаго і таго ж аб'екта [16], як мы гэта назіраем пры сумяшчэнні зямной і біблійна-сакральнай гісторыі персанажаў у «Шляхціцы Завальні…» Я. Баршчэўскага.

Ва ўсякім разе, рассыпаныя па ўсім творы бачныя мастацкія дэталі, якімі малюе аўтар вобразы маці-Плачкі і Белай Сарокі, уступаючы ў асацыятыўнае ўзаемадзеянне з заключаным у «Адкрыцці Яна Багаслова» рэдуцыраваным інтэртэкстам, і сапраўды, надавалі створаным пісьменнікам вобразам містычную падтэкставую глыбіню, як бы адкрывалі чытачу нябачную, трансцэндэнтную сутнасць падзей і з'яў рэчаіснасці, паводзін людзей і іх учынкаў, абумоўленых Боскім Промыслам, дазвалялі зразумець маштаб і арыгінальнасць мастацкага зместу і ідэйнай задумы твора.

Напрыклад, тыя пачуцці, якія А. Тавянскі і многія ўдзельнікі Кола Божай Справы, а таксама партнёрскага французскага аб'яднання Справы Міласэрнасці, якое ўзначальваў П'ер Мішэль Вінтрас, адрасавалі тагачаснай папскай курыі і афіцыйнаму рымскаму касцёлу, называючы яго Вавілонам-Блудадзейкай і Бестыяй, апанаванай грахамі і злом [9, с. 121], Я. Баршчэўскі відавочна звязваў з Расійскай імперыяй і яе злачынствамі ў дачыненні да забранага краю і ўніяцкай царквы. Пры гэтым адной з важнейшых мэт алегарычных аўтарскіх maqic eye-малюнкаў, заглыбленых у містыку «Адкрыцця Яна Багаслова», відавочна з'яўлялася прамая кантамінацыя-спалучэнне біблейскага вобраза вавілонскай блудніцы і расейскай імператрыцы Кацярыны II, вядомай сваім палітычным крывадушшам і маральнай разбэшчанасцю.

«…2. I ўсклікнуў ён моцна, гучным голасам кажучы: упаў, упаў, Вавілоне, вялікая *блудадзейка* (вылучана намі. — *Л. П.*), зрабіўся жытлішчам дэманаў і прыстанкам усякаму нячыстаму і агіднаму птаху; бо шалёным вінам блудадзейства свайго яна напаіла ўсе народы;

3. і цары зямныя любаблуднічалі зь ёю, і купцы зямныя разбагацелі ад вялікай раскошы яе.

4. I пачуў я іншы голас з неба, які казаў: выйдзі ад яе, народзе Мой, каб ня ўдзельнічаць вам у грахах яе і не наклікаць пошасьцяў яе;

5. бо грахі яе дайшлі да неба, і Бог узгадаў няпраўды яе. Адплацеце ёй так, як яна плаціла вам, і ўдвая аддайце ёй па ўчынках яе; у чары, у якія яна налівала віно, налеце ёй удвая» [3, Адкрыц., XVIII : 1–6; с. 375].

Мяркуем, што менавіта з гэтым загадным імператывам вызвалення радзімы з-пад маральнай аблуды і распусты Вавілона-Блудадзейкі, вобраз якой аўтар атаясамліваў з уладараннем Расійскай імперыі над забраным краем, звязана мастацкая мадыфікацыя вобраза маці-Плачкі ў «Апавяданні адзінаццатым. Жабер-трава». У ім гераіня ў абліччы кабеты «высокага росту, у белай сукні, твар заліты слязьмі», упершыню з'яўляецца з мечам у руках ля дарогі, па якой вяртаецца дамоў з падарожжа ў будучыню Адольф. З гэтай метамарфозай відочна звязана містычнае прадчуванне аўтарам лёсу Альмырадзімы як наканаванне будучых бітваў і змагання.

Зрэшты, гэта тлумачыць, чаму апавяданне пра жабер-траву, укладзенае пісьменнікам у вусны цыгана Базыля, засталося незакончаным, а звязаны з

вобразам Плачкі рыцарскі матыў не атрымаў у Я. Баршчэўскага свайго далейшага развіцця і завяршэння, так і застаўшыся ў творы містычнай алюзіяй, непразрыстым намёкам на будучае развіццё падзей на забраных землях.

Такім чынам, станаўленне вобраза маці-Плачкі у «Шляхціцы Завальні» Я. Баршчэўскага адбывалася пад моцным уплывам рэлігійна-містычнай плыні і філасофіі агульнапольскага і краёвага ліцвінскага месіянізму, прадстаўленага творчасцю А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, багаслоўскім вучэннем містыка А. Тавянскага і інш., якія вызначылі змест, аблічча і напрамак ідэйна-эстэтычных пошукаў у беларускім рамантызме 30–40-х гг. XX ст.

Вобраз радзімы, створаны пісьменнікам у «Шляхціцы Завальні…», з’явіўся вынікам складаных глыбінных працэсаў нацыянальна-духоўнай самаідэнтыфікацыі, якія адбываліся ў першай палове XIX ст. у свядомасці мясцовай інтэлігенцыі, моцна звязанай сваім паходжаннем і духоўнымі каранямі з гісторыяй і традыцыямі роднага краю. Беларускі менталітэт і патрыятызм аўтара, маштабнасць і самабытнасць творчай індывідуальнасці, гістарызм мыслення, глыбокія і разнастайныя веды, датычныя Беларусі, яе літаратуры, культуры, філасофіі, гаспадаркі, дазволілі стварыць паўнакроўны мастацкі вобраз Беларусі, для якога характэрныя абвостранае адчуванне духу часу і яго канфліктных праблем, мастацкая шматварыянтнасць і дыялектычна-эвалюцыйная змена іпастасяў.

Так, напрыклад, калі напачатку ў творы (апавяданне «Плачка») дамінуе гістарычны ракурс, звязаны з праекцыяй вобраза Плачкі на гісторыю ВКЛ эпохі Жыгімонта Аўгуста і, асабліва, на трагічны вобраз Барбары Радзівіл, дык у далейшым аўтар атаясамлівае Плачку з «сялянскай сіратой», «сіратой у сялянскім уборы», сімвалізуючы новую, сялянскую Беларусь на руінах сваёй некалі гераічнай і слаўнай гісторыі.

Пры гэтым праекцыя вобраза Плачкі-Беларусі на розныя перыяды яе папярэдняй і цяперашняй гісторыі, пра што сведчыць таксама ўключэнне ў сферу мастацкага сінтэзу традыцый «Трэнаса» М. Сматрыцкага, стварэнне палітычна вострага алегарычнага вобраза Кацярыны II (Белай Сарокі) і інш., адначасова спалучаецца ў Я. Баршчэўскага з пошукам сакральнай «нябеснай айчыны».

Сакралізацыя ў гэтай якасці вобраза Плачкі адбывалася, з аднаго боку, праз надзяленне гераіні збіральнымі вобразнымі рысамі і цудадзейнымі ўласцівасцямі, надаванымі ў біблійна-хрысціянскай культавай традыцыі розным гістарычным і містычным персанажам і з’явам: Божай Маці Дзеве Марыі, Суламіце, вобразу «жанчыны, адзетай у сонца» і месяц, у вянцы з дванаццаці апостальскіх зорак, што сімвалізуе нараджэнне і лёс Хрыстовай царквы; так і шляхам яе рамантычнай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі паводле вобразаў святой Еўфрасінні Полацкай, пакутніцкага лёсу святой праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў, партрэтнага падабенства да абраза Боскай

Маткі Вострабрамскай з яе натурным вобразным прататыпам у асобе Барбары Радзівіл і інш.

Арыентацыя на гэтыя ўзоры стала для Я. Баршчэўскага важнейшай падставай для стварэння ў «Шляхціцы Завальні…» аптымістычнай адраджэнскай вобразнай іпастасі Беларусі-радзімы, у вобразе якой увасоблены сакральны, нябесны дух айчыны, які перасяляецца ў беларускі сялянскі люд, знаходзячы ў ім сваё новае духоўнае аблічча і цялеснае апірышча. Нездарма ў апавяданні «Сын Буры» гераіня, зняўшы жалобны ўбор плачкі, упершыню прадстае перад чытачом у вясёлкавых вясенніх строях, як бы асветленая маладым аптымізмам і ўсмешкай нявесты-вяснянкі:

«О цудоўная багіня! Ты спаткала мяне ў той час у сукенцы вясёлкавых барваў і з кветкамі на галаве, з высокіх гор паказала ты мне далёкі свет, над якім пад аблокамі луналі арлы. З таго часу гэты цуд заняў усе мае думкі і жаданні. Вырашыў я высока, далёка ляцець і пабачыць, што дзеецца на свеце. Але ты знікла, і я блукаю па волі буры!

— І хто ж была тая багіня, пра якую ты ўзгадаў цяпер?

— Тая самая, якую называеш Плачкаю» [2, с. 175].

У гэтым галоўным творы свайго жыцця Я. Баршчэўскі выявіўся цалкам арыгінальным творцам і прадаўжальнікам патрыятычнай традыцыі служэння роднаму краю. Нават у параўнанні з Міцкевічавым вобразам Літвы-айчыны, створаны Я. Баршчэўскім вобраз Беларусі аказаўся не толькі канкурэнтназдольным, але пазначыў новы важкі крок наперад у духоўным развіцці беларускай нацыі. Найперш сваім гістарычным аптымізмам, верай у вялікую будучыню, новай, сялянскай Беларусі, што аднаўлялася на разбураным фундаменце старой, дагасаючай шляхецка-магнацкай Літвы, так геніяльна ўвасобленай і апетай у «Пане Тадэвушы» А. Міцкевічам.

З гэтага пункту гледжання твору Я. Баршчэўскага і цэнтральнаму ў ім вобразу маці-Плачкі належыць роля рэтранслятара і акумулятара беларускай нацыянальнай ідэі, своеасаблівага мастка ад рэчпаспалітаўскай і краёвай вялікаліцвінскай дзяржаўна-гістарычнай ідэі да ідэі беларускай, нацыянальнай, ад вобраза старой шляхецкай Літвы да вобраза новай, сялянскай Беларусі.

У пару, калі канчаткова рухнулі апошнія дзяржаўна-рэлігійныя апоры былога ВКЛ: уніяцкая царква, гарадское і шляхецкае самакіраванне, а на далучаных да тэрыторыі Расійскай імперыі беларускіх землях было забаронена ўжыванне ўласнага заканадаўства і справаводства на аснове Літоўскага Статута 1588 г. і Літоўскага Трыбунала 1581 г. і г. д., стварэнне Я. Баршчэўскім вобраза маці-Плачкі засведчыла не толькі крызіс і разбурэнне яе старых гістарычных форм існавання, але і пачатак новага гістарычнага этапу кансалідацыі і збірання Беларусі — цяпер ужо пераважна сялянскай, дробнашляхецкай і народніцка-разначыннай паводле асноўнага захавальніка і носьбіта беларускай нацыянальнай думкі.

## Літаратура


1. Łubieński, T. *M* jak Mickiewicz / T. Łubieński. — Warszawa, 1998. — 317 s.
2. Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы / Я. Баршчэўскі; уклад., прадмова і камент. М. Хаўстовіча. — Мінск, 1998. — 480 с.
3. Новы запавет. Псалтыр. — Мінск,1995. — 488 с.
4. Болотников, А. В. Евангелие в ветхозаветном святилище / А. В. Болотников. — Заокский, 2001. — 256 с.
5. Mickiewicz, A. Dzieła poetyckie : W 4 t. / A. Mickiewicz. — T. 3 : Dziady. — Warszawa, 1998. — 348 s.
6. Kallenbach, J. Towianizm na tle historycznym / J. Kallenbach // Przegląd Powszechny. — Kraków. 1924. — T. 163. — S. 18–31.
7. Tretiak, J. Towiański Andrzej (1799–1878) / J. Tretiak // Wiek XIX. Sto lat myśli polskiej. Życiorysy, streszczenia, wyjątki. T. IV. — Kraków, 1908. — S. 462–472. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.archive.org/stream/wiekxixstolatmyl04chrzuoft/ wiekxixstolatmyl04chrzuoft_djvu.txt. — Дата доступу : 03.01.12.
8. Towiański, A. Biesiada z Janem Skrzydnieckim / A. Towiański // Wiek XIX. Sto lat myśli polskiej. Życiorysy, streszczenia, wyjątki. — T. IV. — Kraków, 1908. — S. 462–472. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.archive.org/stream/wiekxixstolatmyl04chrzuoft/ wiekxixstolatmyl04chrzuoft_djvu.txt. — Дата доступу : 03.01.12.
9. Праневіч, Г. М. Вастрабрамская мадонна і вобраз маці-Плачкі ў «Шляхцічы Завальні» Яна Баршчэўскага : праблема духоўна-гістарычнага прататыпа / Г. М. Праневіч // Ян Баршчэўскі ў славянскім свеце (да 210-годдзя з дня нараджэння) : зб. навук. арт. IV Міжнар. чытан. 18–19 мая 2004 г. / пад рэд. В. І. Русілкі, В. Ю. Бароўкі. — Віцебск, 2004. — С. 87–98.
10. Gloger, Z. Geografia historychna ziem dawnej Polski. Reprint / Z. Gloger. — Warszawa, 1991. — 387 s.
11. Праневіч, Г. М. Вобраз маці-Плачкі і паэтыка ляментацый у «Шляхціцы Завальні…» Я. Баршчэўскага / Г. М. Праневіч // V рэсп. Калеснікаўскія чытан. : матэр. рэсп. навук. канф., прысвеч. 10-годдзю з дня смерці Ул. А. Калесніка; Брэст, 24–25 лютага 2005 г. / рэд. кал. : З. П. Мельнікава [і інш.]. — Брэст, 2005. — С. 15–21.
12. Библейская энциклопедия. Репринтное издание. — М., 1990. — 902 с.
13. Марозава, С. Дзейнасць уніяцкай Царквы па кансалідацыі беларускага народу / С. Марозава. – Берасьце; Горадня, 2001.
14. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. — Мінск, 1959.
15. Флори, Ж. Идеология меча. Предыстория рыцарства / Ж. Флори; перевод с фр. М.Ю. Некрасова; науч. ред. Ю.П. Малинин. — Санкт-Петербург, 1999. — 320 с.
16. Краткая история стереограмм [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.zreni.ru/18-kratkaya-istoriya-stereogramm.html. — Дата доступу : 03.01.2012.

**Вячаслаў Рагойша** *(Мінск, Беларусь)*

# РЫТМІЧНЫ ЛАД ПОЛЬСКАМОЎНАЙ ЛІРЫКІ ЯНКІ ЛУЧЫНЫ

Янка Лучына як паэт працаваў у сілавым полі трох культур, трох моў, а тым самым — трох рытмалагічных стыхій: беларускай народнай лірыкі (*танічнай* у сваёй аснове), польскага *сілабічнага* верша і рускай *сілаба-тонікі*. Пры гэтым ён ведаў і не мог час ад часу не ўлічваць законы вершавання антычнай (метрычнай) паэзіі, а таксама рытмічныя пошукі сучаснай паэту заходнееўрапейскай вершатворчасці. Усё гэта галоўным чынам і вызначыла выразную спецыфіку, адносна высокі ўзровень і навізну нешматлікай па колькасці, але надзвычай каштоўнай (і не толькі паводле зместу, але і вершаванай формы) паэзіі Янкі Лучыны.

Паэт аддаваў перавагу больш перспектыўнаму для новай беларускай паэзіі вершу сілаба-танічнаму, прычым двухскладовым яго памерам. Так, з 32 ягоных вершаваных твораў, напісаных на беларускай і рускай мовах, 27 (або 84 %) належаць да сілаба-тонікі. З іх 12 напісаны трох-, чатырох- і пяцістопным харэем, 8 — трох-, чатырох-, пяці- і шасцістопным ямбам, 6 — двух-, трох- і чатырохстопным анапестам, 1 — чатырохстопным дактылем. У гэтым, несумненна, выявіўся ўплыў на беларускамоўную і рускамоўную творчасць Янкі Лучыны рускай паэзіі, якую ён вывучаў у сценах Мінскай рускай гімназіі, з якой цесна судакранаўся падчас навучання ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, супрацоўніцтва ў «Вестнике Европы», перакладаючы на польскую мову асобных рускіх паэтаў — Мікалая Някрасава, Аляксея Хамякова, Уладзіміра Салаўёва, Вольгу Чуміну, а на рускую мову — польскамоўныя творы Уладзіслава Сыракомлі і Адама Асныка. Разам з тым тут мы бачым і глыбокае веданне паэтам (магчыма, нават інтуітыўнае вычуванне) прасадычных уласцівасцей беларускай мовы з яе рухомым націскам, паўнагалоссем, для якой (як і для рускай мовы) больш арганічная менавіта сілаба-тоніка, а не сілабіка, так характэрная для блізкай яму польскай паэзіі. У гэтым сэнсе Янка Лучына пэўным чынам апераджаў свой час, станавіўся побач з беларускімі паэтамі XX ст., у творчасці якіх паўнаўладна загаспадарыў сілаба-танічны верш.

Сімптаматычна, што «метраном» паэта, настроены на гучанне ўсходнеславянскіх моў і іх паэзій, у значнай ступені абумовіў рытма-інтанацыйны малюнак і ягоных польскіх вершаў, сабраных у пасмяротнай кнізе «Poezye Jana Niesłuchowskiego» (Варшава, 1898). Абсалютная большасць твораў, што склалі гэтую кніжку, вытрымана ў кадэнцыі сілаба-тонікі, што не характэрна для класічнай польскай паэзіі і што ўвогуле складана

для ўвасаблення праз асаблівасці польскай прасодыі (фіксаваны націск на перадапошнім складзе). У кнізе ж мы сустракаемся з харэем трохстопным («Песня аратая», «Рунь», «Калыханка») і — асабліва часта — чатырохстопным («Пышны малюнак», «Курс усеагульнай літаратуры канца XIX стагоддзя», «Plus quam perfectum», «На змярканні», «Восень»), ямбам двухстопным («Што люблю» — рэфрэн), амфібрахіем двухстопным («Дзе ты, мая песня?»), трох- і чатырохстопным («Прадвесне», «Голас натоўпу», «Вясна»), анапестам двухстопным («Абразок»), трох- і чатырохстопным («У круг за мной, перада мной»), трох- і чатырохстопным дактылем («На перавозе», «Дзве зоркі»). Прывядзем некалькі прыкладаў розных вершаваных памераў. Верш «Голас натоўпу» («Głos tłumu») напісаны чаргаваннем Ам4 з Ам3:

Zamilknij lirniku, nie trzeba nam pieśni!
Złóż na bok śpiewacze narzędzie,
Dziś trzeźwo na rzeczy patrzają współcześni,
Już marnych omamień nie będzie! [3, s. 143].

А вось як гучыць — зусім прывычна для беларускага вуха — верш «Пышны малюнак» («Pyszny widok»), напісаны Х4:

Tam lazury przezroczyste
Tyle świateł i promieni,
A powietrze takie czyste,
Że się gubi człek w przestrzeni!
Tam z wierzchołka oko sięga
W nieskończonej dali szlaki,
Widać biezmiar widnokręga —
Granic nie ma obraz taki! [3, s. 80].

Той жа харэй, але ўжо шасцістопны з цэзурай пасля шостага склада — верш «Не хачу памерці» («Ja umierać nie chcę»):

O, nie czas mi jeszcze wstąpić w grobu cienie!
Nie czas świat porzucić, starców idąc wzorem.
Gorzkie moje losy, ciężkie przeznaczenie,
Lecz ja umrzeć nie chcę jeszcze przed wieczorem. [3, s. 84].

Сустракаюцца ў польскамоўных вершах Янкі Лучыны і цалкам арыгінальныя памеры, якіх і ў беларускамоўных творах не адшукаць. Так, «Лірнік вясковы» напісаны чаргаваннем Ан4Цу1 з Ан2:

Hej lirniku, hej młody! — idź z twą bracią w zawody,
Wieści braciom daj chyże!
Kiedyś wioski śpiewakiem, nad polami mknij ptakiem,
Skonaj, grając na lirze! [3, s. 72].

У двух выпадках Янка Лучына праяўляе проста такі вершатворчую віртуознасць, даючы польскаму чытачу ўзоры сілаба-танічнага верша з мужчынскімі рыфмамі, якія амаль не сустракаюцца ў паэзіі на польскай мове. Адзін з іх — напісаная пад уздзеяннем беларускага фальклору «Калыханка»:

Spływa nocny mrok,
Światu spokój szle…
Ale matki wzrok
Czuwa w nocnej mgle. [3, s. 138].

Другі — напісаны двухстопным ямбам рэфрэн з верша «Што люблю?»:

Leć, koniu, leć
Choć tysiąc mil
I czereg nieć
Zachwytu chwil! [3, s. 105].

Спецыфічны «слых на верш» (кажучы словамі Аляксандра Твардоўскага) выявіўся не толькі ў творчай практыцы Янкі Лучыны, але і ў яго арыгінальных тэарэтычных развагах, на якія чамусьці не звярнулі ўвагу літаратуразнаўцы. Так, ён актыўна абараняў мажлівасць перакладу на польскую мову старажытнай «Іліяды» метрычным вершам, не згаджаўся з думкай рэдактара варшаўскага часопіса «Życie» Зянона Пшасмыцкага, што «вельмі цяжка пісаць па-польску метрычным вершам і што такі верш не робіць добрага ўражання», а таму, маўляў, «пры спальшчэнні “Іліяды” можна і належыць карыстацца сілабічным рыфмаваным вершам». Вось што Янка Лучына пісаў Пшасмыцкаму ў лісце ад 10 (22) красавіка 1888 г.: «Не магу стрымацца і не напісаць вам некалькі слоў з поваду справаздачы ў № 14 і 15 “Życia” аб перакладзе “Іліяды” Аўгена Шмурлы (як мне здаецца, справаздача належыць вашаму пяру). Згаджаюся з усім, але вета, што так вельмі цяжка пісаць па-польску метрычным вершам і што такі верш не робіць добрага ўражання. Таксама вета, што пры спальшчэнні “Іліяды” можна і належна карыстацца сілабічным рыфмаваным вершам. У такой форме “Іліяда” не будзе “Іліядай”, гэта значыць, мы не дасягнем уражання, падобнага да ўражання пры чытанні арыгінала… Вы самі сцвярджалі, што пры перакладзе патрэбна захаваць не толькі змест, але і форму. Мне здаецца, што пісаць па-польску гекзаметрам не ўдаецца або ўдаецца з вялікай цяжкасцю, але ж, напрыклад, “Аповесць Вайдэлоты” ў “Конрадзе Валенродзе” напісана памерам, які набліжаны да гекзаметра і зусім адпавядае спалучэнню гукаў польскай мовы ў гарманічныя радкі. Так жа або падобным чынам трэба перакласці на польскую мову «Іліяду», чаго да сённяшняга дня ніхто не рабіў. Па-мойму, трэба ўзяць пад увагу і тое, што сёння ніхто не будзе чытаць вершы скандуючы, чытаюць жа іх звычайна так, як гавораць, прычым гекзаметр і яго сурагаты будуць амаль аднолькавыя

па сваёй вартасці» [2, с. 184–185]. Янка Лучына прапаноўваў свае паслугі ў «выпраўленні», г. зн. у сілаба-танізацыі, перакладу «Іліяды» Аўгена Шмурлы, прычым для прыкладу дадаў пачатак ўласнага перакладу старажытнагрэчаскай паэмы. Вось як яна загучала па-польску ў ягоным ўзнаўленні:

Gniew, o bogini, opiewaj syna Plea — Achilla
Groźny, co nieszczęść bez liku ludom Achajskim przyczynił,
W głębie Aidu wtrącając dusz bogaterów tak wiele,
Ciała na pastwę psom dawszy, — psom oraz ptakom drapieżnym. [2, с. 175].

Пакінем убаку сцверджанне пра ўражанне польскага чытача ад успрымання метрычнага верша (мажліва, тут Зянон Пшасмыцкі меў большую рацыю, бо не быў, як Янка Лучына, «заражаны» усходнеславянскай сілаба-тонікай). Што ж да лёгкасці і самой мажлівасці «пісаць па-польску метрычным вершам», то гэтую ісціну мінскі паэт, як мы бачылі, добра і неаднаразова даказаў уласнай творчасцю.

Метрычным вершам Янка Лучына перакладаў на польскую мову і рускіх паэтаў. Гэта вершы Мікалая Някрасава «Wioska zapomniana» (Х6ц), Аляксея Хамякова «Psalm» (Я4), Вольгі Чумінай «W koło, za mną, przede mną» (Ан4Ан3), «Zeglarze» (Ан3), Уладзіміра Салаўёва «Ex oriente — lux» («З усходу — святло»; Я4). Толькі адзін раз, пры перакладзе верша Вольгі Чумінай «W sieci», перакладчык выкарыстаў сілабічны трынаццаціскладовік…

Калі ўлічыць напісанае Янкам Лучынам сілаба-тонікай не толькі на беларускай, але на польскай і рускай мовах, то, відаць, па колькасці выкарыстаных сілаба-танічных памераў з ім не можа параўнацца беларуская вершатворчасць за ўсё XIX стагоддзе. Як паэт, ён быў надзелены выключным адчуваннем вершаванага рытму. Прычым, гэтае адчуванне прадвызначалася думкамі, настроямі і пачуццямі, якія ён імкнуўся выявіць у паэтычным слове. Менавіта слова падначальвала сабе рытм, вызначаючы яго канкрэтны абрыс, прымушаючы мадыфікаваць нават пракруства ложа метра. Янка Лучына быў перакананы ў вядучай ролі ў вершы рытму, які ўзгадняецца з сэнсам паэтычнага выказвання («так, як гавораць»), а не метра. Адсюль — вольнае карыстанне пірыхіямі, анакрузамі, шматлікія з’явы пераакцэнтуацыі, характэрныя ў такой колькасці, бадай што, толькі для некаторых беларускіх паэтаў другой паловы XX ст. Магчыма, у дадзеным выпадку мы маем справу з адваротным уплывам — польскага сілабічнага верша, для якога галоўнае — захаванне аднолькавай колькасці складоў у вершаваных радках, на беларускую сілабатоніку. Усё гэта настолькі мадыфікавала памер беларускага верша, што падчас з цяжкасцю ўгадваецца не толькі ён, але нават сістэма вершавання, якой твор напісаны. Такі вядомы верш паэта «Пагудка»:

З песенькамі, чытацелі, нясмела прад вамі
З добрай волі станаўлюся… Жартамі, слязамі

Складалася яно тое, што тут на паперы
Пісалася у час думкі і у добрай веры.
Чы забавы з гэтых песень хоць бы крышку будзе?..
Няхай судзяць братні людзі дый на братнім судзе. [2, с. 31].

Пераакцэнтуацыя і пірыхіі настолькі відазмянілі тут чатырнаццацітскладовы сямістопны харэй (дарэчы, адзін з самых рэдкіх памераў у беларускай паэзіі), што нават такі вопытны вершазнавец, як Мікола Грынчык, убачыў тут… сілабіку. У прыватнасці, ён адзначаў: «…З усіх вядомых вершаў Янкі Лучыны два (“Пагудка” і “Стары ляснік”) напісаны сілабічным памерам, астатнія вытрыманы ў даволі завершаных сілаба-танічных формах» [1, с. 142].

З другога боку, пад уздзеяннем жывога маўлення і танічнай беларускай народнай паэзіі мадыфікаваўся і той верш Янкі Лучыны, які быў зарыентаваны на рускую класічную сілаба-тоніку. Вось пачатак хрэстаматыйнага твора «Роднай старонцы»:

Ты параскінулась лесам, балотамі,
Выдмай пясчанай, неураджайнаю,
Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную.

Метрычная схема гэтай страфы выглядае так:

I — - I — - I — - I — -
I — - I — ().- — - I — -
I — - I — () — - — I — -
I — - I — - I () — I — -

Апрача выразных пірыхіяў (у трэціх стопах другога і трэцяга радкоў), у другіх стопах другога і трэцяга радкоў, а таксама ў трэцяй стапе чацвёртага радка тут маюцца так званыя сцяжэнні — выпадзенні ненаціскнога склада. Такія сцяжэнні ёсць і ў іншых строфах гэтага верша (ад аднаго да чатырох). Калі б іх было звыш 25 %, мы ўжо маглі б гаварыць пра дольнік — адзін з відаў танічнага верша, які ў еўрапейскай паэзіі (напрыклад, у Генрыха Гейнэ, якога таксама перакладаў на польскую мову Янка Лучына) існаваў яшчэ ў першай палове XIX ст., але ў беларускай паэзіі стала прыжыўся толькі ў другой палове XX ст. (Максім Танк, Пімен Панчанка, Уладзімір Караткевіч і інш.). Шматлікія сцяжэнні прысутнічаюць у большасці вершаў Янкі Лучыны. Такім чынам, працэс узнікнення беларускага дольніка можна аднесці прынамсі на паўстагоддзе раней, на канец XIX ст.

Сустракаюцца ў Янкі Лучыны і іншыя цікавыя віды верша: акцэнтна-складовы — «Заходзіць сонца за горы…» (трохакцэнтны васьміскладовік), мадыфікацыя каламыйкавага памеру («Што птушкі казалі»), радкова-стопны лагаэд (пераклад верша Уладзіслава Сыракомлі «Бусел»)… Усё гэта сведчыць

пра добра развітае ў яго адчуванне «тэмпераменту радка» (Міхаіл Святлоў). А таксама — пра арганічны ўплыў на паэта трох суседніх славянскіх культур, моў, паэзій, у тым ліку — польскай. Што, урэшце, і прывяло да стварэння новых вершатворчых прынцыпаў, якія ў многім апярэджвалі свой час.

## Літаратура


1. Грынчык, М. М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск, 1973.
2. Лучына, Янка. Творы: вершы, нарысы, пераклады, лісты / Янка Лучына; уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. — Мінск, 2001.
3. Poezye Jana Niesłuchowskiego. — Warszawa, 1898.


---


**Наталля Русецкая** *(Люблін, Польшча)*


# РАМАН НАТАЛКІ БАБІНАЙ «РЫБІН ГОРАД»: ПОЛЬСКІ ПЕРАКЛАД І РЭЦЭПЦЫЯ

Беларуская літаратура на польскім кніжным рынку — з’ява даволі спарадычная і малавыразная, але апошнім часам сітуацыя пакрысе пачала змяняцца ў лепшы бок. Да Беласточчыны, традыцыйна звязанай з беларускай літаратурай, пачалі далучацца іншыя рэгіёны. Так, у 2004 г. у Ольштыне выдавецтвам «Borussia» была апублікавана анталогія сучаснай беларускай прозы «Białoruś. Kraina otoczona wysokimi górami…»; у 2007 г. у Кракаве (Korporacja Ha!art) выйшла аповесць «Traktor albo Błąd w sztuce» Югасі Каляды (вядомая беларускаму чытачу пад назвай «Галоўная памылка Афанасія»). Вельмі плённа ў галіне перакладаў беларускай літаратуры на польскую мову працуе вроцлаўскае выдавецтва пры Калегіуме Усходняй Еўропы ім. Яна Новака-Езяранскага (Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego). Менавіта тут з 2007 г. рэалізуецца праект «Беларуская выдавецкая праграма» (Białoruski Program Wydawniczy), у межах якога друкуецца серыя «Беларуская бібліятэка» (Biblioteka Białoruska). Асобнымі кнігамі выйшлі ў польскіх перакладах творы В. Акудовіча, У. Арлова, І. Бабкова, А. Хадановіча, У. Някляева ды іншых, пабачылі свет дзвюхмоўныя анталогіі: «Pępek nieba» («Пуп неба. Анталёгія маладой беларускай паэзіі») і «Nie chyliłem czoła przed mocą» («Чала я не хіліў прад сілай. Анталёгія беларускай паэзіі XV–XX стагодзьдзяў»). Вядомае польскае выдавецтва «Czarne» з сядзібай у Валоўцу, якое актыўна прапагандуе сучасную рускую і ўкраінскую

літаратуру, выдала нарэшце ў 2008 г. адзіную як дагэтуль кнігу беларускага аўтара А. Клінава «Mińsk. Przewodnik po Mieście Słońca» («Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»). У 2010 г. выданнем чарговага перакладу беларускага твора парадавала познаньскае выдавецтва «Rebis», якое надрукавала «Miasto ryb» («Рыбін горад») Наталкі Бабінай. Гэтаму раману лёсіла стаць сапраўднай падзеяй: знайсці свайго чытача, сабраць шэраг цікавых рэцэнзій і водгукаў, а нават трапіць у шорт-ліст папулярнай літаратурнай прэміі Цэнтральнай Еўропы «Angelus» (Вроцлаў) за 2011 г.

На апошнім выданні мы спынімся больш падрабязна. Спачатку коратка прадставім аўтарку рамана, якая зусім нядаўна, але досыць упэўнена заявіла пра сябе ў беларускай літаратуры. Наталка Бабіна, нарадзілася ў 1966 г. у вёсцы Заказанка на Брэстчыне. Сярэднюю школу скончыла ў Брэсце. Адукацыю інжынера атрымала ў Мінску ў Беларускім палітэхнічным інстытуце (цяперашняя назва — Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт), пасля заканчэння якога працавала на заводах ў Брэсце і Мінску. Працавала таксама ў паляшуцкай газеце «Збудінне», пазней — у дзяржаўнай газеце «Звязда», з 1994 г. стала супрацоўнічае з «Нашай Нівай», з 2007 г. — штатны журналіст газеты. Літаратурныя тэксты пачала друкаваць у 1994 г. Піша па-беларуску і па-ўкраінску. Аўтарка зборніка апавяданняў «Крыві не павінна быць відна» (2007) і рамана «Рыбін горад» (2007).

Раман Наталкі Бабінай «Рыбін горад» выйшаў у перакладзе на польскую мову ў 2010 г. І можна смела сказаць, што твору беларускай пісьменніцы пашанцавала. Пашанцавала ў першую чаргу з перакладам. Аўтарка перакладу Малгажата Бухалік зрабіла рэч немагчымую: яна распавяла польскаму чытачу гісторыю беларускага сучаснага жыцця на мове жывой, яскравай, «зразумелай», захавала ўсю захапляльнасць і перадала тую несамавітую «паліфанію», заключаную ў арыгінальным тэксце, і што дзіўна — пазнавальную ў перакладзе. На мову твора звярталі ўвагу ледзь не ўсе польскія аўтары крытычных водгукаў, пра што крыху ніжэй.

Пашанцавала з выдавецтвам, якое змагло арганізаваць добрую рэкламную кампанію: адбыліся сустрэчы беларускай пісьменніцы з польскай аўдыторыяй у буйнейшых гарадах Польшчы, у разнастайных сродках масавай інфармацыі з’явіўся шэраг інтэрв’ю з Наталкай Бабінай. Чытачы змаглі сустрэцца, паразмаўляць з аўтаркай, атрымаць аўтограф і адкрыць для сябе такую простую, здавалася б, рэч: *Беларусь і беларуская літаратура ёсць*.

Пашанцавала з графічным афармленнем. Вокладка, зробленая Збігневам Мельнікам (на што зноў жа звяртаюць ўвагу аўтары крытычных допісаў), прыцягвае позірк, прываблівае ўжо знешнім выглядам, стоячы на паліцы ў кнігарні, патэнцыяльных чытачоў. Кнігу хочацца ўзяць у рукі, разгарнуць, а потым пачынае дзейнічаць магія самога твора — ён чытаецца на адным дыханні. Тавар акрамя зместу атрымаў належную форму, упакоўку, а такса-

ма цудоўную рэкламу і медыяпадтрымку. Інфармацыя пра выхад на польскі кніжны рынак беларускага рамана з’явілася ледзь не ва ўсіх вядучых часопісах і газетах, як агульнадзяржаўных, так і рэгіянальных.

Дзякуючы ўсім гэтым фактарам кніга Наталкі Бабінай была заўважана на польскім рынку, знайшла свайго чытача і можна сказаць — стала падзеяй. У асобных інтэрнэт-кнігарнях кнігі ўжо няма ў наяўнасці. Творам зацікавіліся многія: студэнты-славісты, аматары добрай літаратуры і тыя шырокія колы чытачоў, да якіх бывае так цяжка прабіцца перакладной (а тым больш беларускай!) кніжцы. Пацвярджэннем гэтаму можа быць наступны факт, вядомы мне са слоў самой пісьменніцы.

Наталка Бабіна ехала ў таксоўцы з прадстаўніком выдавецтва «Rebis» на чарговую сустрэчу з чытачамі. Яны агаворвалі падрабязнасці маючага адбыцца мерапрыемства. Нечакана да размовы далучыўся кіроўца:

— Прабачце, калі ласка, гэта Вы і ёсць тая самая Бабіна, чыю кнігу я чытаў усю ноч і не мог адарвацца?

Вось такі невялічкі эпізод, на маю думку, выдатна сведчыць пра папулярнасць кнігі Бабінай сярод польскай чытацкай аўдыторыі.

Іншым фактам папулярнасці з’яўляецца дастаткова вялікая колькасць водгукаў і рэцэнзій, якія з’явіліся таксама ў інтэрнэт-прасторы. Пераважная большасць аўтараў дае высокую ацэнку беларускаму твору, і кожны рэкамендуе чытачу абавязкова з ім пазнаёміцца.

На што звяртаюць увагу аўтары польскіх водгукаў і рэцэнзій?

У першую чаргу польскія рэцэнзенты і аўтары чытацкіх водгукаў звяртаюць увагу на ***мову*** твора.

У арыгінальным тэксце Наталкі Бабінай суіснуюць і пераплятаюцца беларуская, руская, украінская і элементы польскай мовы. Усе яны разам ствараюць тую незвычайную паліфанію, у якой жывуць героі твора: «Вэлкам у нашу паліфанію» — запрашае назвай аднаго з раздзелаў сама аўтарка. Здавалася б, што гэта проста немагчыма перадаць пры перакладзе на польскую мову, але і такі прыём як выкарыстанне розных моў перакладчыцы ўдалося захаваць. Нават польскі чытач чуе, як на мясцовым дыялекце гаворыць зямля над Бугам, як на розных мовах гавораць розныя героі. «… autorka bawi się słowem, używając ciekawego białoruskiego dialektu — warto zwrócić na niego uwagę!»[1] [1] — заўважае ў сваёй рэцэнзіі Аліна Блашкоўская. Іншы аўтар крытычнага допісу, захапляючыся «прыгажосцю, прыхаванай у прастаце слоў», прызнаецца: «Bardzo podobał mi się niezwykle żywy język Babiny. Czuć w nim było naturalność i szczerość w stosunku do czytelnika»[2] [10]. Беата Шчурэўска

---

[1] Аўтарка забаўляецца словам, выкарыстоўваючы цікавы беларускі дыялект — варта звярнуць на яго ўвагу. (Тут і далей пераклад з польскай аўтара артыкула. — *Н. Р.*)

[2] Мне вельмі спадабалася незвычайна жывая мова Бабінай. Адчувалася ў ёй натуральнасць і шчырасць у адносінах да чытача.

ў сваім артыкуле заўважае: «Bardzo udany jest też język książki. Każde zdanie wciąga nas coraz bardziej w ten świat»[1] [12].

Наступным момантам, які адзначаецца ў польскіх рэцэнзіях, з'яўляецца непасрэдна звязаны з мовай твора ***спосаб аўтарскай нарацыі***. Манеру пісьма Бабінай параўноўваюць са стылем Іаанны Хмялеўскай (калі гаворыцца пра дэтэктыўныя элементы твора), альбо з рэпартажамі Рышарда Капусцінскага (калі аўтарка апісвае сучасную беларускую рэчаіснасць). Адзначаецца таксама, што напісаны раман: «…z dużą ilością ironii i humoru»[2] [7], «niezły humor sprawia, że "Miasto ryb" czyta się jednym tchem»[3] [1].

Дыяпазон гумару ў нарацыі Бабінай дастаткова шырокі: гэта і самаіронія, і іранічнае стаўленне да сучаснасці, і карыкатурнае адлюстраванне рэчаіснасці, і сатырычнае апісанне палітычнага жыцця сённяшняй Беларусі, і гратэскавы партрэт улады. Бернадэта Дарска адзначае: «Babina w swojej narracji nie stawia na powagę i patos, wręcz przeciwnie — potrafi ośmieszyć absurdy rzeczywistości, obnażyć karykaturalność pewnych postaw, doprowadzić do takiego spiętrzenia wydarzeń, że wszystko okazuje się możliwe»[4] [5].

Але побач са смешным можна знайсці шмат сумнага ў рамане «Рыбін горад». І гэтага смутнага і часам балючага, так як і ў сённяшняй беларускай рэальнасці, значна больш, чым вясёлага. Але пры гэтым аўтарка здолела захаваць тую меру, калі смешнае прымушае чытача схаваць усмешку і ўсур'ёз задумацца, а сумнае не стварае ўражання штучных слёз і пустога наракання. Як адзначае польскі крытык Яраслаў Чаховіч: «I chociaż smutku u Babinej jest najwięcej, autorka zna jednak granicę, po przekroczeniu której opowieść może stać się przez ten smutek nieznośnie ckliwa»[5] [4]. У іншым водгуку адзначаецца дасканалае спалучэнне ў творы «гумару і настальгіі, страху і адвагі, цікавасці і свядомасці» [11].

Сярод слоў захаплення беларускай пісьменніцай і яе раманам, гучыць і крытычны голас Беаты Шчужэўскай, якая звяртае ўвагу на тыя моманты ў творы, дзе Бабіна з несамавітай шчырасцю апісала пэўныя фізіялагічныя падрабязнасці з жыцця жанчыны, не шукаючы адпаведных эўфемізмаў, а называючы рэчы сваімі імёнамі. У гэтым допісе адзначаецца, што ў творы з'яўляюцца «niesmaczne i bulwersujące opisy, jak np. przegnanie czorta. (…) "Miasta ryb" nie nazwałabym więc, tak jak jeden z recenzentów: «brawurową

[1] Вельмі ўдалая мова кнігі. Кожны сказ уцягвае штораз болей у свой свет.

[2] са значнай доляй іроніі і гумару.

[3] дзякуючы неблагому гумару, «Рыбін горад» чытаецца на адным дыханні.

[4] Бабіна ў сваёй нарацыі не ставіць на паважнасць і пафас, наадварот — патрапіць высмеяць абсурды рэчаіснасці, абнажыць карыкатурнасць пэўных паставаў, давесці да такога нагрувашчвання здарэнняў, што ўсё аказваецца магчымым.

[5] І хаця смутку ў Бабінай найбольш, аўтарка адчувае мяжу, перакрочыўшы якую раман можа зрабіцца невыносна саладжавым з-за гэтага смутку.

powieścią białoruską», lecz nieprzyjemną przygodą z literaturą: prostą, mało ambitną, zawierającą obrzydliwe opisy»[1]. Але пры гэтым сваё асабістае меркаванне аўтарка крытычнай заўвагі не схільная лічыць ісцінай абсалютнай: «Być może takie było zamierzenie autorki — napisać coś innego, czego jeszcze nie było, spowodować zgorszenie i niechęć do trzymania “Miasta ryb” na półce w swoim mieszkaniu…

Ani książki Markiza de Sade, ani film “Ciacho” nie napawały mnie aż takim niesmakiem, jak ta oto tzw. “brawurowa powieść”… Takie jest moje zdanie, warto jednak abyś Ty Czytelniku też sięgnął po tę pozycję i podzielił się własnymi odczuciami na temat tej książki. Być może akurat Tobie przypadnie ona do gustu»[2] [12].

Аднак, большасць водгукаў заканчвалася ў іншым стылі, аўтары, так як, напрыклад, Блашкоўска Аліна, схіляліся да рэкамендацыі «Dobrej powieści, pomysłowej, napisanej z werwą, wyczuciem i przyzwoitą pointą»[3] [1].

Не застаецца па-за ўвагай польскіх крытыкаў і такая асаблівасць твора як ***жанравая эклектыка***. У творы Наталкі Бабінай заўважаюць элементы *казкі для дарослых*, *дэтэктыва*, *палітычнага гратэску*, *камедыі*, *меладрамы*, *прыгодніцкага рамана*, *рэпартажу* і *парадакумента*. Адна з рэцэнзентак захоплена сцвярджае: «Tak genialnie podanego miszmaszu gatunków juz dawno nie miałam w rękach»[4] [7]. Усе крытыкі згодна падкрэсліваюць вельмі ўдалае спалучэнне розных жанраў у межах аднаго твора; прывядзем яшчэ адну цытату з Яраслава Чаховіча: «Chociaż Babina w swej powieści stawia przede wszystkim na dynamiczny rozwój akcji, nie sposób nie zauważyć, że w tej przewrotnej i autoironicznej książce o charakterze paradokumentalnym, mamy także sentymentalną opowieść o poszukiwaniu szczęścia i spełnienia»[5] [4].

---

[1] такія апісанні, як, напрыклад, расправа з чортам, выклікалі агіду і абурэнне (…), таму «Рыбін горад» я б не назвала, як адзін з рэцэнзентаў: «бравурным беларускім раманам», а непрыемнай прыгодай з літаратурай простай, мала амбітнай, з агіднымі апісаннямі.

[2] магчыма такі быў намер аўтаркі — напісаць нешта іншае, чаго яшчэ не было, выклікаць абурэнне і нежаданне трымаць «Рыбін горад» на паліцы ў сваёй кватэры… А ні кніга Маркіза дэ Сада, а ні фільм «Ciacho» (польская камедыя, рэж. Патрык Вэга. — заўвага наша, *Н. Р.*) не выклікалі ў мяне такой агіды, як гэты так званы «бравурны раман»… Гэта маё меркаванне, варта аднак, каб ты, Чатач, таксама ўзяў у рукі гэтую кнігу і падзяліўся ўласнымі адчуваннямі. Магчыма, акурат Табе яна прыпадзе да густу.

[3] добрага рамана, дасціпнага, напісанага з запалам, з чуццём і прыстойным заканчэннем

[4] Так геніяльна пададзенага змяшэння жанраў я даўно не трымала ў руках.

[5] Хаця Бабіна ў сваім рамане ставіць перадусім на дынамічнае развіццё дзеяння, нельга не заўважыць, што ў гэтай нечаканай і аўтаіранічнай кнізе, парадакументальнай па сваім характары, ёсць таксама сентыментальная аповесць пра пошукі шчасця і здзяйснення.

Сярод іншых сустрэлася нам і вызначэнне рамана «Рыбін горад» як дэтэктыва з паграніччa: «pogranicza literatury obyczajowej i reportażu»[1] [8]. Але памежжа выступае ў творы і як адна з сур'ёзных **праблем**, закранутых Наталкай Бабінай. Памежжа мае ў рамане цалкам рэальнае вымярэнне. Дзеянне твора разгортваецца на беларуска-ўкраінска-польскай мяжы. Пісьменніца змяшчае герояў на сваёй радзіме, у невялічкай вёсцы, дзе цягам гісторыі дзіўным чынам перапляліся сумежныя мовы і культуры. Такім чынам узнімаюцца праблемы **малой радзімы**, **беларускай вёскі**, а таксама **памежжа** і **шматкультурнасці**. Невялічкія Дабратычы, правобразам якіх паслужыла родная вёска Бабінай — Заказанка, робяцца ў творы цэнтрам сусвету. Як заўважае Магдалена Божка, «intryga jest wielowątkowa, ale każdy z wątków i tak prowadzi do Ałki i jej Dobratycz. To miejsce symboliczne. Tu prowincja zderza się z wielką polityką, tu zbiegają się kultury, kumulują uprzedzenia, rosną nadzieje na lepsze życie»[2][2].

У непасрэднай сувязі з пералічанымі вышэй праблемамі знаходзяцца пытанні **роднай мовы** і **нацыянальнай ідэнтычнасці**. Вось якім бачыцца партрэт жыхара памежжа польскаму рэцэнзенту Пятру Брысачу: «… kapitalny, wręcz socjologiczną kreską rysowany portret mieszkańców Pogranicza, zanurzonych w mitycznej przeszłości, by przetrwać teraźniejszość, zawieszonych pomiędzy Polską, Białorusią, Rosją, Ukrainą, dla których czas jest kołem, własna wieś — państwem, a narodowy język — zlepkiem różnych języków tych, którzy byli tu przed nimi»[3] [3]. Іншы крытык звяртае ўвагу, што ў рамане прадстаўлена «Niezwykle oryginalna i specyficzna mieszanka wielu kultur i języków»[4] [6].

Аўтары польскіх водгукаў адзначаюць, што ў рамане закранаюцца такія праблемы, як месца жанчыны ў грамадстве, наркаманія і алкагалізм, правы чалавека, таталітарызм і грамадзянскія свабоды. У адной з рэцэнзій чытаем: «Na czwartej stronie okładki znajdziemy hasło: "Ta białoruska książka nie jest o Łukaszence!". Przewrotny sens powyższego zdania bardzo szybko daje się zauważyć, bo państwo walczące ze zwykłymi ludźmi (drobiazgowo opisane — jako straszne, ale i ośmieszone — jako absurdalne), budzi oczywiste skojarzenia z niedemokratycznym sposobem sprawowania rządów tak charakterystycznym

---

[1] паграніччa бытавой літаратуры і рэпартажу.

[2] Інтрыга будуецца на шматлікіх сюжэтных лініях, але кожная з іх і так прыводзіць да Алкі Бабылёвай і яе Дабратыч. Гэтае месца сімвалічнае. Тут правінцыя сутыкаецца з вялікай палітыкай, тут сустракаюцца культуры, акумулюецца прадузятасць, растуць надзеі на лепшае жыццё.

[3] Капітальны, сацыялагічнымі штрыхамі маляваны партрэт жыхароў памежжа, занураных у міфічнае мінулае дзеля таго, каб перажыць сучаснасць, падвешаных паміж Польшчай, Беларуссю, Расіяй, Украінай, для якіх час з'яўляецца колам, уласная вёска — дзяржавай, а родная мова — злепкам розных моў тых, хто быў тут перад імі.

[4] Надзвычай арыгінальная і спецыфічная мешаніна многіх культур і моў.

właśnie dla państwa, w którym rozgrywa się akcja. Opowieść Babiny nie byłaby jednak tak ciekawa, gdyby okazała się tylko głosem “w sprawie” i protestem przeciwko łamaniu praw obywateli»[1] [5].

Вылучаецца польскімі рэцэнзентамі, як пазітыўная рыса рамана «Рыбін горад» і ўдала збудаваны ***сюжэт***. «Co mamy w fabule? — пытаецца Марта Лысэк і адказвае: … wszystko. Morderstwo i zabójstwo. Konflikt milicji i służb specjalnych. Przedwyborczą atmosferę i represjonowaną opozycję. Widzenie przeszłości i poszukiwanie skarbu. Mafię, politykę i senny świat starej wsi, a nawet potop. Ale owo “wszystko” zgrabnie układa się pod piórem Babiny w spójną całość, której elementy wyjaśniają się nawzajem»[2] [8].

Акрамя згаданых момантаў, на якія звяртаюць увагу польскія рэцэнзенты і аўтары крытычных водгукаў, нярэдка можна сустрэць і шчырае прызнанне, што дзякуючы твору Наталкі Бабінай, яны лепш пазнаёміліся з краінай сваіх суседзяў, даведаліся шмат новага і нечаканага. Раман беларускай пісьменніцы прыблізіў польскаму чытачу **Беларусь, яе гісторыю, сучаснае палітычнае і грамадскае жыццё**. Як слушна заўважае адзін з рэцэнзентаў, «“Miasta ryb” to jednak przede wszystkim swojego rodzaju reportaż, zbliżenie kamerą na życie, jakie toczy się na współczesnej Bialorusi. Babina pokazała nam Białoruś ze wszystkimi jej cieniami i blaskami. Pokazala od każdej strony, nie przebierając w słowach, nie ubarwiając. Mamy tutaj małą wieś i spokojne życie mieszkańców, mamy brutalny swiat mafii, mamy osobiste dramaty. A w tle, a może też na pierwszym planie, wybory prezydenckie.

“Miasto ryb” udziela nam sporej lekcji na temat kraju naszych sąsiadów. Przybliża ich, zmienia stereotypowe myślenie»[3] [10].

---

[1] На чацвёртай старонцы вокладкі змешчаны надпіс: «Гэтая кніга не пра Лукашэнку!» Перавернуты сэнс прыведзенага сказа вельмі хутка робіцца зразумелым, бо дзяржава, якая змагаецца супраць звычайных людзей (падрабязна апісана — як страшная, але і высмеяна — як абсурдная), абуджае асацыяцыі з недэмакратычным спосабам кіравання, характэрным менавіта для той дзяржавы, у якой разгортваецца дзеянне. Раман Бабінай не быў бы, аднак, такім цікавым, каб апынуўся адзіна голасам «у справе» і пратэстам супраць парушэння грамадзянскіх правоў.

[2] Што ёсць у сюжэце? Усё. Злачынства і забойства. Канфлікт міліцыі і спецыяльных службаў. Передвыбарчая атмасфера і рэпрэсіраваная апазіцыя. Бачанне мінулага і пошукі скарбу. Мафія, палітыка і сонны свет старой вёскі, а нават патоп. Але гэтае «ўсё» зграбна ўкладаецца пад пяром Бабінай у адзінае цэлае, элементы якога ўзаемна тлумачацца.

[3] «Рыбін горад» гэта перадусім своеасаблівы рэпартаж, «наезд» камеры на жыццё, якое адбываецца ў сучаснай Беларусі. Бабіна паказала нам Беларусь з усімі яе ценямі і бляскамі. Паказала з усіх бакоў, не выбіраючы слоў, не дадаючы фарбаў. Тут ёсць малая вёска і спакойнае жыццё яе жыхароў, ёсць брутальны свет мафіі, ёсць асабістыя драмы. А фонам, а можа і на першым плане, выступаюць прэзідэнцкія выбары. «Рыбін

Пётр Брысач пачынаў сваю рэцэнзію са сведчання: «O Białorusi wiemy tyle, że istnieje, o literaturze białoruskiej — że prawdopodobnie także»[1]. Свае развагі польскі крытык завяршыў наступнымі словамі: «Natalka Babina swoją powieścią udowadnia nie tylko, że białoruska literatura istnieje, ale że ma się ona całkiem nieźle…»[2] [3]. Малады літаратурны крытык Магдалена Валовіч таксама прызналася, што ўпершыню мела дачынне з беларускай літаратурай: «…cieszę się, że moja przygoda z prozą tego kraju rozpoczęła się od książki Natalki Babiny, bo teraz już wiem, ze warto sięgnąć po inne pozycje»[3] [14].

Завяршыць агляд польскіх рэцэнзій я хацела б параўнаннем Яраслава Чаховіча, які назваў «Рыбін горад» Наталкі Бабінай раманам-запрашэннем. І гэтае параўнанне, як рэха, адгукалася ў іншых крытычных тэкстах, своеасаблівым запрашэннем выглядаюць радкі іншага рэцэнзента: «Jeśli chcecie poczuć magię Pogranicza, zajrzyjcie koniecznie do “Miasta ryb”»[4] [3].

Польская чытацкая аўдыторыя актыўна адгукнулася на запрашэнне беларускай пісьменніцы і з цікавасцю выправілася ў літаратурную вандроўку па Беларусі. Раман Наталкі Бабінай выклікаў у літаратурнай прасторы Польшчы шырокі рэзананс, зацікавіў крытыкаў і чытачоў, якія выказалі свае погляды ў шматлікіх рэцэнзіях і водгуках. Прыхільнасць польскай крытыкі была прыемнай нечаканасцю і для самой пісьменніцы, якая вырашыла змясціць на вокладцы другога беларускага выдання сваёй кнігі словы з рэцэнзіі Магды Шчэпаняк: «Ці варта чытаць «Рыбін горад»? Не, не варта. ТРЭБА!» [11].

## Інтэрнэт-рэсурсы


1. Błaszkowska, A. MIASTO RYB — Babina Natalka / A. Błaszkowska // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.rebis.com.pl/rebis/public/news/news.html?co=print&id=2185& instance=1000&lang=pl&parent=0.
2. Bożko, M. Natalka Babina «Miasto ryb» / M. Bożko // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.dziennikwschodni.pl/apps/pbcs.dll/article?AID=/20101027/KULTURA10/348304963.
3. Brysacz, P. «Miasto ryb» / P. Brysacz // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.charaktery.eu/ksiaznica/3454/Miasto-ryb.


горад» дае нам урок на тэму краіны нашых суседзяў. Робіць іх больш блізкімі, змяняе стэрэатыпнае мысленне.

[1] Пра Беларусь мы ведаем толькі тое, што яна ёсць, пра беларускую літаратуру — што праўдападобна таксама ёсць.

[2] Наталка Бабіна сваім раманам даказвае не толькі тое, што беларуская літаратура існуе, але і тое, што маецца яна цалкам добра.

[3] цешуся, што мая прыгода з прозай гэтай краіны распачалася ад кнігі Наталкі Бабінай, бо цяпер я ўжо ведаю, што варта звярнуцца да іншых твораў.

[4] Калі вы захочаце адчуць магію памежжа, зазірніце абавязкова ў «Рыбін горад».

4. Czechowicz, J. «Miasto ryb» Natalka Babina / J. Czechowicz // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://krytycznymokiem.blogspot.com/2010/11/miasto-ryb-natalka-babina.html.
5. Darska, B. Zniszczenie (N. Babina, «Miasto ryb») / B. Darska // [Электронны рэсурс]. — — Рэжым доступу : http://bernadettadarska.blog.onet.pl/Zniszczenie-N-Babina-Miasto-ry,2,ID418045561,n.
6. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://takietamksiazki.blogspot.com/2011/02/natalka-babina-miasto-ryb.html.
7. Lindner, A. «Miasto ryb», Natalka Babina / A. Lindner // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://wedlugagi.blox.pl/2011/02/Miasto-ryb-Natalka-Babina.html.
8. Łysek, M. Kryminał słowiański / M. Łysek // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.portalkryminalny.pl/content/view/2570/35.
9. Nalewski, M. «Miasto Ryb» / M. Nalewski // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.newsweek.pl/recenzje/recenzje_ksiazka/miasto-ryb-,67157,1.
10. «Miasto ryb» Natalki Babiny // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://literazalitera.blox.pl/2011/05/Miasto-ryb-Natalki-Babiny.html.
11. Szczepaniak, M. «Miasto ryb» — Natałka Babina / M. Szczepaniak // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://1magdasz.wordpress.com/2010/10/17/miasto-ryb-natalka-babina.
12. Szczurzewska, B. «Miasto ryb», czyli Przygody Ałki alkoholiczki / B. Szczurzewska // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://www.wiadomosci24.pl/artykul/miasto_ryb_czyli_przygody_alki_alkoholiczki_179665.html, 2011-01-29.
13. Tokarska, A. N. Babina, «Miasto ryb» / A. Tokarska // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://agatatokarska.blog.onet.pl/N-Babina-Miasto-ryb,2,ID419868793,n.
14. Wołowicz, M. Natalka Babina. Miasto ryb / M. Wołowicz // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : http://kacikzksiazkami.blogspot.com/2012/02/natalka-babina-miasto-ryb.html.

**Ганна Серэхан** *(Мінск, Беларусь)*

# «ПАЭЗІЯ ЛЕГІЁНАЎ» АНТОНА ГАРЭЦКАГА І НАПАЛЕОНАЎСКАЯ ТЭМАТЫКА Ў ТВОРЧАСЦІ Ю. У. НЯМЦЭВІЧА, А. МІЦКЕВІЧА, У. СЫРАКОМЛІ

Уваходжанне ў літаратуру маладога Антона Гарэцкага адбылося якраз у той час, калі народ Рэчы Паспалітай толькі што страціў сваю дзяржаву. Разам з усведамленнем гэтай неверагоднай страты у сэрцах літвінаў і палякаў абуджаліся самыя высакародныя памкненні, якія скіроўваліся на вызваленне Айчыны. Патрыятызм, выяўлены ў мастацкіх творах пачатку

XIX стагоддзя, быў не проста духоўнай каштоўнасцю. Гэта была сапраўдная тыртэйская страсць, з якой у пазнейшым часе паўставалі велічныя рамантычныя героі. Але пакуль гэтая страсць стане галоўнай сілай у стварэнні эпічных твораў А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, яна спакваля, а з цягам часу ўсё больш бурліва стане ўваходзіць у паэзію пачатку XIX стагоддзя — паэзію, якая клікала маладых літвінаў і палякаў у легіёны, якая заклікала народ падтрымаць змаганне супраць расійскага ўрада, якая эмацыйна і жарсна натавала ваенную хроніку або элегічна апявала мужнасць толькі што загінулага ваяра. Адным словам, гэта была паэзія паўстання. Яна не была самастойным мастацкім феноменам, як гэта можна сцвярджаць у адносінах да пазнейшых эпічных твораў рамантыкаў (А. Міцкевіча, У. Сыракомлі). Гэтая паэзія была як бы дадатковай зброяй тых, хто адначасова сталлю і жалезам даказваў сваю вернасць страчанай Айчыне. І хоць вызваленчая паэзія пачатку XIX стагоддзя, на думку даследчыкаў, у мастацкім плане не дасягнула тых вяршынь, дзякуючы якім яе можна было б залічыць да нацыянальнай класікі, усё ж яна зрабіла сваю справу — сфармавала і дала рамантызму тую страсць, якая лягла ў аснову найзнакаміцейшых трагічных вобразаў, сюжэтаў, характараў.

Разгледзім, як гэтая страсць паступова напаўняла творы напалеонаўскай тэматыкі. Літаратурай, у якой асвятляецца гэты тэматычны пласт, займаліся некаторыя польскія даследчыкі. Яны аналізавалі ў асноўным лірыку польскіх аўтараў, толькі зрэдку, так бы мовіць, «на палях» сваіх даследчыцкіх прац, успамінаючы імёны паэтаў-літвінаў. Усе творы, прысвечаныя вызваленчай барацьбе пачатку 1800-х гадоў, даследчыкі аб’ядноўваюць пад назваю «напалеонаўскай эпапеі» (С. Віндакевіч), «паэзіі легіёнаў» (А. Брукнер) або «жаўнерскай легенды» (А. Паходай). Час ад часу і мы будзем карыстацца ў сваёй працы гэтымі паняццямі.

Напачатку заўважым, што напалеонаўская тэматыка ў творы таго ці іншага аўтара заўсёды — прама гэта выказана ці ў падтэксце — звязана з вызваленчай барацьбой папярэдніх этапаў гісторыі. Вайна легіёнаў супраць расійскага самадзяржаўя на землях былой Рэчы Паспалітай заўжды выяўляецца літаратарамі як працяг касцюшкаўскага вызваленчага руху. У многіх юнакоў, што ўцяклі з айчыны, каб ваяваць у легіёнах пад штандарам Напалеона, бацькі аддалі жыццё, удзельнічаючы ў паўстанні Т. Касцюшкі. Зразумелая з’ява: бацька памёр за вызваленне, а ўціск і няволя працягваюцца. Каб даказаць недарэмнасць бацькавай смерці, каб адпомсціць за гэта і ўсё ж дабіцца вырашэння справы, за якую змагаліся продкі, не шкадуюць свайго жыцця і юнакі. Таму і ідуць без вагання на смерць. Гэтак жа было і ў выпадку з А. Гарэцкім. Яго бацька таксама быў барскім канфедэратам, удзельнікам касцюшкаўскага паўстання і памёр каля 1812 года. Сын жа, А. Гарэцкі, быў прадстаўніком новага пакалення, якое нарадзілася незадоўга да 1794 года ці неўзабаве пасля яго і ўжо пасталела для працягу справы, за

якую было амаль вынішчана пакаленне бацькоў. Такім чынам, помста за бацькоў, пазбаўленне ганьбы перад іншымі народамі і вяртанне таго, што па праве належала бацькам, — гэта першыя складнікі, з якіх фармавалася, «разгаралася» патрыятычная страсць паэтаў-легіянераў пачатку XIX стагоддзя.

Адна з праяў гэтай страсці — узмоцненае рэлігійнае пачуццё, якое заўжды набірае сілу ў час выпрабаванняў. Патрыятызм жа перадрамантычнай пары немагчыма ўявіць без рэлігійнай афарбоўкі. Сынам, якія страцілі бацькоў, трэба зрабіць неверагоднае, амаль немагчымае, каб адваяваць забранае. Таму галоўнай падмацавальнай сілай у гэтай барацьбе становіцца звышнатуральная сіла — спрыянне Бога. Адсюль частае выяўленне патрыятычных пачуццяў у форме паэтычнай малітвы, як гэта можна назіраць у вершы А. Гарэцкага «Modlitwa uciśnionego narodu» («Малітва прыгнечанага народа», 1825). Верш напісаны ўжо пасля расчаравання ў палітыцы Напалеона, але ён вельмі добра перадае повязь розных пакаленняў у вызваленчай барацьбе:

Żadną łupieżą wróg nienasycony,
Już drugie temu pokolenie miia,
Jak naszedł nasze spokojne zagony,
Ciemięży oyców, krew synów wypiia,
    Boże niewinnych! skrzywdzonych nadzieio!
    Przed Tobą klęczym i łzy się nam leią[1]. [4, s. 179].

Ад паўстання Т. Касцюшкі да вызваленчай вайны 1812 года прайшло 18 гадоў… Пройдзе яшчэ 18 гадоў, а значыць, вырасце яшчэ адно пакаленне — і ўздымецца вызваленчае паўстанне 1830–1831 гг. У літаратуры яно таксама будзе выяўляцца як працяг папярэдніх віткоў барацьбы народа. Да гэтага часу ў літаратуры Літвы-Беларусі складзецца трывалая традыцыя «песні незалежнасці», якая выразна пакажа, наколькі моцна звязаны гэтыя асобныя этапы вызваленчай барацьбы: творы, якія былі напісаны для падтрымання паўстанцкага духу ў часы Т. Касцюшкі, стануць гімнамі для легіянераў 1812 г., паўстанцы 1830–1831 гг. будуць спяваць легіянерскія песні, і нават напярэдадні паўстання К. Каліноўскага неверагодную папулярнасць набудзе гімн «Boże, coś Polskę…» («Божа, што Польшчы…»), першы варыянт якога створаны А. Гарэцкім у 1816 годзе. Адзінства вызваленчых рухаў, якія адбываліся напрыканцы XVIII — у першай палове XIX стагоддзя, а таксама жыццяздольнасць традыцыі «песні незалежнасці» выяўлена і А. Міцкевічам у апошняй кнізе паэмы «Пан Тадэвуш»: цымбаліст Янкель у сваім захопленым

[1] Ніяк не насыціцца вораг разбоем, / Мінае другое ўжо пакаленне, / Як ён захапіў нашы спакойныя нівы, / Бацькоў прыгнятае і п’е кроў сыноў, / Божа нявінных! Ты — надзея пакрыўджаных! / Мы кленчым перад Табою і плачам. [Пераклад з польск. тут і далей наш. — *Г. С.*]

гранні перадае нібы музычна-песенную гісторыю апошніх дзесяцігоддзяў існавання Рэчы Паспалітай і першых дзесяцігоддзяў жыцця народаў пасля яе падзелаў. У гранні Янкеля чуваць, што ўсе баявыя і вызваленчыя песні літвінаў той пары — гэта нібы адна песня. Таму ўсім персанажам паэмы так блізкія і «Паланэз Трэцяга мая», і марш «Яшчэ Польшча не загінула…».

Пра жаданне працягнуць традыцыю змагання, заклiкаць землякоў не складваць зброі сведчыць тое аўтарскае аблічча і аўтарская пазіцыя, якія абраў сабе А. Гарэцкі. Ён неаднаразова называе сябе ў вершах б а р д а м . Паняцце гэтае ўзнікла ў эпоху Сярэднявечча і набыло новае пашырэнне ў еўрапейскім рамантызме, азначаючы вандроўнага спевака або песняра старажытнасці. Наступнымі словамі А. Гарэцкі пачынае верш «Śmierć Jasińskiego» («Смерць Ясінскага», 1811):

Zbawce narodu wam sława,
Spoczniycie wśród lauru cieniów,
I nim bitwa wezwie krwawa,
Posłuchaycie Barda pieniów[1]. [4, s. 115].

З гэтага ўрыўка, як і з некаторых іншых вершаў паэта вынікае, што рэалізацыю свайго таленту ён бачыць менавіта ў «бардаўскім» апяванні былых часоў, а дакладней, апяванні ваярскай славы літвінаў, іх барацьбы за незалежнасць. Неабходнасць гэтага А. Гарэцкі ўсведамляў напярэдадні вызваленчай вайны 1812 года. Служачы ўжо некалькі гадоў у легіёнах, паэт актуалізуе для літвінаў вобраз іх героя-выратавальніка — Якуба Ясінскага, і ахінае яго арэолам легендарнасці, міфічнасці, паказвае гэтага героя як таго, хто адзін мог здзейсніць амаль немагчымае:

Gdy tak Polak wolność traci,
Rozpaczą przeięty cały,
Patrząc na chańbę swych braci,
Zawołał Jasiński śmiały…[2] [4, s. 118].

---

[1] Збаўцы народу! Вам слава! / Спачніце ў ценю лаўровым, / І, перш чым пачнецца крывавая бітва, / Паслухайце бардавы словы.

[2] Калі гэтак паляк траціць волю, / Цалкам ахоплены роспаччу, / Гледзячы на ганьбу сваіх братоў, / Усклікнуў смелы Ясінскі…

Як бачым ва ўрыўку, літвін Ясінскі аддае жыццё за братоў-палякаў, што ў творах першай трэці XIX стагоддзя выглядае арганічна і натуральна. Сапраўды, у ідэі еднасці, братэрскасці абодва народы перад абліччам гібелі дзяржавы бачылі кансалідуючы фактар, тое, што яшчэ сведчыла пра жыццёвасць Рэчы Паспалітай і з’яўлялася неабходнай умовай яе аднаўлення. Таму і не дзіва, што ў А. Гарэцкага сустракаюцца вершы (напрыклад, цыкл «Trzy śpiewy wojenne» / «Тры ваенныя спевы»), дзе ён называе сябе то палякам, то літвінам, што ў вачах сучаснага чытача можа выглядаць супярэчліва, а для чалавека пачатку XIX стагоддзя — нават пажадана, бо польскасць

Звернем увагу яшчэ на адну акалічнасць у вершы «Смерць Ясінскага». Паводле зместу аповед адрасаваны не сучаснікам паэта, а памерлым героям Айчыны. Апавядальнік звяртаецца да іх напярэдадні важнай падзеі, перад якой трапяталі сэрцы ўсіх літвінаў. Гэта быў 1811 год, калі народ радасна чакаў уступлення напалеонаўскіх войскаў на землі Літвы-Беларусі. Таму лірычны герой усклікае да памерлага Ясінскага:

Powstań mężu nie zwalczony!
Jasiński, twóy kray w potrzebie!
Stań między nasze szwadrony,
I patrz iak pomścim się Ciebie!..[1] [4, s. 119].

Як бачым, бард кліча палеглага героя з магілы. Паводле аднаго з традыцыйных матываў баладных твораў памерлага героя з магілы ўздымае каханая, менавіта каханне мае сілу перакрочваць межы зямнога свету і іншасвету. Тут жа гэтай сілаю надзяляецца патрыятычная страсць.

Такія змены акцэнтаў можам назіраць не толькі ў А. Гарэцкага. Падобнаю схемаю скарыстаўся Ю. У. Нямцэвіч у гістарычным спеве «Pogrzeb Księcia Józefa Poniatowskiego» («Пахаванне князя Юзафа Панятоўскага»). «Як вядома, — піша М. Янён пры аналізе гэтага твора, — выкарыстоўваючы жанр думы, аўтары неаднаразова карысталіся эфектам асаблівай неспадзяванасці: дзяўчына з радасцю чакае вяртання свайго каханага з вайны, вось ужо бачыць атрад ваяроў, падбягае, а гэта сябры нясуць яго цела» [5, s. 231]. У гістарычным спеве Ю. У. Нямцэвіча астанкі князя Ю. Панятоўскага сустракае народ. М. Янён характарызуе гэта як «надзвычайнае ў з м а ц н е н н е і н т ы м н а й с у в я з і паміж народам і героем» [5, s. 232].

Ёсць у А. Гарэцкага і традыцыйны сюжэт, але з нечаканай яго развязкаю. Гераіня «Dumy o jenerale Stefanie Grabowskim» («Думы пра генерала Стэфана Грабоўскага», 1814) плача на магіле каханага і сваімі пачуццямі вяртае яго з небыцця. Разам з ім устае з магіл цэлае войска рыцараў:

I któryż z wieszczów opisze,
Jak duchy różne językiem,
Rzucając grobów zacisze,
Wojennym stawały szykiem[2]. [3, s. 40].

---

была адзнакаю дзяржаўнай прыналежнасці (грамадзянства Рэчы Паспалітай), у той час як літвінскасць — прыкметаю прыналежнасці этнічнай.

[1] Паўстань, непераможны воін, / Ясінскі, твой край у патрэбе, / Стань сярод нашых эскадронаў / І глядзі, як мы помсцім за цябе!

[2] Хто ж з паэтаў апіша, / Як духі, што гавораць на розных мовах, / Пакідаючы зацішша магілаў, / Станавіліся ў вайсковыя атрады.

Але паступова заўважаем, што А. Гарэцкі зноў адступае ад традыцыйнай схемы развіцця гэтага сюжэта: рыцары абуджаюцца таму, што плач каханай яны прынялі за плач няшчаснай Айчыны. Больш за тое, дзяўчына чуе ад свайго ўваскрослага каханага дакоры:

Stój niebaczna! co za prawo,
Masz poruszać z grobów cienia;
Swych rodaków ciesz się sławą,
I rzuć niewieście jęczenia[1]. [3, s. 40].

Такім чынам, моцная сіла кахання, якая выклікала з таго свету душы памерлых, павінна саступіць перад патрыятычным пачуццём, якое, паводле аўтара, адзінае вартае і смерці, і ўваскрасення. Але гэта не выяўленне пагарды да зямных чалавечых пачуццяў. Больш за тое, слодыч дзявочага кахання становіцца даступнаю герою «напалеонаўскай эпапеі» толькі тады, калі ён перад гэтым загартуе сваё сэрца ў змаганні за Айчыну, упрыгожыць імя славаю, а грудзі — ордэнам.

Акрамя «Смерці Ясінскага» і «Думы пра генерала Стэфана Грабоўскага», легендарныя вобразы нацыянальных герояў Гарэцкі-бард дае чытачу і ў творах «Na zgon Generała Dąbrowskiego» («На смерць генерала Дамброўскага»), «Duma nad Dnieprem» («Дума над Дняпром»), «Duma o Zakrzewskim» («Дума пра Закрэўскага»), «Śmierć Fiszera» («Смерць Фішара»), «Duma o dawnych czasach» («Дума пра даўнія часы»). Мэтанакіравана або не, аўтар стварае галерэю паэтычных герояў-вобразаў на падабенства Нямцэвічавых «Śpiewów Historycznych» («Гістарычных спеваў»), толькі звяртаецца не да ўсёй гісторыі літвінаў, а да канкрэтнага гістарычнага этапу. У прадмове да «Гістарычных спеваў» Ю. У. Нямцэвіч таксама згадвае традыцыю апявання бардамі мінуўшчыны: «Амаль усе народы каля вытокаў свайго нараджэння мелі ўпаўнаважаных публічных спевакоў, моцна іх песні ўплывалі на розумы рыцарскай моладзі. <…> Вось што кажа Гіббон пра бардаў, або песняроў старажытных германцаў і галаў: «Несмяротнасць, якую абяцалі святары, больш дзейсна праяўлялася дзякуючы бардам… Цяжка выразіць і нават зразумець той запал да вайны і славы, які яны абудзілі ў грудзях сваіх слухачоў» [9, s. 7–8].

Слава — вось шлях да несмяротнасці і перадачы патрыятычнай страсці ў спадчыну іншым пакаленням. Гэтак яго бачылі і А. Гарэцкі разам з іншымі паэтамі-леіянерамі, і Ю. У. Нямцэвіч. Пасля А. Міцкевіч сцісла выкажа гэта ў «Пане Тадэвушы»:

[1] Стой, нябачная! Якое ты маеш права / Клікаць з магілаў цені; / Цешся славаю сваіх землякоў / І пакінь жаночыя слёзы.

Jest sława, a więc będzie i Rzeczpospolita!
Zawrzdy z wawrzynów drzewo wolności wykwita[1]. [6, s. 26].

Праслаўленне герояў і іх вялікіх учынкаў — адначасова мэта барда. Праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля таго, як адгрымелі напалеонаўскія войны, з часавай перспектывы А. Міцкевіч трапна заўважыць у сваёй паэме-эпапеі:

…Sławni dowódcy owi naszych legionów,
Których lud znał imiona i czcił jak patronów,
Których wszystkie tułactwa, wyprawy i bitwy
Były ewangeliją narodową Litwy[2]. [6, s. 313].

Як бачым, бардам пакаленняў Ю. У. Нямцэвіча і А. Гарэцкага ўсё ж удалося зрабіць так, каб нацыянальныя героі былі ў сэрцах літвінаў як святыя патроны, апекуны. Галоўным жа героем таго нацыянальнага Евангелля, пра якое пісаў А. Міцкевіч, безумоўна, на пачатку XIX стагоддзя быў Напалеон I Банапарт. Яго вобраз праслаўляўся і абагаўляўся. У тагачаснай літаратуры ён набываў устойлівыя азначэнні «бога вайны», «другога Марса», «уваскрашальніка народаў», «вялікага Чалавека». Запал, з якім яго сустракалі зняволеныя народы, добра перададзены ў апошняй страфе «Pieśni wojennej» Ю.У. Нямцэвіча:

Z radością w kressie zawodu,
Wzniesieni Hymnu dziękczynia,
Wskrzesicielowi Narodu,
I straconego Imienia,
Głosząc: pewna tey Opieki
Niech żyie Polska na wieki[3]. [8, s. 4].

Асоба Банапарта была авеяна ў народзе і ў паэзіі яго бардаў такой пашанаю і легендарнасцю, што хадзілі нават чуткі, быццам ён займаўся чарадзействам. Пра гэта згадвае і Міцкевічаў ксёндз Робак у першай кнізе «Пана Тадэвуша». Такая папулярнасць сярод літвінаў можа зраўняцца хіба што толькі з нязгаснаю папулярнасцю Усяслава Чарадзея.

---

[1] А вернем славу — вернем і дзяржаву, / Бо з парастка пачатак дрэва волі» [Перакл. з пол. Я. Семяжона. — *Г. С.*].

[2] Усе іх ведалі па прозвішчы і імі, / Лічылі абаронцамі, людзьмі сваімі. / А лёс выгнаннікаў, іх вернасць справам родным / Былі ў Літве евангеллем народным [Перакл. з пол. Я. Семяжона. — *Г. С.*].

[3] З радасцю ў той час, калі прыйшоў канец расчараванням, / Мы ўзносім гімн падзякі / Уваскрашальніку Народа / І страчанага Імені, / Усклікаючы: пад яго надзейнаю апекай // Няхай Польшча жыве вечна.

У лірыцы ж А. Гарэцкага асоба Напалеона часцей за ўсё згадваецца пры мастацкім асэнсаванні паражэння легіёнаў. Верш «Bitwa pod Berezyną» цалкам прасякнуты духам расчаравання:

Ale ty drugi Marsie! gdzie lecisz wybladły?
Uciekasz, łzy niewinnych na głowę ci spadły;
Nieszczęśliwy nasz naród ufał ci na próżno,
Upada dzieło ręką stawione bezbożno;
Na to ci mały człecze Bóg miecza pożyczył,
Abyś ludy uwolnił, nie trony dziedziczył[1]. [2, s. 259].

Такім чынам, «вялікі Чалавек» тут ужо з горыччу скідаецца са свайго п’едэстала боскасці і невыпадкова надзяляецца А. Гарэцкім найменнем «maly człecze». Не так гнеўна, як у дадзеным вершы, але вельмі алегарычна і цікава выказаў А. Гарэцкі свае сумненні адносна асобы і палітыкі Напалеона ў байцы «Woły folwarczne» («Фальваркавыя валы», 1815). Твор з’явіўся пасля Венскага кангрэса. Літва тут прадстаўлена пад вобразам фальварка, у якім вал*ы* зацікавіліся, якому ж гаспадару яны будуць належаць паводле новага дэкрэта, на што сабака ім адказвае: «Czy Jan czy Piotr was weźmie, zawsze orać będzie»[2] [4, s. 204]. Як бачым, паводле дадзенай алегорыі кожны з гаспадароў былой Рэчы Паспалітай будзе выцягваць з яе народаў усё сабе на карысць, не даўшы ім жаданай свабоды. У лекцыях па славянскай літаратуры А. Міцкевіч таксама не абышоў міма тое, што вызваленыя Напалеонам народы вельмі супярэчліва сябе пачувалі пад яго ўладай, а на прыкладзе твораў А. Гарэцкага класік даводзіць, што паэзія тых часоў хоць і заклікала да бою, але была прасякнута моцным смуткам [7, s. 235–241]. Па-мастацку ж гэта А. Міцкевіч выказаў з дапамогаю вобраза старога Мацея Дабжынскага ў паэме «Пан Тадэвуш». У той час, калі народ перажывае глыбокае ўзрушэнне з нагоды прыходу напалеонаўскага войска ў Літву, адзін Мацей паводзіць сябе бязрадасна і засцерагае суайчыннікаў:

Ale, Panie, dwóch orłów razem się nie gnieździ!
Łaska pańska, Hetmanie, na pstrym koniu jeździ!
Cesarz wielki bohater! gadać o tym wiele!
Pamiętam, że Pułascy, moi przyjaciele,
Mawiali, poglądając na Dymuryjera,
Że dla Polski polskiego trzeba bohatera,

---

[1] Але ты, другі Марсе, куды ж ты бяжыш, зบляднелы? / Уцякаеш, а слёзы нявінных — на тваім сумленні. / Наш няшчасны народ дарэмна на цябе спадзяваўся, / Бязбожная справа прыйшла ў заняпад. / А Бог жа дзеля таго пазычыў табе меч, малы чалавеча, / Каб ты вызваліў народы, а не заваёўваў троны.

[2] Ці Ян, ці Пётр вас возьме, заўжды на вас будзе араць.

Nie Francuza ani też Włocha, ale Piasta,
Jana albo Józefa, lub Maćka — i basta[1]. [6, s. 345].

Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што хоць вобраз Напалеона ў тагачаснай паэзіі і быў зняты з п'едэстала боскасці, але нават тады, калі сам Банапарт пакінуў уладу, у паэзіі літвінаў яму аддавалася пашана за тое, што ён абудзіў і доўгі час падтрымліваў у народах пачуццё нацыянальнай годнасці, імкненне даказаць усяму свету сваю адвагу, мужнасць і славу. Як заўважае А. Гарэцкі ў вершы «Rocznica 5-go Maja» («Гадавіна 5 мая»), аднаго слова Напалеона легіянерам было дастаткова для таго, каб адчуць сябе ўзнагароджанымі за ўдзел у вайне і ахвяраваць крывёю дзеля наступных перамог.

Кожны ўдзельнік напалеонаўскіх кампаній заставаўся для народа жывой легендай, увасабленнем годнасці і мужнасці. Гэтак адбывалася ў лёсе самога А. Гарэцкага, які атрымаў ва ўзнагароду Крыж Ганаровага Легіёна. Гэтак выглядае і нібы спісаны з А. Гарэцкага вобраз Сыракомлевага старога ваяра, былога ўдзельніка напалеонаўкіх войнаў, у вершы-абразку «Napoleonista» («Напалеаніст», 1846). У. Сыракомля ў славесных вобразах паказаў класічны партрэт напалеонаўскага змагара. Ужо немалады, праз усё жыццё гэты ваяр жыве тымі змаганнямі і перажываннямі, якія яму давялося спазнаць у маладосці падчас службы ў легіёнах. Гэта паклала адбітак на ўсю яго асобу, вайна за Айчыну стала яго страсцю, пасіяй. Яна жыве ў глыбіні яго душы нават тады, калі прайшло ўжо шмат гадоў пасля славутых бітваў.

Dziś gdy jego przeszłość cała,
W grobie pochowana,
Bywa zimny gdyby skała,
Milczący jak ściana.

Ale przed nim niespodzianie,
Wyrzecz imię Jego,
On się zerwie, frontem stanie,
I łzy mu pobiegą[2]. [11, s. 152].

---

[1] …Але дзе ж было такое, / Каб два арлы ў адным гняздзе жылі без бою? — / Адказваў Мацька. — Чуў я, гетман, мудрасць недзе, / Што ласка пана на кабылцы ўпартай едзе: / Узнаравіцца — злазь у гразь. Пра Банапарта / Не запярэчу, ён — герой, але ж і ўпарты. / Пулаўскія, мае сябры, як памятаю, / Пра Дзюмур'е казалі так: «О не, не тая, / Фігура!» Польшчы трэба свой кароль, з палякаў, / Кароль патомны, скажам, з Пястаў, нашых ляхаў, / А не французскі ці аўзонскі хлюсцік бацькаў. / Давай такога з нашых Юзафаў ці Мацькаў!» [Перакл. з пол. *Я. Семяжона*. — *Г. С.*].

[2] Сёння, калі ўсё яго мінулае / Пахавана ў магіле, / Ён бывае халодны, як скала, / Маўчыць, нібы сцяна. / Але калі перад ім неспадзявана / Згадаеш Яго імя — / Ён сарвецца, павернецца да цябе, / І пусціць слязу.

Атрыбутыка былога легіянера — хрысціянскі крыж і Крыж Ганаровага Легіёна. Гэта яшчэ адно пацверджанне таму, што рэлігійнае пачуццё і патрыятызм былі неаддзельныя для ваяра: ён не ўяўляў сабе веру ў Бога без любові да Айчыны, як не ўяўляў і вайну за Айчыну без Божай падтрымкі. Гэта быў глыбока рэлігійны патрыятызм.

Дастаткова таксама згадаць Міцкевічавага ксяндза Робака, каб атрымаць яшчэ адзін вобраз, роднасны з Сыракомлевым напалеаністам, з той розніцай, што ксёндз Робак — Яцак Сапліца памірае яшчэ поўны надзей на тое, што абяцалі Напалеонавы перамогі. Пасля пакут маладосці, страты кахання, якое не магло рэалізавацца, ён знаходзіць новую страсць. Аднак і ёй не дазволілі ажыццявіцца шляхецкія звады. Пра гэтую страсць ён кажа перад смерцю ключніку Гервазію:

Tyś wątek spisku, tyle lat snowany, splątał!
Cel welki, który całe życie me zaprzątał,
Ostatnie moje zemskie uczucie na świecie,
Którem tulił, hodował jak najmilsze dziecię,
Tyś zabił w oczach ojca, a jam ci przebaczył![1] [6, s. 302].

Ваенная біяграфія ксяндза Робака — Яцака Сапліцы ў многім нагадвае ваенную біяграфію А. Гарэцкага, як у геаграфіі паходаў, так і ў характары дзейнасці. Згадаем, што А. Гарэцкі, вярнуўшыся ў Літву пасля службы ў легіёнах, пачынае рыхтаваць на Айчыне паўстанне. Гэтак і ксёндз Робак: прайшоўшы праз бітвы і раненні, ён вярнуўся ў Сапліцова «towarzystwa tajemne wiązać i składać». Такое падабенства не дзіўнае: падчас напісання «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіч меў пры сабе сябра А. Гарэцкага, жывога сведку тых настальгічных змаганняў пачатку XIX стагоддзя.

У аўтарскай іпастасі А. Гарэцкага, які абраў сабе найменне барда, а таксама ў аўтарскім абліччы А. Міцкевіча і У. Сыракомлі ёсць агульны духоўны стрыжань: А. Міцкевіч ў «Пане Тадэвушы» таксама выступае ў ролі апявальніка мінулых часоў, У. Сыракомля як аўтар нярэдка карыстаўся роляю гавэндара. Падобны прыём «лірнік вясковы» выкарыстаў, напрыклад, і ў творы «Ułas: Sielanka bojowa z błót Poleskich» («Улас: Баявая ідылія з палескіх балот», 1858), дзе ўзнаўляе карціну «z czasów jeszcze Francuza na naszej ziemi»[2], паклаўшы ў аснову сюжэта падрыхтоўку паўстання сярод шляхты і разгром шляхецкага лагера казакамі.

---

[1] <…> Твая рука трымала / Твой меч, хоць воля Боская ім кіравала, / І ты рассек усе мае задумы, планы, / Якія я ўвесь век выношваў, апантаны / Вялікай мэтай. Пеставаў яе, як матка / Сваё адзінае, любімае дзіцятка… / Ты ж на вачах забіў яе, і ўсё-ткі я дарую… [Перакл. з пол. Я. Семяжона. — *Г. С.*].

[2] …яшчэ з часоў француза на нашай зямлі.

Нягледзячы на адзначаныя падабенствы, усё ж час і развіццё літаратурнага працэсу ў XIX стагоддзі паклалі свой адбітак на дух і характар адлюстравання адных і тых жа падзей гэтымі трыма аўтарамі — прадстаўніком перадрамантызму А. Гарэцкім, рамантыкамі А. Міцкевічам і У. Сыракомлем.

А. Міцкевіча і У. Сыракомлю, безумоўна, ужо нельга назваць прадстаўнікамі легіянерскай паэзіі, нягледзячы на тое, што тэматыка іх твораў адпавядае традыцыі т. зв. «жаўнерскай легенды», або «напалеонаўскай эпапеі». А. Гарэцкі, падобна да Ю.У. Нямцэвіча, стварaў нацыянальную, можна нават сказаць, нацыятворчую легенду на аснове падзей XVIII стагоддзя — у дадзеным выпадку барскай канфедэрацыі і паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі — і рэалізаваў духоўныя каштоўнасці народа, якія сцвярджаліся ў гэтай легендзе, праз свой удзел у напалеонаўскай вайне. Для яго гэтая вайна была сучаснасцю, а для А. Міцкевіча і У. Сыракомлі яна стала мінуўшчынай, з якой паэты стваралі ўжо н о в у ю нацыянальную легенду, і ў аснову яе лягла тая моцная тыртэйская патрыятычная страсць, якая нарадзілася ў «паэзіі легіёнаў». А. Гарэцкі як удзельнік напалеонаўскіх войнаў не мог яшчэ гэтага зрабіць, бо занадта блізкай і супярэчлівай была для яго тая рэчаіснасць. Менавіта таму, напрыклад, твор А. Міцкевіча напоўнены духам настальгіі, а творы А. Гарэцкага — узнёслым прадчуваннем радасці і адначасова трывогаю.

Такім чынам, «паэзіі легіёнаў» А. Гарэцкага, а таксама патрыятычнай паэзіі напалеонаўскай тэматыкі ў творчасці Ю.У. Нямцэвіча, А. Міцкевіча і У. Сыракомлі ўласціва моцнае пачуццё патрыятызму, якое набывае характар страсці, пасіі. Узнікненне і фарміраванне гэтага пачуцця было выклікана нешчаслівым нядаўнім лёсам Айчыны гэтых паэтаў-літвінаў і паражэннем вызваленчых рухаў у апошняй трэці XVIII стагоддзя. Для падтрымання ў народзе гэтай патрыятычнай страсці А. Гарэцкі і Ю. У. Нямцэвіч надаюць сваёй паэзіі бардаўскі характар, выкарыстоўваючы жанры гістарычнага спеву і думы для апявання слаўнай мінуўшчыны і фарміравання ў народнай свядомасці пачуцця гонару і годнасці. А. Гарэцкі, грунтуючыся на ўласным ваярскім досведзе, даў літаратуры перадрамантызму вобраз ваяра-легіянера, які жыве гэтаю патрыятычнаю страсцю і гатовы пад кіраўніцтвам «бога вайны» Напалеона нават жыццё ахвяраваць за вызваленне Айчыны. Гэты вобраз легіянера ўвайшоў пасля ў літаратуру рамантызму дзякуючы творчасці А. Міцкевіча і У. Сыракомлі і стаў героем новай нацыянальнай легенды.

## Літаратура

1. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве : Шляхецкая гісторыя 1811–1812 гг. у 12 кн. вершам / А. Міцкевіч; пер., камент. Я. Семяжона; прадм. К. Цвіркі. — Мінск, 1998.
2. Gorecki, A. Bitwa pod Berezyną / A. Gorecki // Tygodnik Polski i Zagraniczny. — 1818. — T. IV. — № 37. — 12 września. — S. 259–261.
3. Gorecki, A. Pieśni / A. Gorecki. — Paryż, 1868.

4. Gorecki, A. Poezyie Litwina / A. Gorecki.; wyd. Alexandr Jełowicki. — Paryż, 1834.
5. Janion, M. Prace wybrane : w 5 t. / M. Janion; pod red. Małgorzaty Czermińskiej. — Kraków, 2000–2002. — T. 4 : Romantyzm i jego media. — S. 227–253.
6. Mickiewicz, A. Dzieła : w 17 t. / A. Mickiewicz; komitet red. : Z. J. Nowak, M. Prussak [i inni]. — T. 4 : Pan Tadeusz czyli Ostatni zajazd na Litwie : Historia szlachecka z r. 1811 i 1812 we dwunastu księgach wierszem. — Warszawa, 1998.
7. Mickiewicz, A. Literatura słowiańska wykładana w Kolegium Francuzkiem : w 4 t. / A. Mickiewicz; tłum. Felixa Wrotnowskiego. Wyd. trzecie. — Poznań, 1865. — T. 2 : Rok drugi, 1841–1842.
8. Niemcewicz, J. U. Pieśń wojenna / J. U. Niemcewicz. — Warszawa, 1812.
9. Niemcewicz, J. U. Śpiewy Historyczne z muzyką, rycinami i krótkim dodatkiem zbioru historyi polskiej / J. U. Niemcewicz. — Wyd. 5. — Lwów, 1849.
10. Smolarski, M. Poezja legionów : czasy, pieśń i jej dzieje / M. Smolarski. — Kraków, 1912.
11. Syrokomla, Wł. Gawędy i rymy ulotne : poczet piąty / Wł. Syrokomla. — Wilno, 1857.
12. Syrokomla, Wł. Pisma epiczne i dramatyczne / Wł. Syrokomla. — T. 3. — Poznań, 1868.

---

**Дарыюш Хэмпэрэк** *(Люблін, Польшча)*

## МАЛАХІТАВАЯ АНТАЛОГІЯ: БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАННЕ ПАЭЗІІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА XVI–XVIII СТСТ. НА ФОНЕ ПОЛЬСКІХ ЗБОРНІКАЎ ДАЎНЯЙ ПАЭЗІІ

Двухмоўная анталогія «Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст.», укладзеная Алесем Бразгуновым, з ягонай прадмовай, каментарыямі і з ягонымі, у львінай долі, перакладамі (пераважна з польскай мовы) на сучасную беларускую мову, выдадзена ў Мінску ў 2011 г. прэстыжным выдавецтвам «Беларуская навука» пры Акадэміі навук Беларусі. Кніга, якая налічвае 903 старонкі, звяртае на сябе ўвагу прыгожай «малахітавай» вокладкай. У Польшчы «мармуровыя» вокладкі былі характэрныя для старых кніг: так універсітэцкія бібліятэкі перапляталі каштоўныя, але знішчаныя ў працэсе карыстання выданні. «Мармуровая» вокладка выклікае таксама згадку пра вядомую польскую анталогію, выдадзеную Вацлавам Баровым «Od Kochanowskiego do Staffa. Antologia liryki polskiej» (Ад Каханоўскага да Стафа. Анталогія польскай лірыкі) (1992), якая мела падобнае мастацкае афармленне.

Сімволіка малахіта — цяжка сказаць, наўмысна ці выпадкова выкарыстанага беларускім выдавецтвам — выклікае пазітыўныя асацыяцыі. Праўдападобна, зялёны колер гэтага каменя ўраўнаважвае эмоцыі і розум, малахіт нармалізуе энергаабмен, актывізуе дзейнасць арганізма, нішчыць хваробатворныя бактэрыі, сцішвае боль падчас родаў, стымулюе кровазварот.

Ураўнаважанасць інтэлекту і эмоцый, альбо іншымі словамі аб'ектывізм, неабходны для навуковых прац, дэманструе ўжо сама назва кнігі. Бразгуноў трапна выкарыстаў азначэнне «славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага», пазбягаючы анахранізму і прэзентызму, характэрных для анталогій і публікацый, якія выдаваліся ў Беларусі раней[1]. Піянерам сярод беларускіх навукоўцаў у выкарыстанні назвы ВКЛ у адносінах да даўняй літаратуры, якая паўставала на тэрыторыі сучаснай Беларусі, з'яўляецца Сяргей Кавалёў[2], сярод польскіх даследчыкаў ужыванне назвы «ВКЛ» альбо «Рэч Паспалітая» зрабілася ў апошнія гады нормай[3]. Выкарыстанне такой

---

[1] Гл.: Лабынцаў, Ю. Пачатае Скарынам: Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу / Ю. Лабынцаў. — Мінск, 1990; Саверчанка, І.В. Старажытная паэзія Беларусі : XVI — першая палова XVII ст. / І.В. Саверчанка. — Мінск, 1992; Саверчанка, І.В., Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі : Адраджэнне і ранняе барока / І.В. Саверчанка. — Мінск, 1998; Анталогія даўняй беларускай літаратуры, XI — першая палова XVIII ст. / рэд. В. Чамярыцкі. — Мінск, 2003.

[2] Кавалёў, С. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага ў эпоху Рэнэсансу : тры плыні / С. Кавалёў // Феномен памежжа. Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці : зборнік навуковых прац. — Гродна, 2009. — С. 31–38; Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу / С. Кавалёў. — Мінск, 2010; Кавалёў, С. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст. : феномен культурнага памежжа / С. Кавалёў. — Мінск, 2011.

[3] Гл.: Puchowski, K. Jezuickie kolegia szlacheckie Rzeczypospolitej Obojga Narodów / K. Puchowski. — Gdańsk, 2007; Wisner, H. Rzeczpospolita Wazów / H. Wisner. — T. III : Sławne Państwo Wielkie Księstwo Litewskie. — Warszawa, 2008. Такія азначэнні да апісання гістарычных і гісторыка-літаратурных фактаў ужываюць навукоўцы ў калектыўных працах, выдадзеных у Польшчы і за яе межамі. Гл. таксама: Środowiska kulturotwórcze i kontakty kulturalne Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do XIX wieku / red. U. Augustyniak. — Warszawa, 2009; Iškilmės ir kasdienybė Lietuvos Dzidžiojoje Kunigaikštystėje ir Jos kontekstuose. Celebrations and Everyday Life in the Grand Duchy of Lithuania and its Contexts / ed. A. Paliušytė, T. Račiūnaitė. — Vilnius, 2009; Tradycja — metody przekazywania i formy upamiętniania w państwie polsko-litewskim XV — pierwsza połowa XIX wieku / red. U. Augustyniak; Dziedzictwo kulturowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. W 440 rocznicę Unii Lubelskiej / red. S. Kawalou, M. Kojder. — Lublin, 2010; Хэмпэрэк, Д. Польская поэма XVII века о великолепии Смоленска «Studi Slavistichi» VI (2009) / Д. Хэмпэрэк. — S. 229–249, Firenze University Press, http://ejour-fup.unifi.it/index.php/ss/issue/current. Характэрным з'яўляецца прыклад Уршулі Аўгустыняк (Гл.: Augustyniak, U. Historia Polski 1572–1795 / U. Augustyniak. — Warszawa, 2008). Аўтарка мусіла выкарыстаць у назве кнігі прэзентыстычнае азначэнне, паколькі

тэрміналогіі нельга трактаваць як праяву *political corectness* (хаця і ў навуковых працах трэба паважліва ставіцца да суседзяў), але як вынік уласцівага навукоўцам яшчэ з часоў Рэнесансу гістарычнага дыстанцыравання і імкнення да аб'ектывізму (насуперак асобным палітыкам ці публіцыстам). Адыход ад стэрэатыпаў (таксама нацыяналістычных) з'яўляецца абавязкам навукоўца і трэба прызнаць, што ён і так плаціць за гэты адыход значна менш, чым асоба публічная. Тут можна згадаць Чэслава Мілаша, які падвяргаўся гнеўным нападкам як з боку палякаў, так і літоўцаў, за тое, што называў сябе «апошнім грамадзянінам ВКЛ» і ўпарта пісаў пра шматкультурнасць сваёй спадчыны.

## Польскія анталогіі даўняй паэзіі

Перш чым звярнуцца да разгляду зборніка Аляксандра Бразгунова, варта коратка разгледзець некалькі іншых важных анталогій даўняй літаратуры, перадусім прысвечаных Рэнесансу і барока, выдадзеных у XX і пачатку XXI стагоддзя. Гэта дазволіць зразумець рэдактарскія прынцыпы і крытэрыі, якіх прытрымліваўся ўкладальнік, а разгляд «Славянамоўнай паэзіі…» ў шэрагу іншых выданняў такога тыпу дапаможа паказаць даследчыя парадыгмы беларускага філолага і вызначыць узровень зборніка.

Першай вартай увагі анталогіяй з'яўляецца «Historia literatury niepodległej Polski» (Гісторыя літаратуры незалежнай Польшчы) Ігнацыя Хшаноўскага. Выдадзеная ў 1906 г., яна магла б належаць да помнікаў навуковага пісьменства і рэдактарскай працы (хаця другому крытэрыю яна не адпавядае), каб не той факт, што перавыдавалася анталогія 15 разоў, апошняе ж выданне выйшла ў 1983 г., такім чынам, на ёй выхоўваліся сённяшнія сарака-пяцідзесяцігадовыя чытачы. Анталогія Хшаноўскага аказала моцны і — адразу варта зазначыць — негатыўны ўплыў на ўспрыманне даўняй літаратуры польскай інтэлігенцыяй, і асабліва — многімі пакаленнямі паланістаў, для якіх яна была адначасова акадэмічным падручнікам і ў пэўнай ступені анталогіяй тэкстаў (кожны цытаваны Хшаноўскім твор быў уласна ілюстрацыяй да папярэдне выкладзенага матэрыялу).

Суровая ацэнка «Гісторыі літаратуры незалежнай Польшчы» вынікае з шэрагу перадумоваў. Першапачаткова аўтар хацеў падрыхтаваць анталогію тэкстаў з каментарыямі для вучняў сярэдняй школы, у сувязі з чым галоўным крытэрыем каштоўнасці літаратурных тэкстаў была абраная не эстэтычная, а патрыятычная іх вартасць. Недаацэньваючы лірыку, якая закранала экзістэнцыяльныя (а тым самым — універсальныя) праблемы, даследчык змясціў у анталогіі перадусім тэксты, прысвечаныя пытанням палітычным,

---

зборнік ахопліваў гісторыю Польшчы ад Сярэднявечча да XX стагоддзя, але ў самім тэксце працы паслядоўна ўжывала паняцце Рэч Паспалітая (калі вялося пра справы ўсёй дзяржавы) альбо Карона і ВКЛ, калі гаворка ішла пра пытанні партыкулярныя.

грамадскім, рэлігійным, а эратычныя вершы згадваў толькі ў выпадку іх фальклорнага (на яго думку) паходжання. Грамадская і маральная пазіцыя пісьменніка была для ўкладальніка важнейшай за мастацкую вартасць твора.

Патрыятычную пазіцыю, беручы пад увагу тагачасныя гістарычныя ўмовы, трэба зразумець і ўшанаваць. Прынцып падбору тэкстаў быў абумоўлены дыдактычнымі і выхаваўчымі мэтамі, зборнік па-сянкевічаўску мусіў «умацоўваць сэрцы» палякаў, што жылі ў няволі. Так было ў 1906–1917 гадах, але пасля атрымання Польшчай незалежнасці выкарыстанне «Гісторыі літаратуры незалежнай Польшчы» ў якасці акадэмічнага падручніка зрабілася выразам анахранічнага мыслення тагачасных кіраўнікоў адукацыйнай сістэмы (і, як здаецца, кансерватызму навуковых эліт). Хшаноўскі ў сваіх уступных артыкулах да тэкстаў (значная доля суб'ектывізму робіць іх больш падобнымі да эсэ) ігнараваў не толькі намаганні даследчыкаў, якія імкнуліся рэабілітаваць літаратуру барока[1], але і навуковы даробак структуралістаў, такіх як Раман Інгардэн, Манфрэд Крыдль, Стэфанія Скварчыньская, якія ўжо актыўна працавалі ў міжваенныя дзесяцігоддзі. У гэтым зборніку ўвогуле адсутнічаюць спасылкі на якую-небудзь навуковую літратуру, затое створаныя Хшаноўскім фальшывыя стэрэатыпы, такія як «заняпад прыгажосці і мудрасці ў літаратуры XVII стагоддзя» ці «здзічэнне літаратуры»[2] ў часы панавання Сасаў, дзякуючы жывому стылю іх аўтара, надоўга ўкараніліся ў калектыўнай свядомасці польскіх чытачоў.

Няшмат можна напісаць пра рэдактарскі варштат гэтай анталогіі, бо ён амаль адсутнічае. Хшаноўскі не ўказваў, паводле якіх крыніц друкаваліся тэксты, у саміх творах тлумачыў толькі архаізмы, цалкам абмінаючы культурны кантэкст. У больш вялікіх тэкстах ён рабіў скарачэнні, не пазначаючы месцаў выкінутых фрагментаў (пісаў толькі «ў скарачэнні»).

Цалкам іншым было выданне «Ад Каханоўскага да Стафа. Анталогія польскай лірыкі», апрацаванае Вацлавам Баровым, вучнем Хшаноўскага, упершыню апублікаванае ў 1930 г. Пазней анталогія яшчэ чатыры разы перавыдавалася ў розных геапалітычных умовах, што найлепш сведчыць пра яе ўніверсальнасць: польскай эміграцыяй у Лондане (1954), пасля «адлігі» ў Польшчы (1958), у часы так званай першай «Салідарнасці» (1981) і ў хуткім часе пасля аднаўлення незалежнасці (1992).

Баровы ў адрозненне ад Хшаноўскага выкарыстаў эстэтычны крытэрый і, што здаецца парадаксальным, крытэрый папулярнасці твораў: «Укладанне

---

[1] Першую ў Еўропе літаратуразнаўчую працу на гэтую тэму напісаў Эдвард Парэмбовіч: Porębowicz, E. Andrzej Morsztyn, przedstawiciel baroku w poezji polskiej / E. Porębowicz. — Lwów, 1893.

[2] Chrzanowski, I. Historia literatury niepodległej Polski (965–1795) / I. Chrzanowski; słowo wstępne J. Z. Jakubowski. — Warszawa, 1983. — S. 272, 442.

дадзенай “Анталогіі” было прасякнута імкненнем сабраць з пэўнага (пазначанага ў тытуле) абшару польскай паэзіі прыклады жывых твораў, якія б знаходзілі водгук у душах сённяшніх чытачоў»[1].

Аўтар анталогіі не браў пад увагу традыцыйныя гісторыка-літаратурныя крытэрыі (напрыклад, наватарства канкрэтнага паэта, альбо наадварот — рэпрэзентатыўнасці ягонай творчасці для светапогляду данай эпохі). Выкарыстанае ў загалоўку паняцце «лірыка» Баровы разумеў як мастацкі твор, што перадае перажыванні альбо думкі аўтара, як выяўленне «душэўных станаў разнастайнага характару і самага рознага эмацыянальнага напружання»[2]. Варта, аднак, падкрэсліць, што нягледзячы на прынятую аксіёму ўніверсалізму, укладальнік анталогіі не адмаўляўся ад вершаў з выразным часавым ці геаграфічным каларытам. Важным (актуальным, напэўна, і сёння) было сцверджанне Баровага, што мяжой эстэтычнага крытэрыю была прынагодная і патрыятычная тэматыка, якая замыкалася ў цесных рамках партыкулярызму; даследчык не выключаў вершы падобнай тэматыкі, але абмяжоўваў іх прысутнасць у анталогіі да тых твораў, якія можна зразумець і адчуць без багатага запасу гістарычных ведаў і якія не маюць нічога агульнага з надзённай публіцыстыкай: «У сітуацыях сумнеўных я задаваўся пытаннем, як выглядаў бы гэты верш, каб на месцы Польшчы згадвалася ў ім, напрыклад, Ірландыя ці Гішпанія»[3].

Іншым крытэрыем была аўтаномная мастацкая каштоўнасць твора, якую варта разумець паводле прынцыпаў Бенедэта Крочэ і структуралістаў. Выдавец імкнуўся не змяшчаць асобных вершаў з цыклаў і з прадмоўна-пасляслоўных комплексаў, сэнс якіх выяўляўся толькі ў агульным кантэксце.

Складана адназначна ацаніць рэдактарскую працу Баровага. У выданні адсутнічаюць каментарыі, якія б тлумачылі моўныя цяжкасці, аўтар паспадзяваўся на веды чытача ў галіне міфалогіі, геаграфіі ці гісторыі. Адсутнасць такіх тлумачэнняў да «Pieśni o Fridruszu» («Песні пра Фрыдруша») Мікалая Семпа Шажыньскага робіць гэты твор амаль што нечытэльным для «звычайнага чытача» — меркаванага адрасата зборніка. Найбольш адчувальным недахопам з’яўляецца адсутнасць кароткіх нататак пра аўтараў, асабліва з даўняй літаратуры, тых, якіх гэтая анталогія ўласна вяртала чытацкай аўдыторыі. З другога боку, укладальнік змяшчаў тэксты эпохі Рэнесансу і барока пераважна на падставе *editio princeps*, заўважаў і выпраўляў пашкоджаныя пераказы, звяртаўся нават да рукапісаў (вершы Яна Анджэя Морштына, Яна Гавіньскага), сягаў нарэшце да крытычных выданняў XX ст. з

[1] Borowy, W. Przedmowa do pierwszego wydania / W. Borowy // Od Kochanowskiego do Staffa. Antologia liryki polskiej / W. Borowy. — Warszawa, 1992. — S. 9.

[2] Ibid. — S. 13.

[3] Ibid. — S. 15.

серыі «Biblioteka Narodowa». Скрупулёзна збіраў інфармацыю пра месца знаходжання дадзенага старадрука ці рукапісу, указваў іх бібліятэчныя шыфры.

У «Выдавецкіх заўвагах» аўтар анталогіі змясціў звесткі пра тое, адкуль паходзіць друкаваны тэкст, а таксама кароткія заўвагі пра свае мадэрнізацыйныя прыёмы ў адносінах да мовы твораў, дадаў таксама нататкі, якія сёння мы б назвалі крытычным апаратам: Баровы папраўляў відавочныя памылкі старажытных друкароў, наборшчыкаў ці перапісчыкаў, а свае ўмяшальніцтва ў тэкст пазначаў. Варта адзначыць, што старанна падрыхтаваныя не толькі змест, але і алфавітныя паказальнікі аўтараў, загалоўкаў і першых радкоў твораў. Сваю анталогію ўкладальнік хацеў зрабіць цалкам празрыстай для будучых чытачоў і крытыкаў: у прадмове ён пералічыў тых, з кім раіўся ў сумніўных выпадках (сучасны паэт і літаратурны крытык), акрамя таго, рэч незвычайная, змясціў спіс аўтараў XVI–XX стст., творы якіх прачытаў, але не ўключыў у анталогію (крытэрыі адбору пададзеныя ў «Прадмове»).

Каштоўнымі дасягненнямі зборніка «Ад Кахаиоўскага да Стафа», які лічыцца найбольш дасканалай у мастацкім плане анталогіяй, з'яўляюцца азнаямленне чытачоў з працэсам рэдактарскай працы і крытэрыямі адбору, рэабілітацыя (ці хутчэй дабыванне з літаратурнага чысца) асобных паэтаў XVI–XVIII стст., устанаўленне выразных крытэрыяў адбору тэкстаў. Аўтар зборніка, які заўчасна пайшоў з жыцця (у 1950 г.), вельмі высока падняў рэдактарскую планку; падобнага ўзроўню толькі праз пятнаццаць гадоў пасля смерці Баровага дасягнула ягоная вучаніца Ядзвіга Сакалоўская.

Манументальная анталогія Ядзвігі Сакалоўскай і Казімеры Жукоўскай «Poeci polskiego baroku» («Паэты польскага барока») (Варшава, 1965)[1], якая складаецца з двух тамоў і налічвае ў сумме 2100 старонак тонкай паперы, пачынаецца «Прадмовай». Укладальніцы напісалі насамрэч невялікую гісторыю літаратуры эпохі барока (у адпаведнасці з назвай кнігі не ўлічваючы драматургію і прозу), пазбаўленую пазітывістычнай прадузятасці Хшаноўскага і агульных сцверджанняў, што пераважалі ў тагачасных працах, прысвечаных усёй польскай літаратуры[2]. Хаця ў «Прадмове» не пішацца пра

[1] Другое выданне, у фармаце фоліё, якое налічвала 777 старонак «I w odmianach czasu smak jest. Antologia polskiej poezji epoki baroku» (oprac. J. Sokołowska. Warszawa, 1992), мае ўжо знакі новага часу, калі выдавецтвы пачалі звяртаць пільнейшую ўвагу на маркецінгавы аспект. Новае выданне ўзбагачанае іканаграфічным матэрыялам, на жаль, коштам асобных вершаў і аўтараў.

[2] Гэты ўступ, як згадвала прафесар Сакалоўская ў размове, меў сваю гісторыю. Першапачатковую версію, аўтарства толькі Сакалоўскай, Юліян Кшыжаноўскі, тагачасны навуковы кіраўнік даследчыцы, палічыў занадта амбітнай. Канчатковая версія пасля зменаў выйшла ў выглядзе доктарскай працы Сакалоўскай «Spory o barok. W poszukiwaniu modelu epoki» (Warszawa, 1971). Параўнай: Hernas, Cz. Słowo wstęp-

крытэрыі адбору аўтараў і твораў, у святле зместу анталогіі зразумела, што вырашальнымі з'яўляюцца гісторыка-літаратурныя меркаванні: размова ідзе пра імкненне стварыць найбольш шырокую панараму паэзіі XVII і першай паловы XVIII стст. Але не толькі. Сакалоўская, як вучаніца Баровага і як даследчыца добра знаёмая з французскай рэдактарскай і выдавецкай традыцыяй, выбірала (бо анталогія — гэта заўсёды выбар) творы, якія мелі мастацкую каштоўнасць, і адкідала графаманскія вершы, напрыклад, няўдалыя панегірыкі, ці так званую школьную паэзію. Тэматычны спектр «Паэтаў польскага барока» з'яўляецца найбольш шырокім з магчымых, эстэтычна ж — дастаткова шырокі, але не найшырэйшы (пазначаныя ў загалоўку «паэты» гэта, аднак, не «вершапісцы»). У зборніку змешчаны творы васьмідзесяці аўтараў і шмат ананімных тэкстаў».

Арыентавацца ў абовух тамах зусім не складана. Творы размешчаны храналагічна, перад выбранымі вершамі канкрэтнага аўтара — біяграфічная нататка. Тлумачэнні архаізмаў і культурнага кантэксту пададзены ў канцы кожнага тома, знайсці іх можна вельмі лёгка, дзякуючы калантытулам і нумарацыі кожнага пятага радка (у 60-я і 70-я гады XX ст. нормай была нумарацыя кожнага дзясятага радка). Заўвагі, сціслыя і вельмі прыдатныя ў дачыненні да тэкстаў, не дакучаюць чытачу (няма спасылак), укладальніцы не дэманструюць празмерна сваёй эрудыцыі. Каб не дубляваць тлумачэнняў, якія датычаць грэчаскай і рымскай міфалогіі, напрыканцы другога тома змешчаны «Міфалагічны слоўнік». Выкарыстоўваючы, напэўна, вопыт Баровага, акрамя «Зместу» аўтаркі старанна падрыхтавалі асобна для кожнага тома «Алфавітныя паказальнікі першых радкоў вершаў і імёнаў аўтараў».

Сціплая «Рэдактарская нататка» не адлюстроўвае таго мноства філалагічных праблем (*de facto* выдавецкіх), з якімі сутыкнуліся падчас працы ўкладальніцы анталогіі. Як жа часта, у выпадку з менш вядомымі паэтамі, мусілі яны выконваць ролю Калімаха, маючы заданне, можа, больш складанае, чым паэт з Кірэны, у сітуацыі, калі ў 1939–1945 гг. згарэла альбо было знішчана шмат архіваў і бібліятэк, а межы (таксама на Захад, як і на Усход) сталіся амаль непераадольнымі. Сакалоўская і Жукоўская правялі пошукі ў польскіх бібліятэках, акрамя таго ўкладальніцы мусілі змагацца з шматлікімі праблемамі атрыбуцыі твораў, рэканструяваць, хаця б часткова, жыццяпісы многіх аўтараў (тут яны маглі часткова разлічваць на антыкварныя выданні гісторыкаў літаратуры і бібліяфілаў XIX ст.), вызначаць дакладнае гучанне пашкоджаных тэкстаў, вядомых па розных версіях, рукапісных альбо друкаваных (выкарыстоўваючы звычайна першадрукі, што пазначана ў тлумачэннях), нарэшце — вызначыць прынцыпы транскрыпцыі. Гэтае апошняе заданне, калі

ne, w: Religijność literatury polskiego baroku / Cz. Hernas, M. Hanusiewicz. — Lublin 1995. — S. 6.

браць пад увагу колькасць твораў, іх раскіданасць у часе (ад смерці Мікалая Семпа Шажыньскага да выдання вершаў Бакі — каля двухсот гадоў) і ў прасторы: па ўсёй агромнай тэрыторыі Рэчы Паспалітай (паэты, такім чынам, карысталіся living рознымі рэгіянальнымі разнавіднасцямі польскай мовы) было амаль невыканальным, хоць укладальніцы дэкларавалі «захаванне асноўных характарыстык эпохі і аўтарскай мовы»[1]. Таксама і іншыя, пералічаныя тут праблемы, не заўсёды маглі быць вырашаныя ў задавальняючай ступені, шмат досведу ў прачытанні тэкстаў і іх атрыбуцыі прынеслі пазнейшыя крытычныя выданні. Вялікай заслугай даследчыц было стварэнне шырокай, як ніколі раней, панарамы барочнай паэзіі, багацця тэкстаў і тэм. Не будзе перабольшаннем сцверджанне, што Казімера Жукоўская і Ядзвіга Сакалоўская вярнулі палякам памяць пра барочную культуру продкаў[2].

Варта яшчэ некалькі слоў сказаць пра дзве анталогіі з ліку іншых зборнікаў даўняй літаратуры, якія выклікалі значны рэзананс. У 1989 г. у серыі «Biblioteka Narodowa» («Нацыянальная бібліятэка») выйшаў досыць незвычайны для польскай выдавецкай практыкі том «Helikon sarmacki. Wątki i tematy polskiej poezji barokowej» («Гелікон сармацкі. Тэмы і сюжэты польскай барочнай паэзіі») у апрацоўцы Анджэя Вінцэнца. Жывучы ў Францыі, даследчык польскага барока ідэю тэматычнай анталогіі запазычыў з французскай традыцыі навуковых выданняў.

Выбару паэзіі папярэднічае, як звычайна ў серыі «Нацыянальнай бібліятэкі» абшырны «Уступ», у якім Вінцэнц пералічыў асноўныя рысы барочнай паэтыкі («Першая частка»), назваў пятнаццаць паэтычных тэм («Частка другая»), выявіў прынцыпы, якімі кіраваўся пры падрыхтоўцы тома («Рэдактарскія заўвагі»). Сваё *credo* аўтар выявіў двойчы: «У адрозенне ад піянерскай анталогіі Ядзвігі Сакалоўскай і Казімеры Жукоўскай задачай гэтага зборніка было прадставіць не творы канкрэтных паэтаў, а барочную паэзію ў цэлым, незалежна ад неаспрэчнай і заўважальнай розніцы паміж асобнымі творцамі. Дзеля гэтага быў абраны тэматычны прынцып: пятнаццаць раздзелаў анталогіі адпавядаюць пятнаццаці тэмам выбраным не *a priori*, а таму, што яны аб’ядноўваюць найбольш цікавыя творы, пры гэтым перавага аддавалася тэкстам, у нашым разуменні найбольш “барочным”. Напэўна адным з рухавікоў аўтара было жаданне паказаць, што нягледзячы на значны аб’ём працы, укладзенай Я. Сакалоўскай і К. Жукоўскай у іх вядомую і вельмі каштоўную анталогію, і нягледзячы на значны аб’ём зборніка, польскую барочную паэзію можна ўбачыць з іншай перспектывы і знайсці

[1] Sokołowska, J. Nota edytorska / J. Sokołowska, K. Żukowska // Poeci polskiego baroku / oprac. też. — Warszawa, 1965. — T. I. — S. 883.

[2] Dąbrowska, E. Teksty w ruchu. Powroty baroku w polskiej poezji współczesnej / E. Dąbrowska. — Opole, 2001.

ў ёй іншыя акцэнты»[1]. У рэдактарскіх заўвагах можна знайсці сцверджанне (праўда, не вельмі выразнае), якое інфармуе пра крытэрыі адбору тэкстаў: «Тэксты адбіраліся ў адпаведнасці з пятнаццацю выбранымі тэмамі, адсюль пэўная няроўнасць адносна асобных паэтаў. Такім чынам, у адрозненне ад анталогій, укладзеных паводле аўтараў, колькасць тэкстаў канкрэтнага паэта ў зборніку не абавязкова адпавядае яго ўзроўню паэтычнага майстэрства, тым больш, што адбор ажыццяўляўся з мэтай зрабіць даступнымі тэксты менш вядомых альбо менш выдатных аўтараў, а галоўным было для нас, каб сам твор быў цікавы з *мастацкага* пункту гледжання (а не, напрыклад, з перспектывы гісторыі літаратуры ці літаратуразнаўства)[2].

Анталогія насамрэч прынесла новы, аўтарскі погляд на барочную паэзію. Вінцэнц апублікаваў побач з вершамі вядомых аўтараў, тэксты некалькіх творцаў, якіх абмінулі ўвагай Сакалоўская і Жукоўская. Аднак перадусім укладальнік анталогіі паказаў вершы такім чынам, што яны ўзаемна асвятляюцца і можна ў іх заўважыць розныя варыянты альбо прасачыць эвалюцыю тэмы ці матыву.

Некаторыя падыходы да рэдактарскай працы Вінцэнца выклікаюць, аднак, крытычныя заўвагі. Напрыклад, укладальнік выбіраў фрагменты барочных п’ес ці эпічных тэкстаў дзеля ілюстрацыі таго ці іншага матыву, не клапоцячыся пра інтэгральнасць тэксту, вылучаныя фрагменты жывуць у «Геліконе» як бы ўласным жыццём. Своеасабліва выкарыстоўваў аўтар анталогіі таксама тлумачэнні. У серыі «Нацыянальная бібліятэка» яны заўсёды падаюцца петытам унізе старонкі, у дадзенай анталогіі — адразу пад тэкстам. Вінцэнц не толькі дае тлумачэнні значэнняў старапольскіх слоў ці культурнага кантэксту, але таксама навязвае чытачу ўласную інтэрпрэтацыю твораў (напрыклад, экспануючы гукавыя характарыстыкі дадзенага фрагмента). У такім падыходзе выявілася моцная асоба даследчыка, што ў шматлікіх выпадках пазбаўляла чытача магчымасці ўласнага прачытання, хоць нельга не заўважыць у гэтым дыдактычных памкненняў Вінцэнца. Варта таксама крытычна ацаніць перадрук тэкстаў з публікацый XIX ст., зробленых нестараннымі выдаўцамі: Казімірам Тураўскім, Юзэфам Рымаркевічам, Уладыславам Сэрадыньскім ці Уладыславам Вэнжыкам; не апраўдвае аўтара анталогіі тлумачэнне, што ён «не мог сістэматычна працаваць у польскіх бібліятэках»[3]. Шмат тэкстаў было перадрукавана з сучасных крытычных выданняў, паколькі ў гэтай сферы з часоў публікацыі «Паэтаў польскага барока» адбыўся значны прагрэс.

За апошнія гады ў Польшчы з’явіліся яшчэ тры цікавыя анталогіі, якія мелі вузейшы тэматычны і храналагічны дыяпазон (Крыштафа Мраўцэвіча

---

[1] Vincenz, A. Dz. cyt. / A. Vincenz. — S. LIII–LIV.
[2] Ibid. — S. CX.
[3] Ibid. — S. CXI.

і Крыштафа Колера)[1] альбо выклікалі меншы рэзанас (Рамана Мазуркевіча і Пятра Борка)[2]. Аднак, варта звярнуць увагу на іншы, таксама білінгвальны, як і анталогія Бразгунова, зборнік даўняй літаратуры «Polish Literature from the Middle Ages to the End of the Eighteenth Century. A Bilingual Anthology», selected and translated by Michael J. Mikoś; = «Literatura polska od średniowiecza do końca XVIII wieku. Antologia w języku polskim i angielskim» («Польская літаратура ад Сярэднявечча да канца XVIII стагоддзя. Анталогія на польскай і англійскай мовах») (Варшава, 1999), выбар і пераклад тэкстаў — Майкл Мікось. Выданне складаецца з чатырох частак: літаратура Сярэднявечча, Рэнесансу, Барока і Асветніцтва. Кожная з іх пачынаецца напісаным па-англійску ўступам, які ў сваю чаргу складаецца з «Historical Background» («Гістарычнай даведкі»), «Cultural Bacground» («Культурнай даведкі») і «Literary Background» («Літаратурнай даведкі»). Літаратурныя тэксты пададзены ў храналагічным парадку. Выключэннем з’яўляецца частка «Сярэднявечча», дзе ўкладальнік абраў жанрава-тэматычны падзел на хронікі, польскамоўную рэлігійную паэзію і лацінамоўную свецкую паэзію[3]. Пасля тэкстаў той ці іншай эпохі ідуць «Каментарыі» («Notes»), у якіх М. Мікось змясціў кароткія біяграфіі аўтараў; у спасылках сцісла тлумачацца культурныя кантэксты больш складаных фрагментаў. Літаратурныя тэксты паходзяць, як пазначана ў каментарыях, з крытычных выданняў XX ст., у тым ліку і з анталогіі Сакалоўскай і Жукоўскай.

Пытанне да якой эпохі варта залічыць таго ці іншага паэта можа быць спрэчным, датычыць гэта перадусім тых пісьменнікаў, якія жылі на мяжы Рэнесансу і барока ці барока і Асветніцтва. Структура анталогіі вельмі чытэльная дзякуючы і фармату кнігі (А 4), і наяўнасці калантытулаў. Сваё рашэнне

[1] Wysoki umysł w dolnych rzeczach zawikłany. Antologia polskiej poezji metafizycznej epoki baroku. Od Mikołaja Sępa Szarzyńskiego do Stanisława Heraklusza Lubomirskiego / oprac. i wstęp K. Mrowcewicz. — Warszawa, 1993 (другое выданне ў 2010 г.); Słuchaj mię, Sauromatha. Antologia poezji sarmackiej / oprac. K. Koehler. — Kraków, 2002. Сваёй анталогіяй Колер імкнуўся палемізаваць са зборнікам Вінцэнца, які кракаўскі даследчык вобразнаназваў «цудоўнай калекцыяй мёртвых матылькоў, спраўна і з веданнем справы размешчаных у вітрынах пад шклом, аднак […] месцам, дзе прыгажосць матылькоў найлепш бачна, ёсць нагрэтая сонцам летняя паляна». Цыт. па: Koehler, K. Wstęp, w: dz. cyt. / K. Koehler. — S. 20.

[2] Literatura staropolska. Wybór tekstów. — T. I : Poezja / wybór i oprac. R. Mazurkiewicz, P. Borek. — Kraków, 2006.

[3] У выпадку лацінамоўных тэкстаў польскага Сярэднявечча Мікось падае сучасныя пераклады польскіх медыявістаў і паралельна іх англійскі пераклад. Такім чынам, ягоная англійская версія — гэта пераклад перакладу. У раздзеле «Renaissance Literature» Мікось не змяшчае ніводнага тэксту навалацінскіх паэтаў, затое ў раздзеле «Baroque Literature» знаходзяцца чатыры вершы Мацея Казіміра Сарбеўскага, адзін з якіх пададзены ў перакладзе барочнага паэта.

падаваць тэксты паралельна ў арыгінале і ў перакладзе Мікось тлумачыць наступным чынам: «Двухмоўныя выданні літаратурных твораў практыкуюцца сёння ва ўсім свеце, што дае магчымасць лепш ацаніць працу перакладчыка, бо чытач, які ведае дзве мовы, нават у рознай ступені (ідэальнае двухмоўе здараецца вельмі рэдка), можа параўнаць пераклад і арыгінал, і ацаніць узровень перакладу. Як вядома, усе недасканаласці перакладу вынікаюць не толькі з аб'ектыўных цяжкасцей, якія часам немагчыма пераадолець, калі маем дачыненне з дзвюма рознымі мовамі і культурамі, з рознымі звычаямі, звычкамі і г. д., але і з суб'ектыўных падыходаў перакладчыка да дадзенага тэксту»[1].

Істотнымі і цікавымі з'яўляюцца ўвагі, якія датычаць спосабу перакладу. Мікось імкнецца да філалагічнай сцісласці, дакладнасці, адмаўляецца ад архаізацыі, але з другога боку, не спрабуе занадта асучасніваць мову: «[…], каб творы даўняй літаратуры не выглядалі штучна, як выразны архаізм, а ўспрымаліся сённяшнімі чытачамі натуральна, каб маглі абуджаць фантазію і канкурыраваць з сучаснымі тэкстамі, хоць, напэўна, зусім іначай і на іншых варунках»[2].

У гэтых разважаннях Мікося можна бачыць уплыў Станіслава Баранчака, аўтара не толькі фундаментальных перакладаў даўняй англійскай літаратуры (між іншым 25 твораў Уільяма Шэкспіра, метафізічнай паэзіі, асобнага тома Джорджа Герберта), але і штудый, прысвечаных працы перакладчыка мастацкай літаратуры[3].

Цікава выглядае змяшчэнне ў зборніку Мікося інфармацыі пра самога сябе, чаго не было дагэтуль у польскіх анталогіях. І тут няма гаворкі пра самарэкламу ў амерыканскім стылі, ані пра аргумент *ex cathedra* (прафесарскай — ва Універсітэце Вісконсін-Мілуокі). У эпоху празмернай колькасці інфармацыі і дэзінфармацыі чытач мае права ведаць, кім ёсць аўтар анталогіі, якія ў яго ранейшыя дасягненні і вопыт у выдавецкай справе. У серыі «Biblioteka Pisarzy Staropolskich» («Біблятэка старапольскіх пісьменнікаў»), якая выходзіць у Варшаве з 1995 г., на адвароце вокладкі кожнага тома змяшчаецца кароткая нататка пра аўтара выдання.

[1] Polish Literature, dz. cyt. — S. 9.

[2] Ibid. — S. 10.

[3] Barańczak, S. Ocalone w tłumaczeniu. Szkice o warsztacie tłumacza poezji z dodatkiem małej antologii przekładów-problemów / S. Barańczak. — Kraków, 2004.

## *Cui bono?* Адрасаты анталогіі Алеся Бразгунова

Бываюць анталогіі, адрасаты якіх як бы ўпісаныя ў саму назву. Так, напрыклад, анталогія «The College Anthology of English Literature»[1], як падказвае загаловак, адрасаваная студэнтам англійскай філалогіі. Студэнтам-паланістам у англасакскіх краінах адрасаваны зборнік Мікося, астатнія ж, згаданыя вышэй аўтары анталогій, нібыта ідуць следам за Янам Каханоўскім, які ў прысвячэнні да «Песень» напісаў: «Nikomu, albo raczej wszytkim swoje księgi / Daję»[2] («Нікому, ці хутчэй усім свае кнігі / Даю»). Шырокае і не акрэсленае дакладна кола чытачоў у анталогіі Бразгунова: даследчык адрасуе яе «медыявістам (? — *Д. Х.*), шырокаму колу навукоўцаў, а таксама ўсім, хто цікавіцца літаратурай, гісторыяй і культурай даўняй Беларусі»[3].

Задаволіць чаканні навукоўцаў і «ўсіх» складана, але магчыма. Здаецца, такі шырокі спектр адрасатаў тома Бразгунова вынікае з адсутнасці традыцыі выдання даўніх тэкстаў у Беларусі, з выразнага недахопу падобных зборнікаў. Беларускі чытач мог пазнаёміцца з літаратурнай спадчынай XVI–XVIII стст. на падставе толькі дзвюх навейшых анталогій.

«Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стст.» (Мінск, 2003), апрацаваная групай беларускіх літаратуразнаўцаў пад рэдакцыяй Вячаслава Чамярыцкага, налічвае больш за тысячу старонак і з'яўляецца, хутчэй, анталогіяй пісьменства, чым літаратуры. Побач з эпічнымі творамі (паэзія і проза), навалацінскай паэзіяй, вершамі па-старабеларуску і тэкстаў, перакладзеных з польскай мовы, апынуліся фрагменты «Літоўскага статуту» 1588 г. ці «Прадмова» Сымона Буднага да «Катэхізіса» (1562). Такога роду выданне, якое змяшчае акрамя багатага выбару сярэдневечнай прозы, надзвычай цікавыя празаічныя тэксты з XVI і XVII стст., напрыклад, ліст Барбары Радзівіл да Жыгімонта Аўгуста ці карэспандэнцыю Льва Сапегі і Язафата Кунцэвіча (два лісты), можна было б больш дакладна назваць «зборнікам матэрыялаў да гісторыі культуры ВКЛ».

З паэзіі эпохі Адраджэння і барока, якая нас цікавіць, у анталогію Чамярыцкага трапіла параўнальна няшмат твораў, сярод іншага: ананімны «Пратэй, альбо Пярэварацень», «Дзесяцігадовая аповесць» Андрэя Рымшы, «Inventores rerum» Яна Бенедыкта Пратасовіча, эпіграмы Сімяона Полацкага. Пералічаныя тэксты апублікаваны ў фрагментах, а іх поўнае выданне можна знайсці ў пазнейшай анталогіі Бразгунова. Цікавым з'яўляецца «Пентатэугум»

[1] The College Anthology of English Literature. Revised Edition / ed. by T. Bela, Z. Mazur. — Kraków, 2008.

[2] Kochanowski, J. Pieśni / J. Kochanowski; oprac. L. Szczerbicka-Ślęk. — Wrocław, 1997. — S. 5.

[3] Цыт. па: Nota edytorska w: dz. cyt. — S. 903.

Андрэя Белабоцкага, аўтар перайшоў у свой час з кальвінізму ў праваслаўе, але яго постаць па-ранейшаму прыцягвае ўвагу славістаў[1].

Структура анталогіі Чамярыцкага дастаткова празрыстая: падобна як у вядомым польскаму чытачу зборніку Сакалоўскай і Жукоўскай, тэксты папярэджаныя біяграфічнай нататкай (розных даследчыкаў), напрыканцы змешчана інфармацыя пра тое, адкуль паходзіць надрукаваны тэкст, і пра аўтара перакладу, калі верш перакладзены, напрыклад, з польскай мовы. У каментарыях Чамярыцкі выкарыстаў дастаткова арыгінальны метад: унізе старонкі тлумачацца архаізмы, у той час як культурная праблематыка дадзеных фрагментаў высвятляецца ў спасылках напрыканцы тома. Нялёгка іх адшукаць, бо ў томе адсутнічаюць калантытулы. Вершы пазбаўленыя нумарацыі радкоў, што ўскладняе зварот да іх ў навуковай літаратуры. Цесна вершам і аўтарам у раздзеле барочнай паэзіі, таму што не зроблена больш выразнага (з новай старонкі) адасаблення чарговых творцаў і прыкладаў іх творчасці. Гэтыя недахопы не змяншаюць вартасці зборніка: чытач, зацікаўлены прывабнымі (гаворачы мовай XIX стагоддзя) «старажытнасцямі», атрымаў у рукі сапраўдны тэзаўрус — аб'ёмны і вельмі разнастайны ў жанравым і тэматычным плане том. Можна высунуць гіпотэзу, што «Анталогія даўняй беларускай літаратуры» адыграла і далей адыгрывае больш папулярызатарскую, чым навуковую ролю. Пра функцыю распаўсюджвання ў грамадстве даўняй літаратуры і культуры не можа забывацца ніводзін аўтар анталогіі.

У сваю чаргу, выдадзены годам пазней у Мінску зборнік «Беларуская літаратура. Хрэстаматыя»[2] пад рэдакцыяй У. Адамчыка і М. Адамчыка, выразна маргіналізуе трыста гадоў культуры Вялікага Княства Літоўскага, большую частку якога (нагадаем труізм) складала сённяшняя Беларусь. У гэтым аб'ёмным зборніку, які налічвае 1004 старонкі, тэксты старадаўніх аўтараў змясціліся ўсяго на сямідзесяці старонках і цяжка адмовіцца ад думкі, што назвы эпох, пададзеныя на вокладцы (Сярэднявечча, Адраджэнне, барока, класіцызм, Асветніцтва), з'яўляюцца выключна рэкламным прыёмам. У адрозненні ад анталогіі Чамярыцкага хрэстаматыя Адамчыкаў ёсць рэгрэсам, крокам назад ў параўнанні з выдадзеным яшчэ ў 1990 г. у серыі «Школьная бібліятэка» зборнікам «Старажытная беларуская літаратура» (рэд. І. Курбека). Найгоршым з'яўляецца тое, што апрацаваная Адамчыкамі «Беларуская літаратура» можа сфарміраваць у чытача фальшывае ўяўленне пра ход гістарычна-літаратурнага працэсу: з простага вылічэння (даўняя літаратура складае 7 працэнтаў агульнага аб'ёму зборніка) можна зрабіць выснову, што

---

[1] Гл.: Ciccarini, M. Żart, inność, zbawienie. Studia z literatury i kultury polskiej / M. Ciccarini; przeł. M. Woźniak. — Warszawa, 2008. — S. 156–200 (у томе тры працы пра Белабоцкага).

[2] Беларуская літаратура. Хрэстаматыя / укл. У. Адамчык, М. Адамчык. — Мінск, 2004.

літаратура на беларускіх землях па-сапраўднаму пачала развівацца толькі ў XIX ст. Гэта праява моднага некалі і анахранічнага сёння перакanання, што важным з'яўляецца толькі тое, што было ў «the XIX-th Century and After», якое неміласэрна высмейваў у свой час бельгійскі паланіст Клод Баквіс (Claude Backvis). Цяжка, напэўна, знайсці анталогію, прысвечаную ўсёй літаратуры пэўнай еўрапейскай краіны, з якой можна было б параўнаць хрэстаматыю Адамчыкаў.

Абшырная — на сто старонак — частка тэкстаў, створаных пісьменнікамі Рэнесансу і барока, знаходзіцца ў «Дадатку» да манаграфіі Івана Саверчанкі «Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст.»[1]. Гэтае выданне, калі не ўлічваць не надта ўдалы, на нашу думку, загаловак, з'яўляецца значным рэдакцыйна-выдаўнічым праектам, што з'явіўся на хвалі адраджэння беларускай культуры пасля распаду савецкай імперыі. У «Дадатку» аўтар змясціў творы з XVI і першай паловы XVII ст. у шасці раздзелах, у тым ліку *editio princeps* «Ляманту… Лявонція Карповіча» (аднак, інфармацыя пра паходжанне тэксту недакладная: адсутнічае дата і месца друку, няма бібліятэчнага шыфру старадрука), прынагодныя вершы Андрэя Рымшы, Лявона Мамоніча, Крыштафа Філалета (на падставе крыніц пераважна з XVI ст.) Творы з «Загараўскага зборніка» і «Кіева-Міхайлаўскага зборніка» перадрукаваны, адпаведна, з выданняў 1863 і 1913 гг., што выглядае крыху рызыкоўным рашэннем, прынамсі, у святле польскага рэдактарска-выдаўнічага досведу: як вядома, выдаўцы XIX і пачатку XX стст. працавалі нядбайна, занадта хутка, «паціху» папраўлялі пашкоджаны (як меркавалі) тэкст, не праводзілі філалагічных даследаванняў, без якіх немагчыма сучаснае выданне літаратурных помнікаў. Апублікаваныя Саверчанкам творы пазбаўлены спасылак, аўтар выкарыстаў мастацкія тэксты ў якасці ілюстрацый да выкладзеных у першай частцы кнігі даследаванняў. Твораў, прыведзеных у «Дадатку» няшмат, як на паўтара стагоддзя культуры, але важна ўжо тое, што даследчык іх увогуле вырашыў апублікаваць. На жаль, гэтыя тэксты не ўвайшлі ў хрэстаматыю Адамчыкаў, можа таму, што «Старажытная паэзія Беларусі» ўспрымалася выключна як навуковае даследаванне.

На гэтым фоне «Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага» Алеся Бразгунова выглядае значным дасягненнем. У томе прадстаўлены вершы і паэмы больш як трыццаці аўтараў [ад «Багародзіцы» (1529) па-старабеларуску да твораў Удальрыка Крыштафа Радзівіла], на пачатку тома змешчана прадмова ўкладальніка, напрыканцы — каментарыі. Вершы, напісаныя па-польску, апублікаваны паралельна з іх перакладамі на беларускую мову, дзякуючы чаму пашыраецца кола чытачоў і выданне атрымлівае міжнародны характар.

[1] Саверчанка, І. В. Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст. / І. В. Саверчанка. — Мінск, 1992.

Такі стан рэчаў адпавядае шматэтнічнасці даўняга ВКЛ, а аб'ёмная анталогія Бразгунова робіцца карыснай і цікавай таксама для польскіх даследчыкаў даўняй літаратуры.

Нягледзячы на тое, што аўтар адрасуе анталогію «ўсім» зацікаўленым даўняй літаратурай, гісторыяй і культурай, а значыць таксама аматарам (у найлепшым этымалагічным значэнні гэтага слова), арыентавацца ў структуры тома няпроста і карыстацца ім даволі складана. Чытач, які захоча зразумець канкрэтны твор і ягоны культурны кантэкст, мусіць запасціся трыма закладкамі. Першую закласці ва ўступе Бразгунова «Паэзія Вялікага Княства», дзе аўтар змясціў кароткія біяграфіі творцаў і невялікія апісанні твораў; другую — на старонцы твора, які чытае; трэцюю — у каментарыях, змешчаных напрыканцы тома. Аднак, і гэта зрабіць няпроста: у кнізе няма калантытулаў, якія значна аблягчаюць карыстанне анталогіяй (што было ўжо ў польскай анталогіі Сакалоўскай і Жукоўскай) і любымі ўвогуле тэкстамі з каментарыямі. Акрамя таго, у каментарыях да першага раздзела «Вершы і эпіграмы XVI–XVII стагоддзяў» не вылучаны асобна аўтары і загалоўкі твораў (нумарацыя спасылак суцэльная), пры чым зноска, якая датычыць інфармацыі пра паходжанне тэксту публікацыі, дадзена да тэксту арыгінала, а рэшта каментарыяў — да беларускага перакладу. Выключэннем з'яўляецца эпіграма Крыштафа Філалета (Марціна Бранеўскага), да якой інфармацыя пра паходжанне тэксту дадзена ў зносцы да перакладу, хаця побач знаходзіцца польскамоўная версія твора. Непаслядоўна падаюцца назвы твораў, што можа ўвесці ў зман студэнта ці іншага неабазнанага чытача анталогіі: у змесце мы маем дачыненне з загалоўкамі арыгіналаў і перакладаў, у прадмове Бразгунова назвы падаюцца толькі па-беларуску, а ў зносках — толькі па-польску (напрыклад, 2, 10, 19, 38, 46).

Трэба падкрэсліць, што корпус каментарыяў да тэкстаў сведчыць пра вялікія намаганні і філалагічную эрудыцыю беларускага даследчыка. Чытач знойдзе тут тлумачэнні, якія датычаць кантэксту гістарычнага, біблейскага, рэлігійнага, літаратурнага (радзей), міфалагічнага і маральнага. Праўда, выбар і мэтазгоднасць тлумачэнняў не заўсёды падпарадкоўваюцца дакладным крытэрыям[1]. Укладальнік тлумачыць біблейскія матывы і сюжэты, не асабліва

[1] Незарыентаванага беларускага чытача можа ўвесці ў зман няпоўнае тлумачэнне да «Багародзіцы», тэкст якой з'яўляецца для палякаў кляйнотам сярэднявечнай лірыкі, катэхізіснай песняй, якая выконвала ролю рыцарскага, дзяржаўнага і дынастычнага гімна. Аўтар анталогіі падае беларускамоўны запіс з 1529 г., не згадваючы пра першы вядомы польскамоўны рукапісны тэкст з 1407 г. Згадка пра гэта ў спасылцы апраўдала б зварот Бразгунова да «Annales» Яна Длугаша з XV ст. У сённяшнім выглядзе тлумачэнне да «Багародзіцы» не адпавядае храналогіі і звычайнай логіцы: песня, якую спявалі пад Грунвальдам у 1410 годзе, і якая ў XV ст. была прызнаная ў Польшчы за «pieśń ojczystą» (Длугаш) была напісана па-старабеларуску 119 гадоў пасля бітвы (sic!).

давяраючы эрудыцыі чытача, але каментарыі не адсылаюць непасрэдна *ad fontes* — аўтар не ўказвае канкрэтныя радкі ў Бібліі (гл. напр. с. 845, зноска 6, 8)[1]. Старанна тлумачыць Бразгуноў усе звароты паэтаў да міфалогіі, імкнецца, каб усе алюзіі былі зразумелыя нават слаба падрыхтаванаму чытачу. Аўтар, аднак, мог пазбегнуць неабходнасці за кожным разам тлумачыць міфалагічныя матывы, змясціўшы ў дадаку невялікі міфалагічны слоўнічак; тым больш, што значная колькасць постацяў з грэчаскай і рымскай міфалогіі ў паэзіі эпохі Рэнесансу і барока ўтварае стандартны набор, паўтараецца ў многіх тэкстах. Неабходна выказаць укладальніку словы прызнання за моўныя каментарыі да вельмі складанага пяцімоўнага «Вітання на першы прыезд з Краляўца [...] Хэрн-Лютэрмаха». Ананімны, антылютэранскі тэкст 1642 г. з'яўляецца найцікавейшым макаранічным творам даўняй Рэчы Паспалітай і з прычыны змешвання ў ім розных моў, і з увагі на гістарычны кантэкст.

З іншага боку, у тлумачэнні персаналій розных асоб і геаграфічных назваў, якія згадваюцца ў тэкстах, даследчык часта давярае эрудыцыі чытача. Напрыклад, укладальнік не тлумачыць некаторыя ўласныя імёны ў паэме Андрэя Рымшы (радкі 1456, 1493, 1505, 1538, 1540), а таксама абмінае шматлікія тапаграфічныя элементы. Шлях Крыштафа Радзівіла Перуна ў глыб маскоўскай дзяржавы ў 1581 г. можна ўзнавіць на падставе дакладных карт[2], але гэтая інфармацыя з'яўляецца ў каментарыях выпадкова. Узнікае пытанне: чаму адсутнічае інфармацыя пра героя твора «Рэха жалю» біскупа Юзэфа Бабрыковіча — таму, што сучасныя беларусы добра ведаюць жыццё і дзейнасць іерарха ці праз недагляд аўтара анталогіі? Аказваецца, абодва меркаванні памылковыя: пра жыццёвы шлях біскупа можна прачытаць у прадмове да тома. Такім чынам, на с. 15–16 чытач даведваецца, кім быў герой твора, на с. 588–635 — чытае сам твор, а на с. 882–884 — можа пазнаёміцца з кантэкстам, пераважна міфалагічным (тут укладальнік, напэўна, моцна ўражаны феерверкам эрудыцыі аўтараў «Рэха жалю», якія з задавальненнем звярталіся да так званых дробных міфалагічных сюжэтаў, тлумачыць толькі найбольш складаныя фрагменты).

Недахопам анталогіі з філалагічнага пункту гледжання з'яўляецца і тое, што ўкладальнік не высвятляе крыніц *inventio* пісьменнікаў, а такія каментарыі былі б вельмі карысныя для вызначэння літаратурных арыенціраў аўтараў, і, шырэй, культурных сувязей ВКЛ з пісьменствам іншых рэгіёнаў Рэчы Паспалітай і ўсёй Еўропы.

---

[1] Варта адзначыць, што ў Анталогіі Чамярыцкага вершы Бібліі падаюцца ў адпаведнасці з еўрапейскімі нормамі.

[2] Гл. між інш.: Gędek, M. Atlas historyczny wojen polskich / M. Gędek. — Warszawa, 2009. — S. 75. Хаця і тут маршрут пададзены прыблізна, не так дакладна, як у паэме Рымшы.

Не гаворыцца пра ўплыў, які аказала творчасць Каханоўскага на польскамоўных творцаў канца XVI і першых дзесяцігоддзяў XVII стст. Напрыклад, Беняш Будны піша ў прадмоўна-пасляслоўным комплексе да ўласнага перакладу «Кніг пра старасць» Цыцэрона:

I teraz ci prowadzę z *Latinum*, sławnego
*Cicerona*, polskiemi słowy mowiącego
O dojrzałej starości, która bywa w Rzeczy
Pospolitej filarem, mając rząd na pieczy.
Któremu ty pokaż swój wyrok , proszę, łaskawy,
I mnie chętliwszym uczyń, do większej zabawy,
Bo dowcip zawżdy chęcią ludzką rozniecony,
A niechęcią zaś, tenże bywa zagaszony. [w. 7–14][1].

Без усялякіх сумненняў, мы маем тут дачыненне з эмуляцыйнай парафразай прысвячэння да «Psałterza Dawidowego» («Давідавага Псалтыра») Яна Каханоўскага:

I teraz Ci z Libanu niosę Dawidowe
Złote gęśli a przy nich polskie pieśni nowe:
Psałterza pięć książeczek, którym Ty łaskawy
Wzrok ukaż, Twej nieowszem niegodnym zabawy. [w. 13–16][2].

З вядомай чарналескай «Pieśni o cnocie» («Песні пра цноту») паходзіць узор парнай рыфмы: «Ale człowiek, który swe Pospolitej Rzeczy / Służby oddał, tej krzywdy nie ma mieć na pieczy» [w. 9–10][3]. Звароты Буднага, адрасаваныя для тагачаснага чытача (творы Каханоўскага часта выдаваліся на пачатку XVII ст.)[4] сведчаць пра ролю, якую гуманіст хацеў надаць свайму перакладу. Так як і Каханоўскі, ён бачыў сваю задачу ў папулярызацыі на польскай мове даробку антычнай культуры і ўзору грамадзяніна.

Часам тэкст старадаўняга аўтара занадта даслоўна, без уліку сэнсавай цэласнасці фразы, прачытаны Бразгуновым, і паказвае менш, чым прачытаны ў агульным кантэксце. Напрыклад, у прысвечанай драгічынскаму падчашаму Яну Вадыньскаму празаічнай прадмове Станіслава Кулакоўскага, з якой

---

[1] Цыт па: Славянамоўная паэзія… — С. 56. Тут і ў іншых цытатах транскрыпцыя (уласна: транслітарацыя) паводле Бразгунова.

[2] Kochanowski, J. Psałterz Dawidów / J. Kochanowski; wstęp i oprac. K. Meller. — Kraków, 1997. — S. 67.

[3] Kochanowski, J. Pieśni / J. Kochanowski; oprac. L. Szczerbicka-Ślęk. — Wrocław, 1992. — S. 72.

[4] Гл.: Buchwald-Pelcowa, P. Dawne wydania dzieł Jana Kochanowskiego / P. Buchwald-Pelcowa. — Warszawa, 1993.

распачынаецца паэма «Wiek ludzki» («Век чалавечы»), аўтар згадвае жэст персідскага караля, што не ўзнагародзіў сціплым дарункам падданага:

[…] prosząc, aby jako on Artaxerxes, Monarcha Perski, od ubożutkie[g]o poddane[g]o swe[g]o, widząc jego chęć i szczerość, przyjął wdzięcznie garść wody, tak też ten mój podły dar W. M., moj M[iłoś]ciwy Pan, wdzięcznie i miłościwie przyjąć […] raczył[1].

Тут гаворка ідзе пра Артаксеркса II (караля ў 404–358 гг. да н. э.), а не пра вядомага з Бібліі Артаксеркса III. Кулакоўскі спасылаецца на занатаваную ў «Жыццяпісах…» Плутаха показку пра Артаксеркса II, які заплаціў жабраку золатам за ваду, прынесеную з ручая[2]. Твор грэчаскага біяграфіста карыстаўся вялікай папулярнасцю ў эпоху Рэнесансу, а творца «Веку чалавечага» спраўна спаслаўся на фрагмент гэтага тэксту, каб прадэманстраваць уласную эрудыцыю і адначасова ненавязліва нагадаць Вадыньскаму пра дар.

Падобная памылка сустракаецца і ў каментарыях да верша «Do łaskawego czytelnika» («Да ласкавага чытача»), які завяршае паэму Кулакоўскага. Паэт зноў выкарыстоўвае топас уяўнай сціпласці, каб паказаць, што ён добра ведае старажытных аўтараў. «Niechaj drudzy» захапляюць свет сваёй выдатнай творчасцю, ён тым часам: «Śpiewa pieśń nową gdy umilkły dzwony» (p. 526)[3]. Хто яны, гэтыя «другія» і іх слаўныя творы («dzwony»)? Гэта тыя, «[…] którzy wspominają błędy Ulissowe» (p. 519) — Гамер, аўтар «Адысеі»; «Trudności i przygody też Aeneassowe» (p. 520) — Вергілій, аўтар «Энеіды»; «Po złotą wełnę którzy Jazona prowadzą» (p. 521) — Апалоній Радоскі, які напісаў «Арганаўтыку», энцыклапедычны эпас элінізму; «I Prometeuszowi przemieniać się radzą» (p. 522) — гаворка ідзе тут пра Эсхіла, аўтара «Прыкутага Праметэя»; «Także i tych co Bogi z Olbrzymy zwadzili» (p. 523) — зварот да «Тэагоніі» Гесіёда альбо «Гігантамахіі» Клаўдзіяна; «I Orphea do niskich cieniów prowadzili» (p. 524) — алюзія на Вергілія, тым разам як аўтара «Георгік».

Ці патлумачаныя намі перыфразы фактычна адлюстроўваюць эрудуцыю Кулакоўскага? Нават, калі гэта інфармацыя, узятая з розных зборнікаў[4], то

---

[1] Цыт. па: Славянамоўная паэзія… — С. 290.

[2] Гл.: http://www.livius.org/pi-pm/plutarch/plutarch_artaxerxes_1.html.

[3] Хацелася б, каб у паэме, якая складаецца з чатырох частак і заключнага верша, кожны тэкст меў асобную нумарацыю радкоў, тым больш, што ў прадмове «Да ласкавага чытача» Кулакоўскі піша пра наступныя творы: «Stem wierszów zamykając każdą część z osobna» (p. 507); тут намеры творцы трактаваць кожную частку аўтаномна выказаныя наўпрост.

[4] Пра розныя крыніцы «запазычанай» эрудыцыі гл.: Dąbkowska, J. Problem erudycji w «Rozmowach Artaksesa i Ewandra» Stanisława Herakliusza Lubomirskiego / J. Dąbkowska // Pamiętnik Literacki. — XCI 2000. — Z. 3. — S. 83–94; Chemperek, D. «Encyklopedyczne» poematy Daniela Naborowskiego / D. Chemperek // «Barok. Historia — Literatura — Sztuka». — XVI/2 (32) 2009. — S. 87–97.

і так варта пазнаёміць з ёю чытача. Магчыма, аднак, што Кулакоўскі, які быў таксама аўтарам перакладу Феагніда з Меагр [«Wybranych zdań księgi» («Кнігі выбраных выказванняў»)] ведаў антычную культуру з першакрыніц. Апублікаваны Бразгуновым «Век чалавечы» — высокаінтэлектуальны і мастацкі твор — заахвочвае да далейшых даследаванняў творчасці гэтага амаль невядомага паэта[1].

## Пытанне пра канон

У сувязі з тым, што ранейшых беларускіх выданняў паэзіі Рэнесансу і барока няшмат, анталогію Бразгунова можна разглядаць як спробу стварэння канона тэкстаў гэтых эпох для сучаснага літаратуразнаўца, студэнта ці аматара даўняй культуры. Зрабіць падобнае дапушчэнне можна, улічваючы як тэматычную разнастайнасць зборніка, яго салідны аб'ём, так і аналогію з «Паэтамі польскага барока». Анталогія Ядзвігі Сакалоўскай і Казімеры Жукоўскай мела шырокі грамадскі водгук (пра што ніжэй), а яе, напэўна, найважнейшым і найбольш уплывовым чытачом аказаўся Чэслаў Гэрнас. Вроцлаўскі гісторык літаратуры, абапіраючыся ў значнай ступені на «Паэтаў польскага барока», выдаў у 1972 г. сінтэтычную працу па гісторыі літаратуры «Barok» («Барока»), якая па сённяшні дзень вызначае іерархію аўтараў і іх твораў. Сімптаматычна, што Гэрнас, натхнёны анталогіяй Сакалоўскай і Жукоўскай, не дацаніў ролю барочнай прозы, гэтыя недахопы ў аглядзе літаратуры толькі з нядаўняга часу пачалі выпраўляцца[2].

Якія ж паэты складаюць сёння канон даўняй літаратуры ў сённяшняй Беларусі?

Да паэтаў Вялікага Княства Літоўскага Бразгуноў залічвае:

1. Пісьменнікаў, якія пісалі на мове *руськай* (старабеларускай) у перыяд ад XVI да паловы XVIII стст. на гістарычным абшары ВКЛ, такіх як Францішак Скарына, Лявон Мамоніч.

2. Польскамоўных пісьменнікаў, якія ў XVI ст. перабраліся з Польшчы (найчасцей з Мазоўша і Велікапольшчы), аселі ў ВКЛ і атаясамлівалі сябе з гэтай дзяржавай, такіх як Мацей Стрыйкоўскі, Андрэй Волан.

3. Польскамоўных пісьменнікаў, народжаных на тэрыторыі ВКЛ. Датычыць гэта ў першую чаргу аўтараў XVII і XVIII стст., такіх як Дамінік Рудніцкі, Удальрык Крыштаф Радзівіл, радзей з XVI ст. — Андрэй Рымша.

---

[1] З сучасных літаратуразнаўцаў пра гэтага паэта пісаў толькі Сяргей Кавалёў, гл.: Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу / С. Кавалёў. — Мінск, 2010. — С. 292–305.

[2] Гл.: Wszystko tu najdzie, co wy macie w głowie. Świat prozy staropolskiej / red. E. Lasocińska, A. Czechowicz. — Warszawa, 2008.

4. Польскамоўных пісьменнікаў, звязаных як з Польшчай (пасля Люблінскай уніі — з Каронай), так і з ВКЛ[1]. Добрым прыкладам можа быць Цыпрыян Базылік — пратэжэ адначасова Мікалая Радзівіла Чорнага і Альбрыхта Ласкага, серадзкага ваяводы. Прыблізна ў 1560–1570 гг. Базылік быў звязаны з радзівілаўскай друкарняй у Брэсце[2], але некаторыя свае творы падпісваў «Цыпрыян з Серадза», «Ciprianus Siradensis». Статус некалькіх іншых аўтараў не вельмі ясны і вымагае больш дакладнага вывучэння, важным навуковым заданнем, да якога падштурхоўвае анталогія Бразгунова, з'яўляецца ўзнаўленне біяграфіі Станіслава Кулакоўскага.

Кожны польскі даследчык даўняй літаратуры карыстаецца простым крытэрыем вызначэння пісьменнікаў і твораў як польскіх — гэта мова. Але ў выпадку новалацінскіх творцаў справа ўскладняецца і вырашэнне пытання прыналежнасці дадзенага пісьменніка да польскай культуры робіцца падобным да тых дылем, перад якімі апынуўся Алесь Бразгуноў. Менавіта таму, на маю думку, варта пагадзіцца з тымі крытэрыямі, якія выкарыстаў беларускі даследчык. Дзяржавы і розныя палітычныя структуры нараджаюцца, трансфармуюцца, знікаюць, пасля іх застаецца культура. Вельмі добра сталася, што спадчыннікамі творчасці, якая ўзнікла на тэрыторыі ВКЛ, адчуваюць сябе і літоўцы, і палякі, і беларусы.

Аналізаваная анталогія і яе адкрытасць на польскамоўную паэзію адпавядае чыста навуковым пастулатам: «Традыцыйнае разуменне беларускай літаратуры толькі як корпуса кірылічных тэкстаў не проста збядняла і дэфармавала выгляд пісьменства XVI–XVIII ст., але і не дазваляла поўнасцю рэканструяваць працэс літаратурнага развіцця. З гісторыі беларускай літаратуры выпадалі не толькі асобныя тэксты (…), але і творчасць асобных пісьменнікаў (…)»[3].

Такім чынам, якія паэтычныя творы, на думку аўтара «Славянамоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага» мусяць стаць дэпазітам культуры сучаснага беларуса? З прадмовы да анталогіі вынікае, што аўтар карыстаўся гістарычным і эстэтычным крытэрыем пры адборы тэкстаў. У том трапілі тэксты, якія адлюстроўваюць палітычную свядомасць жыхароў ВКЛ, напрыклад, паэма Андрэя Рымшы, ананімны «Лямант няшчаснага Рыгора

---

[1] Карыснай, хоць напісаная яна крыху з іншай перспектывы, можа быць праца: Florczak, Z. Udział regionów w kształtowaniu się piśmiennictwa polskiego XVI wieku. Studium z zakresu socjologii pisarstwa / Z. Florczak. — Wrocław, 1967.

[2] Гл.: Okopień, J. Współpraca J. Czarkowska. Pionierzy czarnej sztuki 1573–1600 / J. Okopień. — Warszawa, 2002. — S. 102–105.

[3] Kawalou, S. Literatura Wielkiego Księstwa Litewskiego XIII–XVII wieku w najnowszych badaniach białoruskich / S. Kawalou // Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej. — T. 3. — 2009. — S. 84.

Осціка» ці вершаваныя фрагменты з хронікі Мацея Стрыйкоўскага. Сярод твораў, якія дакументавалі важныя для праваслаўных жыхароў ВКЛ падзеі, знайшло сабе месца «Рэха жалю» — твор школьнай музы, акрамя таго тэкст Іпація Пацея ці «Лабірынт» — вершаваны зварот да «Малодшага магілёўскага брацтва» пяра Тамаша Яўлевіча [nb. малады аўтар, прапагандуючы культ мудрасці сярод праваслаўных магіляўчан парафразуе фрагменты «Zgody» («Згоды») Яна Каханоўскага]. У томе прадстаўлены кальвінскія і каталіцкія аўтары, улічана перспектыва прысутнасці розных веравызнанняў і наяўнасць даўгалетняй традыцыі рэлігійнай талерантнасці ў ВКЛ (на паўвека даўжэшай, чым у Кароне).

Маральна-дыдактычную праблематыку прадстаўляе ў зборніку ананімнае «Вітанне на першы прыезд з Караляўца…», універсальныя тэмы закранаюць фрашкі Сімяона Полацкага і Францішкі Радзівіл. Прасочваецца выразная тэндэнцыя: колькасна і па аб’ёме ў анталогіі пераважаюць творы дакументальнага і прынагоднага характару. Іх эстэтычная каштоўнасць не з’яўляецца для Бразгунова найважнейшай (калі было б інакш, у зборнік не трапіла б вельмі слабае з мастацкага боку «Рэха жалю»), хаця ў прадмове аўтар не хавае ад чытача мастацкіх недахопаў твораў Андрэя Рымшы ці Удальрыка Радзівіла.

Выбітныя літаратурныя творы — гэта «Krótkie wypisanie sprawy przy śmierci […] Halżbiety z Szydłowca Radziwiłłowej» («Кароткае апісанне смерці і пахавання … Альжбеты Радзівіл з Шыдлоўца») Цыпрыяна Базіліка і «Век чалавечы» Станіслава Кулакоўскага, але, як здаецца, твораў такога ўзроўню, што маглі б зацікавіць сённяшняга чытача сваёй мастацкасцю, у анталогіі няшмат. Крытэрый адбору тэкстаў з увагі на іх дакументальную каштоўнасць можа прывабліваць навукоўца, але не сярэднестатыстычнага чытача, напрыклад, студэнта, у якога паняцце «помнік літаратуры» выклікае поўную павагі абыякавасць (бо помнікі ж мусяць спачываць у шкляных музейных вітрынах, да якіх ніхто не дакранаецца), а часавая адлегласць пераадольваецца ім з вялікай цяжкасцю.

Небяспеку змяшчэння тэкстаў, моцна ўкаранёных у палітычныя і літаратурныя кантэксты, можна прадэманстраваць на прыкладзе верша «Да палякаў і да ліцвінаў» Андрэя Волана. Твор быў надрукаваны ў выдадзенай ананімна ў 1565 альбо 1566 г. «Rozmowie Polaka z Litwinem» («Размова паляка з ліцвінам»), да якой была дададзена «Rozmowa o niewolej litewskiej» («Размова пра літоўскую няволю»), ёй якраз і папярэднічае тэкст Волана. Верш, выйшаў праўдападобна з-пад пяра Аўгустына Ратундуса Мялескага як рэакцыя на апублікаваны ў 1564 г. «Quincunx» Станіслава Ажахоўскага. Каб зразумець сэнс зваротаў і палітычных алюзій у творы Волана, трэба ведаць твор Ажахоўскага і адказ Ратундуса. Звычайна, тэкст і ягоны палітычны кан-

тэкст і польскія даследчыкі, і беларускія тлумачаць на некалькіх старонках[1], у той час як чытач анталогіі Бразгунова для разумення палітычных падтэкстаў верша Волана мусіць задаволіцца адным абзацам у прадмове і адзіным каментарыем. Варта таксама нагадаць пра інтэгральнасць гэтага тэксту, які з’яўляецца часткай большага цэлага (прадмоўна-пасляслоўнага комплексу). Гэты прынцып сфармуляваў Вацлаў Баровы, а Майкл Мікось трымаўся яго з цвёрдай паслядоўнасцю, не выбіраючы асобных трэнаў Яна Кахакостага, а змяшчаючы ў сваёй анталогіі ўвесь цыкл.

Можна меркаваць, што агульны выгляд паэзіі, створанай на абшары ВКЛ у эпоху Рэнесансу і барока, атрымаўся б больш шматгранным, калі б аўтар анталогіі ўлічыў таксама творы іншага характару на ўніверсальныя тэмы. Няўжо паэты ВКЛ не пісалі пра каханне, не філасофствавалі ў сваіх вершах, не выказвалі тэмпаральных і рэлігійных рэфлексій у разнастайных па сваёй настраёвай палітры, але дасканалых у мастацкіх адносінах творах?

Выбіраць ёсць з чаго. Лірыку радзівілаўскіх прыдворных: Даніэля Набароўскага, Альбрыхта Кармалоўскага, Збігнева Морштына можна смела параўноўваць з найлепшымі творамі тагачаснай еўрапейскай паэзіі, у якіх закраналіся пытанні хуткаплыннасці часу, адносін «чалавек — Бог» альбо куртуазныя матывы. Рэлігійныя вершы Збігнева Морштына і Аляксандра Тэадора Ляцкага рэпрэзентуюць модны ад Лісабона да Масквы жанр эмблемы і своеасаблівую эстэтыку, якая выводзілася з «Песні Песняў». Шмат выдатных гумарыстычных эпіграм можна знайсці ў зборніках Станіслава Серафіна Ягадынскага, Станіслава Самуэля Шэмёта, Матэуша Ігнацыя Кулігоўскага ці Якуба Тэадора Трэмбецкага, цікавыя матывы з’яўляюцца ў сатырах Караля Мікалая Юневіча.

Змешчаныя вышэй заўвагі, з’яўляюцца не столькі крытыкай у адрас укладальніка, чыю тытанічную перакладчыцкую працу (21 тэкст, сярод якіх значная колькасць даволі вялікіх), несумненна трэба ўшанаваць, колькі прапановай *pro futuro*. Такі ўдасканалены, дапоўнены том выраўняў бы прапорцыі паміж партыкулярным і ўніверсальным, важным (але нудным) і агульначалавечым (а значыць, цікавым), вяртаючыся да нашых ранейшых развагаў — захаваў бы «залатую сярэдзіну» паміж анталогіяй Хшаноўскага і Баровага, наблізіўся

---

[1] Гл.: Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія… / С. Кавалёў. — С. 135–142; Baczewski, S. Szlachectwo. Studium z dziejów idei w piśmiennictwie polskim. Druga połowa XVI wieku — XVII wiek / S. Baczewski. — Lublin, 2009. — S. 38–42; Mazurkiewicz, R. Wstęp / R. Mazurkiewicz // Wolan, A. De libertata politica sive civili. O wolności Rzeczypospolitej albo ślacheckiej (tłumaczenie Stanisława Dubingowicza) / A. Wolan; wyd. i oprac. M. Eder, R. Mazurkiewicz; red. W. Uruszczak. — Warszawa, 2001. — S. 18–20. З тэалагічнай перспектывы твор Волана нядаўна разглядаў К. Даўгірдас: Daugirdas, K. Andreas Volanus und die Reformation im Grossfürstentum Litauen / K. Daugirdas. — Mainz, 2008.

б да зборніка Сакалоўскай і Жукоўскай. Але перадусім, як можна меркаваць, заахвоціў бы моладзь і «звычайных» чытачоў да чытання паэзіі ВКЛ.

Згаданая анталогія Сакалоўскай і Жукоўскай была ў Польшчы не толькі выдавецкай падзеяй. Не менш важнае значэнне, чым для філолагаў, мела гэта выданне для тагачасных паэтаў. Для іх вершы эпохі барока сталіся адкрыццём новай эстэтыкі, іншага літаратурнага густу. Так «Паэты польскага барока» зацікавілі большую частку чытачоў літаратурнай культурай Барока, натхнілі цэлую плеяду польскіх паэтаў XX стагоддзя, сярод якіх варта згадаць Станіслава Граховяка, Ежы Гарасымовіча, Яраслава Марка Рымкевіча, Мірона Белашэўскага і Віславу Шымборскую. Хочацца пажадаць важнай і каштоўнай анталогіі Алеся Бразгунова, каб і яна адыграла ў Беларусі падобную ролю.

*Пераклад з польскай Наталлі Русецкай.*

# ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

**Міхаіл Касцюк** *(Мінск, Беларусь)*

## БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ КУЛЬТУРНЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ Ў XIX–XX СТАГОДДЗЯХ

Узаемадачыненні беларускага і польскага народаў маюць даўнюю гісторыю. Яны абумоўлены суседскім пражываннем нават з дапісьмовага мінулага, калі асноўнай крыніцай звестак аб тых далёкіх часах з'яўляюцца археалагічныя рэчавыя матэрыялы. Яны сведчаць, што нашы далёкія прашчуры актыўна ўзаемадзейнічалі ў розных галінах жыццядзейнасці — стварэнні матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, развіцці і ўдасканаленні прылад працы, у культурных набытках, ваеннай справе і гэтак далей.

Са з'яўленнем пісьмовых крыніц нашы звесткі аб узаемаадносінах беларускага і польскага этнасаў сталі больш інфармацыйнымі, дакладнымі, living рознабаковымі. У першую чаргу на іх падставе мы цяпер ведаем пра раўнапраўныя і даволі разгалінаваныя ўзаемадачыненні ў Сярэднявеччы, асабліва ў часы існавання Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай як самастойных магутных дзяржаў еўрапейскага ўзроўню. Гэтыя кантакты ахоплівалі шырокае кола інтарэсаў, у тым ліку звязаных з далейшым распаўсюджаннем культуры.

Дастаткова сказаць, што ў сярэднія вякі культурны ўзровень беларускага этнасу, які быў асновай ВКЛ, вызначаўся высокай ступенню развіцця. У тыя часы, калі старабеларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай, яна была асновай усіх напрамкаў культуры. На ёй выкананы дакументы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага — гэтага ўнікальнага корпуса пісьмовых сведчанняў высокага рангу — канцылярыі вялікага князя ВКЛ. Гэты корпус дакументаў уключае, як вядома, звыш сямісот кніг і з'яўляецца асноўнай крыніцай па многіх галінах жыццядзейнасці княства, у тым ліку культурнай.

На старабеларускай мове створаны Статуты Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гадоў. Апошні з іх, падрыхтаваны пад кіраўніцтвам і пры актыўным удзеле вядомага тагачаснага беларускага дзеяча Льва Сапегі, асабліва вызначаецца высокім узроўнем як па змесце, прававых і іншых падыходах, так і па моўных асаблівасцях. Нездарма многія даследчыкі лічаць гэты Статут першай канстытуцыяй Еўропы. Ён быў вядомы ў тыя часы і сярод

пэўных колаў насельніцтва польскіх зямель і высока імі цаніўся. Такім чынам, культурныя ўзаемадачыненні беларускага і польскага народаў у Сярэднявеччы вызначаліся сваім раўнапраўным характарам і гэта з'яўлялася найлепшай падставай для ўзаемнага ўзбагачэння па розных напрамках культурнага развіцця.

Становішча ў культурных стасунках беларускага і польскага этнасаў паступова пачало мяняцца з утварэннем Рэчы Паспалітай у выніку заключэння ў 1569 г. Люблінскай уніі. У пачатковы перыяд існавання новага дзяржаўнага ўтварэння Вялікае Княства Літоўскае мела значную аўтаномію, у тым ліку ў развіцці культуры. Таму стасункі ў гэтай галіне паміж беларускім і польскім народамі працягвалі развівацца на ўзаемнай і ў асноўным даверлівай аснове.

Кардынальным крокам у змяненні такога становішча з'явілася пастанова Усеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай аб забароне ў Вялікім Княстве Літоўскім пісаць дзяржаўныя дакументы на беларускай мове. Яна была прынятая ў 1696 г. і з'явілася пачаткам актыўнага ажыццяўлення палітыкі паланізацыі на беларускіх землях [2, с. 474]. Несумненна, што прыняцце такога рашэння было падрыхтавана папярэднімі працэсамі ў аб'яднанай дзяржаве і вынікам ўзаемадзення беларускай і польскай культур, аднак пры актыўнай дзяржаўнай падтрымцы менавіта польскага ўплыву.

Гэтая новая палітыка, якая ўвайшла ў гістарычныя і іншыя гуманітарныя даследаванні як беларускіх, так і польскіх даследчыкаў як палітыка паланізацыі, у працэсе яе правядзення на працягу значнага часу ў першую чаргу ў XVIII стагоддзі закранула найперш некаторую частку беларускіх магнатаў і беларускай шляхты. Найбольш шматлікае асяроддзе ў беларускім насельніцтве — сялянскае — у найменшай ступені адчула гэтае культурнае ўздзеянне. Менавіта беларускае сялянства выступіла ў тыя часы асноўным захавальнікам і гарантам існавання беларускага этнасу, яго культурных каштоўнасцей, у першую чаргу мовы, гістарычных традыцый, звычаяў і абрадаў.

Калі ж у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі, а таксама вялікая частка польскіх былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі, то яны аказаліся ва многім у аднолькавых эканамічных, грамадска-палітычных і культурных варунках. Палітыка царскага ўрада ўсё больш скіроўвалася на ўзмацненне расійскага ўздзеяння як на беларускі, так і польскі народы. Шмат у чым гэта рабілася ў напрамку культурнага развіцця. Дадзенай акалічнасцю ў многім сталі вызначацца культурныя ўзаемадачыненні беларусаў і палякаў.

Нягледзячы на такое кардынальнае змяненне гістарычных умоў, калі беларускі і частка польскага народаў аказаліся ў адным грамадска-палітычным стане, у межах адной дзяржавы — Расійскай імперыі, іх культурныя стасункі, як і іншыя, тым не менш эвалюцыянізіравалі. Істотную ролю для працэсу ўзаемнага ўзбагачэння культур адыгралі супольныя буйныя грамадска-палітычныя падзеі, у першую чаргу паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам

Тадэвуша Касцюшкі, паўстанне 1830–1831 гадоў, паўстанне 1863–1864 гадоў, якое праходзіла на Беларусі пад вадзіцельствам Кастуся Каліноўскага. Гэтыя буйныя акцыі, як, дарэчы, і іншыя, з'явіліся багатым матэрыялам для адлюстравання ў розных жанрах культуры як беларускімі, так і польскімі аўтарамі.

Натуральна, што найбольш велічнай постаццю, якая ўвасобіла сабою беларускі і польскі напрамкі ў галіне культурнага жыцця з'явілася асоба Адама Міцкевіча. Хоць ён пісаў па-польску (ёсць некаторыя сведчанні, што пачынаў пісаць на беларускай мове), але ў аснову яго твораў быў пакладзены беларускі матэрыял. Для беларусаў і палякаў з'яўляецца аксіёмай, што яго творчасць належыць абодвум нашым народам, як і ўсяму чалавецтву. Мне, як ураджэнцу Навагрудчыны, прыемна ўсведамляць, што мы з нашым знакамітым земляком хадзілі па адной і той жа зямлі толькі аддзеленымі па часе ў сотню гадоў.

Нашы народы ў культурных адносінах, несумненна, аб'ядноўвае і імя выдатнай пісьменніцы Элізы Ажэшкі. Яе творчасць высока ацэньваецца як на Беларусі, так і ў Польшчы. Нам, гісторыкам, імпануе нярэдка выражаная ў яе творах цесная сувязь паміж гістарычнымі падзеямі і іх мастацкім увасабленнем. Уяўляецца, што тут дарэчы прывесці словы пісьменніцы, сказаныя аб ролі ў яе жыцці і творчасці падзей паўстання 1863–1864 гадоў. Яна, у прыватнасці, адзначыла: «Усё гэта зрабіў са мной і ў ва мне год 1863. Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай» [3, с. 65–66]. Многія яе творы шырокавядомыя і на Беларусі і ў Польшчы, у прыватнасці, экранізаваная аповесць пад выразнай назвай і з глыбокім сэнсам — «Хам».

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што на культурныя ўзаемаадносіны беларускага і польскага народаў амаль пастаянна ўздзейнічалі палітычныя абставіны. Так сталася і пасля 1918 г., калі польская дзяржава была адноўлена ў выглядзе другой Рэчы Паспалітай. На культурныя стасункі прадстаўнікоў розных жанраў у асяроддзі беларусаў і палякаў уплывалі розныя грамадска-палітычныя і ваенныя падзеі, у тым ліку ўсё тое, што было звязана з заключэннем і рэалізацыяй цяжкага для беларускага этнасу Рыжскай мірнай дамовы. На яго падставе Беларусь, якая імкнулася ў поўным аб'ёме аднавіць сваю дзяржаўнасць, была падзелена на дзве часткі. Як пісаў вядомы беларускі паэт міжваеннага часу Алесь Дудар: «Пасеклі наш край папалам…». Дарэчы, нагадаем, што ў першую чаргу за гэты верш ён быў рэпрэсаваны савецкай уладай.

Пражыванне амаль на працягу двух дзесяцігоддзяў у межах дзвюх дзяржаў — СССР і Польшчы, якія да таго ж знаходзіліся ў даволі напружаных адносінах, негатыўным чынам адлюстравалася на эвалюцыі беларускага народа, ў тым ліку на развіцці культурных стасункаў паміж беларусамі і палякамі.

Адмоўнае ўздзеянне на гэта аказала дзяржаўная лінія польскай краіны. На заходнебеларускія землі зноў была вернута палітыка паланізацыі, якая выразілася ў закрыцці беларускіх школ, беларускага друку, праследаванні беларускіх дзеячаў і гэтак далей. Аб гэтым пераканаўча сказана не толькі

беларускімі даследчыкамі [1, т. 5, с. 352–448], але і польскімі, у прыватнасці Крысцінай Гамулкай. Гэтая акалічнасць, прызнананая не толькі на Беларусі, але, фактычна, і ў Польшчы.

Дзесяцігоддзі пасля заканчэння Вялікай Айчыннай і Другой сусветнай войнаў характарызаваліся развіццём культурных узаемаадносін паміж Беларускай ССР і Польшчай на дзяржаўным узроўні. Пазіцыю нашай рэспублікі пры гэтым вызначалі агульнасаюзныя органы, але мерапрыемствы, звязаныя з культурным супрацоўніцтвам, праходзілі даволі актыўна. Гэта дні, тыдні беларускай культуры ў Польшчы і наадварот польскай ў Беларусі. Актыўна развівалася навуковае супрацоўніцтва і стасункі ў іншых сферах [1, т. 6, с. 530–543].

Прынцыпова новае становішча ў беларуска-польскіх узаемадачыненнях склалася з пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя, калі была адноўлена дзяржаўнасць беларускага народа і на карце з’явілася новая, незалежная суверэнная дзяржава — Рэспубліка Беларусь. Раўнапраўныя адносіны станоўчым чынам адбіліся на развіцці культурных стасункаў. Шматлікія кантакты паміж дзеячамі культуры толькі ўмацоўваюць гэтую дынаміку. Нават калі ўзнікаюць пэўныя складанасці ў міждзяржаўных адносінах, то асноўныя складнікі культурнага ўзаемадзеяння застаюцца: дзейнасць Польскага інстытута ў Мінску, ранішняя перадача на першай праграме «Беларускага радыё» — нядзельнае богаслужэнне на беларускай мове ў адным з касцёлаў, што дзейнічаюць у Рэспубліцы Беларусь і інш. Гэта, а таксама другія праявы нашага культурнага ўзаемадзеяння ёсць падстава для яго далейшага развіцця.

## Літаратура

1. Гісторыя Беларусі : у 6 т. — Мінск, 2006–2011.
2. Нарысы гісторыі Беларусі : у 2 ч. — Ч. 1. — Мінск, 1994.
3. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Т. 1. — Мінск, 1993.

**Ryszard Radzik** *(Lublin, Polska)*

# TOŻSAMOŚCI POLAKÓW I BIAŁORUSINÓW — PODOBIEŃSTWA, RÓŻNICE, SPOŁECZNE UWARUNKOWANIA ZAISTNIENIA

Tożsamości całych społeczeństw, w tym narodów, nie rodzą się wraz z pojawieniem się na świecie ich członków. Przyczyny ich zaistnienia we współczesnym kształcie leżą w mniej lub bardziej odległej przeszłości. Obie zbiorowości — polska i białoruska — tożsamościowo zbliżały się do siebie lub oddalały w ciągu ostatnich — powiedzmy — 150 lat. W pierwszej połowie XIX stulecia na ziemiach białoruskich istniał zasadniczo inny układ wspólnot niż jest to obecnie. Wciąż na poziomie warstw wyższych łączyły etnicznych Polaków i Białorusinów wspólne elity narodu politycznego, terminologicznie polskiego, choć treściowo różnego od obecnego. Mimo różnic regionalnych — w tym również etnicznych — elity te stopniowo ujednolicały się kulturowo, językowo, także tożsamościowo. Z obawy przed rusyfikacją, w ostatnim półwieczu zaborów coraz szybciej polonizowały się, dobrowolnie osłabiając swoją regionalną «litewskość» — wypełnioną jednak konkretnymi, niegdyś także politycznymi treściami — na rzecz polskości. Odwrotne zjawisko zachodziło na poziomie mas chłopskich. Większość chłopów została po 1839 roku zmuszona przejść na prawosławie, co zwłaszcza po upadku powstania styczniowego wywołało proces deokcydentalizacji tego środowiska, stopniowego osłabiania związku ludu białoruskiego z zachodnim kręgiem kulturowym i dość łatwe wchodzenie w obszar cywilizacji rosyjskiej (*russkoj*). Wspierany przez Rosjan zapadnorusizm zaczął wyłaniać spośród siebie elity prawosławne kraju, na ogół mniej lub bardziej uważające się za rosyjskie, aczkolwiek z wyraźnym regionalnym zabarwieniem białoruskim. Ta opcja zwyciężyła w ZSRR nie tylko na poziomie elit ale i ludu. Różnica w porównaniu z zapadnorusizmem polegała głównie na tym, że białoruskość nie była utożsamiana z rosyjskością. Pojawiła się koncepcja «trójjedynego ruskiego narodu» na czele z Rosjanami i młodszymi, regionalnymi braćmi: Białorusinami i Ukraińcami. Po upadku ZSRR poczęła upowszechniać się idea *russkogo mira*.

Wyodrębnieniu się Białorusinów ze wspólnoty byłej Rzeczypospolitej sprzyjało również pojawienie się innej białoruskiej propozycji rozwoju. Była nim upowszechniana przez działaczy naszoniwskich białoruska ideologia narodowa. Przegrała jednak z wielu przyczyn; wymienię tu tylko dwie. Po pierwsze, podana była w wersji zachodnioeuropejskiej, okcydentalnej, zatem obca była prawosławnemu ludowi białoruskiemu. Po drugie, zaistniała dość późno; przed 1905 rokiem nie pozwalali na jej pojawienie się Rosjanie. W ZSRR rozwój narodowej białoruskości został przerwany na przełomie lat 20. i 30. Później białoruski ruch

narodowy zbliżający Białorusinów kategoriami myślenia do Polaków odżywał na ziemiach zamieszkałych przez Białorusinów w II Rzeczpospolitej (aczkolwiek wyraźnie dominowały w tej społeczności tożsamości typu klasowego, a postawy prokomunistyczne wywoływały represje władz polskich) i w latach II wojny światowej.

Inną drogę rozwoju przechodzili w tym czasie Polacy. Przypomnę, że przed powstaniem styczniowym między obiema społecznościami nie było istotnych różnic tożsamościowych. Elity były wspólne a niepiśmienni w swej masie chłopi nie posiadali tożsamości narodowej, tylko etniczną zamykającą ich w granicach wsi, parafii, okolicy. Spoglądanie na Polaków jako społeczeństwo unarodowione było dość długo uprawnione jedynie na poziomie ich elit. Gdyby elity Białorusi względnie szybko zbiałorutenizowały się — niezależnie od tego jak rozumieć to pojęcie — narodowo, albo lud białoruski przyjął koncepcje narodu wyznawaną przez swe tradycyjne elity, to zapewne nie mówilibyśmy o opóźnieniu narodowym Białorusinów, albo o odmiennych od Polaków kategoriach określających ich odniesienia tożsamościowe. Polskie chłopstwo, aż do II wojny światowej zdecydowana większość polskiego społeczeństwa, nabywało polską tożsamość narodową przez całe dziesięciolecia i proces ten zakończył się dopiero mniej więcej w połowie XX wieku. Ewolucji społeczności białoruskiej towarzyszyło zerwanie z istniejącymi na ziemiach białoruskich do rewolucji bolszewickiej elitami i obranie fundamentalnie różnej niż dotychczasowa opcji cywilizacyjnego rozwoju. Przypomnieć tu należy, że Czesi byli w znacznym stopniu unarodowieni już w ostatniej ćwierci XIX wieku — wyraźnie większym niż Polacy, bowiem na poziomie warstw plebejskich. Przyczyny odmiennego rozwoju Białorusinów były w znacznym stopniu warunkowane polityką Rosji, carskiej a następnie sowieckiej. Wywodzące się z warstw ludowych elity białoruskie nie były w ZSRR autonomiczne, nie tylko zresztą narodowo, co było zgodne z myśleniem w kategorii wschodniosłowiańskiej (prawosławnej) ruskiej wspólnotowości. Konsekwencją zaistnienia ZSRR była sowietyzacja idei *zapadnoruskiej*, nie emancypacja narodowa Białorusinów — z konieczności rozbijająca ruską wspólnotowość wzorem galicyjskich Ukraińców — lecz to, co można by nazwać folkloryzacją i etnografizacją idei białoruskiej.

W konsekwencji tego Polacy i Białorusini wykształcili różne typy tożsamości, nie tylko w ich warstwie narodowej. Co więcej, awansujące w procesie industrializacji kraju polskie masy chłopskie przejmowały — unaradawiając się przez przyjmowanie atrakcyjnej dla nich kultury inteligencko-szlacheckiej — takie jej cechy, jak insurekcyjność oraz dystans do instytucji państwa, obcego narodowo w realiach ówczesnych trzech zaborów. Ten proces nie zachodził na poziomie ludu białoruskiego, który państwo sowieckie uważał w coraz większym stopniu za swoje. Istotnym elementem procesu nie tylko unaradawiania, ale i nabywania określonych treści tożsamościowych była dla ludu polskiego literatura jako źródło

nabywanych wartości, kształtowania postaw. Literatura była tak silnym czynnikiem tożsamościowotwórczym, jako że Polacy aż do pierwszej wojny światowej nie dysponowali własnymi instytucjami państwowymi. Innym elementem był katolicyzm odgradzający Polaków od zaborców. U źródła takiej wizji narodowo-tożsamościowej leżały postawy polskiej szlachty a następnie — po jej stopniowym zanikaniu — wywodzącej się z etosu szlacheckiego inteligencji — warstw (czy stanów) egoistycznie zainteresowanych nie tylko swoim przetrwaniem ale i wysokim statusem społecznym. Na Białorusi w ZSRR sytuacja była inna także ze względu na likwidację elit zamieszkujących ten kraj do rewolucji bolszewickiej. Różnice, jakie pojawiły się w procesie nabywania nowoczesnej tożsamości, dostrzec można porównując dwa główne eposy: polskiego «Pana Tadeusza» i białoruską «Nową Ziemię» — utwory wybitne jakością swej narracji, ale przedstawiających całkowicie inne wizje świata: w obszarze propagowanych w nich wartości i postaw.

To rozchodzenie się tożsamości obu sąsiadujących społeczeństw, narodów zostało w odczuwalnym stopniu spowolnione po II wojnie światowej na skutek narzucenia Polsce ustroju wymyślonego w Moskwie, pod pewnym względem łączącego Białorusinów z Polakami, mimo małej przenikalności raczej oddzielającej niż łączącej ich granicy. Rosjanie okresu carskiego nie zniszczyli całkowicie szlachty byłej Rzeczpospolitej (aczkolwiek znaczną część członków tego stanu zamienili w jednodworców), nie zlikwidowali też Kościoła katolickiego, choć podejmowali próby podporządkowania go sobie, a nawet jego rusyfikacji — z kilku przyczyn, w tym zapewne obawiając się powstania społeczno-kulturowej pustki skutkującej nihilizmem, w Moskwie i Petersburgu rodzącym nastroje rewolucyjne — czego carat obawiał się wielce i to nie bez racji. Po drugiej wojnie światowej Rosjanie (Sowieci) rękami polskich komunistów zrealizowali swoje marzenie likwidując całkowicie warstwę tworzącą przez wieki prawie w stu procentach polską kulturę elitarną, czyli szlachtę i część polskiej inteligencji, pozostałą pozbawiając wpływu na powojenną rzeczywistość. Nowa miała być ludowa i przypominać tę zaistniałą w Mińsku, Kijowie i Moskwie. Okazało się jednak, iż ze względu na wcześniejsze wykształcenie się w pełni — lub prawie w pełni — nowoczesnej tożsamości (w tym narodowej) Polaków — ale też Litwinów, Łotyszy i Estończyków — za późno było na powielenie procesów rozpoczętych o epokę wcześniej na Wschodzie. Co więcej, polscy komuniści nie odważyli się — mając małe poparcie w kraju — odseparować społeczeństwo polskie od jej klasycznej literatury, silnie nasyconej nie tylko ideologią narodową, postawami insurekcyjnymi, ale i wyraźnie zabarwioną antyrosyjskością. Zarazem nie byli w stanie złamać Kościoła katolickiego funkcjonującego do pewnego stopnia na zasadzie podobnej do tej pod zaborami. Kościół i Cerkiew pełniły zresztą odmienne funkcje w procesie formowania się nowoczesnej polskości i białoruskości. Kościół katolicki oddzielał Polaków od ich silnych sąsiadów (Rosjan i Niemców) i przeciwstawiał ich im, natomiast Cerkiew prawosławna silnie łączyła Białorusinów

z ich wschodnim sąsiadem upodabniając do siebie oba społeczeństwa i osłabiając szansę narodowej emancypacji słabszej strony tego związku. Założonych celów ustrojowych nie można było osiągnąć, gdyż komunizm pojawił się w Polsce później niż na Białorusi i zaistniał w innych warunkach, w sytuacji, kiedy kultura elitarna upowszechniła się już dostrzegalnie wśród ludu.

Pewne analogie do sytuacji zaistniałej na Białorusi były jednak widoczne. Masy ludności chłopskiej przechodzącej — podobnie jak było to na Białorusi — ze wsi do miast, były w nich wykorzeniane z kultury domu rodzinnego, kultury chłopskiej budowanej przez wieki i zapewniającej stabilne trwanie społecznościom wiejskim. Nowy ustrój wmanipulowywał ich w sytuację podwyższonego standardu życiowego i zarazem labilnych postaw tożsamościowych. Nowy wspaniały świat, tworzony na Białorusi nie tylko w miastach ale i w kołchozach, również w Polsce najłatwiej było budować w środowiskach nowych, zawieszonych między tradycyjną — konserwatywną i religijną, nierzadko i patriotyczną — wsią a resztkami starej inteligencji (niekiedy częściowo asymilującej się do niej tzw. inteligencji nowej). Te środowiska, pozbawione miejskiej tradycji rodzinnej, nie zdołały w tak krótkim czasie wykształcić w warunkach komunizmu silnej kultury typu chłopskiego czy szlachecko-inteligenckiego. Przenikliwość polsko-białoruskiej granicy w końcu lat 80. uświadomiła Białorusinom, że polski robotnik a często i nauczyciel, także studentka nie odpowiadają dawnemu stereotypowi Polaka, polskiego pana — ulegli plebeizacji i — w oczach Białorusinów — «znormalnieniu».

Skutki tego powojennego częściowego «przerwania ciągłości kulturowej» — zjawiska, które na Białorusi wystąpiło znaczne wcześniej i z daleko bardziej doniosłymi konsekwencjami — bardzo wyraźne stały się jednak dopiero po 1989 roku. Okazało się, że znaczna część społeczeństwa polskiego dysponuje za słabo wykształconym zapleczem silnej kultury — zarówno na poziomie warstwowym jak i rodzinnym — by wykształcić bariery osłabiające proces prawie bezrefleksyjnego przyjmowania kultury masowej napływającej z Zachodu i dość szybko powielanej przez komercyjne stacje telewizyjne i radiowe, kolorowe pisma. Łatwość przyjmowania z Zachodu (na Białorusi za pośrednictwem Moskwy) kultury niskiej a nie — istniejącej tam przecież — wysokiej jest w jakimś stopniu rezultatem częściowego powielenia wspólnej z Białorusinami drogi rozwoju, tyle że w Polsce dopiero po II wojnie światowej z istniejącymi już czynnikami osłabiającymi ten proces. Nie znaczy to, że w sytuacji innej kultura masowa nie znalazłaby w Polsce odbiorców. Chodzi jedynie o skalę tego zjawiska i jego dodatkowe mechanizmy.

Peryferyjne usytuowanie obu społeczeństw — aczkolwiek każdego z nich w innym stopniu — wobec aktualnych centrów gospodarczych, kulturowych i politycznych (istniejące w zasadzie już od setek lat) jest trudne do przezwyciężenia. [Mimo wszystko Warszawa radzi sobie z tym w ostatnim dwudziestoleciu znacznie lepiej niż Mińsk]. Ma to określone skutki tożsamościowe. Co oczywiste, mamy tu do czynienia nie tylko z ewolucją treści opisywanych tożsamości — jest to

przecież konieczne, zatem zrozumiałe — ale w Polsce również z osłabieniem pewnych wymiarów tożsamości społecznych, co zawsze powinno budzić niepokój, jako że w miarę pełne upodmiotowienie wymaga zaistnienia silnych tożsamości. Rozwój i ekspansja Europy od czasów Renesansu wiązały się z umacnianiem tożsamości Europejczyków zarówno na poziomie zbiorowym jak i jednostkowym. Na poziomie wspólnotowym budowane były silne tożsamości narodowe, a na jednostkowym rozbudowywane były postawy nonkonformistyczne (skutkujące licznymi nagrodami Nobla dla Europejczyków i Amerykanów). Próba zbudowania nowoczesnej wspólnoty opartej na więziach klasowych zakończyła się klęską.

Jeśli miałbym zastanawiać się nad elementami upodabniającymi nasze — Polaków i Białorusinów — tożsamości i drogi prowadzące do ich zbliżania się na niektórych tylko płaszczyznach (nie popadając zatem w przesadę), to wskazałbym na pierwszym miejscu wyraźne osłabienie tożsamości narodowej młodego pokolenia Polaków, gwałtownie narastający w tym środowisku konsumpcjonizm, pozorny luz jako świadectwo frustracji wyrastających z obaw niesprawdzenia się w nowym wolnorynkowym świecie (na Białorusi są to słabnące obawy przed gospodarką rynkową), także laicyzację. Literatura w polskim szkolnictwie po reformach przestała w tak wyraźnym jak niegdyś stopniu pełnić tożsamościową funkcję narodotwórczą. Tę samą uwagę można by odnieść do Kościoła. Zatem po 1989 roku wyraźnie osłabły w społeczeństwie polskim dwa główne czynniki narodo- i tożsamościowotwórcze. Mimo że Polacy i — odwołajmy się do dającego nam inną perspektywę poznawczą przykładu z zachodniej części Europy — Francuzi poddawani są podobnym procesom w uniformizującej się, a w każdym razie globalizującej Europie, to skutki tych procesów dla zaistnienia ich wspólnotowości są różne, bowiem mechanizmy formowania się obu społeczeństw na poziomie ich odniesień wspólnotowych i tożsamościowych w ich nowoczesnym kształcie był odmienny. Porównajmy je pokrótce, dodając doń interesujący nas tu przede wszystkim przypadek Białorusinów:

1. W rewolucji francuskiej stanu trzeciego, co prawda gilotynowano masowo szlachtę i księży, mordowano chłopów w Wandei, ale w następnych dziesięcioleciach Francuzi rozbudowywali mieszczaństwo i burżuazję, zachowali bądź odtwarzali kulturę wyższą, elitarną i jej środowiska. Kultura ta (obok wolnościowych ideałów rewolucyjnej proweniencji) stała się wizytówką nowoczesnej Francji, wraz ze światem nie tylko paryskich pałaców. Być Francuzem oznaczało być obywatelem niosącej ludowi wolności Francji, członkiem skupionej wokół państwa wspólnoty narodowej. Współczesne państwo francuskie ma się stosunkowo dobrze a wolności przypisane doń w okresie rewolucji nie są likwidowane, zatem główny mechanizm trwania wspólnoty Francuzów nie jest podważany. Można powiedzieć, że niosące wolności państwo było i jest emanacją Francuskości.

2. Dla Białorusinów rewolucja bolszewicka miała nie mniejsze znaczenie niż analogiczne wydarzenia (różne jednak swą treścią) sto kilkadziesiąt lat wcześniej

dla Francuzów. Na Białorusi nie tylko zniszczono przedrewolucyjne elity, ale i odcięto się całkowicie od ich kultury i tradycji (także państwowej), nie wytwarzając ani nowoczesnego mieszczaństwa (klasy średniej), ani burżuazji. Być Białorusinem oznaczało bycie regionalnym elementem totalitarnej lub co najmniej autorytarnej satrapii szermującej ideologią klasową. W przeciwieństwie do Francji, państwo sowieckie uczyniło z białoruskiej «ludności» swych poddanych. Z czasem Białorusini przestali zdawać sobie z tego sprawę, przywykli do tych realiów, nie znając innych. Zatem nowoczesna białoruskość nie oparła się o kulturę wysoką, stanową, z jej poczuciem pewności siebie, umiłowaniem wolności, historycznymi tradycjami i językiem jako nośnikiem tych treści — wartością samą w sobie. Nie ma w sobie stanowej wyniosłości, skłonności do dominacji świata idei (ideałów) nad światem materii. Ukształtowana została na bazie kultury chłopskiej i podporządkowania władzy obcej/zewnętrznej. Białoruski świat jest pod pewnym względem dychotomiczny: «my» to lud (chłopi i ich potomkowie), elity i ich władza są nieco na zewnątrz «nas» (to powoli się zmienia po 1991 r.). Wszelkie polsko-rosyjskie elitaryzmy były traktowane przez Białorusinów jako im obce. Dla Białorusina jako człowieka z ludu «pańskie fochy» były «nie białoruskie». Także państwo było czymś zewnętrznym dla niego, podobnie jak władza, którą niosło. Nie było, jak w Polsce przed I wojną światową, narodowo mu wrogie. Białorusini nie organizowali się przeciwko państwu, tylko mu ulegali stosując chłopską strategię przetrwania, mimikry. Na poziomie świadomości większości społeczeństwa nie mieli własnej tradycji państwowej, królów, bitew, bohaterów. Wpajano im wizje kraju od wieków eksploatowanego przez polskich i litewskich panów — ciemiężycieli. Mówiąc krótko: tożsamość Białorusinów była budowana na bazie zsowietyzowanego postfeudalnego chłopstwa, prawosławia i słabego unarodowienia, co różni Białorusinów od chłopskich Słowaków, unarodowionych w ramach kultury łacińskiej. W konsekwencji tego białoruskość stała się światem unowocześnionej społeczności ludowej z kultem rodziny, odnajdowaniem się na poziomie grup pierwotnych, przy czym bardzo ważna była materia, natomiast obcy był świat wzniosłych idei, religię zniszczono a gospodarską własność (tak ważną dla Michasia — głównego bohatera w «Nowej Ziemi») zamieniono na kołchoz. Najważniejszy jest pieniądz i relacje rodzinno-towarzyskie w gronie bardzo nielicznym. Język jest raczej technicznym środkiem komunikacji — bo niby co ma nieść.

3. Inną drogę rozwoju obrali Polacy, dla których realne państwa zaborcze były tworami obcymi a wymarzona, idealizowana przyszła Polska była niezniszczalnym ideałem. O ile Francuzi i Białorusini zaistnieli w nowoczesnym świecie (w różnych okresach jego rozwoju) poprzez niszczenie religii, to Polacy skupiając się wokół niej. Nie mordowali swych elit wzorem obu rewolucji (francuskiej i bolszewickiej), lecz przejmowali tworzone przez nią ideały unaradawiając się — jak zostało to już podkreślone — przez literaturę: nie tylko romantyczno-

martyrologiczną, ale i po Sienkiewiczowsku ułańską, rzadko mieszczańską (jak do pewnego stopnia było to u Prusa). Polski chłop przejmował wysoką kulturę i świat narodowych ideałów tworzone przez polską szlachtę. Zatem tożsamość Polaków zbudowana została na poziomie odniesień narodowych, znacznej części ideowych, na bazie kultury szlacheckiej; natomiast w swych zachowaniach klasowych Polacy są na ogół silnie zakorzenieni w chłopskości. Rezultatem tego jest zderzanie się w jednym społeczeństwie postaw wywodzących się ze środowisk o zasadniczo odmiennym usytuowaniu kulturowym, społecznym: ekonomicznym (własnościowym) i politycznym (wolnościowym). W odbiorze społecznym — zwłaszcza obserwatorów zewnętrznych — sprawia to wrażenie występowania obok siebie postaw sprzecznych, a w każdym razie ich nietypowych połączeń, co przypomina nieco rozziew zachowań Rosjan (tak frapujących swą egzotyką ludzi Zachodu). Stosunek Polaków do państwa był inny niż Francuzów i Białorusinów. Nie tak aprobatywny — jak w kraju Marianny, i nie tak poddańczy — jak u naszych wschodnich sąsiadów. Zatem naruszenie podstaw polskiej wspólnotowości i polskiego «kodu tożsamościowego» następuje nie tyle na skutek kryzysu struktur państwowych (pełniących tu funkcje bardziej techniczne, usługowe), ile wymienionych wyżej elementów polskiej kultury — pełniących w ostatnich co najmniej stu pięćdziesięciu latach główne funkcje więziotwórcze.

Globalizacja uniformizuje społeczeństwa Europy; w przypadku polskim procesy te obejmują przede wszystkim młode pokolenie. Rozziew między tożsamością narodową Polaków i Białorusinów, jaki istniał niegdyś, obecnie pod pewnymi względami słabnie, ulega treściowemu przeformułowaniu także na skutek nabywania nowego wymiaru tożsamościowego przez młodych Białorusinów w powstałym państwie białoruskim, w tym również pewnych — choć jeszcze dość słabych — elementów świadomości historycznej, które w ZSRR nie były przekazywane. Te zmiany nie są wielkie, ale już zauważalne. W przypadku polskim świadomość historyczna absolwentów szkół jest słabsza niż niegdyś. Z badań wynika, iż obecnie mniejszy procent polskiej młodzieży wie, co się zdarzyło w Katyniu w porównaniu do sytuacji sprzed ponad 20 laty.

Elitaryzmy kultury wyższej wyraźnie w Polsce słabną, podobnie jak — co prawda w zupełnie innych okolicznościach — na Białorusi po rewolucji bolszewickiej. Polacy, nie dość, że ze znacznym opóźnieniem wkroczyli w epokę industrializmu, to na dodatek zostali zamknięci w opóźniającej ich rozwój komunistycznej lodówce a ich zaistniałe po II wojnie światowej, dość liczne środowiska formujące się w epoce przyspieszonego uprzemysłowienia i urbanizacji okazały się zbyt słabe i kulturowo niewykształcone, by bez problemu sprostać nowym wyzwaniom. O ile jeszcze w PRL Polacy różnili się od Białorusinów silnymi odniesieniami na poziomie makrostruktur (naród, Kościół), to obecnie skupiają się — podobnie jak Białorusini — na rodzinie, wyraźnie się jednak zmieniającej. Są bardziej niż niegdyś nastawieni na indywidualny, materialny sukces; są zatem

bardziej zbiorowością egoistów — i tu dostrzegam wyraźnie analogie białoruskie, ale i ogólnoeuropejskie. Nie muszą już walczyć i nie dostrzegają insurekcyjnych zagrożeń w przyszłości. Zarówno mentalność powstańcza jak i martyrologiczna wyraźnie słabnie w młodym pokoleniu, co także nieco zbliża nas do Białorusinów. Tradycyjne «bić się czy nie bić?» słabnie, także elitarne «być ponad mieć» zamienia się pod wpływem przeformułowania struktury społecznej, zmiany ustroju i otwarcia na świat, w «mieć ponad być». Białoruskie spoglądanie na Polaków przez pryzmat ich tradycyjnych elit nie ma dziś tak wielkiego sensu jak niegdyś. Niedostrzegana niegdyś milcząca większość, dziś, w państwie demokratycznym, decyduje w stopniu większym niż w PRL-u o tym, które wartości będą upowszechniane, normy realizowane a postawy wzmacniane. To, co różni Polaków od Białorusinów, to wyraźne budowanie przez tych pierwszych klasy średniej, stopniowo zastępującej inteligencję i pod tym względem powoli zbliżającą Polaków do krajów zachodnich. Mimo tego, postawy charakterystyczne dla społeczności mieszczańskich są w Polsce dość słabe, a na Białorusi wręcz trudno je dostrzec. To też ma swój wymiar tożsamościowy.

W obu społeczeństwach komunizm wykształcił dość liczne środowiska charakteryzujące się wyuczoną bezradnością. W III RP przez wiele lat około 1/3 społeczeństwa — najgorzej wykształconego — nie radziła sobie w nowych realiach, nie była do nich przygotowana i w badaniach socjologicznych wybierała życie w socjalizmie, dawnych stabilnych realiach — bo wolność boli, zwłaszcza słabych. Podobne pytania stawiano na Białorusi. Za powrotem ZSRR opowiadało się coraz mniej Białorusinów, ale całkiem sporo za związkiem z Rosją — i kalkulacje ekonomiczne były tu istotnym elementem. Polacy na pytanie *kim jestem?* rzadziej obecnie odpowiadają w kategoriach tradycyjnych, wielkich, ponadlokalnych wspólnot etosowych, a coraz częściej myślą o sobie jako specyficznej jednostce żyjącej w rodzinie i strukturach lokalnych, otwartej jednak na świat i nie traktującej go już tak wyraźnie w kategoriach narodowych konfrontacji. Świat idei jest coraz słabiej przez nich przeżywany. To łączy młodych Polaków z nie tylko młodymi Białorusinami. Oba środowiska są obecnie w znacznej części apolityczne, polskie spluralizowane na różnych płaszczyznach w sposób już coraz bardziej typowy dla Europy. Białoruska specyfiką jest zaistnienie aktywistycznego, choć liczbowo wąskiego opozycyjnego środowiska narodowego.

Zmiany, jakie nastąpiły w obu społeczeństwach w ciągu mniej więcej ostatnich dwudziestu lat, są wyraźne. Niektóre z nich zbliżają nasze społeczeństwa, pod względem innych istniejący rozziew powiększa się. Znaczna część mojego wystąpienia poświęcona jest podobieństwom. Nie znaczy to, by nie istniały — i to znaczące — różnice między nami. Nieco przewrotnie chciałem pokazać, że mimo opowiadania się w ciągu ostatnich dwóch dziesięcioleci obu społeczeństw na rzecz zasadniczo odmiennych dróg rozwoju — i widocznych tego konsekwencji — można doszukać się w obu narodach także formujących się w ostatnich latach

podobieństw, aczkolwiek głównie na poziomie młodego pokolenia najszybciej reagującego na wpływy zewnętrzne. Tak naprawdę nie wiemy jakie tendencje będą dominowały za lat 10, 15. Wydaje się, że nacisk obiektywnie istniejących uwarunkowań zewnętrznych będzie rósł, w globalizującym się świecie zarówno tych ekonomicznych — bo ci, którzy nie podporządkują się zasadom obowiązującym w światowej gospodarce rynkowej przegrają (przykładem ZSRR), jak i kulturowych ze względu na niemożność pełnego zamknięcia się — w dobie telewizji satelitarnej i Internetu — na coraz silnej modyfikującą naszą tożsamość kulturę masową.

**Павел Давідоўскі** *(Люблін, Польшча)*

## СТАЎЛЕННЕ ДА БЕЛАРУСКАЙ ЛАЦІНКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧАЎ, НАВУКОЎЦАЎ І ПУБЛІЦЫСТАЎ

Сучасная беларуская літаратурная мова напачатку свайго фармавання знаходзілася ў даволі своеасаблівым становішчы, пакольні фармавалася яна адначасова ў дзвюх графічных сістэмах — кірылічнай і лацінскай. Першапачаткова гэта было абумоўлена перш за ўсё канфесійным падзелам беларусаў, аднак уплывалі на такі стан рэчаў і іншыя фактары. З цягам часу дамінуючай графічнай сістэмай беларускай мовы стала стала кірылічная, але лацінка, нягледзячы на тое, што мае абмежаваны ўжытак, існуе і функцыянуе па сённяшні дзень. Каб лепш разумець працэсы, якія прывялі да існуючага стану рэчаў, варта звярнуць увагу на адносіны да лацінкі прадстаўнікоў навуковага, літаратурнага і культурнага беларускага асяроддзя.

Выданне кніг і перыёдыкі ў дзвюх паралельных графічных варыянтах тлумачыцца імкненнем выдаўцоў аб’яднаць беларускі народ ва ўмовах канфесійнага падзелу. Неабходнасць гэтага аўтар «Лемантара…» тлумачыць наступным чынам: *«Lementar hety wydajem napisany dwajakimi literami. Wiedajem my ŭsie, što mież nami polešukami, biełarusami, ci jak my siabie jašče nazywajem — tutejšymi, jość kataliki i prawasłaŭnyje; kataliki bolš da łacinskich liter — što ich niesprawiadliwa “polskimi” nazywajuć, prywykli; prawasłaŭnyja — da sławianskich — ci jak kažuć da “ruskich” prywykli. Hetyja ruskija hetaž našy spradwiečnyja biełaruskija, a łacinskimi ciapier uwieś świet piše.*

*Ci raz u nas swarka bywaje; zyducca katalik z prawasłaŭnym i swaracca “ach ty każe palak, — a ty maskal”. I abodwa niawiedama što kažuć: ani toj palak, ani hety maskal, abodwa jany choć roznaj wiery, a narodu adnaho, bo abodwa*

*wyrasli na ziamielcy tutejšaj našaj paleskaj-biełaruskaj i pieršaje słowo u mowi našaj baćkaйskaj ad baćkoй pačuli, a swaracca tolki sabie na kryйdu i na soram, ludziam na śmiech. Woś i znarok wydajem lementar dwajakimi znakami, wybiraj, što spanaraйna, kab usiaki paznaй, što ci takija, ci siakija znaki, a zyki, składy i słowy tyjež, mowa tajaž i ludzi što mowaj adnoj haworać — braty rodnyja.»* [2, s. 4–5].

Практыка друку аднаго выдання ў двух графічных варыянтах праіснавала даволі працяглы час.

Суполка «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ» неаднойчы сутыкалася з праблемай выбару шрыфту для беларускай выдавецкай прадукцыі. Распачынаючы ў 1912 г. выданне літаратурна-грамадскага альманаха «Маладая Беларусь», суполка пісала: *«А крыніца трывогі вечна тая самая: калі толькі няма сіл выдаваць якой-кольвек беларускай кнігі дваякімі літарамі зразу — гэта значыць друкаваць тую самую кніжку два разы, заўсёды з'яўляецца страх, што гэту кніжку прачытае толькі часць беларусаў. Ці доўга будзе вісець над намі двойчылітарнае пракляцце — ніхто не ведае цяпер»* [17, с. 100].

Натуральна, што друк двума шрыфтамі аднаго выдання мела падвойны сабекошт. Напрыканцы 1911 г. рэдакцыя «Нашай Нівы» ў сувязі з фінансавымі цяжкасцямі звярнулася да сваіх чытачоў з наступным зваротам: *«Ніхай выбор зробяць самі чытачы і падпішчыкі нашы. Ніхай усе, для каго гэта справа мае вагу, ясна нам напішуць: ці друкаваць газэту далей толькі рускімі, ці толькі лацінскімі літэрамі? Ведаем, што шмат хто будзе дамагацца, каб «Наша Ніва» друкавалася абодвымі шрыфтамі, як і дагэтуль было. Такім людзям мы атказаць можэм вось што: памажыце пакрыць той недахоп грошы, які робіцца ад двайнога выданьня, і тады мы споўнім вашэ жаданьне. Калі-ж не дасьцё падмогі, і газэта, выходзячы двумя шрыфтамі, замрэ ад недастатку грошы, дык атказ за гэта будзе лежаць на вашым, а не нашым сумленьні!»* [5, с. 1]. У 1912 г. на старонках газеты разгарнулася актыўная дыскусія наконт графікі выдання, якая стала найбольшай у гісторыі дыскусіяй на тэму алфавітаў беларускай мовы, паколькі «Наша Ніва» адыграла асаблівую ролю ў развіцці сучаснай беларускай мовы, а таксама дзякуючы таму, што сваю думку маглі выказаць як вядомыя аўтары, так і звычайныя чытачы. Аўтар рубрыкі «Гутаркі з чытачамі», які выступаў пад подпісам І. М-скі, падчас усёй дыскусіі падводзіць чытачоў да ідэі адзінства беларусаў незалежна ад веравызнання і шрыфтоў, якімі яны карыстаюцца, і схіляе да больш практычнага падыходу ў выбары шрыфту: *«Не ў шрыфце беларуская справа. Справа наша ў нашай душы, ў нашай мове»* [10, с. 2]. *«Сьведомы беларус, каторы ўжо шчыра стаіць за сваё роднае, — такі беларус падае свой голас за той шрыфт, які можэ найбольш здаволіць беларусоў, а не палякоў, ці расейцоў, ды іх прыхільнікоў»* [12, с. 2].

Меркаванні чытачоў падзяліліся наступным чынам: *«Праглядаючы ўсе лісты, бачым, што нашы чытачы пакуль-што дзеляцца на 4 часьці. Адны*

